

# РАЗВАГІ

Зянон ПАЗЬНЯК

Канцэпцыя новага
Беларускага Адраджэньня,
кн.1, артыкулы і матэр'ялы
(1990–III.1996)

Зянон Пазьняк

# РАЗВАГІ

## Канцэпцыя новага Беларускага Адраджэньня, кн.1, артыкулы і матэр’ялы (1990–III.1996)

I

Варшава–Нью Ёрк–Вільня
„Беларускія Ведамасьці”,
Таварыства Беларускай Культуры ў Летуве
2007 г.

# ПРАДМОВА

Гэтая кніга, як бы працяг, выдадзенай у 1992 г. у Менску выдавецтвам „Паліфакт” фрагмэнтарнага зборніка артыкулаў і матэр’ялаў *„Зянон ПАЗЬНЯК: Сапраўднае аблічча”.* Там адлюстраваны самы пачатак (1988-1990 гг.) барацьбы новага Беларускага Адраджэньня за волю, дэмакратыю, незалежнасьць і беларускую будучыню Бацькаўшчыны-Беларусі.

*„Развагі. Канцэпцыя новага Беларускага Адраджэньня, кн.1, артыкулы і матэр’ялы (1990–ІІІ.1996)”* – зборнік больш сістэматызаваны дзеля галоўнай задачы: адлюстраваць сутнасьць палітычнага становішча і канцэпцыю дзеяньняў Беларускага нацыянальнага Адраджэньня, канцэпцыю, якая прывяла да перамогі – здабыцьця незалежнасьці Беларусі.

Зьмест кнігі – гэта збор выбраных артыкулаў, выступаў, аналітычных матэр’ялаў аўтара, надрукаваных у пэрыядычным беларускім друку і зафіксаваных на працягу першай паловы 90-х гадоў аж па сакавік 1996 г. (пачатак эміграцыі).

На жаль, аказаўся недаступным шэраг артыкулаў (асабліва з 1995 – пач. 1996 гг.) з прычынаў чыста тэхнічных – адсутнасьці доступу да матэр’ялаў.

У канцы 1995-га года архіў парляманцкай Апазыцыі БНФ (у тым ліку ўсе стэнаграмы Вярхоўнага Савета) мной асабіста быў перавезены ў Сядзібу Фронту ў спэцыяльна абсталяванае там памяшканьне, дзе захоўваўся архіў БНФ. Пасьля маёй эміграцыі ў 1996-м, у выніку частых нападаў на сядзібу БНФ „АМОНу” і „Спэцназу” і ўчыненых там пагромаў, а таксама з прычыны непарадку, вэрхалу і безадказнасьці, што ўтварыліся ў сядзібе Фронта і потым у выніку расколу БНФ, архіў быў раскрадзены і расьцяганы „невядомымі элемэнтамі”.

Гэта вельмі смутная і тыповая старонка наогул беларускага жыцьця, якая, урэшце, заўсёды паказвае, што беларуская гісторыя непатрэбная найперш самым беларусам, яны, на жаль, яшчэ не разумеюць яе каштоўнасьці.

Аўдыё-фота-відэа летапіс БНФ скрупулёзна вёў летапісец Фронту Ўладзімер Кармілкін. У 1997 годзе ён перадаў увесь свой архіў асабіста двум асобам – мне і Васілю Быкаву. Архіў Ул. Кармілкіна мы захавалі на Беларусі. Пасьля сьмерці Быкава (у 2003 г.) я вырашыў перавезьці архіў у іншае месца. Але высьветлілася, што перад самай сваёй сьмерцю (у 2002 г.) Ул. Кармілкін, нічога не паведаміўшы мне і Быкаву, забраў свой архіў назад з таго месца, дзе ён захоўваўся (так паведаміла асоба, у якой часова ляжаў архіў), і неўзабаве пры загадкавых абставінах памёр. Архіў зьнік. Рэшткі і дублі з гэтых збораў часам выяўляюцца ў розных месцах.

На жаль, мала хто (нават з нацыянальна адукаваных беларусаў) разумеюць, што нішчэньне архіваў і зьвестак пра Беларускае Адраджэньне – гэта вынік вайны, няскончанай вайны імпэрскай Расеі ў кантэксце ўсяго вынішчэньня беларускай нацыі (калі б гэта беларусы разумелі, то вайна б скончылася). Так што не прайшло і дзесяці гадоў пасьля вялікага ўздыму і здабыцьця незалежнасьці, а ўжо новае пакаленьне беларусаў будзе вымушана зноў церабіць свой шлях у цемры няведаньня, фальшы, зьнявагі і гнюсных легенд ды хлусьлівых міфаў пра змаганьне і волю.

Гэтая кніга паклікана паўстрымаць працэс таптаньня памяці і разбуральнага забыцьця. Даецца толькі фактура – артыкулы, якія былі адбіткам ідэі і адлюстраваньнем вялікай нацыянальнай няроўнай і, у літаральным сэнсе, трагічнай барацьбы.

Асноўная ўвага (падборка) зьвернута на задачы пабудовы незалежнай беларускай дзяржавы і на барацьбу з антынацыянальнай антыдзяржаўнай палітыкай савецкай намэнклятуры, якая трымала ўладу ў незалежнай Беларусі. Гэта 1991 – першая палова 1994 гг. Драматызм таго часу мы пэрманэнтна перажываем па сёньняшні дзень, бачым, разумеем, што антыбеларуская канцэпцыя і штучны уплыў расейскай імпэрскай палітыкі і дзейнасьць расейскіх спэцслужбаў сфармаваліся на Беларусі даўно, і, паколькі яны не былі зьнішчаныя ў пачатку 90-х, пасьля нацыянальнай рэвалюцыі 1991 года, то праз нейкі час цалкам акупавалі ўладу ў незалежнай Беларусі. Пачалася дзяржаўная палітыка зьнішчэньня ўсяго беларускага.

***У пачатку 90-х канцэпцыя Беларускага Адраджэньня нацыі і пабудовы дэмакратычнай беларускай дзяржавы была распрацавана Народным Фронтам надзвычай выразна, дакладна і пасьлядоўна, цалкам адпаведна з вымогамі жыцьця народа. У гэтым была моц і сіла Народнага Фронту – вялікая нацыянальная ідэя і дакладная канцэпцыя будаўніцтва беларускай дзяржавы.***

Тым часам уладная намэнклятура ня мела ніякай ідэі і ніякага пляну дзяржаўнага будаўніцтва. Таму заканамерна, што палітыка гэтых людзей, непадрыхтаваных нават да думаньня дзяржаўнымі катэгорыямі, выявілася ў адкрытым рабаваньні дзяржавы (ва ўнутранай палітыцы) і ў здрадзе нацыянальных інтарэсаў у палітыцы зьнешняй.

У пачатку дзейнасьці барацьбу за нацыянальную ідэю Фронт злучыў са змаганьнем супраць камунізму. Антыкамунізм быў тады рухаючай сілай фронтаўскай палітыкі, дапамагаў мабілізаваць шырокія пласты грамадзтва. Антыкамунізм дапамог аднавіць незалежнасьць, адкрыць праўду пра Чарнобыль і бальшавіцкі генацыд насельніцтва Беларусі.

Пасьля спыненьня дзейнасьці КПСС і ліквідацыі СССР галоўны упор быў зроблены Фронтам (Перш за ўсё дэпутацкай Апазыцыяй БНФ у Вярхоўным Савеце – палітычным авангардам БНФ) на пабудову інстытутаў незалежнай дзяржавы (грошы, войска, грамадзянства, межы, фінансава-крэдытная сістэма, дывэрсіфікацыя пастаўкі рэсурсаў, Канстытуцыя і г.д.) і на адхіленьне намэнклятуры ад улады. Але да таго часу (пасьля ліквідацыі СССР і КПСС) грамадзкі ўздым, страціўшы стымул „супраць” (супраць камунізму), рэзка пайшоў на спад. Грамадзтва, з прычыны дэфармаванасьці нацыянальна-культурнай ідэнтыфікацыі і адсутнасьці развітай нацыянальнай сьведамасьці, яшчэ (дакладней – ужо) ня здольнае было арганізавацца „за” (за вольную незалежную Беларусь) і падрыхтавалася чакаць дзеяньняў ад улады. Такая ёсьць сацыяльна-псыхалягічная прычына грамадзкай апатыі таго часу.

Пералом у палітычнай тэндэнцыі наступу Беларускага Адраджэньня настаў у канцы кастрычніка 1992 г., калі груба і незаконна намэнклятура забараніла рэфэрэндум аб новых выбарах новага парляманту. Грамадзтва засталося ўбаку (ня гледзячы, дарэчы, на вельмі дрэннае сацыяльна-эканамічнае становішча людзей), і шырокія пратэстныя выступы арганізаваць не ўдалося. Тыя, што адбываліся ў Менску і у некаторых іншых гарадах, былі недастатковымі. Нават надвор'е (холад і маразы) паспрыяла антынароднай ўладзе.

Пачалася адкрытая атака антыбеларускай намэнклятурнай рэакцыі на заваёвы незалежнасьці і на парасткі дэмакратыі. Аднак паражэньне выступу камуністычнай рэакцыі ў Маскве ў кастрычніку 1993 г. (ельцынскі танкавы абстрэл і ліквідацыя камуністычнага парляманту) паўстрымала і рэакцыю ў Беларусі. Атака забуксавала. Народны Фронт у гэты час уступіў у цяжкую пазыцыйную барацьбу з антынароднай уладай. Тым часам стары намэнклятурны Ўрад Кебіча пачаў рыхтавацца да ўвядзеньня прэзыдэнцтва і прэзыдэнцкай дыктатуры ў Беларусі.

У 1994 годзе гэта было ажыцьцёўлена, але да прэзыдэнцкай ўлады былі прыведзеныя іншыя антыбеларускія сілы, якія непасрэдна ўрасталі ў спэцслужбы (КГБ) былога СССР і тыхчасовай Расеі. Прэзыдэнтам зрабілі ня В. Кебіча, а малавядомага функцыянера А. Лукашэнку, які характарызаваўся паталягічнай нянавісьцю (вырашальны фактар) да беларускага нацыянальнага Адраджэньня.

* * *

На прэзыдэнцкіх выбарах ў 1994 годзе, ня гледзячы на ўсе хітрыкі, злоўжываньні, дзеяньні і супрацьдзеяньні камуністаў, спэцслужбаў, намэнклятуры і агентуры, самыя вялікія шансы перамагчы меў Народны Фронт. Дзеля забесьпячэньня перамогі трэба было толькі выйсьці ў другі тур. (Ня мела значэньня, зь кім. Лукашэнка мог выйграць у пары з Кебічам, але не з Народным Фронтам.)

Гэта зразумелі непрыяцелі беларушчыны і ўсё паставілі на тое, каб мець у 2-м туры двух сваіх (гэта значыць, Кебіча і Лукашэнку). Было вялікае спрыяньне выхаду С. Шушкевіча на выбары (блізкі электарат, як і ў БНФ; прапанову вылучыць Шушкевіча зрабіў М. Статкевіч). Мафійная фірма „Пушэ", створаная пад прыкрыцьцём Кебіча (велізарныя крэдыты і т.п.), выдзеліла нават сродкі С. Шушкевічу дзеля „перамогі" на выбарах. (Трэба было адарваць галасы ад кандыдата БНФ.) Расейскія спэцслужбы шмат дзе ішлі „ва-банк", папалілі шэраг сваіх агентаў (сярод іх папулярнага прамоўцу і „віцію" – дэпутата-папа Радамысьленскага, якому людзі верылі і аб прыналежнасьці якога да КГБ не здагадваўся ніхто).

Тым ня менш, маючы на той час добры кантроль над галасаваньнем, мы ведалі, што па галасах у 2-гі тур выходзіў кандыдат БНФ (Кебіч – трэцяе месца). Такім чынам, вынік другога туру быў амаль што ў нашых руках. Бо ў людзей (выбаршчыкаў) ўжо не заставалася б выбару па прынцыпу „супраць" ( гэта значыць паміж адыёзным „Кебічам" і любым „Някебічам"; бальшыня галасавала б абы „супраць" Кебіча і любы „Някебіч" выйграваў). Цяпер сытуацыя складвлася істотна іншай. Выбар трэба было зрабіць па прынцыпу „за". Мы катэгарычна запатрабавалі б агульны эфір. Папулістыка Лукашэнкі магла мець эфэкт з Кебічам. З кандыдатам жа ад БНФ яна не прайшла б (тым больш, што зьмяніўся сэнс агітацыйнай кампаніі). Засталося б гэбоўскім папулістам альбо змагацца нашай зброяй (якой яны не валодалі) – альбо патануць.

Аднак адміністрацыя і „кебічысты", якія ў асноўным кантралявалі працу і дзеяньні выбарчых камісіяў, галасаваньне „падправілі" і сфальшавалі і, калі аб'явілі афіцыйныя вынікі, – на другім месцы аказаўся Кебіч, а кандыдат БНФ – на трэцім. Аспрэчваць адміністрацыйную маніпуляцыю у той сытуацыі, практычна, было бяссэнсоўна і безнадзейна. Праўда, па лінейнай лёгіцы неабходна было абавязкова аспрэчыць, бо гэта – змаганьне. Аднак, тактычна, мне нельга было цярпець яшчэ адну фармальную паразу (а яна тут была гарантаваная) і яшчэ больш сябе прынізіць.

Тым ня менш, мы паспрабавалі яшчэ ратаваць становішча (ведаючы, хто йдзе за Лукашэнкам). Сяргей Навумчык праводзіў перамовы зь Кебічам аб зьняцьці ягонай кандыдатуры і выхаду такім чынам (па Закону) на новыя выбары з новымі ўдзельнікамі. Кебіч завагаўся, але потым адмовіўся. Ягоная „падвойная" каманда (Замяталін, Антановіч і інш.) пераканала яго, што ён пераможа ў 2-м туры. Страх перад БНФ пазбавіў Кебіча апошняга розуму (хаця, зрэшты, палітычнай розьніцы паміж ім і Лукашэнкам практычна ня існуе).

Так спынілася старая драма і пачалася стара-новая, калі ў беларускае змаганьне з антынароднай намэнклятурай, з савецкім урадам і Кебічам маскоўская зязюля падкінула сваё яйко.

* * *

Змаганьне Народнага Фронту за вольную незалежную Беларусь і за вольны народ – гэта было гераічнае змаганьне нацыянальнага авангарду, які ня меў улады. Тое, што ўдалося яму зрабіць малымі сіламі ў тых неверагодна цяжкіх умовах, змагаючыся за кожную пядзю беларускіх інтарэсаў, сёньня выклікае ў мяне сьцішанае ўзрушэньне. Аж ня верыцца, што здабылі незалежнасьць і што ў цалкам варожых умовах намэнклятурнай рэакцыі і расьперазанай антыбеларускай улады, удалося ўсё ж стварыць, закласьці асновы незалежнай Беларускай дзяржавы.

Гэтая кніжка крыху прыпадымае заслону таго цяжкага, адчайнага, змагарнага часу за нашае дзяржаўнае існаваньне, за панішчаную нашу Зямлю, за будучыню нашай нацыі.

***Зянон ПАЗЬНЯК***

*Ліпень 2007 г. Нью-Ёрк*

# УВОДЗІНЫ Ў ТЭМУ

**МЯРКУЙЦЕ САМЫ**

## АБ ЯКОЙ ПЕРАБУДОВЕ РАЗМОВА?

**Латвійская газэта «Атмода» ў нумары за 30 кастрычніка (1989 г.) апублікавала выступленьне старшыні сойму БНФ Зянона Пазьняка на другім зьездзе Народнага фронта Латвіі. Прапануючы яго тэкст увазе чытачоў, мы зыходзім з таго, што гэта ніяк не радавое выступленьне нефармальнага лідэра, а прамова ў сваёй аснове ў многім праграмная. Яна выражае і палітычнае крэда самога прамоўцы, і, напэўна, таго руху, які ён узначальвае. А калі так, то ўзьнікае нямала прынцыповых пытаньняў.**

**Як вядома, на сьцягу БНФ таксама напісана слова «перабудова», сам фронт зараджаўся, сказана ў яго праграме, «для арганізацыі шырокай народнай падтрымкі пачатых лепшымі сіламі КПСС радыкальных пераменаў ва ўсіх сфэрах грамадзкага жыцьця... ». Сёння ж у выказваньнях Пазьняка акцэнты і высновы іншыя. Ня «лепшыя сілы КПСС» задумалі і ўжо выпакутавалі перабудову, а «лібэральнае асяроддзе вышэйшага партыйнага кіраўніцтва». Ды і сама палітыка перабудовы аб'яўляецца «двудушнай дактрынай».**

**Спадзяёмся, чытач разьбярэцца, за якую перабудову выступае Пазьняк. За тую, галоўныя напрамкі якой сфармуляваны XIX партканфэрэнцыяй, якую ў складанай, часам супярэчлівай рабоце спрабуе праводзіць у жыццё Вярхоўны Савет СССР, якой аддаюць сёньня сваю энэргію ня толькі лепшыя сілы КПСС, але і кожны разважны чалавек, або за нейкую сваю, вынайдзеную ў ходзе «арганізацыі шырокай народнай падтрымкі»? А калі «або», то як уяўляе старшыня БНФ будучыню «нашага агульнага дома», нянавісьці да якога ён і не спрабуе скрыць? Што прапануе ўзамен «агульнай турмы народаў», у любым кутку якой чалавек да нядаўняга часу адчуваў сябе ў бясьпецы, пакуль нацыянальныя імкненьні не без падштурхоўваньня з боку пэўных сіл ня сталі месцамі перарастаць у нацыяналістычныя! І ці разумець тое, што ён прапануе, як працэс зьняцьця палітычнай маскі, якая яшчэ год назад скрывала яго сапраўдныя мэты і імкненьні?**

**Няхай чытач мяркуе сам...**

**(БЕЛТА).**

Паважаныя сябры, глыбокапаважаныя спадарыні і спадары!*

Я рады вітаць высокапаважаны Зьезд ад імя Беларускага Народнага Фронту. У нас шмат агульных праблемаў, таму я дазволю сабе выказаць некалькі меркаваньняў. Галоўныя пытаньні, якія аб'ектыўна стаяць перад рэспублікамі, гэта пытаньні нацыянальнага адраджэньня і нацыянальнай незалежнасьці. Яшчэ паўтара гады таму сітуацыя была іншай. Нацыянальнае адраджэньне ўспрымалася як састаўная частка дэмакратызацыі грамадства, суверэнітэт здаваўся зусім дасягальным шляхам структурнай перабудовы СССР, заключэньнем новага саюзнага дагавору на аснове канфэдэратыўнай сўвязі паміж свабоднымі рэспублікамі.

Але прайшоў час, і стала зразумела, што карэннага зьмяненьня функцыяў партыйнай звышдзяржавы не прадбачыцца. За перабудовачнымі дэбатамі прымаюцца ан-тыдэмакратычныя законы, накіраваныя на ўмацаваньне цэнтралізаванай улады, а лёс рэспублік нікога не цікавіць, акрамя іх саміх. Узьнікшае становішча – вынік палітычнай непасьлядоўнасьці, двудушнасьці і эклектычнасьці дактрыны перабудовы, задуманай у лібэральным асяроддзі вышэйшага партыйнага кіраўніцтва як экстранная мера па выратаваньню карабля савецкай партыйнай імпэры, які патанае. Асноўны тэзіс, што аб'ядноўвае цяпер партыйных лібэралаў, партыйных радыкалаў і кансэрватараў і нават значную частку рускай дэмакратыі, якая выступае за перабудову, – гэта тэзіс умацаваньня, як яны кажуць, «нашага агульнага дома», г.зн. адзінай партыйнай дзяржавы СССР, нашай агульнай турмы народаў, якая становіцца для нас нашай агульнай труной.

Відаць, зыходзячы з тэзіса аб «агульным доме», ЦК КПСС прапанаваў зацьвердзіць рускую мову дзяржаўнай мовай у СССР. Гэта рэакцыйнае палажэньне не асьмеліўся ўголас сказаць нават Сталін, але сказаў і прапанаваў Гарбачоў. Сапраўды, як сказаў хтосьці з народных дэпутатаў, цяжка быць адначасова лідэрам перабудовы і лідэрам намэнклятуры. Прагрэсіўны, аднак, не канфармісцкі вялікадзяржаўны тэзіс захавання агульнага дома і цэнтралізаванай дзяржавы шляхам накладаньня дэмакратычных лат, прагрэсіўны працэс набыцьця свабоды чалавекам і, вынікаючае адсюль, самавызначэньне народаў. Прагрэсіўны працэс распаду імпэрыі і ўтварэньня свабодных дзяржаваў, а не рэанімацыя і рамонт звышдзяржавы.

---

* Гэты мой выступ у кастрычніку 1989 года на Другім зьезьдзе Народнага Фронту Латвіі па загаду ЦК Кампартыі БССР надрукавалі літаральна ўсе рэспубліканскія і абласныя газэты ў БССР. У тагачасным бээсэсэраўскім балоце тады так ня думалі, не выступалі і не пісалі і камуністы, відаць, рашылі, што „клиент попался". Яны наважыліся „ськінуць маску" з БНФ і раздрукавалі мой выступ, чакаючы „справедлівого гнева" народа. Мяне запрасілі на адкрыты эфір тэлебачаньня разам зь нейкімі камуністычнымі „дэмакратамі" ў надзеі абвінаваціць у непавазе да ідэалаў камунізму, у выступленьні супраць кампартыі і „распляскаць".

Гэта быў падарунак лёсу ў каралеўстве ідыётаў. Памятаю, што я, гледзячы ў камэру, гэтак спакойна па-сяброўску тлумачыў тэлегледачам, што КПСС ёсьць злачынная арганізацыя, што яна будзе ліквідаваная і што праз два гады Савецкі Саюз разваліцца і перастане існаваць (цікава, што якраз праз два гады ён і разваліўся). Вядучы, праверны журналіст, ад жаху страціў дар мовы і стаў заікацца, а тэлефоны ў студыі аж разагрэліся ад нянавісьці партыйных пэнсіянераў, ветэранаў СМЕРШу і НКВД. Тэлефаністкі без перастанку кідалі мне на стол „званкі" гэтых „трудящіхся", дзе словы „сьмерць" і „фашыст" чаргаваліся ў роўных прапорцыях.

Рэшту эфіра я прысьвяціў зачытваньню „інтэлігентных пытаньняў" і тэкстаў „товарішчей", камэнтуючы іхныя палёты думкі і лексікі. Пасьля эфіру, як чалавек выхаваны, я асабіста (праўда пад капірку) напісаў і паслаў яшчэ лісты ўдзячнасьці кожнаму рэдактару, што выканаў распараджэньне ЦЭ-КА і надрукаваў тэкст майго „антысавецкага" выступу. На двары шчэ стаяў камунізм, але мы, ў Фронце, ужо адчувалі, што прыходзіць яму канец, што „здрыганулася" ўжо чырвоная бэстыя. *(З. П.)*

На чацьвёртым годзе перабудовы стала зразумела, што Масква не зацікаўлена ў рэальным выратаваньні народаў, якія знаходзяцца ў крытычным стане. У такой сітуацыі, каб не загінуць разам з патанаючым караблём, адзінай надзеяй на выратаваньне становіцца выхад са складу СССР. Пытаньне ставіць само жыцьцё. Аднак становішча трагічнае. Прынцып пазаэканамічнай арганізацыі сістэмы савецкай эканомікі трымае ўсіх у такой эканамічнай залежнасьці, калі імгненны разрыў яе немінуча прыводзіць да катаклізму, на які дзеля жыцця можа асьмеліцца толькі вельмі мужны і вельмі салідарны народ. Пры гэтым трэба цьвяроза ўсьвядоміць, што Захад наўрад ці дапаможа. Неабходны адпаведным чынам юрыдычна і эканамічна рэглямантаваны пераходны пэрыяд падрыхтоўкі незалежнасьці.

На шляху да свабоды неабходна дэмакратычная салідарнасьць паміж рэспублікамі, неабходна адчуць, што без дэмакратычнай Беларусі праблематычным зьяўляецца існаваньне свабоднай Латвіі. Без дэмакратызацыі Украіны нестабільны палітычны прагрэс на захадзе СССР. Свабоду цяжка набыць уадзіночку і нават утрох, але яна рэальна магчымая ў працэсе разьвіцця дэмакратызацыі, стварэньня агульнага міжрэспубліканскага рынку і дэмакратычнай салідарнасьці ўсіх заходніх рэспублік Савецкага Саюза.

Дзякуй.

***Зянон ПАЗНЯК,***
***Беларускі Народны Фронт.***

*1989 г., лістапад, г. Рыга*



(Фота Ю. Дзядзінкіна)

***1. „Пойдзем разам з БНФ „Адраджэньне”.***

# 1990

## НАСУПЕРАК РУХУ – „ВАНДЭЯ”

Набліжаюцца выбары ў Вярхоўны Савет Беларускай ССР і ў мясцовыя Саветы народных дэпутатаў. Гэтыя выбары будуць мець вырашальнае значэньне ў жыцьці нашай Рэспублікі. Паўстае пытаньне: ці зможа народ забясьпечыць сваё поўнае ці хаця б пераважнае прадстаўніцтва ў Саветах? На першы погляд, становішча склалася неспрыяльнае. Кіраўнічая партакратыя ў БССР правяла шэраг антыдэмакратычных законаў. Як і раней, у афіцыёзным друку ідзе татальная дэзінфармацыя насельніцтва аб Беларускім Народным Фронце, аб палітычных працэсах у Беларусі. Асабліва дэзінфармаваныя жыхары сельскай мясцовасьці.

Асаблівасьцю беларускага партапарату ці, як яго ахрысьцілі, „вандэі”, зьяўляецца адсутнасьць у ім колькі-небудзь рэлігіі, традыцыйнай народнай маралі, за дэгуманізацыю грамадзкіх узаемадачыненьняў.

У прыбалтыйскіх рэспубліках і нават у традыцыйна кансэрватыўнай Украіне, у кіраўнічым партыйным апараце выяўляюцца пэўныя сілы, якія спрыяюць адраджэньню нацыі, адмаўляюць мэтады і погляды намэнклатурных артадоксаў, рэальна садзейнічаюць галоснасьці і дэмакратыі. У выніку закладваюцца асновы для эвалюцыі стваральных кансалідуючых працэсаў. Бо знойдзены сфэры ўзаемадачыненьняў паміж нават супрацьлеглымі палітычнымі сіламі (у дадзеным выпадку паміж кампартыяй і грамадзкімі рухамі).

Нічога падобнага не назіраецца ў Беларусі. Сімптаматычна, што, калі 19-га кастрычніка 1988 года было аб'яўлена аб утварэньні Аргкамітэту Беларускага Народнага Фронту, камуністычная намэнклатура распачала шалёнае цкаваньне ўсіх дэмакратычных сілаў, асабліва інтэлігенцыі. „Нам ня трэба ніякі народны фронт”, – чулася з усіх афіцыйных трыбун і розных „комаў”. Пасыпаліся „лісты абураных працоўных” і паднялася хваля арганізаванага „народнага гневу”. І гэта ў той час, калі новаст748аны Аргкамітэт БНФ ня сказаў яшчэ ніводнага слова пра свае мэты, пра задачы дзейнасьці. „Ня трэба нічога!” – такі быў сэнс гэтага намэнклатурнага голасу. „Мартыралёг? – Ня трэба! Нам с вами не по пути!” – сьпяшаліся перакрычаць усіх прыгрэтыя апаратам дочкі двух рэпрэсаваных у 30-я гады кіраўнікоў БССР, ахайваючы ўтварэньне таварыства памяці ахвяраў сталінізму „Мартыралёг Беларусі”. Кульмінацыі гэтая кампанія дасягнула 30 кастрычнака 1988 г., калі супроць мірных людзей, што ў дзень *„Дзядоў”* ішлі на могілкі з кветкамі, „кінулі” тры тысячы міліцыянтаў, спэцвойскі, вадамёты, „чорныя крумкачы”, труцілі народ сьлёзацечным газам, білі дубінкамі, зьневажалі. Такое не забудзецца і не даруецца ніколі.



*2. 30 кастрычніка 1988 года. „Дзяды”.*

прыкметных дэмакратычных плыняў ці нават асобаў. Рэакцыйны фэнамен „вандэі” мае сваё тлумачэньне. Ён зыходзіць з бюракратычнай ідэалёгіі нацыянальнага нігілізму, чым здавён (з 30-х гадоў) характарызуецца гэтак званая „беларуская” партбюракратыя. Чалавек, які выракся культуры свайго народу, узьненавідзеў мову, спрыяў этнічнаму паміраньню нацыі, такі чалавек ня можа мець дэмакратычнага сьветапогляду, ня можа быць вольным.

Нацыянальны нігілізм і рэакцыйная аднароднасьць камуністычнай партакратыі на Беларусі самым некарысным чынам адбілася на становішчы ў Рэспубліцы. Партбюракратыя нясе ўсю адказнасьць за паніжэньне і разбурэньне беларускай нацыянальнай культуры, за русіфікацыю грамадства і зьнішчэньне беларускай мовы, за закрыцьцё беларускіх школаў, за знос помнікаў архітэктуры і зьнішчэньне нацыянальнай спадчыны,



*3. 30 верасьня 1988 г., Менск. „Дзяды” ля Усходніх могілак.*

Спробы Беларускага Народнага Фронту наладзіць кантакты з дзяржаўнымі ворганамі і кіраўніцтвам КПБ ні да чаго не прывялі. Камуністы прытрымліваліся сваіх традыцыйных паводзінаў – гаварыць адно, а рабіць іншае.

Маску з сябе партапарат ськінуў увосень гэтага года, калі на пленумах Менскага гаркама і ЦК сталі адкрыта гаварыць пра БНФ як пра „наших политических противников” і заклікаць камуністаў да барацьбы з Фронтам. На кастрычніцкай сэсіі Вярхоўнага Савета БССР адзін нават так сказаў: „Если нас назовут „вандеей”, значит, мы на правильном пути, товарищи”.

Усё гэта лішні раз сьведчыць ня толькі пра антынароднасьць, адкрытую рэакцыйнасьць і нізкі інтэлектуальны патэнцыял „вандэі”, пра няўменьне будаваць палітычныя пэрспэктывы, усё гэта пацьвярджае, што кіраўнічае банкруцтва камуністычнага апарату ў Беларусі надзвычай зацягнулася і можа пагражаць народу вялікімі бедамі.

У такіх варунках стабілізацыйную ролю магла б выканаць якраз дэмакратычная апазыцыя ў КПБ – перабудовачныя сілы, сьвежыя думкі і разумныя галовы. Ды вось бяда, такіх сілаў у КП БССР, практычна, няма. Партыя, асабліва на правінцыі, уяўляе сабой аднародную, кансэрватыўную масу, балота, нядольнае па прыродзе сваёй падняцца да асэнсаваньня лёсу беларускай нацыі і вольнай будучыні людзей.

Такое становішча вынікае ня толькі з заганнасьці і нялюдзкасьці камуністычнай ідэалёгіі, але і з структуры арганізацыі партыі, пабудаванай на тыпова бюракратычным прынцыпе, калі звыш 80 адсоткаў яе членаў знаходзяцца ў ролі падаткаплацельшчыкаў на ўтрыманьне камуністычнага кіраўніцтва, якое, пры жаданьні, можа сьцерці гэтага „члена” ў пыл і нідзе ніякай управы ён ня знойдзе, хіба паклаўшы сваё здароўе і дабрабыт, ды й то дарма.

У варунках, што склаліся на Беларусі, „вандэя”, як і ўсюды, зацікаўленая нагнятаць раздоры, палохаць „экстрэмістамі”, „нацыяналістамі”, „высяленьнем” рускіх, „пагромамі” габрэяў, „канфрантацыяй”, БНФ, Талакой, Прыбалтыкай і г.д. Словам, спараджаць у грамадзтве пачуцьцё трывогі і няўпэўненасьці, запалохваць яго. Чаму гэта робіцца? Тут разьлік на масавую псіхалёгію. Грамадзтва заўсёды імкнецца да стабільнасьці. Калі ж гэтая стабільнасьць парушаецца і ўзьнікаюць рэзкія і трывожныя дэструктыўныя працэсы, тады ў масах напалоханых, слаба палітызаваных і кепска інфармаваных людзей (асабліва ў абывацеляў) пачуцьцё самазахаваньня ськіроўвае іх погляды і надзеі аб паратунку да моцнай цэнтралізаванай улады. Яны пачынаюць прагнуць „моцнай рукі”, гаспадара, які б навёў парадак.

Цяпер зразумела, на што робіць разьлік „вандэя” (зрэшты, цалкам магчыма, што падсьвядома), дэзінфармуючы насельніцтва, стрымліваючы дэмакратызацыю і нагнятаючы „страхі”. Як сказаў хтосьці з дасьціпных людзей, „нацыяналізм – апошні люзунг бюракратыі”.

Акрамя таго, паколькі ў руках „вандэі” знаходзіцца ўся ўлада і рэпрэсіўны апарат, яна шукае зачэпкі, каб выкарыстаць яго супроць дэмакратычных працэсаў у Беларусі, пакуль яны ня сталі ўсеагульнымі, так бы мовячы, скампрамэтаваць і задушыць у зародку, пакуль ёсьць сіла. Менавіта гэтымі прымітыўнымі мэтамі было выклікана нападзеньне „вандэі” на людзей 30-га кастрычніка 1988 года.

Цяпер, калі дэмакратычны рух замацаваўся, „вандэя” пачала мэтадычна выкарыстоўваць супроць яго сваю рэпрэсіўную машыну судоў, поўнасьцю падпарадкаваную партапарату. Тут дэманструецца ўжо нават ня тое што прававы нігілізм, а цынічна і адкрыта – фактычная адсутнасьць права, партыйна-апаратная прыналежнасьць суда і пракуратуры.



*4. 30 верасьня 1988 г., Менск. „Дзяды" ля Усходніх могілак. Жанчыны супраць міліцыі.*

Аднак, выбарчыя пэрспэктывы ў камуністаў-намэнклятуршчыкаў усё ж невялікія, бо ім, каб затрымацца ва ўладзе, увесь час прыходзіцца ашукваць народ, а людзі ўжо пачалі разьбірацца, дзе праўда, а дзе мана. Нельга сказаць, каб камуністы не разумелі, што народ ім ужо ня верыць і перастае баяцца. Нездарма яны робяць цяпер таемныя сацыялягічныя дасьледваньні на ўсёй Беларусі, каб выпрацаваць тактыку. А тактыка будзе такая. Чакайце адкрытага, „шчырага" прызнаньня „суровай праўды", „памылак мінулага", крытыкі мэтадаў кіраўніцтва, самакрытыкі, нават пакаяньня, некаторыя стануць „свае ў дошку", будуць „раіцца з народам" „как вывести страну" з цяжкага стану, будуць „канкрэтныя" „дзелавыя" прапановы, як палепшыць жыцьцё, будуць „канструктыўныя" ідэі і прагнозы; асабліва шмат „дзелавых" прапаноў выкажуць па эканамічных, сацыяльных пытаньнях, не хаваючы „всей серьезности положения". Будуць крывадушна прыносіць у ахвяру нават 6-ы артыкул Канстытуцыі. Словам, людзі павінны пераканацца, што яны, камуністы, – „адзіная рэальная сіла", здольная „кіраваць краінай" і „довести перестройку до конца".

Відаць, таму яны аб'явілі вайну Беларускаму Народнаму Фронту, які думае інакш. Гісторыя, як і грамадзтва, можа спакойна абыйсьціся без камуністаў, а без народа – не, бо народ гэтую гісторыю стварае. Гісторыя ж паказала, што там, дзе свабодны чалавек, там і свабодны народ, там праца, багацьце, творчасьць, хараство і жыцьцё. Там жа, дзе прайшоў бальшавік, – там кроў, сьмерць, Курапаты, вынішчэньне культуры, прыроды і зямлі, там брыдота запусьценьня на сьвятым месцы, бязбожжа і рабства і, самае подлае – мора, акіяны хлусьні. Яны ўсюды аднолькавыя: ці ў СССР, ці на Кубе, у Кампучыі ці ў Кітаі, у Карэі ці ў Румыніі, у Польшчы ці ў Беларусі. І грамадзтва, народы павінны бараніцца ад гэтае хваробы ўсімі гуманнымі сродкамі культуры.

Тая палітычная сітуацыя, якую стварае ў Беларусі напярэдадні выбараў камуністычная намэнклятура, паставіўшы сябе асобна над усім грамадзтвам і ўзмацніўшы перасьлед дэмакратычных рухаў, прымушае зразумець, што Беларускі Народны Фронт павінен ажыцьцяўляць ня толькі апазыцыю апаратнаму камунізму, але падтрымліваць усе вольныя грамадзкія памкненьні на шырокай дэмакратычнай аснове, уключаючы камуністаў, духавенства, самадзейныя грамадзкія рухі і плыні, дэмакратычную моладзь і студэнцтва, фермераў і калгасьнікаў, дэмакратычных кандыдатаў ад кааператываў і ад рабочых калектываў, дзяржаўных прадпрыемстваў, усіх здольных, сумленных, адукаваных, прафэсійна падрыхтаваных і палітычна сьвядомых людзей з гуманістычным сьветапоглядам, з пачуцьцём свайго народа і Бацькаўшчыны, гатовых адстойваць сувэрэнітэт Беларусі, інтарэсы дэмакратыі, культуры, свабоды і сацыяльнай справядлівасьці.

За дзьвесьце гадоў імпэрскай няволі гісторыя ў каторы раз зноў дае нам шанец да адраджэньня і свабоды. Дае, але нічога ня дорыць. Бо воля патрабуе змаганьня.

***ЗЯНОН ПАЗЬНЯК***

*Надрукавана: („Грунвальд",– 1990 г., студзень, №1)*

# ЯН ПАЗЬНЯК (1897-1939) І БЕЛАРУСКАЯ ХРЫСЬЦІЯНСКАЯ ДЭМАКРАТЫЯ



**Гэтым артыкулам „Навіны" распачынаюць цыкл публікацыяў пра гісторыю беларускага палітычнага руху. Да апошняга часу да гэтага не даходзілі рукі. Заціхлі і „штатныя контрпрапагандысты", адчуваючы, што нават пасквільнай згадкай пра традыцыю сёньня пашкодзяць самы сабе. Але знайшліся новыя. І вось ужо зноў партыйны друк намагаецца ператварыць пачынальнікаў руху, найвялікшых сыноў Бацькаўшчыны, у яе ворагаў. Дзякаваць Богу, такім публікацыям мала хто верыць або наогул успрымае іх наадварот. Але нельга ж бясконца спасьцігаць уласную гісторыю ад адваротнага.**

**Таму невыпадкова, што нарыс пра Яна Пазьняка і Беларускую Хрысьціянскую Дэмакратыю – першы.**

Сказаць некалькі слоў пра гэтага чалавека мяне вымушае ня столькі ўсьведамленьне гонару быць яго ўнукам, колькі горкае становішча адлучанасьці цэлых пакаленьняў нашага народу ад гісторыі Бацькаўшчыны. Бяз веданьня праўдзівай гісторыі грамадства сьлепне. Гэтым яго станам паўсюдна карыстаюцца нашчадкі тых, хто страляў у патыліцу, хто асьляпляў наш народ, адлучаў яго ад культурнай спадчыны; карыстаюцца з мэтай атруціць яго сьвядомасьць і асьляпіць канчаткова.

Ян Пазьняк – адзін з найбольш глыбокіх, выніковых лідэраў і арганізатараў беларускай нацыянальна-вызваленчай, грамадзкай і асьветніцкай дзейнасьці ў Заходняй Беларусі. Ён



*5. Адам Станкевіч і Ян Пазьняк (фота прыблізна 1936 г.).*

узначальваў ня толькі накірунак, ня толькі арганізацыю, але і цэлую плынь у беларускім руху, якая аказалася найбольш жыцьцястойкай, і, ня гледзячы на няспынныя рэпрэсіі польскіх уладаў, пратрывала да канца панаваньня Польшчы на заходнебеларускіх землях.

Беларускія хрысьціянска-асьветніцкія гурткі пачалі ўзьнікаць у 1909-1912 гадах у Горадні, Вільні і Пецярбурзе. Удзельнікам іх быў малады Янка Пазьняк.

У 1913-1915 гадах у Вільні ён, сумесна зь Ядзьвігіным Ш. (Антонам Лявіцкім), А. Бычкоўскім і Б. Пачопкам прымае ўдзел у выданьні папулярнай у тыя часы беларускай каталіцкай газэты „Беларус", супрацоўнічае ў рэдакцыі.

У траўні 1917 года ў Петраградзе беларускімі каталікамі была створана „Хрысьціянская Дэмакратычная злучнасьць" (ХДЗ). Пачынае выходзіць яе газэта „Крыніца". З 1921 года беларускія хрысьціянскія дэмакраты дзейнічалі толькі ў Заходняй Беларусі. На працягу першай паловы 20-х гадоў беларуская хрысьціянская партыя моцна палітызавалася, ставіць парграмныя палажэньні аб незалежнасьці Беларусі, аб дэмакратычных свабодах, аб надзяленьні беззямельных і малазямельных беларускіх сялянаў зямлёй бяз выкупу за кошт абшарнікаў і дзяржавы, выступае за беларускую школу і асьвету, за беларускую мову ў цэрквах і касьцёлах, за сацыяльныя гарантыі для народа і г.д., пратэстуе супраць афіцыйнай палітыкі палянізацыі Беларусі.

У 1922 годзе беларускія хрысьціянскія дэмакраты пад час выбараў у Сэйм і Сэнат, ня гледзячы на ідэйныя разыходжаньні з левардыкальнымі і экстрэмісцка-рэвалюцыйнымі групоўкамі здолелі арганізаваць разам зь імі адзіны беларускі блёк, а пасьля выбараў згрупавалі ў Сэйме Беларускі пасольскі клюб, які адстойваў інтарэсы беларускага народа (перш за ўсё, сялянаў).

На працягу 20-х гадоў беларуская хадэцыя, якая выявіла сябе як нацыянальна-палітычная сіла цэнтрысцкай (сярэдняй) пазыцыі (незалежнасьць шляхам палітыкі і рэфэрмаў), выцерпела шмат рэпрэсіяў і нападак з боку ўлады. Некалькі разоў зачынялася „Крыніца" (потым пачала выходзіць пад назвай „Беларуская крыніца"). Была зьмененая і назва партыі.

Усе гэтыя гады Ян Пазьняк удзельнічаў у хрысьціянскім палітычным руху на Беларусі. З 15 сакавіка 1928 года ён становіцца галоўным рэдактарам „Беларускай крыніцы". На зьезьдзе Беларускай Хрысьціянскай Дэмакратыі (назва з 1926 года), які адбыўся ў Вільні ў 1928 годзе, Ян Пазьняк быў выбраны сакратаром Прэзыдыюма Цэнтральнага Камітэту БХД. У 1931 годзе, на апошнім легальным зьезьдзе БХД, яго зноў выбіраюць сакратаром Прэзыдыюма ЦК БХД. З гэтага часу Ян Пазьняк быў сталым лідэрам БХД і нязьменным галоўным рэдактарам „Беларускай крыніцы".

Гэта быў цяжкі пэрыяд у палітычным жыцьці Заходняй Беларусі. Польская шавіністычная рэакцыя, якая ўмацавалася ў пэрыяд дыктатуры Пілсудзкага, паставіла мэту палянізаваць беларусаў і зьнішчыць іх як народ. Галоўнымі сродкамі палянізацыі Беларусі сталі польскі касьцёл, польская школа, эканамічная дэскрымінацыя і польскае асадніцтва. Ня дзіўна, што рэлігійна-асьветніцкая і эканамічная незалежніцкая палітыка БХД апынулася ўпоперак горла польскім дзяржаўным шавіністам. Архібіскуп Віленскі Р. Ялбжыкоўскі зьвярнуўся ў 1928 годзе зь біскупскім лістом да каталікоў, дзе анафемстваваў у адрас БХД, абвінавачваў яе ў рэлігійнай індэферэнтнасьці і „бальшавізме", забараняў вернікам падтрымліваць БХД, чытаць і распаўсюджваць „Беларускую крыніцу". Паліцыя пастаянна канфіскоўвала газэту, пошта сабатавала яе дастаўку падпісчыкам, зьнішчаліся нумары, распачыналіся судовыя справы і г.д. З другога боку, сталіністы зь нелегальнай КПЗБ называлі беларускіх хрысьціянскіх дэмакратаў „сацыял-фашыстамі".

Фразэалёгія добра вядомая ў даваеннай савецкай палітыцы, даносах і літаратуры.

Вядома ж, ня мелі рацыі ні тыя, ні гэтыя. З нагоды ярлычных ацэнак дзейнасьці БХД крайнімі правымі польскімі шавіністамі і левымі савецкімі, працытую *рэзалюцыю №6* ***„Аб беларускім жыцьці пад Саветамі”***, прынятую на зьезьдзе БХД у Вільні 13 сьнежня 1931 года:

**Зьезд БХД рашуча пратэстуе:**

a) супроць зьнішчэньня беларускага народа і культурнага жыцьця ў Савецкай Беларусі;
в) супроць рэлігійнага ўціску, які там праводзіцца;
c) супроць увязьненьня лепшых культурных беларускіх дзеячоў і высылкі іх за межы Савецкай Беларусі;
d) супроць загадкавага забойства прэзыдэнта Акадэміі Навук праф. У. Ігнатоўскага;
e) супроць прымусовага зьнішчэньня адвечнага гаспадарчага ладу ва ўсходняй Беларусі і ўводжаньня калектывізацыі сілаю і гвалтам.

**Разам з гэтым Зьезд пратэстуе супроць усялякіх спробаў з боку міжнароднага фашызму і камунізму да ўзброенай інтэрвэнцыі, уважаючы яе за пачатак новых падзеяў, новай няволі і новых няшчасьцяў для Беларускага народу. Зьезд БХД трымаецца таго прынцыпу, што будучыню Беларускага народу ня зможа і не павінен вырашаць ані камунізм, ані фашызм, ані капіталізм, а толькі сам Беларускі народ”.**
*(„Беларуская крыніца”, Вільня,–1931 г., 17 сьнежня, №41)*

Тут зьдзіўляе нас ня столькі сучаснасьць пазыцыі і дакладнасьць ацэнак тых працэсаў, што разгортваліся ў пачатку 30-х гадоў у БССР, колькі палітычная яснасьць мысленьня і прадбачлівае вызначэньне злавеснай ролі, якую могуць адыграць фашызм і камунізм у лёсе народаў, у жыцьці Эўропы. А гэта ж гаварылася за 10 гадоў да 2-й Сусьветнай вайны. Гітлер яшчэ не прыйшоў да ўлады. Сталін толькі пачаў фармаваць свой рэжым. Пра будучы альянс камуністаў з фашыстамі ніхто не здагадваўся, не маглі ўявіць. Тым часам БХД выразна ўсьведамляла небясьпеку і прадбачыла змову супраць народаў. Ня дзіўна, што на беларускую хадэцыю сыпаліся ўдары зьлева і справа.

Гісторыя шматпакутнай хрысьціянскай Эўропы сьведчыць, што, калі справа датычыцца сутнасьці грамадзкіх зьяваў і лёсу народаў, найбольш правільны прагноз і дакладнае вызначэньне дае Касьцёл. Яму гэта дадзена з прычыны духоўнасьці, гуманістычнай маралі і асэнсаваньня вечнасьці Быцьця.

Да сярэдзіны 30-х гадоў яшчэ больш узмацнела рэакцыя ў Польшчы. У 1934 годзе зьменена Канстытуцыя, скасаваны яе дэмакратычныя палажэньні, прыняты новы недэмакратычны закон пра выбары. У гэтых варунках беларускія арганізацыі байкатавалі выбары 1935 году ў польскі Сэйм. Каб забараніць дэмакратычныя свабоды і супрацьстаяць фашызацыі польскай дзяржавы, усе дэмакратычныя і гуманістычныя сілы краю пачалі аб’ядноўвацца на заходні ўзор у адзіны народны фронт, каб кансалідаваць свае сілы.

Да гэтага часу БХД і сумежныя зь ёй арганізацыі засталіся, практычна, адзінай легальнай беларускай грамадзка-палітычнай сілай у Заходняй Беларусі. Лявіца была загнана ў падпольле альбо разгромлена, правіца далучылася да рэакцыі. Паўстала пытаньне аб рэарганізацыі БХД, стварэньня фронту ўсіх яшчэ існуючых беларускіх арганізацыяў супраць рэакцыі. 19 студзеня 1936 года Прэзыдыюм БХД склікаў у Вільні Раду актывістаў і прыхільнікаў руху. Аднак, ня гледзячы на легальнасьць сходу, у залю ўварвалася паліцыя і не дала магчымасьці працаваць. Сход Рады адбыўся праз тыдзень. На ім былі прыняты новыя Статут і Праграма, зацьверджаны новыя прынцыпы арганізацыі, якая была перайменавана ў Беларускае Народнае Аб’яднаньне (БНА). Старшынёй Прэзыдыюма БНА (прэзыдэнтам) быў выбраны рэдактар „Беларускай крыніцы” Ян Пазьняк.

Праграма БНА уключала ўсе асноўныя палажэньні БХД, але была больш шырокай і радыкальнай. Асноўнай мэтай было стварэньне незалежнай беларускай дзяржавы ў этнічных межах. Дзяржаўны лад яе павінен быў грунтавацца на роўнасьці і грамадзкай справядлівасьці без эксплуатацыі і прыгнёту, без дыктатуры. Сцьвярджаліся дэмакратычныя прынцыпы і роўнасьць між народамі, свабода сумленьня, асуджалася выкарыстаньне рэлігіі ў палітычных мэтах, падтрымлівалася вывучэньне рэлігіі ў школах, вяртаньне да беларускай мовы ў цэрквах і касьцёлах, разьвіцьцё беларускай культуры і г.д. Паводле БНА, зямля павінна была застацца ў прыватным карыстаньні, але дапускаліся калектыўныя гаспадаркі. Для абшарнікаў уводзілася „працоўная норма” зямлі. Усё, што вышэй „нормы”, трэба было аддаць беззямельным і малазямельным сялянам бяз выкупу і якой-небудзь кампэнсацыі памешчыкам з боку дзяржавы. Праграма адзначала, што зямля і прыродныя багацьці Беларусі зьяўляюцца прыроджанай уласнасьцю беларускага народа.

Ідэю агульнага фронту БНА спраўджала даволі пасьлядоўна. Фактычна, усе легальныя беларускія арганізацыі і вы-



***6. Група беларускай моладзі ў Вільні з жонкай Яна Пазьняка (у сярэдзіне). Зьлева напр.: Мар’ян Пяцюкевіч, Марыя Пазьнячыха, Язэп Малецкі. Стаяць: (?), Б. Кляпацкі, Віка Пазьнячанка (сястра Яна Пазьняка).***



***7. Працаўнікі рэдакцыі „Беларускай Крыніцы” ў Вільні: Зьлева напр.: Язэп Найдзюк, Уладзіслаў Тарасевіч, Мар’ян Пяцюкевіч, Ян Пазьняк (рэдактар).***



*8. Ян Пазьняк, ягоная жонка Марыя і малодшая дачка Галіна ў рэдакцыі „Беларускай Крыніцы". Вільня, сярэдзіна 1930 – х гг.*

даньні былі пад яго ўплывам, у тым ліку Беларускі Інстытут гаспадаркі і культуры (БІГІК), Таварыства беларускай школы (ТБШ) і інш. Ня гледзячы на ідэйныя разыходжаньні, БНА нават неафіцыйна супрацоўнічала з падпольнай КПЗБ у некаторых галінах працы (школьніцтва, гаспадарка і інш.).

Аднак і націск польскай рэакцыі павялічваўся з кожным днём. Палякі паставілі задачу расправіцца з БНА, чаго б гэта ні каштавала.

За 1936 год „Беларуская крыніца" канфіскоўвалася 11 разоў, адзін раз была зачыненая судом. Над яе рэдактарам Янам Пазьняком ад пачатку 1936 года вісела 35 судовых справаў. У лістападзе гэтага ж году паліцыя зрабіла вобыск у памяшканьні БНА, потым вобыскі на кватэрах Яна Пазьняка, Адама Станкевіча, Адольфа Клімовіча і іншых лідэраў Аб'яднаньня. 4-га сьнежня забаранілі дзейнасьць ТБШ і БІГІК. Стала зразумела, што ўлады хутка „загрызуць" „Беларускую крыніцу" і яе рэдактара. Ян Пазьняк вымушаны быў адмовіцца ад рэдагаваньня газэты. Аднак гэта ня выратавала яе. У красавіку 1937 года „Беларуская крыніца" была зачынена.

Ва ўмовах шалёнай эскаляцыі антыбеларускай рэакцыі, якая на захадзе і на ўсходзе разьвівалася ва ўнісон, толькі на розных узроўнях, БНА галоўную ўвагу ськівала на выдавецкую дзейнасьць, спрабуе стварыць новыя выданьні і арганізацыі. Ян Пазьняк стаў рэдагаваць „Хрысьціянскую думку", якую з 1928 года выдаваў Адам Станкевіч. Газэта стала выходзіць у два разы часьцей і набыла агульнаграмадзкі кірунак. Часьцей стаў выходзіць сельскагаспадарчы часопіс „Самапомач", зьявіўся новы бюлетэнь „Беларускія Ведамасьці", па-новаму накіроўваецца дзейнасьць Беларускага Студэнцкага Саюзу і іншых таварыстваў і выданьняў. У гэты час амаль усе беларускія выданьні, навуковыя і літаратурныя творы, часопісы, календары, што выходзілі ў розных выдавецтвах, у сапраўднасьці выдаваліся пры дапамозе БНА.

У 1938 годзе Усходняя Беларусь ужо захлынулася па горла у крыві. У Заходняй Беларусі ў гэты ж час палякі пачалі разгром Беларускага Народнага Аб'яднаньня. Беларускія выданьні зачыняліся адно за другім: ішлі вобыскі ў дзеячоў руху, распачыналіся судовыя справы, арганізоўваліся правакацыі, канфіскацыі газэтаў і кніг. Неўзабаве выселілі зь Вільні Адама Станкевіча і Адольфа Клімовіча. Потым пачаліся арышты актывістаў. Перад вайной у канцлягеры Картуз-Бяроза апынуліся шмат якія вядомыя дзеячы БХД-БНА: ***Вячаслаў Багдановіч***, *рэдактар „Калосься"* ***Ян Шутовіч***, ***Язэп Найдзюк***, ***Альфонс Шутовіч***, ***Язэп Шнаркевіч***, *паэт* ***Уладзіслаў Паўлюкоўскі*** *і інш.*

А потым... потым прышлі танкі „вызваліцеляў". Новыя гаспадары на нашай змардаванай санацыйнымі ўладамі зямлі пачалі шалёны сатанінскі танец сьмерці. Былі зачыненыя ўсе беларускія выданьні і арганізацыі, якія не пасьпелі разграміць палякі. Пачалі вывозіць усіх палясоўшчыкаў, „кулакоў", пачалося паляваньне на беларускую інтэлігенцыю. Зь Вільні людзей везьлі вагонамі, нібы быдла. Ніхто ня ведаў, куды, ніхто іх болей ня бачыў, ня чуў, што зь імі сталася.

У кастрычніку 1939 года ў Вільні быў чарговы „хапун". Забралі Яна Пазьняка. У вагон – і разам з „национал-фашистами", ненавидевшими белорусский народ", як пішуць цяпер нашчадкі тых, хто тады хапаў, павезьлі кудысь навек. І ніякага сьледу. У 1956-57 гадах мая бабуля, Марыя Адамаўна, спрабавала высьветліць лёс мужа. Пісала, дамагалася, толькі дарма. Злачынства сьцеражэ свае таямніцы. У 1965 годзе я спрабаваў даведацца пра сьмерць дзеда. Аб'езьдзіў шмат каго. Толькі і даведаўся, што павезьлі „іх" у бок Нова-Вільні і Менску.

У 40-х трагедыя прадоўжылася. Тут ужо нішчылі немцы. Вывезьлі ў Нямеччыну майго роднага дзядзьку, сына Яна Пазьняка, таксама Янку. Там ён і загінуў. У сьнежні 1944 года на фронце загінуў мой бацька, другі сын Яна Пазьняка, Стась; 9 лютага 1945 года ва Ўсходняй Прусіі згарэў у танку мой родны дзядзька па маці, усеагульны любімец Яська... З 1941 года ён быў на фронце, у танку, у баях. І гэтаму не пашанцавала...

Госпадзі, упакой душы рабоў Тваіх... мільёнаў, што паклаў наш народ на агульны фашыстоўска-бальшавіцкі крывавы алтар.

Ян Пазьняк працаваў арганістам у беларускім Сьвятаянскім касьцёле ў Вільні, там, дзе ксяндзом быў найсьвяцейшы, найразумнейшы чалавек усёй нашай заходне–беларускай гісторыі Адам Станкевіч. Яны сябравалі з 1911 года, з раньняга юнацтва. Ян Пазьняк быў чалавек нешматслоўны, добразычлівы і пазбаўлены славалюбства. „Беларускую крыніцу" і ўсю працу ў БХД-БНА ён цягнуў, як вол, быў добрым арганізатарам, тактыкам і прадбачлівым палітыкам. Арганізуючы працу, сам ён нібы заставаўся збоку, у цяні, не „кіпеў" і не „шумеў", а справа ішла. Быў глыбока веруючым каталіком. Меў вытрымку і цярпеньне, бо ахвярна любіў сваю Бацькаўшчыну і зьняважаны, паняволены беларускі народ.

Вобраз дзеда Яна (Яся, як называла яго бабуля) я ўяўляў з дзяцінства. Ён мне здаваўся сьвятым. За ўсё жыцьцё я ня чуў, каб хто кінуў камень у гэты вобраз. Забойцы маўчалі, каб ня выявіць сваё злачынства. І вось жа прыйшоў час, і запеніліся наступнікі забойцаў. Яны думаюць, што не адказныя за тваю сьмерць, дзед Ясь. Ды й пеняцца ж на мяне, хоць і ўспамінаюць тваё імя. Як яны падобныя на тых, як падобныя...

Да дробязяў падобныя.

*30. 12. 1989 г., Менск*

***Зянон ПАЗЬНЯК***

*Надрукавана: („Навіны БНФ",– 1990, 20 студзеня)*

# ГЛЁРЫЯ ПАТРЫЯ

Надта балесна чалавеку жыць успамінамі. Асабліва згадваючы пра добрае ды страчанае. Некалі любіў чытаць вершы хоку. Цяпер гартаю пажаўцелыя старонкі і знаходжу:

*Ізноў шчыміць маё сэрца*
*па Вільні,*
*Па бедным маім юнацтве.*
*Сінія горы на гарызонце.*

Але каму „баляць” тыя горы? Як кажуць, каму горы, каму стэп. У юнацтве перахварэў настальгіяй. А было так. Паехаў у Маскву. Ад тых мройных, сініх, соснамі парослых віленскіх узгоркаў... Нагледзеўся я на тое маскоўскае азлабленьне, наслухаўся хамства, убачыў, што там людзі адзін аднаму не ўсьміхаюцца і ў вочы не глядзяць – і такі мяне апанаваў жахлівы смутак па Бацькаўшчыне, так занудзіўся, што перастаў я есьці і спаць. Усё цела знутры пачало балець, нібы пабітае. А ў вачах толькі ўзгоркі з касьцёламі ды жыта красуе пад імі хвалямі неабсяжнымі. Думаў, памру ад болю. Купіў я білет вечарам і паляцеў у Вільню.

Вось сонца заходзіць ліпнёвае, попельна тлеюць аблокі, мільгаюць унізе агні. Спускаецца самалёт, ашалела равуць рухавікі. Потым цішыня. Выйшаў і адразу адлягло, зьлягчэла, цяпло па ўсім целе разьлілося. Ціха вакол, вечарэе, і першыя конікі сакочуць у летняй траве, а ўдалечыні Вільня і вежы над сьпічастымі дахамі. І тут мне як хлынулі сьлёзы з вачэй. Памятаю – гэткія гарачыя-гарачыя. Плачу і зьдзіўляюся, адкуль у чалавека гэтулькі сьлёз. Потым пайшоў пехам у горад па траве, па ходніках і бруку, ня чуючы вагі, гэтак стала лёгка. Найшчасьлівейшы дзень у жыцьці.

Прыйшоў на былую Людвісарскую, 9 у цэнтры старой Вільні і сеў пад вярбой насупраць мураванага двухпаверхавага дома, дзе некалі да вайны жыў мой дзед, бабуля, мой бацька. Побач меншы дамок, у ім знаходзілася друкарня „Беларускай крыніцы”. Надышла ноч. Можна было пайсьці заначаваць да дзядзькі ці да сяброў, знаёмых. Але навошта, калі так цёпла на вуліцы, на душы і на сэрцы.

Сьвецяцца вокны ў старым доме. Нехта ж пасяліўся. Заходзіць ня буду, бо я там не жыву, бацька загінуў на Фронце, дзеда ў 1939-м закатавалі сталіністы-бальшавікі, бабуля памерла. Ды што дом – увесь горад ужо ня той. Пераменіліся людзі і вуліцы, надпісы і гаворка. Да вайны, здаецца, летувісаў у Вільні было ня больш паўтара працэнты жыхароў. Цяпер, праз 50 гадоў, іх у горадзе ўжо ці ні палова. Беларуска-польскую Вільню я яшчэ добра памятаю ў 50-х гадах. Зрэшты, калі б з 1939 года яна засталася б беларускай ды была б адноўленая (што меркавалі) як сталіца Беларусі, ды разьмясьціўся б там ЦК КПБ з усімі сваімі аддзеламі ды функцыянерамі, дык ці засталося б тады што ад нашай прыўкраснай Вільні? Паразбуралі б касьцёлы, пазносілі б старыя вуліцы, паўзрывалі б помнікі культуры, усё згадзілі б, збэсьцілі, нават замкавую гару Гедыміна скапалі б чыноўнікі ад гарсавету і архітэктуры і ўтварылі б на яе месцы возера ці станцыю мэтро, як у Менску. Разбудавалі б Вільню на 2 мільёны жыхароў, наставілі б гігантаў вялікай хіміі, пасьсякалі б лясы, навезьлі б прышлай „рабочай сілы” і ганарыліся б брыдотай і дуратой.

І ўсё ж душа шчыміць. Шчыміць перад бацькаўскім домам. Нядаўна я даведаўся, што пасяліўся адзін час у ім годны чалавек і добры летувіс Віргіліюс Чапайціс. Можа, тады, у 60-х, і сьвяціліся яго вокны ў нашым доме, калі ноччу сядзеў я насупраць пад вярбой, радасны і шчасьлівы. Цяпер Віргіліюс сакратар Праўленьня Сойму „Саюдзіса”. Ён пераехаў у іншае месца. Дом пустуе.

Прыходжу сюды часта, калі бываю ў Вільні, дзе гучыць мне яе мэлёдыя – „Глёрыя Патрыя”.

*Стары дом на Людвісарскай.*
*Адцьвітае ля брамы вярба.*
*Я бывцам там перад вайной.*
*Чую гукі фартэпіяна*
*І стрэлы ў грудзі –*
*маім радакам.*
*Чую ймшу у касьцёле*
*Сьвятога Яна*
*І крокі.*
*Выходзіць сьвятар Адам.*
*Нібы Богам абраны, –*
*Гёрыя Патрыя Рутэнія Альба,*
*Глёрыя Патрыя Рутэнія Альба!*
*Урачыста гудзяць арганы.*
*Кроў на бруку,*
*у цэлях,*
*на пяску,*
*на каменьнях –*
*Мая кроў.*
*Наша кроў*
*З апусьцелага дома*
*на Людвісарскай,*
*Дзе гучэла фартэпіяна:*
*Глёрыя Патрыя Рутэнія Альба!..*
*Падаюць кроплі на шлях –*
*Гарачыя кроплі з дрэў,*
*Што праводзілі нас*
*у катоўні, ў Сібір.*
*Прывітаная будзь, Марыя,*
*поўная Ласкі.*
*Прывітаная будзь*
*Над маёй старанoй!..*
*Перад домам старым*
*Зацьвітае вярба.*
*Глёрыя Патрыя*
*Рутэнія Альба!*
*Перад домам старым*
*Толькі постаць мая.*
*Глёрыя Патрыя*
*Рутэнія Альба!*
*Перад домам старым*
*Прагрымела вайна,*
*Перад домам старым*
*Прагрымела вайна...*
*Глёрыя*
*Патрыя...*

Вільня мяняецца. Адыходзяць людзі, паміраюць вядомыя беларусы. Заканчвае стагоддзе свайго жыцьця Зоська Верас, спадарыня Людвіка Савіцкая-Войцік; памёр Янка Шутовіч. Сірацее наш віленскі быт. Памятаю, гадоў пяць таму, ранак на Антокалі. Тады запісаў:


(Фота Зянона Пазьняка).

***9. Вярба асеньняя.***

*Холадна ўсход ружавее.*
*Мароз.*
*Абсыпаецца шрань з галін.*
*Патухаюць лятарні.*
*Уздымаецца сонца –*
*малінавы шар,*
*Асьвятляе сьнягі на дамах.*
*Лунае туман над Вяльлёй.*
*Вось каменныя львы*
*сьцерагуць уваход.*
*Прыпыняюся.*
*Міма іду,*
*Азіраюся ўсьлед*
*на вакно мастака –*
*Сергіевіча*
*ўжо няма.*

Нічога нельга параўнаць зь Вільняй. Калі хочаш пазнаць беларускую народную душу, тады едзь у гэтую крывіцкую Мэкку, як сказаў наш слаўны паэт Уладзімер Жылка. Пахадзі па яе вулках і касьцёлах, ля рэчак і па ўзгорках, тады і даведаешся. І параўнаеш з сабой, бо адчуеш нешта роднае і будзеш успамінаць, ці ня бачыў ты гэта ў сьне.

Кожны народ асабліва асвойвае прастору, мае сваю пластыку ў руху, мэлёдыю ў мове, рытм у гаворцы. А ўсё гэта разам – музыка, што выяўляецца ў архітэктуры. Паслухайма, як гучыць Ганна. Сьвятая музыка, Боская і чалавечая, увабрала ў сабе вятры і сьпевы Віленшчыны. Паслухайма, як сьпявае Вільня ў вежах і мурах, калі грымотна праносіцца навальніца над вуліцамі і ўсьпененай Вяльлёй. Даўно-даўно мне запомніўся такі дзень. Тады запісаў:

*Бачу мокры брук праз вакно,*
*Адпрасаваны падковамі*
*коней*
*І ступенямі продкаў.*
*Бачу чырвоныя камяні.*
*Стагоддзі хлістаў па іх*
*дождж*
*І бег струмень*
*Ад Вострай Брамы аж да*
*Катэдры.*
*Стагоддзямі цёк струмень людзкі...*
*Прайду і я гэты шлях,*
*як рытуал,*
*Памятаючы пра ўсё.*

Віленскую Кальварыю бальшавікі зачынілі пасьля вайны. Абязьлюдзелі сьцежкі-дарожкі, зьніклі паломнікі. Ідзеш у цішыні і слухаеш свае крокі. Чаўпецца нешта ў такт хады.

*Шлях апусьцелы,*
*Векавы,*
*Да звону ўбіты*
*Хадакамі.*
*І абламаны торс*
*Сьвяты*
*З паабсяканымі*

*Рукамі.*
*Бягуць гады,*
*Дзесяцігоддзі...*

Хопіць, зрэшты, хопіць. Пэўна, ад Вільні кружыцца мне галава. Ды баюся, што толькі мне. Сады і паркі, сасновыя схілы, булькоча ўнізе Віленка. Памятаю ж яе чыстай у ваколіцах Вільні.

*Ноч засьпела ў дарозе мяне*
*пехатой.*
*Тарахценьне калёс. Галасы*
*ў цемнаце.*
*Папрасіць, каб падвезьлі,*
*ці што ?*

Валуны, крушні ўздоўж дарог. Раскажа дзядзька дасканала на беларускай добрай віленскай гаворцы, дзе па каменьнях Бог ступаў, дзе Езус Хрыстус сьлед пакінуў.

*Адбітак ступні на граніце.*
*Узьляцеў матылёк.*
*А некалі шэры лішайнік*
*і гэты камень*
*зьесьць.*

У Вільні свабодна. Праўда, летам бывае тлумна. Зімовая Вільня непаўторная. Можаш ісьці па старым месьце і доўга не спаткаеш чалавека. Ніхто нікуды не сьпяшае.

*Засьнежаны парк.*
*Па дарожцы бязьлюднай*
*Хлопчык ідзе.*

У старой Вільні кожны камень дыхае беларускай гісторыяй. Вось дом, дзе жыў Сыракомля. Вось тут была рэдакцыя „Нашае Нівы”, там жылі Луцкевічы, далей Беларуская гімназія, друкарня імя Францішка Скарыны, тут Базыльянскі кляштар, там схапілі Каліноўскага, тут выступаў беларускі дзіцячы тэатр Станіславы Корф, там храм, дзе сьвятараваў Адам Станкевіч, тут мясьцілася беларускае выдавецтва, там бібліятэка...

*О, Вільня, як жывіш ты маё*
*сэрца!*
*У час спатканьня іду*
*на пляц.*
*Вось мур,*
*Дзе апошні позірк*
*Каліноўскага.*
*Доўга гляджу,*
*Каб панесьці з сабой у душы.*

***Зянон Пазьняк***

*Надрукавана: („Навіны БНФ”, 1990 г., 23 красавіка)*
*Вершы 1986 г.*


(Фота З. Пазьняка).

***10. Вільня. 2000 г. Вострая Брама.***

**АД РЭДАКЦЫІ ЧАСОПІСА „БЕЛАРУСЬ”:**

**Пошук найбольш прымальных канцэпцыяў нацыянальна-дзяржаўнага будаўніцтва ў СССР, ацэнка ролі Камуністычнай партыі ў жыцьці краіны – гэтыя пытаньні шырока абмяркоўваюцца сёньня ў друку. Свой погляд на іх выказвае і аўтар гэтага артыкулу З. Пазьняк.**

**Зянон Станіслававіч Пазьняк – старшы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі АН БССР. Ён – народны дэпутат БССР, лідэр БНФ. Многія памятаюць яго публікацыі ў штотыднёвіку „Літаратура і мастацтва”, іншых выданьнях, асабліва артыкулы, якія адкрылі нам трагедыю Курапатаў.**

**Рэдакцыя падзяляе ня ўсе погляды, ацэнкі і думкі аўтара. Мяркуем, што неадназначна будзе ўспрыняты артыкул і масавым чытачом. Таму запрашаем чытачоў да шырокага, зацікаўленага абмену думкамі па сутнасьці закранутых у артыкуле праблемаў.**

# ШЛЯХ ДА СВАБОДЫ

Мінула паўтара гады з часу ўтварэньня руху Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне”. Пара азірнуцца і паглядзець, што зроблена і што дасягнута. За гэты час Летува ўжо ступіла на шлях незалежнасьці. На чарзе Эстонія, Латвія, Грузія, Украіна, рэспублікі Сярэдняй Азіі. У Балтыйскіх рэспубліках, у Закаўказьзі, на Ўкраіне і шмат дзе яшчэ народ выбраў дэмакратычных дэпутатаў у Саветы. Пачаліся перамены. У Беларусі ж, здаецца, не зьмянілася нічога. Той жа зьдзек з беларускай мовы, тыя ж расейскія шыльды, назвы і вывескі; тыя ж помнікі на плошчах, Леніна ды Калініна; тыя ж прадажныя журналісты і паклёпы ў газэтах на БНФ і лепшых людзей; той жа Чарнобыль і тыя ж камуністы. Здаецца, што час спыніўся ў гэтым застойным балоце...

Але гэта толькі на першы погляд, у параўнаньні з тым, што робіцца навокал. Зьмены ёсьць. Толькі яны ў сфэры сьвядомасьці і ідэй, толькі не падмацаваны грамадзкім дзеяньнем. Яны выклікаюць аптымізм і трывогу. Аптымізм, бо будучыня вольнай Беларусі наперадзе. Трывогу, бо можна спазьніцца. Беларусы заўсёды спазьняліся на адраджэньне, і ніколі – на сьмерць.

Спазьняліся, бо не адчувалі часу, важнейшай пераменнай велічыні палітычнага руху. Не адчувалі, бо не хацелі, ня ўмелі быць самымі сабой.

І ў Праграме, і ў Статуце БНФ адзначаны галоўныя мэты руху: стварэньне дэмакратычнага грамадзтва ў Беларусі, дасягненьне „рэальнага суверэнітэту” Рэспублікі і адраджэньне беларускай нацыі. На сёньняшні дзень мы нават і блізка не падышлі да ажыцьцяўленьня пастаўленых мэтаў. Але зазірнём у Праграму і пачытаем, якія прапануюцца шляхі іх дасягненьня. Мы наважваемся адраджаць „ленінскія прынцыпы нацыянальнай палітыкі”. Як быццам ня ведаем, што гэтыя „прынцыпы” палавіністыя, супярэчлівыя, блытаныя і фальшывыя. Ды і пры чым тут Ленін? Мы пішам аб падтрымцы перабудовы, распачатай „лепшымі сіламі КПСС”. Як быццам ня ведаем, што „лепшыя сілы” КПСС тут ні пры чым, што ў савецкай дзяржаўнапартыйнай сістэме ўсё залежала ад генсека, што перабудову пачаў адзін Гарбачоў.

Мы адзначаем, што дзяржаўны суверэнітэт „мае на ўвазе незалежнасьць дзяржавы ва ўнутраных справах... і ў міжнародных зносінах”. Але чаму толькі ў „справах” і „зносінах”, а не ва ўсёй унутранай і зьнешняй палітыцы? Што тады быў бы за „суверэнітэт”?

Паўтара гады таму мы па шаблону зыходзілі з утапічнага разуменьня будучага СССР „як дабраахвотнага саюзу раўнапраўных і суверэнных дзяржаваў з правам свабоднага выхаду апошніх зь яго складу”. Мы выступілі „за ўнармаваньне прынцыпаў узаемадачыненьняў суверэнных рэспублік шляхам распрацоўкі і прыняцьця новага Саюзнага дагавору”, які „павінен заключацца пасьля прыняцьця рэспублікамі новых Канстытуцыяў”, паведамлялі, што „суверэнітэт саюзных рэспублікаў – першасны, а суверэнітэт іх саюзу – другасны” і г.д., не заўважаючы юрыдычнага нонсенсу такіх сцьвярджэньняў, не зважаючы на абсурднасьць самых палажэньняў аб падзеленым суверэнітэце. Суверэнітэт альбо ёсьць, альбо яго няма. Ён ня дзеліцца і не палавініцца.

Ілюзорнасьць меркаваньня аб суверэнітэце ў складзе СССР пацьвярджаюць ня толькі лёгіка і здаровы сэнс, але, перш за ўсё, гісторыя „краіны Саветаў”, і асабліва палітычная практыка пэрыяду „перабудовы”. Аднак паўтара гады таму ў пэрыяд нашага палітычнага рамантызму вырашыць гэтае пытаньне на ідэйным, няхай сабе дэкларацыйным узроўні, было цяжка. Палітычная думка яшчэ не прачнулася, ілюзіі не разьвеяліся, а атручаная камуністычнай прапагандай і страхам сьвядомасьць людзей патрабавала хутчэй лекара і дапамогі, чымся здольная была сама на арыгінальную творчасьць у ідэйных працэсах.

Значная (калі ня большая) частка людзей у БНФ гэтак і думала пра суверэнітэт Беларусі, як напісана ў Праграме. Падмацоўвалі такія меркаваньні і аналягічныя пазыцыі балтыйскіх народных франтоў, дзейнасьць і ідэі якіх успрымаліся ў нас зь вялікай пашанай. Не заўважалі мы толькі, што балтыйскія народныя рухі, у адрозьненьне ад БНФ, былі афармлены і арганізаваны ў асноўным камуністамі (няхай сабе і лібэраламі). Адсюль невыразнасьць пазыцыі аб суверэнітэце, пакуль не пачаўся масавы народны рух і ня ўнёс свае карэктывы ў пэрспэктыву нацыянальнай будучыні Балтыі.

ВАРТА АДЗНАЧЫЦЬ таксама, што ад самага пачатку БНФ, яшчэ на ўзроўні аргкамітэту, куды ўваходзілі і камуністы, сутыкнуўся зь вельмі актыўнай пазыцыяй калябарацыянізму, згодніцтва і імкненьня супрацоўнічаць з партапаратам. (Цяпер гэтая пазыцыя рэанімуецца ў Вярхоўным Савеце БССР сярод некаторых „дэмакратычных” дэпутатаў). Аргкамітэт здолеў вылечыцца ад калябарантаў, але праца над праграмай ішла вельмі павольна і вельмі цяжка. Згодніцтва прыходзілася перадольваць пастаянна. Нічога дзіўнага, што атрымалася даволі лібэральная (я б сказаў, нават памяркоўна-лібэральная) праграма народнага руху.

Цяпер самы час зрабіць адступленьне ад тэмы і схапіцца за галаву, успомніўшы тую неадэкватную рэакцыю, якую выклікала наша лібэральная праграма ў камуністычнага партапарату. Колькі сьляпой нянавісьці, бруду, паклёпу было выліта на Беларускі Народны Фронт, колькі прадажных журналістаў спаборнічалі, каб дагадзіць сваім партыйным заказчыкам, колькі

газэтна-часопіснага дурману выпусьцілі на людзей, колькі легіёнаў апаратчыкаў абрынулі на БНФ свае ярлыкі – „экстрэмісты", „нацыяналісты", „фашысты", „эмоцыі", „канфрантацыя" і ўсялякае паскудзтва.

Праграма БНФ, практычна, нічым не пярэчыла дэклярацыям КПСС аб перабудове, тым больш Канстытуцыі, аб вернасьці якой успамінаецца ледзь ні на кожнай старонцы. Калі б у гэты час БНФ быў поўнасьцю прызнаны, юрыдычна зацьверджаны і яму прадставілі б усе канстытуцыйныя магчымасьці дзейнічаць і разьвівацца, камуністы тым самым, безумоўна, маглі б істотна ўмацаваць свае пазыцыі ў БНФ і ў цэлым у БССР. Цяжка сказаць, што сталася б у гэтым выпадку з народным рухам пры агульнай палітычнай нясьпеласьці і пасыўнасьці нашага грамадзтва.

Нянавісьць да БНФ, што асьляпіла партапарат, і ўсе іхныя дзеяньні, абумоўлены адной простай прычынай: страхам рэальна згубіць уладу, прывілеі, манаполію і ўсё, што з гэтым зьвязана. Ня мае ніякага значэньня, якая там у беларускага Фронта праграма, лібэральная ці радыкальная, хоць камуністычная, хоць мааісцкая. Усяроўна абзавуць экстрэмістамі. Для партбюракратыі істотна тое, што ўтвараецца новая нацыянальная грамадзка-палітычная сіла, якая абапіраецца на народ і крытыкуе намэнклятуру. Крайне нецярпімыя адносіны ЦК КПБ да дэмакратычнай плятформы ў КПСС яшчэ раз праілюстравалі становішча. Партбюракратыя разумее ўладу толькі як сваю манаполію, неабмежаваную і народам не кантралюемую. Таму няма ніякага сэнсу весьці спрэчкі з намэнклятурнымі камуністамі ці іх крэатурамі па праграмных палажэньнях. Гэта толькі марнаваньне часу.

У разуменьні суверэнітэту Беларусі рух БНФ прайшоў заканамерны пэрыяд эвалюцыі і асэнсаваньня. Яно яшчэ працягваецца. Прыклады Балтыі, яе імкненьне да незалежнасьці – гэта для нас толькі прыклады, пакуль ва ўласным жыцьці не прыйдзе ўсьведамленьне неабходнасьці нацыянальнай свабоды. Дзьве бяды, дзьве трагедыі навісьлі над беларускім народам: Чарнобыльская катастрофа і катастрофа нацыянальна-культурная. Прычына адна, назавём яе абагулена – камунізм. За чатыры гады чарнобыльшчыны, практычна, нічога не скранулася зь месца. Сталі хіба больш ведаць пра сваю бяду. Чатыры гады зьнясільваючай барацьбы за выжываньне, за праўдзівую інфармацыю, за перасяленьне. Чатыры гады змаганьня з Масквой, з „Міндзравам", з намэнклятурай, зь ведамствамі СССР, з подласьцю, з сакрэтнасьцю, з бесчалавечнасьцю і здрадай. Чатыры гады радыяцыйнага генацыду, чатыры гады цынічнага экспэрымэнту над людзьмі, чатыры гады хлусьні, зьняваг, абяцаньняў, ашуканства і фальшывых спачуваньняў, чатыры гады народнага бясьсільля. „Што рабіць? Як ратавацца? Дзе выхад?" – задаюць пытаньні.

Выхад ёсьць! Выхад адзін – дзяржаўная незалежнасьць Беларусі. Выхад – гэта вольная незалежная дзяржава Беларусь.

АЛЕ ПАГАВОРЫМ СПАКАЙНЕЙ. Чатыры гады падчарнобыльскага жыцьця засьведчылі бяспраўе нашага народу і поўнае бяспраўе, поўную залежнасьць Беларусі ад Масквы, ад ураду СССР. З 1989 года, пасьля таго, як Беларускаму Народнаму Фронту, вучоным АН БССР і навуковай грамадзкасьці ўдалося зламаць сьцяну маўчаньня вакол чарнобыльскай трагедыі на Беларусі і раскрыўся жахлівы яе размах, мы ўсе сталі сьведкамі нежаданьня СССР дапамагаць нашаму народу, аддаць нам кампэнсацыю за прычыненае зло, вярнуць нашы будаўнічыя брыгады і г.д. Мы ўсе бачылі і чулі, як выкручваўся Вярхоўны Савет СССР, як дэпутаты зьезду ня слухалі беларускіх прамоўцаў, што апавяшчалі пра трагедыю нашай Бацькаўшчыны. А хіба можна забыць цынічныя зьдзекі іхных „вучоных", што публічна пацьвеліваліся над беларускім народам, маўляў, ім, беларусам, пасьля Чарнобыля стала жыць лепш і здаравей, бо радыяцыя карысная для здароўя, ня трэба прымаць радонавыя ванны. Наш дом гарыць, наш народ можа загінуць, а суседзі робяць выгляд, што ня бачаць, хіхікаюць і весяляцца. Дык навошта нам такі саюз?

Цяпер Савецкі Саюз наважваецца прадаваць за валюту нашы чарнобыльскія землі для экспэрымэнтаў і вывучэньня амэрыканскім навуковым арганізацыям. Савецкаму Саюзу патрэбна валюта, чаму не прадаць чужое гора, ды яшчэ й дармавое. Пройдзе час, і яны стануць прадаваць за золата нашы чарнобыльскія трупы для дасьледваньняў амэрыканцам. Які тут „суверэнітэт", якая мараль?

Беларусь патрабуе цяпер ад СССР нейкіх 18 мільярдаў рублёў кампэнсацыі (хоць, калі ўсё падлічыць, лічба сягае да 100 мільярдаў і значна болей). Мы ніяк ня можам атрымаць належнае нам, нават дазімэтры не наважваемся мець без дазволу Масквы. Мы гінем і ня можам ратавацца, бо, бачыце, Масква не дазваляе. Ня выгадна ёй, значыць. Вось чаму не зацьвердзілі нашу праграму выратаваньня ад наступстваў Чарнобыльскай катастрофы. А тым часам кожны год Беларусь аддае Маскве (проста так, як каляніяльную даніну) значную частку свайго нацыянальнага прыбытку, каля 6 мільярдаў рублёў. Тры гады – і вось яны, тыя 18 мільярдаў, а мы ж ужо пяты год пакутуем і плацім ім. За што? За свае пакуты? За няволю?

Савецкі Саюз павінен ня толькі выплаціць нам кампэнсацыю за чарнобыльскае зло, але і вярнуць грошы, адабраныя з нашага нацыянальнага прыбытку, прынамсі, за апошнія 40 гадоў, а гэта ня менш як 200 мільярдаў рублёў. Крэмль павінен нам вярнуць нарабаваныя культурныя каштоўнасьці, прысвоеныя ў час 1-й і 2-й сусьветных войнаў, нашы архівы, Мэтрыку Вялікага Княства Літоўскага, бібліятэкі, беларускія каштоўнасьці са збройнай палаты, калекцыі былых Магілёўскага, Менскага і іншых музеяў, якімі СССР самавольна распараджаўся (перадаваў Польшчы і г.д.). Савецкі Саюз павінен нам выплаціць кампэнсацыю за скалечаную ваеннымі аэрадромамі, палігонамі, гусеніцамі танкаў зямлю, за тэрыторыі і лясы, занятыя пад ракетныя ядзерныя базы, якіх у нас 23 з 44-х па СССР, за землі пад markнымі лякатарамі і радарнымі ўстаноўкамі, што нішчаць здароўе нашых людзей, за плошчы, сапсаваныя тэрыконамі, за высечаныя лясы і загаджаныя рэкі, за ўсю тую шкоду, што прынесьлі нашай тэрыторыі і зямлі саюзныя ведамствы і прадпрыемствы, якія высмакталі нашу нафту, соль, карысныя выкапні, рабочыя і матэрыяльныя рэсурсы, выкарысталі нашу працу і рабочую сілу, а ўзамен пакінулі звалку, сьмецьце, зьнішчаную прыроду, разбураны этнас і хворы соцыюм.

А хто заплаціць за генацыд, за два мільёны забітых, за разбурэньне сельскай гаспадаркі ў час калектывізацыі, за працу і сьмерць сотняў тысячаў беларускіх ссыльных на Поўначы і ў Сібіру? Хто заплаціць за прымусовую сьмерць тысячаў беларускіх хлопцаў у Аўганістане? Гэта ж была не айчынная, а брудная, подлая, несправядлівая вайна, якая зыходзіла з антынароднай палітыкі СССР, а не з неабходнасьці народнай абароны. У сусьветнай практыцы жыцьцё салдатаў у такіх выпадках падлягае страхаваньню, і сям'я, у выпадку яго пагібелі, атрымлівае вялікую грашовую кампэнсацыю (да 100 тысячаў рублёў). Міністэрства абароны СССР будзе за гэта плаціць ці не?




*11. Менск. 1990 г. Адраджэнская моладзь на 25 Сакавіка.*

Пакуль яно плаціць толькі дэмагогіяй аб „интернациональном долге”.

Калі б Беларусь не аддавала СССР кожны год амаль палову нацыянальнага прыбытку, калі б сама валодала сваёй тэрыторыяй, прыроднымі рэсурсамі і вытворчымі фондамі, калі б сама забірала сваю валюту, вяла б сваю міжнародную палітыку і сама распараджалася сваім лёсам, тады ад Чарнобыля мы ўжо даўно і эфэктыўна ратаваліся б і, упэўнены, выратаваліся б. Для гэтага ў нас ёсьць усё, акрамя свабоды.

Нацыянальная дзяржаўная незалежнасьць – гэта становішча ў грунце сваім сацыяльнае, якое аб’ядноўвае ўсё насельніцтва нацыі. Бо самастойнасьць, незалежнасьць народу і гаспадарства – гэта нармальны стан грамадзтва, які гарантуе яму працу для сябе, культурнае разьвіцьцё і гістарычную пэрспэктыву.

ЦЯПЕР НЯ ТРЭБА БЫЦЬ надта дасьведчаным, каб зразумець, што колькі б мы, працавітыя беларусы, ні працавалі, мы ніколі ня будзем багатымі, бо наша эканоміка і гаспадарка каляніяльная. Простаму чалавеку зразумела, што калі мы атрымліваем жалеза з СССР, робім на нашых заводах аўтамабілі і адпраўляем іх назад у СССР, мы прадаём сваю працоўную сілу, і называецца гэта каляніяльнай эксплуатацыяй. Чалавеку зразумела, што калі прыбытак на 1 гектар сельгасугоддзяў у Беларусі ў 2-3 разы вышэйшы, чым у цэлым па СССР, а зарплата адпаведна ніжэйшая, то гэта рабаваньне нашай працы і г.д.

За пяць гадоў перабудовы ўзьнялася вялікая хваля афіцыёзнай дэмагогіі, дакляраваньня выправіць становішча, даць эканамічную „самастойнасьць” рэспублікам і г.д. Падзеі ж гэтых гадоў і палітыка Гарбачова выразна паказалі, што ніякай „самастойнасьці” ў складзе СССР быць ня можа. Камуністы праводзяць чарговае ашуканства народаў, крыху паслабляючы лейцы імпэрыі (у асноўным на словах), каб потым забраць яшчэ мацней на ўзроўні сучаснай дыктатуры ў лайкавых пальчатках.

Чарнобыльская трагедыя зьяднала ў адно ўсе нашыя беды, усе нашыя праблемы – экалягічныя, эканамічныя, палітычныя, культурныя, маральныя – і паставіла пытаньне рубам: альбо мы памрэм, як народ, як нацыя, як культура ў складзе СССР, альбо выратуемся праз незалежнасьць, праз выхад з СССР і аднаўленьне суверэннай Беларускай дзяржавы.

Беларусь была двойчы анэксаваная ў склад Расейскай імпэрыі. Першы раз у канцы XVIII стагоддзя ў выніку трох падзелаў федэратыўнай Рэчы Паспалітай. Пасьля Кастрычніцкага перавароту 1917 года бальшавікі аб’явілі аб скасаваньні ўсіх дамоваў царскай Расеі. Аднак ужо ў сьнежні 1918 года тэрыторыя Беларускай Народнай Рэспублікі (БНР) была акупавана аддзеламі Чырвонай арміі. Законны, выбраны Ўсебеларускім Кангрэсам Урад БНР вымушаны быў эміграваць, бо стотысячнае войска Беларусі, сфармаванае на Румынскім фронце, з-за процідзеяньня немцаў не ўдалося перакінуць на Беларусь. Бальшавікі прывезьлі з сабой марыянеткавы камуністычны беларускі „ўрад”, якога ніхто ня ведаў і ніколі не выбіраў. Пры дапамозе гэтага „ўраду” неўзабаве аб’явілі аб стварэньні БССР – часовай дзяржавы ў процілегласьць Беларускай Народнай Рэспубліцы.

Беларускі народ мае поўнае юрыдычнае і маральнае права аднавіць статус незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі і патрабаваць ад СССР кампэнсацыі за панесеныя страты. Ёсьць іншы шлях, які вымагае рэальнага статусу Беларусі як члена ААН.

ДРУГАЯ МЭТА РУХУ цесна зьвязаная зь першай – стварэньне дэмакратычнага грамадзтва, дэмакратычнай рэспублікі. Гэтай задачы БНФ прысьвяціў асноўную дзейнасьць за паўтары гады і найбольш увагі. Без дэмакратычнага грамадзтва ў нашых варунках немагчымая і незалежнасьць, і адраджэньне нацыі і культуры, бо існуючы рэжым у БССР самы рэакцыйны, антынародны і антыдэмакратычны, а ў намэнклятурнай верхавіне – нават антысацыяльны. Антыдэмакратызм рэжыму абумоўлены поўнай манаполіяй КПСС на ўладу і поўнай бескантрольнасьцю камуністычнай намэнклятуры і кіраўніцтва з боку народа.

Антынароднасьць беларускага партыйнага апарату вынікае, перш за ўсё, зь яго ідэалёгіі нацыянальнага нігілізму, г. зн. непрыняцьця, адмаўленьня нацыянальнай культуры і мовы беларускага народа, нянавісьць да яе свабодных носьбітаў і творцаў. Найбольш акрэсьлена нацыянальны нігілізм сфармаваўся менавіта ў Беларусі. Тут ён мае даўнія карэньні, бярэ пачатак са зьместу і праяў асобай вынарадавенчай палітыкі царызму ў дачыненьні да Беларусі. Царызм імкнуўся сьцерці беларусаў і Беларусь з мапы сьвету як былое Вялікае Княства Літоўскае, як цэнтральную і патэнцыяльную геапалітычную сілу на заходзе Расейскай імпэрыі. Бальшавізм пераняў геапалітычную палітыку рускіх цароў і праводзіў яе з асаблівай жорсткасьцю ў 20-30-х і 40-х гадах. Асноўнымі выканаўцамі генацыду ў Беларусі былі НКВД і памежныя войскі. Наладжвалі і масавыя адстрэлы людзей. Пра гэта ўжо было напісана ў друку.

Арганізацыяй рэпрэсіяў, працэсаў і забойстваў на Беларусі займаўся непасрэдна ЦК ВКП(б) праз мясцовыя партыйныя камітэты. Потым ліквідаваліся кіраўнікі гэтых камітэтаў па ініцыятыве іншых кіраўнікоў і г.д. Злачынства мела шматступенны характар, дзе партапаратчыкі і энкавэдзісты зьяўляліся адначасова злачынцамі і ахвярамі ўласных злачынстваў. У выніку генацыду Беларусь страціла мільёны людзей, лепшых сялян, спэцыялістаў, прафэсуру, пісьменьнікаў і творцаў, вучоных, інтэлегенцыю і нават мясцовы беларускі партапарат, які ў значнай ступені (трапіўшы ў гэтую маскоўскую мясарубку) перадушыў сам сябе.

На месцы выбітых беларускіх спэцыялістаў і апаратных работнікаў прысылаліся „выдвиженцы"– функцыянеры з Расеі, і першае, чым яны пачалі займацца, – гэта зачыняць беларускія школы і змагацца з „нацдэмаўшчынай", якая здавалася ім у кожным беларускім слове. Мясцовы беларускі бюракрат мог зрабіць кар'еру ў такіх варунках, толькі адмовіўшыся ад „нацдэмаўшчыны" і ўсяго, што зьвязана з нацыяй і беларускай культурай. Так усталяваўся ў КПБ сьветапогляд нацыянальнага нігілізму: так узьнікла племя апаратных рэнегатаў нацыі, манкуртаў, што давялі беларускую мову і культуру амаль да скону і прадаўжаюць яе зьнішчаць па сёньняшні дзень.

Беларуская арганізацыя КПСС нясе адказнасьць за генацыд, за вынішчэньне нацыянальнай культуры, мовы, за разбурэньне гістарычнай спадчыны і фальсіфікацыю гісторыі Беларусі, за падтрымку сістэмы каляніяльнай эканомікі, за растаптаныя нацыянальныя традыцыі, веру і мараль, за бязьдзейнасьць пры Чарнобыльскай катастрофе, за стварэньне штучнай сакрэтнасьці аб выніках радыяцыйнага заражэньня, што выклікала сьмерць і страту здароўя.

ПАДЗЕІ ПАКАЗВАЮЦЬ, што ніякіх гуманістычных ці хоць бы элемэнтарных здаровых высноваў са становішча ў Рэспубліцы гэтая арганізацыя і яе кіраўнікі зрабіць ня ў стане. Прапануецца эскаляцыя рэакцыі, упартае ахайваньне дэмакратычных працэсаў, апэляцыя да ветэранаў і пабудова „сапраўднага" сацыялізму. Усё гэта павялічвае самаізаляцыю КПБ, выклікае стыхійную, часам ужо нястрыманую нянавісьць да камуністаў у народзе. Апошні аспэкт ня можа не хваляваць, бо гэта крок да „румынскага варыянту". Наўрад ці усьведамляюць гэта сабе кіраўнікі КПБ, як, зрэшты, не ўсьведамляў і Чаушэску.

Яны ніяк ня могуць зразумець, што эпоха марксізму-ленінізму, эпоха манаполіі КПСС ужо незваротна мінае. Мінае ва ўсім сьвеце. Рухомая практыка гісторыі XX ст. даказала беспадстаўнасьць, злачыннасьць, утапізм і нежыцьцёвасьць марксізму-ленінізму і ўсіх „ізмаў" на яго аснове. Чалавецтва выпроствае плечы і пачынае вылечвацца ад камунізму. І нішто ня спыніць яго выздараўленьня. Камуністычная кансэрвацыя бессэнсоўная. Яна можа прывесьці толькі да чарговых няшчасьцяў людзей.

Ёсьць шлях больш гуманны, якім выходзіць з камунізму Ўсходняя Эўропа. Я б адзначыў тут чатыры этапы выхаду з камунізму і вяртаньне ў цывілізаваны стан: асэнсаваньне злачынстваў, пакаяньне, адмаўленьне ад ідэалёгіі марксізму-ленінізму і чацьвёртае – суд над канкрэтнымі злачынцамі.

Зрэшты, што датычыць марксізму-ленінізму, то адмаўленьне ад яго ёсьць працэс гістарычны і аб'ектыўны. Усталёўвалася гэтая ідэалёгія сілай, крывёй і гвалтам з прычыны якраз сваёй цалкавітай штучнасьці і нежыцьцёвасьці. Антычалавечнасьць яе выявілася пазьней і выходзіла, як і трэба было чакаць, з поўнай ненавуковасьці гэтага суб'ектыўнага вучэньня, заснаванага на ўтапічных сацыяльных канструкцыях і на вынікаючым адсюль эканамічным авантурніцтве. Авантурызм грунтаваўся, перш за ўсё, на адмаўленьні прыватнай уласнасьці і рынкавай таварнай вытворчасьці як караня, на думку Маркса, эксплуатацыі і няроўнасьці людзей. Сацыялізм ён разглядаў якраз як нярыначную вытворчасьць. Прысьвяціў канструяваньню такіх канцэпцыяў усё жыцьцё, хоць з самага пачатку было відаць, што ўсе яны – чарговая ўтопія. Але засьведчыць яе вымушана была сама гістарычная практыка.

Наколькі шкоднымі для грамадзтва могуць стаць сацыяльныя ўтопіі, праілюстравала сама гісторыя бальшавізму і партыйнай звышдзяржавы СССР. Сталін, схіляючыся з прычыны сваёй малаадукаванасьці і невысокага разьвіцьця да ўсялякага спрашчэньня, арганізаваў грамадзтва часткова па Марксу, часткова па Томасу Мору і абараняў сваю „Утопію" ленінскімі мэтадамі зусім не з-за любові да чыстай тэорыі, у якой ён слаба разьбіраўся. Справа ў тым, што ***са зьнішчэньнем прыватнай уласнасьці, рынку таварнай вытворчасьці і з абдзяржаўліваньнем маёмасьці і сродкаў вытворчасьці прыватнай уласнасьцю ў грамадзтве становіцца сама дзяржаўная ўлада.*** Тая самая ўлада, да якой так імкнуліся і якую захапілі бальшавікі. У гэтым сутнасьць. З валоданьня ўласнасьцю-дзяржавай вынікае ўся камуністычная палітыка, іх тэорыя, ідэалёгія, дэмагогія, міжусобная грызьня, генацыд, лягеры і г.д. Бо дзяржава, неабмежаваная ўлада давалі ім ўсё. І яны праявілі сябе як уласнікі хцівыя, жорсткія. Дзеля ўтрыманьня, павелічэньня і ўмацаваньня сваёй уласнасьці яны гатовыя былі ўтапіць у крыві ўсё чалавецтва, скарыстаць любую ідэалягічную ілюзію, утопію, толькі б удасканаліць уладу і захаваць яе непадзельную самаісную каштоўнасьць. Вось чаму

цяпер, калі ўся іхняя паўцывілізацыя зайшла ў тупік і трэба даваць задні ход, яны супраціўляюцца так шалёна. Здавалася б, што яны дзейнічаюць нават супроць лёгікі, і мы схільныя бачыць у такіх паводзінах нешта ірацыянальнае. Але ўсё рацыянальнае ў іх Утопіі.

Цяпер нам кажуць: сістэма перажывае крызіс, былі дэфармацыі сацыялізму. Аднак ніякага крызісу сістэма не перажывае. Крызіс – гэта хвароба самаразьвіцьця, якая вылечваецца. У дадзеным выпадку сістэма і ўсё грамадзтва зайшлі ў тупік. А гэта канец. Шляху далей няма. Наперадзе пагібель, распад паўцывілізацыі. Прыкметы тупіка: ніхто не зацікаўлены ў паляпшэньні працы. (Для чалавека ў сістэме яно бессэнсоўнае.) Ніхто не гаспадар. (Няма канкрэтнай уласнасьці. Таму безгаспадарчасьць і развал.) Адсутнасьць правоў і свабодаў асобы. Адсюль пасіўнасьць, апатыя і, што самае страшнае, – крызіс маралі.

Выхад жа з тупіка – ня ўбок і не наперад да „сапраўднага” ці якога там яшчэ „дэмакратычнага” сацыялізму. Выхад з тупіка толькі адзін – назад, калі аднак грамадзтва яшчэ здольнае рухацца. Назад да рынку і прыватнай уласнасьці, назад да дэмакратыі, назад да рэлігіі і традыцыйнай маралі, назад да гуманнай культуры, назад да суверэнітэту і дзяржаўнай незалежнасьці нацыяў. І толькі адышоўшы і агледзеўшыся навокал, народы змогуць пайсьці наперад, як хто хоча, разам ці паасобку, без падказкі і ўказаньняў розных „старэйшых братоў” і крывавых настаўнікаў чалавецтва. Законы грамадзтва, як і прыроды, нельга гвалціць і ігнараваць. Прырода і гісторыя помсьцяць за гэта.

ВІДАВОЧНА, ШТО КОЖНЫ сумленны чалавек сваёй гуманнай сутнасьцю павінен змагацца з камунізмам і пераадольваць камуністычную ідэалёгію як крайне антычалавечую, негуманную і антыграмадзкую зьяву.

У гэтай сувязі даўно насьпела пара паставіць пытаньне аб дзейнасьці У. І. Леніна і яго акружэньня – Троцкага, Бухарына, Сьвярдлова, Дзяржынскага, Уншліхта, Зіноўева, Калініна і іншых. У адрозьненьне ад Сталіна, Ленін пакінуў массу дакумантаў і сьведчаньняў аб уласнай ініцыятыве і прыналежнасьці да арганізацыі масавых забойстваў, расстрэлаў, зьнішчэньня нявінных людзей, арганізацыі канцэнтрацыйных лягераў, тэрору, нечалавечых жорсткасьцяў і генацыду. Частка гэтых дакумантаў зьмешчана ў яго поўных зборах твораў, частка апублікавана нядаўна, як, напрыклад, фэнаменальны па сваім жудасным злачынным цынізме сакрэтны ліст У. І. Леніна ад 19 сакавіка 1922 года для членаў Палітбюро аб правядзеньні расправы над праваслаўным духавенствам з мэтай запалохваньня Царквы, з прапановай правадыра расстраляць „чем больше .., тем лучше” і „с такой жестокостью, чтобы они (праваслаўнае духавенства – З.П.) не забылі этого в теченіе нескольких десятілетій” *(Собеседник, М., 1990, апрель, №16, с. 7).*

Згодна гэтага пляну і ініцыятывы У.І. Леніна, было расстраляна звыш васьмі тысячаў чалавек, у тым ліку Петраградзкі мітрапаліт Веніямін.

Фігура У. І. Леніна была кананізавана ў бальшавіцкім пантэоне яшчэ за часы Сталіна. Тады ж мэтанакіравана ствараўся і ленінскі культ, што было выгадна яго пераемніку дзеля стварэньня ўласнага культу. Прырода камуністычных культаў як сваеасаблівых сацыяльных сурагатаў рэлігіі (сама марксісцкая ўтопія ўспрымалася па веры – „учение Маркса всесильно, потому что оно верно”. – У. І. Ленін) дастаткова добра разгледжана ў літаратуры. Ня будзем на гэтым спыняцца. Адзначым толькі, што ленінскі культ артадоксы-камуністы па інэрцыі падтрымліваюць і сёньня, апэлюючы да „геніяльнасьці” Леніна, вычляняючы „лепшыя рысы”, уклад у рэвалюцыю (безадносна да маралі і значэньня гэтага „ўкладу” для людзей) і г.д.

Знаёмства з фактамі, сьведчаньнямі і дакумантамі, зьвязанымі з дзейнасьцю Леніна з 1917 па 1922 гг., раскрывае перад намі тыпаж дзеяча, не абцяжаранага ніякімі законамі маралі і права, акрамя права неабмежаванай асабістай улады і палітчынай мэтазгоднасьці. У гісторыі чалавецтва, пачынаючы ад цара Хамурапі, цяжка назваць лідэра, які б так шмат, адкрыта і шматслоўна пісаў і сьведчыў пра свае злачынствы. Сталін не пакінуў ні радка аб прыналежнасьці да генацыду. Ленін спрэс пісьмова абураўся, што мала расстрэльваюць заложнікаў, прастытутак, сялян, буржуяў, сьвятароў і г.д. Узьнікае нават сумненьне ў яго псіхічнай сьвядомасьці: ці разумеў гэты недавучаны юрыст, былы памочнік прысяжнага паверанага, што тварыў найвялікшае зло!

Некаторыя камуністы мяркуюць, што на XXVIII зьезьдзе КПСС самы час разгледзець пытаньне аб дзейнасьці У. І. Леніна і яго акружэньня, што бяз гэтага далей „рухацца” немагчыма і г.д.

Можа, гэта і выратавала б на нейкі час ад краху КПСС, але ёй трэба тады адмовіцца ад бальшавізму і перайсьці на пазыцыі сацыял-дэмакратыі (так бы мовячы, у запасную траншэю для камуністаў). Да гэтага, аднак, яны не гатовы. Ды й ня мае яно ўжо значэньня.

Пазьняцца „лідэры”. Народ, што становіцца на шлях свабоды, хораша сам разьбярэцца ва ўсім і вырашыць па-добраму, па-чалавечаму.

***Зянон Пазьняк***

*Травень 1990 г.*
*Надрукавана: („ Беларусь”,– 1990, №7(619)*



***12. На плошчы.***

# НОВЫЯ БЕЛАРУСКІЯ ГРОШЫ*

**Гэты артыкул быў напісаны для „ЛІМа” і павінен быў зьявіцца на старонках штотыднёвіка яшчэ 31 жніўня (1990 г.). Але напярэдадні ў аўтара ўзьнікла магчымасьць надрукаваць артыкул у «Звяздзе» – газэце, так бы мовіць, афіцыйнай, са значна большай колькасьцю чытачоў. І мы пайшлі насустрач жаданьню аўтара, зьнялі матэрыял з паласы,**

**З таго часу мінуўся, можна сказаць, месяц. Аднак ні на старонках той жа «Звязды», ні на старонках іншых газэт не паявілася на публікацыю аніякіх водгукаў. А між тым, праблема, закранутая ў ёй, мае ня толькі тэарэтычнае, але і практычнае значэньне. Думка аб неабходнасьці нацыянальнай валюты пачынае дыскутавацца і у афіцыйных колах Рэспублікі. Прагучала яна і на нядаўнім пашыраным пасяджэньні Прэзыдыюма Савета Міністраў БССР, на якім абмяркоўвалася праграма пераходу Рэспублікі да рынку. У справаздачы карэспандэнта БЕЛТА адзначаецца: «Мэтазгодна захаваць саюзную адзіную валюту і крэдытную сістэму, але толькі пры ўмове жорсткага кантролю з боку Рэспублікі за эмісійнай, бюджэтнай, крэдытнай, інвэстыцыйнай, знешнеэканамічнай дзейнасьцю цэнтра. У адваротным выпадку Беларусь павінна пакінуць за сабой права на ўласную валюту, мытню».**

**Пакуль што справы складваюцца так, што нашай Рэспубліцы, бадай, давядзецца ўсё ж заняцца стварэньнем уласнай валюты. І тады меркаваньні аўтара артыкула пра новыя беларускія грошы будуць вельмі дарэчы. Таму мы і парашылі вярнуць артыкул на старонкі нашага штотыднёвіка.**

**(Рэдакцыя ЛІМ)**

У аснове суверэнітэту ляжыць некалькі палітычных, юрыдычных і эканамічных чыньнікаў, якія зьяўляюцца абавязковымі ўмовамі ажыцьцяўленьня дзяржаўнай незалежнасьці і забесьпячэньня нармальмага цывілізаванага існаваньня народа. Адным з такіх абавязковых чыньнікаў зьяўляецца наяўнасьць нацыянальнай крэдытна-фінансавай сістэмы і грошай, што дазваляе нацыі накапліваць багацьце, не дапусьціць марнатраўства працы, абараняць свой таварны рынак ад рабауніцтва. Цяпер, у час дэградацыі камандна-бюракратычнага парадку, стала выразна відаць, што, як бы добра і колькі б ні працаваў беларус, наша Рэспубліка і яе насельніцтва не ўзбагацеюць, бо ўся праца ідзе як у дзіравае вядро, бо вынікі яе прысвойваюць іншыя, пакідаючы нам, у лепшым выпадку, мільёны папяровых рублёў, макулатуры, замест тавараў, якія мы стварылі і выкінулі на «усесаюзны» вецер. Беларуская валюта неабходная, каб замацаваць вынікі працы беларускага народа, даць яму магчымасьць зь яе карыстацца і набыткі яе памнажаць.

Сярод мноства праблемаў стварэньня беларускай фінансава-крэдытнай сістэмы паўстае і такое пытаньне: якімі павінны быць беларускія грошы, як яны будуць называцца. Калі азірнуцца назад у фінансана-эканамічную гісторыю старабеларускай дзяржавы – Вялікага Княства Літоўскага, – то спачатку можна разгубіцца, настолькі цікавай, багатай і шматбаковай была хроніка яе грашовых знакаў, наміналаў і валют. Тым ня менш, некаторыя зацікаўленыя людзі, абапіраючыся на гісторыю Беларусі, ужо прапанавалі свае меркаваньні. Ігар Філімонаў, напрыклад, лічыць, што за аснову новых беларускіх грошай трэба ўзяць «дукат». Аднак у карысць гэтай прапановы не прыведзена абсалютна ніякіх абгрунтаваньняў («Беларуская кроніка», 1990, май, №2).

Больш сур’ёзна і прафэсійна падышоў да справы гісторык і археолаг Алег Дзярновіч («Свабода», 1990, травень. №№ 5–6). Ён правільна і цалкам апраўдана вызначае асноўны, найбольш цвёрды, доўгатрывалы і распаўсюджаны на Беларусі ўнівэрсальны намінал – «талер». Але прапаноўвае складаную чатырохступенную і ня вельмі абгрунтаваную сістэму. Адзін талер прыраўноўваецца да 100 пенязяў. Пры гэтым уводзяцца прамежкавыя наміналы – дукат, які роўны дзесяці талерам, і шэлег, які роўны дзесяці пенязям. Гэтая схема, у цэлым лягічная, усё ж грашыць ня толькі сваёй непатрэбнай ускладнёнасьцю, але і спрэчнасьцю ў вызначэньні дробных наміналаў шэлега і пенязя.

Высьвятленьне спрэчных пытаньняў навуковага і дзяржаўнага значэньня патрабуе ня толькі асобных меркаваньняў, але і пэўнай рады. Таму я, ня вельмі спадзеючыся на свае археалагічныя веды ў нумізматыцы, перш чым напісаць гэты артыкул, пастараўся ўсё ж высьветліць пытаньне разам зь вядомымі гісторыкамі, археолагамі, нумізматамі, калекцыянерамі, мастакамі. Па-першае, важна правільна паставіць задачы–якім патрабаваньням павінна адпавядаць назва новых грошай? Павінна яна зыходзіць з гісторыі беларускай дзяржаўнасьці і культуры, ці стаць нэалагізмам, як, напрыклад, у передваенных Латвіі і Летуве? Схіляемся ўсё ж да гістарычнай канцэпцыі грошай

---

* Перад напісаньнем гэтага артыкула аўтар меў некалькі спатканьняў і доўгіх размоваў з Прэм’ер-міністрам В. Кебічам на прадмет увядзеньня беларускага талера. Была дасягнутая прынцыповая дамоўленасьць на пэрспэктыву менавіта пра „талер”, пра гістарычнае абгрунтаваньне ідэі, пра эскізы ідэі і пра нераспаўсюджваньне інфармацы пра дамоўленасьць.

Вынікам размовы стала напісаньне мной гэтага артыкула і надрукаваньне яго ў трох газэтах. Адначасна мной была зробленая строга дыскрэтная замова на паказальныя эскізы беларускіх грошай нашаму фронтаўскаму (на той час) мастаку Леаніду Бартлаву (прадстаўленыя былі наміналы, імёны асобаў, выявы якіх мусілі быць на талерах і г. д.). Праз пэўны час праца была выкананая на добрым мастацкім ўзроўні (каларыстыка і кампазыцыйная рэмінісцэнцыя Бел-Чырвона-Белага Сьцяга, жухла-бежавая танальнасьць фона пад старыя манускрыпты).

Неўзабаве папка з паказальнымі эскізамі, абгрунтаваньнем і гістарычнымі матэрыяламі ляжала ў Прэм’ера на стале. Пры мне ён урачыста паклаў яе ў сэйф і сказаў: „Выдатна, цяпер мы ўзброены”. Праз нейкі час праца сапраўды пачалася. Непасрэдным выканаўцам яе быў прызначаны былы член Апазыцыі БНФ С. Слабчанка (які, дарэчы, шмат стараўся, каб перш чым талер – увесьці часовыя грошы, цяперашнія „зайцы”).

Аднак Кебіч не Краўчук. Пасьля вяртаньня незалежнасьці Беларусі ён пачаў падтрымліваць намэнклятурныя антынезалежніцкія сілы, лёгка трапіў пад моцны ўплыў КГБ (а ў рэальнасьці ФСБ) і пад пастаянны прэссінг Масквы. Кебіч пачаў прапагандаваць адзіную грашовую сістэму з Расеяй, зрабіў гэтую авантуру сваёй палітыкай. Адносіны з Кебічам расстроіліся канчаткова.

Але перад гэтым, пасьля доўгай і цяжкай барацьбы з намэнклятурнай бальшынёй Вярхоўнага Савета, дэпутацкай Апазыцыі БНФ удалося, ўсё ж, давесьці да галасаваньня пытаньне аб увядзеньні беларускіх грошай. Вярхоўны Савет прагаласаваў – і рашэньне аб увядзеньні беларускіх горошай было прынятае, хоць для нас гэта стала адначасна і вялікім трыюмфам, і прыкрай паразай. Кебіч (які ўжо моцна любіў Маскву) крута зьмяніў сваю думку і выступіў за „рубель”. Яго тут жа, зларадна кідаючы позіркі ў наш бок, падтрымаў Шушкевіч. З намэнклятурным бэтонам ўжо гаварыць было цяжка. Бальшыня прагаласавала за „рубель”. Неўзабаве беларускія „рублі” былі выробленыя (за валюту) за мяжой і завезеныя ў Нацыянальны Банк Беларусі (старшынёй яго быў тады С. Багданкевіч). З пачаткам лукашызму нацыянальнае будаўніцтва дзяржавы спынілася. *(З. П.)*




***13. Народны плякат на плошчы.***

(хоць не выключаем і наватвораў), бо гістарычная культура – добры грунт для суверэнітэту.

Наступнае. Назва павінна адлюстроўваць найбольш распаўсюджаны, вядомы і дастаткова цвёрды намінал. Далей. Гэты намінал павінен быць унівэрсальным, мець «біцьцё» (выраб) на тэрыторыі Бларусі, вынікаць з сутнасьці народнага жыцьця (гэта значыць, мець адлюстраваньне ў фальклёры, быць успрыняты народам), выяўляць сувязь з эўрапейскай гісторыяй (гэта значыць, паказваць узровень, ролю нашай старажытнай дзяржавы ў сьвеце). Добра таксама, каб назва гэтага намінала гучала мілагучна і проста.

Адносна талера, як верхняй назвы новых беларускіх грошай, у спэцыялістаў, зь якімі мне давялося раіцца, ня ўзьнікла ніякіх больш-менш сур'ёзных сумненьняў. Назва гэтага намінала як асновы грашовай сістэмы прымаецца бясспрэчна.

Нагадаю, што талер (таляр) – гэта буйная срэбная манета (да 30 г срэбра). Эмісія яе распачалася ў 1518 г. на поўначы Чэшскага каралеўства, дзякуючы багатым радовішчам срэбра ў горадзе Яахімсталь (адсюль назва манеты – спачатку «яахімсталер», потым «талер»). Манета хутка разышлася па ўсёй Эўропе, а ў англа-саксонскіх дзяржавах стала потым нават асновай грашовай сістэмы (долар, даляр).

На Беларусі талеры зьяўляюцца ў 1529 годзе. У 1564 годзе тут ужо пачынаюць выпускаць («біць») свае талеры. (У Польшчы – у 1580 г.). Талер стаў самай надзейнай і распаўсюджанай буйнай срэбнай манетай на Беларусі і найбольш надзейнай і аўтарытэтнай валютай. Праіснаваў у абарачэньні да сярэдзіны XIX ст., ня гледзячы на шматлікія забароны расейскага сената. (Нагадаю чытачам, што царскі ўрад у гэты час забараніў ня толькі беларускія грошы, вуніяцкую рэлігію і беларускую мову, але і саму назву Беларусь).

Значэньне і адносіны да талера добра выяўлены ў фальклёры. Гэты намінал упамінаецца шматкроць ва ўсіх жанрах, ад балады да вясельнай песьні і калыханак. Напрыклад:

*Вяльможная ідзе, яго матка хліпе,*
*Вяльможная пані ТАЛЕРАМІ сыпе...*
*(балада)*
*Ня зьзяй, ня зьзяй, маё поле,*
*усё рыжым золатам,*
*Не званіце, масты, бітымі*
*ТАЛЕРАМІ.*
*(купальская песьня)*
*Дарыце...*
*Дзядзечкі – па чырвончыку,*
*Брацячкі – па ТАЛЯРЧЫКУ...*
*(вясельная песьня)*
*Ня гнівся, татачка, ня гнівся,*
*Кладзі ТАЛЯРЫ на місе...*
*(вясельная песьня)*
*Наш сват багаты,*
*Будзе нас перапіваці*
*Белымі ТАЛЯРАМІ...*
*(вясельная песьня)*
*Ой, татар братка, татар.*
*Аддаў сястрыцу за ТАЛЯР...*
*(вясельная песьня)*
*Далі яму два ТАЛЯРЫ,*
*Адзін новы, другі стары...*
*(прыпеўка)*
*Ой, на печы пры лучыне*
*Дзеўкі грошы палічылі,*
*Налічылі ПОЎТАЛЕРА*
*Ды купілі кавалера...*
*(прыпеўка)*
*Што вязеш, Рамане?*
*Воз дзяўчат, васпане.*
*Па чым цэніш, Рамане?*
*Па ТАЛЕРЫ, васпане.*
*(Калыханка)*

З залатых манет на Беларусі найбольшую вядомасьць і доўгатрываласьць меў «чырвоны залаты» (беларускі тэрмін), альбо як яго часам называлі ў лацінскай транскрыпцыі «дукат» (што значыць – вядучы, галоўны). Гэта была дарагая манета, народу маладаступная і адпаведна ня мела масавага распаўсюджаньня. Яна існавала на Беларусі і выраблялася у 15–19 стст. Стабільнасьць «чырвонага залатога» вызначалася цаной золата. Дукату адпавядалі эўрапейскія флорыны, гульдэны, луідоры і г. д. Ў пачатку XVIII ст., калі пачала разьвівацца манетная сістэма ў Расеі, зь беларускага «чырвонага залатога» пайшоў расейскі «червонец».

Дукат таксама ўспамінаецца ў беларускім фальклёры, але значна радзей, чым талер, шэлег або грош. Калі б не выдатна засьведчаныя якасьці і ўмовы талера, дукат, у прынцыпе, мог бы стаць назвай новых грошай. Але трэба было б тады перакрочыць псіхалягічны (адлюстраваны ў фальклёры, гістарычных дакумантах і літаратуры) бар'ер выключнасьці, вышыні, недаступнасьці гэтай валюты, маючы побач дастаткова дэмакратычны, надзейны, моцны, распаўсюджаны і папулярны талер.




*14. Фронтаўская карыкатура на плошчы на Кебіча і Шушкевіча.*

Калі зь верхняй ступеньню назвы новых беларускіх грошай усё зразумела, то ніжняя ступень патрабуе пэўных удакладненьняў і разваг.

Самай годнай, папулярнай, распаўсюджанай і стабільнай дробнай манетай на Беларусі быў «грош». Існаваў на нашых землях з 14-га да сярэдзіны 19 стагоддзя. У 16–18 стст. выпускаўся беларускімі манетнымі дварамі і цаніўся вышэй за грош польскі.

Грош – гэта эўрапейская назва вялікага дэнарыя, срэбнай манеты масай да 3.86 г.

Адначасна на Беларусі і ў Польшчы існаваў даволі распаўсюджаны мясцовы адпаведнік малога дэнарыя пад назовам «пенязь». Гэта быў самы дробны намінал на нашых землях і ўяўляў білонную (металічны сплаў з дамешкам срэбра) манету масай менш 1 грама. Блізкай да пенязя была потым руская «дзеньга».

Пенязь быў даволі пашыраны, але карыстаўся значна меншым прэстыжам, чым грош. Да таго ж пэрыяд абарачэньня пенязя быў невялікі. У 17 стагоддзі выпуск яго на Беларусі спынены. Наўрад ці варта ўсё ж прапаноўваць пенязь у новую грашовую сістэму. Прайграе ён ва ўсім грошу і солiду, ды і назва ня вельмі мілагучная, асабліва для тых, хто знаёмы з лацінай.

Сімптаматычна, што масавая распаўсюджанасць гэтых дробных наміналаў сярод насельніцтва прывяла да таго, што ўжо ў 18 ст. яны пачынаюць абазначаць адначасна і абагуленае паняцце валютных эквівалентаў. Назвы набылі абстрактнае значэньне. На Беларусі – «грош» як манета і грошы – эквівалент. У Польшчы «пенязь» – пенёндзы (грошы), у Расеі «дзеньга» – деньгі.

Стабільнасьць, доўгатрываласьць і папулярнасьць беларускага гроша, тое значэньне, якое ён меў для нашага народа ў асэнсаваньні абагуленай назвы валютных эквівалентаў, падказвае нам яго месца ў новай грашовай сістэме Беларусі. Беларускі грош можа стаць ніжнім наміналам, 1/100 часткай Беларускага талера.

Паняцце гроша як асобнай манеты яшчэ ня сьцерлася ў народнай памяці, жыве ў пераносным значэньні і г. д. Таму існаваньне аналягічнага назову дробнага наміналу ў палякаў і чэхаў не павінна нас бянтэжыць. Быў «грош Пражскі», быў «грош польскі» і быў грош беларускі (ці, як тады казалі, «літоўскі»). Пэўную нязручнасьць можа мець, аднак, супадзеньне ў множным ліку канкрэтнай назвы наміналу і абстрактнага эквіваленту – грошы.

Вельмі распаўсюджанай срэбнай, білоннай і пазьней меднай манетай на нашых землях у 16–18 стст. быў солід, ці па-народнаму, шэлег (ад лацінскага «солідус», ці нямецкага «шылінг»). Курс яе вагаўся паміж грошам і пенязем. Шэлег нароўні з талерам і грошам пакінуў вялікі адбітак у нашай гісторыі і народнай сьвядомасці. Шэлегамі літаральна «засьмечаны» на Беларусі археалагічныя пласты XVII ст. На руках у насельніцтва было тады сотні мільёнаў шэляговых манет. А ўлічваючы фальшывыя – больш мільярда шэлегаў.

Справа у тым, што солід, даволі трывалая і паўнацэнная манета, быў моцна дэвальваваны і скампрамэтаваны ў сярэдзіне 17 ст., калі сейм Рэчы Паспалітай, каб уратаваць расстроеную фінансавую сістэму, пайшоў на рызыкоўны і авантурны экспэрымент – выпуску велізарнай колькасьці непаўнацэнных шэлегаў, надаўшы ім высокі курс, які ня быў забясьпечаны афіцыйным

наміналам. Вырабам гэтых шэлегаў у Польшчы і на Беларусі са згоды сэната займаўся нехта Ціт Лівій Бараціні, вядомы ў той час вучоны і авантурыст. Шэлегі Бараціні (іх называлі яшчэ «бараціпкамі») ушчэнт расхісталі фінансавыя сістэмы Вялікага Княства і Польшчы, якія яшчэ ў 17 ст. былі самымі стабільнымі і моцнымі грашовымі сістэмамі ў Эўропе. Непаўнацэннасьць шэлега пасля Бараціні паўсюдна падкрэсьлівалася. Падрахункі, напрыклад, падзялялі ў манеце «добрай» і «шэляжнай». Выплаты «шэляжнай» манетай патрабавалі надбаўкі, гэта значыць, што ішлі ніжэй курсу рэальных грошай, бо шэлегі ўжо не каціраваліся, такіх грошай не хацелі браць.

Да шэлега пасля Бараціні ставіліся з пагардаю, ужывалі яго назву ў кплівым, пераносным сэнсе, што асабліва добра адбілася ў фальклёры. «Ён гарэлага ШЭЛЕГА ня варты», – кажуць пра несамавітага чалавека. Ці: «Ты за ШЭЛЕГ цягнешся», «За ШЭЛЕГ душу сваю аддасі» і г. д. (Насовіч, Слоўнік, 1870 г.). Альбо:

*Галыш, сватка, галыш,*
*Па гарэ козы ганяе*
*Ды па ШЭЛЯГУ зьбірае,*
*Нашу маладую выкупляе.*
*(вясельная песьня)*
*За сьвякроўку ШЭЛЕГ узяла.*
*За матульку тысячу дала.*
*(пятровая песьня)*

Пра чалавека, які баіцца фальшу, кажуць, «баіцца, як ліхога ШЭЛЕГУ» і г.д.

Вядомы дасьледчык грошай і нумізматыкі на Беларусі прафэсар В. Рабцэвіч мяркуе, што нельга ня ўлічваць гэты факт кампрамэтацыі шэлега на справе і ў сьвядомасці людзей. Будаваць на ім грашовую сістэму ня варта, бо назва «шэлег» ня створыць прэстыжу і здаровай маральнай асновы новым беларускім грошам. На ніжнюю ступень сістэмы, на яго думку, найлепей прэтандуе ГРОШ.

З гэтым цяжка не пагадзіцца. Можна хіба толькі вярнуцца да афіцыйнага назову – СОЛІД, які ва ўсіх дакумантах ужываецца паважна і не падразумявае «барацінкі».

Было прапанавана таксама некалькі нэалагізмаў манет. Адзін мне здаецца надзвычай цікавым. Гэта – «менка». Чытач, напэўна, ужо здагадаўся пра этымалёгію гэтага слова – Менск, рэчка Менка, ад слова «мена»,.. «мень»,.. «мяняць», ад узьнікненьня нашага горада на гандлёвым «менавым» месцы і г.д. Функцыя ж наміналаў ніжняй ступені ў асноўным разменная (кажуць «разьменная манета»). Чаму б тут ня ўспомніць старажытнае беларускае слова «мена» і вытворнае ад яго «менка». Яно ж ня толькі функцыянальна адэкватнае прызначэньню манет, але і зьвязана з гісторыяй Менска, дзе цяпер адраджаецца на новым узроўні беларуская грашовая сістэма (адсюль і назва – „менка", значыць менская манета). Згадзіцеся таксама, што слова прыгожае, мілагучнае, простае, кароткае, беларускае, старажытнае і, што немалаважна, – сэнсава адпаведнае, ужытае дарэчы.

Цяпер аб структуры грошай. Яна павінна быць гранічна простай і лёгкай для падрахункаў. А гэта забясьпечваюць найлепш дзьве ступені наміналаў, заснаваныя на дзясятковай сістэме. Тое, што мы маем і ў савецкіх грошах. Непатрэбны ніякія прамежкавыя наміналы (чырвонцы, дукаты, «шэлягі» і т. п.), бо яны толькі заблытваюць сьвядомасьць і падрахункі. 20 гадоў таму нават англічане, ужо якія традыцыяналісты, і то адмовіліся ад шылінга як прамежкавай велічыні.

У Беларусі спрадвеку існавала і месцамі існуе па сёньняшні дзень (напрыклад, у падліку снапоў) рахунковая велічыня «капа», роўная ліку 60. Копамі лічылі грошы. Некаторыя прапануюць вярнуць гэты тэрмін.

У Беларусі не ўжывалася дзясятковая грашовая сістэма, ня гледзячы на тое, што дзясятковае лічэбнае паняцьце «рубель» нарадзілася якраз у старажытнай Беларусі яшчэ ў 14 ст., і слова гэтае беларускае. Але потым гэтая сістэма распаўсюджаньня не атрымала і амаль зьнікла. Рубель быў пераняты Масковіяй, але толькі ў 18 ст. пасля рэформаў цара Пятра I („Шалёнага"), ён пачаў шырока разьвівацца. На сёньняшні дзень рублёвая дзясятковая сістэма прынятая, практычна, ва ўсім сьвеце. Няма ніякіх падставаў у ёй сумнявацца. Тэрмін «капа» у дзясятковай сістэме ўжывацца ня можа. Гэта быў бы абсурд, непатрэбная падмена паняцьцяў.

Цяпер падсумуем вынікі сказанага. Выключыўшы заяўленыя наміналы шэлега і пеняза як непадыходзячыя, атрымаем дзве прапановы аднаго варыянту новай грашовай сістэмы: Талер – грош, альбо Талер – менка. Дзе аднаму талеру павінна адпавядаць 100 грошаў, альбо 100 менак.

Прапанова Талер – грош мае моцнае абгрунтаваньне і адпавядае ўсім умовам, але валодае адным невялікім недахопам – супадзеньнем абстрактнага і намінальнага паняцця «грошы», што можа выклікаць пэўныя непаразуменьні.

Прапанова Талер – менка, на мой погляд, недахопаў ня мае. Такое сумяшчэньне гістарычна-традыцыйнай назвы і нэагістарычнага паняцця здаецца мне ўдалым і ў дадзеным выпадку апраўданым.

І нарэшце пра выгляд новых грошай.

Безумоўна, сваё слова павінны сказаць мастакі. Выявы і вадзяныя знакі асігнацый па агульным меркаваньні тых, з кім я меў магчымасьць раіцца, павінны адлюстроўваць, перш за усё, гісторыю і культуру Беларусі, пэрсаналіі яе вялікіх дзеячаў, а таксама гістарычныя нацыянальныя сымвалы.

Наміналы пажадана ўжываць аналягічныя, як і ў савецкіх папяровых грошах. Яны зручныя. Можна хіба толькі ўвесьці асігнацыі ў 250 і 500 талераў. Нават улічваючы, што абмен рублёў на талеры павінен адбывацца ў прапорцыі 2 рублі на 1 талер, каб умацаваць талер.

Манеты, па агульным меркаваньні, лепш вырабляць з білоннага алюмінію і іншых лёгкіх сплаваў. Лёгкія манеты больш зручныя. Тады нескладана будзе выпускаць манеты наміналам ў 1, 2 і 5 талераў, што аблегчыць насельніцтву розныя дробныя разрахункі, а дзяржаве выпуск выгадных юбілейных манет. Сістэму наміналаў таксама лепш захаваць савецкую ад 1 да 50 менак, дадаўшы хіба манету ў 25 менак, і, што істотна, увёўшы 1/2 менкі («пауменкі») асобнай манетай. Палавінны намінал паспрыяе зручнасьці пры разьліках і падрахунках, і, галоўнае, справядлівасьці, бо любую цану можна будзе падзяліць папалам (зрэшты, разумею, што гэтая прапанова дыскусійная і яе яшчэ трэба прааналізаваць).

Працу па падрыхтоўцы беларускіх грошай трэба пачынаць неадкладна, бо іх выраб – няпростая задача. Зацягваць эканамічную і грашовую рэформы на Беларусі ўжо даўно немагчыма, бо мы позьнімся, а час працуе не на нас.*

***Зянон Пазьняк,***
***Народны дэпутат БССР***

*Надрукавана: („Літаратура і Мастацтва", – 1990, 28 верасьня).*

* Гл. таксама арт. „Беларусь у дарозе...

# „АЛЬТЕРНАТИВА ВСЕГДА СУЩЕСТВУЕТ...”

**– Зенон Станиславович, главным героем теперешней сессии является республиканское правительство с его программой перехода к рынку. Как Вы оцениваете концепцию перехода, практические меры по ее осуществлению?**

– Концепции у правительства нет. Основательно и последовательно о ней там никто не думал и не думает. Это коммунисты – люди из системы, основанной на психологии национального нигилизма, уничтожающей белорусский народ, его культуру, язык, экономику, окружающую среду, здоровье, будущее. Это люди старого аппарата и старых административных представлений. Кроме того, кабинет министров избирался по старой административно-колониальной схеме. Депутаты Фракции Народного Фронта отказались участвовать в голосовании при формировании этого правительства, не желая брать на себя ответственность за его заведомое банкротство.

Мы не ошиблись. Правительство бездействовало эти два месяца (после первой сессии). Члены его разъехались по южным курортам в то время, когда Беларусь катится в пропасть, а ее народ – в нищету вследствие опережающих политических и экономических процессов во всех соседних республиках, правительства которых, кстати, интенсивно работают. Не заключены необходимые экономические условия торговли, поставок и сотрудничества с другими странами, даже с Летувой.

Случилось то, что было очевидно сначала. Правительство засвидетельствовало свою беспомощность, зависимость от ЦК КПБ и его антинародной самоубийственной политики.

28 августа депутатская Оппозиция БНФ пришла к выводу о необходимости созыва внеочередной сессии Верховного Совета в начале октября и приступила к разработке альтернативных законопроектов. Наше мнение было поддержано многими другими депутатами. Сессия началась 9-го октября. Но решение о ее созыве было вызвано прежде всего опережающим ходом рассмотрения экономической реформы в СССР и указаниями из Москвы. Срочно на основе экономических концепций Шаталина и Рыжкова-Горбачева делается белорусская, „своя” концепция. Как и следовало ожидать, случилось самое худшее, что должно было случиться. Проект эклектичен.

Как известно, совмещение административно-распределительной и рыночной систем приводит к развитию безудержной спекуляции. Что мы, кстати, и наблюдаем и к чему вот уже пять лет катятся перестроечные стагнаты, дебатируя „пути перехода к рынку”. Но самое печальное то, что компиляторы „своей” концепции исходят не из развития свободного суверенного и независимого белорусского государства, а из колониально инкорпорированной в СССР „республики”.

Такая работа совершенно бесполезная и вредная. СССР на пути закономерного исторического умирания и развала. Этот процесс полезный и оптимистический, ибо дает возможность возродиться человеку и свободным национальным государствам, создать нормальные цивилизованные общества и отношения между ними. Только самоубийцы своего народа могут плыть теперь против этого возрожденческого течения, против распада последней и жесточайшей империи мира. Плодя заведомо обреченные эклектически-колониальные концепции, их авторы вновь принуждают Беларусь терять время, притом на решающей дистанции.

Я ни минуты не сомневаюсь в необходимости отставки недавно утвержденного Совета Министров БССР, но понимаю также бесполезность этого действия до тех пор, пока на правительство будет влиять и, фактически, им руководить ЦК КПБ – организация, виновная во всех бедах нашего белорусского народа и во всей предательской бездарности нашей правительственной политики. Сейчас мало требовать расформирования парткомов и парторганизаций по месту работы. Реально встает вопрос о роспуске КПСС-КПБ как антибелорусской, антигуманной организации.

**– Что Вы можете сказать о законопроектах, вынесенных на рассмотрение депутатов оппозицией БНФ?**

– БССР – единственная республика, которая, якобы готовясь переходить к рынку, не располагает законами и законодательными актами, которые создавали бы основу для рыночной экономической реформы. Дело в том, что в среде коммунистических руководителей республики никто не собирался переходить к рынку и не воспринимал это всерьез. Заботились о свинокомплексах и поставках в Советский Союз. А сейчас, когда все республики-соседи пошли далеко вперед, Беларусь, благодаря этакому „руководству”, очутилась у разбитого корыта. Перспектива обнищания Беларуси теперь вполне реальна. А ведь спасти нас может только рынок (с которым мы опоздали) и государственная независимость.

Депутатская Оппозиция БНФ в Верховном Совете понимает угрозу, которая встала перед Республикой. Мы определили первоочередные законопроекты и приступили к их разработке. Это – законы о гражданстве, о собственности, о земле, о банках, о налогах, о местном самоуправлении, декрет о власти и другие акты. Работа шла трудно, особенно из-за нехватки времени и отсутствия помощи, надлежащей депутатам в системе Верховного Совета.

**– Вы надеетесь, что радикальные предложения оппозиции получат необходимую поддержку депутатов? Каковы прогнозы, имеется ли реальная альтернатива сползанию в пропасть?**

– Правительство и комиссии Верховного Совета сейчас начали готовить свои законопроекты. Естественно, что за свои проекты они и будут голосовать. Что касается наших предложений, то радикализм как термин, применительный к закону, здесь неудачен. Мы исходим прежде всего из объективных закономерностей развития экономики и общества в демократической свободной Беларуси, а не из искусственных мертвых идеологических и политических схем, в которых уничтожали нашу жизнь.

Мои прогнозы на результаты внеочередной сессии неутешительные. Документы будут приняты с разной степенью эклектики. Этого в нашем положении допускать нельзя. Однако теперешнее реакционное большинство в Верховном Совете может допустить.

Что касается альтернативы продолжающейся политике – она есть по всем направлениям. Но главное – определить основное звено, за которым путь к спасению, где необходимо сконцентрировать усилия. Таким звеном является государственная независимость Беларуси. Станем независимым, свободным демократическим государством – будем жить, расти и развиваться. Не достигнем независимости и свободы – потеряем страну и погибнем как народ. Погибать будем долго и мучительно, переживая бескультурье, нищету и унижение, деградируя в сме-

шанное, больное, колониально-эксплуатируемое население, в зону экологических отбросов, вредной промышленности и радиологических экспериментов. А ведь независимое государство – высшее проявление исторической культуры нации, результат исторического развития народа, обеспечивающий ему перспективу и оптимальные условия существования.

Я считаю и говорил об этом неоднократно, что каким бы ни был Советский Союз, покуда он существует, выйти из него одной республике, практически, невозможно. Белорусский Народный Фронт давно предлагает коллективные действия. Наши предложения поддержаны демократическими движениями Латвии, Летувы, Украины, Эстонии.

26 апреля 1990 г. В Минске, по инициативе БНФ, состоялась рабочая встреча на уровне депутатов Верховных Советов и представителей народных фронтов Беларуси, Летувы, Украины, т.е. стран бывшего Великого Княжества Литовского. Рассматривался вопрос о заключении в будущем ***политического Балтийско-Черноморского союза восточноевропейских государств Украины, Беларуси, Летувы, Латвии, Эстонии***. Такое содружество должно будет поменять ситуацию в Европе и гарантировать суверенитет каждой из пяти республик. Во-первых, мы можем иметь свой общий рынок. Пусть несовершенный, но достаточный, чтобы не только противостоять возможной безрассудной экономической блокаде с востока и нажиму с запада, но и самим выставлять условия в ответ. Мы будем иметь возможность избежать шантажа со стороны СССР, его манипуляций с ценами на нефть, на ресурсы и т.п., ибо все торговые поставки через наши территории и пространства ему придется оплачивать.

Мы не сможем сразу войти на равных в европейские рыночные отношения. Но содружество пяти республик даст стартовую возможность каждой из них для последовательного внутреннего развития, шанс не попасть в экономическую зависимость от Западной Европы и от СССР.

Заключение Балтийско-Черноморского Союза государств даст возможность игнорировать поползновения Горбачева и правительства СССР к принудительному заключению нового кабального союзного договора, направленного на продление жизни умирающей империи и обанкротившейся советской власти.

Политический союз пяти восточноевропейских республик обусловлен также исторически и геополитически. 500 лет совместной истории Беларуси, Летувы и Украины в Великом Княжестве, тесные взаимоотношения с инфлянтами, Ригой, эстонцами – это времена золотого века наших народов. Эта полтысяча лет говорит нам гораздо больше, чем 200 лет имперской неволи.

**– Какие в таком случае будут отношения с Россией?**

– На мой взгляд, появление политического содружества пяти восточноевропейских независимых республик будет полезно для демократизации России. Лично я, однако, на 99 процентов сомневаюсь в том, что Россия станет демократической страной. По своей структуре, историческим традициям и ментальным комплексам – это типичная империя восточного образца, наследовавшая суть и методы Золотой Орды. Эта страна не должна оставаться монополистом в жизненно важных областях международных и межгосударственных отношений. Иначе она реализуется как империя, направит свои преимущества не на внутреннее развитие своей нации и государства, а на внешнее, т.е. на агрессию, на укрепление монополии. Последнему состоянию государства соответствует и определенный тоталитарный характер власти. России необходимо создать цивилизованное ограничение, то есть такое состояние, которое, закрывая ей путь к агрессии, вынудит обратиться к внутренней жизни и ресурсам своего общества, заставит развивать нормальные европейские взаимоотношения с другими странами и народами. И с этой точки зрения Балтийско-Черноморское политическое содружество государств могло бы сыграть очень положительную для развития русского общества роль.

**– Совершенно иную модель предлагает в своей недавней работе Александр Исаевич Солженицын.**

– Мне иногда любопытно наблюдать весь этот советский политический театр маразма. Вещают экстрасенсы, колдуны, гадалки, астрологи, писатели, инопланетяне, индийские старцы на санскрите (или от их имени) и все – о России. Планеты предсказывают ее вечность, неделимость и, естественно, погибель тем республикам, которые стремятся к независимости. Надо же, Беларусь приняла Декларацию о суверенитете – хорошо, да не в том созвездии, не к добру и т.д., этакая распутинщина. Реанимируются обветшалые имперские идеи и неумные, еще при жизни забытые „авторитеты". Все это уже было в начале века во время распада старой российской империи, и все это возвращается сейчас как кошмар – во время распада империи коммунистической. Статью Солженицына я ставлю в один ряд с этими явлениями.

И вовсе не потому, что ее появление точно совпадает с требованием чрезвычайных полномочий для М. Горбачева и автомобильной аварией Б. Ельцына (тут уж планеты ни при чем). И не потому, что автор этой статьи обнаружил плохое знание истории России и незнание истории Беларуси. А. Солженицын поднял из научного небытия старый имперский хлам, исторически несостоятельный и оскорбительный для белорусов и украинцев тезис о единой и неделимой России, отказывая белорусам и украинцам в государственной независимости.

Отношение к украинцам и белорусам, высказанное А. Солженицыным, совпадает с позицией русских черносотенцев начала века и официозной царской политикой, против которой боролась тогда вся демократическая Россия. Царизм и черносотенцы разделяли все население империи на две категории – русские и инородцы. Среди „русских" выделялись „истинно-русские" или „великоросы" и просто „русские", куда зачисляли белорусов и „молоросов" (т.е. украинцев). На основании таких взглядов, которые вытекали из имперской ассимиляционной политики России, белорусов и „малоросов" не называли отдельными народами, не считали нациями. Поэтому против них царизм проводил особые действия – запрещались белорусский и украинский языки, национальные школы, театр, униатская религия, разрушалась национальная архитектура и храмы, даже название Беларусь было запрещено к употреблению специальным указом русского сената. По отношению к „братским" народам царизм проводил жесточайшую и подлейшую политику этноцида, культурного подавления и русификации. В то же время „инородцы", поскольку они признавались не русскими, имели свои национальные школы (татары, грузины, армяне, евреи и т. д. имели их тысячи), национальные театры, пользовались своими храмами и религией на своем языке и т.д. Вот ведь в чем заковыка – никто так не обескровил белорусскую и украинскую культуру, никто так не испоганил ее и не разрушил, никто так гнусно и жестоко



*15. 1990 г. 25 Сакавіка. Менск. Адраджэнская моладзь.*

не издевался, как „братский" русский чиновник и „братский" русский царизм.

Кстати, объясню господину Солженицыну, почему проводилась такая политика. Царизм пуще смерти боялся восстановления Великого Княжества Литовского, в основании которого, как известно всем, кто знает историю, был белорусский народ, белорусская культура и белорусский язык. Великое Княжество, заключившее в XVI веке союз с Польшей, было мощнейшим государством на востоке Европы и, пока оно существовало, российская агрессия имела пределы. Разрушение Великого Княжества Литовского стало историческим смыслом русской политики на несколько столетий. Она осуществилась в конце XVIII века, когда три империи разорвали на части народы ВКЛ. Вот тогда в составе России и настала для белорусов черная ночь.

И теперь писатель А. Солженицын мечтает о новой России с инкорпорацией белорусов и украинцев, без взбунтовавшихся на окраинах „инородцев". Как будто не ясно, какой вариант империи получится из этой давно похороненой идеи, где нам, белорусам, без поддержки „инородцев" уготовлена полная народная, национальная, духовная да и физическая смерть.

Так же, как монархические историки и черносотенцы, писатель считает украинцев, белорусов и русских (московцев) русскими. На этом, собственно, и зиждется концепция. Как плохо все-таки – не знать истории и всего того, что следует знать, пускаясь в рассуждения о будущем трех весьма разных народов, близких по языку, но принадлежащих к разным расам, разным культурам, разным системам ценностей, разным историческим судьбам.

Досадно также, что писатель не воздерживается от оскорбительных выражений, особенно в адрес украинцев („суетно-социалистическая Рада", „карпатороссы", „при австрийской подтравке" был „выращен искаженный украинский ненародный язык", „малые народы" и вся „дробность" и т.д.).

„Крымским татарам, разумеется, – пишет автор, – надо открыть полный возврат в Крым. Но при плотности населения XXI века Крым вместителен для 8-10 миллионов населения – и стотысячный татарский народ не может себе требовать владения им". Логика, скажем, прямо примечательная: выходит, если в XXI веке на территории крымских татар может вместиться 8-10 миллионов человек, то нечего татарам – жертвам жесточайшего и беспримерного коммунистического геноцида – требовать возвращения своей отнятой, украденной родины.

Если бы это написал партийный функционер. Но, к сожалению, так пишет популярный писатель.

Полно по тексту таких странных, откровенно реакционных и поверхностных суждений. Некоторые удивляются, что это написал А. Солженицын, о котором сложилось мнение как о последовательном демократе, борце с коммунистической тиранией и тоталитаризмом. К сожалению, те, кто прошли через ГУЛАГ, по-разному и кождый по-своему осознали глубину смертельной опасности для человечества империалистического коммунизма. Одни перед смертью в ужасе кричали „да здравствует Сталин", другие – проклятья, третьи, как А. Солженицын, уцелев, раскрыли панораму, анатомию преступной идеологии и власти, ее деяний, но, видно, так и не поняли сути этого вселенского зла, его традиций, опору на социальные структуры и исторические предрассудки. Достойно иронии то, что А. Солженицын, выступая против коммунистической империи зла, сам оказался пленником российского имперского сознания. Поэтому позиция его в этой статье до неприличия фальшива и неверна.

Впрочем, не только у него. В разговоре с российскими радикалами, интеллектуалами, либералами, демократами и т.п.

можно всегда наслушаться весьма умных и крайне демократических суждений. Тогда я всегда стараюсь узнать их мнение о будущем демократическом и геополитическом устройстве России, Беларуси, Советского Союза и всего здесь сущего. И вот тут начинаются странные вещи. Как в статье А. Солженицына, а то и похуже. Меня всегда настораживало это отчетливое преобладание имперского сознания над национальным в головах русской демократической интеллигенции. Признание безоговорочного (а не как у А. Солженицына) права на национальное самоопределение есть первая заповедь демократизма. Но демократов среди русских „демократов" в России я встречал редко, а среди писателей не вижу ни одного.

Мне, как человеку другой культуры, многое чуждо, неприемлимо и неприятно в творчестве русских писателей и поэтов, обожаемых в России, начиная от Державина и до сегодняшних ниспровергателей. Это прежде всего – нравственная раздвоенность личности писателей и комплекс какого-то чванливого азиатского шовинизма и неуважения к другим народам. Вся русская литература пропитана этой болезнью. Однако я принимаю эту литературу такой, какой она есть, как объективную реальность, со спокойствием и уважением, наблюдая, не вмешиваясь и не осуждая. Но только до тех пор, пока, во-первых, ее нам не начинают навязывать и, во-вторых, пока эти писатели не начинают заниматься политикой. Ибо, как правило, получается что-то нелепое. Романтическая беллетристика с приблизительными представлениями о явлениях и политика, за которой судьбы людей и народов, – суть занятия несовместимые и не надо их путать.

**– Некоторые наблюдатели отмечают спад социальной активности людей, да и митинги БНФ становятся малолюдные. Как руководство БНФ думает расширить свое политическое влияние на массы?**

– Мы не собирались и никогда не думали „влиять на массы". Это коммунистическое понимание и тоталитарная терминология. Белорусский Народный Фронт – это не партия, а движение, основанное на самоорганизации людей, на объединении усилий разных демократических организаций. БНФ сегодня – это политическая оппозиция КПСС. То есть мы идем вместе с нашим народом, все громче поднимающим свой голос против коммунистической диктатуры.



(Фота А. Каляды).

*16. 1990 г. 25 Сакавіка. Ля помніка Купалу.*

Угнетение и уничтожение нашей культуры и языка коммунистами значительно разрушило национальное сознание белорусского народа. Поэтому нет в нашем обществе развитого национального консолидирующего основания. Следовательно, ни одно явление или движение в Республике пока не может иметь массового характера. Нужно время. Это время культурного возрождения белорусской нации. Будущее БНФ еще впереди.

**– Судя по недавним публикациям, выступлениям, многих в программе БНФ настораживают ярко выраженные национальные интересы в ущерб общедемократическим правам личности...**

– Особенность БНФ как раз в том, что в основе его движения поставлен свободный человек и его права. Через свободного человека к свободе и возрождению Беларуси – вот девиз. Второе, существенное для БНФ – это совмещение демократического движения и национального возрождения. Через демократическое движение – к национальной интеграции. Третье – совмещение демократического, возрожденческого и антикоммунистического движения. Важнейший принцип, отраженный в уставе БНФ, – не отвечать насилием на насилие властей. Все эти положения осуществляются на практике. Что касается формулировки вашего вопроса, то она неверна, основана, па-видимому, на дезинформации.

**– В Республике заявлено о создании нескольких партий, образована „Демплатформа". В какой форме реально сотрудничество БНФ с ними?**

– К сожалению, пока это партийная микробутафория и, видно, без особых перспектив. Каждый умный человек, думающий о демократической независимой свободной Беларуси, должен понимать, что в сложившейся ситуации нужно идти под крышей БНФ. В том числе и микропартиям.

Что касается Демократической платформы Беларуси, то БНФ поддерживает их в демократическом содержании. Жаль только, что они разошлись с КПСС по непринципиальным вопросам. Главные демократические требования сейчас в Беларуси – это независимость, государственный суверенитет республики и возрождение нации. Если этих положений нет, как нет их, фактически, в Демплатформе, ни о какой демократии говорить не приходится. Тогда это не политика, а игра, не имеющая перспективы и не стирающая грани между коммунистами с партбилетами и коммунистами без партбилетов.

***(Интервью вел Александр Лукашук)***

## ОТ РЕДАКЦИИ

**Мы понимаем: мысли З. Позняка вызовут у читателей разные мнения. Но нельзя лишать его права на их высказывание, как нельзя лишать права голоса всех тех, кто желает вступить с ним в полемику. Наоборот, хотелось бы узнать мнение по многим затронутым вопросам нашего правительства, ЦК КПБ, других оппонентов.**

**Словом, дискуссионная трибуна „Народнай газеты" доступна для всех, кто посчитает нужным вступить в полемику.**

*Надрукавана: („Народная газета",– 1990, 23-30 кастрычніка)* *

* Інтэрв'ю давалася для рускамоўнай газэты „Знамя юности"

**ПАВАЖАНАЯ рэдакцыя „Народнай Газэты”! Улічваючы тое, што рэдакцыя „Літаратуры і Мастацтва” без майго ведама сказіла зьмест майго артыкула „Пра У. І. Леніна і камуністаў”, зрабіла купюры, скарачэньні, замену тэрмінаў і назвы, прашу надрукаваць яго на старонках Вашай газэты так, як ён напісаны аўтарам.**

**З. ПАЗЬНЯК, народны дэпутат БССР**

**РЭДАКЦЫЯ не адмаўляе народнаму дэпутату БССР З. Пазьняку ў публікацыі артыкула на старонках „Народнай Газэты” ў тым варыянце, які ён зрабіў. Зыходзім пры гэтым і з наступнага: фігура З. Пазьняка настолькі неардынарная, што каб правільна яе ацаніць, трэба ведаць, як кажуць, з першых вуснаў, кожную яго думку.**

**Калі прапанаваны артыкул выкліча водгукі чытачоў, яны таксама знойдуць месца на старонках газэты.**

# ПРА У. І. ЛЕНІНА І КАМУНІСТАЎ

*(Вытрымкі з артыкула)**

... 7-га лістапада** 1990 года таталітарная сістэма на Беларусі атрымала магутны ўдар, значэньне якога ўвойдзе ў гісторыю вызваленьня грамадства ад камуністычнай дыктатуры. Упершыню за 73-ы гады непадзельнага панаваньня партыйная намэнклятура не змагла арганізаваць „сьвяточную дэманстрацыю працоўных” у сталіцы Рэспублікі. Страх перад ашуканым і абрабаваным народам устрымаў іх ад гэтага мерапрыемства. Сапраўды, якія здравіцы ў „гонар” КПСС стане крычаць працоўны без шкарпэтак, без чаравікаў, купіўшы па талонах кілю макаронаў у месяц на сям'ю? Не адважыліся арганізаваць і „народны мітынг”. Абмежаваліся „мітынгам намэнклятуры”, сьціплым і нешматлікім, які прайшоў, нібы хаўтуры, падчас якіх ветэраны партыі адбівалі паклоны помніку У. І. Леніну (вось дзе ўжо сапраўды ідалапаклонства). А ў самым цэнтры плошчы, якраз насупраць трыбуны, стаяў палатачны гарадок галадаючых, што патрабавалі зямлю. Над палаткамі разьвіваліся нацыянальныя *Бел-Чырвона-Белыя сьцягі,* не прызнаныя КПБ, і лёзунгі – „Прэч чырвоную чуму камунізму”, – на якія ненавісна паглядалі перапалоханыя прамоўцы, гаворачы пра перамогу „ідей октября”.

Упершыню за 73-ы гады праз увесь Менск па галоўным праспэкце пракрочыла шматтысячная (больш 30–ці тысячаў) народная антыкамуністычная дэманстрацыя, арганізаваная Беларускім Народным Фронтам, і адбыўся антыкамуністычны мітынг, падчас якога да манумэнта У. І. Леніна былі кінуты „дары” яго партыйна-дзяржаўнай сістэмы – атрыбутыка (пудзілы) ГУЛАГу, НКВД, голаду, рэпрэсіяў, „сацыялістычнага выбару”. Гэтае тэатралізаванае дзеяньне – ў традыцыі культуры нашага народу. З камунізмам, які б крывавы ён ня быў, разьвітаемся таксама і са сьмехам, і з гумарам, і алегорыяй. Сымвалічны акт непрыняцьця, адкіданьня злачынстваў, зробленых над грамадзтвам, вяртаньне іх ідэолягу таталітарнай дыктатуры – адбыўся. Ня гледзячы на тое, што кіраўніцтва і функцыянеры ОМОН груба перашкаджалі патрабаваньням народных дэпутатаў БССР прапусьціць да помніка дэлегацыю з дзесяці чалавек для вяртаньня „дароў”. Быў парушаны закон і парадак ворганамі правапарадку. Аб правапарушэньні народныя дэпутаты падалі заяву ў пракуратуру.

Рэакцыя КПБ на гэтыя падзеі была блізкай да істэрыкі. Антыдэпутацкая кампанія, якую праводзіць партнамэнклятура, узмацнілася яшчэ больш. Зьявілася непрадуманая, нястрыманая, месцамі паклёпніцкая палітычная заява бюро ЦК КПБ; пачалася шалёная траўля і дыскрэдытацыя БНФ. Падключылі парткакмы, пракуратуру, пэнсіянераў партыі.

Зьмест допісаў і заяваў розных „ветэранскіх” арганізацыяў сьведчыць, што гэтыя людзі захлынуліся ў нянавісьці, страцілі кантроль над сваімі словамі, над элемэнтарнай лёгікай і сэнсам. І такімі 30-мі гадамі патыхнула ад гэтых лістоў. Фэнамэнальная псіхалёгія. Сталіністы – людзі асобага складу: толькі запахла ганеньнем, толькі пачулі кліч „кусі!” – тут як тут, цэлай чарадой. Устаюць амаль што з труны, пішуць дрыжачым




*17. Антыкамуністычная дэманстрацыя БНФ 7 лістапада 1990 г. у Менску.*




(Фота У. Кавальчука).

*18. Антыкамуністычны мітынг БНФ 7 лістапада 1990 г. у Менску.*

* Часткі тэксту гэтага артыкула скарыстаныя потым у артыкулах „Д'яблы”, „Пакараньне” і інш. *(З. П.)*

** Дзень кастрычніцкага бальшавіцкага перавароту ў 1917 г. у Расеі, галоўнае камуністычнае сьвята ў СССР. *(Рэд.)*

старэчым почыркам „сьмерць БНФ”. Нячшасныя людзі, скалечаная сьвядомасьць. (...)

Раскол грамадзтва, абвастрэньне дзеяньняў партыйна-бюракратычнай рэакцыі ня можа не засмучаць. Пачынаючы з 30 кастрычніка 1988 года, Беларускаму Народнаму Фронту, знаходзячыся, фактычна, на паўлегальным становішчы, удаецца стрымліваць агрэсіўнасьць КПБ-КПСС, шляхам, перш за ўсё, гуманістычнай кансалідуючай палітыкі. БНФ на сёньняшні дзень – гэта адзіны Фронт з усіх аналягічных рухаў у СССР, які прынцыпова дапускае ўдзел камуністаў у сваіх арганізацыях, прытым нават партыйных функцыянераў. Толькі функцыянеры ня могуць мець ніякага кіраўнічага становішча ў БНФ. Шэраговыя ж камуністы (былыя камуністы) абмежаваньняў ня маюць. (...)



19. *Антыкамуністычны мітынг БНФ 7.XI.1990 г. у Менску.*

(Фота У. Кавальчука).



20. *Антыкамуністычны мітынг БНФ 7 лістапада 1990 г. у Менску.*

(Фота У. Кавальчука).

Пастаўлена пытаньне пра роспуск КПБ-КПСС і праводзіцца адпаведная палітыка Фронту. Роспуск павінен пачынацца шляхам вываду парткамаў і партарганізацыяў з прадпрыемстваў, шляхам дэпартызацыі дзяржаўна-праваых ворганаў, шляхам нацыяналізацыі нарабаванай у народа партыйнай маёмасьці, шляхам агітацыі і зваротаў да камуністаў пакідаць шэрагі КПСС. Вось гуманістычны спосаб пазбаўленьня ад таталітарызму, калі накінуты нам камунізм зьнікне, як туман, а людзі, нацыянальнае адзінства, народ – застануцца. (...)

Такая палітыка дала станоўчыя вынікі. У БНФ цяпер шмат былых камуністаў, якія адмовіліся ад КПСС і плённа працуюць на карысьць грамадзтва, нацыі, дэмакратыі, беларускага законатворства і культуры.*

Усё, пра што я тут пішу, добра вядома партыйнай намэнклятуры. Нічога канструктыўнага супраць нашай пазыцыі яны ня могуць прапанаваць. Таму ўзяліся за традыцыйную сваю зброю – дэзінфармацыю насельніцтва, хлусьню, паклёп, выстаўленьне ўдзельнікаў і лідараў БНФ у якасьці новых ворагаў народа, нацкоўваньне на іх пэнсіянераў, ветэранаў партыі, ашуканства, даведзенае да ажыятажу. Аказваецца, бальшавікі – гэта не бальшавікі, а БНФ. Гэта БНФ, маўляў, імкнецца да захопу ўлады (у камуністаў, вядома), да таталітарызму і дыктатуры, да крыві і нават да „людаедзтва”. (...)

* За часы СССР кампартыя ў Беларусі налічвала 600 000 членаў (6 % насельніцтва). Гэта была кіруючая, грамадзкая і дзелавая праслойка нацыі. Кіруючыя пасады, пачынаючы ад брыгадзіра ў калгасе, загадчыка сектара ці аддзелу ва ўстанове, брыгадзіра і майстра на прадпрыемстве маглі займаць толькі камуністы. Кар’ера без партбілету была немагчымая. Задача БНФ была вырваць з КПБ-КПСС гэтых людзей на свой бок. У часы змаганьня разрыў з КПСС і пераход на бок БНФ заўсёды быў учынкам для „адказьнікаў”, якія часта падвяргаліся ганеньням за ўдзел у БНФ. Разрыў з антыбеларускай КПБ-КПСС і пераход ў Народны Фронт адбываўся амаль выключна па праблеме нацыянальнай палітыкі, дачыненьнях да нацыянальнага Адраджэньня і беларускай культуры. *(З. П.)*

Не магу надзівіцца, як гэта камуністам 73 гады ўдаецца абдурваць народ. І абдурваюць жа, як і раней. У 1986 годзе здарылася найвялікшая Чарнобыльская катастрофа – трагедыя нацыі, а кіраўніцтва Рэспублікі адцуралася ад народа, пакінула яго ў бядзе, засакрэціла яго сьмерць, садзейнічала ў антычалавечым экспэрыменце.

У канцы 1988 года арганізаваўся Беларускі Народны Фронт і ўжо ў 1989 праламаў злачынна-сакрэтную сьцяну чарнобыльскага маўчаньня. Памятаеце „Чарнобыльскі Шлях”, „Гадзіну смутку і маўчаньня”, „Чарнобыльскую асамблею народаў”, экалягічныя мітынгі, паніхіды, сымпозіумы, артыкулы, заявы замежным карэспандэнтам, інтэрв’ю, сумесныя дзеяньні з Акадэміяй Навук БССР, публікацыі, зборы подпісаў, патрабаваньні і г.д.? Што рабіла ў адказ камуністычнае кіраўніцтва Рэспублікі? За Чарнобыльскі Шлях цягнула ў несправядлівы суд лідараў БНФ, перашкаджала дзейнасьці Камітэту БНФ „Дзеці Чарнобыля”, які арганізаваў замежную дапамогу, пасрыяў тысячам чарнобыльскіх дзяцей і тысячам чарнобыльскіх сем’яў. Можа, каб не БНФ, маўчалі б дагэтуль пра радыяцыйны генацыд і беларусы ня мелі б пэрспэктывы вылезьці з чарнобыльскай гразі.

Канешне, партыйная намэнклятура памятае пра гэта па-свойму. Канешне, ёй не падабаецца адкрыцьцё Курапатаў, абнародваньне зьвестак пра яе махінацыі, сьведчаньняў пра яе інтэлектуальную бясплоднасьць і бяздарнасьць у палітыцы. Таму яна паклёпнічае на Народны Фронт, імкнецца давесьці, што непатрэбная гэтая справа нацыі, што ня дзеля людзей працуе Народны Фронт, а каб захапіць уладу; што Народны Фронт – гэта не палітычна сьвядомая дэмакратычная частка народу, а кучка экстрэмістаў. (...) І слухаюць жа, і чытаюць, і пішуць агрэсіўныя заявы абураныя партыйныя ветэраны. Прыкра глядзець на старасьць, што не набыла мудрасьці. (...)

Захапіўшы ўладу, ленінскія бальшавікі адабралі ў сялянаў зямлю, ператварылі іх у калгасных нявольнікаў, мільёны расстралялі, згнаілі ў лягерах і турмах, вымарылі голадам. Цяпер зьявілася магчымасьць у шматпакутнай Беларусі паквітацца і адрачыся ад гэтага ленінска-сталінскага злачынства, вярнуць сялянам права ўласнасьці на зямлю. Куды там. Хіба могуць гэта зрабіць нашчадкі тых, хто адбіраў, спадкаемцы рэвалюцыйных ідэй, насьледнікі ўсяленскага гістарычнага зла. Нявольнікаў можна ашуківаць вечна і бясконца, бо несвабодныя вераць ашуканству. Толькі ня могуць быць людзі вечна несвабоднымі. Качаецца час вялікай хлусьні, час апошнага цёмнага культу, час камунізму і сацыяльнага ідалапаклонства.

***Зянон ПАЗЬНЯК***

*Надрукавана: („ Народная Газэта”,– 1990, сьнежань)*

# 1991

## ПРА ІМПЭРЫЮ І ЎЛАСНАСЬЦЬ АЛЬБО ЎЛАДА БЮРАКРАТЫІ

У працэсе распаду таталітарных імпэрыяў назіраюцца заканамернасьці. Прыклады гісторыі і вывучэньне гэтых заканамернасьцяў дае магчымасьць прагназаваць падзеі. Цяпер і камуністы, і дэмакраты пачалі палохаць адзін аднаго вайсковым пераваротам і ваеннай дыктатурай. Гэтае палоханьне вельмі выгаднае крамлёўскім партыйным функцыянерам і асабліва М. Гарбачову для ўмацаваньня сваёй пазыцыі. Зразумела, што ніякага ваеннага перавароту і ніякай ваеннай дыктатуры ў СССР не прадугледжваецца. Камуністы трымаюць уладу ў сваіх руках і не зьбіраюцца ад яе адцурацца, перадаваць ваенным і г. д. Ці, можа, хто думае, што з уладай хоча разьвітацца Гарбачоў, Палазкоў ці Малафееў? Партыя трымаецца за ўладу.

У СССР, я лічу, адбываецца адчайная спроба захаваць імпэрскую дзяржаўную сістэму праз умацаваньне і абсалютызацыю прэзыдэнцкай улады, праз пераход да аўтарытарнага кіраваньня М. Гарбачова.

«Серп и молот», як казаў мне адзін стары селянін, заўсёды заканчваецца «престолом» (прачытай наадварот – зразумееш). Аднак заканамернасьць не ў гульні слоўных сымвалаў сістэмы, а ў высьпяваньні працэсаў. Рэстаўрацыя камандавых прынцыпаў, надзвычайнае праўленьне, дыктатура і г. д.– неабходны этап распаду таталітарызму, апошні яго пэрыяд, выяўленьне агоніі, пасьля якой настае крах. Рэстаўрацыя не наканаваньне, але так складваецца становішча, што СССР павінен прайсьці і гэты шлях, як прайшла яго нядаўна Польшча. Толькі, магчыма, у СССР ён адзначыцца больш балесна. Менш пацерпяць тыя рэспублікі, якія не падпішуць Саюзны дагавор. Аднак гарантаваць пазбаўленьне народаў ад бяды і чарговай бальшавіцкай авантуры можна будзе толькі тады, калі ня толькі рэспублікі, якія засьведчылі ўжо сваю адмоўную пазыцыю, але і Ўкраіна, і Беларусь не падпішуць гарбачоўскі праект Саюзнага дагавора і выступяць за незалежнасьць сваіх краін. Я не кажу ўжо пра Расею. Тады ўзьнікне рэальная магчымасьць раўнапраўных эканамічных узаемадачыненьняў і каардынацыі дзеяньняў паміж суверэннымі дзяржавамі.

Каб растлумачыць паводзіны саюзнага кіраўніцтва і рэспублік і зразумець, чаму нельга падпісваць Саюзны дагавор, трэба мець выразнае веданьне і адказ на два пытаньні: што такое Савецкі Саюз і што азначае для яго прыватная ўласнасьць. Цяпер, асабліва пасьля ўзьнікненьня ідэі расейскага суверэнітэту, стала выразна відаць, што СССР гэта таталітарна-бюракратычная унітарная імпэрыя з ценевай (партыйнай) структурай улады і нацыянальна-адміністрацыйным падзелам.

Савецкі Саюз уяўляе, перш за ўсё таталітарную сістэму строга субардынаванай улады партыйных, заканадаўчых, выканаўчых, інфармацыйных, судовых, праваахоўных, ваенных органаў, што абапіраецца на гаспадарча-прамысловы комплекс ведамстваў і прадпрыемстваў. Пры тым Савецкі Саюз (гэтая сістэма ўлады) ня мае сваёй нацыянальнай тэрыторыі, хоць і распараджаецца плошчамі рэспублік. Яго прасторавая апора экстэрытарыяльная. Гэта тэрыторыі, занятыя пад урадавыя, кіраўнічыя ворганы і ведамствы, пад саюзныя прадпрыемствы, пад ваенныя гарнізоны, базы і палігоны, пад саюзныя дарогі і дзяржаўныя межы імпэрыі. Гэта тыя апорныя кропкі, лініі і плошчы, на якія, нібы шчупальцамі, абапіраецца пірамідальны спрут Сістэмы з цэнтрам у Крамлі.

Пасьля таго, як рэспублікі абʼявілі пра свой дзяржаўны суверэнітэт, савецкі саюзны спрут, раней скрыты і закамуфляваны, стаў відавочным усім (асабліва, калі суверэннай назвала сябе Расея). Цяпер убачылі, што саюзная Сістэма павісла ў паветры і аднолькава смокча ўсе рэспублікі, усе народы – і Беларусь, і Украіну, і Казахстан, і Грузію, і Эстонію, і ўсіх астатніх. Стала зразумела, што рэспублікам не патрэбна больш гэтая сістэма зь яе Вярхоўным Саветам, зьездам, ўрадам, КПСС і «прэзыдэнтам». Яна замінае ім, паразітуе на іх працы і жыцьцядзейнасьці. І тут спрут, перш чым выпусьціць чарнільную вадкасьць, пачырванеў, напружыўся і пачаў варушыць шчупальцамі. Як кажуць, усё па законах прыроды.

Рэспублікам цяпер вельмі важна, абмінаючы Крэмль, падтрымаць адна адну, заключыць міждзяржаўныя палітычныя і эканамічныя пагадненьні, абʼяднаць свае намаганьні супраць Спрута. Аднак у цэлым сітуацыя больш складаная і разьвіваецца далека ня проста. Супроцьстаяньне Ельцына і Гарбачова, Расеі і Саюза, манеўры Расеі з краінамі Балтыі, з Украінай і Беларусяй, сьведчаньні за існаваньне Саюза і адначасна супраць саюзнага дагавора, канфрантацыя з Гарбачовым і адначасна імкненьне дамовіцца за плячыма рэспублік і іншае, – усё кажа аб складанасьці дачыненьняў, якія б я ацаніў як працэс трансфармацыі таталітарнай партыйнай імпэрыі СССР (партакратычная дыктатура – экстэрытарыяльнасьць) у імпэрыю клясічную (метраполія – калёніі), працэс, які адзін рускі шавіністычна настроены пісьменьнік назваў «обустройством России».

Пройдзе час, і калі толькі гарбачоўскае супроцьстаяньне скончыцца ў карысьць Б. Ельцына, палітыка Расеі рэзка пераменіцца – у гэтым можна не сумнявацца. Зарукай таму імпэрская псіхалёгія, якая зжываецца ў грамадзтве доўга, праз пакаленьні дэмакратычнага разьвіцьця.

Структура ўлады ў Сістэме аналягічная пабудове партыйнай імпэрыі. Яна, так бы мовячы, таксама з двайным дном – эксканстытуцыйная, экслегітымная – і арганізавана па прынцыпу масонскай ложы (адкуль, уласна, і вырас камунізм).

Карпаратыўную ўладу над грамадзтвам партбюракратыя ажыцьцяўляе праз двухступенную сістэму партыйнай улады, дзе асноўную функцыю выконвае вышэйшая, ценявая, партыйна-мафіёзная ступень (ЦК, абкамы, гаркамы, райкамы і г.д.). Выканаўчую функцыю ажыцьцяўляе ніжняя «службовая» легальная ступень улады (дзяржаўныя ворганы, саветы, пракуратура, суды і г. д.).

«Службовая ўлада» вядзе дакумэнтацыю, пакідае сьведчаньні сваёй дзейнасьці. Ценявая ступень улады кіруе, дае указаньні, распараджаецца кадрамі, але не пакідае за сабой ніякіх канкрэтных дакумантаў, што дае магчымасьць пры любых паваротах ці правалах справы застацца ў цяні, знайсьці казла адпушчэньня ў «службовай ступені», а пры посьпеху – усё

прыўлашчыць сабе. Ужо ў самой структуры бюракратычнай сістэмы закладзены механізм хлусьні, ашуканства людзей. Такі сьвет гэтай двухступеннай ложы партыйнай алігархіі, якая можа паразітаваць толькі пры адной умове – адсутнасьці прыватнай уласнасьці і права асобы на прыватную ўласнасьць.

Зьнішчэньне прыватнай уласнасьці ёсць аснова ідэалёгіі марксізму, у гэтым яго найвялікшая шкода для грамадства. Ідэя злачынная, бо пазбаўляе чалавека свабоды. Інстытут уласнасьці створаны ў выніку гістарычнага разьвіцьця чалавечай цывілізацыі. Гэта сацыяльная прастора чалавека, што стымулюе яго працу і творчасьць для сябе і для грамадзтва, дае яму жыццёвую пэрспэктыву і спараджае пачуцьцё абавязку. Чалавек без уласнасьці ператвараецца ў люмпэна. Ён здольны толькі спажываць і разбураць.

Марксізм – адзін зь відаў сацыяльнай утопіі. (У Савецкім Саюзе, праўда, дзякуючы антычалавечым намаганьням бальшавікоў, была ажыцьцёўлена ўтапічная мадэль грамадзтва хутчэй па Томасу Мору, чым па Марксу). Аднак ведама, што ніякая ідэя, ніякая справа, ніякімі мэтадамі ня будзе рэалізавана, калі за ёй не стаіць грамадзкі інтэрас нейкай вялікай і дастаткова ўплывовай сацыяльнай групы людзей. Зьнішчэньне прыватнай уласнасьці магло быць успрынята толькі люмпэнам і асацыяльнымі пластамі грамадзтва, адчужанымі ад уласнасьці як сродка вытворчасьці. Такой асацыяльнай, магутнай і вялікай праслойкай у Расейскай імпэрыі была бюракратыя. Марксізм, які разьвіваўся ў карпаратыўных (партыйных) структурах, аб'ектыўна выяўляў гістарычныя інтарэсы бюракратыі, прыватнай уласнасьцю якой зьяўляецца дзяржаўная ўлада. Бальшавізм як найбольш агрэсіўная люмпэнізаваная палітычная сіла, зьнішчаючы носьбітаў уласнасьці (важнейшай уласнасьці – зямлі), расчысьціў шлях для бюракратыі.

Адмяніўшы прыватную ўласнасьць і абдзяржавіўшы яе, бюракратыя ўпершыню у гісторыі заваявала абсалютную палітычную, эканамічную і духоўную ўладу над грамадзтвам. Улада гэтага кляса, «сродкамі вытворчасьці» якога зьяўляецца дзяржаўная структура і сістэма ўлады, а прыватнай уласнасьцю сама дзяржава, яго ўлада стала самай жорсткай, самай бязьлітаснай, самай разбуральнай, а ідэалёгія (у дадзеным выпадку марксізм-ленінізм) і палітычныя ворганы – самымі бесчалавечнымі.

Зьнішчаны былі асновы сацыяльнага чалавечага быцьця, перапынена эстафета свабоднага разьвіцьця асобы. Сьвет сацыяльнай сістэмы бюракратызму, дзе няма ўласьніка і вольнага чалавека, асновы не на натуральных працэсах творчага разгортваньня грамадзтва, а на працэсах штучных, у грунце якіх прымус (што рэалізуецца сістэмай) і хлусьня (якая ажыцьцяўляецца ідэалёгіяй). Прымус і хлусьня – вось генератары руху, дакладней, існаваньня бюракратычнай цывілізацыі камунізму.



*21. Савецкі лёзунг у Менску.*

Адносіны да ўласнасьці бюракратыя выяўляе, так бы мовячы, на «відавым» узроўні, альбо, як казалі марксісты, на «клясавым». Бюракратыя, будучы ва ўладзе, ніколі не дапусьціць прыватнай уласнасьці, асабліва на зямлю, ўсьведамляючы небясьпеку для свайго карпаратыўнага сацыяльнага існаваньня. Калі мы з гэтага гледзішча прааналізуем паводзіны савецкай партакратыі, то стане зразумелай яе непрымірымасьць да прыватнай уласнасьці, асабліва ў такой рэакцыйна-камуністычнай рэспубліцы, як Беларусь. Тым часам, ніякая дэмакратычная палітыка, ніякія палітычныя праграмы ня будуць мець істотнага значэньня, калі ня вырашацца гэтыя два пытаньні – дзяржаўная незалежнасьць і ўласнасьць на зямлю. Бюракратычнае грамадзтва не скранецца зь месца.

Цяжка ўсьведаміць, але Беларусь на сёньняшні дзень стала рэспублікай без сацыяльнай пэрспэктывы. Камуністы, якія выступілі супраць прыватнай уласнасьці на зямлю, у каторы раз закрылі яе. Потым жыцьцё, вядома, прымусіць дазволіць прыватную ўласнасьць на зямлю, але страты ўжо будуць вельмі вялікія. Цана ім – марнаваньне працы, прагрэсіруючая адсталасьць, зьбядненьне і залежнасьць ад іншых дзяржаваў. Калі ў гэты пэрыяд будзе падпісаны яшчэ і гарбачоўскі саюзны дагавор, становішча беларускага народа можна будзе параўнаць з самазабойствам.

Ня трэба толькі ставіць пры гэтым рытарычныя пытаньні накшталт: «Няўжо яны гэтага не разумеюць?» Пытаньні бессэнсоўныя. Бо для партакратычнай бюракратыі не існуюць гуманістычныя каштоўнасьці народа, нацыі, свабода і правы чалавека. Бюракратыя па прыродзе сваёй касмапалітычная. Для яе ўласныя карпаратыўныя інтарэсы вышэй за народныя і тым больш за гуманістычныя каштоўнасьці.

На жаль, амаль усе сродкі інфармацыі і вялікі паслужны корпус журналістаў на Беларусі ў руках КПСС. Абалваньваньне народа працягваецца. Яму кажуць, напрыклад, што БНФ – за роспуск калгасаў і саўгасаў, каб зямлю прымусова раздаваць сялянам. Нават спрачацца пачынаюць самы з сабой, «дескать», як гэта насільна раздаць зямлю – прымусовая дэкалектывізацыя? Камуністы, аднак, выдатна ведаюць пазыцыю Народнага Фронта. БНФ – за ўсе формы ўласнасьці, за права ўласнасьці на зямлю, за прыярытэтнае разьвіцьцё вёскі. Селянін павінен мець права атрымаць, калі захоча, зямлю ва ўласнасьць бясплатна і навечна. Дзяржава павінна спрыяць сялянскай гаспадарцы. Але, як ужо адзначана, у праве ўласнасьці на зямлю закладзена свабода селяніна і канец камунізму. Таму і хлусяць намэнклятурныя латыфундысты, таму і скажаюць патрабаваньні БНФ, каб ашукаць народ.

Я ужо не кажу пра партыйную агітацыю за гарбачоўскі саюзны дагавор і супраць незалежнасьці і свабоды Бацькаўшчыны. Тут ужо проста палохаюць беднага нявольніка. Як гэта мы без Масквы? Хоць пытаньне стаіць інакш – як гэта Масква бяз нас? Ня можа, аказваецца. 23 ракетныя базы паставіла з 44, існуючых у СССР, заняла дарогі, лясы, палі, нават радыяцыі не баіцца. Бедны «Спрут». Як яму цяжка. Пэўна, калі беларус разьбярэцца, што да чаго, – тады ўсё і вырашыцца. Хутчэй бы ўжо разабраўся.

***Зянон ПАЗЬНЯК,***
***народны дэпутат БССР.***

*Надрукавана: (Народная газэта, – 1991, 24 студзеня)*

# НА ПРИНЦИПАХ ДЕМОКРАТИИ*

**Народны дэпутат БССР Зянон Станіслававіч Пазьняк – адзін зь нямногіх дэпутатаў, чыя кандыдатура не абмяркоўвалася і не зацьвярджалася ў кулуарах і пакоях парткамаў і выканкамаў. У Вярхоўным Савеце БССР Зянон Станіслававіч адзін зь нямногіх інтэлектуалаў, чые зьмястоўныя выступленьні заўсёды прыемна слухаць. Яны разважлівыя, абгрунтаваныя, маюць рацыю. Прамоўца цудоўна валодае роднай мовай і ніколі не карыстаецца шпаргалкамі.**

**Да ўсяго сказанага дазволю сабе назваць яго асобу яшчэ мужнай і самаадданай, таму што, каб у такім высокім форуме ці на масавым мітынгу называць рэчы сваімі імёнамі і тым самым выклікаць на сябе шквал агню крытыкі і нянавісьці, трэба і сапраўды быць мужным, адданым сваёй справе і ўпэўненым у сваім інтэлектуальным патэнцыяле.**

**Госьць нашага часопіса Зянон ПАЗЬНЯК адказвае на нашы пытаньні.**

* * *

**– Зянон Станіслававіч, раскажыце, калі ласка, коратка аб сабе. У якім матэрыяльным становішчы прыходзіцца жыць, ці маеце такія звычайныя сучасныя атрыбуты дабрабыту, як дача і аўтамабіль? Калі не, то па якой прычыне такая сьціпласьць – гэта рыса Вашага характару, даніна модзе ці ва ўмовах існуючага ладу большага дасягнуць нельга?**

– Нарадзіўся ў 1944 годзе на Віленшчыне (цяпер Горадзеншчына). Скончыў Беларускі Дзяржаўны Тэатральна-Мастацкі Інстытут. Кандыдат мастацтвазнаўства. Займаўся гісторыяй тэатра. З 1976 года пасьля чарговых адміністрацыйна-палітычных рэпрэсіяў зьмяніў прафэсію, займаюся археалёгіяй і гісторыяй Беларусі. Працую старшым навуковым супрацоўнікам у Інстытуце гісторыі АН БССР. Дачы і аўтамабіля ня маю і не імкнуся мець: гэта вышэй за мае матэрыяльныя магчымасьці і ніжэй за інтарэсы.

Кожны Божы чалавек павінен мець мінімум у жыцьці: мець, што есьці; мець, што адзець і абуць; і мець, дзе жыць. Тысячы людзей у нас гэтага ня маюць. Да 1980 года ня меў і я. Нішто так не прыгнятае, ня душыць і не калечыць чалавека, гэта калі ён галодны, бяздомны і несвабодны. Нездарма бальшавікі адразу пачалі будаваць сваё панаваньне на гэтых прынцыпах. У нэндзы таталітарная ўлада можа існаваць вечна.

Бальшавікі парушылі дыялектычнае адзінства роўнасьці людзей, ліквідавалі іх фактычную няроўнасьць і стварылі грамадзкую сістэму з псіхалёгіяй эгалітарызму, калі раўненьне ідзе не на багацьце, а на беднасьць, не на ідэал, а на стандарт, не на духоўнасьць, а на шэрасьць, не на арыгінальнасьць, а на пасрэднасьць. Раўняць, як вядома, можна толькі па ніжэйшым, а не па вышэйшым. Таму людзей, грамадзтва нельга і немагчыма выроўніваць. Выроўніваць можна правы, умовы, магчымасьці.

Бальшавікі ж пачалі „раўняць" са зьнішчэньня ўсіх іншадумцаў, потым усіх уласьнікаў (сялян, так званых „кулакоў", „буржуяў"), потым ліквідавалі ўвогуле ўласнасьць, рынак, таварную вытворчасьць і сканцэнтравалі ўсё ў руках дзяржавы, якая стала іх адзінай і абсалютнай прыватнай уласнасьцю. У выніку стварылі лягерную сістэму грамадзтва („социалистический лагерь"), заснаваную на прымусе, хлусьні, беднасьці і бяспраўі людзей, сістэму, якая ня здольная самаразьвівацца, заканамерна вядзе да застою, дэградацыі і распаду культуры. Гэтую сістэму нельга гуманізаваць, палепшыць. Яна не рэфармуецца, як не рэфармуецца КПСС – форма ўлады гэтай сістэмы.

Так можна адказаць на пытаньне, чаго можна дасягнуць „ва ўмовах існуючага ладу". Камунізм – гэта сьмерць культуры, распад грамадзтва. Гэта сатанінская пастка для чалавецтва, сьмяртэльная хвароба, зь якой няпроста выздаравець.

**– Ці ёсьць у Вас вольны час, як яго праводзіце?**

– Вольны час быў толькі ў маладосьці. Да 1988 года яшчэ можна было вар'іраваць клопаты і заняткі і такім чынам пазбаўляцца ад стамленьня і руціны. Цяпер катэгорыя „вольны час" сьціснулася, як шагрэневая скура.

**– У пачатку размовы Вы ўжылі выраз „Божы чалавек". А самі Вы чалавек набожны ці не? Вашы адносіны да рэлігіі?**

– Я католік. Лічу сябе веруючым хрысьціянінам. Аднолькава адчуваю сябе сярод вернікаў усіх хрысьціянскіх канфэсіяў на Беларусі: праваслаўных, католікаў, уніятаў, пратэстантаў-эвангелістаў. Усіх нас павінна аб'ядноўваць хрысьціянская вера, наша народная гісторыя, культура і Бацькаўшчына-Беларусь.

**– Вы ўзвалілі на свае плечы цяжкую і няўдзячную ношу палітычнага лідара. Чым гэта тлумачыцца – імкненьнем да славы і пашаны, ці гэта звычайны альтруізм з гуманных і патрыятычных пабуджэньняў?**

– Рэпутацыю „лідара" мне ў значнай ступені стварылі камуністы, разам зь ярлыкамі, вядома. Што датычыць „лідарства", то я адношуся да яго з унутраным недаверам, бо, каб быць палітычным лідарам, трэба любіць палітыку. Я лічу палітыку апошнім заняткам, хоць усё жыцьцё прыходзілася сунуць у яе нос, а цяпер яшчэ горай – увесь там. Каб вы лепш зразумелі маё становішча, раскажу прыпавесьць.

Жыло некалі каля Балтыйскага мора балцкае племя прусаў. Надышлі немцы, захапілі іх зямлю, пабудавалі замкі і давай панаваць над прусамі, цісьнуць і прыгнятаць. Ды так, што неўзабаве тыя прусы і культуру сваю забыліся, і мовы выракліся, пачалі шваргатаць па-нямецку і зьнікаць як народ. І вось, калі яны гэткім чынам амаль зусім вырадзіліся і зьбяднелі, прышоў аднекуль з глухамені ў горад апошні прускі бард і пачаў сьпяваць на рынку прускія народныя песьні на прускай мове. Але яго ніхто ня слухаў, бо ніхто з прусаў ужо не разумеў сваёй мовы. Толькі два падгулялыя нямецкія рыцары спыніліся і, пацяшаючыся, загадалі сьпяваць. І бард сьпяваў пра свой народ, пра лясы і рэкі Прусіі, пра каханьне і любоў да сваёй бацькаўшчыны. І калі ён скончыў сьпяваць, немцы голасна зарагаталі яму ў твар і, як узнагароду за сьпеў, сыпнулі ў шапку жменю пустых арэхаў, шалупіньня.

Хто цяпер памятае, ведае што пра прусаў? Немцы нават назву прыўлашчылі сабе ад іхняй зямлі і гэтым канчаткова пахавалі ў гісторыі цэлы народ.

Дык вось, паважаны спадару, калі б на маёй Бацькаўшчыне не было камунізму, я б таксама песьні пеў, ці проста жыў, як усе добрыя людзі. Але ў гісторыі настае крытычная пара, калі толькі песьнямі ўжо не ўратуеш Айчыну. І тут трэба займацца агульным, палітыкай, змаганьнем. Мы перажываем такую пару. Ня станем рупіцца пра агульнае, будзем толькі сьпяваць, займацца толькі сабой, унурыўшы галаў у пер'е, – дачакаемся: прыдуць прыблуды з рогатам слухаць апошняга песьняра і сыпнуць у твар шалупіньнем.

* Часопіс на рускай мове *(рэд.)*




*22. Беларускі Народны Фронт. Зьлева напр.: Артур Вольскі, Зянон Пазьняк, Вячаслаў Сіўчык.*

маў хваробу сэрца і выбіраўся зь яе гадамі. Асноўная прычына – у дысертацыі прысьвяціў шмат месца дасьледваньню творчасьці Францішка Аляхновіча, дзейнасьці Каруся Каганца, Леапольда Родзевіча, братоў Луцкевічаў, Беларускай Сацыялістычнай Грамады, „Нашай Нівы" і „Беларуса" і ўвогуле ўсяму таму пласту беларускай культуры, пра які тады было забаронена нават успамінаць.

**– Зянон Станіслававіч, у Беларускім парляманце Вы – прадстаўнік БНФ, прычым не радавы, а заснавальнік руху. Нашым чытачам цікава ведаць, што сабой уяўляе гэтая арганізацыя? Яе структура, парадак уступленьня, ці выдаюцца сябрам БНФ якія-небудзь дакуманты накшталт партыйнага білета ці якога пасьведчаньня? Ці ёсьць праграма, статут? Якія рэформы прадугледжваюцца ў сфэрах палітыкі і эканомікі? І наогул, больш падрабязна спыніцеся на дзейнасьці руху „Адраджэньне".**

– Беларускі Народны Фронт „Адраджэньне" – гэта грамадзкі дэмакратычны рух, які яднае людзей шырокіх дэмакратычных перакананьняў. Рух БНФ мае пэўныя арганізацыйныя формы і даволі свабодную структуру. Могуць утварацца групы падтрымкі ці суполкі БНФ, могуць быць свабодныя ўдзельнікі і прыхільнікі Фронту. Суполкі ўтвараюць раённыя Рады БНФ і дэлегуюць туды сваіх упаўнаважаных. Зьезд БНФ выбірае Сойм, старшыню Сойма і намесьнікаў. Сойм утварае выканаўчы орган – Управу і камісіі па розных накірунках дзейнасьці. Сяброўства і сяброўскія білеты ў БНФ уведзены на 2-м зьезьдзе Фронта. Любая партыя і сябра любой партыі могуць удзельнічаць у БНФ, калі падзяляюць яго праграмныя палажэньні і калі іх дзейнасьць не супярэчыць прынцыпам і праграме Фронту.

Народныя франты, якія ўтварыліся ў 1988-1989 гадах у рэспубліках СССР, адрозьніваюцца ад клясічнага народнага фронту 30-х гадоў у Эўропе, дзе ён уяўляў асацыяцыю ці канфэдэрацыю дэмакратычных партыяў, што злучылі свае сілы ў змаганьні з таталітарызмам. Народныя франты канца 80-х гадоў у рэспубліках СССР выявілі напачатку фэнамэнальную зьяву – канфэдэрацыю дэмакратычных людзей, асацыяцыю ўсёй нацыі супраць таталітарнай сістэмы, за дэмакратыю, адраджэньне народа, незалежнасьць. З цягам часу з утварэньнем партыяў дэмакратычнага накірунку франты сталі набываць клясычныя рысы.

Беларускі Народны Фронт грунтуецца на прынцыпах дэмакратыі, незалежнасьці Беларусі і адраджэньня нацыі. Як і належыць у такога роду рухах, усіх яднае антытаталітарызм, які да сярэдзіны 1990 году ў выніку палітычнага высьпяваньня грамадства канкрэтызаваўся ў антыкамунізм.

БНФ пасьлядоўна прытрымліваецца асноўных дэмакратычных крытэрыяў: абароны правоў чалавека, права нацыяў на самавызначэньне, а нацыянальных супольнасьцяў – на дзяржаўную незалежнасьць, права чалавека на свабоду, на працу, на свабоднае перамяшчэньне, на свабоду веравызнаньня і выяўленьня поглядаў і г.д.

Будзе Беларусь, будзе народ, будзе свабода – напішуць за мяне ненапісанае, скажуць несказанае, прасьпяваюць нясьпетае, і ў сто разоў лепей. Я ж – вельмі не хачу атрымаць жменю пустых арэхаў.

**– Як палітычны дзеяч, вядомы шырокім колам народных мас, Зянон Пазьняк зьявіўся адносна нядаўна. А ці займаліся Вы палітычнай дзейнасьцю, скажам, у так званыя застойныя гады? Які характар яна насіла і чым гэта тлумачыцца? Ці былі канфлікты з органамі міліцыі і дзяржаўнай бясьпекі?**

– Пратэст супраць сістэмы ўціску чалавека, дзякуй Богу, адчуў рана. Яшчэ ў школе. Двойчы выключалі з інстытута. Першы раз у 1964 годзе падстроілі камуністы, партбюро і т.п. (не падабалася ім мая беларуская мова і крытыка Хрушчова), другі раз – КГБ. Было гэта ў 1967 годзе, калі я здаў усе экзамены за апошні курс, засталася толькі абарона дыплёма. Быў я ў добрым настроі, аж паклікалі мяне ў рэктарат, дзе рэктар Тэатральна-мастацкага інстытута палкоўнік у адстаўцы нехта Захараў аб'явіў, што я выключаны, і спаслаўся на данос аб маёй нядобранадзейнасьці выкладчыка „навуковага камунізму", таксама былога ці то палітрука, ці то зампаліта. Паколькі выключэньне было зроблена з казарменнай прасталінейнасьцю, палкоўніку Захараву прыходзілася на працягу амаль года даваць тлумачэньні розным маім абаронцам. (Нават шаноўны Максім Танк хадзіў паглядзець на таго рэктара.) Вось тады Захараў і тлумачыў, што „КГБ жмет" і г.д. Гэтыя „тлумачэньні", відаць, каштавалі яму пасады рэктара. Неўзабаве яго ціхенька зьнялі на пэнсію. Маўляў, гуляй у даміно, калі някемлівы.

Наступныя рэпрэсіі адбыліся ў 1975 годзе. Таксама апынуўся бяз працы, бяз сродкаў да існаваньня. Тут было ўсё жорстка і доўга – і допыты ў КГБ, і траўля і г.д. Загналі ў шпіталь, атры-



*23. Рыгор Барадулін.*



*24. Васіль Быкаў і Зянон Пазьняк.*

Два гады таму БНФ распрацаваў падрабязную праграму сваёй дзейнасьці, дзе былі адлюстраваныя рэфарматарскія задачы і шляхі іх ажыцьцяўленьня ва ўсіх вобласьцях жыцьця грамадзтва – ад палітыкі і эканомікі да рэлігіі. Некаторыя палажэньні праграмы ўжо часткова рэалізаваныя, шмат якія ідэі ўвайшлі ў інтэлектуальны багаж нашага грамадзтва, большасьць жа і асноўнае ажыцьцявіць яшчэ не ўдалося. Перш за ўсё таму, што ў Беларусі захавалася цалкам камуністычная камандна-адміністрацыйная сістэма, якая трымае ў руках усю заканадаўчую, выканаўчую, судовую ўладу, прэсу, радыё і тэлебачаньне. Словам, Беларусь засталася рэліктавай камуністычнай вандэяй у бурным моры пераменаў, а БНФ дагэтуль ня стаў масавым агульнаграмадзкім рухам, які б падняў і аб'яднаў усю нацыю.

Асноўная прычына тут адна – нізкая нацыянальная (а адсюль і грамадзка-палітычная) сьвядомасьць, разьяднанасьць і раскансалідаванасьць насельніцтва Беларусі. У нас зьнішчылі ня толькі грамадзянскую супольнасьць, але моцна разбурылі супольнасьць нацыянальную. Між тым ***нацыянальная супольнасьць кансалідуе людзей на выжываньне і разьвіцьцё.*** Таму там, дзе нацыянальная супольнасьць толькі пашкоджана, але не разбурана, дзе яна яшчэ жыве, як напрыклад, у Балтыйскіх рэспубліках, там людзі здольныя аб'яднацца, змагацца за свабоду, за бацькаўшчыну, адстойваць разам свае чалавечыя правы. Там франты як правобразы грамадзянскай супольнасьці сталі масавымі рухамі, у іх удзельнічае і іх падтрымлівае ўвесь народ.

Невыпадкова БНФ называецца „Адраджэньне". ***Без адраджэньня нацыянальнай супольнасьці – сьвядомасьці, беларускай мовы, культуры, гістарычнай памяці, беларускай школы, рэлігіі – ніякая свабода недасягальная, ніякія рэформы нерэальныя, ніякага паляпшэньня жыцьця ня будзе. Таму што ўсё гэта дасягаецца толькі актыўным сьвядомым народам, а не ашуканым, застрашаным і азлобленым насельніцтвам.*** Ва ўмовах, што існуюць на Беларусі, ніякі рух ня можа стаць масавым. Для гэтага трэба прайсьці цяжкі і дастаткова доўгі шлях ад запалоханага, паняволенага насельніцтва да нацыянальна сьвядомага вольнага народа. Так што будучыня БНФ яшчэ наперадзе.

Беларусь ідзе да свабоды і незалежнасьці сваім шляхам і ня можа ісьці чужым. Ідзе мэтанакіравана. Мы гэта ўсьведамляем. Мяркую, што разумныя людзі і цяпер, і потым у гэтым разьбяруцца.

Адраджэнская, дэмакратычная і антытаталітарная сутнасьць БНФ зьяўляецца прычынай неверагодна шалёнай, пагромнай і дэзінфармацыйнай крытыкі Фронта з боку КПСС. Тут яны пераўзышлі самых сябе, перакрочылі ўсе межы прыстойнасьці, маралі, лёгікі і сэнсу. Матэрыял для дасьледчыкаў псіхалёгіі эпохі распаду камунізму.

Фэнамэнальнымі зьяўляюцца і прычыны такой шалёнасьці з боку КПСС-КПБ. Адносіны гэтай партыі да беларускага народа цяпер і на працягу ўсёй гісторыі яе існаваньня характарызуюцца нацыянальным нігілізмам, нянавісьцю да беларускай мовы, культуры, традыцыйнага беларускага быту і нацыянальнага жыцьця. ***Гэтая партыя ня толькі ажыцьцяўляла генацыд, яна мэтанакіравана вынішчала ўсе праявы нашага нацыянальнага жыцьця.*** Гэта яна разбурыла нашу спадчыну, цэрквы і касьцёлы, замкі і старыя гарады, вынішчыла і скалечыла нашу мову, разбурыла фальклёр, пазачыняла беларускія школы, абалваньвала моладзь. Хто адкажа за гэтае зло перад народам? Я ўжо не кажу пра Чарнобыль.

Ня трэба сумнявацца: за дзеяньні супраць чалавечнасьці камуністычныя злачынцы не пазьбегнуць свайго Нюрнбэргу. Зло абавязкова павінна быць раскрыта перад людзьмі і пакарана. Гэта закон Сусьвету. Інакш ня будзе падставы для пакаяньня, грамадзтва ня зможа ачышчацца ад скверны і выразіцца, вымра, як Садом і Гамора.

**– Ні ў адным народным фронце краінаў, акрамя беларускага, няма камуністаў. Як гэта разумець – як тактыку ці падлашчваньне, паколькі добра вядома Ваша пазыцыя ў адносінах да КПСС-КПБ: ніякага кансэнсусу?**

– Палітыка БНФ у дачыненьні да камуністаў выкладзена мной у артыкуле „Пра У. І. Леніна і камуністаў", зьмешчаным у „Народнай газэце" у канцы сьнежня 1990 года. БНФ не супрацоўнічае з КПСС. Тым часам мы добра ведаем суадносіны асабістай і калектыўнай адказнасьці. Кожны камуніст нясе палітычную і маральную адказнасьць за паводзіны сваёй партыі. Аднак чалавек не адказвае юрыдычна (гэта значыць па суду) за калектыўныя дзеяньні арганізацыі, калі сам ён іх не ажыцьцяўляў. Таму кожны член КПСС, які падзяляе праграмныя палажэньні БНФ, можа ўдзельнічаць у руху Фронта. Партыя таталітарная, антыдэмакратычная, антынародная. Але кожны чалавек мае свабоду волі і можа выбіраць. Навошта ж мы будзем пазбаўляць камуністаў свабоды выбару?

КПСС як ценевая нелегітымная ўлада была ў асобым становішчы. У партыю, глыбока не задумваючыся, пад прымусам ці дабраахвотна, уступіла шмат сумленных людзей. Прыход камуністаў у БНФ – сьведчаньне дэмакратычнасьці яго поглядаў і сумленьня. Наступны крок – выхад з КПСС.

Бальшавікі не аддзялялі ідэалёгію ад носьбітаў ідэалёгіі. Гэта прымітыўная крымінальная лёгіка, якая прывяла іх да масавых забойстваў. ***Змагаючыся з камунізмам, мы не змагаемся зь людзьмі, бо думаем пра адраджэньне і адзінства нацыі, успрымаем камунізм як цяжкую хваробу грамадзтва. Мы імкнемся ўсталяваць такія дачыненьні, каб камунізм зьнік, як дым, а нацыянальнае адзінства грамадзтва, народ, людзі – засталіся.*** Гэткая наша пастава сябе апраўдала, дала плён адраджэнскаму руху і маральную перакананасьць. Злосныя пасажы ў камуністычным друку , што там нехта „рвется к власти", хоча яе захапіць ці зьбіраецца зьнішчаць камуністаў – ня трэба і чытаць. Уся ўлада ў КПСС. Яна давяла Рэспубліку „да ручкі". Яна будзе і адказваць за свае справы і кіраўніцтва.

БНФ – не арганізацыя, ня мае ні структуры, ні мэханізму захопу ўлады, ні адпаведнай для такога роду дзеяньняў ідэалёгіі, ні патрэбы гэтую ўладу захопліваць. Увогуле, гэта несусьветнае глупства. Нельга і блізка параўноўваць БНФ і КПСС, як заяўляюць пра гэта партыйныя функцыянеры. Маўляў, БНФ – гэта тая ж КПСС, толькі з адваротным знакам. Нават такім мэтадам (параўноўваючы з сабой) не гнушаюцца нашыя апаненты, каб скампраметаваць Народны Фронт.

**– Ці ёсьць сярод дэпутатаў ад Апазыцыі Вашы аднадумцы – так сказаць, браты па духу з супадзеньнем поглядаў? Ці існуюць фракцыі ў БНФ?**

– У асноўным нашы погляды зыходзяцца. Фракцыі ў БНФ ужо ёсьць. Утварылася некалькі партыяў. Гэта добра.

**– На сьнежаньскай сэсіі мінулага года парлямант рэспублікі прыняў Закон аб зямлі, згодна якога селянін можа карыстацца надзелам пажыцьцёва з правам перадачы яго ў спадчыну, але без права куплі-продажу. Атрымліваецца, што так званы землеўладальнік ніколі ня зможа адчуваць сябе поўным гаспадаром свайго ўчастка і таму поўнасьцю раскрыць свае магчымасьці ў вытворчай працы. Як Вы галасавалі на прыняцьці гэтага Закона і якія Вашыя адносіны да ўласнасьці на зямлю і да прыватнай ўласнасьці наогул?**

– Уласнасьць – аснова сацыяльнага быцьця чалавека, гарантыя яго сацыяльнай свабоды. Чалавек без уласнасьці развучваецца ствараць. Ён здольны толькі спажываць і разбураць. Сярод пытаньняў пра ўласнасьць зямельнае – самае галоўнае. Апазыцыя БНФ прадставіла праект Кодэкса пра зямлю, дзе прадугледжваліся ўсе формы ўласнасьці на зямлю, адлюстраваны прынцып яе прыватызацыі. Камуністычная „падаўляючая" большасьць не прапусьціла наш праект. Прыняты праект, прадстаўлены камісіяй Вярхоўнага Савета, захоўвае панаваньне калгасна-саўгаснай сістэмы. Ёсьць у ім і станоўчыя моманты, за якія я галасаваў. У асноўным жа,– я ня ўдзельнічаў у галасаваньні.


*25. Сьпяваньне песьні. Зянон Пазьняк і Аляксей Марачкін.*

**– Што б Вы сказалі аб сучасным эканамічным становішчы у краіне** і рэспубліцы, аб зьнікненьні тавараў з прылаўкаў магазінаў? Як Вы лічаце: такое становішча старанна сплянавана, падрыхтаваны сабатаж ці то сюрпрызы хвалёнай плянавай эканомікі, заканамернасьць сацыялістычнага ладу жыцьця?**

– Гэта заканамернасьць так званага сацыялістычнага ладу жыцьця на этапе перабудовы. Тут вынік эканамічнай эклектыкі, сумяшчэньне каманднa-разьмеркавальнай эканомікі і рыначных экспэрыментаў, што прыводзіць да хаосу і спэкуляцыі. Сабатаж тут ні пры чым.

**– Ні для каго ні сакрэт, што, як у краіне,** так і ў нашай рэспубліцы, становішча з правапарадкам драматычнае. Ня лепшае яно і з бясьпекай руху на дарогах краіны. Для параўнаньня, у 1989 годзе ў аўтамабільных катастрофах загінула 59 тысячаў чалавек, у 1990 годзе – амаль 64 тысячы. У чым, на Ваш погляд, шляхі да зьніжэньня злачыннасьці і што можа спыніць смутную крывавую статыстыку на дарогах?**

– Камуністычнае грамадзтва распадаецца. У такія пэрыяды злачыннасьць расьце. Пажынаюцца плады злачыннай сістэмы. Зьмяншэньню злачыннасьці будзе спрыяць дзяржаўная неза-



(Фота У. Карміліна).

*26. Анатоль Грыцкевіч і Зянон Пазьняк. (Сядзіба БНФ).*



*27. Алесь Адамовіч і Зянон Пазьняк. (Менск, 1989 г., „Чарнобыльскі Шлях").*

лежнасьць Беларусі і творчае разьвіцьцё нацыі на прынцыпах свабоды. Што датычыць зьмяншэньня аварыяў, то добра было б мець першаклясныя адпаведным чынам уладкаваныя і дагледжаныя дарогі.

**– У час перадвыбарчай барацьбы многія кандыдаты ў дэпутаты абяцаюць выбаршчыкам нават тое, што заведама нельга выканаць, абы заручыцца іх падтрымкай, а потым звычайна забываюцца пра свае абяцанкі-цацанкі. Хацелася б ведаць, як праводзіцца ў жыцьцё Ваша перадвыбарная праграма?**

– Праграма асобнага кандыдата – нонсенс, глупства. Яе, практычна, немагчыма ажыцьцявіць. У Вярхоўным Савеце прадугледжана 360 дэпутатаў, і праграма аднаго зь іх у варунках галасаваньня ад дэпутата амаль не залежыць. Выбары лепш праводзіць па партыйных сьпісах. Мая перадвыбарная праграма – гэта праграма БНФ. Як яна ажыцьцяўляецца, можна меркаваць па дзеяньні дэпутацкай Апазыцыі Народнага Фронта.

**– Гледзячы на тое, як сёньня марна праходзяць выбары ў Саветы (часам большасьць выбаршчыкаў не прымае ўдзел у галасаваньні, і выбары не адбываюцца), можна ўпэўнена адзначыць спад палітычнай актыўнасьці грамадзян. Усё больш людзей расчароўваюцца ў выніках перабудовы, ім надакучыла быць нібы ў асадным ці то ў блякадным становішчы, надакучылі парляманцкія баталіі, дзе кожны з супроцьстаячых бакоў, здавалася б, абараняе інтарэсы народа і выступае ад яго імя, але яго (народа) становішча штодня пагаршаецца. У сувязі з гэтым зьніжаецца папулярнасьць дэмакратычных сілаў, у прыватнасьці людзі губляюць веру ў БНФ, з-за чаго рух траціць прыхільнікаў і „выходзіць з моды". Ці не палохае Вас такі паварот падзей і такая інэртнасьць масаў? Прытым можа стацца і так, што Вярхоўны Савет БССР (з улікам палітычнага становішча рэспублікі і краіны*, а таксама адпаведных настрояў грамадзкасьці) зробіць, як кажуць, ход канём. Іншым словам, выбярэ такую тактыку сваёй дзейнасьці, пры якой роля Апазыцыі зыйдзе на „не", ці будзе, у лепшым выпадку, чыста сімвалічнай.**

**У такім разе полымя руху пачне наогул затухаць, а лідэры БНФ стануць маршаламі без салдат. Як Вы будзеце дзейнічаць у падобным выпадку – прадаўжаць палітычную барацьбу адпаведна мяняючы і ўдасканальваючы сваю праграму і тактыку, каб захаваць рух як палітычную структуру, а разам з тым і супроцьстаяньне ў грамадстве, ці Апазыцыя пойдзе на частковыя сaступкі і кансалідуецца з кансэрватыўнай большасьцю ў Вярхоўным Савеце?**

– Я бачу сітуацыю інакш. Наступ рэакцыі ўжо забуксаваў і хутка захлынецца. Цалкам верагодна, магчыма, ужо летам, актывізацыя дэмакратычных сілаў. Аднак мяне не палохае і „дыктатура", бо гэта неабходны этап распаду камунізму. У СССР яна ня можа быць працяглай. Не тыя варункі. Што датычыць БНФ, то становішча яго ўмацоўваецца. Фронт на парозе новага дыханьня.

**– Неяк давялося чытаць газэту БНФ „Навіны" і, шчыра прызнаюся, страціў да яе цікавасьць. І перш за ўсё, па той прычыне, што яе цяжка чытаць. Зьявілася шмат незнаёмых слоў, якіх не знайсьці у сучасных слоўніках, павялічылася колькасьць друкаваных знакаў у звычайных словах, а ў многіх падоўжыліся канчаткі, ужываюцца дыялекты ў публіцыстычных матэрыялах і гэтак далей. Думаю, што менавіта па прычыне гэтай арфаграфічнай рэвалюцыі рух не далічваецца многіх прыхільнікаў. Людзей палохае нешта незвычайнае, быццам чужое. Ці ня лепей было б, хаця б**

* Карэспандэнт мае на ўвазе СССР *(рэд.)*

**да пары, да часу карыстацца звычайнай сучаснай беларускай літаратурнай мовай, якую вывучала ў школах, а таму добра ведае, не адно пакаленьне нашых суайчыньнікаў?**

– Чалавек, які любіць Бацькаўшчыну, шануе і яе мову. Існуе пэўная небясьпека для ўсёй беларускай нацыі распаўсюджваць і замацоўваць скалечаную сталінскімі сатрапамі мову. У дачыненьні да жывога гістарычнага комплексу беларускай мовы „сталінскі піджын" не стыкуецца з гістарычнай памяцьцю народа, што немалаважна якраз пры адраджэньні нацыі і разьвіцьці асобы, фармаваньні яе паняцьцяў і інтэлекту. Мова – гэта спосаб думаньня і асэнсаваньня сьвету. У кожнай мове гэты спосаб свой. Неўсьвядомленае зьмяшаньне паняцьцевых структураў розных моваў прыводзіць да зьбядненьня інтэлекту, нераскрыцьця яго і толькі яму прыналежных магчымасьцяў. У сфэры культуры плодзяцца хімеры, у псіхалёгіі – несумяшчальнасьць. Урэшце – горшыцца нацыя.

***На Беларусі яшчэ большую разбуральную функцыю, чым „сталінскі піджын", выконвае „трасянка" (сумесь рускай і беларускай моваў). Сталінізм сваімі антычалавечымі рэформамі ў беларускай мове нанёс непараўнальна большую шкоду нашаму народу, чым царызм моўнымі забаронамі. Адраджэньне мовы павінна адбывацца не на скалечанай, а на здаровай аснове.*** Вось чаму адраджэнцы зьвярнуліся да мовы Янкі Купалы, Якуба Коласа і Максіма Гарэцкага, да 20-х гадоў, калі яе яшчэ не паклалі на пракруставы ложак. ***Мову трэба адраджаць у сьвятасьці, а не ў сталінскім паскудзтве. Нельга заставацца нявольнікамі.***

Што мяне ўражвае як гісторыка – гэта адраджэньне дзяржавы Ізраіль і аднаўленьне старажытнай мовы народа – іўрыта. Праз адзьве тысячы гадоў, фактычна, страчаная, гэтая мова ізноў аднаўлена нашчадкамі, стала дзяржаўнай мовай квітнеючага гаспадарства. Удумайцеся ў глыбокі сэнс гэтай мудрай дзеля народа зьявы. Магчымасьці народнага духу бязьмежныя.

**– У студзені гэтага года ЦТ паказала рэпартаж А. Няўзорава аб вядомых падзеях у Вільні. Сярод тэлегледачоў ён выклікаў шырокі рэзананс і даволі супярэчлівыя меркаваньні. Што б Вы маглі сказаць аб гэтай передачы і аб тых падзеях і працэсах, якія адбыліся і адбываюцца ў Летуве?**

– Што датычыць ленінградзкай перадачы па ЦТ, то, як пісаў нехта з расейскіх клясыкаў, „в Петербурге всегда было много нечисти". Мяркую, што пасьля 1917-га года нячыстай сілы там нітрохі не паменшала. А Летува? Летува ступіла яшчэ адзін крок да незалежнасьці.

**– Як вядома, Летувіскі парлямант абвясьціў сваю рэспубліку сувэрэннай дзяржавай, у якой жыхары нелетувіскай нацыянальнасьці зьяўляюцца як бы людзьмі другога гатунку. БНФ – аднадумец „Саюдзіса". Ці ўваходзіць у пляны БНФ, скажам, у мэтах культурнага і нацыянальнага адраджэньня беларусаў як нацыі, у выніку большасьці ў Вярхоўным Савеце, абвясьціць Беларусь для беларусаў, а грамадзян іншых нацыянальнасьцяў ушчыміць у правах, так, як гэта зрабілі ў прыбалтыйскіх рэспубліках?**



*28. Сьпявае моладзь Адраджэньня. (Менск, 1990 г., 25 Сакавіка).*

– На гэтае ваша пытаньне можна адказаць словамі іншых двух расейскіх клясыкаў: „не читайте большевистских газет", каб не меркаваць усьлед за імі пра „сарты" і „Беларусь для беларусаў". Дарэчы, цэнтральныя маскоўскія газэты і ЦТ нясуць сваю долю адказнасьці за кроў, што праліта ў рэспубліках. Пішацца і перадаецца хлусьня, цынічная і бессаромная.

**– Газэта БНФ „Навіны" неяк закранула тэму аб спрадвечных беларускіх землях: Беласточчыне, Смаленшчыне, Чарнігаўшчыне. Аб Вільні і Віленскім краі я гавару асобна, таму што гэта Ваша радзіма. На ўспомненых тэрыторыях пражывае шмат нашых суайчыньнікаў. Ці не уваходзіць у аддаленыя пляны Руху вярнуць гэтыя землі ва ўлоньне Беларусі?**

– Мы не забыліся пра гэтыя землі. Які будзе лёс, пакажа будучыня.

**– Ці ня страціў актуальнасьць Ваш тэзіс пра будучую асацыяцыю дзяржаваў ад Балтыйскага да Чорнага мора, паколькі вядома, што летувісы і латышы ня вельмі сьпяшаюцца, выйшаўшы з аднаго Саюза, уступіць у другі?**

– Гэтая ідэя прадаўжае адыгрываць сваю ролю. Магчымасьць яе ўвасабленьня пры пэўных варунках ня выключана, бо існуе палітычная і эканамічная неабходнасьць.

**– Падзеі апошняга часу ў краіне* паказалі, што на шостым годзе дэмакратызацыі і перабудовы ў таго-сяго зь яе ініцыятараў пачынаюць здаваць нэрвы. Ці не здаюць яны ў Вас? Інакш кажучы, ці не прабіў час адкрытай канфрантацыі з цэнтрам, як тое адбылося ў Прыбалтыйскіх рэспубліках? Ці не бывае ў Вас хвілін роспачы і адчаю, ці не ўпадаеце ў капітулянцкі настрой, калі хочацца адцурацца ад ідэй і палітыкі і аддаць сябе якому-небудзь іншаму полю дзейнасьці, скажам, навуцы альбо літаратуры, ці чаму-небудзь яшчэ? Тым больш, што ў апошні час супраць Вашай асобы як дэпутата кансэрватыўныя сілы, якія аб'ядноўваюцца пад мудрагелістай назвай „Совет ветеранов" (хаця кожнаму хоць трошкі адукаванаму чалавеку вядома, што галоўную скрыпку ў гэтым „Совете" адыгрываюць ветэраны КПСС і адстаўныя палкоўнікі) разгарнулі сапраўдную вайну, здаецца, не на жыцьцё, а на сьмерць.**

– Прычын для роспачы ня бачу. Усё ідзе сваёй чаргой. Што датычыць пэнсіянэраў партыі, так званых „ветэранаў", то, як вы маглі заўважыць, яны і іхнія гаворкі мяне не цікавяць. Гэта людзі бяз будучыні. Тупіковая сьвядомасьць.

**– Вельмі ўдзячны Вам за размову і хацелася б, каб на разьвітаньне лідар БНФ Зянон Пазьняк выказаў якія-небудзь пажаданьні чытачам „Віража".**

– Пажадаю ўсім чытачам „Віража", уладальнікам аўтамабіляў, быць асьцярожнымі на віражах. Тым больш, што, калі падумаць, то сьпяшацца няма куды.

***(Размову вёў А. ЧЭЧКА)***

*Надрукавана: („Вираж",– 1991, №5)*

---

* Карэспандэнт мае на ўвазе СССР. *(Рэд.)*

# ЧАМУ НАМЭНКЛЯТУРА ЗА ПРЭЗЫДЭНТА

Набліжаецца да завяршэньня 4-я сэсія Вярхоўнага Савета БССР, якую, прабачце за вобразнае параўнаньне, я назваў бы сэсіяй партыйнай дэградацыі. Дэградацыі, перш за усё, палітыкі КПБ у Вярхоўным Савеце, калі нават у іхнім «маналітным адзінстве» пачаўся раскол.

Перад гэтым па Беларусі пракацілася хваля рабочых забастовак, дзе рабочымі былі выстаўлены асноўныя палітычныя патрабаваньні, якіх ужо трэці год дамагаецца Беларускі Народны Фронт, – аб суверэнітэце Беларусі, дэпартызацыі вытворчасьці, прававых ворганаў, вяртаньня нарабаванай маёмасьці КПСС народу, дэмакратызацыі ўлады, выхаду з эканамічнага паралічу, пераходу да рынку і г. д.

Забастоўкі і патрабаваньні разглядзець дамаганьні рабочых на сэсіі Вярхоўнага Савета моцна напалохалі камуністычную намэнклятуру і асобных камуністаў, што, выехаўшы на сьпіне БНФ у Саветы, разыгрывалі з сябе дэмакратаў «на 95 працэнтаў». Забастоўкі ўсё паставілі на месца – «дзевяностапяціпрацэнтнікі» перакінуліся на сто працэнтаў да намэнклятуры, якая, як вядома, на недахоп халуёў ніколі не скардзілася.

Аднак партыйная намэнклятура і былыя дзевяностапяціпрацэнтныя «дэмакраты» зусім ня думалі хаця б часткова выконваць патрабаваньні рабочых. За кароткі час быў складзены плян ціхага дзяржаўнага перавароту і зацьверджаны ў павестцы дня 4-й сэсіі, нягледзячы на супраціўленьне дэпутацкай Апазыцыі Народнага Фронту. У аснове падрыхтоўкі перавароту – пакет антыканстытуцыйных, проціпраўных законапраектаў, якія меркавалі прыняць, як заусёды, пад сілавым націскам намэнклятурнай большасці, шляхам ашуканства і грубых парушэньняў рэгляманту. Ставілася задача стварыць бачнасьць заканадаўчай базы для ўсталяваньня намэнклятурна-камуністычнага дыктатарскага рэжыму на Беларусі. Галоўнымі з гэтага пакета зьяўляюцца законапраекты «Аб прававым рэжыме надзвычайнага становішча», «Аб перараьзмеркаваньні паўнамоцтваў паміж вышэйшымі дзяржаўнымі ворганамі Беларускай ССР» і «Аб заснаваньні пасады прэзыдэнта Беларускай ССР». Ва ўсіх гэтых законапраектах прадугледжаны грубыя парушэнні правоў чалавека з боку дзяржауных структураў. Бясправ'е прапануецца ўвесьці ў ранг закона. Рухавіком задумы, які ажыцьцёвіць плян, павінна стаць прэзыдэнцкая ўлада.

Справа ў тым, што ***ў тых сацыяльна-палітычных варунках, што існуюць зараз на Беларусі, прэзыдэнцкая ўлада аўтаматычна вядзе да магчымасьці адміністрацыйна-партыйнай дыктатуры.*** Нельга параўноўваць Беларусь з Расеяй, дзе ёсць беспартыйны лідар, надзелены дэмакратычнай уладай і паўнамоцтвамі, дзе неабходнасьць прэзыдэнцтва вынікала з перыпетыяў палітычнай барацьбы паміж Гарбачовым і Ельцыным, паміж магчымасьцямі дэмакратычнай Расеі І аўтарытарна-таталітарным СССР (Цэнтрам), паміж магчымасьцю суверэннай Расейскай Федэрацыі і ўнітарным Савецкім Саюзам. Вось па гэтай лініі падзелу з глыбіні дэмакратычнага руху і ўсплыло прэзыдэнцтва ў Расеі і было падтрымана народам, бо аб'ектыўна спрыяе суверэнітэту і дэмакратыі ў РСФСР.

***Прэзыдэнцтва ў Беларусі ўсплыло як ідэя партыйна-апаратная ў выніку жаху партыйнай бюракратыі і бездапаможнасьці перад размахам дэмакратычнага рабочага руху, усплыло як апошні шанец вярнуць і сьцвердзіць былы абсалютызм улады КПБ праз прэзыдэнцкія формы праўленьня.***

І сапраўды. Што перашкаджала Савету Міністраў, Вярхоўнаму Савету БССР, прэм'еру В. Кебічу ажыцьцяўляць сваю ўладу, спраўджваць свае законы, рабіць дэмакратычныя пераўтварэньні, рухацца да рыначнай эканомікі, да выхаду з крызісу? Што? Уся ўлада ў іхніх руках. Усюды камуністычная „падаўляючая большасьць". Яна магла прыняць любы закон, любое рашэньне. І прымала, і вырашала, і рабіла, што хацела, і не зьбіралася ўводзіць пасаду прэзыдэнта. Пакуль не адчула, як пад энэргіяй народнага рабочага руху захісталіся крэслы і намэнклятурная верхавіна. Вось тут і пачалі ратавацца, марыць пра моцную прэзыдэнцкую руку і надзвычайныя паўнамоцтвы, дэмагагічна абгрунтоўваючы свой кармушачны страх інтарэсамі народа і «Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі».

Уся структура кіраваьня на Беларусі зь верху да нізу наскрозь партыйна-намэнклятурная. Камуністычны апарат поўнасьцю ці амаль поўнасьцю кантралюе выканаўчую і савецкую ўладу, прэсу, радыё, тэлебачаньне – усе сродкі масавай ін-фармацыі. Наша Рэспубліка – гэта, вобразна кажучы, запаведнік камунізму. Цэлыя групы, пласты насельніцтва (напрыклад, сялянекалгаснікі) поўнасцю сацыяльна залежныя ад камуністычнай адміністрацыі, творыцца шмат бяспраўя, беззаконьня.

У такіх варунках выбраць свайго «прэзыдэнта» намэнклятуры будзе няцяжка. Нядаўні ашуканцкі фарс з «рэфэрэндумам» добра тое пацвярджае. Калі ж недзе надарацца цяжкасьці – пойдуць напралом, топчучы законы і мараль, выкарыстаюць і галасы чужога войска, і фальсіфікацыі, і ўсе сродкі, што апраўдваюць іхнія мэты. Камуністы заўсёды так рабілі. Успомнім выбары ў Саветы.

Для нармальнага функцыянаваньня прэзыдэнцкай пасады неабходны, перш за ўсё, прафэсійны дэмакратычны парлямант, які зьяўляецца процівагай уладзе прэзыдэнта і кантралюе яго. Добра, калі існуе грамадзянская супольнасьць і дэмакратычныя інстытуты кантролю за функцыямі кіраваньня, калі жывуць традыцыі шматпартыйнасьці, дзейнічаюць сьпелыя палітычныя партыі. Неабходна адпаведная вертыкальная структура прадстаўнічай і выканаўчай улады, а не яе імітацыя ў выглядзе Саветаў і іх ворганаў. Неабходна замацаваньне гэтай структуры ў Канстытуцыі Беларусі, патрэбны закон аб грамадзянстве, аб муніцыпальным кіраваньні. Усё гэта распрацавала Апазыцыя БНФ, і ўсё гэта было адкінута намэнклятурнай большасцю Вярхоўнага Савета.

Калі ж усяго гэтага няма, а існуе толькі партыйна-савецкая сістэма адміністраваньня пад кантролем і кіраўніцтвам ЦК КПБ – выбраньне прэзыдэнта з усімі яго паўнамоцтвамі аўтаматычна адчыняе магчымасьці да дыктатуры яго асобы і карпарацыі, што за ёй стаіць. Адным словам, зьяўляецца рэальная магчымасьць вяртаньня да абсалютнай улады першага сакратара ЦК КПБ, або крэатуры ЦК, толькі праз інстытут прэзыдэнцтва з бачнасьцю фармальнай легітымнасьці і законнасьці.

А зброя да новага дыктатарскага рэжыму камуністычнай намэнклятуры ўжо падрыхтавана. Гэта законапраект «Аб пераразмеркаваньні паўнамоцтваў паміж вышэйшымі дзяржаўнымі ворганамі», дзе функцыі Вярхоўнага Савета перадаюцца яго Прэзыдыюму, і законапраект «Аб прававым рэжыме надзвычайнага становішча», які ў поўным сэнсе антынародны.

Трэба заўважыць, што ў цяперашніх варунках на Беларусі нават дэмакратычны прэзыдэнт, калі б раптам ён быў выбраны (што, практычна, выключаецца), ня змог бы правесьці ніякіх

рэформаў. Яны захлынуліся б у партыйна-бюракратычным балоце Вярхоўнага Савета, Саўміна і ва ўсялякіх ворганах так званай савецкай улады. А ўсе свае грахі камуністы пастараліся б зваліць на гэтага дэмакратычнага прэзыдэнта і абвінавацілі б у пагаршэньні жыцця дэмакратычны народны рух. Гэта быў бы, як кажуць, прэзыдэнт-камікадзэ.

Рэальнай альтэрнатывай намэнклятурнаму «прэзыдэнцтву» можа стаць прафэсійны дэмакратычны парлямант. Пакуль што Беларусі трэба ісьці па шляху парляманцкай рэспублікі. Яна да гэтага больш падрыхтаваная. Акрамя таго, такі шлях гарантуе дэмакратыю на Беларусі, разьвіцьцё рэформаў, сацыяльныя перамены, рэалізацыю правоў чалавека, паступовую дэпартызацыю вытворчасьці, арганізацыяў, установаў, праваных ворганаў, палітычную дэманапалізацыю грамадзтва. Ён стасуецца з нашай палітычнай мэтай – незалежнай суверэннай Беларусяй як бязьядзернай зонай і нэўтральнай дзяржавай. Найбольш верагодны шлях да прафэсійнага парляманта – нечарговыя выбары.

Аднак прэзыдэнцтва патрэбна намэнклятуры не праз паўгода, не праз год, а цяпер, неадкладна. Яна баіцца восені. Бо ведае, якое жыцьцё падрыхтавала свайму народу. Таму ў законапраекце прадугледжана, што першы прэзыдэнт выбіраецца на сэсіі Вярхоўнага Савета. На сэсіі ж цяперашняга Вярхоўнага Савета, калі ЦК загадае, можна выбраць прэзыдэнтам нават каня, ня тое што першага сакратара.

Тым ня менш гэтае палажэньне законапраекта пры галасаваньні пакуль не прайшло. Большасьць прагаласавала за ўсенароднае выбраньне. Я кажу «пакуль», бо пытаньне пра заснаваньне пасады прэзыдэнта на Беларусі не зьяўляецца канстытуцыйнай нормай і будзе прынятае толькі тады, калі за адпаведную папраўку ў Канстытуцыю прагаласуе 2/3 дэпутатаў. (Дарэчы, камуністычны друк поўнасьцю дэзінфармаваў грамадкасьць Рэспублікі, паведаміўшы, што пытаньне з прэзыдэнцкай пасадай ужо вырашана.) Намэнклятуры неабходна правесьці канстытуцыйную папраўку аб прэзыдэнцтве. У ход пушчана хітрая дэмагогія, мэта якой – стварыць у тых дэпутатаў, што выступаюць за выбраньне прэзыдэнта ўсім народам, а не на сэсіі, перакананьне, што папраўка ў Канстытуцыю гарантуе гэтае палажэньне.

І шмат якія дэпутаты не разумеюць, што, як толькі будзе прынята папраўка ў Канстытуцыю аб пасадзе прэзыдэнта і аб выбраньні яго ўсенародным галасаваньнем, партгрупа тут жа правядзе звычайным галасаваньнем палажэньне ў закон аб выбраньні першага прэзыдэнта на гэтай сэсіі. Прыёмы і мэтады добра вядомыя. Тут і перагаласаваньне, і пастаноўка на галасаваньне фармальна зьмененай папраўкі пра выбраньне першага прэзыдэнта, і іншыя магчымасьці, пра якія намэнклятура добра ведае. У выніку ўсе дэпутаты, хто паверыць, будуць проста абдураны.

Таму дэпутатам належыць быць вельмі ўважлівымі. Але не прайграць у гэтай намэнклятурнай гульні можна толькі тады, калі тыя дэпутаты, што стаяць за прэзыдэнта, выбранага ўсенародна, і супраць выбраньня яго на сэсіі, не прагаласуюць за папраўку ў Канстытуцыю аб увядзеньні пасады прэзыдэнта на Беларусі. Калі ж гэтыя дэпутаты, наіўна паверыўшы, прагаласуюць за папраўку – яна можа набраць 2/3 галасоў і пройдзе. Тады можна не сумнявацца, што прэзыдэнта прапануюць выбраць зараз жа, на гэтай сэсіі.

***Што датычыць Апазыцыі Народнага Фронту, то яна, як было аб'яўлена, не галасуе ні за якія прапановы аб прэзыдэнцтве і ня йдзе ні на якія перамовы з партгрупай па гэтым пытаньні.****

У апошні момант намэнклаятура распаўсюдзіла новы тэкст законапраекта «Аб пераразмеркаваньні паўнамоцтваў паміж вышэйшымі дзяржаунымі ворганамі БССР». Працытую, чаго яны дамагаюцца:

*«Предоставить Президиуму Верховного Совета Белорусской ССР право:*

*– вносить в случае необходимости изменения в действующие законодательные акты Белорусской ССР;*

*– давать толкование законов Белорусской ССР;*

*– отменять решения областных и Минского городского Советов народных депутатов в случае несоответствия их закону;*

*– производить необходимые изменения в структуре Совета Министров БССР;*

*– вносить изменения в состав Верховного Суда Белорусской ССР, областных и Минского городского судов, Высшего хозяйственного суда БССР;*

*– объявлять мораторий на забастовки, митинги, уличные шествия, демонстрации и пикеты, дестабилизирующие обстановку в республике;*

*– рассматривать представления Прокурора Белорусской ССР и давать согласие на привлечение народного депутата местного Совета народных депутатов к уголовной ответственности, арест или применение мер административного взыскания, налагаемых в судебном порядке, при отсутствии на то согласия соответствующего местного Совета народных депутатов. При даче согласия на привлечение народного депутата местного Совета к ответственности Президиум Верховного Совета БССР лишает народного депутата депутатской неприкосновенности».*

Як бачым, гэтыя палажэньні гавораць самы за сябе. Калі такі закон прыняць, то Вярхоўны Савет, практычна, ўжо непатрэбны. Усім будзе распараджацца Прэзыдыюм. Дэпутаты ўсіх узроўняў будуць бяспраўныя перад ім, гэтак жа, як і насельніцтва. Неабмежаваную ўладу атрымаюць члены Прэзыдыюма.

Аналягічныя таталітарныя паўнамоцтвы павінен атрымаць Саўмін і прэм'ер В. Кебіч. Працытую толькі некалькі зь іх (у Вярхоўным Савеце ігнаруюць закон аб мовах. Большасьць дакумантаў рыхтуюць па-расейску):

«– устанавливать имущественную отв*етственность предприятий, учреждений и организаций, а также материальную ответственность их руководителей за отказ или уклонение от заключения хозяйственных договоров на поставку продукции, товаров, производство работ в соответствии с государственным заказом...»* А некалькімі абзацамі вышэй фальшыва пішацца пра пераход да «рынычнай эканомікі».

Прэм'ер В. Кебіч будзе *«отстранять от исполнения обязанностей руководящих работников предприятий, учреждений и организаций, относящихся к коллективным (!) формам собственности... освобождать от занимаемых должностей членов правительства.., назначать членов правительства.., отстранять от исполнения обязанностей должностных лиц исполнительных органов местных Советов народных депу-*

* У выніку правільна пабудаванай тактыкі і дружных умелых дзеяньняў дэпутацкай Апазыцыі БНФ, удалося злучыць ўсіх сумніўных і нязгодных, раскалоць камуністаў і, пасьля пераможнай парляманцкай дыскусіі, галасаваньнем правяліць на Сэсіі камуністычную авантуру пра прэзыдэнцтва. *(З. П.)*



*29. Шматсоттысячны пратэст рабочых Менска супраць дзеяньняў камуністычных уладаў. Красавік 1991 г.*

*татов»* і г. д. Законапраект, якім хочуць ліквідаваць функцыі Вярхоўнага Савета і ўвесьці партыйна-адмінстрацыйную дыктатуру ў выпадку, калі праваліцца задума аб увядзеньні прэзыдэнцтва.

Разгляд законапраекта аб увядзенні пасады прэзыдэнта прадоўжыцца зноў з 26 чэрвеня. І няма гарантыі, што пры апусьцелай плошчы і маўклівай апатыі народа не пачнецца на Беларусі яе чарговая ціхая драма.*

***Зянон ПАЗЬНЯК,***
***народны дэпутат БССР.***

*Надрукавана: (Народная Газэта, – 1991, 26 чэрвеня)*

## Шлях – 2

*Няма нічога цяжэйшага,*
*Як бачыць, што справа,*
*Якой прысьвяціў жыцьцё,*
*Падае, разбураецца на вачах.*
*І ўсе твае вынікі*
*Руйнуюцца ў друз,*
*Рагочуць ворагі на папялішчах...*
*Але не апускайма рук,*
*Не спыняймася.*
*Бо толькі калі выйдзем на шлях,*
*Убачым будучыню.*

*2004 г.*

* * *

*Бягуць гады.*
*Так хутка.*
*І, як раней,*
*пакутуе*
*наш народ.*

*2003 г.*

* Працяг драмы адбыўся 19 жніўня – камуністычны апаратны путч у Маскве (ГКЧП). Спроба ўвесьці „прэзыдэнцтва” на Беларусі (дыктатуру) перад маскоўскім путчам наводзіць на думку аб інфармаванасьці кіраўніцтва ЦК КПБ пра маскоўскія пляны а магчыма і ўдзел у іх. *(З.П.).*

# ПАДЫМАЕЦЦА БЕЛАРУСЬ

Ужо ў канцы лютага гэтага года стала зразумела, што вылазка намэнклятурных камуністаў, як яны кажуць, «з акопаў», што пачалася з восені 1990 года, правалілася. Палітычны фарс з рэфэрэндумам*, адміністрацыйная бездапаможнасьць у эканоміцы і сацыялістычная дэмагогія – усё гэта павінна было прывесьці да сацыяльнай актывізацыі пратэсту супраць бальшавіцкага рэжыму на Беларусі. Чакалася, што выступленьне людзей і ўздым масавага дэмакратычнага руху ў Рэспубліцы пачнуцца дзесьці ў траўні – праз месяц-паўтара пасьля гвалтоўнага павышэньня цэнаў. Ведаючы цярплівасьць нашага народа і дэмагагічныя прыёмы камуністычнай прапаганды, можна яшчэ было меркаваць, што нашы людзі стрываюць і гэтую зьнявагу. Але, дзякуй Богу, на гэты раз народ не сьцярпеў. У пачатку красавіка, адразу пасля павышэньня цэнаў, рабочыя выйшлі на вуліцы.

На Беларусі склаліся дагэтуль такія абставіны, што ніякі грамадзкі рух ня мог стаць масавым. Камуністы больш чым за 70 гадоў так разбурылі беларускую культуру, так фізічна, духоўна і нацыянальна абяскровілі наш народ, што людзі ў большасці згубілі нацыянальную сьвядомасьць – у выніку нацыя стала разьяднанай, бясьсільнай, а народ безабаронным перад сацыяльным прыгнётам, эксплуатацыяй, пошасьцямі і катаклізмамі (напрыклад, чарнобыльскай катастрофай) – перад зьявамі, якія патрабуюць для змаганьня зь імі аб'яднаньня народнага духу і нацыянальнага адзінства. Патрэбен быў час, каб аднавіць асновы грамадзянскай супольнасьці і каб пачаўся працэс адраджэньня народа. Два з паловай гады цярпліва працаваў Беларускі Народны Фронт на ніве дэмакратыі і свабоды, набліжаючы час яднаньня. І вось гэты час настае. На Беларусі пачаўся рабочы рух, народ выйшаў на плошчы з патрабаваньнямі, якія вось ужо каторы год выстаўляе Народны Фронт. Мінулі дні, і людзям, якія здольны нешта разумець у палітычных працэсах, становіцца зразумела, што ў сацыяльна-палітычным сэнсе масавы рабочы рух і рух БНФ, практычна, адно і тое ж. Невыпадкова, што Народны Фронт, яго дэпутаты ў Вярхоўным Савеце адразу ж без ваганьня рэальна патрымалі страйкуючых, невыпадкова, што ў Народным Фронце шмат рабочых, што ў БНФ яшчэ ў 1989 годзе нарадзілася ідэя рабочага руху і пачаў ствараццa рабочы саюз, невыпадкова, што БНФ ня толькі яднаецца, але часам зьліваецца з рабочым рухам. Бо і Народны Фронт, і выступ рабочых Беларусі – гэта рух народа, змаганьне за правы чалавека, за дэмакратыю і справядлівасьць, за паляпшэньне жыцьця, за волю і свабоду Бацькаўшчыны.

На працягу двух апошніх гадоў мы былі сьведкамі фэнаменальнай камуністычнай хлусьні пра Народны Фронт, хамскіх паклёпаў, брыдоты, якую вылівалі на галовы кіраўнікоў і актывістаў БНФ партыйныя апаратчыкі і прадажныя журналісты. Пры гэтым апэлявалі да рабочага класа, фальшыва ўсхвалялі яго, называлі апорай «партыі», дэзінфармавалі і настройвалі супраць «экстремистов из БНФ, рвущихся к власти».

Але вось рабочы кляс застрайкаваў. Яму надакучылі сацыялістычныя экспэрыменты. Ён больш ня хоча быць аб'ектам эксплуатацыі і ашуканства. І што ж? Гэта, аказваецца, таксама «экстремисты», «деструктивные силы», «элементы». Супроць рабочых заклікаюць ужыць сілу, абвінавачваюць міліцыю ў бязьдзейнасьці, яна быццам бы дрэнна абараняла асноўныя партыйныя азадкі, іхнюю антынародную палітыку і прывілеі. Камуністы аказаліся няздольнымі весьці сумленную размову з рабочымі.

КПСС-КПБ цяпер – гэта партыя намэнклятурных апаратчыкаў, якія абапіраюцца самі на сябе, на сваю сістэму ўлады, што ўзурпавалі ў народа. Гэта партыя злачынных банкрутаў, якія топяцца і цягнуць на дно ўсю нашу Рэспубліку, даводзяць да галечы, да культурнага заняпаду і радыяцыйнага выміраньня наш народ. Нарэшце, працоўныя людзі Беларусі перамаглі страх і голасна сказалі пра свой стан на ўвесь свет.

Якія ж бліжэйшыя пэрспэктывы Беларусі і дэмакратычнага руху? Рабочыя выставілі палітычныя патрабаваньні Вярхоўнаму Савету БССР. 21 траўня пачалася сэсія, на якой будуць разглядацца патрабаваньні рабочых. Аднак цяперашні Вярхоўны Савет БССР, дзе засільле камуністычнай намэнклятуры і партгасактыву, няздольны вырашыць пытаньні, што стаяць перад Рэспублікай. Тады аб'ектыўна зноў паўстане пытаньне пра яго самароспуск. (Пра гэта было заяўлена Апазыцыяй БНФ на нечарговай сэсіі ў кастрычніку 1990 г.).

Апазыцыя БНФ ў Вярхоўным Савеце падрыхтавала праект закона аб выбарах. Ён будзе прапанаваны на сэсіі для прыняцьця замест існуючага антыдэмакратычнага закона, згодна зь якім выбрана цяперашняя складовая частка Вярхоўнага Савета і згодна зь якім вось ужо другі год працягваюцца на Беларусі карыкатурныя выбары, у якіх народ ня хоча ўдзельнічаць.

Дэпутацкая Апазыцыя Беларускага Народнага Фронту прааналізавала становішча, якое склалася ў Рэспубліцы ў выніку дзейнасьці КПБ-КПСС і камуністычнага ўраду за апошні год. (Нагадаем, што ў 1990 г. фракцыя БНФ адмовілася прымаць удзел у галасаваньні за склад цяперашняга Ўраду БССР, прадбачачы яго банкруцтва.) У выніку гарбачоўскага павышэньня цэнаў жыцьцёвы ўзровень насельніцтва Беларусі панізіўся, а кошт жыцця падаражэў ў сярэднім у 2,3 раза. Дарэшты расхістана фінансавая сістэма Рэспублікі. Законы аб нацыянальным банку і банкаўскай дзейнасьці, як і іншыя законы, не выконваюцца. Дэкларацыя пра дзяржаўны суверэнітэтператворана ў фікцыю. За чатыры месяцы бягучага года дэфіцыт бюджэту Рэспублікі павялічыўся амаль у два разы і да канца года (а мо і раней) дасягне звыш 7 мільярдаў рублёў (35 працэнтаў). А гэта значыць, што пры захаваньні існуючага становішча Беларуская ССР у канцы гэтага года пацерпіць жахлівы фінансавы крах і поўнае банкруцтва. Такі чакаецца вынік самаадданай працы беларускага народа пры каляніяльнай палітыцы Масквы і кампрадорскім кіраўніцтве рэспубліканскай партыйнай бюракратыі.

***Які выхад? У становішчы, якое склалася ў Рэспубліцы, патрэбны хуткія радыкальныя, безадказныя рэформы і пераход на іх аснове да рыначнай сістэмы гаспадаркі. Умацаваньне рэспубліканскай фінансавай структуры (свая канвэрсуемая валюта, нацыянальны банк, мытная прастора). Прыватызацыя зямлі і дзяржаўнай маёмасьці на аснове грамадзянства Беларусі. Прыватызацыя сродкаў вытворчасьці.***

Нагадаю, што рэформы павінны быць хуткімі і поўнымі (г.зн. завершанымі). Павольны, палавіністы, расьцягнуты пераход да рынку немагчымы, як немагчымая расьцягнутая на гады апэрацыя жывога арганізма (бо чалавек сканае). Уся гэтая цяперашняя эканамічная гарбачоўшчына, рыжкоўшчына, абалкіншчына з іх дактрынай паступовага пераходу да рынку

* Маецца на ўвазе „Гарбачоўскі" рэфэрэндум аб захаваньні СССР. *(Рэд.)*

(а на справе імкненьнем мадэрнізаваць адміністрацыйна-партыйную дзяржаўную сістэму) – усе гэта ёсьць сацыяльнае невуцтва і эканамічнае злачынства супраць рэспублік і народаў. Усё гэта прывяло замест рынку да спэкуляцыі, марнатраўства працы, да зьбядненьня людзей.

Аднак вопыт паказвае, што рэформы і выратаваньне Рэспублікі пры існуючых палітычных ўмовах немагчымыя. Беларусь ня зможа правесьці рэформы і выйсьці з крызісу, ня маючы самастойнасьці і знаходзячыся ў каланіяльнай залежнасьці ад СССР. ***Становішча, калі на Беларусі вырабляюцца тавары, а грошы (паперкі) друкуюцца ў Маскве, адлюстроўвае тое цынічнае рабаўніцтва, якому падвяргаецца наш народ. Толькі з-за так званага падатку з абароту ад Рэспублікі адбіраюць 5,5 мільярда рублёў. Гэта значыць, што тавары, выробленыя на так званых саюзных прадпрыемствах Беларусі, нас вымушаюць прадаваць Саюзу ССР па нізкіх аптовых цэнах, а СССР прадае іх па розьнічных (у дзясяткі разоў вышэйшых).***

На ваенныя расходы, утрыманьне Савецкай Арміі, яе базаў, гарнізонаў і генэралаў Беларусь выдаткоўвае мільярды (!) рублёў. Пры гэтым на тэрыторыі чарнобыльскай Беларусі знаходзяцца 23 стратэгічныя ядзерныя базы з 44 існуючых у СССР (!). Велізарныя плошчы лясоў і палёў Беларусі занятыя пад ваенныя палігоны і гарнізоны, і за гэтыя занятыя землі Рэспубліка не атрымлівае ні капейкі. На нашай зямлі топчацца больш чым паўмільённае савецкае войска, і колькасьць яго нястрымана расьце за кошт перадыслацыраваных сюды частак зь Нямеччыны, Вэнгрыі, Чэхаславаччыны. Ім на чарнобыльскай Беларусі (але ў чыстых зонах) будуюць у першую чаргу жыльлё і кватэры. Нямецкі ўрад па дамоўленасьці з урадам СССР выдаткаваў на гэтае будаўніцтва 7,8 мільярда марак, на якія будзе пабудавана 2 мільёны квадратных мэтраў жыльля для савецкіх ваенных.

Наша Бацькаўшчына ператворана савецкай ваеншчынай у стартавую пляцоўку для ядзерных ракетаў, у ваенна-стратэгічны плацдарм, прысутнасьць беларускага народа на якім немэтазгодная і непатрэбная. Таму першым нашым патрабаваньнем павінна стаць: «забірайце вашы ракеты і войска зь Беларусі!»

Мы маем чыгункі, але прыбытак ад іх эксплуатацыі (1,5 мільярда руб.) забірае ад нас Масква. Мы перажываем чарнобыльскую трагедыю, ядзерны генацыд, створаны для нас камуністычнай сістэмай, але выратавацца ад яго вось ужо шосты год не маем магчымасьці. Бо, па сутнасьці, не распараджаемся сваёй эканомікай, вынікамі сваёй працы, нашымі сродкамі і вымушаны прасіць у Савецкага Саюза сваё, пытаць дазволу, якой нагой ступаць на ўласнай зямлі, дзе праводзяць над намі радыяцыйныя экспэрыменты.

У такіх варунках ніякія эканамічныя рэформы, ніякі „выхад з крызісу” ня будуць пасьпяховымі. Для паратунку бела-




***30. Народны заклік.***

рускага народа і беларускай эканомікі неабходны суверэнітэт Рэспублікі – дзяржаўная незалежнасьць Беларусі. Гэта першая аб'ектыўная ўмова паляпшэньня жыцьця.

***Другой абавязковай палітычнай умовай сацыяльна-эканамічных рэформаў зьяуляецца дэкамунізацыя грамадзтва і, упершую чаргу, дэпартызацыя дзяржаўных установаў, суда, пракуратуры, МУС, КДБ, школаў, вучэльняў, арганізацыяў і прадпрыемстваў.*** КПСС як карпаратыўная ценявая структура таталітарнай улады выяўляе сацыяльную сутнасьць бюракратыі. Яна антырыначная па сваёй прыродзе і ідэалёгіі. У КПСС-сістэме адсутнічае механізм самаразьвіцьця, таму яна ў прынцыпе не рэфармуецца.

Разважаньні намэнклятурных перабудоўшчыкаў пра «паступовы» пераход да «рэгулюемага» (?) рынку пры авангарднай ролі КПСС, увесь гэты шасцігадовы блуд ужо немагчыма слухаць. Ніякага рынку, ніякага «паляпшэньня» жыцьця не адбудзецца, пакуль пануе КПСС, пакуль яна апутвае ўсе структуры грамадзтва, усе сфэры чалавечай дзейнасьці.

Без выкананьня гэтых дзвюх палітычных умоваў рэальныя сацыяльна-эканамічныя рэформы на Беларусі не адбудуцца. Тым часам яны абавязковыя і павінны праводзіцца хутка. Становішча такое, што нельга марудзіць.

Беларускі рабочы кляс паказаў ня толькі сваю згуртаванасьць, але і кемлівасць, разуменьне сітуацыі, патрабуючы дзеля паляпшэньня сацыяльна-эканамічнага стану палітычных пераменаў. Камуністычная прапаганда (праз прафсаюзы і т. п.) імкнецца часам зьбіць рабочы рух на шлях толькі эканамічных дамаганьняў. Так афіцыёзныя прафсаюзы і камуністы хочуць забратаць рабочых у сваю аброць і захапіць ініцыятыву. Але нічога не атрымаецца. Стварэньне адпаведных палітычных умоваў аб'ектыўна неабходнае для руху рэформаў на Беларусі. Тут патрабаваньне жыцьця. У гэтым даўно разабраўся Народны Фронт і, дзякуй Богу, – працоўныя людзі Беларусі таксама.

Безумоўна, рабочых будуць старацца застрашыць, падкупіць, дэзарганізаваць, дэзарыентаваць і ашукаць. Подлую ролю камуністы рыхтуюць для так званых савецкіх прафсаюзаў – бюракратычнай структуры, на сумленьні якой мільёны растранжыраных народных грошай, здрада працоўным і поўнае супрацоўніцтва з таталітарнай партсістэмай. Можна не сумнявацца (гэта ўжо відаць), што, калі камуністычныя арганізацыі на прадпрыемствах будуць рэфармаваныя, бальшавікі пастараюцца ўзьлезьці на шыю працоўных праз «савецкія прафсаюзы». Тут ёсць, над чым падумаць, але гэта пакуль што ня так актуальна.

У рэчышчы патрабаваньняў суверэнітэту і дэпартызацыі становіцца зразумелым, што існуючы камуністычны ўрад БССР, які засьведчыў сваю няздольнасьць і некампетэнтнасьць, павінен пайсці ў адстаўку. Імкненьне тых, хто вядзе Рэспубліку ў бездань, прыдумаць нейкую антыкрызісную праграму выратаваньня існуючай сістэмы ўлады і яе адміністрацыйнай эканомікі выглядае недарэчным. Хоць Старшыня Савета Міністраў В. Кебіч і выяўляе тут пэўныя вынаходніцтвы. Так, напрыклад, у якасці «экспэртаў» «антыкрызіснай праграмы» Ўрада БССР ён запрасіў маскоўскіх эканамістаў-лібэралаў М. Шмялёва і Лісічкіна. М. Шмялёў ужо пасьпеў нават даць інтэрв'ю па радыё, дзе пахваліў праграму Урада БССР і зганіў наш рабочы рух за палітычныя патрабаваньні і асабліва за непашану да Гарбачова. Гэта вельмі засмуціла эканаміста, бо, як ён сказаў, упершыню «мы» дэмакратычным шляхам атрымалі прэзыдэнта, жыць да жыць і на табе – у адстаўку.

Памятаю, неяк Янка Брыль вельмі дасьціпна пісаў пра адсталасць думаньня і правінцыялізм маскоўскіх літаратараў. Зьява гэта, вядома, шырэйшая за літратуру. Але спадару Кебічу не адмовіш у веданьні халуйскай псіхалёгіі і паніжэньня перад Масквой партыйных намэнклятуршчыкаў, што сядзяць у Вярхоўным Савеце БССР. Пэўна, посьпех экспэртызе спадара Шмялёва забясьпечаны.

Пытаньне пра новы ўрад будзе, аднак, бессэнсоўным – без вырашэньня пытаньня аб нечарговых выбарах. Бо які б ні быў новы урад, хоць бы сабе геніяльны і самы дэмакратычны, ён ня зможа ажыцьцявіць сацыяльна-эканамічныя пераўтварэньні пры цяперашнім Вярхоўным Савеце. Цалкам верагодна, што пытаньне самароспуску Вярхоўнага Савета БССР і новыя выбары стануць галоўнай палітычнай праблемай бліжэйшага часу. Аднак вырашыць яе можна будзе толькі сумесна, усім народам, пры яго актыўнай і масавай дапамозе. Разглядаецца лёс Беларусі. Не прасьпім жа яе Адраджэньне.

***Зянон ПАЗЬНЯК,***
***народны дэпутат БССР***

*Надрукавана: („ Разбуженная Республика”,*
*– 1991, чэрвень-ліпень, (№ 1); „Народная Газэта, – 1991)*

# ТОЛЬКІ НОВЫЯ ВЫБАРЫ МОГУЦЬ ПАПРАВІЦЬ СТАНОВІШЧА

***(Зь лідарам БНФ гутарыць польская журналістка Івона КЛЯМАН)***

**Карэспандэнт: – Спадар Пазьняк, як Старшыня Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне", дэпутат Вярхоўнага Савету БССР, Вы сёньня вядомы ня толькі на Беларусі. Скажыце, якія, па-вашаму, найбольш важныя праблемы, зьвязаныя з адраджэньнем Беларусі, яе сувэрэнітэтам, патрабуюць вырашэньня ў бліжэйшы час?**

**З. Пазьняк:** – Усе палітычныя, культурна-нацыянальныя й эканамічныя пытаньні, якія стаяць цяпер перад Беларусяй, – узаемазалежныя. Тым ня менш палітычная практыка апошніх гадоў добра пацьвердзіла жыцьцёвую праўду, што без свабоды народу й незалежнасьці дзяржавы невырашальныя ніякія іншыя пытаньні нацыянальнага разьвіцьця.

Свабода й незалежнасьць Беларусі – галоўная задача нацыі. Яшчэ няма паўсюднага й актыўнага ўсьведамленьня гэтае неабходнасьці ў беларускім грамадзтве, перашкаджае камуністычная прапаганда, але сьвядомасьць людзей імкліва разьвіваецца якраз у гэтым накірунку праз разуменьне прычын і прыроды сваёй сацыяльна-эканамічнай эксплуатацыі. Гэта добра пацьвердзілі красавіцкія рабочыя забастоўкі на Беларусі, дзе патрабаваньне дзяржаўнага суверэнітэту было адным з галоўных.

Для дасягненьня рэальнага й поўнага сувэрэнітэту патрэбныя радыкальныя палітычныя перамены ў сістэме й характары ўлады. Цяперашні камуністычны ўрад на чале з В. Кебічам і цяперашні пракамуністычны Вярхоўны Савет Рэспублікі ня ў стане нічога кардынальна вырашыць з прычыны сваёй мэтанакіраванай антынароднасьці й „антысувэрэннасьці" ў дачыненьні да Беларусі.

Папрвіць становішча могуць толькі новыя выбары, стварэньне прафэсійнага парляманту й новага пераходнага ўраду. Пытаньне аб новых выбарах і роспуску існуючага Вярхоўнага Савету Апазыцыя БНФ паставіла яшчэ ў канцы 1990 году. У красавіку 1991 г. гэтае патрабаваньне падтрымалі рабочыя. Пакуль існуе старое бальшавіцкае кіраўніцтва, сувэрэнітэт Беларусі будзе толькі на паперы.

**Кар.: – Наколькі папулярны на Беларусі БНФ, ці падтрымлівае народ ягоныя ідэі?**

**З. П.:** – Народ Беларусі, у пераважнай большасьці, падтрымлівае ідэі БНФ і жыве яго ідэямі, але часта не здагадваецца, што гэта ідэі Народнага Фронту. На Беларусі татальную дэзінфармацыйную ролю адыгрывае камуністычна-гэбельсаўская прапаганда, якая штодня стварае руху БНФ імідж „партыі", аналягічнай КПСС, толькі антыкамуністычнай. Гэта вельмі цікавая зьява ў палітыцы, калі гінучая таталітарная структура, каб скампрамэтаваць дэмакратычны народны рух, сьвядома параўноўвае яго з сабою, ведаючы сваю нячыстасьць і адмоўнае стаўленьне народу да камуністаў. Маўляў, уся справа толькі ў барацьбе за ўладу. Возьме яе БНФ, і нічога ня зьменіцца. Той самы камунізм, толькі наадварот.

Улічыўшы, што ўсе сродкі масавай інфармацыі ў руках камуністычнага партапарату, дэзінфармацыйная роля гэтай антыдэмакратычнай прапаганды мае пэўнае ўзьдзеяньне на палітычна адсталыя пласты грамадзтва.

Беларускую культуру й нацыянальную сьведамасьць за апошнія 70 гадоў моцна разбурылі камуністы і савецкая акупацыя. Яны падарвалі кансалідацыйныя асновы беларускай нацыі. Таму, пакуль гэтыя кансалідуючыя асновы нацыянальнае сьведамасьці ня будуць адроджаныя, ніякі палітычны рух на Беларусі ня можа быць масавы. Гэта нам было зразумела з самага пачатку стварэньня БНФ. Патрэбны час. Хутка будзе тры гады ад пачатку дзейнасьці Народнага Фронту, і гэты час надыходзіць. Большасьць беларускага грамадзтва станоўча ўспрымае ідэі адраджэньня, дэмакратыі, незалежнасьці. Палітычная будучыня БНФ яшчэ наперадзе.

**Кар.: – Ці мае БНФ праграму выхаду Рэспублікі з эканамічнага крызісу, альтэрнатыўную ўрадавай? Якія шляхі яе рэалізацыі і, у сувязі з гэтым, Вашае стаўленьне да калгасаў і іншых формаў гаспадараньня?**

**З. П.:** – Праграмы выхаду з эканамічнага крызісу на Беларусі не існуе. Камуністычная адміністрацыя ня можа прапанаваць такую праграму, бо пры камуністычным рэжыме выйсьці з крызісу немагчыма. Трэба перамяніць сістэму. А паколькі ліквідаваць сама сябе намэнклятурная ўлада не зьбіраецца, то пад выглядам праграмы прапануе розную адміністрацыйную халтуру. Колькі ўжо такіх „праграмаў"-халтураў прапаноўвалі ў Вярхоўным Савеце, колькі прынялі. А выніку, вядома, ніякага няма й быць ня можа.

З другога боку, Беларускі Народны Фронт, дакладней яго фракцыя ў Вярхоўным Савеце, даўно распрацавала праграмныя прынцыпы эканамічных рэфэрмаў пераходу да рынку. Ствараць жа падрабязную праграму няма сэнсу, бо пры камуністычнай сістэме такую праграму ажыцьцявіць немагчыма. Патрэбныя радыкальныя й дэмакратычныя палітычныя перамены, каб узьніклі гарантыі рэалізацыі эканамічных антыкрызісных праграмаў.

Што да калгасаў, то яны як форма камуністычнага прыгону наўрад ці маюць пэрспэктыву. Аднак, пасьля таго, як пачнуць існаваць і разьвівацца прыватныя гаспадаркі, калгасы яшчэ застануцца. Я прадбачу пераходны пэрыяд, калі будуць існаваць розныя формы ўласнасьці, у тым ліку й калгасы. Але зь цягам часу ўдзельная вага розных формаў гаспадараньня будзе пераразьмяркоўвацца. Магчыма, перафармаваўшыся, і калгасы знойдуць нейкую нішу для існаваньня, але колькі-небудзь істотнай ролі ў сельскай гаспадарцы яны адыгрываць ня будуць. Праўда, гэта здарыцца не адразу. Пэрыяд адраджэньня сельскай гаспадаркі будзе ў нас досыць доўгі, бо сялянства ў значнай ступені зьнішчанае.

**Кар.: – Каталіцкі касьцёл і расейская праваслаўная царква на Беларусі. Якая, на Вашу думку, роля рэлігіі ў духоўным адраджэньні беларускага народу?**

**З. П.:** – Трагедыя беларускага народу ў тым, што варожыя сілы адарвалі ад яго хрысьціянскую рэлігію. У першай палове XIX стагоддзя расейскі царызм разам з расейскай праваслаўнай царквою зьнішчылі Унію (грэка-каталіцтва) на Беларусі. Гэта быў сапраўдны генацыд на нацыянальна-канфэсійнай аснове – забойствы людзей, разбурэньне цэркваў, спаленьне кніг і абразоў. А між тым 80 адсоткаў насельніцтва Беларусі былі ўніятамі. Кроў уніяцтва ляжыць на расейскім праваслаўі. Я ня бачу ніякай станоўчай ролі, ніякай маральнай будучыні цяперашняга кіраўніцтва расейска-маскоўскага праваслаўя на Беларусі, калі не адбудзецца пакаяньне за пакуты, за кроў нявінна забітых уніятаў, за зьнішчэньне канфэсійнай культуры. І, як напамінак пра гэта, Сьвятая Унія на Беларусі адраджаецца.

Не сумняваюся, што Беларуская Праваслаўная Аўтакефальная Царква, што існуе ў вольным сьвеце, пашырыць сваё дзеяньне зь цягам часу і на этнічную Беларусь.

Праваслаўе на Беларусі для беларускага народу павінна быць беларускае, сьвятое й хрысьціянскае, а не расейскае, бальшавіцкае, чарнасотніцкае, ці якое яшчэ. Яно тут вельмі старажытнае і не павінна падпарадкоўвацца Маскве. Калі Беларусь мела свае вялікія культурныя праваслаўныя цэнтры й квітнеючыя хрысьціянскія гарады, Масквы яшчэ не існавала ў прыродзе.

Я 25 гадоў жыцьця аддаў ахове помнікаў гісторыі й культуры. Гэта было зьнясільваючае змаганьне з бальшавіцкімі чыноўнікамі, з усёй гэтай д'ябальскай сістэмай. І ведаеце што зьдзіўляе? Праваслаўнае і каталіцкае сьвятарства й кіраўніцтва пальцам не варушылі, каб дапамагчы беларускай інтэлігенцыі і энтузіястам ратаваць ад разбурэньня цэрквы, касьцёлы, кляштары, крыжы, капліцы, могілкі. Калі што тут і засталося пасьля бальшавікоў (а ў Менску, напрыклад, прышлося змагацца за кожны дом), то гісторыя павінна быць удзячна беларускай інтэлігенцыі. Дарэчы, і атэістычнай таксама.

У той самы час ксяндзы й папы сядзелі ціха, як мышы, і нават тлусьцелі ад бязьдзеяньня. Выгадная была пазыцыя, апраўданая ганеньнем. Памятаю, якая зацятая барацьба адбывалася за захаваньне ад разбурэньня касьцёла Сымона й Алены ў Менску (так званага „Чырвонага касьцёла". Я, дарэчы, займаўся яго гісторыяй). Сто разоў яго зьбіраліся разбурыць, зьнесьці. Беларускай інтэлігенцыі, мастакам, гісторыкам зь вялікай цяжкасьцю ўдалося абараніць будынак. Знайшлі яму прызначэньне, каб не ўзарвалі, каб толькі стаяў. І вось цяпер, калі выяўляюцца першыя вынікі дэмакратычнага руху, калі дамагліся перадачы храмаў вернікам (а гэта было запісана ў першай праграме БНФ), беларуская дэмакратычная інтэлігенцыя атрымала смуродлівы плявок у твар ад ціхіх сьвятароў, якія раней і на Беларусі не жылі. А між тым, паводле бальшавіцкіх плянаў, на месцы Чырвонага касьцёла ў Менску даўно павінен стаяць кінатэатар „Космас". Сталася б так – і праблемы б не было.




***31. Народная пазыцыя.***

Ксяндзы і асабліва папы цяпер падтрымліваюць камуністычную намэнклятуру, начальства, засядаюць у Вярхоўным Савеце і, дарэчы, блякуюцца з партгрупай КПБ, нават падпісваюць агульныя лісты з камуністамі супраць дэмакратаў.

Аднак камунізм канае. Распад камунізму – аб'ектыўны гістарычны працэс. Народ Беларусі, ў адрозьненьне ад папоў і некаторых ксяндзоў, не падтрымлівае камуністычную намэнклятуру. Цікава, што яны скажуць потым, і прытым скора?

Выснова з гэтага адна – сьвятары не павінны займацца палітыкай, засядаць у Вярхоўных Саветах і парлямантах. Ні да чаго добрага гэта не прыводзіць.

Бяда ў тым, што, пасьля зьнішчэньня Уніі, рэлігія на Беларусі стала зброяй палітыкі й маніпуляцыяў варожых беларускаму народу сілаў. Праз расейскае праваслаўе царызм і расейскія шавіністы (а цяпер камуністы) праводзілі тут палітыку русіфікацыі.

Каталіцызм імкнуліся выкарыстаць на Беларусі польскія шавіністы як сродак палянізацыі беларусаў, чым нанесьлі вялікую шкоду беларусам і ня меншую самым сабе і каталіцызму. Ня ведаю толькі, ці ў стане цяперашнія шавіністы гэта зразумець. Будучыню каталіцтва ў вольнай Беларусі мы бачым разам з беларускім народам, зь яго мовай, культурай і адраджэньнем. Інакш гэтую будучыню чакае марнае жыцьцё. Шавіністам трэба пазбаўляцца ад ілюзіяў. ***Вольная незалежная Беларусь будзе. Будзе, як ёсьць Бог на небе.***

Станоўчую засьцерагальную ад палянізацыі ролю адыгрывае праваслаўная царква на Беласточчыне. Нядаўна, разам з ростам польскага шавінізму, тут былі зьдзейсьненыя акты варварства – спаленыя дзевяць праваслаўных храмаў. Аднак праваслаўная царква на Беласточчыне карыстаецца расейскаю мовай, яна не пазбаўлена чужых стэрэатыпаў, выконвае толькі кансэрватыўную, але не адраджэнскую, не генэруючую духоўную, нацыянальную сьведамасьць функцыю. Добра, калі сьвятар стаіць блізка да людзей, ведае ня толькі дзяржаўную мову народу, але й яе жывыя дыялекты, гаворкі („мікрамовы"). Добра, калі беларус-паляшук з-пад Берасьця чуе ў царкве й сваю гаворку, адчувае свой дом, а беларус на Браншчыне ці на Смаленшчыне – сваю спрадвечную мову, што ня ўмерла яшчэ й там. А між тым, што чуюць яны, што слухаем мы ўсе?

Толькі незалежная дэмакратычная дзяржава-Беларусь зможа даць свабоду стваральнай стыхіі народу, гэтаму сьведчаньню гістарызму, шматаблічнасьці й жыцьцёвасьці беларускае нацыі.

Беларускі Народны Фронт ставіцца аднолькава й падтрымлівае ўсе традыцыйныя канфэсіі на Беларусі. Ніводнай не аддаецца перавагі. Асновай адраджэньня й кансалідацыі на Беларусі зьяўляецца нацыянальная сьведамасьць, а не рэлігія, як у Польшчы. Рэлігія можа скарыстаць для сябе вынікі беларускага нацыянальнага адраджэньня, дапамагчы альбо запярэчыць яму. Яе справа.

Але рэлігія, якая не спрыяе людзям у іх нацыянальна-духовым разьвіцьці, рэлігія, што абыякавая да народу, не мацуе культуру і дух нацыі, не дапамагае ёй духова адрадзіцца, выбрацца з сатанінскага камуністычнага балота, – такая рэлігія ня мае ў народзе вялікае пэрспэктывы. На Беларусі росквіт будзе ў той канфэсіі, якая падтрымае адраджэньне Беларусі.

*Надрукавана: („Свабода",– 1991, жнівень, (№ 11).*
*(Адначасна інтэрв'ю публікуецца ў польскім друку.)*

# ВАДА ЗЬМЯШАЛАСЯ З КРЫВЁЙ

## АД АЎТАРА

**Гэты артыкул быў напісаны для газэты «Звязда», якая, згодна грыфу на першай старонцы, зьяўляецца, у прыватнасьці, ворганам Вярхоўнага Савета БССР. Рэдакцыя нашай, як я меркаваў, дэпутацкай трыбуны «думала» цэлы тыдзень (нават рэдкалегію сабралі). Нарэшце, намесьнік галоўнага рэдактара М. Міхаевіч паведаміў, што надрукаваць ня могуць, бо «Звязда» – гэта орган ЦК КПБ, які лічыцца заснавальнікам газэты. «Але ў грыфе значыцца, што газэта таксама ворган Вярхоўнага Савета», – зазначыў я. «Мы ў гэтым не вінаватыя, – было ў адказ, – вярхі ня хочуць здымаць грыф. Мы падпарадкоўваемся ЦК...»**

**Дзіўны выпадак. Можа, трэба падаць у суд на гэты ЦК за выкарыстаньне назвы Вярхоўнага Савета і ашуканства чытачоў? Ды й за рэкляму плаціць трэба. Зрэшты, калі і надалей будзе прадаўжацца такая містыфікацыя, то, можа, і мне прыпісаць грыф Вярхоўнага Савета да газэты «Навіны БНФ», заснавальнікам якой я фармальна зьяўляюся? Быць дзяржаўнай газэтай прэстыжна – і вага падымаецца, і значэньне. Варта падумаць.**

**Зыходзячы з вышэйсказанага, прашу надрукаваць артыкул на старонках «Народнай газэты».**

**Зянон ПАЗЬНЯК, народны дэпутат БССР.**

## АД РЭДАКЦЫ «НАРОДНАЙ ГАЗЕТЫ»

**Мы зьвязаліся з кіраўніцтвам „Звязды", якое пацьвердзіла сваё рашэньне. У той жа час ня бачым падставаў адмовіць народному дэпутату БССР у праве на публічнае выступленьне. Як не адмаўляем яго апанэнтам магчымасьці ўступіць у палеміку.**

* * *

Сёлета ўвесь гуманны сьвет адзначаў 50 гадоў ад пачатку Другой сусьветнай вайны. Загінулі мільёны нявінных людзей ня толькі на франтах, але і ў лягерах сьмерці ў Асвенцыме і на Калыме, у Дахаў і Карлагу, Бухенвальдзе і Варкуце, ад гестапаўскіх катаваньняў і пад кулямі энкавэдзісцкіх падонкаў розных „спэцатрадаў", што стралялі салдатам у плечы, стваралі „шпіёнаў" і „ворагаў народа". Знаёмячыся з дакумантамі, фактамі, сьведчаньнямі і апавяданьнямі людзей пра сталінскі тэрор, зьвяртаю ўвагу на тое, што ў пачатку вайны тысячы невінаватых, неасуджаных людзей былі расстраляныя, задушаныя, замардаваныя энкавэдзістамі ў турмах і на дарогах Беларусі.

23-24 чэрвеня нямецкія самалёты бамбавалі Менск, а энкавэдзісты сьпешна хапалі людзей па сьпісах, аб'язджалі кватэры і адразу – на расстрэл. Расстрэльвалі бесперастанку, калёнамі выводзілі за горад і забівалі, найбольш па Магілёўскай шашы.

Зьнішчаны былі вязьні ў Пінску, Глыбокім, Вялейцы, Ігумене і іншых гарадах. Былая жыхарка Вялейкі спадарыня Алена Шарэпа-Лапіцкая расказала мне, як у пачатку вайны энкавэдзісты расстрэльвалі арыштаваных каля вялейскага астрога, як сьпешна вывозілі ў лес на экзэкуцыю за вёскай Касута. Каго не пасьпелі на месцы – гналі на ўсход і расстрэльвалі па дарозе. Так утварыліся ў нас крывавыя дарогі – дарогі сьмерці. Бадай, не засталося ўжо на Беларусі дарог не крывавых. Вось, напрыклад, адна зь іх: Вялейка – Барысаў, 24 чэрвеня 1941 г. каля дзвюх соцен людзей энкавэдзісты расстралялі ў вялейскай турме, а астатніх каля 2.000 пагналі пад канвоем на Барысаў праз Сосенку, Ільлю, Плешчаніцы. Па дарозе забілі 700.

Польская дасьледчыца Крысьціна Ласковіч надрукавала фрагмэнты ўспамінаў тых, хто, прайшоўшы гэтым шляхам, застаўся жывы, – гэта У. Лукша. Я. Дзядуль, А. Колас, В. Ярашэвіч, Ф. Пілярскі, Б. Янцэвіч, Р. Пярун, А. Кузьняцоў, К. Халасьцянаў, Я. Бэздэль і інш. Яны ўспаміналі:

«…Людзі слаблі, падалі, тых, якія не маглі ўжо падняцца, расстрэльвалі альбо па некалькі разоў прабівалі штыкамі». (А. Колас).

«...Чуліся енкі. Стралялі па нас, ляжачых. Зь якой прычыны, невядома. Пасьля страляніны на шашы засталося пяць забітых і некалькі раненых (...). Нам сказалі падняцца і ісьці далей. Першая група была наперадзе каля двух кілёмэтраў ад нас. З той групай была зроблена такая самая апэрацыя. Даходзячы да вёскі Кавалі налічыў шэсьць трупаў, якія ляжалі пад плотам непадалёк ад вёскі». (К. Халасьцянаў).

Потым людзей пагналі хуткім тэмпам. Хто не вытрымліваў, тут жа забівалі штыкамі, прыкладамі альбо расстрэльвалі. За 20 кілёмэтраў ад Плешчаніц замардавалі такім чынам некалькі сот душ.

«Людзі падаюць ад стамленьня, іх прабіваюць штыкамі дватры разы – і далей. Па астатніх з тылу (калёны) страляюць без перапынку (...).

Чую, што сілы мяне пакідаюць. З носу хлынула кроў. Павольна адстаю і ўжо скора апынуся ў канцы, дзе без перапынку людзі падаюць ад рэвальверных куль. Перабягаем праз невялікі дол паміж адным і другім лесам. Бачу, што пасярodку лукі забалочаная зарослая рэчка. Адсутнасьць вады, голад, бо ўжо трэці дзень нічога ня елі – адбіралі ў нас рэшткі сілы. Спадзяюся, што тут злаўлю хоць адзін глыток вады. Але, убачыўшы страшнае мардаваньне, адагнаў гэтую думку. Тры вязьні зазяхаўшыся, дабеглі да рэчкі і нахіліліся да вады. Адразу ж падскочыў да іх адзін з энкавэдзістаў і штыком прапароў усіх па чарзе. Целы затапіліся ў вадзе. Перабягаю праз кладку, зробленую з гальля; бачу, што рэчка напоўнена трупамі. Вада зьмяшалася з крывёй, уся чырвоная...» (Ф. Пілярскі).

«...Пачуўся голас каманды: «бегом!». Змучаныя вязьні пахіліліся наперад, нібы хочучы выканаць гэты загад, але ногі ўжо ня слухаліся. У тую ж хвіліну я пачуў тупы скрыгат штыкоў па касьцях схуднелых вязьняў». (Б. Янцэвіч).

А вязні – гэта «ворагі народа»: настаўнікі і сяляне, служачыя чыгункі і гімназісты, адвакаты і прафэсары, рамесьнікі і рабочыя, беларусы, палякі, гэбраі (...). Такі быў іх крывавы шлях. Ня знойдзена нават пахаваньняў. Сама дарога стала пахаваньнем.

Магілай вязьняў стала ў тыя дні дарога з Беразвечы, Глыбокага на Улу-Таклінова праз Ушачы. Аднак самай крывавай, відаць, была дарога зь Менска на Магілёў. Да сёньняшняга дня яна яшчэ не раскрыла свае страшныя таямніцы. Але, калі едзеш па ёй, то здаецца, што дарога стогне. Побач жа і Трасьцянец, і магілы замардаваных фашыстамі габрэяў, пакінутых на глум і марадзёрства.




*32. 26 ліпеня. Актывісты Мартыралогу і Беларускага Народнага Фронту на Ігуменскай „Дарозе сьмерці".*

У ноч з 24 на 25 ліпеня 1941 года па магілёўскай дарозе зь Менска на Ігумен (Чэрвень) пагналі калёну палітвязняў колькасцю, як сьведчылі відавочцы, ад 6 да 8 тысячаў душ. Як і ў вялейскіх, глыбоцкіх і іншых калёнах, ніхто з гэтых арыштаваных ня быў яшчэ асуджаны (хаця які там суд). Некаторых нават не дапытвалі. Сярод вязьняў калёны былі габрэі, летувісы, рускія, палякі, латышы, але, вядома, большасць складалі беларусы. Ужо на вуліцах Менска чэкісты прыстрэльвалі альбо забівалі прыкладамі інвалідаў, цяжарных жанчын, жанчын зь дзецьмі і проста зьнясіленых вязьняў, успамінаў летувіс Ёзас Тумас, якому ўдалося ўратавацца. За горадам гэтая праца сьмерці пайшла больш інтэнсіўна. Па сьведчаньні ўдзельнікаў паходу, на працягу паўтара сутак, пакуль калёна дайшла да Чэрвеня, на шляху было забіта каля 600–700 чалавек. 26 чэрвеня арыштаваныя прыйшлі ў Чэрвень, калёну загналі ў турэмны двор. Тут правялі сартаваньне вязьняў: крымінальнікаў запісвалі добраахвотнікамі ў Чырвоную Армію, астатніх падзялялі на тры групы. Адна зь іх была пакінута ў двары турмы і там дачакалася прыходу немцаў. Дзьве іншыя групы пагналі ноччу па бабруйскай дарозе ў бок урочышча Цагельня. У групе, дзе знаходзіўся Ё. Тумас, было каля 750 чалавек.

Ё.Тумас успамінаў, што камандзіры і камісары спыніліся і пачалі раіцца, як расстрэльваць вязьняў.

«– Так будет хорошо, – сказау адзін зь іх, – часовых переведите с правой стороны дороги на левую, и все будет в порядке. Все равно эту сволочь мы не успеем вывести».

Пасля гэтага, – прадаўжае Ё. Тумас, – не засталося ніякага сумненьня, што на гэтым месцы энкавэдзісты нас усіх расстраляюць. Гэта пацьвердзілі і рускія, якія лепш за нас ведалі звычкі энкавэдзістаў. Некалькі рускіх, плачучы, сталі прасіць энкавэдзістаў аб літасьці. Адзін вымольваў:

«– Товарищ комиссар, сжалься надо мной, я не «политический», я – уголовник, и только по ошибке меня определили в группу с этой сволочью. Товарищ комиссар, не убивай невинного человека!».

Іншы стагнаў:

«– Товарищ комиссар, я из Казанской губернии и в Минске жил недолго. Я невиновен, только Васька напрасно на меня донес» (...).

«Пачуўшы першае слова каманды: «Сволочи!» (гэта быў загад ляжачым устаць), я ўскочыў, – піша Ё. Тумас, – і кінуўся бегчыў лес (...). Пачалася страшэнная страляніна. Энкавэдзісты расстрэльвалі стаячых людзей зь вінтовак і кулямётаў. Праз нейкі час абедзьве групы вязьняў перасталі існаваць».

Аднак гэтае страшнае злачынства было толькі бандыцкім эпізодам крывавай дарогі ля былога Ігумена. Мясцовы краязнаўца і дасьледчык Ігуменшчыны настаўнік Уладзімер Дарагуж вывучыў тут гісторыю сталінскага тэрору і зьвесткі пра злачынствы надрукаваў у раённай газэце «Уперад». Масавыя расстрэлы, аналагічныя, як у Курапатах, пачаліся тут з 1937 года.

Каля былой ігуменскай турмы, каля могілак, уздоўж дарогі на Бабруйск ля ўрочышчаў Цагельня і Высокі Стан (Высокі Бугор) – скрозь тады расстрэльвалі людзей па начах, чуліся енкі і стогны; скрозь тут цяпер пахаваньні, далы і западзіны магілаў. Ігуменская турма была заўсёды перапоўненая ў час калектывізацыі – «кулакі», потым – «ворагі народа», затым – «заходнікі», жыхары Заходняй Беларусі. У чэрвені 1941 многіх забівалі проста ў камэрах. Уладзімер Дарагуж піша, што калі



*33. Шэсьце 26 ліпеня на Ігуменскай „Дарозе сьмерці". Наперадзе Зянон Пазьняк і Лявон Баршчэўскі.*

пасьля эвакуацыі турэмнага пэрсаналу на тэрыторыю турмы прыйшлі ігуменцы, то найбольш іх уразіла «вузкае памяшканьне з возерам крыві».

Жыхар Ігумена Іван Адамавіч Тамашэвіч і яго сябра Шпак бачылі і чулі, як у ноч з 17 на 18 жніўня 1937 г. расстрэльвалі ў лесе ля Высокага Стану. «Праз некалькі дзён, – расказваў Ул. Дарагужу Іван Тамашэвіч, – мы знайшлі там тры вялікія ямы, засыпаныя пяском і замаскаваныя яловымі лапкамі. А ў ноч з 4 на 5 сьнежня дзяжурыў я (непадалёк у пажарнай ахове – З. П.). Шэсьць аўтамашын прайшло на Высокі Стан, а затым пачуліся стрэлы. Але ж гэта ня ўсё. Аб'ездчык лясьніцтва Янка Пархімовіч расказваў, што назаўтра шэсьць машын людзей расстралялі на Магілёўцы зьлева перад паваротам на Рудню Астравітую».

Шмат што расказалі сьведкі тых часоў Уладзімеру Дарагужу. І пра тое, як расстралялі ля Цагельні калёну латышоў, як вазілі людзей ад будынкаў турмы і міліцыі ў лес на сьмерць, як катавалі, як закопвалі ў вялізных ямах, як засаджвалі іх елачкамі, як пясок варушыўся, як шнырылі сексоты і «хапуны» (крытыя машыны НКВД – «чорныя крумкачы»), як вынішчалі народ.

«Пусьцелі гарады і вёскі, – піша Уладзімер Дарагуж, – удавелі бабы, сірацелі дзеці.

Расказвае настаўнік Рыгор Мікалаевіч Пятровіч:

«– Калі перад вайной мы, школьнікі, рабілі лыжны агітпаход і прыйшлі ў вёску Гайдукова Слабодка, то ўбачылі, што самыя цяжкія работы на калгасным двары робяць жанчыны.

– Дзе ж вашы мужыкі? – запыталіся мы.

– Хапун пабраў...»

У чэрвені 1941 года людзі з Ігумена і навакольных вёсак пахавалі ахвяры расстрэлу ў агульных магілах. «Пахаваньне праводзілі мой бацька, іншыя людзі, я таксама ўдзельнічаў, – успамінае мясцовы жыхар Іван Міхайлавіч Аляшкевіч. – Большасць забітых ляжала перад Цагельняй зьлева ад дарогі, частка – справа. Я заўважыў, што дзе-ня-дзе стаяў посуд зь ядой і вадой. Відаць, міласэрныя чэрвеньцы дапамагалі як маглі сьмяртэльна параненым людзям».

Беларуская жанчына Н. М. Рунцо з сяла Лучнога падабрала аднаго раненага вязьня, карміла, даглядала. Ачуняў праз два месяцы. Гэта быў латышскі пісьменьнік. Калі выздаравеў, пайшоў у лес. Далей лёс яго невядомы.

Але былі і іншыя адносіны. Ганна Адамаўна Зазека расказала Ул. Дарагужу: «На другі дзень пасля гэтага расстрэлу мы гуртам ішлі ў ягады, бачылі мноства забітых людзей. Справа ад дарогі пачуўся стогн – «вады...» Мы хацелі наліць у конаўку, але чалавек сказаў, што яму з бутэлькі будзе зручней. «А хто вас пастраляў? –пытаем. – Можа, які дэсант? Не, – адказвае, – тыя, што прывялі». Пачуўшы гэта, Сакольчык пабег у турму і прывёў салдата. Той дастрэліў параненага».

«У 1954 годзе, – расказвае Ул. Дарагужу электрык У. М. Аламііеў, – тут бралі пясок для падсыпкі дарогі. Адкрылася вельмі шмат шкілетаў. У час дажджу сюды сцякала вада, утвараючы возера, і чарапы ўсплывалі. А тады ў горадзе насупраць пажарнай быў прыёмны пункт другаснай сыравіны, там працаваў нарыхтоўшчык Воранка. Пацаны здавалі яму чалавечыя косці, атрымлівалі грошы на напітак ці марожанае».

Такі вось «сюррэалізм». Можна шмат расказваць пра варварскія выпадкі... Ня буду камэнтаваць такога роду факты. Зрэшты, я прывёў іх для тых, хто задумваецца над псіхалёгіяй рабства, якім хранічна хварэе душа нашага зьнясіленага «сацыялізмам» грамадзтва.

20 ліпеня 1991 года, праз 50 гадоў пасля масавага расстрэлу, прайшлі па крывавай дарозе ад Ігумена да Цагельні людзі пасьляваеннага пакаленьня і былыя палітвязьні сталінскіх турмаў. Прайшлі жалобна і ўрачыста не пад канвоем, а з харугвамі і пад сьцягамі, з кветкамі ў руках, каб пакланіцца і ўвекавечыць памяць нявінна забітых суайчыньнікаў, памаліцца за іх душы. Беларускае гісторыка-асьветніцкае таварыства памяці ахвяраў сталінізму «Мартыралёг Беларусі» і Саюз былых палітзьняволеных Летувы пры садзеяньні Беларускага Народнага Фронту і Чэрвеньскага райвыканкама наладзілі чарговыя «Жальбіны», прысьвечаныя ўгодкам нявінных ахвяраў бальшавізму.

У пачатку шляху на ўскрайку лесу ўзвысіўся сямімэтровы беларускі Крыж пакуты, асьвечаны сьвятарамі чатырох хрысьціянскіх канфэсіяў. Надпіс: «1930–1941. Ахвярам бальшавіцкага тэрору». У канцы дарогі ля трох агульных магіл – летувіскі Крыж памяці, выразаны ў народных традыцыях з камля вялікага дрэва. Гучаць малітвы і псальмы, лунаюць прыспушчаныя беларускія і летувіскія трыкалёры, маркотна глядзяць вочы Багародзіцы – заступніцы нашай зямлі Беларускай і летувіскія духоўныя гімны ўзносяцца над магільнымі хвоямі.

Сюды прыехалі людзі зь Менска і з ўсёй Летувы. Прамаўлялі ад мясцовай улады, прадстаўнікі Ігумена, Каўнаса, беларускай інтэлегенцыі. А я зьдзіўляўся, якім, пэўна, аўтарытэтам карыстаецца тут, на гэтай палітай крывёю зямлі, сталінскі бальшавізм. Як да яго прыслухоўваюцца, як баяцца. Напярэдадні камуністычныя ўлады правялі апрацоўку насельніцтва, каб не ішлі на гэтыя «Жальбіны», бо будзе дрэнна, бо прыедзе БНФ і могуць страляць... І ніхто не прыйшоў з навакольных вёсак. Ды й з Ігумена мала хто. Пэўна, страшна? І навошта? Навошта гэта Воранку і Сакольчыку? Як пісаў расейскі паэт: „Чем тяжелей наказанье, Тем им милей, господа."

Невыпадкова палітычная апэрэтка са зьездам бальшавіцкай плятформы ў КПСС адбылася менавіта на Беларусі.

БНФ, як вядома, не стаў супрацьдзейнічаць зборышчу сталіністаў. Мы ня бачым за імі ніякай пэрспэктывы. Да таго ж варта было, каб праявілася КПБ, уся ж улада пакуль у іх.

І яны «праявіліся», што называецца, ва ўсім бляску сваёй ленінска-сталінскай сутнасьці. (Нават нечакана, кашчунства ж як-ніяк). Прапанавалі сваю лепшую залю, сваю лепшую гасьцініцу «Октябрьская», сваю прэсу, прысутнічалі высокапастаўленыя функцыянеры ЦК КПБ.

Скора міне паўстагоддзя, як закончыўся Нюрнбэргскі суд. Суд – які выратаваў духоўна нямецкую нацыю. Што прынясе нам працяг Нюрнбэрга – суд над тымі злачынцамі, якія ўчынялі рэпрэсіі над мільёнамі ні ў чым не вінаватых людзей?

***Зянон ПАЗЬНЯК,***
***народны дэпутат БССР***

*Надрукавана: (Народная Газэта, – 1991, 9 жніўня)*

* * *

*У памяці засталіся праблескі*
*Выразныя, як фатаграфіі:*
*– Забраць! – крычыць бальшавік, –*
*Усё забраць!*

## Сквер

*Вунь бачыш на лаўцы*
*Уедліва „Праўду" чытае дзядок.*
*Замухрышка.*
*За Сталінам колькі зглуміў людзей.*

*1987 г.*

## Песьня

*О, зялёнае жыта пад ветрам!*
*О, мора жытнёвых хваль!*
*Лунай над палямі песьня мая.*

* * *

*Памалюся я,*
*Каб тысячы год жыла Беларусь,*
*І стаяў народ.*

*1995 г.*

# СЭСІЯ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ

**Выдрукоўка з кнігі Сяргея Навумчыка. „Сем гадоў Адраджэньня альбо фрагмэнты найноўшай Беларускай гісторыі (1988 – 1995).” – Варшава-Прага, 2006, стар. 62-63. Фрагмэнт з другога дня Сэсіі (25 жніўня 1991 г.) перад галасаваньнем за незалежнасьць.**

Галоўным у гэтым выступе была якраз спроба перашкодзіць прыняцьцю беларускай Незалежнасьці. Лукашэнка не ўспрымаўся значнай часткай дэпутатаў сурьёзна, але выказаныя ім тэзы маглі запасьці ў галовы тых, хто ў пытаньні сувэрэнітэту вагаўся і, такім чынам, паўплываць на выніку галасаваньня.

Рашэньне магло і не набраць належнай колькасьці галасоў (а патрабавалася ня простая, а „кваліфікаваная”, „канстытуцыйная” большасьць – дзьве траціны дэпутатаў). Больш таго: Шушкевіч, прапанаваўшы „давайце заканчваць нашу работу”, выказвае сумнеў у станоўчым выніку галасаваньня: „Вы ведаеце, канстытуцыйная большасьць патрэбна нам. Я б хацеў зьвярнуць вашу ўвагу, што вельмі цяжка гэта пытаньне нават пры самых станўчых аносінах вырашыць”.

Казаць такое было а ні ў якім разе нельга, бо значная частка дэпутатаў пры галасаваньні (па любых пытаньнях) кіравалася эмоцыямі і была схільная падтрымліваць пазыцыю таго, хто вёў сэсію (не істотна, быў гэта Дзямянцей, Шушкевіч, ці вёў сэсію нехта з намесьнікаў). Цяпер жа, пасьля двух дзён нэрвовага напружаньня, дэпутаты папросту былі стомленыя, і нехта мог падумаць – „ну, калі гэта нерэальна, дык навошта галасаваць” (адсотак тых, хто не галасаваў ці ўстрымліваўся, таксама заўсёды быў значны).

І тут раптоўна, ад мікрафону, выступіў Пазьняк. Гэты выступ у лёсе Беларусі адыграў вызначальную ролю, таму прывяду яго цалкам.

Пазьняк З.С. „Я хачу зрабіць некалькі заўваг па гэтаму пытаньню, паколькі тут у зале выступалі некаторыя дэпутаты, у прыватнасьці, дэпутат Лукашэнка, які проста заблытаў гэтае пытаньне.




*34. Жнівень 1991 г. Беларуская нацыянальная рэвалюцыя. Менск.*

Справа ў тым, шаноўныя калегі, што зараз мы ўступілі ў прынцыпова новую сытуацыю. Усе рэспублікі вакол нас аб’явілі аб сваёй нацыянальнай дзяржаўнай незалежнасьці. У тым ліку ўчора гэта зрабіла Украіна. Практычна пытаньне аб Саюзным дагаворы здымаецца на нейкі пэрыяд. Саюз існуе толькі намінальна. І калі ў гэтай сытуацыі мы не прымем адпаведнага закона аб дзяржаўнай незалежнась-

ці Беларусі, мы трапім у вельмі кепскае становішча. Таму што тыя рэспублікі, якія вакол нас, яны будуць разьвівацца, і разьвівацца як нацыянальныя дзяржавы на прынцыпова новай аснове. Яны ідуць да рынку, у іх будзе больш мабільная эканоміка, і мы трапім у непасрэдную залежнасьць ад гэтых рэспублік. Тым больш, я ў сваім дакладзе гаварыў (а я дастаткова добра знаёмы з расейскай дэмакратыяй на працягу многіх гадоў) і з усёю адказнасьцю магу сказаць, што на Усходзе ў нас фармуецца маладая агрэсіўная імпэрыя ў форме дэмакратыі. Тыя дэмакраты, якіх мы добра ведаем, не прызнаюць фактычна нас як нацыю, яны не глядзяць на нас, як на асобную дзяржаву і на асобную тэрыторыю, а глядзяць на нас, як на вотчыну, на якую яны маюць пэўнае права.

калі будзем мець нацыянальную незалежнасьць), мы трапім у вельмі цяжкае эканамічнае і залежнае становішча. Ужо Расія некалькі тыдняў назад паведаміла, Ельцын паведаміў аб тым, што зьбіраецца павысіць цэны на нафту. Гэта быў у пэўнай ступені шантаж нашай Рэспублікі. І ён быў ня першы раз.

Калі мы не будзем мець дзяржаўнай незалежнасьці, ня зможам свае рэсурсы, свае ўсе сродкі, свае вынікі працы ўкладваць на дабро нашага народа і нашай дзяржавы, мы не зможам супрацьстаяць гэтай палітыцы. А яна будзе, і будзе абавязкова.

Мы ўступаем у новы стан дзяржаўных узаемаадносінаў. Таму, шаноўныя калегі, я вельмі вас прашу, паколькі палітычная абстаноўка зьмянілася рэзка і хутка і некаторыя з




*35. Жнівень 1991 г. Менск.*




*36. 1991 год. Канец камунізму ў Беларусі.*

На вялікі жаль, гэта так. І менавіта зыходзячы з гэтых меркаваньняў, я неаднойчы выказваўся і пісаў аб тым, што я сумняваюся ў дэмакратычным характары будучай Расеі. Таму што асноўны прынцып дэмакратыі – гэта прызнаньне права нацыі на самавызначэньне. Калі ў грамадстве існуе імпэрская мэнтальнасьць, дасягнуць дэмакратыі поўнасьцю вельмі цяжка. І тыя высновы, якія мы можам зрабіць зараз, сутыкаючыся з палітыкай з Усходу, прыводзяць нас да думкі, што зараз нам, каб выратаваць наш народ, нашу эканоміку, абавязкова патрэбен дзяржаўны сувэрэнітэт. Тыя хуткія тэмпы, якімі зараз пойдуць разьвівацца дзяржавы, якія заснаваны на дзяржаўнай незалежнасьці, яны прывядуць да таго, што іхняя эканоміка высмакча з нашай рэспублікі рабочую сілу, высмакча тавары. І калі ў нас ня будзе сваёй валютнай сыстэмы (а мы можам яе мець толькі тады,

нас не пасьпелі яе адразу ацаніць, я заклікаю ўсіх дэпутатаў зараз ацаніць гатую абстаноўку самым належным чынам. Таму што ўсялякае замаруджваньне пойдзе нам на шкоду.

Ня трэба баяцца, што тут, як казалі некаторыя дэпутаты, узьнікне Альбанія, Куба, Карэя. Нічога падобнага. Працэсы, якія пайшлі ў нас, нават ход нашай сэсіі пацьвярджаюць: яны неабарачальныя, яны ідуць на карысьць нашаму грамадзтву. А сувэрэнітэт дасьць нам магчымасьць стаць свабоднымі і незалежнымі, дасьць нам магчымасьць разьвіць тыя асновы, якія мы закладваем, ідучы да рэформ. Я прашу вас паставіць гэтае пытаньне і вырашыць яго сёньня. Бо заўтра можа быць позна. Нас тут ня вельмі многа, і патрэбна канстытуцыйная большасьць. Таму я вырашыў выступіць перад вамі, і, можа, для некаторых было гэта нечаканым. Але я дастаткова добра ведаю, якія ўзаемаадносіны ў тых

маладых структурах, якія зараз нараджаюцца. І калі мы спаткаемся зь імі потым, не падрыхтаваўшыся, мы проста апынемся ў невырашальным стане. Дзякуй за ўвагу”.

Гэты выступ Пазьняка потым шматкроць крытыкаваўся лібэральнымі публіцыстамі – у тыя дні Ельцын у грамадзтве (як і ва ўсім сьвеце) успрымаўся выключна як абаронца дэмакратыі, пераможца ГКЧП і камунізму, і было проста немагчыма ўявіць, што дэмакратычную рыторыку выцесьняць імпэрскія амбіцыі. Павінен прызнацца, што ў тыя сэкунды і ў мяне ўзьнікла думка – „Навошта ён так пра Ельцына? Ельцын цяпер на піку папулярнасьці” (потым даведаўся, што быў не адзіным дэпутатам БНФ, хто так падумаў. Але ў той момант у Пазьняка не было магчымасьці раіцца з намі. Усё вырашалі сэкунды).

Тут зноў жа падкрэсьлю, што дэпутаты-камуністы былі супраць незалежнасьці Беларусі, але баяліся трапіць пад уладу Ельцына (які забараніў КПСС у Расеі), а на Гарбачова яны ўжо не спадзяваліся. Спадзяваўся хіба адзін Лукашэнка, пра што і сьведчыў ягоны істэрычны выступ. Некаторыя стаялі на раздарожжы і ня ведалі што рабіць. Задача выступу Пазьняка перад самым галасаваньнем – напалохаць камуністаў Ельцыным, каб прыдбаць больш галасоў за незалежнасьць. І настроіць залю галасаваць цяпер, не адкладаючы на „потым” (гэтага „потым”, як паказалі падзеі наступных месяцаў, магло і ня быць). Гэтую тактычную мэту Пазьняк выдатна рэалізаваў, што пацьвярджаюць выступы нашых апанэнтаў.

У палітыцы вельмі важная здольнасьць аналізаваць зьявы, вызначаць правільныя мэты і пасьлядоўна дамагацца іх рэалізацыі, Гэтаму, напэўна, можна навучыцца з вопытам. А вось палітычнай інтуіцыі навучыцца нельга. Можна правільна растаўляць словы і сказы – але каб напісаць „Лілеі” ці „Знак бяды”, трэба быць Барадуліным ці Быкавым.

Можна стварыць партыю і нават прывесьці яе да ўлады – але для стварэньня дзяржавы патрабуюцца іншыя якасьці. Шмат разоў у Вярхоўным Савеце (але ня толькі ў ім) Пазьняк рабіў крокі, якія маглі падавацца спантаннымі, нечаканымі, нават супярэчнымі традыцыйнай лёгіцы падзеяў – але потым, пры спакойным аналізе, яны падаваліся адзіна правільнымі і адзіна магчымымі. Як мінімум двойчы (у ліпені 1990-га, пад час прыняцьця Дэклярацыі аб сувэрэнітэце, і ў жніўні 1991-га, пры наданьні ёй статусу канстытуцыйнай сілы), гэтыя крокі вызначылі лёс Беларусі (Інтуіцыі не пазбаўлены і Лукашэнка, але ў яго яна накіраваная выключна на ўласнае палітычнае самавыжываньне – тым часам як інтуіцыя Пазьняка накіраваная на выжываньне Беларусі).

Адразу пасьля Пазьняка ўстае дэпутат Міхаіл Мачуленка, другі сакратар Гомельскага абкаму партыі – не выходзячы да трыбуны, непасрэдна з сэктару заяўляе, што „я стопроцентно поддерживаю народного депутата Пазьняка и предлагаю здесь же, сейчас же, проголосовать за то, что он сказал (апладысмэнты)”.

## Зброя

*Як запыніць арду,*
*Што распаўзаецца, як ноч,*
*Па нашых гонях?*
*Як цемру цемраў зваяваць,*
*Калі ў пустэчы душы?*
*Пойдзем жа, сябра, у пачатак,*
*На беларускі ўбіты шлях,*
*Дзе прамаўляе*
*Наш вечны і любімы Бог,*
*Дзе ляжыць наша вострая зброя,*
*Дзе чакаюць нас моцныя коні.*
*Шкода мне, што я ўжо не юнак,*
*Пагуляў бы пад пасьвіст Пагоні.*
*Зброя – слова*
*І зброя – меч.*
*Укладайма ў рукі і ў галаў –*
*І наперад! Жыве Беларусь!*
*Слава! Слава народным героям!*

*2002 г.*

*(Ч. 3 з цыклу „Вялікае Княства”.)*

## ЗЯНОН ПАЗЬНЯК:

# „НАРОД ПАВІНЕН БЫЦЬ СВАБОДНЫМ”

Так склалася, што Зянона Пазьняка сёньня ўспрымаюць пераважна як палітычнага дзеяча, прызнанага лідара дэмакратычных сілаў на Беларусі. Але больш дасьведчаным людзям ён выдомы яшчэ і як гісторык, мастацтвазнаўца.

У такім спалучэньні можна ўбачыць сымвал. Сапраўды, ня можа зараз існаваць беларуская культура без узаемасувязі з палітыкай.

Зянон Станіслававіч згадзіўся падзяліцца сваімі думкамі з чытачамі „Добрага вечара”. Праўда, гутарка наша адбылася за пяць дзён да путчу і за адзінаццаць да прыпыненьня дзейнасьці КПБ-КПСС, абвяшчэньня дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі. Аднак, мы нічога ў ёй не мянялі...

**– Ня ведаю, пагадзіцеся Вы са мною ці не, але думаю, што народ беларускі ўпершыню сказаў уголас „Пазьняк” 30 кастрычніка 1988 года. Тады, калі сабраліся на полі пад першым сьнегам вакол Вас людзі, Вы, Зянон Станіслававіч, намагаліся павярнуць іх да роднай культуры, да роднай мовы. Чым, Вы лічыце, займаецеся зараз?**

– Я ўжо ня раз адказваў раней на гэтае пытаньне. Яно фармулявалася па-рознаму, але сутнасьць адна: ці тым я займаюся, што б прынесла карысьць грамадзтву і задавальненьне мне? Хачу сказаць, што займаюся я не сваёй справай. Мне непрыемна займацца палітыкай, як і большасьці нармальных здаровых людзей. Гэта работа цяжкая, і хто б ты ні быў, але, калі працуеш у гэтай сфэры, ад бруду не ўсьцеражэшся, цябе вымажуць. Асабліва, калі даводзіцца займацца палітыкай у наш час і змагацца з такой сатанінскай зьявай, як бальшавізм, як уся гэтая антычалавечая сістэма. Зразумела, што трэба адважыцца зрабіць адпаведную ўстаноўку на такую работу.

Я вымушаны займацца палітыкай, таму што, калі зараз ёй не займацца, то ўсе пляны, якія б мы хацелі рэалізаваць у сфэры нашай народнай культуры, каб адрадзіць нашу мову, зрабіць яе дзяржаўнай, выратаваць помнікі гісторыі, даць магчымасьць уздыхнуць людзям на сваёй зямлі, – не здзяйсьняльныя без кардынальных зьменаў у грамадзтве. І не выпадкова, што ў палітыку пайшлі сёньня і пісьменьнікі, і мастакі, і юрысты. Зараз без вырашэньня палітычных задачаў вырашыць астатнія немагчыма. Ні эканамічныя, ні праблемы мастацтва, ні праблемы культуры непапраўныя, пакуль ня вырашацца праблемы ўлады, калі не ліквідаваць таталітарную сістэму ў першую чаргу. Тут можна прывесьці такую аналёгію: калі дом гарыць, няма часу іграць на флейце. Хаця і на флейце трэба ўмець іграць. Бо народу трэба і васількі, і жыта.

Але мы перажываем такі час, калі патрэбна рабіць тое, што самым карацейшым шляхам прыводзіць да стварэньня ўмоў, якія дадуць магчымасьць рухаць і разьвіваць усё нашае нацыянальнае жыцьцё. На мастацтва, на навуковую, творчую работу, на жаль, часу амаль не застаецца. Тут яшчэ ёсьць небясьпека: чалавек, які займаецца палітыкай, працуе ў даволі звужанай і напружанай сфэры ўзаемаадносінаў. Творчую асобу гэта можа прывесьці да дэградацыі. Для творчасьці патрэбны вольны час і раскаванасьць, а не напружаньне і „вечны бой”. І тут трэба абсалютна дакладна сказаць, што яшчэ пару-некалькі гадоў – і я, як археолаг, як мастацтвазнаўца, як мастацкая асоба проста загіну. Гэта я адчуваю.

**– Шкадуеце?**

– Разумееце, шкадаваць тут няма чаго. Пытаньне стаіць: альбо – альбо. Зараз вырашаецца лёс нашай будучыні, нашага народа. Мы перажываем сёньня такі момант: альбо мы будзем жыць як здаровая нацыя, альбо нас ня будзе. Не застанецца ні культуры нашай, ні мовы – нічога, калі ня будзем за гэта змагацца. Калі не змагацца, то на працягу аднаго-двух пакаленьняў, нават раней, нас сатруць. Да такога стану даведзена грамадзтва, народны наш этнас, розум і дух. Калі зараз мы гэта не зразумеем як нацыя, у нацыянальным маштабе, не апамятаемся і не падымемся, то тады шкадаваць ня будзе чаго і ня будзе каму. Ужо за нас чужынцы напішуць гісторыю, прапануюць сваю інтэрпрытацыю, і ня будзе каму ўжо гэтага аспрэчваць, даказваць і рабіць высновы. Так што сёньня палітыка, палітычнае змаганьне – ключ да існаваньня нацыі. Вось чаму мы, непрафэсійныя палітыкі, вымушаны займацца ёю.

**– Ці ж ёсьць яшчэ надзея на выратаваньне беларускай культуры, нацыі наогул?**

– Я тут хацеў бы сказаць вось што. Беларускую нацыю, беларускую дзяржаву і ўсю нашу сітуацыю выратуе адно – дзяржаўная незалежнасьць, сувэрэнітэт. Калі зараз мы гэтага не дасягнем, то потым – я сумняваюся. Увогуле, тое, што мы не пасьпеем зрабіць сёньня, заўтра альбо ня зможам, альбо зробім, пераскочыўшы цераз некалькі прыступкаў. Адбудзецца так званы працэс паскоранага разьвіцьця. У гісторыі працэсаў гэта вядома. Але гэта непаўнацэнны працэс, вось у чым небясьпека.

Зьвярніце ўвагу, цяпер народныя франты ў іншых краінах ўжо ранейшай вырашальнай ролі не іграюць. Ва ўсіх рэспубліках (асабліва ў балтыйскіх) яны зрабілі сваю галоўную справу: вывелі грамадзтва на палітычную арэну, прывялі да ўлады нацыянальныя сілы, дэмакратычных дэпутатаў. У гэтых рэспубліках зараз ужо ідуць працэсы на ўзроўні ўлады. У нас у 1990 годзе сітуацыя яшчэ не насьпела да такой ступені, каб да ўлады прыйшлі нацыянальныя змагары і беларускія дэмакраты, і яны не прышлі. Сёньня ўжо нацыянальная палітыка вырашаецца не на ўзроўні франтоў і рухаў, а на ўзроўні дзяржавы. А яна ў нас – камуністычная. Зараз мы проста выпадаем з міжнароднай палітыкі. Беларусь ніхто не заўважае. Беларусь на міжнародным ўзроўні не існуе. Мы апынуліся ў палітычным хвасьце.

Цяпер паглядзіце на стан нашай культуры. Мы гаворым, што ідзем да рынку. Іншага выйсьця няма. Рынак цэмэнтуе нацыю, аб'ядноўвае яе, абагульняе. Эканоміка робіць сваю гуманітарную задачу. Але, перш чым прыйсьці да таварных адносінаў, павінна быць у наяўнасьці нацыянальная, духоўная і культурная аснова. Калі гэта аснова ёсьць, то рынак становіцца нацыянальным, выводзіць нацыю на новы ўзровень жыцьця, яна творча разьвіваецца і жыве. Калі гэтага няма, рынак ва ўмовах суседняга існаваньня імпэрскай Расеі можа стаць кампрадорскім. Такі рынак разломлівае нацыю, нішчыць яе. У нас пайшлі працэсы Адраджэньня ў культурным сэнсе і ўвогуле, але яны яшчэ ня сталі рэальнай асновай нацыі. У пытаньнях улады, скажам, ня сталі; у пытаньнях мовы – таксама.

Прыклады ўздзеяньня кампрадорскага, шалёнага рынку ў нас ужо ёсьць. (Па-руску кажучы, „извращенного” рынка.) Зараз зьявілася мноства ўсялякіх газэтаў. Яны выходзяць на рускай мове. „Звязда” нешта там ужо друкуе на рускай мове, „Мінская праўда” і іншыя – таксама. „Добры вечар” ніколі ня стане беларускай газэтай, антынацыянальны рынак дыктуе

вам такое існаваньне. Вы вымушаны быць і чэзнуць на рускай мове, таму што мова гэтая ў ненармальных акупацыйных умовах больш чытабельная.

Змаганьне за агульную нацыянальную справу патрабуе ахвяраваньня і вялікай аддачы. Такім быў шлях кожнай нацыянальнай дзяржавы. Немагчыма ўзбагаціцца і зарабляць на нацыянальнай справе, бо ў пэрыяд змаганьня і станаўленьня яна патрабуе аддачы вольнага часу, працы і сродкаў, а не зарабляньня на змагарнай справе. (Тут можна мець толькі юдавы грошы.) Але калі ў выніку змаганьня ўтвараецца нацыянальная дзяржава – яна спрыяльная і патрэбная ўсім, рынку і культуры найперш.

Дзеля таго, каб нармальна разьвівалася нацыя, вельмі патрэбна інфармацыя. Трэба, каб у кожную сям'ю пайшла беларуская газэта, якая распавядае аб нашай культуры, аб нашых праблемах. А што на справе? Мы ўваходзім у рынак (зьбіраемся ўваходзіць) без падрыхтаванай культурнай глебы. Камуністычнае ж кіраваньне вядзе беларускі народ да бездані, у прорву. Мы, паўтаруся, можам зьнікнуць, як нацыя, як культура, як дзяржава. Бо тое (ізноў паўтаруся), чаго мы не зрабілі ўчора, сёньня можам ужо не пасьпець...

Пра рэлігію. Недапушчальна, каб чужыя палітычныя сілы выкарыстоўвалі нашыя рэлігійныя канфэсіі ў антыбеларускіх інтарэсах. Беларускі Народны Фронт змагаўся за вяртаньне храмаў вернікам, за тое, каб хрысьціянства вольна разьвівалася. Бо дасканалы чалавек ня можа быць бездухоўным. Але грамадзкую функцыю рэлігіі чужародны клір ў нас стараецца адрадзіць ў варожым для Беларусі духу.

Давайце ўспомнім. Хто ў 60-я, 70-я гады ратаваў помнікі культуры, храмы, цэрквы, касьцёлы? Беларуская інтэлігенцыя. Трэба было змагацца з камуністычнай сістэмай. Я дваццаць гадоў гэтым займаўся і добра ведаю, якая гэта была цяжкая барацьба. Чырвоны касьцёл, напрыклад, толькі дзякуючы беларускай інтэлігенцыі ў Менску захаваны. Яго б даўно ўзарвалі. Кінатэатр „Космас" быў бы на яго месцы. Але за гэты час (я добра ведаю) ні адзін поп, ні адзін ксёндз не варухнуў пальцам, каб дапамагчы выратаваньню цэркваў, касьцёлаў – усіх гэтых помнікаў. Тады, каб выратаваць храмы ад разбурэньня, прапаноўвалі прыстасаваць іх ці пад музэй, ці пад нейкую залю, каб хоць будынак захаваць. Цяпер тое, што выратавана, аддаюць (і справядліва) канфэсіям, а музэі зьбіраюцца выкідваць на вуліцу. Руская Праваслаўная царква на Беларусі аб'ектыўна зноў працуе супраць беларускай культуры.

З каталіцкага боку некаторыя ксяндзы з Польшчы вядуць нелаяльную палітыку ў адносінах да Беларускай рэспублікі і беларускай культуры. Усё робіцца з ведама камуністычнай намэнклятуры.

Паглядзіце, якія адносіны да Вуніі, якая цяпер адраджаецца. Яе гатовы ўтапіць у лыжцы вады, таму што яна адраджаецца на нацыянальнай аснове, на беларускай мове. Праваслаўная царква ў Расейскай імпэрыі разам з царызмам здзейсьніла ў XIX стагоддзі генацыд супраць Вуніі. Тысячы людзей былі зьнішчаны, пасечаны казацкімі шаблямі толькі за тое, што яны былі вуніяты. Вунію гвалтам ліквідавалі. А вуніятамі было 80 адсоткаў беларускага насельніцтва!

Вось вам адна з прычынаў таго, чаму ня дзейнічае даўно прыняты Закон аб дзяржаўнай беларускай мове. Толькі тады, калі мы самы будзем распараджацца сваім лёсам, мы зможам праводзіць сваю культурную палітыку. Зараз выратаваньне – гэта незалежнасьць. ***Народ павінен быць свабодным! Свабода – найвялікшае дабро. Душа чалавека, думкі яго – свабодныя. Свабода і сувэрэнітэт для чалавека – натуральнае неад'емнае права.***

Народ ня можа быць увесь час несвабодным. Ён альбо гіне, альбо будзе змагацца за сваю свабоду. Наш народ вельмі спадзяецца на працу. Кажуць: „працалюбівы беларускі народ". Але праца ня выручыць. Багацець будзе ня той, хто працуе, а той, хто гаспадарыць, той, хто ўмее арганізаваць працу, у каго будзе ўласнасьць.

Калі ж народ губляе свабоду і самастойнасьць, ён абавязкова трапляе пад эксплуатацыю. У такім выпадку праца людзей ня будзе творчай і ня будзе вольнай. Такі народ ніколі не багацее, бо на яго працы багацеюць іншыя...

**– Палітыка, культура. Зь імі непарыўна зьвязана мараль. Вас, як вядомага чалавека, акружае нейкі арэол славы. У чыіхсьці вачах – добрай, а для каго і... Не сакрэт, што сёньня ў грамадзкай думцы бытуе вобраз Пазьняка як нейкага бальшавіцкага крывасмока, які толькі хоча дарвацца да ўлады, а потым пачне біць і страляць...**

– Ведаеце, ці варта гаварыць на гэтую тэму? У добрым грамадзтве не размаўляюць на такім узроўні. У нас жа: выказаў нехта самую неверагодную думку – пачынаюць яе абмяркоўваць. І людзі, здавалася б, інтэлегентныя. Зразумела, што да такога роду гэбэльсаўскай прапаганды існуюць чыста маральныя адносіны. Людзям, што вядуць падобныя размовы, мне хацелася б хіба параіць павышаць свой культурны ўзровень.

**– Існаваньне ўсялякіх чутак, паклёпніцкіх брудных размоваў, вядома, акружае многіх вядомых людзей. Чым больш чалавек індывідуальны, тым больш бруду выліваецца яму на галаву. На жаль, так і існуем. А ўсё гэта наводзіць на думку: можа, хопіць ужо жыць па законах джунгляў, пара прывыкаць нам да нармальных чалавечых, маральных умоваў жыцьця. Дарэчы, вельмі варта было б камусьці пры наступным непрыстойным абмываньні костачак памятаць добрую беларускую прымаўку: „Бог не гуляе, а добра мяняе". Зразумела, Пазьняка, як і любога на яго месцы, засмучаюць усялякія гаворкі і выдумкі...**

– Я – чалавек па прыродзе аптымістычнага складу. У любой сітуацыі бачу выхад, пэрспэктыву, і мне вельмі праціўныя дэкадэнцкія настроі. Таму на ўсё гэта гляджу як тэатразнаўца. Толькі гэта не тэатар на падмостках, а камэдыя, якая разыгрываецца вакол мяне. Часам з цікавасьцю за ўсім назіраю. Гэта забаўляльна. Забараніць жа – не забароніш. Адказваць на розныя выпады? Ня той узровень, і шмат гонару. Таму, як кажуць, няхай сабе брэша цюцька, не шкада... Мастак працуе ў цішыні, палітык дзеіць пад брэх сабак. Кожнаму сваё.

**– Сапраўды, палітыку, культуру, мараль нельга падзяліць. І калі наша грамадзкая думка мяняецца па напрамках амбіцыёзных палітычных ветраў, то гэта вынік нашай няволі, асабістай і агульнанацыянальнай несвабоды. Так, народ павінен быць свабодным, тады будуць у яго і свае думкі, і свая культура, мова. Толькі тады заможна зажыве наш люд.**

**Амаль на разьвітаньне Зянон Станіслававіч сказаў:**

– Ніякага дабрабыту мы не дасягнем, ня маючы свабоднага маральнага чалавека, у якога ёсьць пачуцьцё абавязку, сумленьне, вера ў душы, жаль і міласэрдзе. Раб заўсёды жорсткі...

***Гутарыла Галіна ПРЫГАРА***

*14 жніўня 1991 г.*

*Надрукавана: („Добры вечар",– 1991, 6 верасьня)*

**ЗЯНОН ПАЗЬНЯК:**

# „БЕЛАРУСЬ – НЕЗАЛЕЖНАЯ НЕКАМУНІСТЫЧНАЯ КРАІНА”

*(Інтэрв’ю)*

**„Навіны”: – На апошняй сэсіі ВС БССР былі прынятыя рашэньні, якія кардынальным чынам зьмянілі дзяржаўны статус Рэспублікі. Бастыён камунізму раптоўна абрынуўся. Гэта стала прычынаю разгубленасьці многіх людзей.**

**Зянон Пазьняк:** – Беларусь – незалежная некамуністычная краіна. І гэтым цяпер ўсё сказана. Аднак дзеля замацаваньня дасягненьняў патрэбная сіла. Гэткай сілаю зьяўляецца наш народ. Менавіта ягоная грамадзкая падтрымка патрэбграмадзкіх арганізацыяў і партыяў, якія апошнім часам некуды зьніклі з палітычнага небасхілу. Працаваць трэба цяпер. Потым можа быць позна.

Перад Беларусяй стаіць задача стварэньня структураў, якія будуць абараняць нашу краіну, заваёвы дэмакратыі. Трэба сфармаваць нацыянальную гвардыю. Магчымасьць для гэтага (пакуль што) ёсьць, падтрымка Вярхоўнага Савета – таксама. Пытаньне толькі ў народнай ініцыятыве.

Я хачу падкрэсьліць, што ўсе захады, зьвязаныя з роспускам камуністычных структураў, дэпартызацыяй і абаронай незалежнасьці – законныя. Камунізм больш ня вернецца.

**„Навіны”: – Мяркуем, найбольш зацятыя рэшткі камуністычнай намэнклятуры без супраціўленьня не аддадуць партыйную маёмасьць дзяржаве.**

**Зянон Пазьняк:** – Саветы зараз ахвотна пойдуць на канфіс-



*37. Дэманстрацыя БНФ у Менску. Першы год незалежнасьці.*

ная зараз ВС, а дакладней – Апазыцыі БНФ. Першае. Народ павінен дапамагчы правесьці дэпартызацыю, г.зн. працоўныя калектывы павінны расфармаваць камуністычныя партыйныя структуры. Другое. Народ павінен паспрыяць саветам у справе апячатваньня маёмасьці КПСС і ЛКСМБ праз асабісты ўдзел, устаноўкі пікетаў, арганізацыю патрулёў, збор подпісаў. Інакш цяпер ужо былыя партапаратчыкі па дамоўленасьці са сваімі прадстаўнікамі ў саветах будуць па-ранейшаму хадзіць у свае кабінеты, выносіць маёмасьць.

Цяпер неабходна, каб народ уключыўся ў будаўніцтва сваёй незалежнасьці, сваёй Рэспублікі. На жаль, пакуль спрацоўвае ўласьцівая мэнтальнасьці паняволенага камунізмам народу звычка спадзявацца на тое, што ўсё гэта зробіць нехта іншы. Трэба перамагчы нявольніцкую псіхалёгію. Гісторыя дала нам шанец. Шмат што цяпер залежыць таксама ад інтэлігенцыі, ад кацыю партыйнай маёмасьці ў карысьць дзяржавы, бо патрэбныя памяшканьні для шпіталёў, школаў, бібліятэкаў, дзіцячых садкоў. Аднак рэальна правесьці нацыяналізацыю можна толькі явачным парадкам. Мэханізм такі: Саветы прымаюць рашэньне адносна маёмасьці, няхай і часовыя, а народу трэба браць тое, што яму належыць. Гэтыя будынкі не павінны стаяць пустыя.

**„Навіны”: – Як быць са старымі структурамі ўлады? Ці адпавядаюць яны пераменам?**

**Зянон Пазьняк:** – У рэформе структураў улады мы адсталі ад Балтыйскіх краінаў на паўтары гады. Цяпер як незалежная дзяржава мы павінны сфармаваць свае структуры ўлады і свае структуры абароны гэтай улады паскоранымі тэмпамі. Ініцыятыва народу ў гэтай справе шмат у чым паскорыць яе рэалізацыю.

**„Навіны”: – Сёньня рычагі выканаўчай улады сканцэнтраваныя ў руках В. Кебіча. У якой ступені дзеяньні Кабінету адпавядаюць сітуацыі?**

**Зянон Пазьняк:** – Вячаслаў Кебіч, безумоўна, ня той чалавек, які патрэбен цяпер. Гэта былы член ЦК КПБ, які насупераак абяцаньням, дадзеным Апазыцыі БНФ, ня выйшаў з кампартыі, а толькі прыпыніў сваё членства ў ёй. Але нават калі б ён цалкам перайшоў на бок дэмакратыі, яму было б цяжка працаваць у цяперашніх наскрозь пракамуністычных старых структурах. Ён дзейнічае ў рамках былых апаратных сувязяў і вельмі не рашуча. На гэтай сэсіі Апазыцыя БНФ дала В. Кебічу шанец, у выніку ён падтрымаў тады пэўны пакет нашых прапановаў. Пасьля сэсіі ён збавіў актыўнасьць, дэкамунізацыя пайшла квола, Рэспубліка затрымліваецца ў падвешаным стане. Калі так будзе і надалей, Апазыцыя БНФ пойдзе на самыя рашучыя меры.

Момант вымагае рашучых кадравых зьменаў (маюцца на ўвазе людзі, якія падтрымалі маскоўскую хунту), рашучых рэформаў. Калі гэта ня будзе зроблена, дык паўстане пытаньне аб роспуску Саўміна. На гэтай сэсіі яно не было вырашанае з прычыны таго, што мы не маглі ў пераломны момант пакінуць краіну ўвогуле без выканаўчай улады. Праблема ўпіраецца таксама і ў цяперашні склад Вярхоўнага Савета, які нявздольны сфармаваць кампетэнтны дэмакратычны кабінет міністраў. Таму найперш мы павінны распусьціць гэты Вярхоўны Савет, правесьці новыя выбары, і толькі тады можна будзе гаварыць пра сапраўдную рэформу выканаўчай улады.

**„Навіны”: – Асаблівыя пытаньні выклікае той факт, што дагэтуль на сваёй пасадзе Пракурор БССР Г. Тарнаўскі, які санкцыяваў перасьлед за палітычныя перакананьні ўдзельнікаў антыкамуністычнай дэманстрацыі і мітынгу 7 лістапада 1990 года, ня звольненыя міністар юстыцыі Л. Дашук і старшыня Дзяржтэлерадыё БССР А. Сталяроў, якія падтрымалі маскоўскую хунту. Вядома, што В. Кебіч даваў некаторыя абяцаньні на гэты конт. Чаму яны ня выкананыя?**

**Зянон Пазьняк:** – Абяцаньні былі дадзеныя адносна ўсіх пералічаных асобаў. Г. Тарнаўскага можа вызваліць ад пасады толькі Вярхоўны Савет. Тэрмін ягонага знаходжаньня на пасадзе Пракурора Рэспублікі скончыўся ў жніўні. Як чалавек пэнсійнага ўзросту, Г. Тарнаўскі мог сам зараз падаць у адстаўку, і гэта было б найлепшае выйсьце. Не падасьць – слова за Вярхоўным Саветам.

Што датычыць міністраў, дык на 4-й сэсіі Вярхоўнага Савета В. Кебіч атрымаў паўнамоцтвы здымаць і прызначаць іх. Тое, што ён цягне час, якраз і ілюструе ягоную нерашучасьць, пра якую гаварылася вышэй. Калі гэтак будзе працягвацца, Апазыцыя БНФ зьвернецца да грамадзкасьці, што будзе не на карысьць В. Кебічу, які пакуль у адстаўку не зьбіраецца. Калі ён разьлічвае на палітычную будучыню, ён павінны пераглядзець лінію паводзінаў.

**„Навіны”: – Як спрыяе Прэзыдыюм Вярхоўнага Савета выкананьню пастановаў і закону пра незалежнасьць Беларусі?**

**Зянон Пазьняк:** – Прэзыдыюм павінен пайсьці ў адстаўку, бо ў ім сабраліся людзі, далёкія ад палітыкі і разуменьня таго, што мы цяпер жывем у незалежнай дзяржаве.

***(Запісала Ірына Лазоўская)***

*Надрукавана: („Навіны Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне”, 6’1991)*



(Аўтар фота невядомы).

***38. Маладая Беларусь.***

# СТВАРАЮЧЫ – ПЕРАМАГАЕМ!

Савецкі Саюз палітычна разваліўся пасьля краху камуністычнай партыі, таму што зьяўляўся імпэрыяй КПСС. Гэта значыць – экстэрытарыяльнай імпэрыяй партыйнай бюракратыі і створаных ёю адміністрацыйных структураў. Аднак засталіся яшчэ саюзныя ўстановы і арганізацыі, адміністрацыйна-эканамічныя і фінансавыя путы. Патрэбны час, каб пазбавіцца ад гэтых апошніх старых ланцугоў. Патрэбна палітычная дакладнасьць і разважлівасьць, каб не набыць ланцугоў новых.

Рэспублікі вакол нас разьвіваюцца як незалежныя дэмакратычныя нацыянальныя дзяржавы. Прытым пераганяюць нас у палітычных і эканамічных рэформах у дзяржаўным будаўніцтве. Мы павінны цяпер хутка, шмат і дакладна працаваць над усталяваньнем дэмакратыі, над адраджэньнем нашай беларускай дзяржавы, гарантыямі яе незалежнасьці, разьвіцця эканомікі, культуры і сацыяльных варункаў.

На вялікі жаль, Вярхоўны Савет Беларусі, выбраны яшчэ за часы камуністычнай „вандэі", у большасьці сваёй няздольны эфэктыўна працаваць у новых умовах і заканадаўча вырашаць неадкладныя патрабаваньні незалежнай Рэспублікі. Кожны самастойны ствральны крок, кожнае, нават самае малое, заканадаўчае дасягненьне патрабуе незвычайных высілкаў нешматлікай дэпутацкай Апазыцыі БНФ у Вярхоўным Савеце. Большасьць дэмакратычных ініцыятываў блакіруецца дэпутатамі ад намэнклятуры. І тым ня менш крок за крокам, сантыметр за сантыметрам мы рухаемся наперад, часам самы зьдзіўляючыся, што яшчэ рухаемся ў такіх неспрыяльных «парляманцкіх» варунках. Найбольшымі дасягненьнямі пасьля жнівеньскай нечарговай сэсіі сталі прыняцьце гістарычнай нацыянальнай сымволікі ў якасьці дзяржаўнай і пастановы аб праве прыватнай уласнасьці на зямлю. Гэтым самым закладзены першыя асновы пад разьвіцьцё нашага суверэнітэту і пэрспэктывы для пераўтварэньня эканомікі.

Крайне кепскае становішча з Саветам Міністраў, які стаў прыстанішчам былой камуністычнай намэнклятуры і функцыянераў, што падтрымлівалі жнівеньскі пераварот. Банкруцтва Ураду выявілася ўжо даўно. Але асабліва небясьпечнае яно цяпер, калі трэба прымаць энэргічныя захады па эканамічным разьвіцьці і абароне маёмасьці Рэспублікі. 17 верасьня чарговая спроба ціхага перавароту і намэнклятурнага захопу заканадаўчай улады ў адных руках не атрымалася. Старшыня Саўміна В. Кебіч, які балатаваўся на пасаду Старшыні Вярхоўнага Савета, набраў у другім туры толькі 140 галасоў.

Тым ня менш адправіць у адстаўку кіраўніка гэтага збанкрутаванага Ураду, улічваючы абставіны ў Вярхоўным Савеце, будзе вельмі цяжка, а сам прэм'ер-міністр, як сапраўдны камуніст і член бюро ЦК КПБ, ніколі, ні пря якіх абставінах у адстаўку ня пойдзе, хоць бы тут і ўсё развалілася. Ня выключана і трэцяя спроба захопу адзінаасобнай улады на Беларусі посткамуністычнай намэнклятурай.

У выніку цяпер у Рэспубліцы – прастой, страта тэмпу. Незалежная Беларусь тым часам павінна праводзіць энэргічную актыўную зьнешнюю і унутраную палітыку. Спазьненьне можа дорага каштаваць.

Давайце падлічым перашкоды і стымулы нашага незалежнага дзяржаўнага разьвіцьця, эканамічнага ўздыму і нацыянальнага адраджэньня.

***Мы маем даволі магутную і шматгаліновую эканоміку, маем навукаёмкія накірункі, электроніку, машынабудаўніцтва, разьвітую навуку, пэрспэктывы ў сельскай гаспадарцы; у нас яшчэ ўмелы працавіты народ, кваліфікаваныя рабочыя, мы валодаем дастатковым запасам інтэлекту і прафэсійна падрыхтаваных спэцыялістаў. У нас выключна зручнае геапалітычнае становішча, неблагі клімат, дастатковая колькасьць насельніцтва адносна памераў тэрыторыі, гарманічнае разьмяшчэньне гарадоў.***

Пачуцьцё ўпэўненай устойлівасьці і грунту дае нам нашая тысячагадовая дзяржаўная гісторыя, нашая старадаўняя беларуская культура. Далёка ня ўсе народы, што валодаюць дзяржаўнай незалежнасьцю, маюць такія глыбокія гістарычныя падваліны і культурныя скарбы, як беларусы.




***39. На адным зь мітынгаў БНФ у незалежнай Беларусі. Зьлева напр.: Сяргей Мурог (другі плян), Сяргей Папкоў, Зянон Пазьняк, Юры Хадыка.***

Тым часам на працягу апошніх 150–200 гадоў, пасьля анэксіі беларускіх земляў расейскай імпэрыяй, мала чыю культуру гэтак зьнішчалі і разбуралі ворагі, як культуру беларускую, мала які народ перажыў такі пасьлядоўны мэтанакіраваны этнацыд і фізічнае вынішчэньне, як беларусы. Асабліва страшны па сваіх наступствах стаў пэрыяд бальшавіцкай імпэрыі. Вынішчэньне было ня толькі татальным, але і выбарачным – забівалі лепшых, маральных, працавітых, багатых, адукаваных, разумных. Разбуралі памяць і гістарычную сьвядомасьць, культывавалі мамелюкаў, бяздушнае янычарства. Адбывалася бальшавіцкая сэлекцыя нацыі і адначасна бальшавіцкае пераўтварэньне эканомікі. У выніку сэлекцыі зьнізілі ўзровень нацыі. У выніку пераўтварэньня эканомікі зьнішчылі прыватную ўласнасьць і гаспадара. У новых бюракратычных формах было адроджана прыгоннае права, што спарадзіла самае страшнае – люмпэнізацыю грамадзтва

і сьвядомасьці насельніцтва. Люмпэн («пралетарыят», па бальшавіцкай тэрміналёгіі) ня здольны ствараць. Яго сьветапогляд – эгалітарызм (роўнасьць па беднасьці). Ен здольны толькі спажываць і разбураць. У люмпэна няма бацькаўшчыны. Ен падвержаны стадным інстынктам, імкненьнем да ахлакратыі. Гэта спажыўнае асяродзьдзе для дыктатуры. Камуністычны рэжым якраз і ёсьць палітычнае выяўленьне ахлакратыі.

Дэмакратыя ў люмпэнізаваным грамадзтве немагчымая. Крах аднаго таталітарызму прыводзіць да іншага, бо люмпэн ня можа быць свабодным.

Каб пазьбегнуць гэтага, трэба аднавіць у людзей уласнасьць і культуру. Прыватная ўласнасьць робіць чалавека незалежным. Культура вучыць яго карыстацца незалежнасьцю, ператварае ў свабоднага чалавека, нацыю – у вольны народ.

Павінен зьявіцца сярэдні кляс з канструктыўнай, нерэвалюцыйнай прадпрымальніцкай і гаспадарскай псіхалёгіяй, незацікаўлены ў сацыяльным разбурэньні.

Цяпер, калі зьнікла з грамадзкіх узаемаадносінаў камуністычная чыннасьць і ідэалёгія, палітычны клімат на Беларусі палепшыўся. Але шмат хто са зьдзіўленьнем назірае, што лавіна глупстваў, бескультур'я, непрафэсіяналізму, дылетантства ва ўсім, амбіцыйнасьці, непамерных прэтэнзіяў і проста папулісцкай дурноты ня толькі ня зьменшылася, але нават павялічылася, набыла нейкі хаатычны суб'ектывісцкі характер, махравее ў рознага роду друку, на радыё і тэлебачаньні, прымітыўны узровень якога ганебны для нацыі. Словам, камуністычны рэжым знік, а вынікі яго дзейнасьці, сістэма – засталіся.

Нейкі школьны сумбур выплывае на палосы газет: «Слова, слова. Независимость. Суверенитет. Частная собственность. Где? Да у нас с вами! Почему не чувствуется? Может, потому, что не под тем, не под историческим флагом ходим? Или что-то в названии республики опять не то? А может, в головах – не то?» Вось прыклад.

Адукаваныя, здавалася б, людзі не разумеюць элемэнтарных рэчаў – першачарговага значэньня гэрба і сьцяга незалежнай дзяржавы, сувязі дзяржаунай сымволікі з міжнародным прызнаньнем незалежнасьці, размеркаваньнем інвестыцыяў і крэдытаў, з магчымасьцямі эканамічных пагадненьняў і палітычнай падтрымкі. Не разумеюць першачарговасьці законаў аб дзяржаўнай сымволіцы. Нават некаторыя дэпутаты-ветэраны зразумелі гэта і галасавалі за дзяржаўныя сымвалы (гэтаму я быу сьведкам), усьведамляючы аб'ектыўную і тэрміновую неабходнасьць для Рэспублікі такога акту. А тут спатыкаеш людзей маладых, сучасных, з вышэйшай адукацыяй – і поўным зацьменьнем у галаве.

Дзяжурнае і цалкам бясспрэчнае пытаньне аб адмене сталінскага самадурства і вяртаньні цяперашняй сталіцы Беларусі яе сапраўднай дзевяцьсотгадовай назвы загразла ў непатрэбных і недарэчных дыскусіях, ператварылася ў нейкі маразматычны фарс. «Перайменаваньне», «Мільёны рублёў», «прылаўкі не напоўняцца», «кілбаса не зьявіцца» і г. д. Якаясьці фантасмагорыя. Пэўна, бяссэнсава тлумачыць тут, што перайменаваньне старажытных гістарычных гарадоў (як і ўвогуле гістарычных тапонімаў і гідронімаў) ёсьць злачынства супраць культуры. Што яно павінна выпраўляцца аўтаматычна ў сфэры ўлады, што свабодны народ ня можа і ня будзе трываць зьнявагу сваёй годнасьці, што ён адновіць свае назвы і ацэнкі падзеяў. Але пра тое, што вяртаньне гістарычнай назвы не каштуе **НІЧОГА** (практычна – капейкі), бо ўводзіцца на працягу пэўнага часу і аксэсуары замяняюцца па меры амартызацыі – трэба б было ведаць. Не, прадстаўнікі нашага насельніцтва з вышэйшай адукацыяй над гэтым таксама не задумваліся.

Мы становімся аб'ектам асьмейваньня з боку суседзяў. 19 верасьня польская дэмакратычная «Газэта выборча», пацяшаючыся зь беларусаў, нібы з шыльдбюргераў, размазала нас, што называецца, «па сьцяне». Адны загалоўкі чаго значаць: «Проста спрасонку», «Паміраючы народ», «Думаньне страўнікам» і г.д. «Двох рабочых Менскага трактарнага завода, пачуўшы пра незалежнасьць, не выглядаюць узрадаванымі, – паведамляе карэспандэнт. – Будзем незалежнымі і здохнем з голаду. Уся сыравіна прыходзіць з-за межаў Беларусі, а прадукцыю прадаем толькі ў Савецкім Саюзе.

Іхны таварыш філясофствуе, што незалежнасьцю яшчэ ніхто не наеўся і не напоўніў бэнзінавы бак у машыне» і г. д. Цытуюцца, як экзотыка, дэбільныя выказваньні, якія, паводле журналіста, павінны сьведчыць пра дрымучае нашае рабства. І як вьнік прыгадвае газэта горкую і сымвалічную гісторыю пра графіню Косэль, якая з волі Аугуста II прасядзела ў замкавай цямніцы 17 гадоў. Калі ж кароль памёр і даў свабоду графіні, яна адмовілася ад яе, сцьвярджаючы, што прывыкла ўжо да няволі і засталася пад замком да канца жыцьця яшчэ 32 гады, толькі цэлю сваю турэмную папрасіла лепш упарадкаваць. «Так і з Беларусяй, – піша карэспандэнт. – Яе жыхары пакідаюць уражаньне, што гатовыя пайсьці па сьлядах графіні і задаволіцца роляй кватаранта ў старой савецкай турме народаў, толькі ў камеры павышанага стандарту».

Выдатны журналіст. Нічога не скажаш. Трапна. Толькі падобны ён на чалавека, які заўважыў, што цела нашае народнае хворае, пакрыта струпамі, і апісвае гэтыя струпы, і прыглядаецца, не заўважаючы іншага, і мяркуе, ці не памром.

Не памром, бо дыягназ хваробы нам вядомы даўно. І лякарства вядомае. Вось толькі жаданьне лячыцца прыходзіць павольна.

Па сутнасьці мы азначылі вузел унутраных праблемаў, ад вырашэньня якіх залежыць нашая дзяржаўнасьць, дабрабыт і нацыянальнае існаваньне. Гэтыя праблемы можна зьвесці да формулы: прыватная ўласнасьць, культура плюс свабода роўна разьвіцьцё. Верагоднасьць вырашэньня формулы вызначаецца простым тэстам: «Чаго б хацелі – свабоды ці тавараў?» У Эстоніі хочуць свабоды. На Беларусі, як правіла, тавараў.

І справа тут не ў адсутнасьці разуменьня прычынна-выніковай сувязі паміж свабодай і таварамі. Свабода – першасная аснова разьвіцьця. Будзе свабода, будуць і тавары. Ствараль-нае імкненьне чалавечай асобы да свабоды, да незалежнасьці нацыі і дзяржавы, пашана да гісторыі і культуры народа ідзе не ад разуменьня, а ад сьвядомасьці. Няма сьвядомасьці – няма нацыі. Мы такія, якімі сябе ўяўляем.

На вырашэньне (альбо невырашэньне) гэтага вузла праблемаў (уласнасьць – культура – свабода) і накіравана па-рознаму палітыка Беларускага Народнага Фронту і КПБ, дэмакратыі і намэнклятуры. Мы бачым, што нацыянальны нігілізм КПБ, і разбурэньне культуры, і недапушчэньне прыватнай ўласнасьці на зямлю, і адмова ад суверэнітэту – усё гэта было сістэмна абгрунтавана, вынікала з акупацыйнай і сацыяльнай сутнасьці камуністычнага рэжыму на Беларусі. І толькі цяпер, з адыходам КПБ з палітычнай арэны, зьявіліся варункі для ажыцьцяўленьня дэмакратычных патрабаваньняў. Відаць першыя вынікі, здабытыя неверагоднымі высілкамі Народнага Фронту, усяго нацыянальна-дэмакратычнага руху, іхных дэпутатаў і народа.

Спыненьне дзейнасьці КПБ і вяртаньне нарабаванай маёмасьці дзяржаве павінна б значна аздаравіць становішча ў грамадзтве і нават у Саветах. Павінны б зрушыцца зь месца рэформы. Аднак хуткага і пасьлядоўнага разьвіцьця пры засільлі старой намэнклятуры ўсё роўна не прадбачыцца. Толькі новыя дэмакратычныя выбары ў прафэсійны парлямант здольныя істотна паўплываць на становішча людзей і дзяржаўную будучыню Беларусі.

Статус незалежнай дзяржавы паставіў перад беларускім грамадзтвам і ўрадам шэраг першачарговых задачаў, вырашэньне якіх трэба пачынаць амаль што з нуля. ***Неабходна хутка стварыць сістэму аховы рэспубліканскай маёмасьці, рынку, структуры абароны суверэнітэту, распачаць актыўную міжнародную палітыку.***

Тым часам у замежнай палітыцы амаль поўная пасіўнасьць. Ня зроблена амаль ніякіх крокаў да ініцыяваньня працэсу міжнароднага прызнаньня незалежнасьці Беларусі. Не наладжана інфармацыя. Не прарвана інфармацыйная блякада, створаная нам Расеяй і варожымі ведамствамі былога СССР. Не вядуцца актыўныя ўзаемадзеяньні з суседзямі. Першы візыт кіраўніка дзяржавы С. Шушкевіча ў Нямеччыну і спатканьне яго там з дзесяціразраднымі бізнэсмэнамі адбыўся ў парушэньне элемэнтарных дыпляматычных правілаў, вызначаных для асобаў такога ўзроўню, выклікаў іронію і кпіны ў замежным друку. (Дарэчы, шаноўнаму спадару Шушкевічу нельга доўга прывыкаць да таго, што ён прадстаўляе нацыю і Рэспубліку Беларусь. У кіраўніка дзяржавы больш абавязкаў, чым свабоды).

Некаторыя працэсы ўвогуле набываюць некантралюемы ход. Гэта датычыць нядаўняга нечаканага падпісаньня ў Алма-Аце дагавора аб эканамічнай супольнасьці Старшынёй Саўміна Беларусі В. Кебічам. З тэксту дагавора добра відаць імкненьне рэанімаваць старыя саюзныя структуры з адзінай эканамічнай прасторай, адзінай падаткавай, мытнай, цэнавай, валютнай палітыкай, адзінай грашовай адзінкай, адсутнасьцю права «вета» за кожнай рэспублікай і г. д.

З 12-ці былых рэспублік былога СССР гэты недарэчны дагавор падпісалі тры: Беларусь, Казахстан і Узбэкістан. Украіна не сьпяшаецца весьці перамовы аб эканамічнай супольнасьці, не заручыўшыся міжнародным прызнаньнем сваёй незалежнасьці. Расея, зыходзячы з сваіх інтарэсаў, таксама робіць выгляд, што асьцярожнічае. Тое, што Беларусь падпісала сумніўную дамову з пракамуністычнымі азіяцкімі рэспублікамі, якія знаходзяцца недзе на другім канцы сьвету, факт сам па сабе сімптаматычны і характарызуе наш Савет Міністраў (успомнім стасункі з Карэяй І Кубай). Баюся толькі, што калі прадставяць такі, з дазволу сказаць, „дагавор" на ратыфікацыю ў Вярхоўны Савет, ці разьбяруцца ў гэтай авантуры народныя дэпутаты?

Пасьлядоўную незалежную палітыку, спрыяльную народу, праводзяць толькі рэспублікі Балтыі. Беларусь, як звычайна, ня робіць ніякай палітыкі. Кіруючыя намэнклятуршчыкі прывыклі, што ўсё вырашаюць за іх і ўсё пойдзе само сабой. Нічога дзіўнага, што пры такім кіраўнічым узроўні Беларусь зноў залазіць у старую «эсэсэсэраўскую» пятлю, разважае пра адзіную саюзную эканамічную прастору і г.д. Хоць вядома, што «адзіная эканамічная прастора» заканамерна прыводзіць да ўнітарнай дзяржавы, да страты суверэнітэту, асабліва калі ў яе ўключана такая імпэрская структура, як Расея. ***Той, хто хоча застацца самым сабой, захаваць свой народ, яго працу і дабрабыт, той клапоціцца, перш за ўсё, аб стварэньні ўласнай дзяржаўнай, эканамічнай, валютнай і мытнай прасторы. А потым ужо можна падумаць і пра агульныя рынкі.***

Поўнае няведаньне і неразуменьне гісторыі Беларусі аказваецца вялікая бяда для палітыкаў. Інакш яны змаглі б адэкватна ацаніць працэсы, што разьвіваюцца вакол нас.

Беларусаў выратуе толькі поўная незалежнасьць і вяртаньне ў Эўропу, толькі паварот і арыентацыя на культурны Захад, а не на разбэшчаны, разбуральны, імпэрскі Усход. Пяць стагоддзяў спыняла Беларусь спачатку татара-мангольскую арду, потым агрэсіўную Маскву. Закрывала Эўропу. 500 гадоў супрацьстаяньня і вайны. ***Вялікую беларускую дзяржаву разбурылі толькі тады, калі расейцы аб'ядналі свае намаганьні зь немцамі. Захапіўшы Літву-Беларусь, царызм паставіў задачу зьнішчыць беларусаў як нацыю, зглуміць культуру, разбурыць беларускую цывілізацыю, зрусіфікаваць. Справу рускіх цароў прадоўжыла руская чэрнь – ленінскія бальшавікі. Акупаваўшы Беларускую Народную Рэспубліку, яны прынесьлі з сабой ня толькі забойствы і «чрезвычайки», ня толькі антычалавечую ленінскую ідэалёгію, але і антыкультуру, хамства, распусту і п'янства, расейскае брыдкаслоўе, ляноту, нянавісьць і хлусьню. Нашае грамадзтва атручанае брыдотай рускага бальшавізму.***

Нават пабежны погляд на грамадзкія працэсы ў Расеі не павінен пакідаць ніякіх ілюзіяў аб намерах. ***Што б ні зьмянілася ў РСФСР – зьнікнуць бальшавікі, прыйдуць дзяржаўныя «дэмакраты», потым генэралы, лібэралы, «патрыёты», ахлакраты – усе роўна. Імпэрыялістычная палітыка Расеі, пакуль яна будзе існаваць як шматнацыянальная імпэрская дзяржава, ніколі не пераменіцца. У першую чаргу гэтая палітыка будзе пагражаць Беларусі і Ўкраіне. Прычыны ў самой Расеі, у яе імпэрскай мэнтальнасьці, гісторыі, унутранай структуры. Вельмі малаверагодна, што Расея ўвогуле стане дэмакратычнай краінай.***

Нестабільнасьць у кіраўніцтве РСФСР, развал дэмакратыі, імпэрыялізацыя афіцыйных структураў, тупік, бездапаможнасьць у эканоміцы і фінансавых дачыненьнях – усё гэта не выклікае даверу, сьведчыць пра магчымы абвал, пра крах папулісцкай палітыкі.

Беларускаму грамадзтву трэба навучыцца глядзець наперад, каб засьцерагчыся ад гангрэны. Дачыненьні з Захадам, пэрспэктывы ўваходу ў эўрапейскі агульны рынак будуць залежаць ад нашага ўнутранага становішча, ад рэалізацыі нашымі грамадзянамі права прыватнай уласнасьці на зямлю, ад разьвіцьця рыначных ўзаемадачыненьняў, ад умацаваньня дзяржаўнага суверэнітэту. Мы павінны цяпер забыцца пра турму народаў і не азірацца на яе казематы, як бы цяжка нам ні было, як бы нас ні правакавалі абяцанкамі, эканамічнай супольнасьцю, калектыўнай бясьпекай і рознай імпэрскай лухтой, бо за сьпіной – сьмерць. Мы спыніліся на краі бездані народнага небыцьця. У нас зьявіўся шанец на выратаваньне, і, калі мы яго не скарыстаем, – іншых шанцаў ужо можа ня быць.

Мы вельмі адстаём са стварэньнем беларускага войска і ўвогуле з вырашэньнем вайсковага пытаньня, якое цяпер першачарговае. ***Суверэнітэт Беларусі бяз войска – гэта ўтопія. Гэтак жа сама, як без нацыянальнай валюты, без міжнародных сувязяў на ўзроўні пасольстваў, без мытнай прасторы. Зацягваць з вайсковым пытаньнем нельга, бо фінансаваньне Савецкай Арміі хутка скончыцца.*** Беларускі народ ня можа ўтрымліваць і цярпець чужое войска на сваей тэрыторыі. Войска павінна быць сваё. Узброеныя сілы Рэспублікі можна

стварыць на аснове фармаваньняў Беларускай ваеннай акругі з наступным іх скарачэньнем як мінімум на адну трэць. Войскі, што разьмешчаны на тэрыторыі Рэспублікі і не ўваходзяць у БВА, павінны быць выведзены зь Беларусі. Дзеля гэтага заключаецца дагавор на пераходны пэрыяд з рэспублікамі і пераходнымі структурамі СССР, у якім прадугледжаны тэрмін і графік вываду, прынцып базавага ўтрыманьня ваенных частак, памеры аплаты Рэспубліцы за арэнду зямлі, за выкарыстаньне рэсурсаў, інфраструктуры і г. д., квоты плацяжоў Рэспублікі на утрыманьне гэтых пакуль што агульных войскаў.

Ядзерная зброя Беларусі не патрэбная. Але было б рызыкоўна перадаваць яе каму-небудзь. Таму ўсё атамнае ўзбраеньне на Беларусі павінна быць зьнішчана ў рэчышчы агульнага міжнароднага працэсу раззбраеньня з запрашэньнем міжнародных экспэртаў і назіральнікаў. Рэспубліка Беларусь павінна выступіць з ініцыятывай такой акцыі.

Задачы важныя, неадкладныя і працаёмкія. На Беларусі настаў пэрыяд самы адказны, час самай цяжкой працы, якая патрабуе мноства людзей, спэцыялістаў, ахвярнасьці, цярпеньня, сьмеласці і сілы. Раней, калі змагаліся з камунізмам, было прасьцей. Усё было бачна, шмат што зразумела і нескладана. Цяпер жа патрэбныя ня толькі адмаўленцы, але і стваральнікі. Ды вось бяда – працы шмат, а працаўнікоў мала. Давайце ж тады кожны па слоўцу, кожны па жмені, па цаглінцы прынясём у падмурак нашай свабоды і незалежнасьці. Змагаючыся і ствараючы – пераможам.

***Зянон ПАЗЬНЯК,***
***старшыня БНФ,***
***народны дэпутат Рэспублікі Беларусь.***

*Надрукавана: (Народная Газэта, – 1991, 15 кастрычніка)*



***40. 1991 год. Жнівеньскія дні. Менск.***

# ЗВАРОТ СОЙМУ БНФ ДА НАРОДУ БЕЛАРУСІ

Беларусь перажывае цяжкі, трывожны час. Людзі ў разгубленасьці ад няяснасьці эканамічных пэрспэктываў. Абвешчаная незалежнасьць застаецца на паперы, Рэспубліка не вядзе ўласнае дзяржаўнае палітыкі: свая беларуская валюта – дзейсны сродак абараніцца ад хвалі пустых рублёў з усяго былога СССР – ня ўводзіцца, не абароненыя межы, не ствараюцца ўзброеныя сілы. Колішняя залежнасьць ад савецкае імпэрыі на вачах ператвараецца ў залежнасьць ад Расеі, дзе нарастае палітычная й эканамічная нестабільнасьць.

Беларусь мае надзвычай выгаднае эканамічна-геаграфічнае становішча, пэрспэктыўную структуру прамысловасьці, каштоўную сыравіну, досыць разьвітую сельскую гаспадарку, што карміла й корміць ладны абшар былога СССР, добрыя працоўныя традыцыі. Жнівеньскія падзеі – здабыцьцё незалежнасьці – далі ўнікальную магчымасьць рэалізаваць дэмакратычны, інтэлектуальны, эканамічны патэнцыял Беларусі ў незалежнай дзяржаве. Стварыліся ўмовы для пераходу да рынку з выкарыстаньнем нашых перавагаў. Аднак Рэспубліка не выкарыстоўвае гістарычнага шанцу стаць сапраўды незалежнай і дэмакратычнай краінай са свободнай эканомікай. Беларусь ня толькі адстае ў палітычным разьвіцьці ад суседніх рзспублік, але коціцца ў бездань эканамічнага краху й новага каляніяльнага заняволеньня.

Адказнасьць за гэта цалкам ляжыць на Вярхоўным Савеце, яго кіраўніцтве, на Савеце Міністраў Рэспублкі Беларусь.

Спадзяваньні на тое, што Вярхоўны Савет возьме на сябе адказнасьць за лёс Рэспублікі ды яе народу ня спраўдзіліся. Непрафэсійная, непадрыхтаваная да самастойнай дзяржаўнай дзейнасьці намэнклятурная большасьць так і не зразумела, што вяртаньня назад ня будзе. Раней гэтая большасьць арыентавалася на Маскву як на носьбіта камуністычнае ўлады ў апошняй інстанцыі. Цяпер жа, калі ўсе суседнія рэспублікі былога Савецкага Саюзу, і найперш Расея, умацоўваюць свой суверэнітэт заканадаўча й практычна, Вярхоўны Савет Беларусі лічыць разгляд гэтых пытаньняў непатрэбным і неактуальным. Ня маючы праграмы палітычных, эканамічных ды сацыяльных пераўтварэньняў, ён здольны толькі глядзець усьлед падзеям у іншых былых рэспубліках СССР. Апазыцыя БНФ мае дакладную канцэпцыю вываду Беларусі з крызісу й абароны яе суверэнітэту. Але законатворчая праца Апазыцыі ў Вярхоўным Савеце аказалася змарнаванай тымі, хто ня здольны да стваральнае дзейнасьці.

Старшыня Вярхоўнага Савета С. Шушкевіч адмаўляецца ажыцьцяўляць нават відавочныя тэрміновыя захады па абароне суверэнітэту Рэспублікі ды яе спажывецкага рынку. Старшыня ВС прыкрывае сваёй бязьдзейнасьцю Саўмін. Ён дэзыарыентуе людзей, разважаючы пра быццам безвыходнае становішча Беларусі, якая мусіць уступаць у эканамічны й палітычны саюз – абноўленую імпэрыю. Але палітычны ратунак Беларусі – у поўнай незалежнасьці й у сістэме двухбаковых пагадненьняў з былымі партнёрамі па былым СССР. Незалежная Беларусь павінна падпісваць дагаворы, выгадныя ёй, а ня тыя, якіх дамагаецца Масква.

Савет Міністраў Беларусі – гэта намэнклятурная структура, якую без перабольшаньня можна назваць ЦК КПБ у новым абліччы: тыя ж людзі, тое ж думаньне ды інтарэсы. Урад сабатуе нават тыя нешматлікія й куртатыя прагрэсіўныя законы, якія ўсё ж прыняў Вярхоўны Савет. Палітыка Саўміну на чале з дасьведчаным партапаратчыкам В.Кебічам ськіваваная толькі на тое, каб ня выпусьціць з рук намэнклятуры нарабаванае ў народа, каб не дапусьціць эканамічных рэформаў у інтарэсах народу й здаровае эканомікі. На Беларусі не адбываецца прыватызацыі, у якой мог бы ўзяць удзел кожны грамадзянін Рэспублікі, не ствараецца эканоміка роўных шанцаў. Зямля па-ранейшаму ў руках калгасна-саўгасных кіраўнікоў – стаўленьнікаў кампартыі. Беларускі народ вядуць у бездань фізічнага вынішчэньня пасьля Чарнобыля.

Намэнклятурны ўрад Кебіча забясьпечвае прастору незаконнай прыватызацыі, калі ранейшыя партыйна-камсамольскія дзеячы, дырэктарат, міністэрскія апаратчыкі пераўтвараюць дзяржаўную ўласнасьць у сваю прыватную. Такі „пераход да рынку” няўмольна прыводзіць да захаваньня манапалізму ў эканоміцы й да страты нават тых нязначных перавагаў у дабрабыце перед суседнімі рэспублікамі, якія былі дагэтуль. Расею, якая спрабуе распачаць эканамічныя рэформы, гэтая сітуацыя на Беларусі аб’ектыўна задавальняе. Толькі ці задавальняе наш народ становішча, калі эканоміка рэфармуецца не дзеля інтарэсаў Рэспублікі ды яе людзей, але пад чужым націскам і ў інтарэсах намэнклятуры, калі нас чакае не аздараўленьне эканомікі, а чарговае і галавакружнае падвышэньне цэнаў?

БНФ патрабуе неадкладнай адстаўкі такога Савету Міністраў. Вярхоўны Савет жа павінен прыняць новы закон аб выборах і пасьля выбараў заявіць аб самароспуску. Але так бывае ў дэмакратычных дзяржавах, дзе ў палітыкаў ёсьць пачуцьцё адказнасьці й няпісаны кодэкс гонару. У нас так ня будзе. Узьлёт цэнаў, не зьвязаны з эканамічнымі рэформамі, непазьбежна выклікае сацыяльны выбух, уладу можа зьмесьці хваля народнага гневу. І гэты гнеў мае падставы.

Аднак стыхія не бывае стваральнаю. Нам хапіла рэвалюцыяў. Беларускі Народны Фронт прапаноўвае законны шлях зьмены скампрамэтаванае ўлады – рэфэрэндум.

З 1-га студзеня 1992 г. уступае ў сілу Закон аб рэфэрэндуме. Калі да канца году Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусі ня прыме заканадаўчых актаў, якія забясьпечаць незалежнасьць Беларусі, яе эканамічную й палітычную абарону, эканамічныя рэформы, калі Вярхоўны Савет не адправіць у адстаўку намэнклятурны й антынародны ўрад Кебіча – Беларускі Народны Фронт распачынае падрыхтоўку да рэфэрэндуму. На рэфэрэндуме мэтазгодна паставіць пытаньне аб датэрміновым роспуску Вярхоўнага Савету, аб адстаўцы Ўраду, аб нацыяналізацыі маёмасьці КПСС–КПБ.

Закон дазваляе выносіць на рэфэрэндум законапраекты. Паколькі няма спадзяваньняў на тое, што цяперашні Вярхоўны Савет, адыходзячы, прыме дэмакратычны выбарчы закон, можа ўзьнікнуць неабходнасьць прыняць усенародна, праз рэфэрэндум, закон аб выбарах на шматпартыйнай аснове, распрацаваны Апазыцыяй БНФ.

Уся дзейнасьць Апазыцыі БНФ у Вярхоўным Савеце, навуковыя й палітычныя парады Фронту, у тым ліку навукова-практычная канфэрэнцыя БНФ „Незалежнасьць і адраджэньне” (Менск, кастрычнік 1991) засьведчылі, што Народны Фронт здольны аб’яднаць намаганьні навукоўцаў, палітыкаў і практыкаў у распрацоўцы шляхоў і ажыцьцяўленьня выхаду Рэспублікі з крызісу. Мы і надалей запрашаем да інтэлектуальнага супрацоўніцтва людзей навукі, кіраўнікоў, адміністрацыйных работнікаў, бізнэсмэнаў – тых, хто бачыць, што альтэрнатывы незалежнай і дэмакратычнай Беларусі, альтэрнатывы здаровай рынкавай эканоміцы – няма.

Беларускі Народны Фронт – рух беспартыйных, а таксама ўдзельнікаў новых дэмакратычных партыяў. Фронт разам з усімі нацыянальна-дэмакратычнымі сіламі Рэспублікі валодае дастатковым разумовым патэнцыялам і палітычным вопытам, каб узяць на сябе адказнасьць за лёс Бацькаўшчыны. Заклікаем усіх, каму дарагая будучыня Беларусі, перад вызначальнымі гістарычнымі падзеямі гуртавацца ў шэрагах БНФ.

Сойм БНФ „Адраджэньне”.

*9 лістапада 1991, Менск.*

*Надрукавана: (Навіны Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне»,– 7’ 1991)*

# „І ДАМ Я ІМ САМАЕ ГОРШАЕ НА СЬВЕЦЕ НАЧАЛЬСТВА...” (БОГ)

*Гэтыя словы зь вядомай народнай казкі маглі б стаць эпіграфам да ўсёй акупацыйнай беларускай гісторыі.*

**Гэты артыкул напісаны ў сувязі з цяжкім становішчам Беларусі, пагрозай нова-агароўскага дагавора*. Таму ў ім не адлюстраваны апошнія палітычныя падзеі. Але, як лічыць аўтар, асноўныя накірункі грамадзкіх і эканамічных працэсаў у Рэспубліцы прынцыпова не зьмяніліся, што дае яму падставу пазнаёміць чытачоў са сваім пунктам гледжаньня.** *(Рэдакцыя „Народнай Газэты”)*

Свае разважаньні я хацеў бы адрасаваць людзям, якія ні ў чым не вінаватыя, не вінаватыя, што стаяць у чэргах, што так цяжка стала жыць. Яны не чытаюць ні інтэлектуальных інтэрв’ю расейскіх эканамістаў, ні твораў самаўпэўненых журналістаў, начытаных гэтымі эканамістамі. Надакучыла, ды й часу няма. Не сумняваюся, што яны не чытаюць і, пэўна, ня будуць чытаць мае нататкі. І ўсё ж, разважаючы, я пішу менавіта для іх, бо сэрца маё зь імі.

У апошні час прыходзіцца перажываць, бадай, самае вялікае пачуцьцё горычы, якое калі-небудзь на мяне навальвалася. Назіраю і думаю: як усё ж такі добра некаторым людзям нічога не разумець у краіне „мудрых”. Увесь сэнс пралятае праз цябе, як праз буйное рэшата. Іншыя мітусяцца, а ты жыві сабе і радуйся. Успамінаюцца шыльдбюргеры, што пабудавалі ратушу бяз вокнаў і, каб напоўніць дом сьвятлом, вырашылі нанасіць у яго таго сьвятла мяшкамі. „Думмэ Гэнзэ”, як кажуць праклятыя капіталісты, што азначае – „бардзо мондрыя”.

Узвалілі нашы змагары на галовы нашых бардзо мондрых думмэ гэнзаў сувэрэнітэт. Заселі яны ў тым сувэрэнітэце бяз вокнаў і гагочуць, як з хрэну рэдзьку зрабіць, ня бачачы, што за сьценамі пажар, усё гарыць, што агонь вось-вось перакінецца на нашую беларускую хату. „Мудрацы, – крычаць ім, – згінем, насіце ваду!” „Нет кворуму”, – адказваюць бардзо мондрыя думмэ гэнзы і паехалі ў Каракумы лапці плесьці.

Далёка тым шыльдбюргерам да нашых думмэ гэнзаў, далёка. Толькі не да сьмеху, шаноўныя спадарове. Жудасна педантычна пачынаюць збывацца самыя кепскія папярэджваньні, якія дэпутацкая Апазыцыя Народнага Фронту ў Вярхоўным Савеце рабіла яшчэ год і паўтара гады таму, зь месяца ў месяц, з сэсіі ў сэсію.

Ня зроблена амаль нічога, каб своечасова абараніць наш сувэрэнітэт, наш рынак, нашую культуру, нашае насельніцтва. Простыя людзі ніяк ня могуць зразумець – куды ўсё падзелася. Дзейнічаюць фабрыкі і заводы Беларусі, выконваюць заказ, вырабляюць тавары, крамы выконваюць плян, людзі працуюць, а тавараў няма, хоць цэны растуць – нічога ня купіш. Людзі разгубленыя – што адбываецца?

А адбываецца тое, што адбывалася ўвесь час, толькі дайшло да абсурду. Беларусь працуе, тавары вырабляе, а Масква грошы (паперкі) друкуе, на Беларусь прысылае. Мы тыя іхныя рублі-паперкі сваімі таварамі напаўняем. Вось такі „падзел працы”. Яны нам рублі-паперкі, мы ім – тавары. Толькі бяда, што тавараў мы ня можам прадукаваць, колькі хочам, а толькі – колькі здолеем. „Паперак” жа ў Маскве здатны надрукаваць, колькі захочуць, нават закідаць імі ўсю Расею. І кожны можа прыехаць на Беларусь з „паперкамі” па тавары. Таму мы ня маем тавараў, якія вырабляем, ні грошай, бо працуем, як кажуць, „на чорта лысага”. (Нездарма пра нас кажуць „хороший белорусский народ, трудолюбивый”.)

Калі б пад свае тавары мы мелі свае беларускія грошы, то валодалі б і адным, і другім. Тады з сваёй працы і народ, і Рэспубліка багацелі б. Цяпер жа, чым больш мы працуем, тым больш бяднеем. Усе зьдзіўляюцца і шукаюць вінаватых, замест таго, каб шукаць прычыны.

Але могуць запярэчыць: раней „пры камуністах” „усё было”, а цяпер пры дэмакратыі нічога ня стала. Што было пры камуністах да 1953 года, усе ведаюць. У 1953 годзе скончылася эпоха рэпрэсіўнага камунізму, эпоха „калючага дроту”, жудаснай прымусовай працы і эксплуатацыі чалавека. Пачаўся іншы пэрыяд, пэрыяд адміністрацыйнага прымусу, варварскага выкарыстаньня рэсурсаў і эксплуатацыі прыроды. У гэты час быў дасягнуты пэўны параўнальны эфэкт. Зьявіліся замежныя і мясцовыя тавары, ніхто не галадаў, а п’янства стала асноўным артыкулам выратаваньня бюджэту. Аднак ужо з сярэдзіны 70-х гадоў пачалося пагаршэньне. Адміністрацыйна-намэнклятурная сістэма, што разраслася да неверагодных памераў, вычарпала ўсе свае рэсурсы і ўсе магчымасьці. Скончыліся „нафтадаляры”; зьявіўся востры дэфіцыт тавараў; неверагодная гонка ўзбраеньняў раздула і без таго дзіравы бюджэт; была растаптана прырода; экалягічныя абставіны сталі небясьпечнымі для жыцьця. І ўсе гэтыя працэсы разбурэньня каціліся з паскарэньнем.

Той, хто топіцца, каб уратавацца, гатовы схапіцца за брытву. Каб уратаваць уладу і імпэрыю КПСС, намэнклятура схапілася за перабудову. Аднак на гэты раз народ ашукаць не ўдалося, бо стала зразумела, што камуністычная сістэма не рэфармуецца, што яна безвыходная, коціцца ў бездань грамадзкай дэградацыі і сацыяльнага небыцьця. Тады ў 1988 годзе інтэлектуаламі Эстоніі, народамі Балтыі, а затым здаровымі дэмакратычнымі сіламі ўсіх эўрапейскіх рэспублік СССР быў прапанаваны выхад з камуністычнай імпэрскай і эканамічнай магілы. ***Гэты шлях – сувэрэнітэт і дзяржаўная незалежнасьць рэспублік, дэмантаж СССР, рынкавая эканоміка на збалянсаванай аснове ўсіх формаў уласнасьці, дэкамунізацыя грамадзтва, дэмакратычны лад.***

Наступныя тры гады – гэта працяг распаду камуністычнай імпэрыі і адміністрацыйна-намэнклятурнай сістэмы, які адбываецца ў жорсткай і нават месцамі крывавай барацьбе паміж намэнклятурнай уладай, камуністычнымі перабудоўшчыкамі імпэрыі, з аднаго боку, і сіламі дэмакратычнай альтэрнатывы, нацыянальнай незалежнасьці – з другога.

Такім чынам, мы перажываем незваротны працэс распаду камунізму, працэс аб’ектыўны, выхад зь якога ўзьнікае толькі тады, калі зьяўляецца альтэрнатыва. Таму бессэнсоўна азірацца назад – ззаду небыцьцё.

* Маецца на ўвазе новы дагавор аб Савецкім Саюзе, які хацеў заключыць М. Гарбачоў, каб жорстка замацаваць цэнтральную ўладу (маскоўскую цэнтралізацыю) і імпэрскую палітыку СССР. Перамовы і падрыхтоўка новага дагавора адбываліся ў Нова-Агарове пад Масквой. На Беларусі некрытычным прыхільнікам гэтай гарбачоўскай ідэі-фікс быў С. Шушкевіч і, практычна, падтрымлівала ўся камуністычная намэнклятура. *(З.П.).*



*41. Пахаваньне камунізму. Гэпэнінг на вуліцах Менска 24 жніўня 1991 г.*

Нашае беларускае грамадзтва цяпер апынулася ў становішчы, не раўнуючы, нібы той беларускі салдат, загнаны саветамі на поле бою 2-й Сусьветнай вайны. Сьпераду па ім страляюць немцы. Ззаду ў сьпіну страляюць кулямёты энкавэдзістаў. Куды ні бяжы – ўсюды сьмерць. Спынішся – расстраляюць з абодвух бакоў. Выхад толькі наперадзе, толькі ў атаку, дабегчы да нямецкіх акопаў і перамагчы.

Падобнае на тое, што нашыя кіраўнічыя шыльдбюргеры спыніліся пасярэдзіне поля. Ззаду камунізм, сьпераду страшна. Рэспубліку ўжо расстрэльваюць, а „бардзо мондрыя думмэ гэнзэ” круцяцца на месцы і кажуць, што дождж ідзе.

Беларусь у апошнія месяцы літаральна рабуюць, вывозяць тавары, ваенныя склады, медыкамэнты, тэхніку, скупляюць жывёлу, бензін, нават шклатару. Як гэта растлумачыць? У чым прычына? Працоўны народ ня ў стане сябе абуць, пракарміць. Рэспубліка вытварае мяса на душу насельніцтва столькі ж, як і ЗША, а мяса і мясных вырабаў, практычна, няма. Беларусь вымушана купляць тысячы тон збожжа, завозіць нават чужую харчовую соль, у той час, як свая ідзе ў адвалы Старобінскага радовішча. Пры гэтым нас імкнуцца пераканаць розныя „бардзо мондрыя думмэ гэнзэ”, што Беларусь ня можа сама сябе ўтрымаць і памрэ без расейскай нафты.

Тым часам жыцьцё складваецца так, што людзі, іх этнічныя супольнасьці жывуць там, дзе яны могуць сябе пракарміць. Дзе ня могуць, там і не жывуць. Эскімосы ледзяной Грэнляндыі жывуць у сьнягах, таму што там можна існаваць і пракарміцца. А тут раптам Беларусь, багатая, эканамічна разьвітая краіна ў цэнтры Эўропы, са старажытнай гісторыяй і культурай, а насельніцтву яе хутка ня будзе чаго есьці.

Такое можа здарыцца ў выніку дзьвюх прычын – альбо з-за каланіяльнай эксплуатацыі, альбо з-за антынароднай палітыкі дзяржаўных уладаў. На Беларусі было і першае, і другое. КПБ-КПСС рашыла правесьці над рэспублікай каланіяльны экспэрымэнт – перапрафіляваць яе гаспадарку на вытворчасьць мяса. Зьявіліся жывёлагадоўчыя комплексы па 50.000 галоў. Акрамя таго, што гэтым атруцілі падземныя воды і рэкі, сапсавалі палі і паветра, стапталі лугі, лясы, зямлю – жывёле скормлівалі зерне, якое пачалі завозіць і купляць па высокіх цэнах, а мяса, якога вытваралі неверагодна шмат, пачалі пастаўляць 24 губерні Расеі, Маскву, Пецярбург, Паўночны і Балтыйскі флаты па нізкіх цэнах. У выніку „трудолюбивый белорус” ня мае ні мяса, ні зерня.

Прыкладаў такога каланіяльнага варварства і кіраўнічага халуйства перад Масквой можна прывесьці шмат і па нашай беларускай нафце, і па калійных солях, і па бульбе, праданай за бясцэнак, і па вынішчэньні і вывазу нашых лясоў, і па нізкім узроўні зарплаты, не адпаведным стану вытворчасьці ці працы на Беларусі. Справа ня ў тым. Вы скажаце, што так было раней, а цяпер Беларусь – сувэрэнная дзяржава. Чаму ж нічога не перамянілася?

А не перамянілася якраз таму, што не перамянілася. Зьмянілася толькі фразэалёгія. Яна перастала быць дзяржаўна-камуністычнай. Уся ж улада, усе структуры ўлады, усе ключавыя пасады нават у сістэме інфармацыі, як былі, так і засталіся на Беларусі ў руках камуністычнай намэнклятуры, іхных стаўленьнікаў і функцыянераў. Больш таго, гэтыя структуры нават умацаваліся за кошт прытоку туды папаўненьня з апячатаных партыйных камітэтаў. Якой самастойнай дзяржаўнай палітыкі можна ад іх чакаць, калі ў іх адсутнічае дзяржаўнае думаньне, калі яны навучыліся і прывыклі выконваць указаньні з Масквы ды ЦК КПСС.

Беларускі Народны Фронт як быў, так і застаўся надалей у апазыцыі да камуністычна-намэнклятурнай улады ў Рэспубліцы, выставіў да яе дакладныя і жорсткія патрабаваньні.

***Сувэрэнная дзяржава павінна праводзіць сваю ўнутраную і зьнешнюю палітыку. Калі яна такой палітыкі ня мае, то становіцца залежнай ад дзеяньняў іншых дзяржаваў, ідзе ў хвасьце іхніх працэсаў, што прыводзіць, як правіла, да разбурэньня эканомікі, зьбядненьня насельніцтва, страты незалежнасьці, расчляненьня тэрыторыі суседнімі краінамі. Бяздзейнасьць, непрафэсіяналізм цяперашняга кіраўніцтва, які вынікае з поўнага неразуменьня таго, што адбываецца, адпаведна зь няўменьня рабіць прагнозы – усё гэта падводзіць Рэспубліку і наш народ менавіта да такога выніку.***

Амаль усе праекты законаў, пастановаў і прапановы Апазыцыі БНФ, зробленыя на працягу існаваньня гэтага Вярхоўнага Савета, былі адкінуты і заблякаваны намэнклятурнай большасьцю. Прапанаваліся канцэпцыі пераходу да рынку, прыватызацыі, замацаваньне законам права прыватнай уласнасьці на зямлю, закон аб самакіраваньні, закон аб выбарах, пакет законапраектаў па стварэньні сістэмы ўзброеных сілаў Беларусі, прапановы па беларускай валюце і абароне таварнага рынку Рэспублікі і г.д. Усё дарэмна. Аднак прайшоў час, і жыцьцё паставіла гэтыя задачы неадкладна. Але ўжо позна. Ужо выдаткі за шыльдбюргерства нясуць наша краіна і нашыя людзі.

Расея шматкроць павысіла цэны на прадукты (фактычна, лібэралізацыя цэнаў там ужо пачалася). І паплылі зь Беларусі мяса, яйкі, кілбасы самалётамі, цягнікамі на Маскву. Стаўпатварэньне. Затлумленая чыгунка. Беларускі ўрад на ўсё гэта – нуль увагі.

Адпусьцілі свабодныя цэны ў Летуве, Латвіі. У выніку па ўсёй паўночнай Беларусі скуплены жывёла, тавары, лякарс-

твы. Засталіся пустыя паліцы. Апазыцыя БНФ лямантуе. Вярхоўны Савет, як звычайна, нічога не разумее. Урад Беларусі – нуль увагі.

Суседнія рэспублікі паведамілі, што ў бліжэйшы час увядуць свае грошы. Гэта прывядзе да таго, што наша Рэспубліка ператворыцца ў гіганцкую сьметніцу для пустых савецкіх папер-рублёў, якія скінуць на нас (бо ў нас гэта грошы) Украіна, Летува, Латвія. У нас не застанецца тады нічога, ніякіх тавараў. Вывезуць машыны, запчасткі, нават станкі (самі аддадзім).

Дэпутаты Апазыцыі БНФ зрабілі адчайныя крокі ў глухім парляманце, выступілі на тэлебачаньні, надрукавалі Заяву ў прэсе, паставілі каторы раз пытаньне аб першачарговых мерах па выратаваньні тавАрнага рынку Рэспублікі. Гэты лямант у пустыні прымусіў Урад зрабіць палітычную заяву ў стылі ЦК КПБ, прыняць некалькі засьцерагальных пастановаў і рашэньне аб выпуску купонаў. Але не шматразовых, якія б мелі функцыю часовых грошай, а аднаразовых у значэньні талонаў – сістэмы, якая нідзе сябе не апраўдала.

Шматразовыя купоны Ўрад не выпускае, бо ня хоча „траціць" валюту – прыблізна 100.000 даляраў. Дарэчы, за імпартнае абсталяваньне для сваёй газэты „Рэспубліка" Ўрад заплаціў значна больш, чым патрабуецца на выпуск купонаў. Ім кажуць: калі захаваеце сто тысячаў, то згубіце мільярды і атрымаеце сацыяльны выбух. „А мы пойдзем усьлед за Расеяй, – адказваюць саўмінаўскія дзеячы, – будзем адпускаць цэны, няхай павышаюцца ў іх і ў нас. „Але ж друкарскі станочак у Маскве, панове, грошыкі ж ня нашыя, – пярэчаць ім, – што вы „павысіце", вы ж ня зробіце пяцітысячную купюру. А калі Расея пасьля Ўкраіны ўвядзе свае грошы, тады што?"

„Ну, неяк жа ж будзе", – адказваюць дзяржаўныя людзі. Адным словам, сюррэалізм, тэатр абсурду.

Хіба ж дрэнна, што летувісы скупляюць у нас тавары, пакідаюць на Беларусі рублі, – кажа ў Наваполацку С. Шушкевіч (трансляцыя па ТБ на ўсю Рэспубліку), – нам жа можна будзе гэтымі грашыма Расеі выплаты рабіць. Словам, як у той гісторыі – гумно-то згарэла, але затое колькі мышэй ляснула. Каб сам ня чуў, не паверыў бы.

„Мы, – кажа ў экран наш Старшыня Вярхоўнага Савета, – з Расеяй, зь Ельцыным зьвязаны адной вяровачкай, калі Ельцын скочыць зь дзясятага паверху, то і нас за сабой пацягне... „

Нейкі мазахізм. Навошта вы зьвязаліся адной вяровачкай з самагубцам, які хоча скакаць зь дзясятага паверху? Каб ратавацца, трэба разьвязацца. Разьвязаліся ж Украіна, Малдова, Летува, Латвія, Эстонія, Грузія, Арменія, нават Азербайджан!

Хто даў права ставіць пад пагрозу дзяржаўны сувэрэнітэт? Які „саюзны дагавор" насуперак Канстытуцыі Старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі надумаўся падпісваць з Гарбачовым? Гэта ж ужо не прэзыдэнт, а „жывая гісторыя", што ператварылася ў камічную фігуру, вартую жалю, якая заяўляе аб непрызнаньні вынікаў рэфэрэндуму на Ўкраіне як выхаду з СССР, а сам з панядзелка будзе атрымліваць сваю „прэзыдэнцкую" зарплату з бюджэту Расеі. Няўжо і тут вяровачка не разьвязаная?

Незалежнасьць Беларусі? „Гэта жарт", – казаў у інтэрв'ю яшчэ летам шаноўны старшыня Вярхоўнага Савета спадар С. Шушкевіч. І вось – перастала быць жартам. Нічога ня зробіш, трэба займацца дзяржаўнай палітыкай. Выкладзіце сваю канцэпцыю палітыкі Беларусі – запатрабавалі ў Старшыні дэпутаты. Чакалі месяц – няма канцэпцыі. Беларускія грошы? „Гэта сьмешна", – заяўляе Старшыня на сэсіі. Зрэшты, разам з саўмінаўскім „неяк жа ж будзе" і намерамі ліквідаваць суверэнітэт Беларусі – гэта і ёсьць канцэпцыя.

***Горыч ад незваротна страчанага. Народ Беларусі ўжо цяпер ня меў бы большасьці з тых цяжкасьцяў, ад якіх цяпер пакутуе, калі б раней і Вярхоўны Савет, і Ўрад прынялі б адпаведныя захады, пра якія гаварылася сто разоў. Крыўдна, што Беларусь мела найлепшыя ад усіх рэспублік былога СССР зыходныя дадзеныя, каб стаць эканамічна моцнай дэмакратычнай незалежнай дзяржавай, каб вярнуцца ў Эўропу, і не скарыстала сваіх пераваг.***

Важнейшым пытаньнем цяпер становіцца стварэньне беларускага войска. Апазыцыя БНФ падрыхтавала яшчэ ў верасьні пакет законапраектаў па войску. Аднак дэпутаты нават не зразумелі, што ад іх патрабуецца („Зачем нам армия"). Цяпер тое, што мы тлумачылі два з паловай месяцы таму, тлумачыць само жыцьцё, і да некаторых народных выбраньнікаў пачало даходзіць. Аднак сітуацыя стала трывожнай, час страчаны.

Справа ў тым, што бюджэт неіснуючага СССР канчаецца ў 1991 годзе, і велізарнейшае савецкае войска на Беларусі застанецца без аплаты. Гэта можа выклікаць сацыяльны выбух, прытым надзвычай небясьпечны. Таму стварэньне беларускага войска на аснове Савецкай Арміі ёсьць рэальны выхад з бязвыхаднага становішча. У верасьні ўсё можна было зрабіць лепшым для Рэспублікі чынам. Цяпер час страчаны і ўмовы пагоршыліся. Беларусі нічога не застаецца, як тэрмінова ўзяць на свой бюджэт усё савецкае войска на сваёй тэрыторыі, хутка правесьці яго скарачэньне і спыніць сэрыйнае ўзбраеньне (што дасьць 80 адсоткаў эканоміі ваеннага бюджэту).

Неабходна прызначыць міністра абароны Беларусі і правесьці афіцэраў да прысягі Рэспубліцы Беларусь, расходы на войска закласьці ў бюджэт на 1992 г. Калі гэтага не зрабіць да Новага году, то будзе адно з двух: альбо на Беларусі загучаць стрэлы, альбо мы будзем мець на сваёй зямлі расейскае войска і карміць яго. (Расейскі ўрад мае пляны аб'явіць усё савецкае войска расейскім). Я кажу „карміць", бо сваіх грошай у нас няма, а расейскі ўрад хоча плаціць зарплату свайму войску пустымі рублямі, якія выдрукуе на станку. Але напаўняць таварамі і прадуктамі гэтыя пустыя афіцэрскія рублі будзем мы – беларусы.

Ізноў жа: яны нам паперкі, мы ім – тавары. Мяркую, што пра лёс сувэрэнітэту, які застанецца толькі фармальна, распавядаць ня трэба.

Сэсія Вярхоўнага Савета пачнецца толькі 17 сьнежня. Але справа ня ў тым, што часу ўжо, фактычна, ня будзе. Сумняваюся, што і на гэты дзясяты раз Апазыцыі БНФ удасца што-небудзь удзяўбсьці ў бэтон народных выбраньнікаў.

Сёньня 1 сьнежня, калі пішуцца гэтыя радкі. Па тэлевізары паказваюць, як праходзіць рэфэрэндум аб незалежнасьці Ўкраіны. Які народны ўздым, якое сьвята! Усе людзі, усе грамадзяне Рэспублікі – украінцы, рускія, татары, палякі, габрэі, малдаване – усе галасуюць за вольную незалежную Ўкраіну. Вялікія дзяржавы сьвету ўжо гатовы прызнаць яе.

О, шчасьце свабоды! Віншую, дарагія ўкраінцы, віншую вас, вялікі свабодалюбны народ! Вы вартыя сваёй будучыні. Бачу акрыленыя ўсьмешкі на вашых абліччах і цешуся разам з вамі. Жыве незалежная Ўкраіна!

***Зянон ПАЗЬНЯК,***
***Народны дэпутат Рэспублікі Беларусь***

*1 сьнежня 1991 г.*

*Надрукавана: („ Народная газета",– 1991, 14 сьнежня)*

# СЬНЕЖАНЬ. ПАЛІТЫЧНАЕ СТАНОВІШЧА НА БЕЛАРУСІ

Заканчваецца 1991 год. Тры галоўныя праблемы стаяць у гэты час перад сувэрэннай Беларусяй: праблема ўлады, праблема нацыянальнай валюты і зьвязаных зь ёю існаваньня таварнага рынку і цэнаў і праблема войска.

25 жніўня – у дзень абвяшчэньня поўнай незалежнасьці Беларусі і прыпыненьня дзейнасьці структураў КПБ-КПСС у Рэспубліцы перамаглі ідэі Народнага Фронту, але ўся прадстаўнічая і выканаўчая ўлада зьверху данізу засталася ў руках камуністычнай намэнклятуры. Народны Фронт застаўся ў апазыцыі да Вярхоўнага Савету, Ураду і намэнклятурна-кансэрватыўнага рэжыму ў Рэспубліцы.

У адрозьненьне ад іншых рэспублік былога СССР, ***камуністычная арганізацыя на Беларусі грунтавалася на ідэалёгіі нацыянальнага нігілізму, была рэзка варожая самабытнасьці, мове, гісторыі і культуры беларускага народу.*** Гэты кампрадорскі комплекс і адкрытае ўгодніцтва перад Масквой не дазволілі беларускай камуністычнай партакратыі перайсьці на пазыцыі нацыянал-камунізму ці нацыянал-дэмакратыі і асядлаць дэмакратычны вызваленчы рух, як гэта здарылася ва ўсіх рэспубліках (не выключаючы балтыйскія). Жнівеньскія падзеі ў Расеі прывялі беларускую партнамэнклятуру ў шокавы стан. Згубіліся прывычныя арыенціры, а новых, не валодаючы дзяржаўным думаньнем, не выяўляючы інтарэсаў народу, яна знайсьці ня можа. Беларусь застыла ў самагубчым супрацьстаяньні. З аднаго боку, ідэалягічна падарваная і скампраметаваная намэнклятурная сістэма былой камуністычнай улады, з другога – усё грамадзтва, якое трапіла ў палон дэмакратычных ілюзіяў і фразэалёгіі.

У выніку Рэспубліка Беларусь, стаўшы дэ-юрэ незалежнай дзяржавай, не праводзіць, фактычна, палітыкі незалежнай дзяржавы. Ня рухаюцца рыначныя эканамічныя рэформы, не адбываецца пераарыентацыя вытворчасьці на ўнутраны таварны рынак, які адкрыты бяскрайнім прасторам калапсуючай, галоднай і агрэсіўнай Расеі, не ствараецца ўласная валюта, войска, мытная сістэма, не ўпарадкоўваюцца межы, не наладжваюцца міжнародныя сувязі, няма канцэпцыі замежнай палітыкі. Па прывычцы намэнклятурнае кіраўніцтва Беларусі глядзіць на ўсход, на Маскву, якую цяпер адначасна ня любіць і баіцца, бяздумна завязвае кантакты з Азіяй і мусульманскім сьветам, замест таго, каб вярнуцца ў Эўропу, выкарыстаць свае эканамічныя, навуковыя, прамысловыя, геапалітычныя перавагі перад іншымі краінамі былой савецкай зоны, свой высокі ўзровень разьвіцьця.

Выразьнікам такой гора-палітыкі зьяўляюцца Савет Міністраў і зьвязаны зь ім пракамуністычны Вярхоўны Савет на чале з „незалежным" дэпутатам С. Шушкевічам, які за тры месяцы старшынства паказаў ня толькі сваю залежнасьць ад волі намэнклятуры, але і поўнае неразуменьне таго, што адбываецца з Рэспублікай. Некаторыя сэнтэнцыі гэтага кіраўніка, пэўна, увойдуць у гісторыю палітычнага фальклёру. Нядаўна ў Наваполацку Старшыня Вярхоўнага Савета паведаміў, што паабяцаў Гарбачову паслаць „Белполк" у Карабах (гэта насуперак пастанове Вярхоўнага Савета Рэспублікі). Прафэсарская лёгкасьць людзей у белых манішках у дачыненьні да чужой крыві часам зьдзіўляе. Лепш ужо мець справу з ваеннымі – яны больш разьбіраюцца.

***Як бы там ні было, але бязьдзейнасьць Ураду Беларусі, Вярхоўнага Савету і палітыка неадэкватных дзеяньняў зьяўляецца першапрычынай рэзкага пагаршэньня жыцьця насельніцтва Беларусі, паставіла Рэспубліку ў падпарадкаваную залежнасьць ад эканамічных працэсаў у суседніх рэспубліках, перш за ўсё, ад Расеі, пагражае стратай суверэнітэту дзяржавы. У гэтай сітуацыі стараньні С. Шушкевіча, В. Кебіча і іншага кампрадорскага кіраўніцтва падыграць Гарбачову зь Ельцыным, заключыць „саюзны дагавор" і рэанімаваць СССР (у выглядзе Расеі) выглядае самазабойчай бязглуздасьцю.***

Беларускі Народны Фронт ацэньвае такія дзеяньні, як здраду Рэспубліцы з усімі выцякаючымі адсюль высновамі. Апазыцыя БНФ у Вярхоўным Савеце запатрабавала адстаўкі Ўраду, новых выбараў і роспуску Вярхоўнага Савета Беларусі. Цяпер Апазыцыяй падрыхтаваны праект канстытуцыйнай рэформы існуючага Вярхоўнага Савету. Гэта будзе яшчэ адна спроба павярнуць уладу тварам да беларускага народа. Калі і гэты праект будзе адкінуты, тады нічога не застанецца, як ствараць паралельную структуру ўлады на аснове Апазыцыі БНФ і спадзявацца на падтрымку грамадзтва, выбух у якім набліжаецца.

У Расеі – краіне з сьмяртэльна хворай эканомікай і маральлю, з імпэрскімі замашкамі і псэўдадэмакратычнай уладай – пачынаецца абвал, які неўзабаве можа выліцца ў гаспадарча-палітычную катастрофу. Верх неразумнасьці заставацца цяпер эканамічна залежнымі ад паставак з Расеі нафты і іншых рэсурсаў, вытворчасьць якіх абвальна дэградуе. Самазабойства – карыстацца абясцэненымі савецкімі рублямі ў той час, калі Дзяржбанк СССР (адпаведна і права эмісіі грошай) груба, у аднабаковым парадку захапіла сабе Расея. Савецкія аўтары пры гэтым цынічна пішуць, што рэспублікі, якія карыстаюцца рублямі, „теперь явочным порядком попадают в жесткую финансовую зависимость от России. И блеск республиканских суверенитетов начинает меркнуть на фоне нищеты республиканских банков". (*Комсомольская правда, – 1991, 4 сьнежня.)* Прытым, што надзвычай небясьпечна, рычагамі эмісіі завалодала краіна, якая эканамічна, фінансава і сацыяльна топіцца. Зразумела, якімі мэтадамі яна будзе ратавацца.

Халуйствам зьяўляюцца дзеяньні па заключэньні розных аднабоказалежных пагадненьняў з вераломнымі палітыкамі тыпу Ельцына, з урадамі, якія не прытрымліваюцца ніякіх дамоваў, карыстаюцца мэтадамі экспрапрыяцыі агульных каштоўнасьцяў (золата, алмазаў, фабрык Дзяржзнака, Дзяржаўнага банку, пасольстваў і г.д.), праводзяць палітыку эканамічнага шантажу і фінансавага бандытызму.

Апазыцыя БНФ яшчэ ў 1990 годзе, прадбачачы падзеі, паставіла перад Ўрадам пытаньне аб падрыхтоўцы нацыянальнай валюты – беларускага талера. Прапанова не была адкінута, але і зроблена нічога не было. Цяпер ужо позна, але толкам таксама нічога ня робіцца. Павышэньне цэнаў у Летуве, Латвіі ўжо прывяло да вынішчэньня нашага таварнага рынку. Лібэралізацыя цэнаў у Расеі з 1992 года яшчэ больш пагоршыць становішча. А калі суседнія рэспублікі ўвядуць свае грошы, Беларусь ператворыцца ў сьметніцу папяровых рублёў. Ніякіх тавараў у нас не застанецца. Усё будзе скуплена за пустыя рублёвыя паперкі, наша праца змарнуецца за бясцэнак.

Беларускія грошы? – „Гэта сьмешна". Суверэнітэт? – „Гэта жарт", – усклікае ў стане непраходзячай эйфарыі ад улады наш

новы Старшыня Вярхоўнага Савета Станіслаў Шушкевіч. Як бы там ні было, але, калі суверэнітэт будзе растаптаны, а беларускі народ без віны давядуць да жабрацтва – пытаньне аб пэрсанальнай адказнасьці кіраўнікоў ніколі ня будзе зьнята. У гэтым можна не сумнявацца.

Не вырашаецца пытаньне з войскам. Войска зьяўляецца часткай дзяржаўнай сістэмы. У СССР рэальную дзяржаўную сістэму ўяўляла, перш за ўсё, КПСС, і войска было „завязана” на гэтую структуру. Пасьля краху КПСС армія засталася сама сабой, стала ператварацца ў асобную сацыяльна-палітычную структуру, узброеную да зубоў. Армія стала самапалітызавацца. Гэта вельмі небясьпечны працэс. Бюджэт неіснуючага СССР заканчваецца ў канцы 1991 г., і савецкая армія застанецца бяз сродкаў да існаваньня. Можа ўзьнікнуць вострая сацыяльная праблема са стральбой і крывёй. Рэспублікі прапанавалі выхад – стварэньне рэспубліканскіх узброеных сілаў на аснове савецкай арміі. Усе ўрады і парлямэнты зразумелі гэтую неабходнасьць, акрамя беларускага Вярхоўнага Савета.

Апазыцыя БНФ яшчэ ў верасьні падрыхтавала пакет заканапраектаў па войску і дамаглася скліканьня нечарговай сэсіі. Прапаноўвалася падпарадкаваць войскі Беларускай ваеннай акругі Вярхоўнаму Савету Рэспублікі, узяць іх на свой бюджэт, тут жа правесьці скарачэньне асабовага складу і прыступіць да фармаваньня Беларускіх узброеных сілаў, стварыць Ваеннае міністэрства, прывесьці да прысягі Беларусі афіцэраў і салдат, прыступіць да вырашэньня пытаньня аб вывадзе астатніх войскаў, аб міжрэспубліканскіх пагадненьнях пра ПВА, пра стратэгічныя сілы, пра канвэрсію, раззбраеньне і г.д.

Аднак намэнклятурныя дэпутаты Вярхоўнага Савета не зразумелі нічога і прагаласавалі супраць рэальных прапаноў Апазыцыі. Цяпер ужо час страчаны. Мы стаім перад выбарам: альбо мы тэрмінова возьмем пад сваё падпарадкаваньне і на свой бюджэт цяпер ужо ўсе савецкія войскі на тэрыторыі Беларусі і правядзем пасьлядоўна ўсе апэрацыі па стварэньні Беларускага войска з большымі стратамі, альбо мы будзем мець на сваёй зямлі чужое войска і будзем яго карміць.

З боку Расеі ўжо чуваць пагрозьлівыя заявы, што яна забясьпечыць утрыманьне войска ў „некаторых рэспубліках”. Пустымі рублямі, вядома, надрукаванымі ў Маскве. Аднак таварнае напаўненьне іх будзе рабіць не Расея, а тая рэспубліка, дзе разьмешчана гэтае войска, якое яна не захацела пераўтварыць у нацыянальную армію. Так спраўджваецца мудрасьць: ***народ, які ня хоча мець і карміць сваё войска, корміць чужое***.

Адмаўленьне Ўкраіны ад „саюзнага дагавору” правaліла гарбачоўскую авантуру і дае надзею Беларусі, але мала што зьменіць у яе становішчы. Ня выключана, што Расея і Ўкраіна паспрабуюць дамовіцца паміж сабой аб прыярытэтах, як даў зразумець спадар Краўчук. Ня выключана, што за кошт інтарэсаў нашай рэспублікі.

Выступленьне прэзыдэнта РСФСР Б. Ельцына ў Вярхоўным Савеце ў Менску 7 сьнежня гэтага году пацьверджае такія апасеньні. Б. Ельцын прадэманстраваў грубую аднабаковую пазыцыю і нежаданьне, як і раней, прытрымлівацца палажэньняў дамовы аб эканамічным супольніцтве. Яго погляды, выкладзеныя ў просталінейных лапідарных выказваньнях, зьдзівілі не аднаго палітыка. Нельга патрабаваць адзін ад аднаго немаг-



***42. Дзень Беларускай Вайсковай славы. Шэсьце на Крапівенскім полі пад Воршай на трэці год незалежнасьці.***

чымага, – сказаў прэзыдэнт РСФСР, – неабавязкова, каб усё супадала, мы пачнем лібэралізацыю цэнаў у сябе на два тыдні раней, а тое, што вы адстаеце, – гэта ўжо вашы праблемы.

Добра, што выступ паказалі па тэлебачаньні і беларускі народ змог убачыць сам, які ў яго ўсходні партнёр. За два тыдні пры адкрытай рублёвай зоне маскоўцам можна будзе абрабаваць усю Беларусь. Яны і да гэтага ўжо шмат папрацавалі на вывазе тавараў з нашай рэспублікі.

Далей выказваньні Б. Ельцына набылі „проста „дзівосны" характар. Ён выявіў гатоўнасьць дапамагчы Беларусі рублямі. Маўляў, чаму ж не, мы во нядаўна і Ўкраіне аддрукавалі мільярд рублёў. Як усклікнуў адзін мой калега, фенаменальна! Аддрукаваць пустыя грашовыя паперкі і закінуць іх у якую-небудзь краіну – гэта значыць падарваць эканоміку гэтай краіны, спрыяць інфляцыі. (Дарэчы, у час 1-й Сусьветнай вайны некаторыя дзяржавы спэцыяльна рабілі такія грашовыя дыверсіі супраць сваіх ворагаў.)



*43. Прамова на Крапівенскім полі.*

Я ўжо не кажу пра тое, што гэты пусты мільярд з Украіны тут жа можа апынуцца на Беларусі (а нашы тавары – адпаведна на Ўкраіне). Зрэшты, мне здалося, што, гаворачы такое, Б. Ельцын – цяпер ужо ўладальнік грашовага друкарскага станка – проста зьдзекваўся з прысутных, бачачы іх халуйскую залежнасьць ад пустога рубля. Добры ж партнёр.

Потым было сказана пра гандаль зброяй, пра тое, што „мы" (гэта значыць РСФСР) можам прадаваць ваенныя самалёты МИГ-29, што амэрыканцы ўжо хочуць іх купіць. „Ну, мы амэрыканцам іх не прададзім", – паведаміў Б. Ельцын. Прададуць іншым, больш надзейным.

Зброяй, вядома, гандлююць, але гэта брыдкі гандаль. У голас палітыкі пра такое стараюцца не гаварыць, тым больш у час афіцыйных перамоваў ды ў тэлекамэру, на ўвесь сьвет. Гэта няпісанае палітычнае правіла.

Аднак найбольш усіх уразіла грубая, на павышаных танах адмова Б. Ельцына сплаціць Беларусі саюзную кампэнсацыю за вынікі катастрофы на Чарнобыльскай АЭС. Як жа так, мяркуе кожны са здаровым сэнсам чалавек. Расея ўзурпавала ўладу над цэлымі сфэрамі былога СССР, прэтэндуе стаць яго пераемнікам, ні з кім не параіўшыся, захапіла агульныя каштоўнасьці і маёмасьць, а вось выконваць абавязкі па даўгах СССР перад Беларусяй адмаўляецца. „СССР банкрот! Нет больше СССР!" – крычыць у залю Барыс Мікалаевіч. Шкада, што ў прэзыдэнта РСФСР не хапае вытрымкі, але калі Расея, захапіўшы каштоўнасьці былога Савецкага Саюза, згадзілася сплочваць сваю частку пазыкі СССР заходнім краінам, то какмпэнсацыю Беларусі за Чарнобыль (нагадваю – 100 мільярдаў рублёў у цэнах 1989 г.) плаціць таксама прыдзецца, прытым не паперкамі, а матэрыяльна забясьпечанымі грашыма.

У канцы такога мэтанакіраванага выступу расейскага прэзыдэнта адбыўся ўвогуле канфуз, які пры трансьляцыі запісу тэлебачаньне вялікадушна не паказала. Б. Ельцына падвяло няведаньне гісторыі Расеі і Беларусі. Нічога не падазраючы, ён падараваў С. Шушкевічу грамату з 1654 г. маскоўскага цара Аляксея Міхайлавіча жыхарам Оршы аб узяцьці іх пад сваю апеку. Прэзыдэнт Барыс Ельцын хацеў, магчыма, „тонка" намякнуць беларусам аб поглядзе рускіх цароў на Беларусь і аб працягу ім іхняе палітыкі (што цалкам стасавалася зь яго выступленьнем і развагамі). Аднак справа ў тым, што старажытная Літва-Беларусь, якая больш трохсот гадоў знаходзілася ў стане пэрманэнтнай вайны з Расеяй, вяла тады, у 1654 годзе, якраз самую крывавую вайну з рускім царом Аляксеем Міхайлавічам. У выніку гэтае вайны Расея пацярпела паражэньне. Так што намёк Барыса Мікалаевіча аказаўся для яго крайне няўдалым.

На часова акупаваных тэрыторыях Беларусі войскі Аляксея Міхайлавіча праводзілі мэтанакіраваны генацыд усяго беларускага насельніцтва. Спэцыяльныя рускія атрады разьязджалі па вёсках, спальвалі іх і забівалі ўсіх да аднаго. У выніку такой „вайны" Беларусь страціла 51 адсотак свайго насельніцтва (асабліва на Мсьціслаўшчыне, Аршаншчыне, Смаленшчыне, дзе вынішчылі амаль усіх). Перамога далася дарагой цаной. Гэта была самая страшная за ўсю гісторыю Беларусі вайна. Так і цяпер вынікі пустарублёвай экспансіі будуць на Беларусі жахлівыя, але ўрэшце рэшт (калі сачыць за „намёкам") перамога будзе за беларусамі.

Сымвалічнае для беларусаў і месца Ворша. (Тут Барыс Мікалаевіч ізноў апраставалосіўся). У 1514 годзе пад Воршай адбылася вядомая ў гісторыі бітва паміж войскамі Масковіі (Расеі) і Літвы-Беларусі. ***Трыццацітысячнае беларускае войска ўшчэнт разьбіла адборную васьмідзесяцітысячную рускую армію. Прытым беларускія рыцары прасьледвалі маскоўцаў і секлі на працягу дзясяткаў вярстоў. Тых, што цудам ацалелі і разьбегліся па лясах, дабілі мужыкі каламі. Беларускія харугвы спыніліся толькі на мяжы Беларусі за Дарагабужам (Смаленшчына). А Вялікі Гэтман польны Канстанцін Астрожскі на памяць аб выйгранай бітве пад Воршай пабудаваў царкву ў Вільні. Беларускае войска змагалася тады пад Бел-Чырвона-Белымі штандарамі, што адлюстравана на вядомай карціне XVI стагоддзя „Бітва пад Оршай" (захоўваецца ў Нацыянальным музэі ў Варшаве).***

Вось як кепска займацца палітыкай і ня ведаць гісторыі.

Апазыцыя БНФ яшчэ два месяцы таму выступіла супраць падпісаньня Рэспублікай Беларусь дамовы аб эканамічным су-

польніцтве дзяржаваў былога СССР на той падставе, што ён Беларусі нявыгадны і што Расея ніколі не выконвала і ня будзе выконваць ніякіх дамоваў – гэта палітычная гульня, крок да новага „саюзнага дагавора” і рэанімацыі СССР. Так і атрымалася. Цяпер добра відаць, што дамова аб эканамічнай супольнасьці – блеф, што Расея не выконвае і не зьбіраецца выконваць палажэньняў дамовы, што яна займаецца эканамічным шантажом, што „саюзны дагавор” – увогуле ўтапічны абсурд, што Беларусі трэба мацаваць свой сувэрэнітэт і перагледзець свае прыярытэты ў выбары гандлёвых партнёраў і „саюзнікаў”.

Позна ноччу 8 сьнежня стала вядома пра палітычную згоду двух паўнамоцных прэзыдэнтаў і старшыні Вярхоўнага Савета Беларусі аб „садружнасьці” Ўкраіны, Беларусі і РСФСР – з адзіным рублём, адзінай мытнай і эканамічнай прасторай і адзіным стратэгічным войскам. І што вельмі характэрна – цэнтрам заплянаванай садружнасьці хочуць зрабіць Менск. (Каб мацней трымаць Беларусь.) Зразумела, што такое пагадненьне выгаднае найбольш Расеі. Таму паводзіны спадара Краўчука ня вельмі стасуюцца зь ягонымі ранейшымі заявамі, у тым ліку передвыбарчымі. С. Шушкевіч як „службовая” фігура ў гэтай падзеі ў разьлік не бярэцца.

Думаю, што беларускі народ хутка скажа сваё важкае слова і адкіне гэтую сэрыйную авантуру і маніпуляцыі зноў загнаць яго ў імпэрыю, якімі б хітрымі шыльдамі яна ні прыкрывалася.

Для Беларусі няма іншай альтэрнатывы, як вяртаньне на Захад, як шлях у аб’яднаную Эўропу, як незалежная дзяржаўная палітыка ў інтарэсах свайго народа. Таму пытаньне аб зьмене Ўраду і ўлады на Беларусі, аб урадзе народнага даверу, аб новых дэмакратычных выбарах на шматпартыйнай аснове застаецца надзённым і неабходным.

***Зянон ПАЗЬНЯК,***
***народны дэпутат Рэспублікі Беларусь***

*9 сьнежня 1991 г.*

## ЗАЎВАГІ НА ПАЛЯХ АРТЫКУЛА

**Зьмяшчаючы артыкул З. Пазьняка, рэдакцыя разам з тым лічыць неабходным даць кантэкст пэўных, адпаведных месцаў з выступленьня Б. Ельцына, бо трактаваць яго можна па-рознаму. Карацей кажучы, няхай ва ўсім чытач разьбіраецца сам.**

**У прыватнасьці, адказваючы на адно з пытаньняў і называючы тэрмін лібэралізацыі цэнаў у Расеі, ён зазначыў: „Дарэчы, мне спадабалася ўчора інтэрв’ю Станіслава Станіслававіча і калі ён сказаў, што мы ў адносінах пытаньня пераходу да рынку, канешне, павінны весьці ўзгодненую палітыку. Але менавіта палітыку, але ня значыць, што мы павінны вось літаральна дзень у дзень праводзіць усе абсалютна свае крокі. Гэта несур’ёзна. Так не бывае, вядома. Розныя ўмовы, розная абстаноўка, іншая справа – трэба ўсё палічыць. Аднак, калі вы вырашаеце на два тыдні пазьней, – ну, гэта ваша пытаньне ўжо, ваша рашэньне. Ці раней... Мы аб’явілі загадзя на Дзяржсавеце аб гэтым, гэта было месяц таму назад...”**

**Далей – наконт дапамогі рублямі (дарэчы, закранаўся чыста тэхнічнае пытаньне). „А ў адносінах грашовых знакаў... Ну, вы ведаеце, скажам, Украіна зьвярнулася, мы трохі дапамаглі ім грашовымі знакамі, спачатку 500 мільёнаў, можа быць яшчэ мільярд. Я думаю, што вядома, калі будуць у вас цяжкасьці, мы павінны дапамагаць адзін аднаму. Абавязкова.”**

**І – чарнобыльская тэма. Прагучэла наступнае пытаньне: „Беларусі нанесены шматмільярдныя страты, вялікія пакуты народа ў выніку чарнобыльскай катастрофы. Ваш пункт погляду на выплату кампэнсацыі за прычынены ўрон рэспубліцы Мінатамэнэргапрамам былога Саюза?”**

**Адказ: „Ну, думаю, што зноў гэта – ваша пытаньне, вашага кіраўніцтва ў адносінах, так сказаць, да Саюза... Ну, а да каго мы, калі ён сёньня банкрут, Саюз, да каго мы прад’явім прэтэнзіі? Ён – банкрут, і Герашчанка на ўвесь сьвет заявіў: „Савецкі Саюз – банкрут, у Дзяржбанку грошай няма, і вы, паважаныя партнёры ва ўсім сьвеце, не зьвяртайцеся за тым, каб мы вам выплачвалі хоць адзін даляр, хоць адзін рубель”. Дык пра што гаварыць тут? Па-мойму трэба справу рабіць”.**

**Варта выказаць некалькі заўваг. Напэўна, толькі ў апошнім выпадку можна залічыць Б. Ельцыну „імпэрскі” грэх. І то, відаць, грэх гэты ад таго, што захапіўся расейскі прэзыдэнт крытыкай былога „цэнтра”. Прычым варта нагадаць тут: выступаў ён у парляманце да перагавораў у Віскулях, а ўжо там вырашана ўзгадняць дзеяньні, у тым ліку і па ліквідацыі вынікаў Чарнобыля.**

**Прынамсі, ня будзем ідэалізаваць Б. Ельцына, ды і справа ўвогуле ня ў ім, а ў поўным адмаўленьні аўтарам артыкула дасягнутых пагадненьняў, любога саюза з Расеяй. Хоць, зрэшты, няйначай, знойдуцца і іншыя погляды і меркаваньні. І яны ёсьць: многія ўбачылі ў гэтай „згодзе трох” хоць нейкі тусклы агеньчык у канцы нашага бясконцага тунэлю, хоць нейкія крокі да стабілізацыі, да здаровага сэнсу, які адзіны і павінен перамагаць. Між іншым, гэты ж здаровы сэнс падказвае: бяз пэўных, як палітычных, так і эканамічных пагадненьняў з Расеяй, з іншымі рэспублікамі (што, вядома, ні ў якім выпадку не павінна рэанімаваць ранейшы цэнтар) нікуды нам ня дзецца. Ва ўсякім выпадку пакуль што. Вельмі ж моцна зьвязала нас папярэдняе сумеснае жыцьцё. Ды і вось бяда: скажам, тыя ж скандынавы, да якіх хіляцца прыбалты, зусім ня „родзічы” нам, ня возьмуць ня буксір... Словам, палітыка здаровага сэнсу заўсёды павінна крочыць разам з разважнасьцю, памяркоўнасьцю. І ня толькі ў справах.**

**Іван БАРАНОЎСКІ, аглядальнік „Зьвязды”**

*Надрукавана: („Звязда”,– 1991, 11 сьнежня )*

**ЗЕНОН ПАЗНЯК:**

# „СОГЛАШЕНИЕ ДОЛЖНО РАБОТАТЬ НА СУВЕРЕНИТЕТ ГОСУДАРСТВ, А НЕ НА БУДУЩУЮ ИМПЕРИЮ"

*(Интервью Зенона Позняка накануне открытия сессии ВС)*

**– Как вы оцениваете итоги встречи в Беларуси лидеров трех государств?**

– Мы обсуждали принятые решения о Содружестве в парламентской Оппозиции БНФ и пришли к выводу, что их можно рассматривать только как этап к подлинному суверенитету. Содружество выгодно только России. Это обходной путь с целью загнать потом всех назад, в империю. Но есть и положительные моменты. Это шаг к разрушению старой империи Советского Союза и отстранению от власти „центральных органов", являющихся источником дестабилизации. Если же смотреть на перспективу, то ***соглашение опасно тем, что оно, с одной стороны, уничтожает одну империю, но с другой, раскрывает возможности для новой империи – России.*** Потому что Россия по своей структуре – и социальной, и политической, и исторической – это империя. С этой точки зрения соглашение небезопасно, и поэтому должно рассматриваться только как временный этап. В этой связи мы будем выставлять определенные условия: определение срока действия соглашения, вопрос о денонсации соглашения, вопрос об исключительно республиканской армии, о ненужности никакой столицы и т.д. Одним словом, это соглашение должно работать на суверенитет государства, а не на будущую российскую империю.

**– Почему, на ваш взгляд, в Содружество вошла Украина?**

– Она тоже заинтересована в устранении центральных структур. Но и для нее это временный этап. На мой взгляд, в заключенном соглашении доминирующую роль играли Кравчук и Ельцын, Шушкевич выполнял чисто служебную функцию. В целом соглашение в определенной мере выгодно для всех республик – в той части, где выгодно, – но там, где оно опасно, – оно наиболее опасно для Беларуси.

**– Ваше отношение к известию о том, что Минск станет центром Содружества?**

– Ни в коем случае вообще не должно быть никакой столицы. Или какой-то резиденции для размещения общих структур. Потому что это выгодно, прежде всего, российской империи, которая хочет закинуть к нам свой якорь. Должно быть несколько направлений, которые координируются и могут размещаться в разных городах на временный период. К примеру, по военным проблемам, внешнеэкономическим и т.д. Но – на временный период, пока республики не укрепят свой суверенитет.

***( Подготовил к печати Олег ГРУЗДИЛОВИЧ)***

*Надрукавана: („ Знамя юности",– 1991, 11 декабря)*



***44. Сьцягі над людзьмі.***

# Вяртаньне з Аўганскай вайны

„Іванька малодзенькі
Ідзе невясёленькі...”
*(З народнай песьні)*

*Іванка вяртаўся.*
*Як здоўжыўся шлях над гарамі.*
*Дзе Вы, бацька мой любы*
*І маці мая любая,*
*Што на заводзе футаралаў*
*Фарбуе тэлевізары...*
*Як гайдаецца цынкавы мой самалёт*
*Над Дзьвіной,*
*Як воблакі серабрацца...*
*А вунь у садочку дзяўчына мая.*
*А вунь на парозе матуля мая.*
*А вунь каля брамы мой бацька стаіць...*
*Не спаткай, не глядзі на мяне да*
*сьвітаньня.*
*Не кладзі мне*
*чырвоныя кветы.*
*Лепш хай прыме труну*
*той маскаль-ваенком.*
*Мне яго не дастаць з таго сьвету...*
*Паслухайма...*
*Як чыркаюць вераб'і на могілках*
*У бэзавых кустах,*
*Як лісьце шуміць у таполі.*
*Там, далёка, ў пустыні сухой,*
*Дзе вецер гарачы на волі,*
*Плача Фатх і бедная Сулейма*
*Над сынам сваім у юдолі.*
*Праклінае мяне ў труне.*
*Праклінае мяне ў палёце.*
*Праклінае мой край,*
*Праклінае народ мой харошы.*
*Зірні.., як ластаўкі ў небе лунаюць*
*Над правадамі.*
*Напэўна, заплоцяць Табе за мяне.*
*Талоны на грэчку і льготы...*
*– Кончаем обряд, – ваенком*
*загадаў, –*
*Он долг свой отдал.*
*Он умер, как все патриоты.*

*1988 г.*

*(З цыклу „Чужая вайна”. 1988 г.)*


(Фота З. Пазьняка. 1964 г.).

***45. Расейцы. (З цыклу „Акупацыя”).***

# 1992

## ЗЯНОН ПАЗЬНЯК:

# „МЫ ПАВІННЫ КІРАВАЦЦА Ў ЭЎРОПУ"

У палітыцы БНФ і ў палітыцы кіраўніцтва Беларусі павінна быць вызначаная галоўная канцэпцыя, якая акрэсьліць нашае існаваньне ў пэрспэктыве. Гэтая канцэпцыя ёсьць незалежнасьць. Мы павінны грунтаваць нашую палітыку на прынцыпе незалежнасьці, умацаваньня сувэрэнітэту, стварэньня структураў незалежнай дзяржавы, разьвіцьця эканімікі Беларусі як незалежнай дзяржавы і г.д. Адмаўленьне прынцыпу незалежнасьці прывяло б нашу Рэспубліку і наш Рух да краху. З гэтага пункту гледжаньня хацелася б зрабіць ацэнку апошніх падзеяў і сітуацыі, якая склалася на прасторы былога СССР.

На пачатку сьнежня становішча на тэрыторыі былога Саюзу пры адсутнасьці пазытыўнага вырашэньня пагражала канфліктам паміж паасобнымі рэспублікамі і палітычнымі сіламі, што пры наяўнасьці зваротаў да войска магло выліцца ў збройнае супраціўленьне.

Склалася наступнае геапалітычнае разьмеркаваньне сілаў. Адзін з блёкаў складаюць пяць рэспублікаў Сярэдняй Азіі, дзе захавалі ўладу камуністычныя рэжымы. З гэтай групы я не выключаю і Кыргыстан, хаця з суб'ектыўнага пункту погляду, там сітуацыя трошкі іншая (маецца на ўвазе асоба прэзыдэнта Акаева). Палітыку сярэднеазіяцкіх рэспублік дыктуе іхняя гісторыя, мэнтальнасьць і эканамічнае становішча. Эканоміка гэтых рэспублік пабудаваная пераважна на экспарце сыравіны. Напрыклад, Узбэкістан спэцыялізуецца на вывазе бавоўны, а ягоная эканоміка носіць тыповы каляніяльны характар. Патрэбы ўнутранага рынку гэтая рэспубліка са свае вытворчасьці забясьпечвае толькі на 56%. Тое самае тычыцца і усіх астатніх сярэднеазіяцкіх рэспублік, у тым ліку Казахстану, які па аб'ёмах сыравінных рэсурсаў зьяўляецца адной з самых багатых краінаў сьвету.

У геапалітычным пляне гэтыя рэспублікі аб'ектыўна зацікаўленыя ў захаваньні Саюзу. Камуністычныя рэжымы адчуваюць, што ў варунках вышэй згаданай эканамічнай сітуацыі сваімі сіламі яны толькі зь вялікімі цяжкасьцямі здолеюць выйсьці на новы эканамічны этап. У палітычным аспэкце камуністычныя рэжымы Сярэдняй Азіі занепакоеныя ўздымам ісламу, падтрымкай, якую ісламаскія рухі атрымліваюць з-за мяжы, і тым, што рана ці позна гэтыя рухі заявяць пра сябе на ўвесь голас, што будзе азначаць канец камунізму. Каб захаваць уладу і стрымаць іслам, камуністы пайшлі зь ім на пагадненьне, добра ведаючы, што гэтае пагадненьне часовае. Дзеля падтрыманьня часовага парытэту з ісламам сярэднеазіяцкім уладам патрэбна чужое, немусульманскае, найлепш славянскае, войска, якое падпарадкоўвалася б адзінаму цэнтральнаму камандаваньню.

Асаблівую небясьпеку ў справе рэанімацыі ўнітарнай дзяржавы на тэрыторыі былога СССР цяпер уяўляе войска, якое з часткі дзяржаўнай структуры пасьля краху кампартыіператвараецца ў асобную ўзброеную да зубоў сацыяльна-палітычную сілу. ***Захаваньне адзінага войска з усімі ягонымі структурамі – гарантыя аднаўленьня таталітарнага Саюзу.***

Другая геапалітычная сіла – Расея, якая ў эканамічным сэнсе зьяўляецца імпэрыяй, будуе сваю эканоміку пераважна на вывазе сыравіны, у першую чаргу, нафты. Расея зьяўляецца імпэрыяй і па сваёй структуры, бо гістарычна сфармавалася як імпэрыя – шляхам прыўлашчаньня і захопу тэрыторыяў. Цяпер Расея ўяўляе велізарную прастору, на якой жывуць розныя нацыі рознага культурнага ўзроўню – ад першабытнага да сучаснага; існуюць розныя эканамічныя зоны – ад тыпова сыравінных да разьвітых прамысловых цэнтраў. Дзяржава з такой велізарнай тэрыторыяй, з такой розьніцай культурнай, этнічнай і эканамічнай шкалы можа нармальна існаваць толькі як таталітарная імпэрыя з моцнай цэнтральнай уладай. Таму палітыка Расеі аб'ектыўна выяўляе імпэрскія інтарэсы. Дзяржаўная пазыцыя Расеі акрэсьліваецца зацікаўленьнем у захаваньні на пэўным этапе саюзных структураў, каб потым, шляхам адпаведных юрыдычных і палітычных захадаў, стаць фактычным пераемнікам Савецкага Саюзу, але ўжо ў форме клясічнай імпэрыі.

Трэцяя сіла – Украіна, краіны Балтыі, Малдова і Беларусь, якія вядуць палітыку стварэньня незалежных дзяржаўных структураў, дэмакратычнага ладу, рынкавай эканомікі, інтэграцыі ў Эўропу, адыходу ад Расейскай імпэрыі. Таму паміж гэтымі дзяржавамі і Расеяй аб'ектыўна ўзьнікае супярэчнасьць. Кульмінацыю гэтай супярэчнасьці мы адчулі ў пачатку сьнежня ў часе рэфэрэндуму на Ўкраіне, які парушыў інтарэсы як Цэнтру, гэтак і Ельцына. Разьвіцьцё сітуацыі магло б пайсьці або па шляху вайсквых прэтэнзіяў, або ў кірунку палітычнага ўрэгуляваньня. І мы сталі сьведкамі заключэньня белавежскіх пагадненьняў паміж Расеяй і Ўкраінай, з удзелам Беларусі.

Пагадненьне пра СНД мае часовы характар, бо было падпісанае ў выніку часовага супадзеньня інтарэсаў: імпэрская Расея і незалежная Ўкраіна аб'ядналі намаганьні ў справе зьнішчэньня старога гарбачоўскага цэнтру, які перашкаджаў усім. Аб'ектыўна ў гэтым зацікаўленая і Беларусь. Пасьля таго, як гэтая мэта была дасягнута, суб'екты СНД пачалі цягнуць коўдру кожны на сябе.

Гэта прадэманстравала менская сустрэча лідэраў СНД, якая адбылася напярэдадні Новага году. Пасьля адыходу Міхаіла Гарбачова ў рамках СНД дамовіцца стала амаль немагчыма. З аднаго боку Расея пры падтрымцы сярэднеазіяцкіх рэспублік жадае паступова трансфармаваць пагадненьне, што ў выніку павінна б было прывесьці да стварэньня фэдэратыўнай дзяржавы. З другога боку, абсалютна абыякавая да праблемаў незалежнасьці і дзяржаўнага будаўніцтва ў суседніх рэспубліках Украіна абараняе ўласны сувэрэнітэт, што зьяўляецца ускосным станоўчым фактарам для аднаўленьня беларускай дзяржаўнасьці, тым больш, што пакуль Леанід Краўчук перамагае.

Што тычыцца Беларусі, дык яна мае лепшыя ўмовы для інтэграцыі ў эўрапейскую сістэму. Нашая дзяржава арыентаваная на вытворчасьць і вываз тавараў і прадуктаў, а не сыравіны. Мы цалкам забясьпечваем свае ўнутраныя патрэбы і шмат

што можам экспартаваць (рэспубліка-донар). У нас дастаткова збалянсаваная эканоміка, функцыянуе паўнавартасны народна-гаспадарчы комплекс на дастаткова высокім арганізацыйным і тэхнічным узроўні, існуе высокі ўзровень кваліфікацыі рабочага клясу, вялікая канцэнтрацыя інтэлекту: фундамэнтальнай і прыкладной навукі – асноўнай вытворчай сілы на сучасным этапе.

Беларусь мае дастатковыя запасы сыравіны, у тым ліку і стратэгічнай – гаручых сланцаў, бурага вугалю, жалезнай руды, калійных соляў, далямітаў і нафты. Першапачаткова беларуская нафта здабывалася варварскім спосабам, бо ў СССР Беларусь успрымалі як калёнію. Нафты выпампоўвалі з сьвідравіны ў 10 разоў больш, чым можна па тэхналёгіі. Потым шмат якія сьвідравіны замарозілі, бо нафты з-за варварскай здабычы дастаць наверх ужо было немагчыма. Унікальнасьць беларускай нафты палягае на яе „лёгкасьці", здольнасьці адразу ісьці ў нафтаправод. Ёсьць у нас і радовішчы дыямэнтаў, і многае іншае.

Дзеля таго, каб скарыстацца з гэтага багацьця, цяпер не хапае добрага дзяржаўнага думаньня, бо ў часе бальшавіцкага панаваньня і савецкай акупацыі была моцна разбурана культура і нацыянальная самасьвядомасьць людзей. У кіраўніцтве стаялі функцыянеры, рэнегаты, здраднікі, якія ненавідзелі свой народ, сваю зямлю. На гэтым будавалася камуністычная ідэалёгія ў Беларусі.

Цяпер, калі перад намі адкрыліся пэрспэктывы, яны не рэалізуюцца, бо ўлада засталася ў руках ранейшай камуністычнай намэнклятуры. Адбываецца далейшае рабаваньне народу, які застаецца голым. І вінаватая ў гэтым не сістэма эканомікі, а бяздарны ўрад і Вярхоўны Савет. Таму БНФ вырашыў праводзіць рэфэрэндум з патрабаваньнем іх адстаўкі.

***Найперш нам трэба мець гарантыі суверэнітэту і незалежнасьці: сваё войска, валюту, мытную службу, мяжу, міжнароднае прызнаньне на ўзроўні пасольстваў. Неабходна ўпарадкаваць падатковую сістэму, каб яна зацікавіла вытворцаў, прыняць антыманапольнае заканадаўства. І толькі потым праводзіць прыватызацыю І галоўнае – праводзіць дзяржаўную нацыянальна-культурную палітыку...***

Аснова эканомікі – культура**.** Паняцьце культуры ўключае ў сябе ўсё – і тэхналёгію, і мастацтва, і духоўнасьць. А пачынаць трэба з адукацыі, з дзяржаўнай палітыкі нацыянальнай школы. Аднак стары Ўрад парводзіць антыкультурную, антынародную палітыку. У гэтым усё зло. Таму нам неабходны новы ўрад народнага даверу. Калі мы здолеем дамагчыся новага ўраду, дык праз 5-8 гадоў ня толькі станем на ногі, але дасягнем узроўню жыцьця такіх краінаў як Данія, Аўстрыя, Фінляндыя і г.д. Гэта не пустыя словы, я маю адпаведныя разьлікі. На жаль, пераменам да лепшага цяпер найбольш перашкаджае тупасьць і кампрадорская пазыцыя старога камуна-савецкага дзяржаўнага кіраўніцтва.

Разумеючы гэта, мы павінны ацэньваць нашае стаўленьне да СНД. На першых этапах сумніўная дамова пра СНД мела пазытыўны зьмест, трэба было ратыфікаваць пагадненьне, бо гэта была добрая магчымасьць дэнансаваць саюзны дагавор 1922 году, адклікаць нашых дэпутатаў з Вярхоўнага Савету СССР, фактычна і фармальна, ліквідаваць СССР і ягоныя органы, расчысьціць шляхі да ўмацаваньня суверэнітэту, а менавіта ў пытаньнях, зьвязаных з нацыянальнай валютай, эканомікай і стварэньнем уласнага войска.

Аднак мы павінны памятаць, што такое Расея, што ёсьць яе гісторыя, яе дыпляматыя, яе мэнтальнасьць, яе нежаданьне выконваць любыя пагадненьні***. У дачыненьні да Расеі мы павінны праводзіць узаемаўзгодненую палітыку, па-добрасуседзку жыць зь ёю, гандляваць, наладжваць іншыя сувязі, але ніколі, ні пры якіх абставінах мы не павінны ўступаць з Расеяй ні ў якія палітычныя пагадненьні, ні ў якія палітычныя саюзы.*** Такое „аб'яднаньне" (акупацыя) ужо было ў канцы XVIII стагоддзя і ў 1922 годзе.

Аб'ектыўна, у інтарэсах нашага народу, у інтарэсах нашай дзяржавы мы павінны кіравацца ў Эўропу, мы павінны праводзіць толькі незалежную дзяржаўную палітыку. Але на працягу гэтага году старое камуна-савецкае кіраўніцтва не зрабіла нічога, каб умацаваць сувэрэнітэт, аслабіць залежнасьць ад расейскай сыравіны.

Калі разглядаць нашую палітыку на пэрспэктыву, аналягічныя адносіны, хоць з пэўнай карэктыроўкай, у нас павінны быць у стаўленьні да Польшчы. Пры найлепшых дачыненьнях зь ёю мы ніколі не павінны дапусьціцца да сытуацыі, кшталту той, якая ўтварылася ў 1569 годзе (Люблінская Вунія) і якая прывяла ўрэшце да краху вялікай Беларусі (Вялікага Княства Літоўскага). Беларуская гісторыя – гэта найлепшая школа нашай геапалітыкі.

***Зянон Пазьняк***

*(Паводле выступу на сьнежаньскім Сойме БНФ (1991 г.). Інтэрв'ю „ Навінам Адраджэньня" і газэце „ Свабодны Сахалін" запісаў Валеры Сядоў.)*
*Надрукавана: („ Навіны Беларускага Народнага Фронту „ Адраджэньне", – 1992, 9 студзеня)*




***46. Сымвалы Беларусі.***

# АБ СТАНОВІШЧЫ НА БЕЛАРУСІ

Цяпер, калі на Беларусі крута ўгару пайшла інфляцыя, моцна павысіліся цэны і амаль зусім зьніклі неабходныя тавары, кожны задумаецца – што чакае нашае грамадзтва, у чым прычына зьніжэньня жыцьцёвага ўзроўню і дзе выхад.

Першае, што трэба адзначыць, насуперак пракамуністычнай прапагандзе – на Беларусі ўся ўлада (ад Вярхоўнага Савету і Савету Міністраў да сельсавету) знаходзіцца ў руках былой камуністычнай намэнклятуры. Ніякіх пераменаў у сфэры ўлады ў нас не адбылося. Камуністы пасьля жніўня 1991 г. згубілі свае ідэалягічныя структуры, але ўлада засталася ў іхных намэнклятурных функцыянераў. Таму эканамічная і сацыяльная палітыка на Беларусі не зьмянілася, ніякіх рыначных рэфэрмаў не назіраецца, ніякага пераходу да рынку няма, захавалася гаспадарчая структура адміністрацыйна-каманднай сістэмы.

Кіруючыя начальнікі на Беларусі прадоўжваюць палітыку Гарбачова, які хацеў злучыць незлучальнае – камунізм з рынкам – і захаваць уладу КПСС. На чым і „пагарэў”.

Разумныя эканамісты ведаюць, што нельга ў адміністрацыйна-дзяржаўную эканамічную сістэму ўводзіць рынкавыя структуры. Павінна быць альбо адно, альбо другое. Альбо дзяржаўна-адміністрацыйная эканоміка пад прымусам, што вядзе да стагнацыі, ГУЛАГу і выраджэньня грамадзтва, альбо рынкавая эканоміка, якая прадвызначае разьвіцьцё дэмакратыі. Нельга спалучаць тое, што не спалучаецца. Інакш пачынаецца неабмежаваная спэкуляцыя, узрастае ценявая эканоміка, інфляцыя, зьнікаюць тавары, спыняецца рост вытворчасьці. Падзеі, якія мы назіраем ад 1987 году.

Чаму гэтак атрымліваецца? Паколькі ня вырашаныя пытаньні з уласнасьцю, не прынятыя асноўныя рынкавыя законы аб свабодзе прадпрыймальніцтва, свабодзе куплі-прадажы, канкурэнцыі – рынкавыя структуры ў адміністрацыйнай сістэме (кааператывы, біржы, сумесныя і малыя прадпрыемствы і г.д.) ператвараюцца ў наросты на целе дзяржаўнай эканомікі, якія перамолваюць рэсурсы, ператвараюць безнаяўныя грошы ў наяўныя і гэтым самым садзейнічаюць інфляцыі, а ўвядзеньнем спэкулятыўных (двайных) цэнаў на дзяржаўную прадукцыю спрыяюць зьнікненьню тавараў з магазінаў і разьвіцьцю ценявай дзейнасьці. Адзін і той жа тавар перапрадаецца шматкроць па штораз вышэйшых цэнах, ня робячы ніякага руху. Рухаюцца толькі пустыя грошы.

Чаму ж дзяржава ня спыніць гэтага? А дзеля таго, што і ў дзяржаўнай уладзе, і ў дзяржаўнай і ценявой эканоміцы дзейнічаюць асобы аднаго гатунку – „товарищи”. Яны стварылі структуру крымінальнай эканомікі. Яны выкарыстоўваюць дзяржаўна-эканамічную ўладу і ператвараюць агульнанацыянальнае багацьце ў сваё ўласнае. Ідзе ценявая, „дзікая” прыватызацыя. І праводзяць яе „антырыначнікі”, зрабіўшы зь дзяржавы дойную карову. Таму яны супраць рынкавых рэфэрмаў (хоць і гавораць пра рынак), бо тады прыдзецца дзяліцца з усім народам. Яны ня маюць канцэпцыі дзяржаўнай палітыкі Беларусі, ня дбаюць пра ўмацаваньне суверэнітэту, пра абарону нашай эканомікі ад сыравіннага шантажу Расеі, не бароняць Беларусь ад экспансіі чужых грошай – пустых рублёў. Ім абыякавыя нацыянальныя інтарэсы Бацькаўшчыны і лёс народу.

Ня маючы пляну разьвіцьця беларускай дзяржавы, яны сьвядома прывязалі Беларусь да хворай расейскай эканомікі, да авантурніцкай палітыкі Ельцына. У выніку мы не пазьбеглі „лібэралізацыі” цэнаў, рэзкага зьніжэньня жыцьцёвага ўзроўню, хоць Беларусь мела ўсе магчымасьці ад гэтых хваробаў ухіліцца, калі б праводзіла палітыку суверэннай дзяржавы ў эканоміцы. Яны ігнаруюць відавочную існасьць – неабходнасьць умацаваньня незалежнасьці.

Што ў такіх варунках рабіць? ***Трэба адхіліць былую намэнклятуру ад улады. Распусьціць антыдэмакратычны недзеяздольны Вярхоўны Савет і правесьці новыя выбары на аснове дэмакратычнага закону. Новы прафэсійны парлямант (Сойм) сфармуе ўрад народнага даверу, які і правядзе рэфэрмы.*** Цяперашні намэнклятурны Вярхоўны Савет і ўрад ня ў стане іх правесьці. У Вярхоўным Савеце сядзяць антырыначнікі. Бяссэнсоўна прапаноўваць ім прагрэсіўныя эканамічныя праграмы і заканапраекты. Яны іх ня прымуць. Апазыцыя БНФ ужо падавала ім дзясяткі законапраектаў. І людзі бачылі, як рэтраградная большасьць Вярхоўнага Савету іх успрымала. Нечарговыя выбары – адзінае выйсьце.

Рашэньне распусьціць цяперашні Вярхоўны Савет ды правесьці новыя выбары можа прыняць сам народ шляхам рэфэрэндуму. Рэфэрэндум – гэта таксама адзіны клапан выхаду для збанкрутаванага Вярхоўнага Савету. Аднак „палітыкі” ад намэнклятуры далі адмоўнае заключэньне Цэнтральнай выбарчай камісіі аб неабходнасьці правядзеньня рэфэрэндуму. Яны яшчэ ня ведаюць, што яны самазабойцы, бо думаюць, што зацягнуць і выйграюць час, паставяць на калені беларускі народ, які, спакутваўшыся, зноў пакліча камуністаў да жорсткай рукі, да таталітарызму.

Якія ілюзіі! А тым часам нішчыцца нашая Беларусь, рабуюць наш народ, бяднеюць людзі. Кожны дзень існаваньня гэтага Вярхоўнага Савету небясьпечны для нашага грамадзтва. Таму галоўнае заданьне цяпер – рэфэрэндум. Шлях да нечарговых выбараў.

***Зянон ПАЗЬНЯК,***
***Народны дэпутат Беларусі***

*Надрукавана: („ Беларус”,– 1992, люты, №387)*



***47. Савецкая міліцыя.***

# „А ВОСЬ І ПТУШАЧКІ...”

Пра асаблівасьці сацыяльна-палітычнай сітуацыі на Беларусі і пра яе разуменьне Народным Фронтам ужо ня раз паведамлялася ў друку. Адзначалася, што на Беларусі перамаглі дэмакратычныя ідэі, але ўся выканаўчая, заканадаўчая, прадстаўнічая, адміністрацыйная і эканамічная ўлада засталася ў руках былой камуністычнай бюракратыі і намэнклятуры. Гэтая бюракратыя на Беларусі своеасаблівая. Выхаваная і сэлекцыянаваная ў КПБ на ідэалёгіі нацыянальнага нігілізму, на нянавісьці да ўсяго беларускага, роднага, свайго, яна ў пэрыяд краху імпэрскай сістэмы не перайшла на пазыцыі нацыянальнага дэмакратызму, як гэта зрабілі іх паплечнікі па партыі ў Расеі, на Ўкраіне, у Малдове, Эстоніі, Латвіі, Арменіі і іншых краінах. Не перайшлі яны і на пазыцыі нацыянал-камунізму, як бюракратыя ў мусульманскіх рэспубліках. У выніку беларуская былая партыйная намэнклятура не вядзе пасьлядоўнай незалежнай дзяржаўнай палітыкі, ня мае канцэпцыі беларускай дзяржавы, суверэнітэт для яе нічога ня значыць. Крэатуры ўлады (Шушкевіч-Кебіч) яскрава гэтыя дачыненьні выяўляюць.

22 лютага гэтага году, напрыклад, С. Шушкевіч, гаворачы пра неабходнасьць і прапановы ўвядзеньня ўласнай валюты на Беларусі, заявіў у інтэрв’ю французкай газэце „Монд”, што „зробіць усё магчымае, каб пазьбегнуць гэтага”. Ён і робіць „усё магчымае”, каб Беларусь заставалася паўдзяржавай, а пасьля ўвядзеньня ў іншых краінах СНД нацыянальных грошай – у галечы, каляніяльным прыдаткам Расеі. Такія дзеяньні і заявы ў цяперашняй крытычнай сітуацыі сьведчаць звычайна альбо пра поўнае неразуменьне, што да чаго, альбо пра здраду нацыянальным інтарэсам Беларусі.

Увогуле, складваецца ўражаньне, што і Вярхоўны Савет, і Ўрад „ня ведаюць, што твораць”. Чым жа займаецца тады былая партбюракратыя на Беларусі? „Дзікай” прыватызацыяй. Стварыўшы сістэму крымінальнай эканомікі на аснове зьмешваньня адміністрацыйна-дзяржаўных і рыначных структураў, намэнклятура ўтварыла сабе „шчыліну”, праз якую напаўлегальным шляхам ліхаманкава пераводзіць дзяржаўную маёмасьць у сваю прыватную ўласнасьць. Адбываецца маштабнае рабаўніцтва дзяржавы, бессаромнае абкраданьне народа. Адсюль рэзкае зьніжэньне жыцьцёвага ўзроўню насельніцтва, зьбядненьне грамадзтва, людзей, прывід вымушанага беспрацоўя.

Словам, калі ва ўсіх дзяржавах вакол нас былая партнамэнклятура, каб утрымаць уладу, прыстасоўваецца да абставінаў, дбае пра суверэнітэт, імкнецца будаваць нацыянальную дзяржаву, то іх беларускія „калегі” дбаюць не пра незалежнасьць краіны, а пра сваю ўласную намэнклятурную „скуру”, не будуюць, а крадуць. Ім ня трэба нацыянальныя інтарэсы, ні нацыянальная валюта, ні войска, ні рынкавая эканоміка, ні культура. Іх задавальняе становішча паўдзяржавы – лягчэй рабаваць. Яны, як бактэрыі, вірусы, што нішчаць арганізм і неўсьвядомлена паміраюць разам зь ім. Наш нацыянальна-дзяржаўны арганізм ужо набліжаецца да фатальнай мяжы.

Каб спыніць гэтае набліжэньне, патрэбна зьмена палітычнай і эканамічнай улады – нечарговыя выбары, што адчыняць шлях да рэальных рэформаў. Народ мае магчымасьць стаць на гэты шлях праз рэфэрэндум.

Палітычныя працэсы, як і ўсё ў прыродзе і грамадзтве, маюць сваё аб’ектыўныя заканамернасьці, таму вымагаюць адпаведных (а не абы якіх) захадаў, даюць магчымасьць рэальнага прагнозу. Арыентацыя БНФ і дэмакратычных партыяў на рэфэрэндум і новыя выбары павінна была абавязкова выклікаць контрдзеяньні намэнклятуры і зьвязаных зь ёй структураў. Чакалася ўзмацненьне дэзінфармацыі і прапаганды супраць БНФ у друку і іншых сродках масавай інфармацыі, чакаліся спробы палітычнага афармленьня намэнклятурных структураў („савецкіх прафсаюзаў”, розных „асацыяцыяў”, аграрных ініцыятываў і т.п.). Абавязкова павінны былі ўзьнікнуць дзеяньні, накіраваныя на раскол дэмакратычнага руху. Павінны былі зьявіцца псэўдадэмакратычныя ініцыятывы і арганізацыі, аргкамітэты „агульнаграмадзкіх” блёкаў „усіх” партыяў (без вызначэньня іх палітычнай прыроды, гэта значыць, у прынцыпе немагчымае дзеяньне), дэкларацыі аб „кансалідацыі”, аб выратаваньні эканомікі і падтрымцы ўрада. Павінна рэзка ўзрасьці палоханьне людзей „дэстабілізацыяй”, „путчамі”, „грамадзянскай вайной”, „расколам”, „жырыноўскім”, чакаюцца выступленьні сваіх маленькіх жырыноўскіх і паўюродзівых кадэбісцкіх крэатураў, правакатараў і сэксотаў, што пазалазілі ў дэпутаты, у прафсаюзы, культурніцкі, хрысьціянскі рух і г.д.; будуць заклікі „ня рэзаць курыцу, што нясе яйкі”, „не мяняць коней на пераправе”, „не хістаць лодку” і да т.п.; чакаюцца контрініцыятывы з боку Вярхоўнага Савета і наёмнікаў намэнклятуры; чакаюцца „казлы адпушчэньня” і нават „ахвяры” (напрыклад, возьмуць і ахвяруюць прэм’ер-міністрам, што, праўда, малаверагодна) і г.д. Усё гэта было, усё гэта ў гісторыі паўтаралася неаднаразова. Вядомыя і вынікі палітычных камэдыяў.

Мы разумеем, як набірае сілу ініцыятыва рэфэрэндуму і як разыгрываецца контрспэктакль.

Першым прыкметным крокам была спроба стварыць у пачатку лютага блёк „усіх” партыяў і арганізацыяў – „Новая Беларусь”. Усплылі афіцыйныя прафсаюзы ВПК – былая „школа камунізму” і абаронцы адміністрацыі, ажывілася намэнклятура і абслугоўваючыя яе дэпутаты, „ружовыя” і „чырвоныя”, адазваліся даўнія, выгнаныя з Народнага Фронту ненавісьнікі БНФ, што сышлі ў палітычны нябыт. І вось на табе, жыў курылка, зноў пішуць – „так званы Народны Фронт” (гл. Газэту „Набат”, №5, 1992 г.).

Шырока разрэклямаваная ініцыятыва, аднак, скончылася і заціхла. Тады 22 лютага ў „Народнай газеце” зьявілася „Заявление участников координационного совещания – сторонников создания партии народного согласия” (усё, як па сцэнарыю), дзе „без обиняков” сказана пра садзейнічаньне „объединению всех сил, всех слоев общества для совместной созидательной работы” – любімы лёзунг камуністаў, калі яны пры ўладзе доюць дзяржаву.

„Мобилизация всех сил общества на оздоровление экономики, – пішуць ананімныя аўтары „заявления”, – требует хотя бы временного моратория на политические распри”, ... „пакта согласия” между всеми политическими силами”.

Як гэта міла, якая глыбіня палітычнай фантазіі. Успомнім патрабаваньні камуністычных дэпутатаў у Вярхоўным Савеце аб забароне дзейнасьці палітычных партыяў. (А навошта яны пануючай і абдзіраючай намэнклятуры? Гэта ж костка ў горле.)

„Наша партия не ставит вопроса о прошлых политических взглядах и убеждениях”, – піша „группа народных депутатов”. Ну, вядома ж, скажам мы, якія малайцы. Успомнім хаця б „групу” „Коммунисты за демократию” у Вярхоўным Савеце – такія ж лёзунгі. Праўда, яны не перашкодзілі ініцыятарам гэтай групы галасаваць супраць перадачы маёмасьці КПБ-КПСС

дзяржаве, супраць беларускага войска, супраць нацыянальнага гэрба і сьцяга і „очэнь пасьледавацельна" выступаць супраць беларускай мовы.

„Мы надеемся создать подлинную партию центра", – пішуць „контактные телефоны". Позна, спадары. Як казаў адзін расейскі клясык – „увы", месца няма. Цэнтар на беларускай палітычнай палітры даўно заняты Народным Фронтам. Правым яго называла камуністычная прапаганда, зыходзячы з прапагандысцкіх мэтаў. Прытым гэтая прапаганда стала магчымай толькі таму, што ў палітычным раскладзе на Беларусі ўвогуле адсутнічаюць арганізаваныя праварадыкальныя сілы. У гэтым характэрнасьць Беларусі.

Зрэшты, аўтары абяцаюць стварыць „подлинную" партыю цэнтра. „Философско-мировозренческую основу нашей партии, – пішуць яны, – мы видим открытой для всех прогрессивных идей" (?!). Фэнамэнальна. Вось гэта „мировоззрение". Вось гэта будзе партыя. Цяпер зразумела, што, маючы гэткі сьвядомы ідэалягічны грунт, можна лёгка пісаць і абяцаць „реорганизовать немедленно торговлю", „выделить участки земли для подсобного хозяйства" (толькі й усяго?), „гарантировать... всему населению социальную защиту", „гарантировать реальный прожиточный минимум всем социально незащищенным группам граждан", „осуществить", „пересмотреть", „привлечь", „незамедлительно приступить" і нават „пригласить белорусскую эмиграцию к активной хозяйственной деятельности", сфармаваць кааліцыйны ўрад „народного согласия", забясьпечыць „наведение порядка" и т.п. – камуністычна-папулісцкае папуры. Так і хочацца сказаць: „Што вы бузіце, шаноўныя ананімныя дэпутаты збанкрутаванага Вярхоўнага Савета. Усё, што вы казалі, кажаце і будзеце казаць, даўно ўжо сказана да вас усімі, хто ішоў на звалку гісторыі. Ці варта так напружвацца на паперы?"

Да нацыянальнай згоды „ўсіх" можна заклікаць толькі тады, калі ўрадам і парлямантам робіцца палітыка ў інтарэсах народа, калі яна на карысьць людзей. Калі ж народ рабуюць, заклікі да „кансалідацыі" „ўсіх" ёсьць, у лепшым выпадку, выяўленьне гатоўнасьці супрацоўнічаць з рабаўнікамі, патураць ім. Але ў згоднікаў з ашуканствам, згоднікаў з міражамі, як правіла, свая лёгіка – лёгіка інтарэсу. Таму і паўтараюцца ў жыцьці палітычныя варыяцыі на зададзеную тэму.

Неяк расказваў мне адзін расейскі кінарэжысёр, як Галівуд запрасіў Хэмінгуэя на прагляд фільма па ягоным творы. Бяздарную стужку, нашпігаваную кінаштампамі Хэмінгуэй не даглядзеў. Пасьля чарговай банальнасьці ён прамовіў: „А вось і птушачкі", – і пайшоў з залі.

І правільна зрабіў. Навошта марнаваць час. Гадзіньнік рэфэрэндуму, дакладней, нечарговых выбараў, заведзены. І як толькі стрэлкі дасягнуць пэўных адзнак, адчыняюцца дзьверы, вытыркаецца механічная „птушачка" і кукуе „ку-ку". Толькі што пракукавала „национальное согласие". Наперадзе – хоры і сола, араторыі і дэклямацыі, камэдыі, скетчы і шоу – цэлая забаўляльная праграма. Цікае гадзіньнік няўмольна і адлічвае час для зязюлі.

***Зянон ПАЗЬНЯК,***
***народны дэпутат Рэспублікі Беларусь***

*Люты-сакавік 1992 г.*
*Надрукавана: („Народная газэта", 1992 г.)*



***48. Сьпяваньне псальмаў на Крапівенскім полі.***

## ЗЯНОН ПАЗЬНЯК:

# „ЗАЩИТИТЬ НАРОД, НЕ ИМЕЯ ВЛАСТИ НАРОДА – НЕВОЗМОЖНО”

**КОРРЕСПОНДЕНТ:** Вновь, как и в прежние времена, ведется компания против БНФ. На этот раз в связи с референдумом...* Что же собой представляет Народный Фронт, если его так боятся? Или боятся лишь его лидеров, в частности – Зенона Пазьняка?

**З.ПАЗЬНЯК:** Этот вопрос следовало бы задать тем, которые, как вы говорите, чего-то или кого-то „боятся”. Мы никого не пугаем. Коммунистическая пропаганда будет существовать до тех пор, пока бывшая партийная номенклатура находится у власти. Сущность этой пропаганды, „как и в прежние времена”, та же. Обстановка изменилась, а холуи остались.

**– Насколько широкую поддержку у населения получила идея референдума? Удалось ли БНФ „завоевать” село? Каким представляется развитие событий дальше.**

– В различных местностях и даже в разных домах неодинаков процент тех, кто подписывается за проведение референдума. Есть дома и районы, где за референдум ставят подпись почти в каждой квартире. Отрицательно относятся к референдуму персональные пенсионеры, сталинисты, бывшая коммунистическая номенклатура. Безразличен ко всему люмпен. Поддерживает же молодежь. Начался сдвиг в поддержку референдума среди сельского населения.

Когда будет собрано необходимое количество подписей – Верховный Совет по закону должен назначить дату проведения референдума. Бывшая номенклатура и ее руководящая челядь попытаются сорвать всенародное голосование. Должен сказать, что такая тактика – не в их политических интересах. Поэтому возможен раскол в среде „единого монолита”, если там найдутся способные реально осознать свои политические перспективы.

**– В преддверии референдума идет перегруппировка политических сил. Вновь подружились Шушкевич и Кебич. Кебичу удалось найти общий язык с президентом Союза предпринимателей Карягиным, возникли блок партий „Новая Беларусь”, блок депутатов „Беларусь”.**

**Удастся ли им „задавить” Народный Фронт? И сам референдум? И как поступит БНФ, если Шушкевич вдруг прерметнется на сторону „референдистов”?**

– Народный Фронт – это такое явление, „задавить” которое теперь невозможно даже на Беларуси... На „давлении” уже сломала себе зубы КПБ – наиболее реакционный и антинародный „отряд” коммунистической системы. БНФ – это движение одновременно оппозиции и национального возрождения. Оно уходит корнями в саму жизнь, соединяет элитарные и обыденные устремления. Его открытость и организационно-структурная „слабость” являются одновременно его социально-политической силой.

Когда произойдет реальное разрушение коммунистической системы власти на Беларуси, когда начнется реальное культурное возрождение белорусской нации, экономики и независимого белорусского государства, когда настанет время стабилизации – тогда, ослабив фактор оппозиционности, изменится и БНФ. Если эти условия будут достигнуты – БНФ получит всенародную поддержку. Изменение жизни к лучшему повлечет за собой изменение сознания людей, пребывающих сейчас в шорах лживой пропаганды, социальной безысходности, неверия, страха и советских представлений об обществе и политике.

Можно считать примечательным явлением то, что в „вандейской” Беларуси, постоянно находясь в оппозиции к режиму, на полулегальном положении, не располагая властью, Народный Фронт смог осуществить многие свои программные идеи – от устранения политических структур КПСС – КПБ до провозглашения независимости Беларуси. Однако реформировать экономику, систему управления, укрепить суверенитет и защитить народ, не имея власти народа, - невозможно.

Сложилась такая обстановка, что только через референдум возможно изменить власть, и устранить преграды на пути свободного развития Беларуси и здоровых общественных отношений.

Что касается С. Шушкевича, то он, как всегда, поступит так, как будет выгодно лично ему. Не исключено, что поддержит и референдум.

Есть распространенный тип людей (особенно на Беларуси), которые ради личной выгоды и личных целей готовы предавать всех и все – от соратников и друзей до Отечества и народа. На уровне контор, кафедр, организаций это сравнительно небольшое бытовое зло. В политике оно ощутимее. И не приведи Господь, если такие люди получают доступ к государственному управлению, обенно в конфронтационной, драматической, конфликтной ситуации, когда все время приходится отстаивать, выбирать, принимать решения.

С. Шушкевич вполне адекватно выражает интересы и политику номенклатрного большинства, на которое и опирается в Верховном Совете. Недавно он это очень выразительно продемонстрировал, предложив на пост своего первого заместителя В. Кузнецова – бывшего кадрового партийно-номенклатурного руководителя, ныне председателя Советского райсовета Минска, кстати, несмотря на раскрытие махинаций с квартирами в Советском райисполкоме, расследование которых продолжается.

Естествено, бывшие партийные руководители, бывшие комсомольцы и прочие депутаты большинства Верховного Совета дружно поддержали эту кандидатуру. Но главное не в этом. С. Шушкевич всегда поддерживал большинство (не важно какое). Главное в том, что в его политическом поведении, также как и у номенклатуры, отсутствует понимание национальных интересов белорусского государства. Сдается одна позиция за другой, продолжается сознательная капитуляция перед авантюрной политикой российского руководства, не используются политические и экономические возможности Беларуси, заключаются соглашения во вред Республике.

Например, соглашение от 27 января сего года с Б. Ельциным о бесплатном транзите через Беларусь (это в то время, когда Россия шантажирует нас срывом поставок нефти и повышением цен на сырье), о „рублевой зоне” (это в то время, когда все госсударства вокруг нас заявили о подготовке к введению своих денег, а белорусский народ открыто грабят пустыми рубля-

* Маецца на ўвазе, падрыхтаваны Беларускім Народным Фронтам, рэфэрэндум 1992 г. аб спыненьні дзейнасьці старога камуністычнага Вярхоўнага Савета БССР 12-га склікання і аб новых выбарах парляманту на аснове новага, падрыхтаванага БНФ, выбарчага закону. *(Рэд.)*

ми, печатающимися в Москве) и т.д. Я уже не говорю о капитулянтской позиции в вопросах армии и обороны Беларуси.

27 и 28 марта, когда грянул очередной гром, на этот раз с Украины (программа Кравчука о выходе Украины из рублевой зоны), как всегда в таких случаях, состоялось закрытое заседание Верховного Совета. Обсуждали финансовые вопросы. Но и на этот раз депутаты номенклатуры и их попутчики не поняли, что нужно немедленно страховать Беларусь от несчастья – приступить к подготовке введения национальной валюты (о чем Оппозиция БНФ твердит уже второй год). И особенно усердствовал против этого С. Шушкевич. Создается впечатление, что ограбленные и обворованные, они, возмущаясь происходящим грабежом, в преданном рвении, на коленях, воя и пища, готовы ползти в пасть голодной России и погибнуть вместе с ней под обломками имперской тюрьмы. Это было заседание самоубийц.

Резкое снижение уровня жизни населения, обнищание Беларуси, быстрый рост цен, безработица – все беды, которые обрушились на наш народ в последнее время, – это, в значительной степени, результат недальновидной, антинародной политики, проводимой номенклатурным большинством Верховного Совета и его руководством. Это – забвение, непонимание, предательство национальных и государственных интересов Беларуси.

Вы говорите, как поступит БНФ, если С. Шушкевич „переметнется" за референдум? Скорее всего, никак. Будет идти своей дорогой. С. Шушкевич, как известно, оставил КПСС, потом предал БНФ, пройдя, однако, благодаря ему в два Верховных Совета – Беларуси и Советского Союза и став первым замом Председателя Верховного Совета БССР (опять же благодаря БНФ). Потом переметнулся к номенклатуре. Это случилось, по-видимому, потому, что политика для некоторых – вещь непорядочная. Каждый может менять свои политические взгляды и пристрастия, как ему вздумается. Хотя я таких людей не ценю.

Вы можете указывать на высокий рейтинг С. Шушкевича. Да, действительно, вполне вероятно, что он будет избран в новый Верховный Совет. Это нормально. В парламенте должны быть те, кто выражает волю своих избирателей.

Наш анализ показывает, что до 40 процентов жителей в городах постоянно поддерживают, национально-демократическое движение, несколько процентов поддерживают коммунистов, остальные (около половины всех избирателей) не имеют четких позиций и безразличны к политике (результат денационализации Беларуси). Интересно, что эта раскладка практически не изменилась с начала 1990 года. Предвыборная борьба была борьбой за голоса безразличных („болото"). Массированная и монопольная коммунистическая пропаганда сыграла тогда решающую роль. „Болото" в большинстве случаев поддержало коммунистов.

Кто же поддерживает сейчас С. Шушкевича – временную переходную фигуру в политике? Сторонники БНФ – не поддерживают. Коммунисты-сталинисты, большевики и прочие левые группы – тоже против. Остается „болото" оно увидело в Шушкевиче себя, свое отражение. Обычный человек, говорит „памяркоўна", призывает „да згоды", ничего не ломает, не переставляет, хотя стоит за реформы и перемены, выступает за демократию, но не за БНФ, против коммунистической номенклатуры, но за честных коммунистов, за рынок, но и за порядок, за постепенность, разговаривает по-беларуски, но стоит за Россию, слушает Глобу и своими руками строит дачу. Идеальное воплощение устремлений что-либо улучшить, изменить, ничего не делая.

Рейтинг, построенный только на имидже, – зыбкий, как болото, явление временное. С ростом самосознания народа он улетучится, как эфир.

Оппозиция БНФ, выходя на референдум, приняла по отношению к С. Шушкевичу „консервационную" тактику. Мы понимаем, что номенклатурное большинство может поставить вопрос о переизбрании Председателя, если он ему окажется неугоден. В этом случае решающее слово будет за Оппозицией БНФ. Однако пускай они свое поведение выбирают сами. Наш выбор – референдум.

**– Не изменилась ли по истечении некоторого времени точка зрения лидера БНФ на необходимость Антикризисного комитета? Особенно после того, как, наконец, Верховный Совет дал „добро" на строительство своих Вооруженных Сил? И почему предложение, чтобы Антикризисный комитет возглавил Кебич, исходило именно от лидера БНФ?**

– Антикризисное соглашение необходимо до тех пор, пока существует угроза суверенитету Беларуси, пока мы не будем иметь надежных государственных структур национальной обороны, прежде всего, – Белорусской армии, Вооруженных Сил Республики.

Антикризисный комитет, если подходить к нему серьезно, должен был возглавить тот, кто имеет государственные возможности, т.е. власть или часть власти. Это естественно. С. Шушкевич отказался. В. Кебич согласился, не раздумывая, поняв сразу смысл этого акта. Антикризисное соглашение не является политическим соглашением и стоит над внутренней политикой. Принцип, на основе которого подписано соглашение (о совместных действиях во время угрозы суверенитету Беларуси), предполагает участие в нем всех национальных сил, в том числе и политических противников. Соглашение не влияет на политическую борьбу между субъектами соглашения (кроме периода кризиса).

Заключение такого соглашения не имеет прецедентов в странах СНГ и свидетельствует о европейской зрелости нашей национальной политической культуры (как ни странно это может кому-нибудь показаться).

На период создания Антикризисного комитета (14 марта с.г.) текст соглашения подписали 30 организаций, партий и государственных органов. Соглашение открыто. После 14 марта его подписали еще генерал Е. Бочаров (пограничные войска), В. Гончарик (Федерация профсоюзов Беларуси), Митрополит Филарет (Белорусская Православная церковь), М. Гриб (Комиссия Верховного Совета по национальной безопасности) и другие. Процесс присоединения к соглашению продолжается.

И если кто-то из наблюдателей легкомысленно думает, что это формальное явление или показательное выступление, то глубоко ошибается. Это очень серьезно. Соглашение – не юридический документ, но во время угрозы суверинетету (кризиса) именно это соглашение сможет, если понадобится, зафиксирвать и отступничество, и предательство Родины, и инициировать практические действия на защиту независимости. Соглашение в данном случае конституционно, законно и очень значительно. Оно сможет удержать и объединить наше общество в трудное время, если такое, не дай-то Бог, придет.

С сожалением, всё же, должен констатировать, что суть Антикризисного соглашения оказалась весьма трудно понимаемой для нашей деградирующей, бульваризирующейся, совершенно беспомощной в оценке политических явлений периодической печати. Вот образец заглавия материала:




*49. Падпісаньне Антыкрызіснага пагадненьня 14 сакавіка 1992 г. Менск, Дом Літаратара. У цэнтры З. Пазьняк і С. Шушкевіч, справа падпалкоўнік М. Статкевіч.*

„БНФ+КДБ=АКК" (АКК это значит Антикризисный комитет). Так и хочется сказать: «Господи, прости им, неумным, ибо не ведают, что пишут».

Одно дело, когда газета цитирует разных политически юродивых типов, ленинцев, жириновцев (хотя это низкопробно), другое дело, когда ёрничает сама. Тут уж остается только удивиться и развести руками – особенно узнав, что написано это не в кокой-нибудь полубульварной газетке, а на странице вполне приличной „Чырвонай змены".

**– „Мы – европейский народ", „Мы должны вернуться в Европу" – такой призыв рефреном звучал на всех митингах БНФ, вызывая недоверчивую усмешку у большинства людей. И вот наступил момент, когда это – уже практическая задача. Насколько последовательно она, на ваш взгляд, осуществляется? Каким должно быть наше вхождение в Европу? Что мы должны сделать, чтобы нас действительно признали европейским народом, а не придатком российского?**

– Беларусь должна выбрать ясную геополитическую концепцию своего существования и развития. Проводить сбаллансированную внешнюю и внутреннюю политику. Определить приоритеты. Безусловно, теперь нам выгодна и естественна ориентация на Европу. Наиболее надежной и предпочтительной страной для экономического, культурного и технического взаимодействия с нами на сегодняшний день пока является Германия. Мы должны, в первую очередь, иметь хорошие отношения и соглашения с соседями, образовав и укрепив все структуры и атрибуты суверенитета – национальные деньги, армию, границы, внешние связи на уровне посольств.

Возрождение Республики необходимо начинать по двум направлениям – экономики и культуры, памятуя, что основой всякой экономики является культура общества в самом широком смысле слова. Никакое освоение новых технологий, новых идей, никакие пргрессивные реформы экономического развития невозможны в отсталом обществе. Ни одна цивилизация в истории не погибла от голода или экономического кризиса, но многие перестали существовать от распада морали.

Начинать в культуре надо с национальной школы, национального языка, истории, религии и информации. Решается это в результате простых конкретных действий. Например, необходимо устранить состояние языковой внутренней русификации посредством знаковых и визуальных систем. Все они должны быть на государственном белорусском языке (таблицы, указатели, реклама, этикетки, названия товаров и т.д. - все надписи).

Мы должны вернуть нашей земле европейский вид. Поэтому возрождение нашей культуры, реставрация исторических памятников, зданий и городов есть для нас не только факт культурного развития, но и необхоимый акт геополитики, возвращения в европейскую цивилизацию.

Начинать в экономике надо с определения собственности. Увы, определения собственности – это вопрсы власти. Не решив должным образом проблемы власти, невозможно осуществить реформы экономики. А двигаться следовало бы с главного – с собственности на землю. Далее – с конкретных дел. Прокладка на запад транс-белорусской железной дороги европейского образца и новой шоссейной магистрали по западным стандартам принесли бы больше пользы для нашей экономики и геополитики, чем тысячи хороших, но не осуществленных программ „экономического развития" и кабальных соглашений с Россией.

Предлагать что-нибудь этому Верховному Совету бессмысленно в нынешней ситуации. Происходит обогащение номенклатуры за счет государства и „дикой" приватизиции государственной собственности, накапливаются миллионы за счет обнищания народа, а населению („толпе") рассказывают в то же время сказки о „развале Союза", о „вреде суверенитета", о „консолидации", о „деструктивных действиях БНФ", о „курице, которая несет яйца", и „лошадях на переправе", призывают „не расскачиват лодку" и т.д. Среди этого двурушного лукавства слышен целый хор дураков, приглашающих „помогать правительству".

**– Оппозиция БНФ в Верховном Совете первой поставила под сомение жизнеспособность СНГ. Тем не менее, ее представители, в том числе и вы, летали в Алма-Ату. На киевской встрече в составе делегатов был Олег Трусов. Чем вызвано такое участие Оппозиции – стремлением знать дело изнутри или желанием повлиять на те или иные решения белорусской делегации?**

**Как долго еще, считаете вы, будет существовать СНГ?**

– Относительно участия представителей БНФ в работе разных парламентских делегаций вы сами ответили на свой вопрос. Главным критерием нашей политической деятельности является добро и польза Беларуси. В конструктивности сила Оппозиции БНФ. В Алма-Ате, например, белорусская делегация единодушно приняла Заявление и обязала С. Шушкевича зачитать его при подписании документов (поскольку, как обычно, все наши позиции на переговорах им были молча сданы).

Это Заявление – официальный документ Алма-Атинской встречи. Но примечательно, что его до сих пор не опубликовали. Вот его полный текст:

*„Делегация Республики Беларусь считает, что в процессе создания Содружества Независимых Государств всем государствам необходимо неукоснительно придерживаться следующих принципов:*

*1) Соблюдение прав человека, изложенных во Всеобщей декларации прав человека и других общепризнанных международно-правовых актах, а также соблюдение прав национальных меньшинств.*

*2) Разрешение всех спорных вопросов исключительно мирными средствами путем переговоров.*

*Исходя из этого делегация Республики Беларусь считает, что сохранение членства в Содружестве Независимых Государств возможно только при строгом соблюдении вышеизложенных принципов.*

*Принято единогласно на встрече на высшем уровне стран-участниц Содружества Независимых Государств в Алма-Ате 21 декабря 1991года".*

Можете считать это первой публикацией. Руководителям государств – членов СНГ давно необходимо вспомнить об этом совместно принятом Заявлении. Сразу после Алма-Атинской встречи начался антигосударственный вооруженный путч в Грузии, инспирированный Россией (как и в Осетии, и в других местах), при участии советской армии. Сейчас Россия самым отвратительным образом ввязывается в грязную войну против суверенной Молдовы, фактически, разжигает ее. Вот вам и СНГ!

А почитайте тенденциозные публикации о войне в Молдове в московской печати. Это что – демократические журналисты? Да они же – нецивилизованные люди. И заметьте, как красноречиво молчит при этом международное „общественное мнение". Их интересуют только наши ядерные ракеты (т.е. своя шкура) – вот здесь официальной „озабоченности" через край. Америка всегда проводила согласованную политику с Советским Союзом. Теперь – с Россией в своих интересах. Не надо иллюзий (если они еще у кого-то остались). Наши сторонники в конфликте с империей – не на востоке и пока, увы, не за океаном.

Об СНГ. Его создание исходило не из желания объединиться, а из необходимости разъединяться. Противоборствуя, Ельцин с Кравчуком нашли единственно правильное решение. Необходимо было остановить тупиковую авантюристическую деятельность Горбачева, законным образом упразднить отжившие паразитические структуры СССР, реализирвать свободу республик и удалить таким образом Горбачёва со сцены.

Следующаие задачи – разделить „безхозную" советскую армию, создать национальные Вооруженные Силы, решить вопрос с ядерным оружием; далее – разделить имущество общих фондов и общих институтов СССР (золотой запас, валютный, алмазный фонд, имущество посольств, радио, телевидение и т.д.) потом согласованно ввести национальные деньги и координировать при этом экономические связи и взаимоотношения. После этого СНГ исчерпывает свои функции, ибо в том виде, в каком оно создано, существовать не может. (Повторяю, СНГ – это временный необходимый этап на пути к свободе республик и демонтированию СССР).

После того, как исчерпают себя необходимые „связи разъединения", вступят в силу свободые „связи развития". Свой путь должны найти Сибирь и Средняя Азия, Кавказ и Дальний Восток, Украина, Молдова и Беларусь. Не исключено и создание русского национального (а не имперского) государства. Российская империя, как и Советский Союз, были искуственно созданными структурами. Достаточно небольшого трезвого анализа (без политического затемнения мыслей), чтобы понять естественное течение процессов.

Основой существования СНГ является ось противостояния Украина – Россия. Разрушение этой оси приведет к ликвидации СНГ. Активную роль в этом развале играет имперская экономическая позиция и сырьевой шантаж со стороны России. Следует учитывать, что Россия настолько глубоко зашла в гайдаровскую экономическую авантюру, что пути назад для нее, практически, нет. Украина предпринимает защитные меры (выход из рублевой зоны и т.п.) поэтому разрушение оси неизбежно.

Если бы эти события произошли уже в этом году (что не исключено) – они были бы неблагоприятными для Беларуси. Беларусь еще не подготовлена к таким поворотам и не хотела ни к чему готовиться из-за самоубийственной позиции и бездеятельности „памяркоўных"* мудрецов в Верховном совете,

* Любімае на той час слоўца ў палітычным лексіконе С. Шушкевіча. *(З.П.)*

не способных ничего понимать даже с четвертого раза ( в пятый раз объяснять уже бессмысленно). Они наивно смотрели на СНГ не как на временное явление, а как на реальную жизненную перспективу, не думая о независимости и судьбе белорусского государства.

Нужно принимать срочные меры. Какие – в Верховном Совете знают, но делать не хотят. Голова в песке. Эти люди не в состоянии увидеть очевидное, что наша народная и государственная судьба не с обваливающейся Россией, а вместе с Украиной, Латвией, Эстонией и Летувой (если Балтия к этому времени из-за нашей нерешительности не вступит в Северный Союз, в НАТО и т.д.).

**– Вы всегда Были хорошим прогнозистом. Можете ли вы „спрогнозировать" надалекое будущее Республики, а также на перспективу?**

**Кто из нынешних политических фигур удержится на сцене? Кебич? Шушкевич? Кравченко, который явно не прочь сыграть роль „белорусского Кравчука"? Или придут новые политики?**

**И, наконец, готов ли БНФ взять власть в свои руки (как в Азербайджане) и нести ответственность за судьбу Республики.**

– Во-первых, у нас в Беларуси не „как в Азербайджане". Вовторых, я не занимаюсь прогнозами в том контексте, в котором задан вопрос, и никогда не занимался. Необходим анализ на основе научной методологии. Если анализ правильный – то увидеть движение не сложно. Ибо, как река течет от истоков к устью, так и общественные процессы протекают по определенным законам.

Со „своим Кравчуком", как видите, не удалось. Получили квинтэссенцию конформизма. В.Кебич – человек быстрого ума и достаточно решительный, но страдающий непостоянством – уже потерял время и доверие. Наверстать упущенное бедет трудно. Хотя сбрасывать со счетов этого опытного номенклатурного политика никогда не следует, несмотря на всю непопулярность „прихватизационного правительства".

О власти уже давно сказано. Еще в 1991 году, оглашая на Верховном Совете решение о выходе на референдум, БНФ заявил о готовности, опираясь на Фронт, демократические партии, движения и волю людей, взять на себя ответственность конституционного изменения власти и государственных преобразований на Беларуси. Из ключевых структур власти должны уйти бесчестные люди вместе со своей коррупцией, антинародностью и административно-социалистическими иллюзиями. И не надо обращать внимание на их истерические вопли о крушении мира, экономики и конце света. Они никогда не думали о Беларуси. Крики народа они никогда не слышали. Почему народ должен слушать их?

***Вопросы задавала***
***Галина Айзенштадт***

*Надрукавана: (Знамя Юности,– 1992, 8 апреля)*

## Хіба ня бачыце?

*Вы ўсё пра каханьне*
*Складаеце радкі.*
*Жадаеце, каб вас кахалі.*
*А хіба ня бачыце,*
*Як высахла без любові*
*Наша Зямля?*

*1987 г.*

## Жывое

*Думаю пра магчымасьці духу.*
*Кволы расток таполі*
*Асфальт праламаў.*

*1986 г.*

*(З цыклу „Жывая сіла")*

**ЗЯНОН ПАЗЬНЯК:**

# „ВЯРХОЎНЫ САВЕТ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ НЯ ЗДОЛЬНЫ СТВАРЫЦЬ КАНЦЭПЦЫЮ РАЗЬВІЦЬЦЯ БЕЛАРУСІ”

**Што ўяўляе сабою Беларускі Народны Фронт? Адказ на гэтае пытаньне можна знайсьці ў Статуце арганізацыі. Згодна яму, БНФ – гэта шырокі грамадзка-палітычны рух, у якім аб’ядноўваюцца грамадзяне, грамадзкія суполкі, партыі, што падтрымліваюць Праграмную заяву БНФ і прызнаюць яго Статут.**

**Мэта БНФ – усталяваньне дэмакратычнага грамадзтва, дасягненьне незалежнасьці Беларусі. Ён выступае супраць насільля і не адказвае насільлем на ўжываньне сілы ўладамі.**

**Другі зьезд БНФ выпрацаваў антытаталітарную ідэалёгію, выявіў сапраўды франтаўскую сутнасьць і ў структуры, зрабіўшы адкрытым Сойм, увёўшы адкрытую квоту. Цяпер ён – бліжэй да клясычнага фронту, больш дэмакратычны, хоць і ў мінулым не было абавязковых складак, членскіх картак.**

**Падчас панаваньня камуністычнай ідэалёгіі і адпаведных партыйна-дзяржаўных інстытутаў, рух неаднаразова крытыкавалі за адсутнасьць сур’ёзных распрацовак па пераўладкаваньню эканомікі, за празмерную палітызаванасьць. Але ці можна было ўсур’ёз гаварыць пра эканоміку, калі ўсё грамадзтва было жорстка, нерухома змацавана на адміністрацыйна-бюракратычнай дактрыне, калі любы гаспадарнік, вытворца меў строгі рэглямант, што зыходзіў з камандных вышынь. Ці можна рэфармаваць частку, элемент, калі ў корані непрыгоднае цэлае?**

**Грунтоўныя эканамічныя распрацоўкі зьявіліся тады, калі пад напорам дэмакратычнага руху развалілася магутная машына дзяржаўнага камунізму. У аснове канцэпцыі – рынак, заснаваны на дзяржаўнай незалежнасьці, адметнасьці структуры нацыянальнай эканомікі. Свая мытня – для забесьпячэньня абароны беларускіх вытворцаў, свае грошы, свая крэдытна-фінансавая палітыка. Не павышэньне цэнаў, названае лібэралізацыяй, а збалянсаваньне ўсіх састаўных частак рынкавых адносінаў: рынку тавараў, паслуг, капіталу, жыльля, працы, сродкаў вытворчасьці.**

**Час, жыцьцё ставяць перад БНФ, як і перад грамадзтвам, новыя задачы. Што ж хвалюе лідараў Фронту зараз? Аб гэтым разважае Старшыня Сойму БНФ Зянон ПАЗЬНЯК.** *(Рэдакцыя часопіса „Беларусь”)*

* * *

Статус незалежнай дзяржавы паставіў перад беларускім грамадзтвам, урадам і Вярхоўным Саветам Рэспублікі шэраг першапачатковых задач, вырашэньне якіх даводзіцца пачынаць амаль што з нуля. Неабходна хутка стварыць сістэму аховы рэспубліканскай маёмасьці, рынку, структуры абароны суверэнітэту, распачаць актыўную міжнародную палітыку, а на справе... На справе аказалася, што Вярхоўны Савет, у сённяшнім яго складзе, не падрыхтаваны для такой работы. Ні прафэсійна, ні палітычна! Сцьвярджаю гэта з поўнай адказнасьцю. На працягу ўсяго пэрыяду свайго існаваньня Апазыцыя БНФ у Вярхоўным Савеце пастаянна і рашуча прапаноўвала канцэпцыю разьвіцьця Беларусі. Гэта – шлях у Эўропу, інтэграцыя ў эўрапейскія структуры; гэта – стварэньне ўласнай валюты, мытнай службы, уласнай арміі, дзяржаўных структур; гэта – пераарыентацыя часткі эканомікі на выраб тавараў для ўнутранага рынку, – каб зьменшыць залежнасьць ад расейскай і, увогуле, ад усходняй сыравіны; гэта – канкрэтныя прапановы па разьвіцьцю культурнай і замежнай палітыкі.

Кожны самастойны стваральны крок, кожнае, нават самае малое заканадаўчае дасягненьне, патрабавала незвычайных высілкаў нешматлікай дэпутацкай Апазыцыі. Усе гэтыя прапановы ў большай ці меншай ступені вымушаны былі прымацца, але, на жаль, зь вялікім спазьненьнем. Цяпер, бадай, кожнаму зразумела, што Вярхоўны Савет ня мае канцэпцыі разьвіцьця дзяржавы, ён ня ў стане і ня здольны стварыць яе.

Гэта – першае.

Другое. Вярхоўны Савет ня мае і канцэпцыі эканамічнага разьвіцьця грамадзтва. Чаму? Думаецца, таму, што больш за 2/3 у ім складае былая камуністычная намэнклятура, якая і па сёньня валодае ўсёй сістэмай улады, эканамічнай і, фактычна, палітычнай. Адзіная ж задача яе – любым чынам утрымацца, захаваць свой статус-кво.

Больш таго, у Рэспубліцы – цішком ад народа – праводзіцца эканамічная палітыка дзікай прыватызацыі. Тэрмін шырока вядомы, таму ня буду тлумачыць яго значэньне. Часовае палажэньне Савета Міністраў, што дзейнічае сёньня, у значнай ступені стварае ўмовы для незаконнай прыватызацыі, калі, выкарыстоўваючы дзяржаўныя структуры, намэнклятура прыўлашчвае дзяржаўную маёмасьць. Працэс набывае пагражаючыя памеры. Намэнклятура адчувае свой хуткі канец, адхінае ўсе ўмоўнасьці і даволі цынічна праводзіць гэтую прыватызацыю з карысьцю для сябе – за кошт народа.

Такім чынам, уся практыка Вярхоўнага Савета, у тым ліку і палітычная, паказвае, што адзіны выхад зараз для нашай дзяржавы – мець такі ўрад і такі парлямант, якія будуць карыстацца народным даверам, стаяць на дэмакратычных асновах і выяўляць інтарэсы народа Беларусі. Вось БНФ на пачатку года і выйшаў з ініцыятывай, зьвярнуўся да дэмакратычных партыяў аб правядзеньні рэфэрэндуму.

Чашу цярпеньня грамадзтва перапоўніў апошні закон аб падатках. Такога закона, бадай, няма ні ў адной дзяржаве сьвету. Такое ўражаньне, што ён прыняты адно для таго, каб мы страцілі рэсурсы, пазбавіліся прадпрыемстваў, спынілі вытворчасьць і прышлі да беспрацоўя і эканамічнага хаосу.

Канечне, закон можна падправіць, унесьці адпаведныя зьмены, але ж Вярхоўны Савет можа прыняць і такія законы, якія будуць мець неабарачальнае значэньне, і зьмяніць іх стане немагчыма без вялікіх выдаткаў для грамадзтва.

Спашлюся толькі на адзін прыклад. Як вядома, Саўмін Рэспублікі Беларусь падрыхтаваў праект Закона аб зямлі, які прадугледжвае юрыдычнае замацаваньне калгасаў – перавод зямлі ў калектыўную і прыватную ўласнасьць. Прапаноўваюцца і метады дасягненьня мэты. Што мы будзем мець у выніку – ня

трэба гадаць. Мы ня будзем мець замежных інвэстыцыяў, ня зможам развіваць фэрмерскую гаспадарку, мы, урэшце рэшт, не пракормім самі сябе.

Што ж, гэта той закон, за які намэнклятура будзе стаяць насьмерць. Бо зямля – гэта ўлада! Ніякія спрэчныя пытаньні ў парляманце – стварэньне ўласнага войска, дэпартызацыя, прыпыненьне дзейнасьці КПСС – да грамадзянскай вайны не прывядуць. Але згадаем: заўсёды, калі рушыліся пэўныя грамадзка-палітычныя сістэмы, да войнаў прыводзіла неразумнае вырашэньне зямельнага пытаньня. Аб гэтым сьведчыць і вопыт 1917-1920 гадоў.

Мы, даводзіцца гэта прызнаць, жывём у люмпэнізаваным грамадзтве, а ў ім дэмакратыя немагчымая. Крах аднаго таталітарызму прыводзіць да іншага, бо люмпэн ня можа быць свабодным. ***Свабода, дэмакратыя стануць магчымымі тады, калі мы адновім прыватную ўласнасьць і нацыянальную культуру. Толькі прыватная ўласнасьць робіць чалавека незалежным. Культура – вучыць яго карыстацца незалежнасьцю,ператварае ў свабоднага чалавека.***

Аднак, паўтаруся, з цяперашнім Вярхоўным Саветам мы ня станем свабоднымі і заможнымі. Кожны дзень яго існаваньня небясьпечны для нашага грамадзтва. Таму выйсьце адно – замена гэтай парляманцкай улады дэмакратычным канстытуцыйным шляхам праз рэфэрэндум.

***(Публікуецца згодна з выступленьнем Зянона ПАЗЬНЯКА на лютаўскай прэс-канфэрэнцыі ў Менску. 1992 г.)***

*Надрукавана: („ Беларусь”,– 1992, №5)*

## Карова

*За саветамі „ўласьць” дазваляла трымаць толькі адну карову. І зрабілася яна для беларусаў сьвятой. Гэтак думаючы, я ўспомніў:*

*Мароз за сьцяною хлява*
*аж трашчыць.*
*Падсьцялю я табе саломкі.*
*Ахіну я цябе дзяружкай,*
*кароўка.*

*2002 г.*

## Беднае жыцьцё

*Падкасаўшыся, баба*
*па калені ў вадзе*
*Балотныя травы жне.*
*Дзяружка ляжыць.*

* * *

*Адпачываюць касцы.*
*Уткнутыя косы,*
*Нібы сьцягі на ветры.*

# ХТО БАІЦЦА ПАДПІСАЦЬ „СЬМЯРОТНЫ ПРЫГАВОР”?

Склалася становішча, калі закаранелым партыйным намэнклятуршчыкам, што ўсё жыцьцё частавалі людзей кіруючай дэмагогіяй, трэба па закону самым сабе падпісаць „сьмяротны прыгавор” – прызначыць дату правядзеньня рэфэрэндуму аб роспуску Вярхоўнага Савета і аб новых выбарах. Як кажуць у такіх выпадках расейцы, – трапілі, як „кур во щи”. Таму, як і трэба было чакаць, пачаўся лямант, заснаваны на адкрытай хлусьні.

Нядаўна ва ўсіх залежных ад Саўміна газэтах зьявіўся такі зборны матэрыял – „зноў вакол рэфэрэндуму”. Тут сакратар Цэнтральнай камісіі па рэфэрэндуму, які шкодзіў у працы Ініцыятыўнай групе, напісаў: „Сцьвярджэньне, што Вярхоўны Савет павінен толькі прызначыць дату правядзеньня рэфэрэндуму, – няправільнае. Закон аб рэфэрэндуме не звужае канстытуцыйна замацаваныя за парлямантам правы. Вярхоўны Савет можа ня толькі адхіліць або зацьвердзіць фармулёўку пастаўленага на рэфэрэндум пытаньня для далейшага яго ўключэньня ў бюлетэнь, але і удакладніць яе.” Гэта называецца заведамым ашуканствам. ***Па закону Вярхоўны Савет прызначае толькі дату рэфэрэндуму і ня можа „зацьвярджаць”, „адхіляць” ці „ўдакладняць” фармулёўку зацьверджанага Цэнтральнай Камісіяй пытаньня, вынесенага на рэфэрэндум. Такіх правоў Вярхоўнаму Савету ня дадзена,*** і аўтар-дэзінфарматар спасылак на Закон ня робіць, бо ў Законе гэтага не напісана. А напісана там вось што.

*„Артыкул 14. Парадак прыняцьця пастановы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па прапанове аб правядзеньні рэфэрэндуму.*

*Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь пасьля атрыманьня аформленай у належным парадку прапановы аб правядзеньні рэфэрэндуму разглядае пытаньне аб прызначэньні даты абавязковага або кансультатыўнага рэфэрэндуму і мерах па яго забесьпячэньню або аб неабходнасьці прыняцьця Закона або іншага рашэньня, якое прапануецца на рэфэрэндум, без яго правядзеньня.*

*У выпадку парушэньня гэтага Закона ініцыятарамі рэфэрэндуму Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь мае права адхіліць прапанову аб правядзеньні рэфэрэндуму”.*

Закон ня быў парушаны. Не праводзіць жа рэфэрэндум можна толькі ў выпадку прыняцьця Вярхоўным Саветам „рашэньня, якое прапануецца на рэфэрэндум”. Гэта значыць, у дадзеным выпадку тады, калі Вярхоўны Савет сам прыме пастанову аб новых выбарах і сваім самароспуску на прынцыпах, сфармуляваных у пытаньні, вынесеным на рэфэрэндум і падтрыманым больш чым 440 тысячамі выбаршчыкаў. (Дарэчы, гэта быў бы разумны крок, толькі гэты Вярхоўны Савет на яго ня здольны.)

Далей у артыкуле 15 – „Зьмест пастановы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь аб прызначэньні рэфэрэндуму” – сказана:

*„У пастанове Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь аб прызначэньні рэфэрэндуму ўказваюцца дата правядзеньня рэфэрэндуму, фармулёўка пастаўленага на рэфэрэндум пытаньня для далейшага ўключэньня яго ў бюлетэнь, вызначаецца парадак фінансаваньня і вырашаюцца іншыя пытаньні, зьвязаныя з правядзеньнем рэфэрэндуму...*

*Дата правядзеньня рэфэрэндуму ўстанаўліваецца не пазьней, чым па сканчэньні трох месяцаў з дня прыняцьця пастановы аб прызначэньні рэфэрэндуму.*

*У выключных выпадках Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь можа ўстанавіць іншыя тэрміны правядзеньня рэспубліканскага рэфэрэндуму”.*

„Устанавіць іншыя тэрміны” Вярхоўны Савет, згодна з Законам, можа толькі ў адным выпадку, адлюстраваным у артыкуле 7, – *„у выпадку ўвядзеньня ў адпаведнасьці з Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь надзвычайнага становішча”.* Але і яно ня можа быць прынятае, бо ў Канстытуцыі такога палажэньня няма, а закона аб надзвычайным становішчы ў нас не існуе.

Дэзінфармацыйнага туману напусьціў у зборным заказе для друку старшыня Пастаяннай камісіі Вярхоўнага Савета па дзяржаўным будаўніцтве. Той самай камісіі, якая раней накіравала Цэнтральнай камісіі па рэфэрэндуму бязглуздае заключэньне з прапановай разьдзяліць пытаньне, вынесенае на рэфэрэндум на некалькі асобных пытаньняў. Пры гэтым старшыня Кмісіі ВС яшчэ і абураецца, што „праігнаравалі” ягонае заключэньне. Добра, што ў Цэнтрвыбаркаме знайшліся людзі больш кемлівыя, чым у Вярхоўным Савеце, і не прынялі відавочнае глупства. А то ўявім сабе, што большасьць прагаласавала б за роспуск Вярхоўнага Савета, а меншасьць – за новыя выбары, калі падзяліць пытаньне так, як прапаноўвалі. (Значыць, Вярхоўны Савет распусьціць, а новы выбіраць ня трэба.) Ці, наадварот, – большасьць за новыя выбары, а меншасьць – за роспуск. (Тады трэба выбіраць новы Вярхоўны Савет і адначасна пакідаць стары.) Ці пры іншым варыянце – трэба правесьці новыя выбары, але па старым антыдэмакратычным законе і г.д. Пра гэта раней ужо было напісана. Толькі, відаць, ня ўсе старшыні камісіяў ВС чытаюць газэты, а калі чытаюць, то ня ўсе разумеюць, ці калі што разумеюць, то, што найгорай, сьвядома заблытваюць людзей. Вось у зборнай публікацыі напісана: „Вярхоўны Савет можа прымаць рашэньне аб характары рэфэрэндуму – кансультатыўны або абавязковы, аб фармулёўцы пытаньня, якое выносіцца на галасаваньне, аб тэрмінах правядзеньня рэфэрэндуму і да т.п. Гэта дастаткова выразна сфармулявана ў артыкулах 14 і 15”.

Тут я якраз і працытаваў, што там „сфармулявана”. І ня трэба намякаць, шаноўныя, быццам Вярхоўны Савет можа на гэтым этапе зьмяніць фармулёўку пытаньня (пра што адкрыта кажуць і пішуць менш абазнаныя, чым цытаваны аўтар). Ня можа! Не ашуквайце людзей. І характар рэфэрэндуму зьмяніць ня можа. Мэта рэфэрэндуму сфармулявана ў афіцыйным дакуманце – Заяве Ініцыятыўнай групы з просьбай зарэгістраваць пытаньне, прапануемае на рэфэрэндум, дзе сказана, што „мэтай рэфэрэндуму зьяўляецца прыняцьце абавязковага рашэньня аб датэрміновых выбарах...” і г.д. Гэта ж пацьверджана ў другім афіцыйным дакуманце – Заключным акце, складзеным пасьля збору подпісаў. Так што ня трэба перакручваць, паважаныя члены Прэзыдыюма. А то даходзіць да таго, што рэфэрэндум абʼяўляюць „рэвалюцыяй”, „рэвалюцыйным шляхам”, а яны, бач, за партыю, то бо, прабачце, за ўрад, ды за самых сябе, за „эвалюцыю”.

Вядома, у гэтым Вярхоўным Савеце ёсьць дэпутаты, што слова „рэфэрэндум” вымаўляюць з цяжкасьцю, ня кажучы пра разуменьне сэнсу паняцьця. Аднак жа па-руску чытаюць, навучаны, пасканчалі ВПШ. Дык пачыталі б хоць у Савецкай энцыкляпэдыі, што гэта такое – рэфэрэндум. А то непрыстойна атрымліваецца – і самы не разумеюць, і людзей ашукваюць. Нехораша, паважаныя калегі.

***Зянон ПАЗЬНЯК***
***народны дэпутат Рэспублікі Беларусь***

*Надрукавана: („Народная Газэта”, – 1992, 27 чэрвеня)*

# ТОЛЬКІ Ў СЭРЦЫ ТРЫВОЖНЫМ ПАЧУЮ...

15 жніўня 1992 г. спаўняецца 20 гадоў з дня трагічнай гібелі мастака ***Лявона Баразны,*** чалавека самабытнага таленту і рэдкага альтруістычнага характару. Узьдзеяньне яго на цяперашняе беларускае мастацтва безумоўнае. Можна без перабольшаньня сказаць, што творчасьць нацыянальных мастакоў, аб'яднаных пад сымвалам Пагоні, якія годна прадстаўляюць беларускае мастацтва і праграмуюць шлях, творчасьць гэтая выйшла з мастацкай дэейнасьці і духу мастацтва Лявона Баразны. Пачынаючы з канца 50-х гадоў, ён сваім прыкладам, ня гледзячы на ноч камунізму, сцьвярджаў узор мастацкага служэньня Бацькаўшчыне, яе культурна-нацыянальнаму адраджэньню. Лявон Баразна, як некалі Язэп Драздовіч, не стаў чакаць лепшых умоў. Узяў мальбэрт, фарбы, капялюш і пайшоў пешшу па мястэчках, вёсках і хутарах Беларусі вывучаць, маляваць і аглядаць скарбы народнай творчасьці. Так прадаўжалася некалькі гадоў. А вынікам сталі некалькі збораў і альбомаў малюнкаў беларускіх народных рэгіянальных касьцюмаў, строяў, арнаментаў. Яны цяпер захоўваюцца ў музеях Беларусі.



(Фота З. Пазьняка, 1964 г.)

***50. Народныя сьпевакі на фоне артыстаў горадзенскага ансамбля „Нёман", афомленага Лявонам Баразной.***

Па прызваньні таленту Лявон Баразна жывапісец. Але народная творчасьць, яе амаль неўзараная тады цаліна цалкам захапіла яго. У 60-х гадах ён распрацаваў і стварыў беларускі сцэнічны касьцюм, дзясяткі яго тыпаў і ўзораў. Ён аформіў і, вобразна кажучы, апрануў дзясяткі народных ансамбляў, хораў, калектываў, абазначыў цэлы накірунак у мастацтве народнага сцэнічнага касьцюму, паставіў справу на высокі мастацкі прафэсійны грунт, падняў яе з дылетанцтва. Яго касьцюмныя ансамблі рабілі незабыўнае ўражаньне сваім хараством, густам, гармоніяй колераў і фасонаў. Мне ніколі больш і нідзе не прыходзілася бачыць, каб адкрывалася заслона і заля адным духам вохкала ад уражаньня незвычайнай красы сцэнічнага адзеньня, каб яна ўставала і ўзрывалася такімі шчырымі воплескамі мастаку. Асабліва тады ўразіў мяне горадзенскі ансамбль „Нёман", афармлены ў шляхецкіх традыцыях беларускіх убораў.

Каб „прабіць" у тыя часы самабытнае нацыянальнае мастацтва на сцэну, трэба было валодаць незвычайнымі якасьцямі характару, вытрымкай і воляй. Лявон Баразна здолеў гэта рабіць і дамагацца перамогі сярод шалёнага зграю і цкаваньня чыноўнікамі ад мастацтва і апарату. Ягоны жывапіс, этнаграфічныя замалёўкі, акварэлі тады нікому не былі вядомыя. Ды і ён усе сілы аддаваў узняцьцю народнага мастацтва – грунту, як ён лічыў, нацыянальнай творчасьці. Сваю працу ён разглядаў як місію служэньня беларускаму Адраджэньню. Стараўся ўсюды пасьпець. Заўважыў прабел – сам браўся яго запаўняць. Так ён упершыню сабраў, клясыфікаваў, зрабіў мастацтвазнаўчае апісаньне і выдаў асобным альбомам гравюры Францыска Скарыны. Ён умеў вылучыць галоўныя патрэбы беларускага мастацтва, ніколі не марнаваў час на пустую квазімастацкую непатрэбшчыну, так распаўсюджаную ў тыя часы.

Дзейнасьць Лявона Баразны, асабліва калі ён стаў галоўным мастаком Мастацкага фонду БССР, была косткай у горле партыйным апаратчыкам, чыноўным ненавісьнікам беларушчыны (а тады непрыняцьце ўсяго беларускага было афіцыйнай ідэалёгіяй і палітыкай). Ён „спадобіўся" асабістай нянавісьці галоўнага неўспрымальніка гістарычнай культурнай спадчыны народа (разбурыў старажытную вуліцу Нямігу ў Менску) і выразьніка партыйнага прыгнёту П. Машэрава. Нават пасьля сьмерці Лявона Баразны Машэраў помсьціў „известному националисту", не даючы расследаваць да канца таямніцу яго забойства. Ніткі вядуць у нетры КДБ – перадавога атрада КПСС. Але яны абарваліся яшчэ тады. Зрэшты, ня ўсё таемнае зьнікае бясьследна. Ня выключана, што выявіцца некалі праўда і пра гэтае злачынства.



(Фота З. Пазьняка).

***51. Лявон Баразна. 1965 г.***

Забойства Лявона Баразны 15 жніўня 1972 г. ускалыхнула ўсю культурную і мастацкую грамадзкасць Беларусі. Ужо тады над яго труной людзі перасталі гаварыць шэптам. У 1974 годзе яго паплечнікі-мастакі арганізавалі пасьмяротную выставу мастацкай спадчыны Лявона Баразны. Для шмат каго яна стала адкрыцьцём сьвятой любові да роднага народа, адданасьці і служэньня яму па сэрцу, па душы, па істоце сваёй чалавечай. Без перабольшаньня скажу – гэтая выстава ўскалыхнула і арганізавала шмат якіх мастакоў Беларусі. Адсюль паплыў той няспынны чысты ручаёк беларускага мастацтва, што кіруецца на вялікую раку. Адсюль паляцела з узьнятым мечам наша несьмяротная Пагоня ў вечных вобразах Бацькаўшчыны і прыроднага хараства на палотнах, у лістах, на габеленах і ў бронзе – „біце ў сэрцы іх, біце мячамі, не давайце чужынцамі стаць..."

***Зянон ПАЗЬНЯК,***
***кандыдат мастацтвазнаўства.***

*Надрукавана: (Народная Газэта,– 1992, жнівень)*

# ПАЛІТЫКА НАМЭНКЛЯТУРЫ. ПАЛІТЫЧНАЯ СІТУАЦЫЯ НА БЕЛАРУСІ І ПЭРСПЭКТЫВЫ ЯЕ РАЗЬВІЦЬЦЯ

***(Даклад, прачытаны для кіраўніцтва і супрацоўнікаў НАТО, 3 – га верасьня 1992 г., Брусэль)***

Глыбокапаважаныя спадары.

Адраджэньне нашай суверэннай дзяржавы Беларусі на палітычнай карце сьвету стала магчымым пасьля краху камуністычнай сістэмы, зьяўляецца заканамерным вынікам барацьбы за свабоду і незалежнасьць, што прывяло да распаду Савецкага Саюзу. Да гэтага часу сьвет ужо пасьпеў амаль забыцца пра нашае існаваньне, тым больш, што зьмянілася гістарычная назва нашай тысячагадовай дзяржавы. Але мы жывём і адраджаем сваё нацыянальнае гістарычнае быцьцё. У X стагодзьдзі гэта была Полацкая зямля ці Полацкае княства, што аб'ядвала старажытныя беларускія землі крывічоў і літвы, прыняло хрысьціянства ад грэкаў, мела сваю княскую дынастыю Рагвалодавічаў са сталіцай у горадзе Полацку. Да канца XIII стагодзьдзя ў выніку працягу аб'яднаньня земляў, барацьбы з крыжакамі, Кіеўскай Русьсю і татара-манголамі адбылася зьмена княскай дынастыі і ўтварылася Вялікае Княства Літоўскае – старажытная беларуская феадальная дзяржава, у якую ўваходзілі ўсе беларускія землі, Жмудзь (перадваенная Летува) і да сярэдзіны XVI стагодзьдзя землі Украіны. Вялікае Княства Літоўскае асабліва ў XV–XVI – першай палове XVII стагодзьдзяў яго існаваньня – гэта Залаты час беларускай культуры і дзяржаўнасьці. Беларуская мова была дзяржаўнай мовай і ў XVI ст. замацаваная ў асноўным законе –Статуце Вялікага Княства Літоўскага – першай, фактычна, Канстытуцыі дзяржавы. З XIV стагодзьдзя беларускія гарады кіраваліся Магдэбургскім правам, у эпоху готыкі створаны велічныя замкі, рэнесанс і барока прынесьлі тонкую пекнату ў будаўніцтва храмаў і габдоў, разьвіваліся цэхі і рамёствы, мастацтва і права, культура і дзяржаўнае будаўніцтва, пагрунтаванае на законах і дзяржаўным праве, на свабодзе веравызнаньняў і на характэрнай для нашай беларускай цывілізацыі верацярпімасьці.

Вялікае Княства Літоўскае – гэта была наймагутнейшая дзяржава на ўсходзе Эўропы. Беларуская культура засьведчыла пра сябе сьвету ня толькі замкамі, храмамі і вайсковым умельствам. У 1517 г. доктарам свабодных навук Францыскам Скарынай з Полацка былі выдадзеныя першыя друкаваныя беларускія кнігі – першыя сярод усходніх славянаў. У 1529, 1566 і 1588 – выдаваўся Статут Вялікага Княства Літоўскага, збор законаў – помнік феадальнага беларускага права (а таксама і старажытна-беларускай кніжнай мовы), які паўзьдзейнічаў на разьвіцьцё прававай думкі свайго часу і на законы іншых дзяржаў.

На працягу ўсёй 500-гадовай гісторыі існаваньня Вялікага Княства Літоўскага амаль палова часу–гэта бесперапынныя войны на ўсходзе з Масквой і пазьней з Расейскай імпэрыяй, якія вызначаліся і вынікалі галоўным чынам з геапалітычнае сытуацыі. Пастаянная пагроза з усходу прывяла да саюзу з Польшчай і стварэньня ў 1569 годзе канфедэратыўнай дзяржавы – Рэчы Паспалітай (г. зн. „Агульнай справы"). Гэтае ўтварэньне, аднак, аказалася нежыцьцяздольным і ў канцы XVIII ст. было разарванае паміж трыма імпэрыямі – Расейскай, Прускай і Аўстра-Венгерскай. Беларусь захапіла Расея.

Нацыянальна-вызваленчая барацьба беларускага народа працягвалася на працягу ўсяго XIX і пачатку XX стагодзьдзя. За гэты час адбылося пяць узброеных паўстаньняў супраць самадзяржаўя. Толькі ў 1918 г. была адноўлена дзяржаўнасьць і створана Беларуская Народная Рэспубліка (БНР) і 25 сакавіка гэтага ж года аб'яўлена яе незалежнасьць. Аднак у канцы 1918 года БНР была акупавана бальшавіцкім расейскім войскам. На невялікай частцы акупаванай тэрыторыі бальшавікі былі вымушаныя дазволіць стварэньне марыянэткавай Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі, пакінуўшы сабе велізарныя беларускія абшары на ўсходзе з гарадамі Смаленскам, Невелем, Бранскам, аж да Ржэва і Дарагабужа. Гэтыя адвечныя беларускія тэрыторыі ня вернутыя Беларусі да сёньняшняга дня. Урад БНР існаваў у эміграцыі. Зараз Рада БНР – правобраз мінулага парляманту – знаходзіцца ў ЗША.

Гады акупацыі – гэта, перш за ўсё, палітыка этнацыду, асіміляцыі і генацыду, якая дасягнула асабліва жорсткіх і антычалавечых формаў у часы бальшавікоў. За пэрыяд ленінска-сталінскіх рэпрэсіяў на Беларусі была зьнішчана амаль трэць яе насельніцтва (каля трох мільёнаў), зьнішчаны помнікі гісторыі і культуры, спаленыя старажытныя кнігі, разрабаваныя нацыянальныя каштоўнасьці, сфальсіфікаваная нацыянальная гісторыя, зачыненыя беларускія школы, зьнішчана нацыянальная адукацыя. Ніколі яшчэ наш народ не выходзіў з гістарычнага катаклізму, з палітычнага небыцьця такім нацыянальна абяскроўленым.

Але мы поўныя ўпэўненасьці і аптымізму. Паступова грамадзтва выздараўлівае. Мы зьберагл і вельмі важныя народныя якасьці: здольнасьць да працы, цярпімасьць, здаровы сэнс, прывязанасьць да Бацькаўшчыны, павагу да чалавечай асобы.

У жніўні 1991 года была разбурана ўлада КПСС. Беларусь замацавала сваю незалежнасьць у Канстытуцыі дзяржавы. Здавалася б, перад Рэспублікай адчыніліся небывалыя пэрспэктывы, якія Беларускі Народны Фронт сфармуляваў як вяртаньне нашага народа ў Эўропу, у сістэму эўрапейскай цывілізацыі. Народны Фронт таксама прапанаваў парляманту вызначыць на пэрспэктыву канстытуцыйны статус Беларусі як нэўтральнай бязьядзернай дзяржавы.

На наш погляд, для ўмацаваньня незалежнасьці неабходна было зрабіць наступныя пераўтварэньні: ажыцьцявіць рэформу ўлады (ліквідаваць саветы і перайсьці на муніцыпальную сістэму кіраваньня); ажыцьцявіць рэформу эканомікі на рынчнай аснове; адрадзіць нацыянальную культуру і нацыянальную сьвядомасьць; стварыць інстытуты дзяржаўнай незалежнасьці (нацыянальная валюта і фінансава-крэдытная сістэма, нацыянальная армія, мытная сістэма і межы, міжнародныя сувязі на ўзроўні пасольстваў). Практычна, нічога гэтага за мінулы год незалежнасьці не ажыцьцёўлена, ня гледзячы на адчайныя спробы дэпутацкай Апазыцыі БНФ паўзьдзейнічаць на палітыку Вярхоўнага Савета. Шмат якія задачы (напрыклад, стварэньне нацыянальнага войска) спрафанаваныя, рэформы адкінутыя.

У чым жа прычына? Перш за ўсе, разгледзім сутнасьць пераменаў, што адбыліся ў былым СССР у жніўні 1991г. Адбылося, на наш погляд, пераразьмеркаваньне ўлады паміж партыйнай і дзяржаўнай намэнклятурай (бюракратыяй). Сістэма намэнклятурнай улады ў Савецкім Саюзе складалася з двух узроўняў. Першы ўзровень нелегітымны–гэта рэальная ўлада

КПСС і яе структураў. Другі ўзровень–квазі-легітымны–гэта прымітыўная падстаўная ўлада Саветаў і іх выканаўчых органаў – шырма камуністычнай дыктатуры. Сюды ж належаць суд, пракуратура і дзяржаўныя прафсаюзы. Пасьля ліквідацыі КПСС, супроць якой быў накіраваны галоўны ўдар нацыянальна-дэмакратычных сілаў, рэальная ўлада перайшла ў манапольнае валоданьне квазі-легітымных органаў–Саветаў і іх выканаўчых інстытутаў, практычна не прыстасаваных да функцыянальнага ажыцьцяўленьня ўлады. Аднак і першы, і другі ўзровень улады ў СССР зьвязваліся адзінай уладнай „субстанцыяй"– камуністычнай намэнклятурай. Намэнклятура непадзельная. Пасьля ліквідацыі КПСС камуністычная намэнклятура старых дзяржаўных структураў аўтаматычна атрымала манаполію на ўладу (дарэчы, кепска рэгуляваную законам). Гэтым тлумачыцца даволі лёгкая і ціхая сьмерць КПСС. Яна (сьмерць) структурна пераразьмеркавала ўладу камуністычнай намэнклятуры, надала ёй „сьвецкі", г. зн. квазі-дэмакратычны, характар. Гэта як у прыпавесьці пра двухгаловага зьмея – адну галаву сьцялі, а зьмей жыве.

Калі ў іншых рэспубліках былога СССР у асяродзьдзі намэнклятуры ўтварылася скрытая апазыцыя КПСС (тых, хто зразумелі выгады для сябе лёзунга „улада саветам"), то на Беларусі камуністычная намэнклятура аказалася непадзельнай у сваёй рэакцыйнасьці, антынароднасьці і адданасьці маскоўскаму партыйнаму камуністычнаму рэжыму. Тым ня менш, у жніўні 1991 года абвал адбыўся і тут, праўда, пад моцным і рашучым націскам парляманцкай Апазыцыі Народнага Фронту і нацыянальна-дэмакратычных сілаў Беларусі. Беларуская намэнклятурна-камуністычная „Вандэя" правалілася палітычна, але ўтрымала ў руках дзяржаўную ўладу.

Грунтоўных дэмакратычных пераўтварэньняў у сістэме ўлады на Беларусі не адбылося. Разбурана толькі структура КПСС, яе ідэалягічны кантроль над грамадзтвам. Палітыка намэнклятуры засталася такой як і была–адносіны да дзяржаўнай улады як да сваёй прыватнай уласнасьці. Аднак паводзіны намэнклятуры перамяніліся. Калі раней сіла ўлады намэнклятурнай бюракратыі выяўлялася ў існаваньні асаблівай партыйнай арганізацыі таталітарысцкага зьместу, то цяпер, са стратай партыйных структураў і партыйнага кантролю, улада намэнклятуры пачала губляць унівэрсальны характар. Адміністраваньне не дасягае мэты. У гэтых умовах намэнклятурная камуністычная бюракратыя ўбачыла грунт сваёй улады ва ўласнасьці, у манаполіі на вытворчасьць і ў цэлым на эканоміку. На Беларусі зараз адбываецца пераразьмеркаваньне дзяржаўнай уласнасьці ў прыватную ўласнасьць бюракратычнай намэнклятуры. Альбо, кажучы бытавой мовай, адбываецца раскраданьне бюракратыяй дзяржаўнай уласнасьці незаконнымі і карпаратыўнымі (на аснове антыдзяржаўных законаў) мэтадамі. Менавіта таму і не ажыцьцяўляюцца рыначныя рэформы эканомікі, павольна зьяўляюцца дэмакратычныя законы, сабатуюцца ўжо прынятыя дэмакратычныя палажэньні. Ствараюцца ўмовы і прымаюцца адпаведныя заканадаўчыя акты, спрыяльныя для намэнклятурнага пераразьмеркаваньня дзяржаўнай уласнасьці, трапна названай у грамадзтве „прыхватызацыяй".

„Прыхватызацыя" выклікае рэзка нэгатыўную ацэнку ў народзе, бо людзі разумеюць, што іх зноў бессаромна абкрадваюць. Усе канструктыўныя спробы парляманцкай Апазыцыі БНФ прымусіць Вярхоўны Савет прыступіць да рэальных рэформаў эканомікі і ўласнасьці ў інтарэсах народа і дзяржавы не далі адчувальных вынікаў. Зрухі невялікія.

Трэба адзначыць, што ў Вярхоўным Савеце Беларусі, выбраным на аснове антыдэмакратычнага закону ў часы панаваньня камуністычнага рэжыму, 86 працэнтаў дэпутатаў – гэта былыя камуністы і прадстаўнікі камуністычнай намэнклятуры, прытым амаль усе яны цяпер пастаянна працуюць у выканаўчых органах улады, пачынаючы ад Ўраду, міністэрстваў і канчаючы раённымі саветамі, выканкамамі, органамі МУС, КДБ, пракуратуры.

Неабходна растлумачыць таксама, што камуністычная намэнклятура улады на Беларусі характарызавалася незвычайнай коснасьцю і рэтраградзтвам, залежнасьцю ад ідэалёгіі Масквы і нацыянальным нігілізмам, гэта значыць усеагульным непрыняцьцем культурных нацыянальных каштоўнасьцяў уласнага народу, нянавісьцю да беларускай мовы, ад якой камуністы адмовіліся, непрыняцьцем незалежнасьці Беларусі. Усе гэтыя комплексы, сфармаваныя раней пад узьдзеяньнем інтэрнацыянальна-русіфікатарскай палітыкі КПСС, засталіся і цяпер, з рэдкім выключэньнем, амаль у нязьменным выглядзе. Адсюль непасьлядоўнасьць і супярэчлівасьць у дзеяньнях Вярхоўнага Савета, гамаваньне дэмакратычных рэформаў, сабатаваньне станаўленьня нацыянальна-дэмакратычнай беларускай дзяржавы.

Каб зьмяніць становішча, парляманцкая Апазыцыя Народнага Фронту распрацавала і прапанавала некалькі дзясяткаў праектаў законаў на дэмакратычнай аснове. Практычна, усе яны (нават праект закона аб барацьбе з карупцыяй і арганізаванай злачыннасьцю), за выключэньнем некаторых палажэньняў, былі адкінуты, а тыя, што ў асноўным прынятыя (напрыклад, Закон аб грамадзянстве), фактычна, ня дзейнічаюць і сабатуюцца выканаўчай уладай. Асабліва адмоўна адбіваецца на разьвіцьці дзяржавы непрыняцьце законапраекта аб прыватнай уласнасьці на зямлю. Бяз гэтага закона размовы пра рэформы, пра цэны на прадукты, замежныя капіталаўкладаньні, інвэстыцыі ў беларускую эканоміку, зьяўляюцца пустым гукам. Тым ня менш, кіруючая камуністычная намэнклятура, маючы эканамічную і палітычную базу ў калгаснай вёсцы, ня йдзе на дэмакратычнае рынкавае вырашэньне зямельнага пытаньня.

Цяперашняе намэнклятурна-камуністычнае кіраўніцтва Беларусі ня вырашыла і не спрабавала вырашыць ніводнай неабходнай праблемы нацыянальнага разьвіцьця, лічачы за лепшае пасіўна плесьціся ў рэчышчы разбуральнай для Беларусі палітыкі Расеі, чым прыкладваць намаганьні па стварэньні, скажам, сваёй фінансава-крэдытнай сістэмы, нацыянальнай валюты, пошуку дадатковых пастаўшчыкоў энергарэсурсаў, стварэньні праграмаў эканоміі і альтэрнатыўных крыніцаў энэргіі і г. д. І гэта пры ўсім пры тым, што Беларусь – адна з найбольш разьвітых у эканамічным дачыненьні дзяржава ў шэрагу рэспублік былога СССР, з навукаёмістай разнабаковай вытворчасьцю, з даволі высокім узроўнем сельскай гаспадаркі (параўнаўча, вядома), зь вялікім навуковым і інтэлектуальным патэнцыялам, з багатымі запасамі вытворчай сыравіны, з грамадзкай стабільнасьцю.

Прывязваючы Беларусь да абвальнага эканамічнага працэсу разбурэньня, што адбываецца цяпер у Расеі, беларуская кампрадорская намэнклятура прымушае нашу дзяржаву страчваць свае перавагі, губляць сваю свабоду, пэрспэктыву ўмацаваньня незалежнасьці, робіць бессэнсоўнай народную працу, бо вынікамі яе народ не карыстаецца, бяднеючы з кожным днём.

Такія дзіўныя, на першы погляд, паводзіны тлумачацца адсутнасьцю ў цяперашняга намэнклятурна-камуністычнага кіраўніцтва Беларусі яснай канцэпцыі разьвіцьця незалежнай дзяржавы, правінцыяльнасьцю, ці неразьвітасьцю дзяржаўна-

га думаньня. Палітыка, накіраваная на прыватнае ўзбагачэньне намэнклятурнай бюракратыі пры дапамозе ўлады, на карпаратыўны падзел і прыватнае прысваеньне дзяржаўнай уласнасьці, на задушэньне адраджэньня нацыянальнай сьвядомасьці і нацыянальнай культуры, супярэчыць імкненьням народа і нацыянальным інтарэсам Беларусі.

Выхадам з такога становішча, якое ня можа працягвацца доўга, могуць стаць нечарговыя, дэмакратычныя выбары новага парлямента Беларусі. У канцы сьнежня 1991 года парляманцкая Апазыцыя Беларускага Народнага Фронту выступіла з ініцыятывай правядзеньня ўсебеларускага рэфэрэндуму аб роспуску існуючага Вярхоўнага Савета і аб дэмакратычных выбарах пастаяннага парляманту (Сойму) на аснове дэмакратычнага выбарчага закона, распрацаванага БНФ. Для правядзеньня рэфэрэндуму створаны блёк „Рэферэндум" з усіх нацыянальна-дэмакратычных рухаў, партыяў і арганізацыяў. Да 12 красавіка 1992 года Ініцыятыўная група рэфэрэндуму, дзейнічаючы строга па закону і пераадольваючы моцнае супраціўленьне ўлады на месцах, сабрала 442 тысячы подпісаў (неабходна 350 тыс.) і перадала іх у Цэнтральную камісію па рэфэрэндуму, якая, праверыўшы, прызнала правільнасьць і законнасьць сабраных подпісаў і дала пра гэта сваё Заключэньне ў Вярхоўны Савет. Тым самым, згодна з Законам, рашэньне аб правядзеньні абавязковага рэфэрэндуму па зацьверджаным пытаньні прынятае. Прэзыдыюум Вярхоўнага Савета павінен быў у месячны тэрмін склікаць сэсію Вярхоўнага Савета, якая, згодна з Законам, прызначае дату правядзеньня рэфэрэндуму.

Варта адзначыць, што рэфэрэндум на Беларусі – гэта будзе першы дэмакратычны рэфэрэндум на тэрыторыі былога СССР, арганізаваны па ініцыятыве зьнізу. Усе рэфэрэндумы, што праходзілі на былых савецкіх абшарах раней, зыходзілі ад кіруючых структураў дзяржавы.

Аднак прайшло ўжо больш чым чатыры месяцы з моманту прыняцьця рашэньня аб правядзеньні рэфэрэндуму, а Вярхоўны Савет так і не сабраўся. У красавіку, спыніўшы разгляд законапраектаў, сэсія была раптоўна перапынена. Вярхоўны Савет, фактычна, самараспусьціўся на нявызначаны тэрмін. Такія своеасаблівыя паводзіны тлумачацца боязьзю рэфэрэндуму і таму нежаданьнем зьбірацца на сэсію, бо тады прыйдзецца прызначыць дату правядзеньня рэфэрэндуму. Тым часам эканоміка ў цяжкім стане, узрастаюць цэны, не хапае асноўных эканамічных законаў, а Вярхоўны Савет вось ужо хутка паўгода ў вольным самароспуску.

Мы бачым у такіх несур'ёзных дзеяньнях (ці, дакладней, у бязьдзеяньні) Вярхоўнага Савета нежаданьне выконваць закон і грубае парушэньне правоў чалавека, у прыватнасьці правоў тых 442 тысячаў выбаршчыкаў, якія паставілі свае подпісы за правядзеньне рэфэрэндуму.

Цяпер усе паводзіны кіруючай посткамуністычнай намэнклятуры на Беларусі вызначаюцца рэфэрэндумам. Вярхоўны Савет самаўхіліўся ад палітыкі, даўшы свабоду дзеяньняў намэнклятурнаму ўраду (сфармаванаму, дарэчы, яшчэ ЦК КПБ–КПСС). Урад ужо зрабіў шэраг абарончых захадаў, разьлічаных на магчымае паражэньне намэнклятуры на рэфэрэндуме і на выбарах. Перш за ўсё, Урад узяў у свае рукі сродкі масавай інфармацыі агульнанацыянальнага значэньня, амаль увесь пэрыядычны друк. Урад зрабіў сябе заснавальнікам гэтых выданьняў і ўтрымлівае іх за „свой", ян ён мяркуе, кошт, забіраючы сродкі зь дзяржаўнага бюджэту, дэфіцыт якога даўно перайшоў за крытычную рысу. Усё гэта выглядае даволі дзіўна і для чалавека, выхаванага на традыцыях дэмакратыі, магчыма, здаецца тэатрам абсурду.

Урад рэарганізаваў сваю структуру па узору ЦК КПСС, стварыў аддзелы, што, фактычна, назіраюць і кіруюць мініс-




*52. Шэсьце БНФ на 25 Сакавіка. 1992 г. Менск.*

тэрствамі, сродкамі інфармацыі, войскам і т. п. У прыватнасьці, пакрываецца небывалая карупцыя ў былой савецкай арміі, што перайшла пад юрысдыкцыю Беларусі. З войска, якое фармальна лічыцца беларускім, мэтадычна і мэтанакіравана звальняюць афіцэраў беларускай нацыянальнасьці, санкцыянуецца перасьледваньне афіцэраў-беларусаў за патрыятызм, за любоў да Бацькаўшчыны, за размову па-беларуску. Савецкая ваеннапартыйная машына сьвядома забараняла афіцэрам-беларусам служыць на Беларусі. Прадстаўнікоў іншых нацыянальнасьцяў (асабліва рускіх) наадварот прысылалі на Беларусь. У выніку амаль 40 тысячаў афіцэраў-беларусаў апынуліся ў Расейскай Фэдэрацыі і іншых дзяржавах, і толькі 5 тысячаў на Белару сі (г. зн. менш 18 працэнтаў). Іх якраз і хочуць цяпер выгнаць у запас. Афіцэры, што засталіся за мяжой Беларусі, ніяк ня могуць вярнуцца на Бацькаўшчыну ў беларускае войска. Ім ствараюць усялякія бюракратычныя перашкоды менавіта тут, у Беларусі. Урад і ваенная намэнклятура хочуць стварыць з войска чужую нашым нацыянальным інтарэсам аднародную структуру, па-першае, каб зручней распрадаць, выкарыстаць і прыватызаваць ваенную маёмасьць, па-другое, каб у выпадку паражэньня на выбарах выкарыстаць неканстытуцыйныя сродкі для захаваньня сваёй улады. Гэта, вядома, утапічныя „пражэкты", уласьцівыя ўзроўню думаньня былых савецкіх ваенных чыноўнікаў, але, тым не менш, такія „пражэкты" выказваюцца былымі „палітрукамі".




***53. Менск 27 ліпеня 1992 г.***

Пасьля прыняцця рашэньня аб правядзеньні рэфэрэндуму намэнклятурны ўрад Беларусі зрабіў рэзкі паварот у бок Расеі, адкрыта адкідаючы нацыянальныя інтарэсы беларускай дзяржавы. 20 ліпеня 1992 г. у Маскве былі падпісаны Пратакол спатканьня ўрадавых дэлегацыяў Расеі і Беларусі, Дагавор аб каардынацыі дзейнасьці ў ваеннай галіне, Пагадненьне аб стратэгічных сілах, часова разьмешчаных на тэрыторыі Рэспублікі Беларусі і іншыя дакументы, згодна зь якімі Беларусь зьбіраецца мець „адзіную грашовую сістэму" з Расеяй на аснове расейскага рубля. Відавочна, няма патрэбы тлумачыць, што такое рашэньне ў існуючым становішчы было б раўназначна страце суверэнітэту, нацыянальнай капітуляцыяй. Тады ўсялякія эканамічныя рэформы на Беларусі губляюць сэнс. Беларускі народ зь іх нічога не скарыстае.

Асабліва абсурдныя і для многіх нечаканыя пагадненьні ў ваеннай галіне. Яны супярэчаць прынцыпам незалежнай дзяржавы. Згодна з гэтымі не нармальнымі пагадненьнямі, усе стратэгічныя войскі на тэрыторыі Беларусі пераходзяць пад юрысдыкцыю Расеі, але пры гэтым Беларусь не атрымлівае ні капейкі за арэнду тэрыторыі, палігонаў, аэрадромаў і г. д. Увесь рух вайсковага расейскага транспарту будзе адбывацца на бяспошліннай аснове пры поўнай адсутнасьці кантролю за перамяшчэньнем расейскіх войскаў з боку беларускай дзяржавы; сацыяльна-бытавое забесьпячэньне расейскіх ваеннаслужачых бярэ на сябе беларускі бок. Фінансаваньне свайго вой-

ска на Беларусі будзе, вядома, ажыцьцяўляць Расея і, вядома ж, пустымі інфляцыйнымі рублямі, а напаўняць гэтыя пустыя рублі таварам (па сутнасьці, паперу) вымушана Рэспубліка Беларусь. Расея будзе ажыцьцяўляць поўны кантроль над абароннай вытворчасьцю Беларусі.

Самае дзівоснае ў гэтых арыгінальных пагадненьнях тое, што грамадзяне Беларусі будуць рэкрутаваныя служыць у армію чужой дзяржавы і прымаць прысягу не Беларусі. (Згодна з Законам аб грамадзянстве, такія ваеннаслужачыя аўтаматычна пазбаўляюць сябе грамадзянства Беларусі). Расейскае войска застаецца на тэрыторыі беларускай дзяржавы не два гады, як адзначалася ў ранейшых дакумантах СНД, а сем гадоў, што абсалютна нічым не абгрунтавана, акрамя як экспансіяніснцкімі намерамі расейскага кіраўніцтва. У гэтых пагадненьнях лёгка прададзеныя нацыянальныя інтарэсы Беларусі, парушаныя дагаворы СНД. І што даволі сімптаматычна – гэтыя пагадненьні Ўрад падпісаў без папярэдніх палітычных кансультацыяў зь Вярхоўным Саветам (тут, як і паўсюдна, – грубае парушэньне закону).

Паўстае пытаньне, чаму такія пагадненьні сталі магчымымі. Галоўная прычына ізноў жа – рэфэрэндум. У выпадку паражэньня на рэфэрэндуме і на выбарах беларуская посткамуністычная намэнклятура спадзяецца на ўмяшаньне і падтрымку чужой дзяржавы.

Магу з поўнай упэўненасьцю сказаць, што тыя, хто захочуць ужыць радыкальныя сродкі супраць Беларусі, пацерпяць поўны крах, які можа стаць канцом Расейскай імпэрыі. Мы – народ іншай культуры, які ўмее захоўваць мір і цаніць чалавечую асобу.

Палажэньні маскоўскіх дакумантаў ад 20 ліпеня выгадныя толькі Расеі. Нам вядома, што галоўны геапалітычны інтэрас на захадзе СНД для расейскай імпэрыялістычнай палітыкі ўяўляе Беларусь. Расея глядзіць на нашу тэрыторыю як на калідор і дзьверы ў Эўропу, як на стратэгічны пляцдарм для захаваньня пазыцыяў у сьвеце, для узьдзеяньня на Польшчу, на Украіну, на Захад. Расея праводзіла і праводзіць імпэрскую палітыку, што вынікае зь яе імпэрскай структуры. Ня трэба ілюзіяў – ідэалягічныя і палітычныя шаблоны ў дзеяньнях гэтай напоўазіяцкай, хворай звышдзяржавы, усталяванай на багатых землях, ствараліся стагоддзямі і не зьмяніліся па сёньняшні дзень. Акрамя дэзінтэграцыі, у гэтай штучнай краіны няма дэмакратычнай пэрспэктывы. ***Яна абсалютна не зацікаўленая ў існаваньні незалежнай беларускай дзяржавы і ніколі ня будзе спрыяць нашаму сувэрэнітэту.***

Тым часам палітыка Расеі і іншых сумежных дзяржаваў паказвае, што СНД як часовае, штучнае, пераходнае ўтварэньне ўжо вычарпала свае палітычныя магчымасьці і для Беларусі цяпер няма ніякай неабходнасьці зьвязываць сябе дагаворам з так званай Садружнасьцю Незалежных Дзяржаваў. Як паказала практыка, пэрспэктыву маюць двухбаковыя дзяржаўныя пагадненьні. Мы не адмаўляем, аднак, магчымасьці стварэньня больш натуральнай садружнасьці новых дзяржаваў, што разьмешчаныя паміж Балтыйскім і Чорным морамі і блізкія па сваёй гісторыі, культуры, узроўню разьвіцьця эканомікі.

Цяпер некалькі слоў пра расстаноўку палітычных сілаў на Беларусі і палітыку Народнага Фронта. На Беларусі існуе сем асноўных палітычных партыяў і рухаў. Гэта, перш за ўсё, Беларускі Народны Фронт, потым Аб’яднаная дэмакратычная партыя, Сацыял-дэмакратычная грамада, Хрысьціянска-дэмакратычная злучнасьць, Сялянская партыя, Нацыянал-дэмакратычная партыя і Партыя камуністаў Беларусі. У апошні час намэнклятурай (ці пры яе садзеяньні) створана некалькі штучных партыяў, без ясных партыйных праграмаў у разьліку на магчымыя выбары, а таксама некалькі квазі-палітычных арганізацыяў-фантомаў без істотнай сацыяльнай апоры ў грамадзтве.

Найбольш уплывовай палітычнай сілай зьяўляецца Народны Фронт. Ён створаны 19 кастрычніка 1988 года. БНФ паставіў задачы змаганьня за дэмакратыю і нацыянальна-дэмакратычную прававую дзяржаву, за вольнага чалавека і незалежнасьць Беларусі, за адраджэньне нацыянальнай культуры, за рыначную эканоміку і супраць камунізму, за зьвяржэньне і ліквідацыю КПСС.

Беларускі Народны Фронт – гэта ня партыя, а грамадзка-палітычны рух. Гэта канфэдэрацыя людзей і арганізацыяў, аб’яднаных адзінай мэтай і агульнымі задачамі, але не абавязкова адзіным сьветапоглядам, ці партыйнымі інтарэсамі. Народны Фронт мае ў Вярхоўным Савеце сваю парляманцкую арганізацыю – Апазыцыю Народнага Фронту (агулам 37 дэпутатаў, на сёньняшні дзень рэальна – 29-30). Гэта ў межах 8-10 адсоткаў ад усяго Вярхоўнага Савета. Аднак, улічваючы, што Вярхоўны Савет – гэта па сутнасьці заканадаўчы, а па форме грамадзкі орган, які працуе непастаянна, Апазыцыя БНФ, ня гледзячы на нешматлікасьць, у шэрагу выпадкаў, правільна пабудаваўшы тактыку, змагла дасягаць посьпеху і нават перамагаць.

Беларускі Народны Фронт выкарыстоўвае толькі законныя дэмакратычныя мэтады палітычнай барацьбы. У Статуце БНФ запісана не адказваць насільлем на насільле ўладаў. Гэтае палажэньне ні разу не было парушанае, ня гледзячы на арганізаваныя камуністычнымі ўладамі зьбіваньні дэманстрантаў спэцыяльнымі атрадамі міліцыі і ўнутраных войскаў, нападзеньні на актывістаў, несправядлівыя суды і перасьледваньні. Да сярэдзіны 1991 года камуністычныя ўлады не прызнавалі БНФ і наш рух, маючы зарэгістраваную Апазацыю ў парляманце, дзейнічаў на паўлегальных падставах.

Па сваіх палітычных дзеяньнях і імкненьнях, па поглядах на рэформы эканомікі, па падыходах да сацыяльных пытаньняў, да развіцьця культуры, рэлігіі, канфэсійнай дзейнасьці, па ўяўленьнях аб прававай дзяржаве, аб нацыі, аб грамадстве і чалавеку, ва ўсіх галоўных аспэктах сваёй палітычнай дзейнасьці БНФ найбольш набліжаецца да палітычнай практыкі і прынцыпаў эўрапейскай хрысьціянскай дэмакратыі, а таксама да народна-кансэрватыўных партыяў. БНФ – гэта шырокі цэнтрысцкі рух, які не карыстаецца крайнімі радыкальнымі мэтадамі ў палітыцы і імкнецца выяўляць увесь дэмакратычны спэктар праблемаў Беларусі. Спэцыфіка палітычнага становішча на Беларусі ў тым, што тут няма праварадыкальных палітычных сілаў. Таму дзяржаўная камуністычная прапаганда, змагаючыся супраць БНФ, заўсёды старалася навязаць грамадзтву думку пра Народны Фронт як пра крайнюю экстрэмісцкую сілу, што імкнецца перастраляць і перавешаць усіх „чэсных” камуністаў, спараджала часам пры гэтым камічныя сітуацыі з прычыны яўнай неадпаведнасьці прапаганды і рэальнасьці.

Сярэдні ўзрост у БНФ 35–40 гадоў. У руху ўдзельнічаюць дзясяткі тысячаў людзей розных сацыяльных групаў. Больш за ўсё інтэлігенцыі і рабочых. Вельмі малы працэнт сялян-калгасьнікаў. Сацыялагічныя дасьледваньні незалежных службаў, праведзеныя ў чэрвені 1992 года, высьветлілі, што 34 адсоткі насельніцтва Беларусі бачаць у БНФ палітычную сілу, здольную вывесьці Рэспубліку з крызісу. Каля 4 адсоткаў лічаць, што гэта могуць зрабіць камуністы, 4,3 адсоткі спадзяюцца на

прафсаюзы, 4,2 адсоткі – на саюз аграрнікаў, 4 адсоткі – на ўсе астатнія палітычныя партыі, 54,2 адсоткі – ня ведаюць,што адказаць на гэтае пытаньне.

Такое становішча тыповае для Беларусі вось ужо некалькі гадоў. У апошні час у сувязі з падрыхтоўкай да рэфэрэндуму і актыўнай намэнклятурнай „прыхватызацыяй" дзяржаўнай маёмасьці пазначылася агульная тэндэнцыя да больш рашучай падтрымкі Народнага Фронту.

Істотна тое, што на Беларусі апазыцыю намэнклятурнаму кіраўніцтву складаюць не рэакцыйныя, не антыдэмакратычныя колы, як ў Расеі, а нацыянальна-дэмакратычныя сілы. Таму мы з аптымізмам глядзім на нашу дзяржаўную і нацыянальную пэрспэктыву*. Будучыня БНФ і наша дэмакратычная свабода яшчэ наперадзе.

***Зянон ПАЗЬНЯК***

*Надрукавана: (Выбар,– 1992, 23 верасьня)*




***54. Устаноўчы Зьезд БНФ. Вільня 1989 г. Перапынак.***

---

* Аптымістычныя спадзяваньні не спраўдзіліся. 29 – га кастрычніка 1992 года намэнклятура (Ўрад Кебіча), заручыўшыся падтрымкай кіраўніцтва Вярхоўнага Савета (С. Шушкевіча), сілавых структураў ў Беларусі і Расеі, пайшла на пралом і, груба паламаўшы закон, галасаваньнем забараніла рэфэрэндум. Службовую, нізкую і надзвычай нечыстаплотную ролю ў забароне рэфэрэндума адыграў дэпутат Дзімітры Булахаў (пазьней набліжаны да Лукашэнкі і член ягонай групы). Намэнклятура даручыла яму брудную працу дакладчыка па „завале" рэфэрэндума, скарыстаўшы той факт, што Булахаў быў пад крымінальным сьледзтвам за забойства, учыненае ім на дарозе і павінен быў сесьці за краты. Выкананьне бруднай працы пазбавіла яго ад турмы.
Булахаў ўсяляк ганьбаваў рэфэрэндум і прыдумваў неіснуючыя прычыны, каб яго не дапусьціць, стараўся скампрамэтаваць працу БНФ і рашэньне ЦВК па выбарах і рэфэрэндумах, імкнуўся даць фармальны павад намэнклятуры, каб прагаласаваць супраць.
Істотную ролю ў гэтых падзеях адаграла, аднак, татальная (і, як выявілася, непрадказальная) здрада Народнаму Фронту літаральна ўсіх дэмакратычных і так званых „незалежных" дэпутатаў у Вярхоўным Савеце. Ня будучы ў бальшыні палітыкамі (працавалі па сваіх спэцыяльнасьцях), ніхто зь іх не захацеў раставацца з мандатам дэпутата. Апазыцыя Народнага Фронту ў момант галасаваньня засталася адна са сваімі 30-цю галасамі. Немалаважнай была і пазыцыя старшыні Вярхоўнага Савета С. Шушкевіча, які канчаткова перайшоў на бок намэнклятуры. Узьняць хвалю масавых шматлюдных грамадзкіх пратэстаў не ўдалося з прычыны моцных халадоў і апатыі грамадзтва. 5-6 тысячаў пратэстантаў (якія выйшлі на плошчу ў Менску) нічога не зьмянялі. Лёс рэфэрэндуму быў загублены. Беларусь страціла шанц пераменаў да дэмакратыі і вольнага нацыянальнага разьвіцьця, шанц збавіцца ад прадажнай прамаскоўскай палітыкі савецкай намэнклятуры. Гэтая страта стала паваротным этапам у падзеях на Беларусі. Пачалася антыбеларуская рэакцыя, якая махрова ўзмацнела ў 1993 годзе і ўрэшце прывяла да ўсталяваньня антыбеларускага рэжыму Лукашэнкі, дыктатуры і ўнутраннай акупацыі ўлады ў Беларусі. *(З.П.)*

*Мне даўно хацелася пабываць на магіле Максіма Багдановіча ў Ялце. Не скажу, каб мяне туды цягнула, але добра б было пахадзіць па тых мясьцінах, дзе крочыў ён, паўзіраца на тыя горы і прадметы, што, як адлюстраваньне, засталіся ў юнацкай вечнай яго душы. Я ж веру, што і на тых прадметах і берагах засталіся сьляды яго позірку і адбіткі духу. Крым для мяне адухоўлены Максімам. Памятаеце: „там мы зьліём зь ёй пагляды свае...” Гэта зь Мілавіцай. І калі б я ні глядзеў на гэтую зорку – памятаю Багдановіча. А тут – цэлая краіна, дзе можна хадзіць пехатой...*

**Зянон Пазьняк**

# СЬВЕТЛЫ, ДАРАГІ МАКСІМ...*

Тралейбус з Сімферопаля пад’ехаў да ўзьбярэжжа, калі ўжо цямнела, на вяршынях гор грувасьціліся цёмныя хмары, крапаў дождж. Само сабой думалася пра Багдановіча. Часам успыхвалі сполахі і неахвотна грымеў гром. Адна з тых прыродных сітуацыяў, якія я назваў для сябе „жывыя хоку”, ці яшчэ зручней – „фатаграфіі”. Вядома ж, я запісаў гэтую „фатаграфію”:

*Бліснула маланка*
*І асьвяціла Тваё абліччa –*
*Вобраз у маёй галаве.*

Пайшоў спорны дождж, зашапацеў па лісьцях сьлівы, па ігліцы сасны, па жоўтых кветках духмянага дроку. Нешта восеньскае нагадаў мне гэты вечаровы стан у цёмным маўклівым тралейбусе. Пад шоргат шын і дажджу – душэўны спакой. Як даўно такое было. Рэдкія пасажыры задуменна маўчалі, гледзячы ў вакно, пэўна, як і я, паглыбленыя ў свае ўяўленьні. Усплыла даўніна, гадоў дзесяць таму, восень у родным доме. Дождж сячэ ў сьцены, як і сёньня, тут, на дарозе. Чытаю Багдановіча адзін у цішыні да болю ў вачах – прыцемак напаўзае. Гольле груш пагойдваецца за вакном. Тады я занатаваў той стан для сябе, стан Максіма – гэта калі сьвет бачыш быццам ня сам, а вачыма Багдановіча. Памятаю добра:

*Сьляпы дождж*
*ў вакно бесканечна ліе.*
*Вечарэе, зьнікаюць абрысы,*
*Зьліваюцца кроплі на шкле.*
*Лісьце жоўтай фасолі*
*на тычках дрыжыць.*
*Стыне ў шэрай імгле.*
*Крокі глухнуць у шэпце дажджу.*
*Нехта міма прайшоў ля вакна*
*І растаў, быццам цень на вадзе.*
*Чую, каўкі на вежы касьцельнай*
*лянiва клiнчаць.*
*Адрываю пагляд ад радкоў.*
*Вые вецер жалобна ў люхтах*
*І гучыць, як малітва, у душы*
*верш аб тым,*
*Як паэт паміраў*
*у краіне*
*ля бухты...*

Горад набліжаўся з падножжа гор, зь нізіны яркімі агнямі ў чарнаце. Заўтра ўбачу гэтую „бухту”, але найперш схаджу на магілу паэта.

* Артыкул быў адзначаны прэміяй лепшай публікацыі ЛІМа за 1992 год. *(рэд.)*

## МОГІЛКІ

Беларуса можна спаткаць усюды. Так здарылася і тут. На могілкі мы пайшлі чатырох: спадарыня Валянціна Аксак, Уладзя Арлоў, іхні сынок дзевяці гадоў і я. Мне здалося, што мы ці не паўдня блукалі з букетамі кветак каля могілак, шукаючы тыя могілкі. Ніхто толкам нічога ня ведаў. Усе казалі: „где-то здесь”, „где-то там”. Уладзя пачаў быў ужо касавурыцца на гэтых „непомнящих” і „незнающих”, асабліва калі мы даведаліся, што яны мясцовыя жыхары і „в Ялте с детства”.

Зрэшты, нічога дзіўнага тут няма. Традыцыі культуры жывуць і перадаюцца там, дзе існуе пастаяннае насельніцтва. Прышлае насельніцтва ня мае каранёў ні ў гісторыі горада, ні ў мясцовасьці. Утвараецца культурны вакуум, дзе плодзяцца хімеры і спажывецтва, утвараецца разарваны соцыюм, атамізаванае грамадзтва. Асабліва калі ўлічыць, што ў Ялту прыехалі ў асноўным савецкія расейцы, якія прынесьлі з сабой своеасаблівую мігранцкую псіхалёгію „саўка”. Такі тып людзей настроены на спажываньне, а не на ўкараненьне ў мясцовы грунт. Як правіла, ён не цікавіцца, не прымае, адвяргае новую зямлю гэтак жа ўпарта, як лёгка пакінуў сваю. Заканамерна, што пражыўшы жыцьцё, ён ня ведае, што робіцца на суседняй вуліцы, ня кажучы ўжо пра мову ці гісторыю мясцовых людзей. Зрэшты, камуністы аблегчылі сабе „неудобства”, насільна выселіўшы татараў, што складалі некалі больш за 70 адсоткаў насельніцтва Крыма. Пазьней, ходзячы па старым татарскім Гурзуфе, я быў уражаны мноствам п’яных і аднатыпнасьцю фізіяноміяў. Тут жа, на крывой вулачцы, і ўбачана было „жывое хоку”:

*У татарскай саклі*
*Сядзіць Іван,*
*п’яны ў бэлю.*
*Ніводнага татарына.*

Іншая карціна. Пакінуты горад Чуфут-Кале. Мярзота запусьценьня, зарослыя вуліцы, сыплюцца сьцены. Маўзалей дачкі хана Тахтамыша Джаныке-Ханум. 1437 г. Сьпісаны, спаскуджаны. „Вася” і „Вова”. Зарослы лебядой, закінуты сьмецьцем. І натоўп турыстаў. Фатаграфуюцца. На фатаграфіі маўзалей:

*Разрабаваны расейцамі.*
*За плату*
*аглядаюць нашчадкі*
*Брыдоту продкаў.*

Зрэшты, не такія простыя гэтыя ўражаньні для мяне, беларуса. Згадваецца далёкая, сівая наша Літва – Вялікае Княства. У гэтым я пераканаўся ў Бахчысараі, бясформенным, запушчаным, занэнджаным мястэчку – некалі татарскай сталіцы. Ідзе гандаль. Абыякавы гандаль чужой гісторыяй. Распрадажа. „Пьют вино из черепа врага”. Але тут... Тут злавесна ільсьніц-

ца зброя і сантымэнтальны мармур ханскі плача вадой. Я добра, да глыбіні істоты запомніў гэта:

*Толькі жорсткі,*
*чульлівы Ўсход*
*Мог прыдумаць*
*сьлязы фантан.*
*Задуменна гляджу*
*на крывы ятаган.*
*Ручка зашмальцавана.*

Нарэшце мы знайшлі могілкі без дапамогі „мясцовых" жыхароў. Могілкі даволі вялікія, разьмешчаныя на схіле гары, зарослыя дрэвамі і кустамі. З хваляваньнем мы спускаемся па шырокіх бэтонных прыступках да магілы Багдановіча. Мы ўбачылі яе здалёку за велічэзнай чорнай глыбай граніту. У белай абгародцы сьціплы сьветлы цэмэнтавы помнік без крыжа з пяціканцовай зоркай (О, Матка Боска!), з сінімі валошкамі і словамі зь верша. Прызнаюся, стараўся схаваць ад сяброў душэўнае трымценьне, што міжволі знутры пачало ахопліваць маю істоту. Шум у верхавінах дрэў і магільнае маўчаньне над Максімам. Пуста, бязьлюдна. І раптам..."мяў, мяў", – данеслася зьнізу. Прыгожы чорны каток зь белай пыскай ласкава цёрся аб нагу, мурлыкаў без перастанку і даверліва пазіраў у вочы. „Адкуль ты ўзяўся, каток? – зьдзіўлена ўсклікнуў я, – з-пад зямлі выйшаў, ці што?"

Мы ўсе былі ўзрушаныя. „Каці-каці-каці", – паклікаў Уладзя, – і каток пабег да яго лашчыцца. Зьдзіўленьню Ўладзі не было мяжы. „Гэта ж трэба, – рускі кот, а па-беларуску разумее – „каці-каці", – паўтарыў ён, – звычайна рускія каты на „каці-каці" нават не рэагуюць, сам пераканаўся". Пагаварыўшы гэтак яшчэ трохі пра кацячую лінгвістыку, я спытаў: „А ты ўпэўнены, што гэта кот?"

Уладзя змоўк. „А гэта, во, якраз і ёсьць Максім, – сказаў я, – душа яго зьявілася ў вобразе катка." „Ты лічыш, што гэта фантом?" – асьцярожна пацікавіўся Ўладзя. „Гэта Максім", – маркотна ўздыхнуў я, а Ўладзя неяк дзіўна-падазрона, мне здалося нават з засьцярогай, паглядзеў на мяне. Але я быў сур'ёзны, як на сэсіі Вярхоўнага Савета. Даруй мне, Максім, ты ж таксама любіў пажартаваць.

Як бы там ні было, але мілы рухавы каток нас вельмі ўсьцешыў. Нам сапраўды хацелася б убачыць тут сувязь з Максімам. А хіба ж не? Дык будзем жа цаніць непрыкметныя, маленькія радасьці. І я занатаваў сабе гэтую „фатаграфію":

*Пад дрэвамі,*
*дзе цень халодных надмагільляў,*
*Каток ласкавы падышоў*
*І замурлыкаў ля нагі.*

З дарожкі магілу Багдановіча часткова засланяе чорны гранітны помнік-глыба. Але становішча можна хораша паправіць. Для гэтага на магіле Багдановіча трэба паставіць высокі, да 4,5 – 5 *м* вышыні, крыж зь белага каменю. На могілках тут няма выцягнутых гатычных канструкцыяў. Вакол цёмныя помнікі-глыбы, тумбы, паралелепіпеды, цёмная зямля і цёмная зеляніна. Белы высокі крыж стане галоўнай сьветлай плямай і кампазыцыйным цэнтрам усёй гэтай часткі могілак. Ніякая іншая форма і цёмны „маштаб" ня зьнішчыць такога кампазыцыйнага акцэнту, хоць бы тут панаставілялі помнікаў-аўтамабіляў ці паравозаў.

Я падзяліўся развагамі ў Уладзем. „Ты лічыш, што Багдановіч павінен заставацца тут?" – спытаў ён мяне. Справа ў тым, што, як кажуць чыноўнікі, „ёсьць пытаньне". Адны лічаць, што магілы Багдановіча ў Ялце рушыць нельга; іншыя – што рэшткі паэта трэба перавезьці і пахаваць на Беларусі, бо і сам паэт пра гэта пісаў („там хоць у гліне, хоць у брудзе, там, пад зямлёй, найдуць мае слабыя грудзі сабе спакой"). Прыхільнікі такога рашэньня лічаць, што кепска, калі магіла вялікага паэта знаходзіцца далёка за мяжой Беларусі, куды ў хуткім часе невядома нават ці заўсёды можна будзе спэцыяльна (а мо і ўвогуле) прыехаць. Пахаваньне паэта на чужыне – гэта выпадковасьць яго лёсу, мяркуюць яны. Магіла ў Крыме – гэта забыцьцё.

Сур'ёзныя аргуманты. Але Ўладзя Арлоў перакананы, што магілу Багдановіча кранаць нельга. Гэта прывядзе да разбурэньня шчымлівай легенды трагічнага лёсу Максіма Багдановіча, выкліча псіхалягічнае пераасэнсаваньне яго паэтычнай асобы, яго твораў, творчасьці. Наша культура больш страціць, чым прыдбае ад такой акцыі. Нарэшце, гэта і ня надта пахрысьціянску – варушыць яго косьці, якія ўжо зрасьліся з той зямлёй, дзе знайшоў ён апошні прытулак. Хораша ж пахавалі людзі Максіма, па-Божаму.

Тут больш тонкае разважаньне, якое абымае глыбінныя, псіхалягічныя, маральныя пласты культуры. Усё будзе залежыць ад таго, ці выздаравее, ці ўстане Беларусь. Магіла Багдановіча ў Ялце становіцца Палесьцінай адроджаных душ, Мэккай, куды імкнуцца нашы сэрцы, каб убачыць і адчуць. Што станецца, калі зробяць зь яе „разрытую магілу", калі зробяць яе пустой?.. Іншай жа магілы ў Багдановіча няма. Як няма больш дамоў, дзе ён жыў пры жыцьці.

Добра, калі б у Ялце былі людзі (каб стварылася якое беларускае таварыства), якія б назіралі і даглядалі магілу. Так было б спакайней. Беларусы ў Ялце ёсьць. Праўда, дзе ты іх цяпер знойдзеш, як арганізуеш? Гэта ж не латышы, не эстонцы, што шануюць сваю мову і цэняць свабоду вышэй за кілбасу.

## ЯЛТА

Цікавыя назіраньні на галоўных вуліцах Ялты, асабліва ўздоўж мора. Гучыць у асноўным і паўсюдна мова расейская, часам украінская, зрэдку польская (гэтая чуваць па ўсім сьвеце, дзе ні быў – усюды чуў, самая мабільная нацыя), нават летувіская. Беларускай не чуваць нідзе.

Людзі з засяроджанымі тварамі паўсюдна швэндаюцца па крамах і магазінах, ніхто не ўсьміхаецца, і невядома, чаго ім трэба. Такое ўражаньне, што трэба ўсяго. Абрыўкі фраз – сапраўдная экзотыка. Тут і адзнака пэўнай культуры, і, як казаў адзін мой знаёмы этнограф, – „хванклёр", „Надь, а Надь – зайдём, пожрём", „Да ну – я уже пожрамши", – дзьве дамы гадоў пад 50, адна ў капялюшыку.

„Танька, ты хоть на харю-то свою посмотри". „А чё, вроде смотрела". – Відаць, муж з жонкай.

Чарга ля газэтнага кіёска, чалавек восем. Падыходзіць кабета ў белым халаце. Прадаўшчыца з кіёска: „Ну, как дела, Петровна?" „Ой, мілая, заму...сь". Я, „замежны" чалавек, аж спыніўся, думаю, што тут будзе? Анічога. Усё нармальна.

Скрозь вакханалія ўсялякай ларковай шпаны. Прадаюць то амэрыканскую жуйку (з канцэрагенам), то турэцкі ласьён, то ўсялякую каляровую непатрэбшчыну. І маюць жа цярпеньне

сядзець. Так жа і мышцы могуць атрафірвацца, і гемарой падскочыць. Сям-там сядзяць шарлатаны з кампутарамі і інтэлектуальнай маскай на твары. Вылічваюць год і дзень, калі чалавек памрэ (за плату, вядома). Да іх чарга. Бізнэс на дурнях, відаць, самы выгадны. Словам, „гандаль на ўзьбярэжжы”, „жывое хоку”:

*Цэлы дзень прадае за латком*
*жавальную гумку*
*Здаравенны балбес.*
*Ніхто не купляе.*

На цеплаходах вісяць чырвоныя сьцягі. Усюды старыя шыльды з гэрбам СССР, нават дошкі з фатаграфіямі „победителей соцсоревнования”. У цэнтры помнік Леніну. Бронзы не шкадавалі. Узвышаецца, як пяецца ў той матроскай песьні, „выше пальмы”. Праўда, з гэтай нагоды яго аблюбавалі галубы. Цяпер іх, пэўна, перасталі ганяць, і атрымліваецца канфуз, які я, як чалавек цікаўны і цярпімы, занатаваў у такой „фатаграфіі”:

*Галуб на бронзавай лысіне*
*Збэсьціў позірк правадыра.*
*Ведама, жывёла.*

Тут жа пад „правадыром” жабруюць пэнсіянеры-камуністы. Крым – гэта амаль Савецкі Саюз, аплот камунізму. Вось бабулька з буклямі – гадоў дзевяноста, а можа, сто – іграе на баяне і сьпявае (скрыпіць) „Широка страна моя родная”. Пад нагамі талерачка на міласьціну. Вось іншы „товарищ” зь нейкай савецкай узнагародай на кашулі (ці то ордэн, ці мэдаль) „наяривает на двухрядке” то „раскинулось море широко”, то гімн Савецкага Саюзу. Крыху далей нейкі хлышч з арыстакратычна-гідлівым абліччам сьпявае пад гітару па-ангельску. На асфальце замест талерачкі – футляр з-пад гітары (маўляў, не жабрую – зарабляю). „По- русски пой, сука!” – зароў нейкі п’яніца, вываліўшыся з кавярні. „Арыстакрат” засьпяваў па-руску. А міма, „пожрамши”, ганарова фланіруе публіка „Танькаў” і „Надзь” у замежным тандэце з 86-й вуліцы ў Брукліне (самыя танныя магазіны для неграў, лацінасаў і гарадзкой беднаты) з надпісамі на чорных майках „BOSS” і кідае рублі ды купоны хто гімну СССР, а хто ангельскай білібярдзе. Ну якраз, як у Ільфа і Пятрова. Сумнае гэта відовішча.

А некалі ж якраз тут, пэўна, у самоце і цішыні хадзіў Максім Багдановіч. І я ўяўляю:

*Мора за кіпарысамі,*
*белыя скалы.*
*Тут я ўпершыню.*
*Малочная цеплыня.*

Белы дом, дзе ён жыў, стаяў у самым цэнтры цяперашняга зграю на беразе мора і сапраўды „ля сіняй бухты”. Дом даўно разбурылі, і на яго месцы непадалёк ад набярэжнай пабудавалі гмахі санаторыя „Ялта”. Гэта на рагу вуліцы Севастопальскай ля Прыморскага парку. Там, дзе стаяў дом, цяпер будынак санаторнага клюба-сталоўкі.

У Ялце мала засталося адметных старых вуліц з суцэльнай старой забудовай. Бадай, найбольш цікавая ў гэтым сэнсе вуліца Марская. Яна пачынаецца ад царквы Аляксандра Неўскага і заканчваецца на набярэжнай ля берага мора. У царкве А. Неўскага адпявалі Багдановіча. Знойдзены нават запіс у царкоўнай кнізе аб тым, што сьвятар Віктар Багданаў з псаломшчыкам Розавым 15 траўня 1917 года (Багдановіч памёр 12 траўня) ажыцьцявілі абрад памінаньня і пахавалі Максіма на ялцінскім „городском новом кладбище”, па праваслаўным хрысьціянскім звычаі.

Мне здаецца, што менавіта па вуліцы Марской праехаў чорны катафалк і пралёг апошні шлях паэта. Тут захаваліся дамы канца XIX-пач. XX ст., Багдановіч, пэўна ж, хадзіў па гэтай вуліцы. Старыя будынкі бачылі яго. Яны таксама гавораць.

Але вэрхал на набярэжжы працягваецца да позьняга вечара. І ўсё ж, каб што-небудзь зразумець, я вырашыў прыйсьці сюды ноччу, калі ціха, калі размаўляюць прадметы і рэчы, і марская хваля. Мне хацелася пачуць голас Багдановіча.




(Фота З. Пазьняка).

***55. Помнік на магіле Максіма Багдановіча ў Ялце. 1992 г.***



(Фота З. Пазьняка).

***56. Плакучая бяроза.***

## МЕСЯЧНАЯ НОЧ

Чакаць цішыні прыйшлося доўга. Не сьціхала вулічная гамана. Узышоў месяц. Дзівосная пара. Месяц над морам, над цёплым змрокам, мігціцца вада, і здаецца, што грае скрыпка... – сьвет, як у шчымлівых навэлах Танідзакі. Памяць нагадала даўнюю карціну:

*Выйшаў да мора*
*ў летнюю ноч.*
*І не магу вярнуцца.*
*Месяц сьвеціць.*

Чаму месячнае сьвятло спараджае маркоту і шчымлівае захапленьне? Зрэшты, каму што. За вакном яшчэ грымела лаянка (вядома ж, не на месяц). Алоўкам напісаў на газэце:

*Серабрыстая ціхая ноч.*
*Месячны бляск*
*калыхаецца*
*ў шэпаце хваль.*
*Толькі гэтым п'яніцам*
*пад ліхтаром*
*Піць сваю „водку"*
*Ды галёкаць пра Маскву.*

Месяц набраў сілы, падняўся і засьвяціў на падлогу, адбіваючы раму вакна. Пацішэла. Поўніцца ноч. Цікаюць ходзікі. Млосная цеплыня. Чуеш, Максім...

*Месяц на чужыне*
*Сьвеціць мне ў вакно.*
*Як далёка*
*да маёй Бацькаўшчыны.*

Здаецца, граюць паланэз. Я намагаўся ўспомніць хоку пра паланэз, каб прачытаць табе, і ня мог. Я ўсё забыўся. Там было нешта пра травень. Здаецца, і ты быў тут у траўні. Гэта ж твой дом, праўда? Штосьці баліць у грудзях. Пэўна, сэрца. Ты ж памятаеш гэты час, калі сочыцца месячка з засені хмар...

*Ужо цямнее на двары –*
*Памірае дзень вясеньні.*
*Зноў ляжу на ложку белым.*
*Той жа дом і тыя ж сьцены,*


(Фота З. Пазьняка).

*Тое ж неба за вакном.*
*Хутка ўзыйдзе месяц ясны,*
*Вось зьявіўся, як у казцы.*
*Будзь здароў, мой срэбны дружа!*
*Будзь здароў, мой сябра верны!*
*Будзь здароў, мой адзінокі!*
*Пасьвяці на ложак мне.*
*Мо' ня раз яшчэ ўбачу*
*Бледны твар твой у вакне.*

О, пэўна. Ты яшчэ ня раз яго ўбачыш. „Ты ня згасьнеш, ясная зараначка...” Дзіўна. Калі ты памёр, яшчэ не нарадзілася нават мая маці, а цяпер я табе бацька. Якое глупства. Што могуць значыць чые-небудзь гады перад тваёй вялікасьцю!.. Як ціха на вуліцы Марской. Толькі мае крокі. Мора з гары пад месяцам – нібы расплаўленае серабро. Бачныя, але нячутныя хвалі. Калісьці я гэта бачыў... Зноў грае скрыпка. Грай, грай па маёй Бацькаўшчыне. Вунь яна, вунь за гарамі...

*Сонца чырвонае ў ліпах далёкіх*
*Блішчыць з-за разгалістых крон.*
*Патухае.*
*Коней табун праляцеў на начлег.*
*Растварaецца пыл у траве.*
*Летняя машкара над дарогай.*
*Поўз зялёнае жыта крочу дамоў*
*І бачу,*
*Як барвы нябёс*
*адбіваюцца ў шыбах.*

Раптам я пачуў шум хваль, нібы лопнула перашкода і згукі мора ўварваліся ў істоту. Сіняя-сіняя вада з пералівамі, б'ецца ў бераг прыбой. Што за сьветлая краіна?.. О, любімая зямля!.. Ты ж чуеш мяне, несамотная... Што за яркае сонца на белай сьцяне?.. Прахалода... І заштораныя вокны. Як маркотна лунае гудок парахода, як шчымліва гучыць. А, здаецца ж, машына. Ах, мілая машына, адвязі мяне... ў маю старану... *Сэт этуаль... ля плю бэль...*[*] і самая далёкая... О мамо... О, Ганно..., Анно... доміні...

*Мілая зямля!*
*Мо' ня прыйдзе наш зорны час,*
*Мо' затопчацца сьлед.*
*Мой закончыцца бег,*
*Я пайду.*
*Ах, каб стаў бы я іскрай*
*Сьвятога агню,*

* Гэтая зорка... самая прыгожая... *(франц.)*.

*Ах, каб быў хоць былінкай*
*У полі.*
*Ах, каб стаў я ахвярай*
*Апошняму дню.*
*Ах, каб мог я ўзяць Тваё гора*
*На плечы...*
*Буду кропляй крыві*
*У пакутах Тваіх,*
*Толькі б з Табой*
*Навечна...*

Цеплыня над морам... Якая цеплыня... Толькі холадна ў ногі. Ах, я ж стаю ў вадзе. Коціцца галька. Чаму я не здзіўляюся – гэта ж Анёл Божы на небе ляціць над вадой. Як сухая трава валасы. І чаму ён такі суровы?.. Дзіўлюся, што вішневы цьвет на вадзе. Хіба ж бо май? Не, гэта блікі... Цікаюць блікі... ціккік – ходзікі... Стукае... пярсьцёнкам па стале... пісар земскі...

*Гарыць у грудзях.*
*Так млосна ў цішыні,*
*Хтосьці пяе за сьцяной*
*пра любоў.*

Я падняў галаву. Іграла радыё. Сьцерхала рука, прыціснутая да стала. У пакоі было сьветла. Так я і праспаў галавой на стале пад месяцам. Ужо ірдзелі пад сонцам макаўкі царквы, дзе некалі адпявалі Максіма Багдановіча. Мора было абсалютна спакойнае, поўны штыль, і бледнае, як туман. Вось і „фатаграфія”:

*Сьвітае.*
*Далёкі карабель на гарызонце*
*Застыў у марской цішыні.*
*Неба.*

Так што нічога не атрымалася з маім начным бадзяньнем па чужым горадзе. Прыстойныя людзі ноччу сьпяць.

## АРЫЕНЦІРЫ

Раненька прыйшоў узрушаны Ўладзя. Памерла маці. Ён тэрмінова ад’язджаў у Наваполацк. Дзень быў цяжкі, нават прыгнечаны. Фатаграфаваў мясьціны Багдановіча. Сама сабой склалася „фатаграфія” дня:

*У сябра няшчасьце –*
*маці памерла.*
*Штосьць маркотна стала мне.*
*Цэлы дзень маўчу.*


(Аўтар фота невядомы).

***58. Госьціца.***

Перад ад'ездам вырашыў яшчэ раз схадзіць на могілкі да Багдановіча. Апрануўся ў касьцюм, купіў белых кветак і пайшоў адзін. На могілкі я прывык глядзець як дасьледчык. Усе могілкі ёсьць помнікі гісторыі і культуры. Яны павінны захоўвацца вечна. Хочаш пазнаць незнаёмы горад – схадзі на яго могілкі. Калі ўмееш пазнаваць – даведаешся шмат.

Я прыйшоў да Багдановіча ўжо вечарам, калі садзілася сонца. Падыходзіў паволі, і аж сэрца стукала ў мяне ад хваляваньня. Вось глыба-помнік, і за ёй... Не, спадары, не. Катка не было. Але калі б ён зноў зьявіўся, то я, аказваецца, сам гатоў быў паверыць у свой жарт. Што называецца, не жартуй сьвятымі рэчамі, а то дурнем станеш. Каля помніка на галінцы туі вісіць бел-чырвона-белы сьцяжок. На палатне пакідаюць аўтографы беларусы. Апошнімі перада мной былі студэнты філфака БДУ.

Павінен сказаць, што трапіць на старыя Ялцінскія могілкі ня так проста. Горад надзвычай зарослы дрэвамі, кустамі, а жыхары, як я ўжо адзначыў, кепска разьбіраюцца ў гэтай чашчобе. Яшчэ цяжэй знайсьці магілу Багдановіча на могілках. Таму не лічу лішнім напісаць тут кароткую дарожную арыенціроўку.

Ад кіно „Спартак", што непадалёк ад цэнтра, трэба праехаць аўтобусам №15 да прыпынку вул. Украінская. Выйшаўшы з аўтобуса, трэба ісьці адразу з правага боку ўверх па цэмэнтовай дарожцы з прыступкамі пад шатамі кустоў. Потым праз мэтраў 200-250, выйшаўшы на асфальтавую дарогу, ідзем направа і праз мэтраў 50-70 выходзім на разьвілку зь невялікай пляцоўкай і аўтобусным прыпынкам насупраць.

Дарога, дзе едуць аўтобусы, паварочвае налева, а нам трэба ісьці направа па нешырокай, як праехаць аўтамабілю, асфальтавай дарозе паабапал дрэў і кустоў. Прыблізна праз 300-350 мэтраў з правага боку ўбачым нягеглую шырокую браму, звараную з жалезных „вугалкоў" і прутоў. Гэта і ёсьць уваход на могілкі. За брамай адразу зьлева ржавее ўрослая ў зямлю жалезная аўтабочка-прычэп ці то з-пад піва, ці то з-пад квасу, з надпісам – пітная вада. Бочка, гледзячы па ўсім, існуе тут спрадвеку і будзе, хутчэй за ўсё, стаяць вечна, пакуль, схаваўшыся пад сьмецьцем і зямлёй, не ператворыцца ў археалягічны здабытак (такі ўжо тут падыход). Таму згадваю яе як тапаграфічны арыенцір. Ад бочкі ідзем направа па асфальтавай дарожцы могілак. Праз 150 мэтраў мінаем ЛЭП і паварочваем трохі ўлева. Справа застанецца магутная жалезная апора ЛЭП. Трошкі прайшоўшы наперад, заўважым, што ўлева перпендыкулярна ад дарогі ідзе ўверх нешырокая дарожка, вымашчаная каменнай ачэсанай брусчаткай (гэта адзіная дарожка з брусчаткай на могілках). Вось тут паварочвайце направа і йдзіце ўніз па бэтонных сходах алеі, высаджанай кіпарысамі. Гэта і ёсьць алея да магілы Багдановіча.

Спусьціўшыся па ёй мэтраў на 100-120, справа за вялізнай чорнай бясформеннай глыбай помніка зь вялікай высечанай у камені чалавечай галавой убачым магілу Максіма Багдановіча.

## АД'ЕЗД

Назаўтра раніцой я ад'язджаў у Менск. Раненька, на самым сьвітаньні, падняўся на схіл гары, каб здалёку на разьвітаньне зірнуць на „сінюю бухту". Далёка ледзь чутна хвалявалася Чорнае мора. Вось бліснуў чырвоны прамень з-за вады, і пурпуровая дарога пабегла па дробненькіх хвалях. Нараджаўся шэдэўр прыроды, Боскія імгненьні, зь якіх складаецца вечнасьць. Непаўторнае ў паўторным. Можа, у такую раніцу ствараўся Боскі шэдэўр паэзіі. Імя яму Таямніца... Максім Багдановіч...

*„У краіне сьветлай, дзе я ўміраю,*
*У белым доме ля сіняй бухты,*
*Я не самотны, я кнігу маю*
*З друкарні пана Марціна Кухты."*

Барвовы шар усё вышэй падымаўся над мяжой небаспаду, асьвятляючы белы прыбой. Гэта бачыў Максім, гэта бачылі таўры і скіфы, гэтае сонца, што залоціць Ай-Петры, тую пену ля скал, тыя сінія хвалі...

*З высокай гары –*
*мора за небакрай.*
*Хвалі блішчаць.*
*Тыя, хто застануцца жыць,*
*Убачаць тое самае.*

***Зянон Пазьняк***

*Надрукавана: („Літаратура і Мастацтва", – 1992, 18 верасьня)*


(Фота З. Пазьняка).

***59. Вясеньняя Беларусь. Красавік.***

# ЛЁС ДЭМАКРАТЫІ ВЫРАШАЕЦЦА НА БЕЛАРУСІ

АД РЭДАКЦЫІ.

**Па настойлівай просьбе аўтара захоўваецца дарэформенны правапіс артыкула. З.С. Пазьняк лічыць, што сучасныя нормы беларускай мовы былі санкцыянаваныя „зьверху", уведзеныя насільна, без парады са спэцыялістамі і народам. І даўно настаў час вярнуць беларусам іх сапраўдную мову, якая ствараласе вякамі. Не камэнтуючы асобныя небясспрэчныя думкі аўтара, рэдакцыя пакідае такое права за чытачамі, яго апанентамі. (Народная Газэта)**

Палітычнае жыцьцё на Беларусі, асабліва пачынаючы з травеня гэтага году – часу прыняцьця рашэньня пра правядзеньне ўсебеларускага рэфэрэндуму аб новых выбарах і роспуску Вярхоўнага Савета, – разьвіваецца пад знакам будучага рэфэрэндуму.

Як і можна было спадзявацца, наш Вярхоўны Савет, большасьць якога складаецца з былой і сёньняшняй намэнклятуры, пачаў ад рэфэрэндуму ўхіляцца, прытым выбраў самы просты і прымітыўны шлях – перапыніў красавіцкую сэсію і распусьціўся „на канікулы" на нявызначаны тэрмін. За паўгода шмат што адбылося. Двойчы істотна павышаліся цэны, эканоміцы не хапае асноўных эканамічных законаў, шалёны дэфіцыт бюджэту, а тут трэба тэрмінова ратыфікаваць міжнародныя дагаворы да нарады ў Гэльсінкі і г.д. Дакуманты так і не ратыфікавалі, бо, як паведаміў Старшыня Вярхоўнага Савета, ён асьцерагаўся, што з-за недастатковасьці часу Вярхоўны Савет не зьбярэцца. Вось гэта „парлямант" – так, прабачце, пазашываліся, што нават цяжка сабраць.

Аднак гэтая схільнасьць да „зашываньня" не такая ўжо і бяскрыўдная. Вярхоўны Савет, ведаючы фармулёўку, вынесеную на рэфэрэндум, аб правядзеньні нечарговых выбараў увосень 1992 года, я лічу, сьвядома парушыў закон, зацягнуў вызначэньне даты правядзеньня рэфэрэндуму, груба ігнараваў правы чалавека – тых 442 тысячаў выбаршчыкаў, што падтрымалі правядзеньне рэфэрэндуму.

Але ад сэсіі не схаваешся, і 20 кастрычніка, калі яна пачнецца, Вярхоўнаму Савету прыйдзецца шукаць выхад, прыносіць прабачэньні, прымаць тэрміновыя рашэньні аб даце правядзеньня рэфэрэндуму. Ад гэтага ўхіліцца немагчыма. Пытаньне пра рэфэрэндум, як падказвае здаровы сэнс, павінна стаяць першым. Калі ж „высокі форум" акажацца нyздольным выконваць законы, тады яму застанецца адно – аб'явіць аб самароспуску. Далейшае ягонае інаваньне азначала б ня што іншае, як захаваньне ўлады незаконным шляхам. Такі парлямант, фактычна, траціць сваю легітымнасьць. І калі яго абаронцы, магчыма, змогуць абвесьці вакол пальца некаторых нашых дэзарыентаваных пэнсіянераў ці калгасьнікаў, то сумняваюся, каб ашукалі ўсіх. І ўжо ніяк ня ўдасца ўвесьці ў зман міжнародныя парляманцкія і грамадзкія арганізацыі.

Вярхоўны Савет, распусьціўшыся „на канікулы", фактычна, ўхіліўся ад палітычных функцыяў улады, аддаў усё ў рукі Савету Міністраў. Першае, што зрабіў Савет Міністраў, рыхтуючыся да рэфэрэндуму, – рэарганізаваў сваю структуру па тыпу былога ЦК КПБ, стварыў аддзелы, упраўленьні, што кіруюць і кантралююць міністэрствы, друк, радыё, тэлебачаньне і г.д. Потым Саўмін аб'явіў сябе заснавальнікам альбо сузаснавальнікам, практычна, усіх агульнанацыянальных газэтаў і часткі часопісаў і манапалізаваў у сваіх руках асноўны друк (дзевяць галоўных выданьняў). З гэтага часу Ўрад пачынае займацца палітыкай, не ўзгадняючы яе зь Вярхоўным Саветам, альбо толькі робячы выгляд узгадненьня. Найбольш буйным актам такой палітыкі сталі пратакол, дагавор і пагадненьнI з Расейскай Федэрацыяй, падпісаныя ў Маскве 20 ліпеня гэтага году, дзе былі, фактычна, праігнараваныя нацыянальныя інтарэсы нашай дзяржавы і падпісаныя дакуманты, заведама нявыгадныя Беларусі.

Савет Міністраў інтэнсіўна фармуе свае новыя кантрольна-бюракратычныя структуры, набірае туды намэнклятурных дэпутатаў Вярхоўнага Савета, былых ваенных палітрукоў, палкоўнікаў ад вайсковай камэрцыі, былых партначальнікаў. У жніўні пры іх дапамозе наладжваецца спроба аб'яднаць камуністычныя і „махровыя" антыдэмакратычныя групоўкі ў адзіны „каардынацыйны камітэт". Так узьнікае дзіўны сімбіёз „камуністаў-марыністаў" і іншых, накіраваных супраць дэмакратыі і Адраджэньня, экзатычных арганізацыяў, які ўзначаліў не выпадкова ўзяты на службу ваенны супрацоўнік Саўміна спадар С. Гайдукевіч. Урад імкнецца праводзіць сваю „вулічную" палітыку супраць рэфэрэндуму і разьвіцьця дэмакратыі на Беларусі, стараецца „непрыкметна" ўзначаліць ім жа стымуляваную камуністычную і пракамуністычную сацыяльную нэўрастэнію.

Ужо ў канцы жніўня, ігнаруючы заканадаўства і элемэнтарныя нормы прыстойнасьці, Урад выдзяляе адной з арганізацыяў гэтага новастворанага палітычнага „камітэту" („комітету солдатскіх матерей") паўтара мільёна рублёў*, як сказана ў распараджэньні, „на выкананьне статутных задач". Факт беспрэцэдэнтны. І тут зьдзіўляе беспрынцыповасьць Мінюста, яно чамусьці і ня думае праверыць адпаведнасьць статутаў далёкіх ад палітыкі арганізацыяў зь іхнім удзелам у палітычным аб'яднаньні. Ці чаму гэтай справай не заняцца Кантрольнай палаце, альбо пракуратуры?

У гэты час, у парушэньне закона, Канстытуцыі, нормаў дэмакратычнай дзяржавы, ціха ўводзіцца ў Менску (і плянуецца на Беларусі) ваеннае кантраляваньне грамадзкага парадку і патруляваньне сумесна зь міліцыяй. Ствараюцца дзеля гэтага спэцыяльныя вайсковыя аддзелы з парашутна-дэсантных войскаў.

Нават Гарбачоў, калі пад дыктоўку будучых гэкачэпістаў уводзіў сумеснае з войскам патруляваньне ў былым СССР, выглядаў больш прыстойна – аб'явіў Указам. Дарэчы, як народны дэпутат Беларусі я патрабую афіцыйных тлумачэньняў у Міністра абароны П. Казлоўскага і Міністра ўнутраных справаў У. Ягорава – на падставе якіх законаў і якіх рашэньняў уведзена сумеснае зь міліцыяй вайсковае патруляваньне. Гэта мае дэпутацкае запытаньне.

У падначаленай Саўміну прэсе, якая жаўцее і чырванее на вачах, штораз больш зьяўляецца поўных нянавісьці, зьняважлівых матэрыялаў супраць беларускай дзяржавы, беларускай мовы, культуры, адраджэньня дэмакратычных традыцыяў. Тым часам замоўчваецца, скажаецца інфармацыя пра дзеяньні Народнага Фронту, шэрагу нацыянальна-дэмакратычных партыяў.

У войску разгортваецца кампанія па звальненьні ў адстаўку афіцэраў-беларусаў. Зацягваецца прыняцьце прысягі. Ставяцца

* На той час звыш мільёна даляраў *(З.П.)*

непераадольныя перашкоды вяртаньню афіцэраў-беларусаў з Расеі і іншых краінаў. Усё гэта на фоне небывалай карупцыі і упадку вайсковай маралі.

Добра бачна, што адбываецца далейшая канцэнтрацыя ўлады ў руках Савета Міністраў, і робіцца яна па загадзя складзенаму пляну, контуры якога відаць. Цяпер ставіцца задача збавіцца ад Міністра ўнутраных справаў, які незгаворлівы (Міністар МУС падпарадкаваны Вярхоўнаму Савету). Праўда, тут перабралі меру і прыйшлося прытармазіць. Падвяла свая ж прэса, у халуйскім ражы панапісвала больш, чым трэба.

На чарзе старшыня КДБ, які ўвогуле „кемлівы”, але таксама не падпарадкаваны Ўраду. Ужо на гэтай сэсіі, наколькі мне вядома, хочуць паставіць пытаньне аб перападпарадкаваньні КДБ Саўміну.

На фоне ўсёй гэтай даволі злавеснай падрыхтоўкі цалкам арыгінальна выглядае Старшыня Вярхоўнага Савета сп. С. ШушкевІч. Ня маючы пакуль што адпаведнага ўплыву на палітыку Ўраду, ён у гэты час езьдзіць па замежжы – Турцыя, Карэя, Бразілія, Нямеччына і г.д. Будучы першай афіцыйнай асобай Рэспублікі, ён, мне здаецца, дапускае памылку, прымаючы запрашэньні, можна сказаць, прыватнага характару, а таму шэраг яго паездак меў неафіцыйны статус, што не прыдало аўтарытэту Беларусі. Практычнага значэньня для палітыкі і разьвіцьця Беларусі такія візіты і перамовы ня маюць. Дарэчы, візіты іншы раз робяцца індывідуальна, без дастатковых кансультацыяў, выпрацоўкі палітычных задачаў з камісіямі Вярхоўнага Савету, з дэпутатамі, без узгадненьня пэўных захадаў з Урадам.

Вярхоўны Савет і Ўрад увогуле ня маюць ніякай дзяржаўнай праграмы зьнешняй палітыкі, канцэпцыі, пэрспэктывы дзеяньняў. Не праведзеныя эканамічныя рэформы ўнутры дзяржавы, не вырашанае пытаньне з зямлёй, з нацыянальнай валютай. Няма ўнутранай палітычнай каардынацыі. Пра што ў такіх варунках можна гаварыць за мяжой? Пра гуманітарную дапамогу, як афрыканцы? Ці мо’ пра беларускія плантацыі гевеі ў В’етнаме, што вырасьце праз 20 гадоў (калі, прабачце, на радасьць мафіі, „і султан памрэ, і асёл здохне”)?

Уся гэтая турыстычная імітацыя зьнешнепалітычнай дзейнасьці вельмі мне нагадвае паводзіны Гарбачова перад канцом, чалавека, які абхітрыў самога сябе. Эйфарыя ад вышыні. Ці не пара спусьціцца на зямлю. На Беларусі тым часам, як слушна заўважыў журналіст Іван Макаловіч, разьвіваецца паўзучая дыктатура посткамуністычнай намэнклятуры, напалоханай надыходзячым рэфэрэндумам. І менавіта Станіслаў Шушкевіч садзейнічаў, жадаючы ці не жадаючы, гэтаму працэсу. Ён як Старшыня Вярхоўнага Савета нічога не зрабіў, каб прадухіліць паўгадавыя „канікулы” парляманту (наадварот, спрыяў), што ў сваю чаргу не дазволіла да гэтага часу правесьці рэфэрэндум.

Уся вышэйапісаная хроніка фактаў – гэта, на мой погляд, вынік паступовага ажыцьцяўленьня пляну гэтага самага „паўзучага” захопу і канцэнтрацыі ўлады ў руках рэакцыі. Хачу яшчэ раз паўтарыць і нагадаць, што ў жніўні–сьнежні 1991 года ў дзяржавах былога СССР (акрамя часткова Прыбалтыкі) адбылося пераразьмеркаваньне ўлады паміж дзяржаўнай і партыйнай намэнклятурай. Структуры КПСС як рэальная таталітарная ўлада былі ліквідаваныя, і ўся дзяржаўная ўлада аўтаматычна апынулася ў руках падстаўных псэўдалегітымных Саветаў і іх выканаўчых ворганаў. Уладу манапалізавала дзяржаўная камуністычная намэнклятура, якая адразу зразумела, што сіла гэтай яе ўлады цяпер ужо не ў татальнай партыйнай арганізацыі, а ва ўласнасьці. Вось якраз дзяржаўную ўласнасьць, карыстаючыся манаполіяй улады, яна і імкнецца зараз захапіць. Адбываецца пераразьмеркаваньне дзяржаўнай уласнасьці ў прыватную ўласнасьць намэнклятурнай бюракратыі, ці, як ахрысьцілі гэтую зьяву ў народзе, – „прыхватызацыя”, рабаваньне, раскраданьне дзяржаўнай маёмасьці ўсімі даступнымі для намэнклятуры сродкамі.

Спыніць гэты „афрыканскі” працэс можна толькі канстытуцыйнай легітымнай зьменай улады. У новы дэмакратычны парлямант павінны прыйсьці іншыя людзі – не з старой намэнклятурнай сістэмы. Інакш усё паўторыцца. Рэфэрэндум і нечарговыя выбары – адзіная рэальная дэмакратычная альтэрнатыва „прыхватызацыі” і ўсёй намэнклятурнай палітыцы. У аснове канфлікту ляжыць пытаньне аб уласнасьці і адпаведна аб уладзе як сродку вырашэньня гэтага пытаньня. Па гэтай мяжы цяпер аб’ектыўна і падзялілася беларускае грамадзтва. З аднаго боку, посткамуністычная дзяржаўная намэнклятура, што валодае значнай часткай ценявога бізнэсу, усёй паўнатой улады, усімі дзяржаўнымі структурамі ад прэсы да войска, зь іншага – аб’ектыўна ўсё грамадзтва, якое тым ня менш яшчэ разьяднанае палітычнымі забабонамі па вытворных, негалоўных, невызначальных аспэктах. Зразумела, што ўладная намэнклятура і частка залежных ад яе камэрцыйных структураў зацікаўленыя пашыраць і культываваць гэтыя забабоны і разьяднанасьць грамадзтва, каб адцягнуць пагрозу свайму становішчу.

Крэатуры Саўміна тут прамаўляюць па-салдафонску проста (прашу прабачэньня, што вымушаны цытаваць бульварныя непрыстойнасьці): „Людям надоело слышать: „Хреново! Хреново!” и не видеть, по какой дороге из этой „хреновости” выбираться”. Пазьняк кажа: „Снимай правительство!”, а мы: „Помогай правительству!” (Знамя юности”, 16 верасня 1992 г.).

Прытым намэнклятурнае лобі ў грамадзтве шэпча і крычыць: „дэмакраты давялі”, „дэмакраты развалілі”, „дэмакраты ва ўладзе”. „Вярхоўны Савет – слуга БНФ”. Белібярда камуністычных лёзунгаў вызначалася іхняй заусёднай арыентацыяй на нізкую, прымітыўную сьвядомасьць, на ахлакратыю, на сьветапогляд нянавісьці. Адсюль нізкасьць фармулёвак, зьнявага сьвятых паняцьцяў – беларускай мовы, нацыі, дзяржаўнай незалежнасьці. Ніводзін урад, ніякая дзяржаўная ўлада ніколі б не цярпела гэтага, акрамя тых, якія самы змагаюцца супраць уласнага народа і яго дэмакратычных патрабаваньняў.

Былая камуністычная намэнклятура – і тая, што ў сісіэме дзяржаўнай улады, і тая, што ў структурах кампрадорскага бізнэсу, замешанага на раней украдзеных сродках КПСС, – здаецца, ужо страціла ўсе тармазы, адкінула ўсе нормы прыстойнасьці, зьневажаючы, ахайваючы беларускую мову, нацыянальную гісторыю, культуру. Культуру, якую дзесяцігоддзямі растоптваў, разбураў, тахціў у гразь камуністычны рэжым; культуру, носьбітаў якой расстрэльвалі толькі за беларускае слова. „Попытки говорить о духовном возрождении республики только на основе того, что написано, сказано, спето по-белорусски, что нарисовано, станцовано, сыграно только в белорусско-фольклорном стиле, – это, я считаю, банальный шовинизм, – піша ў „Народнай газэце”, уступіўшы ў дыскусію, адзін з кіруючых функцыянераў такой кампрадорскай камэрцыйнай кампаніі. – ... В области, скажем, научно-технической и деловой нам (?), откровенно говоря, куда важней внедрять интенсивное обучение английскому, чем белорусскому”. Складваецца ўражаньне, што гэтая публіка гатовая пры неабходнасці вывучыць хоць кітайскі, калі на ім будзе напісана

на ўпакоўцы. Кампрадорскае прадпрымальніцтва не цікавіць нацыянальная культура. Гэта добра пацьвярджае гісторыя. Такія выказваньні проста трэба запомніць. Будучыня Беларусі ня там, дзе думае такі камэрцыйны функцыянер.

Чаму ж посткамуністычная намэнклятура, дзяржаўная і тая, што пайшла ў камэрцыю, выступае супраць нацыянальна-культурнага адраджэньня? Таму, што беларускае Адраджэньне – гэта ўнівэрсальны, глыбока дэмакратычны, антытаталітарны рух, які абыймае ўсе грамадзкія працэсы (палітычныя рэформы, эканоміку, культуру, сацыяльныя пытаньні, экалёгію, войска) і накіраваны на стварэньне нацыянальнай незалежнай дэмакратычнай і прававой дзяржавы. ***Беларускае нацыянальна-дэмакратычнае Адраджэньне – галоўны вораг камуністычнай намэнклятуры і яе улады над грамадзтвам.*** Рэформы эканомікі тут неадрыўныя ад станаўленьня нацыянальнай культуры і самасьвядомасьці, разьвіцьцё рынку ад суверэнітэту і адраджэньня дзяржаўнасьці беларускай мовы.

Нацыянальныя пытаньні для ўлады намэнклятуры ня ёсьць вызначальнымі, галоўнае – уласнасьць. Аднак, каб адцягнуць увагу ад мэтадаў, якімі набываецца ўласнасьць і захоўваецца ўлада, намэнклятура імкнецца перавесьці канфлікт у нацыянальны аспэкт і, скарыстаўшы невысокую нацыянальную свядомасць грамадзтва, расколоць нацыянальна-дэмакратычны адраджэнскі рух, зьменшыць яго значэньне, лакалізаваць, адарваць прыхільнікаў. Гэта тым лягчэй для намэнклятуры рабіць, што сама яна выхаваная на традыцыях нацыянальнага нігілізму былой КПБ (кампартыі).

Найбольш цемрашальскую, адкрыта варожую пазицыю да беларускага нацыянальна-дэмакратычнага Адраджэньня дэманструе зараз рэакцыйная частка вышэйшай ваеннай намэнклятуры, якой, як, фактычна, і Міністэрствам абароны, кіруе Упраўленьне грамадзкай бясьпекі і абароны Савета Міністраў, дзе якраз і заселі былыя партыйныя начальнікі і ваенныя палітрукі.

Паводзіны вайсковай намэнклятуры часам не паддаюцца здаровай лёгіцы. Замест таго, каб прыйсьці на плошчу Незалежнасьці 8 верасьня на ўрачыстае грамадзка-сымвалічнае прыняцьце вайсковай прысягі, куды генэралы Мінабароны былі запрошаны разам з усімі афіцыйнымі асобамі, яны кінуліся ў антыбеларускую істэрыку і непрыняцьце патрыятычнага сьвята. У выніку зьявіўся палітычны „Зварот калегіі Міністэрства абароны да Вярхоўнага Савета і Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь", дзе... цяжка паверыць, грамадзкае прыняцьце 8 верасьня зацьверджанай Вярхоўным Саветам прысягі на вернасьць дзяржаве і народу Беларусі названа „антыдзяржаўнай акцыяй". Як кажуць, слоў няма. Больш нахабнай заявы афіцыйных асобаў, накіраванай супраць патрыятычнай любові людзей і падтрымкі дзяржавы, мне яшчэ не даводзілася чытаць. Такія звароты могуць складаць толькі людзі, якія зусім не арыентуюцца ў рэчаіснасьці. Мне думаецца, што Вярхоўны Савет, атрымаўшы гэткі „зварот", будзе мець усе падставы паставіць пытаньне яб адпаведнасьці кіраўнікоў Міністэрства абароны займаемым пасадам.

Чалавек у войску, прафэсійны кадравы вайсковец, афіцэр ня можа ня быць патрыётам сваёй дзяржавы. Той, хто ня любіць, не прызнае народ дзяржавы, дзе жыве і якой служыць, хто адмаўляе яго гісторыю, хто не лаяльны да мовы і культуры народу, таму ня трэба працаваць у войску. Гэта асобая дзяржаўная структура, дзе асобыя патрабаваньні і вымогі да людзей, замацаваныя прысягай. Войска ня можа быць без прысягі.

Падсумоўваючы працэсы, што зараз адбываюцца на Беларусі, аналізуючы іх сутнасьць і пэрспэктыву, прыходзім да высновы, што антынародная палітыка, якую праводзіць намэнклятура, парадаксальным чынам адначасна спрыяе разьвіцьцю дэмакратычных працэсаў на Беларусі, аўтарытэту Народнага Фронту, нацыянальна-дэмакратычных партыяў. Вядома, страты, выдаткі непазьбежныя. Але на беларускую нацыянальную дэмакратыю цяпер працуе час.




***60. Дэманстрацыя ў Менску.***

Беларусь – адзіная краіна з усіх дзяржаваў СНД, дзе нацыянальныя сілы прапанавалі рэальны спосаб мірнай канстытуцыйнай зьмены намэнклятурнай улады. Мы спакойна і мэтанакіравана ідзём гэтым шляхам. На Беларусі рыхтуецца першы на тэрыторыі былога СССР агульнадзяржаўны рэфэрэндум аб лёсе ўлады, які разьвіваецца па ініцыятыве зьнізу. Зразумела, што ад таго, як вырашыцца гэтае пытаньне на Беларусі, будзе залежаць лёс дэмакратыі і ў іншых краінах СНД. Ні ў адной зь іх нацянальная дэмакратыя не знаходзіцца ва ўладзе. Ні адна зь із не зьяуляецца дэмакратычнай краінай. Калі мірны канстытуцыйны шлях пераменаў праз агульнанародны рэфэрэндум завершыцца посьпехам на Беларусі – дэмакратычны працэс пойдзе па ўсёй Усходняй Эўропе. Скончыцца так званы пераходны (намэнклятурны) пэрыяд.

Калі ж рэфэрэндум не адбудзецца – гэта можа стаць знакам для ўсходне-эўрапейскай намэнклятурнай рэакцыі і, што кепска, – для ўсяго беларускага грамадзтва аб немагчымасьці мірнага канстытуцыйнага дэмакратычнага шляху зьмены антабеларускай ўлады. Вынікі такога ўсьведамленьня будуць вельмі адмоўнымі*. Вось чаму Беларускі Народны Фронт зьвяртаецца да беларускага народу і да эўрапейскай дэмакратыі са зваротамі зразумець важнасьць дэмакратычных пераменаў на Беларусі і дапамагчы, паспрыяць іхняму пасьпяховаму ажыцьцяўленьню.

***Зянон ПАЗЬНЯК,***
***народны дэпутат Беларусі,***
***старшыня Беларускага Народнага Фронту***
***„Адраджэньне"***

*Надрукавана: (Народная Газэта,– 1992, 6 кастрычніка)*

* Спраўдзіўся якраз адмоўны прагноз. Да гэтай тэмы гл. таксама артыкулы: „Палітыка намэнклятуры" і „Правал намэнклятуры" *(З.П.)*

**ЗЯНОН ПАЗЬНЯК:**

# „БЕЗ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ СЬВЯДОМАСЬЦІ НЕМАГЧЫМА ПАБУДАВАЦЬ ДЗЯРЖАВУ”

*(Лідар БНФ – аб сёньняшняй палітычнай сітуацыі ў Рэспубліцы)*

**– Амаль ва ўсіх рэспубліках былога Саюза народныя рухі прышлі ўрэшце рэшт да ўлады, як гэтаму ні супраціўлялася намэнклятура. Нават праводзіліся „ўсенародныя” выбары. Успомнім апошнія падзеі ў Азэрбайджане і Таджыкістане. Выключэньне складае Ўкраіна, дзе рух заклікаў падтрымліваць Краўчука, каб разам будаваць незалежную дзяржаву. І ў Беларусі ўсё часьцей чуюцца заклікі кіруючай эліты да апазыцыі – аб’яднацца, падтрымаць урад, парлямант. Маўляў, ва ўсіх нас адзін агульны клопат – будаўніцтва сувэрэннай дэмакратычнай Беларусі. Ці магчымы варыянт такога аб’яднаньня?**

– Украінская посткамуністычная дзяржаўная намэнклятура, гэтак жа, як расейская, малдаўская, частка балтыйскай, пасьля краху КПСС, стала на пазыцыі нацыянальнага дэмакратызму і дзяржаўнай незалежнасьці. Гэта дапамагло ёй утрымаць уладу. Беларуская дзяржнамэнклятура пасьля ліквідацыі КПСС атрымала паўнату ўлады аўтаматычна і засталася на пазыцыях нацыянальнага нігілізму, праводзіць, па сутнасьці, кампрадорскую палітыку. У такой сітуацыі ніякае „аб’яднаньне” з БНФ немагчымае. Яно супроцьнатуральнае, супярэчыць прыродзе рэчаў.




*61. Менск 27 ліпеня 1992 г. Калёна БНФ.*

Дзяржаўная палітыка ня можа быць ненацыянальнай, ня можа не адлюстроўваць нацыянальныя інтарэсы ўсяго грамадзтва. Беларуская кіруючая намэнклятура займае не дзяржаўную, а правінцыяльную пазыцыю і дэманструе правінцыяльныя паводзіны.

Каб, скажам, цяперашні беларускі ўрад, Вярхоўны Савет стаялі на пазыцыях, падобных як у Краўчука, тады б было больш магчымасьцяў для канструктыўнага супрацоўніцтва ў некаторых галінах грамадзкай і дзяржаўнай дзейнасьці. Але БНФ усяроўна заставаўся б у апазыцыі да ўраду, бо асноўнае размежаваньне паміж намэнклятурнай „партыяй улады” і народам пралягае па дачыненьнях да ўласнасьці (і, адпаведна, да ўлады). Народны Фронт у гэтым размежаваньні імкнецца выяўляць і абараняць інтарэсы народа, стаіць на яго баку, рэзка не прымае намэнклятурную „прыхватызацыю” і намэнклятурнае выкарыстаньне ўлады ў прыватных інтарэсах.

Дачыненьні ўласнасьці, не заснаваныя на законе, заўсёды антаганістычныя. У такіх варунках нельга „дапамагаць” ураду. Бо колькі б яму ні „дапамагалі”, намэнклятура, валодаючы гэтым урадам, не перастане красьці. Не перастане да той пары, пакуль не „прыхватызуе” ўсю дзяржаўную маёмасьць. Калі „прыхватызацыя” завершыцца, яна будзе замацавана ў законах. І тады бессэнсоўна будзе нават абурацца. Голым „памагальшчыкам” нічога не застанецца, як ісьці наймацца на працу да разбагацелай камуністычнай намэнклятуры. Вось што значыць лёзунг халуёў – „помогай правительству”, калі „правіцельства” не вядзе дзяржаўнай палітыкі ў інтарэсах нацыі.

Заклікі ў такіх варунках да „згоды” з кіруючай палітыкай, з урадам, як гэта робіць спадар Шушкевіч, ёсьць прапановы згадзіцца са злом, з крыміналам, з ашуканствам, капітуляваць перад імі. Пагаджацца паміж сабой могуць аднадумцы, законапаслухмяныя, зьвязаныя агульнымі абавязкамі. Але ня можа быць „згода” паміж злодзеем і сумленным працаўніком. Калі б гэта было так, зладзеяў не саджалі б у турму.

**– А як Вы тады ацэньваеце пазыцыю В. Кебіча?**

– З пункту гледжаньня намэнклятурнай стратэгіі, В. Кебіч праводзіць дастаткова прадуманую палітыку, каб захаваць уладу.

Улічана магчымасьць рэфэрэндуму і новых выбараў. Адбываецца канцэнтрацыя ўлады ў руках Саўміна.

Праведзена рэарганізацыя Савета Міністраў па ўзору ЦК КПСС. Створаны асобныя структуры, якія кіруюць міністэрствамі і міністрамі, прэсай войскам і г.д.

Манапалізаваны асноўны пэрыядычны друк і пастаўлены ў залежнасьць ад ураду.

Створаны ў апараце Саўміна прэс-групы іміджу Прэм’ерміністра. Праведзена глыбокае пранікненьне ўраду ў Вярхоўны Савет, шляхам прадстаўленьня намэнклятурным дэпутатам выгадных пасадаў ва ўрадавых і выканаўчых структурах; створана фракцыя ўраду ў парляманце – група „Беларусь” (былая камуністычная партгрупа). Цяпер урад мае актыўную большасьць у Вярхоўным Савеце. Прытым прадаўжаецца зьліццё выканаўчай і заканадаўчай уладаў.

Праведзена замкнёнае падпарадкаваньне Міністэрства абароны Саўміну. Адбываецца кадравая ўніфікацыя войска – збаўляюцца ад афіцэраў-беларусаў. Афіцэрскі корпус трымаюць па-за прысягай, а значыць, і па-за асобай адказнасьцю перад законам за магчымыя супроцьзаконныя дзеяньні. Вядуцца спробы перападпарадкаваць КДБ Саўміну і кадрава рэарганізаваць МУС.

Робяцца спробы пранікненьня ўрада „на вуліцу", арганізацыі антыдэмакратычных, антынацыянальных сіл і фінансаваньня іх.

У апошні час дэманструецца барацьба з карупцыяй. Дэманструецца апора на ветэранаў вайны і працы, увага да пэнсіянераў і г.д.

Усё гэта цікава назіраць. Тут ёсьць выразныя элементы „паўзучай дыктатуры" і іншай намэнклятурнай архаікі. Аднак вельмі сур'ёзна гэта ўспрымаць я не магу.

Пры ўсёй бесцырымоннасьці, пры мэтанакіраванай, здавалася б, распрацаванасьці тактыкі і асобных вызначальных ходаў, тут робіцца надзвычай небясьпечная для спадара Кебіча і для ўсяго грамадзтва ключавая стратэгічная памылка – апора на антынацыянальныя, антыбеларускія сілы і на чужую дзяржаву (Расею). Гэта тая рабская правінцыяльнасьць, пра якую я ўжо казаў. Палітычны дзеяч, які ня думае дзяржаўнымі катэгорыямі нацыі, яе гісторыі і пэрспэктывы, а апэрыруе правінцыяльным „крэславым" прагматызмам і кланавым палітыканствам, посьпеху, як правіла, ня мае. Краўчук зрабіў стаўку на Ўкраіну і перамог Рух, абапершыся на народ. Кебіч робіць стаўку на намэнклятуру і хоча перамагчы Беларусь, абапершыся на Расею.

Павінен сказаць, што сярод беларускай кіруючай намэнклятуры няма палітыкаў і асобаў, якія думалі б на ўзроўні Краўчука. Тым горш для намэнклятуры. Тым хутчэй яна сыйдзе са сцэны.

**– У грамадзтве насьпела разуменьне неабходнасьці пераменаў. Але часта можна пачуць: а хто здольны ўзяць на сябе кіраваньне Рэспублікай? Маўляў, у БНФ няма дакладнай, прадуманай эканамічнай канцэпцыі. Каб БНФ прышоў сёньня да ўлады, якую праграму выхаду Рэспублікі з крызісу ён прапанаваў бы?**

– Пра нашае бачаньне пераменаў і рэфэрмаў прыходзілася неаднаразова пісаць і гаварыць. Канцэпцыя эканамічнага разьвіцьця Беларусі надрукавана Апазыцыяй БНФ яшчэ ў пачатку гэтага году. Удалося надрукаваць праект закона пра выбары і аб уласнасьці на зямлю. Трэба сказаць, што чым даўжэй краіна працягвае існаваць у стане „прыхватызацыі" і дэкляраванай, а не рэальнай дзяржавы, тым цяжэй будзе выбірацца з крызісу. Час – гэта цяпер важнейшы палітычны чыньнік, і калі яго выйграе намэнклятура – дэмакратыя можа прыйсьці на галавешкі.

У такой сітуацыі напачатку трэба будзе абараніць дзяржаўную ўласнасьць, каб яе канчаткова не раскралі. Адразу павінен быць прыняты закон аб прыватнай уласнасьці на зямлю, што дасьць магчымасьць пачаць рэфэрмы знутры і атрымаць замежныя інвэстыцыі. Потым патрэбна правесьці рэфэрму ўлады – пераход да муніцыпальнага кіраваньня. Інакш усе пераўтварэньні захлынуцца ў старой структуры Саветаў. Тады, зыходзячы з канкрэтнага становішча і канцэпцыі эканамічнага разьвіцьця Беларусі, прыступаць да праграмы і правядзеньня прыватызацыі. Гэта павінна рабіцца адначасова са стварэньнем дзяржаўнай фінансава-крэдытнай сістэмы і ўвядзеньнем беларускага талера, закона аб грамадзянстве, уладкаваньнем мяжы і мытнай службы па пэрыметру дзяржавы. Без гэтых мерапрыемстваў прыватызацыю праводзіць нельга, бо можна страціць уласнасьць, маёмасьць і багацьці Рэспублікі Беларусь. У ліку першасных мерапрыемстваў павінны быць прынятыя таксама законы пра дзяржаўную службу і аб барацьбе з карупцыяй і арганізаванай злачыннасьцю. Ёсьць меркаваньні і аб зьнешняй палітыцы ў гэты пэрыяд, і аб прыярытэтах эканомікі, і аб энэргетычных разрахунках. Усё гэта – тэма спэцыяльнай размовы, якая, дарэчы, вядзецца ўжо даўно ў выступах і публікацыях прадстаўнікоў Апазыцыі БНФ.

**– Стэрэатып успрыманьня БНФ і яго лідэра, некалі створаны ЦК КПБ, усё яшчэ моцны ў сьвядомасьці грамадзянаў Рэспублікі. Нацыяналіст, антысеміт, русафоб... – гэтыя ярлыкі і цяпер „клеяць" Пазьняку. Верагодна, гэта і таму, што лідэр БНФ недаацэньваў раней такі фактар, як стварэньне патрэбнага іміджу палітыка?**

– Імідж стварае той, у каго ў руках сродкі масавай інфармацыі. Таму размова пра мой імідж для мяне ня мае рэальнага сэнсу. Зробяць такі, які захочуць. Галоўнае не перашкаджаць ім зганьбіць самых сябе. Жывучы нянавісьцю, яны ня ведаюць меры. Для людзей, якія здольныя абплёўваць Васіля Быкава, ніякіх маральных перашкодаў няма. Што ўжо казаць тут пра ярлыкі на Пазьняка.

**– У Вашых выказваньнях часта гучыць думка аб прыярытэце маральнасьці ў палітыцы. Па-чалавечы хацелася б, каб гэта так і было. Але ці магчыма такое на практыцы? Ці ня ілюзія гэта?**

– Гэта праграмныя палажэньні БНФ, якія ён даказаў на практыцы ўсёй сваёй дзейнасьцю, пачынаючы з 30 кастрычнака 1988 года, чарнобыльскімі акцыямі і „Чарнобыльскім Шляхам", адносінамі да „канкрэтных" камуністаў (індывідуальныя дачыненьні і ўдзел у шэрагах БНФ), да канфэсіяў і нацыянальнасьцяў, паводзінамі пасьля путчу, дараваньнем зьняваг і г.д. Па-другое, гэта даказвае палітычная практыка эўрапейскай хрысьціянскай дэмакратыі, асабліва ў пасьляваеннай Нямеччыне. БНФ жа шмат у чым блізкі да палітычных прынцыпаў хрысьціянскай дэмакратыі.

**– У праекце Канстытуцыі ёсьць разьдзел – прэзыдэнцкая ўлада. Ці застаўся пункт погляду БНФ на яе нязьменным? І ці будзе Апазыцыя ў Вярхоўным Савеце, не чакаючы прыняцьця Канстытуцыі, правядзеньня рэфэрэндуму і новых выбараў, дамагацца адстаўкі цяперашняга ўраду? Калі ня цалкам, дык асобных міністраў, вылучэньне якіх (напрыклад, Казлоўскага) БНФ раней падтрымліваў?**

**І дадатковае пытаньне: чаму ні БНФ, ні іншыя дэмпартыі ні разу ня выказалі занепакоенасьці тым, што засталася нерэфармаванай структура КДБ? Уся справа ў „добрым" Шыркоўскім ці ў боязі, што некага з крытыкаў могуць „засьвяціць", як гэта было ў краінах Усходняй Эўропы і Прыбалтыкі?**

– Мы супраць увядзеньня прэзыдэнцтва ў бліжэйшым часе і абгрунтавалі сваю пазыцыю яшчэ ў траўні 1991 года, калі камуністы Беларусі рыхтаваліся да путчу.

Адстаўка ўраду пры цяперашнім Вярхоўным Савеце немагчымая.

Як Апазыцыя галасавала пры выбарах Міністра абароны, ніхто ня ведае, акрамя Апазыцыі. Таму ня трэба паўтараць прыдумкі, якія аднойчы прагучэлі па радыё і па маім настаяньні былі потым абвергнутыя.

Усялякае „варушэньне" пытаньня пра КДБ у гэтым Вярхоўным Савеце можа прывесьці толькі да горшага ўмацаваньня КДБ. Добра, што ў гэтых абставінах падпарадкавалі яго

Вярхоўнаму Савету. Зрэшты, урад мае на КДБ сваё вока і ня выключана, што на гэтай сэсіі ўзьнікне пытаньне аб падпарадкаваньні КДБ Саўміну. Вось і ўся рэформа. Магчымыя вынікі яе, спадзяюся, усім зразумелыя.

**– На мітынгу 25 жніўня лідэр Народнага Фронту заклікаў народ з аптымізмам глядзець у будучыню. І нават назваў яе цудоўнай. Ці сапраўды Рэспубліку чакае такая будучыня?**

– Беларусь чакае прыўкрасная будучыня. Гэта вынікае з лёгікі працэсаў і абставінаў. Але гэтая будучыня, як бачым, даецца вельмі цяжка, зь вялікімі стратамі. І прычна гэтага ў нас саміх – ва ўсім нашым грамадзтве, якое, як усялякая зьява, мае агульныя крытэрыі ацэнкі свайго ўзроўню, сьпеласьці і характару, пачынаючы ад бомжа і жабрака і да кіраўніка дзяржавы. Гэтымі абсалютна агульнымі крытэрыямі зьяўляюцца нацыянальная сьвядомасьць і нацыянальная мова. ***Без нацыянальнай сьвядомасьці ўвогуле немагчымае стварэньне нацыянальнай дзяржавы. Без унівэрсальнасьці нацыянальнай мовы траціцца гісторыя, не разьвіваецца культура грамадзтва, вышэйшай формай якой зьяўляецца, ізноў жа, стварэньне нацыянальнай дзяржавы.***



*62. Васіль Быкаў.*

Палітыка вынарадаваньня Беларусі, якую 74 гады праводзіла КПСС, ударыла, перш за ўсё, па гэтых асноўных крытэрыях грамадзкай агульнасьці. Унутраныя натуральныя працэсы беларускага культурна-нацыянальнага адраджэньня яшчэ не набылі дастатковай сілы, не праніклі глыбока ў верхнія кіруючыя пласты грамадзтва, калі Беларусь, добра скарыстаўшы спрыяльныя зьнешнія чыньнікі, набыла незалежнасьць. Нясьпеласьць нацыянальнай, дзяржаўнай сьвядомасьці нашага грамадзтва самым кепскім, нават фатальным чынам адбіваецца цяпер на нашым становішчы і нашым жыцьці, на рэформах эканомікі і будаўніцтве незалежнага гаспадарства. Аслаблена здольнасьць самаарганізацыі грамадзтва, узнікаюць і цалкам не ўсьведамляюцца людзьмі самаразбуральныя працэсы, дзеяньні і рашэньні. А калі ўсьведамляюцца, то прапаноўваецца згода не па ўнівэрсальных, не па аб’яднаўчых, а па антаганістычных крытэрыях (па размежаваных дачыненьнях уласнасьці, напрыклад, пра што я ўжо казаў).

У апошні час непрыхільныя нашай незалежнасьці колы, ініцыяваныя пэўнымі сіламі чужой дзяржавы, імкнуцца ўвесьці ў сьвядомасьць нашага грамадзтва думку пра неабходнасьць другой дзяржаўнай мовы – расейскай. Бярэцца стандартнае імпэрскае клішэ, праваленае ў іншых месцах, і сілком накладваецца на беларускую рэчаіснасьць. Патрабаваньне двухмоўя для мононацыянальнай дзяржавы ёсьць тыповая палітычная асіміляцыйная дактрына КПСС. Яна пачала мусіравацца з канца 70-х гадоў пасьля прыняцьця „брэжнеўскай” канстытуцыі, дзе было аб’яўлена пра „новую гістарычную агульнасьць людзей – савецкі народ”. Разьлік быў просты – юрыдычна замацаваць расейскую мову ў саюзных рэспубліках і пад відам раўнапраўя паступова русіфікаваць іх, выцесьніўшы нацыянальныя мовы. Гэты „нумар” нідзе не прайшоў, бо ў канцы 80-х гадоў пачаўся дэмакратычны нацыянальна-вызваленчы рух у Савецкім Саюзе.

Зараз тыя ж задачы і аналягічныя адрасы. Але цяпер палітычны сэнс такой прапановы і магчымы вынік неабдуманага рашэньня – раскол грамадзтва і зьнішчэньне беларускай мовы. Прытым раскол катастрафічны, які можа прывесьці да канчатковай пагібелі беларускай нацыі. У гэтым можна не сумнявацца. Прапаноўваюць за „другую” дзяржаўную мову ўзяць мову суседняй звышдзяржавы, якая раней праводзіла тут асімілятарскую моўную палітыку, могуць толькі недасьведчаныя, недабразычлівцы ці самазабойцы. Расейцы ж на Беларусі не аўтахтоны, а нацыянальная меншасьць, як і ўсе астатнія, акрамя беларусаў. А вось беларусы ў Расеі, дарэчы, якраз аўтахтоны і жывуць аж да Ржэва і Дарагобужа.

Дзьве мовы для аднаго народа – поўны абсурд. ***Той постімпэрскі стан, у якім зараз жыве нашая нацыя, – гэта пераходны хваравіты стан. Выздараўленьне, выхад зь яго ёсьць шлях нацыянальна-культурнага адраджэньня. Гэтым шляхам трэба ісьці, бо ён – разьвіцьцё. Такім шляхам прайшлі шмат якія эўрапейскія народы, што аднаўлялі культуру, незалежнасьць і дзяржаву.***

Некалі Карл Маркс прыводзіў як прыклад загінулага асіміляванага народа чэхаў, прарочыў, што анямечаныя чэхі ўжо ніколі ня ўзьнікнуць. А вось жа ўзьніклі. Бо пайшлі шляхам адраджэньня культуры і чэшскай мовы. Цяжка было выбрацца з нямецкага асіміляцыйнага палону. Яшчэ ў 30-я гады, напрыклад, у чэшскім унівэрсітэце чыталі лекцыі па-нямецку. Не хапала прафэсараў, што размаўлялі па-чэшску. А паглядзіце цяпер на чэхаў, на гэты цывілізаваны, багаты эўрапейскі народ!

Беларуская мова, сказаў нядаўна Васіль Быкаў, адзінае, што захавала і трымае нас як народ у цяжкай нашай гісторыі. Шмат якім людзям, аднак, трэба яшчэ канчаткова гэта асэнсаваць, у тым ліку і ў Вярхоўным Савеце. Ня выключана, што Вярхоўнаму Савету нават прыдзецца пераходзіць гэты рубеж, важнейшую для нацыі гарантыю і важнейшы экзамен на сьпеласьць парлямента.

Ёсьць яшчэ некалькі сьмяротэльных бар’ераў і перашкод, якія Беларусі прыйдзецца пераадолець (напрыклад, зразумець неабходнасьць, абавязковасьць нацыянальнай валюты). Пераадолеўшы іх – будучыню нашай зямлі ўбачым цудоўнай.

***(Пытаньні задавала Галіна АЙЗЕНШТАТ)***

*Надрукавана: („ Звязда”, – 1992, 17 кастрычніка)*

# БЕЛАРУСЬ У ДАРОЗЕ...

У жніўні 1991 года праваліўся апошні камуністычны путч у былым СССР. Беларусь здабыла незалежнасьць без пераменаў улады. Перад кіраўнічымі структурамі на Беларусі, якія не жадалі яе суверэнітэту, паўстала гістарычная неабходнасьць кіраваць і жыць па законах незалежнай дзяржавы. Вядома ж, яны ня сталі так жыць. Мінуў час – мы змарнавалі год страчаных магчымасьцяў.

Што атрымала ў спадчыну незалежная Беларусь?

– Дзяржаву, разьмешчаную на дзьвюх трацінах тэрыторыі Беларускай Народнай Рэспублікі, без вялізных абшараў на ўсходзе аж да Ржэва і Дарагобужа, захопленых у 1918 годзе бальшавікамі, бяз Вільні і Беластока;

– эканоміку і вытворчасьць, сутнасьць якой – зборачны цэх СССР. Гэта значыць, вышэйшы ўзровень вытворчасьці, якая, аднак, не разьлічана на нашыя ўнутраныя і дзяржаўныя патрэбы, завязаная на расейскую сыравіну і энэрганосьбіты і, адпаведна, на расейскі рынак, экспартная доля ў якім нашай прадукцыі складае 70 адсоткаў паставак;

– сельскую гаспадарку з прыярытэтам індустрыяльнай жывёлагадоўлі, што ператварыла нашу Беларусь у гіганцкі сьвінушнік Савецкага Саюза – адзінага імпарцёра беларускага мяса, якога вытваралася ў нас на душу насельніцтва столькі ж, і нават больш, чым у Злучаных Штатах Амэрыкі;

– экалогію, зьмест якой – нітраты ў зямлі, хімічныя, памыййыя рэкі, атамныя палігоны на Палесьсі, дзе выпрабоўвалі ядзерную зброю на людзях, і... Чарнобыль – „детище” КПСС;

– дэфармаваную нацыянальную сьвядомасьць, духоўна хворы соцыюм – вынік разбурэньня культуры, фальсіфікацыі гісторыі, зьневажэньня роднай мовы;

– геапалітыку, ці геапалітычнае становішча, сутнасць якога – залежнасьць ад Расеі і пастаянная пагроза з усходу.

Каб нармальна існаваць і разьвівацца як незалежная дзяржава, Беларусі трэба вырашыць усе гэтыя пытаньні, зыходзячы з нацыянальных інтарэсаў, гэта значыць, з інтарэсаў беларускага грамадзтва.

Дзяржава павінна валодаць усімі крытэрыямі незалежнасьці: нацыянальнай валютай, мытнай прасторай і межамі, міжнароднымі сувязямі на ўзроўні пасольстваў. Першым чынам неабходна было праводзіць рэформу ўласнасьці і эканомікі, дзе галоўны прынцып такі: раўнапраўнасьць дзьвюх формаў уласнасьці – прыватнай і дзяржаўнай. Пераарыентацыя эканомікі і вытворчасьці на патрэбы Беларусі. Справа ня толькі ў разрыве штучных адміністрацыйна-эканамічных сувязяў паміж дзяржавамі былога СССР. Справа ў тым, што шмат якая (заснаваная на савецкай гігантаманіі і расейскай сыравіне) вытворчасьць і прадпрыемствы, пакліканыя задавальняць бяскрайні і бяздонны СССР, Беларусі ўвогуле не патрэбныя. Ці калі патрэбныя, то не ў такіх памерах і маштабах. Пра гэта трэба было адразу дзяржаўна падумаць замест таго, каб вытвараць непатрэбшчыну.

Вядома ж, трэба было знайсьці іншыя дубліруючыя крыніцы паставак энэргетычных рэсурсаў (нафты і газу). Такія магчымасьці ёсьць, нават з варыянтамі. І пра гэта ня раз казана-пераказана. Ненармальна і небясьпечна мець толькі аднаго пастаўшчыка нафты.

Але каб такім чынам працаваць на карысьць Беларусі і яе людзей, трэба дзяржаўнаму кіраўніцтву якраз мець здольнасьці думаць па-дзяржаўнаму і, адпаведна, валодаць канцэпцыяй разьвіцьця суверэннай дзяржавы. Такіх здольнасьцяў і жаданьняў у намэнклатуры не знайшлося, канцэпцыі імі ня створана.

Тое ж і ў сельскай гаспадарцы. У значнай ступені на прывазным зерні, скарыстаўшы вопыт і працавітасьць беларускіх людзей, КПБ–КПСС разгарнула на Беларусі жывёлагадоўчыя комплексы па сто тысяч і болей асобін. (Дарэчы, перанасычанасьць жывёлай – вялікая экалягічная пагроза. Успомнім, як утварылася пустыня Сахара. Па прынятай тэхналёгіі ўтрыманьня беларускія гаспадаркі нават гною не атрымлівалі, а толькі разбуральную таксічную для зямлі жыжу, якую немагчыма утылізаваць.) Адзіны рынак прадуктаў нашай мясной індустрыі – Расея. Гэтая прывязанасьць да Расеі па экспарту мяса ня менш для нас небясьпечная, чым па імпарту нафты. Асабліва ў час інфляцыі і абсурднага спэкулятыўнага перакосу цэн. Дастаткова спыніць нам гэты рынак, перакрыць экспарт і – Беларусь на каленях. Так Расея і зрабіла. Перастала плаціць за пастаўку мяса і страшэнна запазычыла Беларусі. Прыйшлося спыніць адгрузку ў Расею. Тым часам у выніку „вар'яцтва” цэнаў кошт кілаграма збожжа падвысіўся так, што нявыгадна стала вырошчваць жывёлу. Вось і канец нашай каляніяльнай мясной індустрыі. Халадзільнікі ўжо каторы месяц запоўнены мясам, жывёла перастойвае, трымаць нявыгадна, збываць няма куды, Урад бязьдзейнічае (мог бы пашукаць новыя месцы збыту, раз рэформы на нулі і пераход да рынку затармазілі). Дарэчы, мясам Расеі ў гэты час дапамагла Амэрыка (яшчэ адзін наш на словах „дабрадзей”), тым самым падштурхнуўшы беларускага тапельца ў вір. Адчуваеце сутнасьць палітыкі што з Усходу, што з Захаду?

Зрэшты, Саўмін вырашыў, нарэшце, ратаваць становішча даволі рашуча. Але што з гэтага атрымалася? Адправілі тысячы людзей і машын зь Беларусі ў Казахстан на ўборку пшаніцы і закупілі 2 мільёны 200 тысячаў тон збожжа. Як высьветлілася, па 130 даляраў ЗША за тону (сусьветная цана ад 100 да 120 даляраў). На 1 кастрычніка 1992 г. гэта раунялася 35 савецкіх рублёў за кілаграм зерня. 1 кілаграм мяса пры такой цане павінен каштаваць 450 рублёў. Вось такі атрымліваецца „гандаль на піндаль”.

А ўся справа ў тым, што, існуючы ў так званай рублёвай зоне і плятучыся зь пятлёй на шыі за расейскай „гайдараноміkай”, і Беларусь, і ўсе астатнія дзяржавы СНД усё роўна прыйдуць да сусьветных цэнаў на манапольную сыравіну, тавары і энэрганосьбіты. Вось тады абрабаваньне нашай Беларусі, бязглуздасьць і хвастапляценьне палітыкі Саўміна, якая вядзецца без прагнозаў, без варыянтаў, без канэпцыі, стане відавочнай кожнаму. Больш таго, калі рублёвая зона праіснуе даўжэй, а рэформы пераходу да рыначнай эканомікі так і не ўзаконяцца і не запрацуюць, узьнікне поўны абсурд – цэны на манапольныя сыравінныя тавары ў СНД вырастуць вышэй сусьветных. Іх установяць дзяржавы-манапалісты ў рублёвай прасторы, а астатнія, ня маючы валюты, магчымасьці праціснуцца на сусьветны рынак і, што найважней, ня маючы ахвоты туды праціскацца (дзяржаўны чыноўнік ці адміністратар ня будзе тут ірваць пуп, ён пабяжыць да ўраду за датацыяй), заплацяць хоць бы і двайную сусьветную цану, пакуль стрывае эканоміка, грашовы друкарскі станок і народ. Нешта падобнае атрымалася ў Саўміна Беларусі з казахстанскім збожжам. Званочак ужо празваніў.

Як тут выратавацца са становішча? Асновай эканомікі, як вядома, зьяўляюцца грошы, фінансава-крэдытная сістэма. Расея, зьяўляючыся манапалістам на рублёвую эмісію і праводзячы „гайдараноміку", карыстаецца з сваіх пераваг мэтадамі, часта далёкімі ад сумленных. Напрыклад, месяцамі не аплачвае за пастаўкі беларускіх тавараў, зарабляючы такім чынам за кошт Беларусі да 30–40 працэнтаў на інфляцыі. Прытым робяць гэта не прадпрыемствы-атрымальнікі, а расейскі банк, дзе зьбіраюцца дакументы пра плацяжы. Гэта такая „палітыка", ці, як пісаў некалі адзін „вялікі правадыр пралетарыяту", – „азіятчына".

Яшчэ два з паловай гады таму было зразумела, што неабходна будзе пераходзіць на ўласную валюту. Трэ' было рыхтавацца. Пра што дэпутацкая Апазыцыя Народнага Фронту ўвесь гэты час безвынікова, як у сьцяну гарохам, даводзіла Ўраду і Вярхоўнаму Савету. Цяпер ужо Ўкраіна, якая вось-вось уводзіць грыўну, зачыняе мяжу зь Беларусяй. Даведаўшыся пра гэта, спадар Кебіч так зьдзівіўся... Ну і ну!

Як бы ні было позна, колькі б ні страчана часу, рыхтавацца да пераходу на талер неабходна хутка і энэргічна. Магчыма, напачатку нядоўгі час пратрываюць „зайчыкі", але калі ня будзе падрыхтаваны талер, рэзэрвовая сістэма, фінансава-крэдытная структура, Дзяржаўны нацыянальны банк і г.д., тады крах амаль непазьбежны. Але гэта горшы варыянт.

Эканамічная група дэпутацкай Апазыцыі Народнага Фронту (кіраўнік У.Заблоцкі) разгледзела спосабы ўводу беларускага талера. Ужо ёсьць папярэдняя дамоўленасьць (з боку Апазыцыі) з пэўнай краінай і банкам аб адпаведных кроках. (Цяперашні ўрад Беларусі мог бы гэтыя крокі зрабіць.) Забесьпячэньне рэзэрвовай сістэмы талера рэальна магчымае. Ёсьць нават варыянты. З уводам беларускай валюты, на думку дэпутатаў БНФ, трэба будзе адразу дамовіцца з суседзямі аб клірынгавых разьліках, устанавіўшы адпаведны рэжым дзяржаўных межаў, правесьці грашовую рэформу і валютную рэформу ўпарадкаваньня цэнаў. Структуру беларускіх цэнаў неабходна разьлічыць па эўрапейскіх суадносінах цэнаў на тавары. Тут павінна быць жорсткая рэглямэнтацыя. Каб гэтая цэнавая структура запрацавала, неабходна будзе поўнасьцю адкрыць беларускі рынак для замежных тавараў. А каб гэтым актам не ўгробіць нашу нацыянальную прамысловасьць і вытворчасьць (што здарылася ў Польшчы), патрэбна будзе праводзіць прадуманую і вельмі жорсткую мытную палітыку пошлінаў на імпартныя і экспартныя тавары, сыравіну і г.д. Гэта вельмі працаёмкая задача. Да яе трэба было б не марудзячы рыхтавацца ўжо ўчора. Ва Ўрадзе, на жаль, не думаюць і сёньня. Да таго ж нічога толкам ня „пойдзе" без рэальных рынкавых рэформаў у Беларусі, без прыватнай уласнасьці і цаны на зямлю, без упарадкаваньня заканадаўства.

Мушу адзначыць, што стабільнасьць талера павінны напачатку забясьпечыць не толькі рэзэрвовая сістэма і аздараўленьне эканомікі, але і псіхалягічныя аспэкты – давер да ўласнай валюты. Калі давер будзе вялікі, рэзэрвовы фонд можа быць меншы. Калі даверу ня будзе, мы панясём большыя страты, адцягнем ня толькі валютную, але і таварную канвэрсуемасьць талера. Вось чаму дэпутацкая Апазыцыя БНФ зрабіла гістарычныя, нумізматычныя, баністычныя дасьледваньні і трэці год прапагандуе талер (гл. „Літаратура і мастацтва", – 1990, 28.09 – Новыя беларускія грошы; „Звязда", – 1990, 31.08 – Талер, грош, менка.), апісвае яго гістарычную сістэму, прэстыжнасьць, распаўсюджанасьць, магчымасьці яго ў аздараўленьні нашай эканомікі. Маўляў, ведайце, людзі, верце, будзьце ўпэўненыя – гэта наша культура, традыцыі, гісторыя; беларускі талер – эканамічная, фінансавая неабходнасьць. Асобы, якія зьневажаюць назву нацыянальнай валюты, сумняваюцца, ёрнічаюць, ахайваюць талер, імкнуцца выклікаць у людзей недавер да яго, – ёсьць альбо нядобразычліўцы, альбо не разумеюць, што робяць. Спыніцеся, самазабойцы! Вашае пустапарожняе, неразумнае крытыканства можа каштаваць грамадзтву мільярды, і самы ж вы будзеце за гэта разьлічвацца і цярпець, бо нацыянальная валюта патрэбная. ***Незалежная дзяржава ня можа існаваць без уласных грошай.*** Падымайце іх будучы прэстыж.

Каб забясьпечыць разьвіцьцё рынкавых рэформаў і стабільнае існаваньне пэўнага цывілізаванага стану грамадзтва, павінен быць адпаведны ўзровень культуры, заснаванай на адзінстве традыцыяў, нацыянальнай сьвядомасьці, гісторыі і мовы. Калі адзінства парушана, яго неабходна аднавіць. Інакш грамадзка-эканамічнае разьвіцьцё затармožваецца, аслабляецца самаарганізацыя грамадзтва, кансалідацыя на зададзеную мэту, на пераадоленьне перашкод, на трываласьць, на працу і цярпеньне.

Аднаўляць адзінства культуры вымушаны былі шмат якія эўрапейскія народы, што па прычыне гістарычных абставінаў і катастофаў трапілі ў неспрыяльныя ўмовы існаваньня. Тут і анямечаныя Чэхія, Вэнгрыя, Славакія; таксама Славенія і Балгарыя, Летува і Ўкраіна, Фінляндыя і Ізраіль. ***Шлях адзін – нацыянальна-культурнае адраджэньне, якое адбывалася спосабам паскоранага разьвіцьця (паскарэньня), дзе галоўнай задачай было аднаўленьне ўнівэрсальнасьці нацыянальнай мовы.***

Беларусь такі шлях ужо праходзіць другі раз. ***Першае Адраджэньне пасьля стварэньня Беларускай Народнай Рэспублікі і напачатку БССР было патоплена рускімі камуністамі ў вялікай крыві і вынішчана амаль дазваньня. Другое Адраджэньне мы перажываем цяпер. Яно рызыкуе захлынуцца з-за поўнай неадпаведнасьці ўзроўню кіруючых структураў гістарычным задачам нацыі.***

Варта мець на ўвазе, што ніякі рынак, нават самы цывілізаваны, не зацікаўлены ў разьвіцьці культуры. Культура і рынкачныя дачыненьні – антаганісты. Рынак стварае і падтрымлівае камэрцыйную, масавую культуру, г.зн. гандлёвы сурагат культуры, эрзац. Рынак дзікунскі, спэкулятыўны, паразітычны, той, што створаны цяпер у нас, здольны толькі рэпрадукаваць зады камэрцыйнай культуры, дно, кіч, адкіды масавай індустрыі перайманьня. Яго функцыя ў сістэме культуры агрэсіўна-разбуральная. І ня трэба таму зьдзіўляцца. Так было і так ёсьць усюды, дзе існуе рынак. ***Высокая культура, мастацтва, літаратура, друк і ўсё, што зьвязана з культурна-нацыянальным Адраджэньнем і разьвіцьцём, – гэта клопат грамадзянскай супольнасьці і дзяржавы. Дзяржава павінна падтрымліваць, фінансаваць нацыянальна-культурнае Адраджэньне, праводзіць дзяржаўную палітыку ў галіне разьвіцьця нацыянальнай культуры.*** Так было ўсюды. Так паўсюдна ёсьць і цяпер, акрамя Беларусі. Рынку – рынкавае, дзяржаве – дзяржаўнае. ***Культура ня можа існаваць без датацыяў, толькі сама з сябе. Гэта рэальнасьць, што вынікае з прыроды рэчаў.***

Трагедыя цяперашняга Другога беларускага Адраджэньня ў супадзеньні шэрагу неспрыяльных чыньнікаў – разбуранасьці грамадзянскай супольнасьці, традыцыяў і амаль поўнай адчу-

жанасьці ад нацыянальнай культуры беларускай посткамуністычнай дзяржавы. У такіх варунках „дзікунскі рынак", куды кінуліся, дарэчы, шматлікія „руководящие товарищи", можа даламаць тое, чаго не пасьпелі зьнішчыць камуністы.

Істотным геапалітычным пытаньнем для Беларусі ёсьць выйсьце з-пад сыравіннай, рынкавай і валютнай залежнасьці ад Расейскай Фэдэрацыі і наладжваньне зь ёй раўнапраўных дачыненьняў. Гэта трэба рабіць неадкладна, пакуль сітуацыя на ўсходзе кардынальна не зьмянілася ў горшы бок (на што спадзяюцца некаторыя былыя савецкія генэралы і палітрукі з Мінабароны і Саўміна Беларусі). У адваротным выпадку, маючы на сваёй тэрыторыі расейскую армію, будзем мець і ваенныя дзеяньні. Бяскроўная акупацыя Беларусі ўжо не атрымаецца. Расейскія вайсковыя часьці павінны быць поўнасьцю выведзеныя зь Беларусі да паловы 1994 года. ***Вывад чужога войска з нашай тэрыторыі – важнейшая задача.***

Умацаваньне „ельцынаўскай дэмакратыі" таксама нічога добрага не абяцае Беларусі і ўсім астатнім, хто застанецца ў СНД. Пра гэта некаторыя балбатлівыя расейскія „дэмакраты" ўжо выказаліся. Выкарыстоўваючы СНД, рубель і нафту, зьбіраюцца ўзмацняць націск і загон у „дэмакратычную імпэрыю".

Тым часам СНД як часовае, штучнае, пераходнае ўтварэньне ўжо вычарпала свае магчымасьці, і для Беларусі няма ніякай неабходнасьці зьвязваць сябе дагаворам з так званай Садружнасьцю Незалежных Дзяржаваў. Пэрспэктыву маюць двухбаковыя міждзяржаўныя дачыненьні. Шлях Беларусі пралягае не ў Азію, а ў эўрапейскую цывілізацыю, адкуль наш народ сілком вось ужо амаль дзьвесьце гадоў спрабавалі вырваць.

Дэзінтэграцыйныя працэсы на абшарах былога СССР – натуральныя і аб'ектыўныя. Ім недарэчна перашкаджаць. Бо рэальнай альтэрнатывы нацыянальнаму вызваленьню і незалежнасьці няма і быць ня можа, паколькі ўсе дзяржавы СНД знаходзяцца ў беднасьці, эканоміка СССР лопнула яшчэ ў 80-х гадах і цяпер дэградуе. У такіх абставінах інтэграцыйныя тэндэнцыі не ўзьнікаюць. Разьвіваюцца якраз адваротныя зьявы, як рэакцыя на выжываньне, як імкненьне да самазахаваньня. Палітычныя ж патрабаваньні „аб'яднаньня" цяпер беспэрспэктыўныя і ілюзорныя, супярэчаць сутнасьці ўзаемадачыненьняў. Мы ўсе перажываем зараз апошнюю стадыю сацыялізму – „намэнклятурызм", пераходную ўладу посткамуністычнай дзяржаўнай бюракратыі.

Эўропа пачала інтэгравацца тады, калі дзяржавы дасягнулі пэўнага высокага ўзроўню разьвіцьця вытворчасьці і зьявіліся лішкі багацьця, якое неабходна было не змарнаваць, а разумна скарыстаць для грамадзтва. Аб'ядноўваюцца заўсёды багатыя, а не бедныя. Аб'яднаньне жабракоў нічога не дае, акрамя агульнага жабрацтва і жабрацкіх сварак. Акрамя таго, у Эўропе стварыуся ўраўнаважаны баланс дзяржаваў (па тэрыторыі, колькасьці насельніцтва, эканамічнай магутнасьці і г.д. – Францыя, Нямеччына, Вялікабрытанія, Італія), чаго няма і ня можа быць у СНД. Велізарная Расейская Фэдэрацыя, ды яшчэ з імпэрскай мэнтальнасьцю, гісторыяй і палітыкай, ня мае сурёзнай супроцьвагі. У такіх варунках заціскаваньне і паглынаньне іншых дзяржаў з боку Расеі будзе аб'ектыўна ўзьнікаць увесь час, нават ад простай несуадноснасьці мас (ня кажучы ўжо пра іншае).

***СНД – гэта часовы, нестабільны і небясьпечны стан. Своечасова выйсьці з такога становішча – ёсьць важная стратэгічная задача ўсходнеэўрапейскіх дзяржаў. Ад яе ажыцьцяўленьня будзе шмат што залежаць для будучыні Беларусі, Украіны ды і ўсёй Усходняй Эўропы.***

Прадбачачы магчымае разьвіцьцё падзеяў, Беларускі Народны Фронт яшчэ ў 1989 годзе прапанаваў ідэю Балтыйска-Чарнаморскай садружнасці ці асацыяцыі. У 1990 годзе ў Менску па ініцыятыве дэпутацкай Апазыцыі БНФ адбыліся дзьве міжнародныя канфэрэнцыі па БЧС на ўзроўні парляманцкіх дачыненьняў. Распрацаваныя асноўныя прынцыпы ўзаемадзеяньня, падпісаныя дакуманты. (Што, дарэчы, выклікала тады шалёнае непрыняцьце з боку камуністаў.)

***БЧС з апорай на сярэднюю Эўропу магла б стаць пэўнай процівагай агромністай Эўраазіяцкай Расеі, ураўнаважыць баланс сілаў на ўсходзе Эўропы, стабілізаваць разьвіцьцё, гарантаваць суверэнітэт.*** Гэта вельмі неабходная і добрая ідэя (паўтаруся, яна ўзьнікла ў 1916 годзе), і грэх, калі яе не скарыстаюць, не ажыцьцёвяць шэсьць балтыйска-чарнаморскіх дзяржаваў.

Чаму ж па ўсіх агавораных вышэй пазыцыях са жніўня 1991 года не адбылося на Беларусі, практычна, ніякіх істотных зрухаў? Мне ўжо прыходзілася пра гэта пісаць. Галоўныя прычыны – эгаістычныя сацыяльныя інтарэсы посткамуністычнай намэнклятуры, што выяўляецца ў перараьзмеркаваньні („прыхватызацы") дзяржаўнай маёмасьці ў прыватную ўласнасьць дзяржаўнай бюракратыі і, другое – адсутнасьць у кіруючых структураў канцэпцыі дзяржаўнай палітыкі, заснаванай на нацыянальных інтарэсах Беларусі.

Прычыны аб'ектыўныя. Таму выправіць становішча можна толькі перамяніўшы палітыку ўлады, што магчыма шляхам новых нечарговых выбараў парляманта, якія могуць адбыцца пасьля станоўчых вынікаў усебеларускага рэфэрэндуму.

Узаемадачыненьні ў Вярхоўным Савеце перамяніліся пасьля таго, як Апазыцыя БНФ выйшла з ініцыятывай рэфэрэндуму, і асабліва пасьля таго, як былі сабраныя подпісы і правядзеньне ўсенароднага галасаваньня стала справай вырашанай. Выявілася незадаволенасьць дэпутатаў гэтым рашэньнем, у тым ліку і некаторых дэпутатаў Дэмакратычнага клюбу (тых, што у большасьці не ўваходзілі ў партгрупу КПБ). Выступілі супраць рэфэрэндуму некалькі членаў Апазыцыі і, фактычна, пакінулі яе. Стала добра відаць, што дэпутацтва для шмат якіх так званых „незалежных дэпутатаў" было ня столькі вынікам перакананьняў, палітычным чыньнікам і грамадзкім абавязкам, колькі прыватнай справай у пэўным сэнсе асабіста выгаднай, на якой рэфэрэндум, зразумела, ставіць крыж. Усё гэта пры пасіўнасьці шмат якіх дэпутатаў дало магчымасьць былой камуністычнай бальшыні ў Вярхоўным Савеце адкрыта не выконваць Закон аб рэфэрэндуме і ўвогуле актывізавацца ў барацьбе за самазахаваньне.

Намэнклятурная рэакцыя пры падтрымцы некаторых дэмакратычных дэпутатаў (пакрыўджаных на рэфэрэндум альбо ўзлаваных) пачала рэвізію раней прынятых дэмакратычных палажэньняў заканадаўства. У парадак дня ўнесена пытаньне аб аднаўленьні КПБ–КПСС. Пакрыўджаны на Апазыцыю Герой Савецкага Саюза дэпутат-генэрал-касманаўт У.Кавалёнак (на той час ўжо грамадзянін Расеі) за тое, што паднялі пытаньне аб адпаведнасьці закону дэпутацкіх паўнамоцтваў шэрагу генэралаў, назваў Беларускі Народны Фронт „настоящим фашизмом" і сарваў бурныя апладысменты намэнклятуры. У залі і потым у саўмінаўскім друку яго назвалі „нацыянальным героем". Мушу дадаць, што нацыянальныя героі, калі б такія цяпер былі, не кіруюцца у Маскву і не ад-

маўляюцца ад нацыянальнага грамадзянства дзеля маскоўскага мундзіра, акладу і цёплага месца. Нацыянальныя героі, паводзяць сябе інакш, а высакародныя людзі ўмеюць годна выходзіць з парляманту.*

Пры абмеркаваньні праекта Канстытуцыі з шырокай рэвізіянісцкай праграмай выступіла намэнклятурная партгрупа „Беларусь" і партыйныя ветэраны. Імі прапанавана вынесьці на рэфэрэндум шэраг пытаньняў. Самыя абсурдныя зь іх – гэта аб дзяржаўна-палітычным ладзе і аб рускай дзяржаўнай мове.

Пытаньні, якія простым ці ўскосным чынам ставяць пад пагрозу існаваньне і разьвіцьцё нацыянальнай мовы, на рэферэндум не выносяцца. Гэта агульнапрынята і адлюстравана ў законе Беларусі пра ўсенароднае галасаваньне. ***Мовай не распараджаецца адно пакаленьне. Мова – важнейшая зьява, чыньнік і сродак культуры. Яна належыць гсторыі, сучаснасьці і будучыні. Яе працяг у вечнасьці, і ніхто ня мае права спыніць гэты працяг, а толькі спрыяць. Гэта вышэйшы маральны закон культурнага існаваньня, замацаваны ў шматлікіх традыцыях і законах. Калі мова ў занепадзе, тады дапамагаюць яе адраджэньню. У гэтым сутнасьць культурнай палітыкі ўсялякай цывілізаванай дзяржавы,*** пра што я ўжо казаў.

Беларуская мова – гэта мова карэннага (аўтахтоннага) насельніцтва беларускай дзяржавы. Калі прадстаўнікі нацыянальных меншасьцяў, што апынуліся на Беларусі, маюць за сваёй сьпіной нацыянальныя дзяржавы, дзе жыве і функцыянуе іхняя мова, то беларускі этнас, беларуская мова можа спраўдзіцца і існаваць толькі тут, на сваёй тэрыторыі, у сваёй беларускай дзяржаве. Гэтае натуральнае права ўзаконена і не падвяргаецца сумненьню.

Таму ставіць пытаньне, як гэта робяць цяпер камуністы, пра другую дзяржаўную мову іншай дзяржавы (рускую) ёсьць палітыканства і абсурд. Зразумела, калі б такое здарылася, беларускую мову, ды і нашу дзяржаўную незалежнасьць, пачалі б душыць.

З прычыны неспрыяльных ранейшых палітычных абставінаў і русіфікацыі беларускай школы шмат якія беларусы дрэнна валодаюць беларускай мовай. Але гэта не бяда. Трэба спрыяць, каб беларускай мовай авалодалі вашы дзеці. У гэтым галоўная сутнасьць нацыянальна-культурнага разьвіцьця і адраджэньня мовы. Ніхто нікога ніколі не прымушаў, нідзе не прымушае і ня будзе прымушаць гаварыць на беларускай мове. Бо калі мова дзяржаўная, то кожны сам будзе імкнуцца яе ведаць. Дзяржаўная мова – гэта абавязак перш за ўсё для дзяржаўных афіцыйных установаў. І тут намэнклятура выглядае нізка.

Хацеў бы адзначыць адну вельмі істотную акалічнасьць. Пытаньне пра дзяржаўнасьць рускай мовы раптам узьнікла летам гэтага года пасьля рашэньня аб рэфэрэндуме, разам з актывізацыяй расейскай палітыкі адносна Беларусі і на Беларусі.

Усебеларускі рэфэрэндум пагражае ельцынаўскай Расеі стратай некаторых сваіх інтарэсаў на Беларусі. Цяперашняе беларускае кіраўніцтва расейцаў і расейскі ўрад цалкам задавальняе. На гэтай сэсіі стала вельмі выразна відаць прарасейскае праімпэрскае лобі ў нашым Вярхоўным Савеце, якое вытыркаецца з партгрупы „Беларусь" і хавае за дэмагогіяй сваю антыбеларускую дзейнасьць. Што значыць вынесьці насуперак закону, здароваму сэнсу і нацыянальным інтарэсам пытаньне на рэфэрэндум пра дзяржаўнасьць расейскай мовы на Беларусі? Акрамя міжнароднага ганьбішча, тут яшчэ і спроба ашуканства. Але я ня думаю, што беларускае грамадзтва змогуць так лёгка абдурыць розныя намэнклятурныя палітрукі.**

***Зянон ПАЗЬНЯК***

*Надрукавана: (Народная Газэта,– 1992, 29 кастрычніка)*

---

* Седзячы ў Маскве на генэральскай пасадзе, і зрабіўшыся расейскім грамадзянінам, У. Кавалёнак, згодна закону, ўжо ня меў права заставацца дэпутатам Вярхоўнага Савета Беларусі, ён не зьяўляўся на сэсіях, але не здаваў дэпутацкі мандат і лічыўся дэпутатам ВС Беларусі, пакуль Апазыцыя БНФ яго з гэтага месца не „папрасіла". Кавалёнак „закаціў" скандал. *(З.П.)*

** На жаль, тут мае спадзяваньні не спраўдзіліся. Праз тры гады „беларускае грамадзтва" якраз зганьбілі і абдурылі якраз гэбоўска-маскоўскія „палітрукі". *(З.П.)*



***63 Час бяжыць.***

# СТВАРЭНЬНЕ НАЦЫЯНАЛЬНАГА ВОЙСКА І ДЗЯРЖАЎНАЯ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦЬ*

Стварэньне нацыянальнага войска і наяўнасьць нацыянальных узброеных сілаў зьяўляецца адным з асноўных крытэрыяў суверэнітэту. Гэта абавязковая ўмова. Існуюць, праўда, і выключэньні. Але гэта характэрна толькі для карлікавых дзяржаваў зь вельмі маленькім насельніцтвам, суверэнітэт якіх ёсьць вынік сьпэцыфічных гістарычных і геаграфічных абставінаў. Для Беларусі, улічваючы яе геапалітычнае становішча і імкненьне да нэўтральнасьці, наяўнасьць моцнага войска, здольнага выконваць усе сучасныя функцыі актыўнай абароны тэрыторыі, зьяўляецца адным з важнейшых чыньнікаў суверэнітэту і нэўтралітэту. Гарантаваць рэальны суверэнітэт і нэўтралітэт павінна таксама моцнае войска, што пацьвярджаецца вопытам нэўтральных краінаў (Швэцыя, Швайцарыя і інш.). Павінен адзначыць, што ідэя нэўтралітэту ўжо ў пэўнай ступені састарэла ў агульнаэўрапейскім сэнсе пасьля распаду Варшаўскага дагавору. Але для Беларусі яна цяпер надзвычай актуальная, каб забясьпечыць свой суверэнітэт, ня даць уцягнуць сябе ў блёкавыя і геапалітычныя гульні іншых дзяржаваў, дакладней, пэўных палітычных сілаў гэтых дзяржаваў. Не магу сказаць, каб існуючы Ўрад Беларусі добра ўсьведамляў гэта. Маскоўскія пагадненьні 20 ліпеня паміж урадамі Беларусі і Расейскай Фэдэрацыі паказалі, што беларуская камуністычная намэнклятура гатовая прадаць і нэўтралітэт, і нацыянальныя інтарэсы.

Улічваючы фактар кампрадорскай ненацыянальнай пазыцыі значнай часткі цяперашняй дзяржаўнай намэнклятуры, успомнім кароткую гісторыю стварэньня беларускага войска. Яшчэ ў верасьні 1991 года Вярхоўны Савет выявіў поўнае неразуменьне ўвогуле неабходнасьці стварэньня нацыянальных узброеных сілаў, не даючы ніякіх рэкамендацыяў адначасна, што рабіць з савецкай арміяй на Беларусі. Гэта вынік невысокага палітычнага ўзроўню і дэфармаванай, нe разьвітай нацыянальнай сьвядомасьці „народных абраньнікаў”. Тады, як выявілася, нават у савецкай арміі лепш разумелі пэрспэктыву стварэньня беларускага войска. Спатрэбілася шмат марна страчанага часу, пакуль абставіны, што разьвіваліся вакол Беларусі, не прымусілі Вярхоўны Савет прызнаваць патрабаваньні і прапановы Народнага Фронту і Беларускага Згуртаваньня Вайскоўцаў, якое акурат разгарнула дзейнасьць у гэты час.



*64. Менск 1992 г. Шэсьце Беларускага Згуртаваньня Вайскоўцаў. Харугва „Вітаўт Вялікі”.*

Асноўны клопат бальшыні ваеннаслужачых савецкай арміі на Беларусі ў гэты „інкубацыйны” пэрыяд – матэрыяльны інтэрас –”што мне дадуць, калі я буду ў беларускім войску?”. Прайшоў час, і ваенная намэнклятура, якая не дапускала й думкі пра беларускае войска, усьвядоміла, што выхаду няма – беларускае войска будзе створана. Вось тут і пачаўся генэральскі ажыятаж. Барацьба за крэслы, за вакансіі, за пасады, за месца ў Міністэрстве абароны і ў вайсковых структурах пры падтрымцы Ўраду закончылася поўнай і ўсеагульнай перамогай савецкай вайсковай намэнклятуры. Усе ўзброеныя сілы падпарадкавалі Саўміну, а ў Саўміне стварылі і ўмацавалі кад-

* (Даклад прачытаны на соймавай канфэрэнцыі БНФ па вайсковых пытаньнях 25.09.1992 г.)

рамі былых партначальнікаў і палітрукоў Упраўленьне грамадзкай бясьпекі і абароны, якое і пачало кіраваць Міністэрствам абароны, вызначаць кадравую і іншую палітыку ў войску.

Палітычныя задачы, якія ажыцьцяўляе ў войску праз структуры Саўміна посткамуністычная намэнклятура, выкліканыя і акрэсьленыя, перш за ўсё, надыходзячым рэфэрэндумам. Намэнклятурная бюракратыя зараз гатова паставіць на карту ўсё, толькі б затрымаць за сабой уладу ў дзяржаве. Праводзіцца тыпова камуністычная палітыка. Ураду патрэбна войска, што было б аднародным і паслухмяным на выпадак грубых неканстытуцыйных дзеяньняў з боку Саўміна ў выніку посьпеху рэфэрэндуму і паражэньня намэнклятуры на выбарах. Менавіта гэтымі матывамі выклікана кампанія звальненьня ў запас афіцэраў беларусаў, паслухмяна падтрыманая Міністэрствам абароны, і кампанія шальмаваньня Беларускага Згуртаваньня Вайскоўцаў.

Як вядома, армейская палітыка КПСС, як і эканамічная ў эканоміцы, была падпарадкавана ня толькі задачам абароны і агрэсіі, але, перш за ўсё, задачам стварэньня і ўмацаваньня імпэрыі, імпэрскай палітыцы русіфікацыі. Беларускія хлопцы, якія ішлі служыць у савецкую армію нармальнымі людзьмі, вярталіся адтуль у большасьці ўжо русіфікаванымі, з расейскай мовай і абыякавымі адносінамі да ўсяго роднага, часта з пачварнымі чужымі ўяўленьнямі пра мараль і дачыненьні паміж людзьмі. Ня раз прыходзілася назіраць, як тое добрае, што было закладзена ў юнака сям'ёй, бацькамі, нават школай, перакрэсьлівалася двумя-трымя гадамі службы ў савецкай арміі. Камуністы, разбураючы нацыі і этнасы, акрамя таго, што атручвалі інтэлект ідэалёгіяй інтэрнацыяналізму, спэцыяльна прадугледжвалі, каб салдаты і афіцэры беларусы не служылі на Беларусі. У выніку на сёньняшні дзень у Беларускім войску працуе толькі 18 адсоткаў (прытым гэтая лічба лічыцца завышанай) афіцэраў беларусаў (каля 5 тысячаў чалавек) у той час, калі амаль 40 тысячаў афіцэраў беларусаў апынуліся за межамі Радзімы і, практычна, ня маюць магчымасьці вярнуцца на Беларусь з-за неспрыяльнай палітыкі, якую праводзяць у дачыненьні да іхняга вяртаньня Ўрад і вайсковае ведамства Беларусі, якія дзейнічаюць тут у рэчышчы расейскай палітыкі.

Вось гэты чыньнік, чыньнік скрытай палітыкі чужой дзяржавы, сувязь яе з кампрадорскімі ўрадавымі структурамі Беларусі, іграе тут, на мой погляд, вялікую ролю. Гісторыя пацьвердзіла, што, каб захаваць і ўмацаваць сваю ўладу, камуністычная намэнклятура можа ахвяраваць жыцьцём мільёнаў людзей, культурай, нацыянальным дабрабытам, дзяржаўным суверэнітэтам, толькі б забясьпечыць сваё кіраваньне і свой дабрабыт. Беларуская камуністычная намэнклятура не спадзяецца на свае сілы. Яна па традыцыі прадажная, таму схільная, каб захаваць уладу любымі сродкамі, абаперціся на чужую сілу і чужую палітыку. На прасторах Беларусі цяпер вольна дзейнічаюць разьведкі ўсяго сьвету, нават новастворaных дзяржаваў. Прыярытэтам карыстаецца расейскае КДБ і расейская разьведка, якая тут поўнасьцю валодае становішчам, а нядаўна нават заключыла фармальнае пагадненьне аб супрацоўніцтве „ў вобласьці зьнешняй разьведкі" з Камітэтам Дзяржбясьпекі Беларусі. Падрыўная дзейнасьць расейскай разьведкі стала ўжо адчувацца ня толькі ў войску, але і ў працэсах нашага грамадзтва, асабліва ў прапагандзе. Не сумняваюся, што хутка гэтая падрыўная „праца" чужой разьведкі стане прадметам абмеркаваньня ў палітычных колах і нават прывядзе да адпаведных захадаў.




***65. Менск. Плошча Незалежнасьці, 1992 г. Прыняцьце вайсковай прысягі Беларусі.***

Правядзеньне сьвята беларускай вайсковай славы і грамадзкае прыняцьце прысягі 8-га верасьня гэтага года* нанесла магутны ўдар па плянах Ураду і чужой палітыкі на Беларусі адносна войска. Рэакцыя на сьвята часткі кіруючых генэралаў і залежных ад іх асобаў была нэрвовай, істэрычнай і вельмі паказальнай. Адразу ўсё выявілася – і антынацыянальная, антыдэмакратычная ськіваванасьць кіруючых вайсковых структураў у Міністэрстве абароны і ў Саўміне, і махровы антыдэмакратызм старой вайсковай намэнклятуры, яе нянавісьць да незалежнасьці Беларусі, да беларускага адраджэнскага руху, да беларускай гісторыі, да ўсяго, што беларускае. Пасыпаліся розныя бязглуздыя звароты і прэтэнцыёзныя адкрытыя лісты,

---

* Руская разьведка, генэралы і прарасейская намэнклятура, абапіраючыся на Ўрад Кебіча, імкнуліся стварыць на Беларусі «сваё» войска, якое знаходзілася б пад уплывам і фактычным кіраўніцтвам Масквы. Урад Кебіча, стары савецкі генэралітэт, намэнклятурна-камуністычная дэпутацкая бальшыня Вярхоўнага Савета выступілі супраць правядзеньня прысягі ў беларускім войску на вернасьць беларускаму народу і Рэспубліцы Беларусь. Аднак, дзякуючы змаганьню дэпутацкай Апазыцыі БНФ, быў падрыхтаваны і зацьверджаны Вярхоўным Саветам тэкст Вайсковай прысягі беларускага Войска. Дэпутаты Апазыцыі БНФ пры падтрымцы грамадзкасьці (Беларускага Згуртаваньня Вайскоўцаў і інш.) арганізавалі 8-га верасьня 1992 г. на Дзень Беларускай Вайсковай славы ўрачыстае грамадзкае прыняцьцё вайсковай прысягі на плошчы Незалежнасьці ў Менску. Прысягу пад гукі гімнаў (іграў вайсковы аркестар) і паланэза Агінскага прымаў дэпутацкі корпус, афіцэры запасу і дзеючыя афіцэры войска, мужчыны-франтаўцы, усе грамадзяне краіны. На ўрачыстасьці прасутнічалі вядомыя, асобы, кіраўнікі і вялікія людзі Беларусі. Грамадзкае ўсенароднае прыняцьце вайсковай прысягі сталася магутным ударам па расейска-намэнклятурнай антывайскавай антыбеларускай авантуры і непасрэдна паспрыяла хутчэйшаму стварэньню і афармленьню беларускага войска. *(З.П.)*



*65. Прыняцьце вайсковай прысягі Беларусі. Зьлева напр.: Васіль Быкаў, Анатоль Грыцкевіч (другі плян), Зянон Пазьняк, Вольга Галубовіч, Артур Вольскі.*

замешаныя, як звычайна, на нянавісьці і хлусьні. Справа дайшла нават да камізму, калі былыя ваенныя палітрукі з сур'ёзным выглядам пачалі пісаць артыкулы пра беларускую гісторыю, бяздарна перапісваючы старыя камуністычныя фальсіфікаты. А Калегія Міністэрства абароны прыняла афіцыйны зварот, дзе назвала ўрачыстае грамадзкае прыняцьце зацьверджанай Вярхоўным Саветам прысягі на вернасьць дзяржаве і народу Беларусі „антыдзяржаўнай акцыяй". (Ня ведаю, ці сьведчыць гэта пра вялікую працу інтэлекту тых, хто такое склаў, тут, хутчэй, выяўленьне неадпаведнасьці займаемым пасадам).

Калі падсумаваць і прааналізаваць тое, што толькі за верасень зроблена і напісана вайсковай намэнклятурай, прыходзіш да высновы, што гэтым людзям абсалютна няма чаго рабіць у беларускім войску, ні ў цяперашнім, ні ў будучым. Войска – гэта асобая дзяржаўная структура. Вайсковы афіцэр ня можа працаваць у войску і ненавідзець незалежнасьць дзяржавы, якой служыць, нацыянальную культуру і мову народа, што гэтае войска ўтрымлівае. Гэта ня толькі не маральна, гэта алагічна. Ня можа быць войска, дзе афіцэры без прысягі. Тым часам, менавіта такое войска сьвядома створана цяпер на Беларусі.

Другое, што відаць з аналізу намэнклятурнай істэрыкі, гэта сэнс дэбеларусізацыі афіцэрскага корпусу беларускага войска. Чыноўнікі Саўміна і кіруючая частка былых савецкіх генэралаў на Беларусі хацелі стварыць за кошт Беларусі чужое войска, няздольнае абараняць пры неабходнасьці суверэнітэт дзяржавы пры пагрозе з усходу. Падрыхтоўваліся падставы для ціхай акупацыі Беларусі, якая ўжо пачалася рабіцца рукамі беларускага Савету Міністраў і захадамі расейскай дыпляматыі.

Гэтыя дзеяньні суадносяцца з зьнешнепалітычнымі захадамі Ўраду. Згодна з дакумантамі, падпісанымі 20 ліпеня ў Маскве, усе стратэгічныя войскі на Беларусі пераходзяць пад юрысдыкцыю Расейскай Фэдэрацыі не на 2 гады, як папярэдне дамоўлена было ў пагадненьнях СНД, а на 7 гадоў. Пры гэтым ніякай арэнднай платы за выкарыстаньне тэрыторыі, зямлі, палігонаў, аэрадромаў, за псаваньне прыроды і т. п. Беларусь ня будзе атрымліваць. Наадварот, сацыяльна-бытавое ўтрыманьне расейскага войска павінна будзе забясьпечваць наша дзяржава. Ніякіх пошлінаў за любыя вайсковыя транспартныя перавозкі Расея Беларусі выплачваць не будзе. Адпаведна Беларусь ня можа ажыцьцяўляць кантроль за перамяшчэньнем расейскіх войскаў на беларускай тэрыторыі. Тым часам Расея, згодна з пагадненьнямі, павінна мець поўны кантроль над разьвіцьцём і прадукцыяй беларускіх абарончых прадпрыемстваў аж да атрыманьня праектнай і тэхнічнай дакумэнтацыі.

І ўжо зусім поўным абсурдам гучыць палажэньне аб тым, што грамадзяне Беларусі будуць праходзіць абавязковую вайсковую службу ў расейскім войску. Тое, што гэта нечуванае глупства – яшчэ паўбяды. Цяжкія вынікі такога безгалоўя, бо згодна з законам аб грамадзянстве, людзі, што паступаюць на службу у чужое войска, аўтаматычна трацяць грамадзянства Беларусі. Інакш як зьдзекам над нашай дзяржавай, над нашымі законамі і над нашай нацыянальнай годнасьцю гэтыя

пагадненьні не назавеш. Аднак, калі разглядаць іх у рэчышчы эгаістычнай палітыкі камуністычнай намэнклятуры, становіцца зразумелым, чаму так цынічна прадаюцца нацыянальныя інтарэсы Беларусі.

Маскоўскія пагадненьні 20 ліпеня, дзе былі ў чарговы раз праігнараваныя ранейшыя пагадненьні па СНД, канчаткова паказалі, што ***СНД ужо вычарпала свае магчымасьці і ператварылася ў зручную шырму і падставу для імпэрскай палітыкі Расеі і палітычнага націску на іншыя дзяржавы Садружнасьці. Беларусі больш няма неабходнасьці заставацца ў СНД.*** Далейшае знаходжаньне у гэтым фармальным утварэньні паграже ужо нашай, набытай незалежнасьці, не спрыяе вяртаньню ў цывілізаваную Эўропу. Выхад з СНД і поўны вывад расейскага войска з Беларусі да 1994 года – гэта патрэбы, якія становяцца на палітычны парадак дня.

Аднак важнейшай задачай застаецца стварэньне новага беларускага войска на аснове старой савецкай арміі. Фармальна для вайсковага будаўніцтва ўжо створаны першыя элемэнтарныя магчымасьці. Аднак стары намэнклятурна-вайсковы багаж, старыя камуністычныя хваробы і балячкі старога войска плюс неспрыяльныя дзеяньні намэнклятурнага ўраду, што змыкаюцца з палітыкай чужой дзяржавы, зводзяць на нішто ўсе гэтыя фармальныя ўмовы.

Акрамя таго, карупцыя і злачынствы, што панавалі ў савецкай арміі, цяпер шырока распаўсюдзіліся і дасягнулі незвычайных памераў. У сувязі з гэтым вельмі нізка ўпала мараль, дысцыпліна, годнасьць афіцэра. Адбылося зьмяшаньне маральных і немаральных крытэрыяў, паняцьцяў. Нават лепшыя людзі здольныя дзеля добрых мэтаў карыстацца неганаровымі сродкамі, блытаючы маральныя памкненьні з адказнасьцю і маральнымі абавязкамі.




*67. Група афіцэраў Беларускага Згуртаваньня Вайскоўцаў.*

Аднак не наліваюць у старыя мяхі віно маладое. Змагацца з карупцыяй трэба будзе ня толькі законам, выкананьнем закона, але і кадравай палітыкай, і сістэмай выхаваньня, і стварэньнем новых структураў, іншай сістэмы кіраўніцтва і падпарадкаваньня. Старая савецкая армія, што раптам цяпер махрова разбуяла на Беларусі, павінна быць паступова зьліквідаваная, адначасна са стварэньнем на яе месцы і на яе аснове новага беларускага войска, сфармаванага па грамадзянскіх крытэрыях, без нацыянальнага бяспамяцтва і камуністычна-расейскага шавінізму, вернага і адданага сваёй дзяржаве і народу, якому яно прыносіць прысягу, шануе яго культуру, мову, народныя здабыткі, не пагарджае яго працай.

У мяне не выклікае ніякага сумненьня, што дзяржава не павінна вырашаць сацыяльныя праблемы тых ваеннаслужачых і тых намэнклятурных генэралаў, што, будучы ў беларускіх узброеных сілах, не прынялі вайсковую прысягу на вернасьць Беларусі, тых вайсковых асобаў, што зьневажаюць нашу дзяржаву, наш сьцяг і гэрб, наш народ, яго мову, гістарычныя і культурныя каштоўнасьці. Такія людзі выпадковыя ў войску. Гэтыя палажэньні павінны быць адлюстраваныя ў законе аб сацыяльнай абароне вайскоўцаў, які трэба ўводзіць у дзеяньне толькі пасьля прыняцьця прысягі. Адданасьць дзяржаве, народу, лаяльнасьць да яго мовы і культуры павінны быць адлюстраваныя як абавязковае патрабаваньне ў законе аб войску.

Мяркую, што асаблівую ўвагу трэба зьвярнуць на вайсковых спэцыялістаў. Пры скарачэньні войска яны павінны карыстацца прыярытэтам захаваньня на пасадах.

Старыя камуністычныя палітрукі не павінны весьці палітычна-выхаваўчую працу ў войску, ня ведаючы беларускай мовы, не прайшоўшы спэцыяльных адукацыйных курсаў перападрыхтоўкі і штогодняй атэстацыйнай камісіі на прафэсійную годнасьць.

Акрамя таго, некаторым службам і абслузе ў войску трэба надаць грамадзянскі статус. Тут будзе і эканомія сродкаў, і захаваньне працоўных месцаў для вайскоўцаў.

Лічу, што Міністэрства абароны трэба перападпарадкаваць Вярхоўнаму Савету, каб пазьбегнуць канцэнтрацыі ўсіх сродкаў улады ў руках аднаго Саўміна. Упраўленьне грамадзкай бясьпекі і абароны Савета Міністраў павінна быць зьліквідаванае з-за непатрэбнасьці. Гэта лішняя структура. Пытаньнямі бясьпекі і абароны абавязаны займацца адпаведныя міністэрствы.

Вялікую ўвагу трэба зьвярнуць на ваенныя вучэльні і на нармальнае гуманітарна-патрыятычнае выхаваньне вайсковай афіцэрскай зьмены. ***Не павінна беларуская вайсковая вучэльня называцца „суводаўскай". Гэта зьняважліва і ганебна. Вучэльню трэба рэфармаваць у вайсковы калегіум імя Вялікага гетмана Канстанціна Астрожскага і спрыяць таму, каб адтуль выходзілі сапраўдныя сыны Бацькаўшчыны з цьвёрдымі паняцьцямі пра беларускі афіцэрскі гонар і нацыянальную годнасьць.***

Ствараючы нацыянальнае войска, трэба памятаць ня толькі пра забесьпячэньне гарантыяў нашага дзяржаўнага суверэнітэту, але і пра будучыню нацыі, пра яе духоўнае здароўе, бо праз войска праходзіць большасьць мужчынаў нашай дзяржавы, прытым у такім узросьце, калі фармуюцца жыцьцёвыя схільнасьці і ідэалы. Старая савецкая армія дзейнічала як малатарня, ламаючы душы маладых і ў цэлым псавала маральнае і інтэлектуальнае здароўе грамадзтва. Беларускае войска ня можа быць такім. Яно павінна даць людзям больш, лепшы выбар, шырэйшыя магчымасьці для асобы, без фальшы і нянавісьці. Ёсьць краіны, дзе гэта дасягнута, і я ўпэўнены, так будзе і ў нас. Але ўсіх нас, усё грамадзтва чакае дзеля гэтага вялікая цяжкая і мужная праца. Яна ажыцьцёвіцца, бо ўжо ёсьць людзі, што прысягнулі Беларусі сэрцам і здольныя пастаяць за Радзіму і за сябе.

***Зянон ПАЗЬНЯК***

*Надрукавана: (Выбар,– 1992, кастрычнік, (№ 20(26)*

# ПРА НЕЗАКОННУЮ ЗАБАРОНУ РЭФЭРЭНДУМУ НА БЕЛАРУСІ АБ НОВЫХ ВЫБАРАХ

***(Выступ у Эўрапарляманце. 1992 г.)***

Глыбокапаважаныя спадарыні і спадары. Дазвольце выказаць задавальненьне і ўдзячнасьць з нагоды прадстаўленай мне магчымасьці выступіць перад вамі – дэпутатамі Эўрапарляманту. Прызнаюся, я меў патрэбу ў такім выступленьні ад імя дэпутацкай Апазыцыі Беларускага Народнага Фронту ў Вярхоўным Савеце Беларусі. Бо ёсьць каштоўнасьці, якія аднолькава дарагія і патрэбныя ўсім. Гэта – свабода, дэмакратыя, правы чалавека, павага да закону, дзяржаўная незалежнасьць. Кожны чалавек, кожны народ мае права на гэтыя каштоўнасьці, валоданьне якімі набліжае нас да супольнасьці вольных народаў.

У 1918 годзе, больш чым праз сто гадоў расейскай няволі, Беларусь вярнула сваю незалежнасьць. Аднак у канцы 1918 года яна была зноў акупаваная войскам бальшавіцкай Расеі і толькі праз 73 гады ў жніўні 1991 г. змагла аднавіць страчаны суверэнітэт на 2/3 сваёй тэрыторыі ў межах былой Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі.

У жніўні 1991 года на Беларусі, дзякуючы намаганьням Народнага Фронту (у парляманце і ў грамадзтве) і агульнай сітуацыі распаду СССР, была спыненая дзейнасьць структураў КПСС. Але ўся заканадаўчая, выканаўчая і мясцовая ўлада аўтаматычна засталася ў дзяржаўнай камуністычнай намэнклятуры. Вярхоўны Савет, урад, суд, пракуратура, уся сістэма выканаўчай улады засталіся на Беларусі тыя ж, што і пры партыйнай уладзе КПСС – тыя самыя людзі, тыя ж сувязі, тыя ж узаемадачыненьні. Посткамуністычная намэнклятура зразумела, што сіла яе ўлады ўжо не ў КПСС, а ў маёмасьці, у валоданьні дзяржаўнай уласнасьцю. Яна пачала праводзіць сваю палітыку, якая заключаецца ў незаконным пераразьмеркаваньні дзяржаўнай маёмасьці ў прыватную ўласнасьць намэнклятуры.

Раскраданьне ўласнасьці адбываецца дваякім спосабам: шляхам махінацыяў і парушэньня закона, і шляхам карпаратыўнай дзейнасьці, калі ствараюцца антыдзяржаўныя законы ў інтарэсах вузкага кола дзяржаўнай бюракратыі. Вось чаму на Беларусі затармазіліся рыначныя рэфэрмы, разьвіцьцё рыначных дачыненьняў і дэмакратычнае дзяржаўнае будаўніцтва. Уся ўлада ў Рэспубліцы Беларсь, зьверху да нізу, знаходзіцца поўнасьцю ў руках старой посткамуністычнай намэнклятуры і састарэлых аджылых дзяржаўных структураў, сфармаваных пры ўладзе КПСС, няздольных дзейнічаць у новых умовах незалежнай дзяржавы.

Рэспубліка Беларусь дастаткова разьвітая ў эканамічных адносінах дзяржава зь вялікімі прамыслова-індустрыяльнымі фондамі і вытворчым патэнцыялам у эканоміцы, сельскай гаспадарцы, навуцы, з добрым запасам навукаёмкай вытворчасьці і інтэлектуальнай сфэры. Гэта была ў СССР рэспубліка-донар, што вытварала больш, чым спажывала, якая ўвозіла сыравіну і вытварала тавары, канечны прадукт. Аднак эканоміка яе ў значнай ступені была з'арыентаваная не на ўнутраныя патрэбы і інтарэсы Беларусі, а на імпэрскія абшары Савецкага Саюза. Больш 70 адсоткаў беларускага экспарту прыпадае на Расею. У той жа час Расея зьяўляецца адзіным пастаўшчыком нафты і газу на Беларусь. (Здабыча сваёй нафты невялікая – 25 адсоткаў ад гадавой энэргетычнай патрэбы і 9 адсоткаў ад эканамічнай патрэбы.) Такое становішча, асабліва ўлічваючы імпэрскую палітыку Расеі, вельмі небясьпечнае для Беларусі. Тут неабходна было перамяніць, пераарыентаваць патокі рэсурсаў і вытворчасьці, умацаваць суверэнітэт Беларусі, зыходзячы з нацыянальных інтарэсаў дзяржавы, адчыніць дарогу рынкавым рэфэрмам у эканоміцы і дэмакратычным пераўтварэньням.

Аднак прайшоў год, і ні Вярхоўным Саветам, ні ўрадам ня зроблена, парктычна, нічога ў гэтым накірунку. Большасьць канструктыўных прапановаў Апазыцыі Народнага Фронту ў Вярхоўным Савеце адмяталася з парогу. Ня вырашанае пытаньне пра прыватную ўласнасьць на зямлю, няма закона аб прыватызацыі, сабатуецца стварэньне нацыянальнай фінансава-крэдытнай сістэмы і пераход на ўласную валюту. Сьледаваньне ўраду ў хвасьце расейскай палітыкі прывяло да бурнага росту інфляцыі, да некіруемага росту цэнаў, да рабаваньня сыравіны і багацьця дзяржавы, да катастрафічнага дэфіцыту бюджэту, да зьбядненьня насельніцтва, да беспрацоўя, да згортваньня дэмакратычных пераменаў.

Выхад з гэтакага становішча быў толькі адзін: зьмена старога камуністычнага кіраўніцтва на дэмакратычны парлямант і дэмакратычны ўрад шляхам нечарговых выбараў. Такая магчымасьць узьнікла пасьля прыняцьця закона Аб усенародным галасаваньні (рэфэрэндуме).

У пачатку 1992 года стараньнямі Беларускага Народнага Фронту і дэмакратычных партыяў была створана Ініцыятыўная група па правядзеньні рэфэрэндуму аб роспуску камуністычнага Вярхоўнага Савета і правядзеньні нечарговых выбараў парляманта. У вызначаны тэрмін было сабрана больш чым 442 тысячы подпісаў (па Закону неабходна 350 тысячаў). Падпісалася больш 6 адсоткаў выбаршчыкаў. Збор подпісаў адбываўся пры моцных перашкодах з боку ўладаў. Тым ня менш Ініцыятыўная група рэфэрэндуму скрупулёзна выканала задачу, прытрымліваючыся сэнсу і літары Закона. Закон нідзе ня быз парушаны.

Цэнтральная камісія па рэфэрэндуму, якая прызначаецца Вярхоўным Саветам, праверыла, згодна Закона, правільнасьць сабраных подпісаў, прызнала іх законнасьць і сапраўднасьць і адлюстравала гэта ў Заключэньні – дакуманце, якім прымаецца рашэньне аб правядзеньні рэфэрэндуму. Згодна Закона аб рэфэрэндуме (артыкул 14), Вярхоўны Савет пасьля атрыманьня такога Заключэньня Цэнтральнай камісіі па рэфэрэндуме павінен **прызначыць дату** правядзеньня рэфэрэндума, альбо сам прыняць рашэньне, якое прапануецца на рэфэрэндум.

Такім чынам, Ініцыятыўнай групай па рэфэрэндуму і дэмакратычнымі сіламі Беларусі (з датрыманьнем усіх патрабаваньняў Закона) працэс выхаду на рэфэрэндум быў даведзены да лягічнага і юрыдычнага завяршэньня. У Вярхоўнага Савета не было іншага выйсьця, як выканаць Закон, Канстытуцыю і прызначыць дату рэфэрэндуму. Камуністычная намэнклятура была загнаная ў кут сваімі ж уласнымі законамі, якія выканаў народ.

І тут намэнклятура пацьвердзіла сваю бальшавіцкую прыроду, непавагу да закона, да правоў чалавека, да думкі народа. У канцы красавіка 1992 г. Вярхоўны Савет, каб не разглядаць пытаньне пра рэфэрэндум, раптоўна, парушыўшы пры гэтым рэглямант, спыніў сэсію і распусьціўся на паўгадавыя каніку-

лы. Калі ж праз паўгода прышлося ўсё ж сабрацца і вырашаць пытаньне аб прызначэньні даты рэфэрэндуму, намэнклятурна-камуністычная большасьць Вярхоўнага Савета, якая складае 86 адсоткаў усіх дэпутатаў, груба і цынічна парушыла Закон, Канстытуцыю Беларусі, правы людзей, забараніла рэфэрэндум, адхіліла яго правядзеньне. Гэта адбылося 29 кастрычніка 1992 года.

У пастанове Вярхоўнага Савета пры гэтым мае месца адкрытая фальсіфікацыя, галаслоўнае сцьверджаньне аб быццам бы парушэньні Закона Ініцыятыўнай групай, без спасылкі на якія-небудзь доказы, рашэньні, палажэньні Закона.

Ацэнка рашэньня аб адхіленьні рэфэрэндума і грубага парушэньня Вярхоўным Саветам Беларусі Канстытуцыі, Закона пра рэфэрэндум дадзена Народным Фронтам, парляманцкай Апазыцыяй БНФ і Ініцыятыўнай групай рэфэрэндуму ў адпаведных дакумантах, зваротах і заявах, якія часткова надрукаваныя. Паколькі на рэфэрэндум вынесенае пытаньне пра роспуск камуністычнага Вярхоўнага Савета і пра нечарговыя выбары, вынік рашэньня Вярхоўнага Савета ёсьць ня што іншае, як незаконнае ўтрыманьне ўлады і фактычная ўзурпацыя яе посткамуністычнай намэнклятурай. 29 кастрычніка 1992 г. Вярхоўны Савет Беларусі, фактычна, паставіў пад сумненьне сваю легітымнасьць.

Апазыцыя БНФ прышла да высновы аб неабходнасьці заставацца, аднак, ў Вярхоўным Савеце легітымнай яго часткай, заняўшы жорсткую крытычную пазыцыю, ня лічачы абавязковым для сябе прымаць удзел у галасаваньні, але крытыкаваць, кантраляваць прыняцьцё законаў, назіраць і дамагацца адмены антыканстытуцыйнай пастановы. Асноўная цяжкасьць працы пераносіцца за сьцены Вярхоўнага Савета, дзе галоўным стане стварэньне камісіяў па кантролю за раскраданьнем дзяржаўнай уласнасьці намэнклятурай, фармаваньне новых і ўмацаваньне існуючых дэмакратычных структураў, выбарчых камісіяў па рэфэрэндуме.

Што датычыць палітычнай заявы Вярхоўнага Савета пра парляманцкія выбары вясной 1994 г. пасьля прыняцьця новай Канстытуцыі – гэта блеф.

Справа нават ня ў тым, што дзяржавай кіруюць крымінальнымі мэтадамі. Камуністычны ўрад Беларусі, пад уплывам якога знаходзіцца Вярхоўны Савет, дамагаецца праз сваё лобі рэанімацыі структураў КПСС-КПБ на Беларусі. Пытаньне пра гэта пастаўлена ў парадак дня 10-й сэсіі, якая адбываецца. Яны сур’ёзна думаюць пра рэанімацыю старога камуністычнага рэжыму на Беларусі, пра аднаўленьне СССР, зьнішчэньне нэўтралітэту Беларусі, ваенны саюз з Расеяй і т.п.

Нам абходзяць пытаньні дэмакратычных каштоўнасьцяў, якія на нашай Бацькаўшчыне трэба яшчэ ўсталёўваць і абараняць. Мы ўдзячныя Злучаным Штатам Амэрыкі за ўвагу да праблемаў дэмакратыі, законнасьці і правоў людзей на Беларусі, вынікам чаго была нота ЗША Міністэрству Замежных справаў Беларусі, дзе выказана шкадаваньне і занепакоенасьць ігнараваньнем волі людзей і забаронай рэфэрэндуму на Беларусі.

Нельга дапусьціць рэстаўрацыі камунізму ў нашай краіне. Мы поўныя рашучасьці змагацца за аднаўленьне законнасьці і адмену антыпраўнага, антыканстытуцыйнага рашэньня Вярхоўнага Савету, разумеючы ролю Беларусі ў гэтай частцы Эўропы, шансы і пэрспэктывы беларускага нацыянальна-дэмакратычнага Адраджэньня. Мы спадзяемся, што падзеі з забаронай рэфэрэндуму на Беларусі не застануцца па-за ўвагай Эўрапейскай дэмакратычнай супольнасьці.

***Зянон Пазьняк***

*1992 г. Брусэль*




***68. Жнівень 1991 год.***

# 1993

## „МЫ ВЫЙДЗЕМ ШЧЫЛЬНЫМІ РАДАМІ”

Бальшавіцкую сістэму першай стала тараніць моладзь. Пачалося з песьні, зь любові да роднага слова, да сьведчаньняў даўніны. Успалашыліся парторганы, КДБ, міліцыя. Татальнае сачэньне. Напады на кватэры, дзе зьбіраліся пасьпяваць і пагаварыць маладыя. Машыны, сабакі і вадамёты супроць купальскіх вогнішчаў. Злосьць, шаленства і лютая нянавісьць да дзяцей, якія азваліся беларускай мовай і песьняй. А ў выніку перамаглі тыя, што сьмяяліся і сьпявалі. Мілыя, слаўныя хлопцы і дзяўчаты.

Ці была ў нас сьпеўная рэвалюцыя? Была. Толькі не гучэла яна на плошчах сотнямі тысячаў галасоў, як у Латвіі ці Летуве, бо пачыналася ў хворым ад саветаў народзе. Народ, якому заняло мову, ня можа сьпяваць. Наша песьня выходзіла з хатаў, з маладых сэрцаў, падымалася з падпольля, зь нізінаў, з далёкіх дарог, ад зруйнаваных сьвятынь, дзе не відаць было кадэбісцкіх вушэй, не гучэў прапагандысцкі брэх.

Наша добрая моладзь ладзіла талаку і танок. Шырылася песьня, гучэла сярод муроў. Тады накіравалі супроць яе ўсіх засьлепленых, усё, што не паддаецца лячэньню ні словам, ні гукам, ні ласкай. Ды дарэмна, аднак, бо:

*„Проці цячэньня вады*
*Зможа толькі жывое паплыць,*
*Хвалі ж ракі заўсягды*
*Тое цягнуць, што скончыла жыць”.*

Так мовіў вялікі паэт. Менавіта наша жывая здаровая моладзь першай пайшла за Пагоняй, першай узьняла наш сьвяты Бел-Чырвона-Белы, нацыянальны сьцяг. Гэта здарылася 30-га кастрычніка 1988 года ў полі пад Курапатамі ў акружэньні батальёнаў міліцыі і савецкіх унутранных войскаў. „Жыве Беларусь!” – гучэла тады, як малітва, як „Ойча наш”, як прызнаньне ў каханьні. Вецер і сьнег над дратамі, над мерзлай зямлёй, над вяршынямі хвояў, над Курапатамі... Жыве Беларусь!

*„Рушымся, брацьця, хутчэй*
*Ў бой з жыцьцём, пакідаючы жах,*
*Крыкі пужлівых людзей*
*Не стрымаюць хай бітвы размах...”*

Хіба можна стрымаць Пагоню? Хто можа запярэчыць рыцару? Угледзьцеся ў гэтыя ўзьнёслыя маладыя прыгожыя аблічы. Гэта было ў Вільні праз пару месяцаў пасьля „30-га кастрычніка” на Другім Вальным Сойме беларускіх маладзёвых суполак. Яны сьпяваюць: „Фронт, Фронт, Фронт, ён мае і тваё Адраджэньне...”



***69. 2-гі Вальны Сойм Беларускіх Моладзевых Суполак. Вільня, 1989 г.***

Гэй вы, па закутках, у каморах і крамах па-над сьмецьцем дзён, слухайце, Фронт ідзе! Сьвежы вецер веснавы вее над нашай зямлёю. Ніхто не ўцячэ ад ветру, як ніхто не схаваецца ад самога сябе.

Мерна гучаць крокі, важка, днём і ўначы, на зямлі і на небе. Уздымаюцца. Капаюць кроплі на замшэлы бэтон. Раз-два, раз-два, раз-два... Трапечуць харугвы – „Мы выйдзем шчыльнымі радамі”.

***Зянон Пазьняк***

*Надрукавана: („Навіны Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне”,– 1993 г., студзень, №1(36)*

# БЕЛАРУСЬ, РАСЕЯ, СНД

У паездках па Беларусі, спатыкаючыся з выбаршчыкамі, прыходзіцца чуць у розных месцах шмат аднатыпных пытаньняў. Відаць, людзі ня маюць належнай інфармацыі па асобных галінах ведаў альбо атрымліваюць скажоныя зьвесткі. На некаторыя пытаньні паспрабую папулярна адказаць у гэтым артыкуле, выкарыстаўшы таксама меркаваньні сваіх калег па БНФ (напрыклад, С. Гусака пра перамену энэргетычнага забеспячэньня, Л. Баршчэўскага пра інтэграцыю ў Эўропе) і выказанае раней. Думаю, аднак, што паўтарэньне не зашкодзіць, асабліва калі іншыя паўтараюць адваротнае.

Галоўным пытаньнем для Беларусі, пачынаючы з XIII стагоддзя, зьяўляецца пытаньне дачыненьняў з Усходам. Узьнікла яно са зьяўленьнем коньніцы манголаў пад сьценамі беларускіх гарадоў, а потым, пасьля адбіцьця мангольскай навалы, – з утварэньнем Залатой Арды, затым Маскоўскай дзяржавы і Расейскай імпэрыі. Беларусь, знаходзячыся на ўсходнім краі эўрапейскай цывілізацыі, вымушана вяла няспынныя абарончыя войны з агрэсіўным суседам. У той час, калі наша дзяржава распрасьціралася ад Балтыйскага да Чорнага мора, ствараючы ўсходні пояс Эўропы, дачыненьні з Расеяй ня мелі для Беларусі фатальнага выніку, нават улічваючы адвечнае становішча паміж Сцылай і Харыбдай (Расеяй з усходу, Нямеччынай і Польшчай з захаду). Фатальны зыход пачаўся тады, калі Сцыла і Харыбда аб’ядналі свае намаганьні. XVIII стагоддзе – мядовы час яднаньня расейска-нямецкіх дынастыйных і геапалітычных інтарэсаў. У канцы стагоддзя гэта прывяло да падзелу тэрыторыяў паміж трыма імпэрыямі – расейскай, прускай і аўстрыйскай. Рэч Паспалітая разам зь Вялікім Княствам Літоўскім перасталі існаваць. Зьнік „усходні пояс Эўропы”, і сябры-швагры-супернікі з усходу і захаду, задаволеныя і падазроныя, сталі адзін супраць другога.

Дзялілі яшчэ сто гадоў. Дзялілі ў першую сусьветную вайну ў Берасьці і ў Рызе. Перадзельвалі ў 1939-м і 1941-м. І ўвесь гэты час, негледзячы ні на што, не зьнікаў нямецка-расейскі альянс, ён дасягнуў асаблівай шчыльнасьці паміж фашыстамі і бальшавікамі. Яшчэ б трохі, і ўвесь сьвет быў бы ў руках двух параноікаў. Аднак па крымінальнай лёгіцы нехта зь іх павінен быў першы сапсаваць „справу”. Сапсаваў Адольф. І так кардынальна, што амаль 200-гадовае нямецка-расейскае супрацоўніцтва і таемнае сяброўства разьляцеліся ўшчэнт. У гэтым галоўная перамена ў Эўропе і галоўны палітычны вынік Другой сусьветнай вайны. Зьвер узмацнеў... І застаўся адзін. Яму супрацьстаяў цяпер увесь вольны сьвет.

Нашаму пакаленьню выпала доля прысутнічаць пры кананьні гэтага крывавага зьвера – поўраспадзе апошняй імпэрыі. Беларусь здабыла ўнікальны гістарычны шанц адраджэньня сваёй незалежнай дзяржавы. Палітычны вопыт гісторыі, пра які я распавёў, паказвае, што цяпер, як ніколі, Беларусі неабходна і выгадна бало б, пакуль сітуацыя не перамянілася, наладжваць сьціслыя стасункі з адроджанай хрысьціянскай дэмакратычнай Нямеччынай. Падлікі і разважаньні паказваюць таксама, што пакуль не ўзмацнілася Расея, з усіх заходніх дзяржаваў Нямеччына магла б стаць найбольш зручным эканамічным партнёрам для Беларусі. Гэтае партнёрства цяпер стасуецца як узаемавыгаднае. Важным захадам было б стварэнне ўмоў для нямецкіх інвестыцыяў. Такія ўмовы, аднак, можна стварыць, правёўшы шэраг эканамічных і заканадаўчых рэформаў, сярод якіх пытаньне аб прыватнай уласнасьці на зямлю і прыватызацыя – галоўныя. Аднак зразумела, што ў бліжэйшы час, пакуль існуе такі анахранізм, як камуністычна-намэнклятурная (да таго ж дэмаралізаваная і не валодаючая статусам легітымнай улады) большасць у Вярхоўным Савеце, рэформы не адбудуцца.

Ад унутраных рэформаў эканомікі і рэформаў улады залежыць цяпер нашая зьнешняя палітыка на Захадзе і асабліва на Усходзе. Нагадаю сітуацыю: беларускія пастаўкі прамысловых і харчовых тавараў у Расею складаюць больш 70 адсоткаў усяго нашага нацыянальнага экспарту, прытым многія тавары (напрыклад, мяса) мы пастаўляем выключна ў Расею (назавем гэта залежнасць-1). У той жа час такія энэргарэсурсы, як нафту і газ, а таксама метал, мы атрымліваем выключна з Расеі (залежнасць- 2). Знаходзячыся ў зоне распаўсюджваньня расейскага рубля (дзякуй Богу, гэтая зона ўжо развальваецца) і не валодаючы эмісіяй, ня маючы ўласнай нацыянальнай валюты, мы поўнасьцю залежым ад усіх хваробаў расейскай эканомікі, ад эканамічных авантураў яе ўраду, ад капрызаў і дзеяньняў яе палітыкаў (залежнасць- 3).

Дзяржава ня можа ў такіх варунках багацець. Праца і дзейнасьць беларусаў трацяцца надарэмна, колькі б і як бы добра яны ні працавалі. Плён працы распыляецца па вялізных рублёвых абшарах, па замежных чорных рынках у спэкулятыўных каскадах пасрэдніцкіх перапрадаўцаў і да т.п. У такіх варунках не адбываецца накапленьня капіталу, прыўлашчаная ж на інфляцыі грашовая масса пераводзіцца дзеячамі „дзікунскага рынку” ў цьвёрдую валюту і ўкладаецца ў замежныя банкі (у асноўным нямецкія і швайцарскія). Такім чынам, частка грошай у нашы банкі не вяртаецца. Вось вам адзін з вар’яцкіх парадоксаў беларускай эканамічнай залежнасьці, інфляцыі і неадпаведных законаў. Камэрсанты Беларусі – краіны з нерэфармаванай эканомікай – фактычна, падтрымліваюць эканоміку багатых краінаў Эўропы (Нямеччыны і іншых). З багатых жа краінаў на Беларусь едуць аўтамабілі з гуманітарнай дапамогай насельніцтву – лякарствы, адзеньне, цукеркі, алей... Гэта пачатак афрыканізацыі, ператварэньня ў залежную краіну.

Нагадаю яшчэ пра характар нашай вытворчасьці, з’арыентаванай на былы СССР і на прывазную сыравіну, пра мясны ўхіл сельскай гаспадаркі з той жа аднабаковай арыентацыяй, каб стала зразумелым, якія жыцьцёва неабходныя захады ва ўнутраным разьвіцьці і ў зьнешняй палітыцы павінна б была ажыцьцявіць Беларусь.

Погляды БНФ на пэрспэктыўнае разьвіцьцё дзяржавы і незалежнасьці шмат у чым пераклікаюцца з палітыкай Народнага Фронту Эстоніі і створанага ім ураду. Невыпадкова аб становішчы справаў у Эстоніі поўнае маўчаньне ў беларускім урадава-манапольным друку. Посьпехі там відавочныя.

За два гады эстонцы зрабілі тое, што на Беларусі трэці год убівае ў намэнклятурна-савецкія галовы Беларускі Народны Фронт. Падрыхтавана фінансава-крэдытная сістэма і ўведзена эстонская крона. Прытым хутка пераарыентавана сістэма эканамічных прыярытэтаў, перабудаваныя балянсы паставак і дачыненьняў па экспарту-імпарту. Калі раней гэты балянс Эстоніі з Расеяй складаў больш за 30 адсоткаў, то на канец 1992 – менш 15-ці. Затое з Фінляндыяй узрос да 60-ці адсоткаў, зь Нямеччынай – больш за 12, з Швэцыяй – каля 9-ці і г.д. Эстонія „прывязалася” да нямецкай маркі. Пасьля ўвядзеньня кроны летам 1992 года інфляцыя эстонскай валюты кожны месяц зьніжалася напалавіну. Цяпер крона ўваходзіць у трыц-

цатку стабільна канвэртуемых валютаў сьвету, перагнаўшы ў гэтым карэйскую і філіпінскую. Японія прыняла рашэньне ўкладваць інвэстыцыі ў эстонскую эканоміку, убачыўшы гарантыі. Па ўзроўню сярэдняй зарплаты (на восень 1992 года) і па ўзроўню жыцьця (калі лічыць па спажывецкім кошыку) Эстонія ўжо ў 3,5 разоў пераганяе Беларусь, дзе жыцьцёвы ўзровень прадаўжае апускацца, намэнклятура працягвае красьці, а большасьць абалваненага прапагандай насельніцтва працягвае маўчаць, практыкуючыся ў нянавісьці да самых сябе, сваёй дзяржавы, незалежнасьці і нават (сорамна казаць – сусьветны фэномен!) да сваёй мовы. Замест імкненьня да адраджэньня, да свабоды, да паправы - тэндэнцыі да самаедства. Зрэшты, „феномен" гэты вядомы – спадчына каляніяльнага ладу думак і адсутнасьць сьпелай нацыянальнай сьвядомасьці, гэта значыць асэнсаваньня сваёй народнай ідывідуальнасьці ў адзінстве і ў сувязі з развіцьцём нацыянальнага грамадзтва і культуры.

Праўда, Эстонія – маленькая краіна з культурным, салідарным і гераічным народам. Працэсы эканамічнага абнаўленьня ў малых краінах па зразумелых прычынах ідуць значна хутчэй. Каб выйсьці, напрыклад, па ўзроўні жыцьця на „зыходныя рубяжы" такой краіны, як Фінляндыя, Беларусі пры нармальным ходзе справаў спатрэбіцца не менш 5–6 гадоў, агромністай Расіі – нашмат болей.

Справа там, аднак, ня толькі ў аб'ектыўнай запаволенасьці працэсаў. Справа ў праблематычнасьці дэмакратыі ў Расеі. Пэрспэктывы дэмакратыі на ўсходзе Эўропы канчаюцца там, дзе зьнікае павага і самакаштоўнасьць чалавечай асобы; там, дзе гістарычна спынілася распаўсюджаньне „магдэбургскіх" гарадоў, гэта значыць па ўсходняй этнічнай мяжы Беларусі і Ўкраіны. Уся гісторыя Расеі была вельмі жорсткай, тыранічнай, крывавай і таталітарнай. У ёй адсутнічаў нават мінімальны вопыт дэмакратыі, нават на ўзроўні ідэяў (ня будзем блытаць тут антытыранічныя, антытаталітарныя памкненьні з дэмакратычным усьведамленьнем). Ідэя, што аб'ядноўвала ўсё – чалавека, рэлігію, дзяржаву, – гэта ўсьведамленьне сябе імпэрыяй, экстэнсіўная псіхалёгія, скіраваная на зьнешняе разьвіцьцё дзяржаўнай сістэмы, дзе чалавек заставаўся толькі функцыяй гэтай сістэмы. У такіх напаўазіяцкіх умовах фармавалася своеасаблівая імпэрская мэнтальнасьць расейскага жыхара.

Лібэральныя забурэньні ў Расеі і крытыка рэжыму зыходзілі амаль выключна ад людзей заходняй арыентацыі („западников"), знаёмых з жыцьцём і каштоўнасьцямі Эўропы.

Гэтая лінія, закладзеная ў Расеі спачатку беларусамі, а потым немцамі і рэформамі цара Пятра I (шалёнага), датрывала да сёньняшняга дня. Лібэральныя, свабодалюбныя выступленьні „западников" заўсёды прыўносілі нестабільнасьць, дыскамфорт у расейскае грамадзтва. „Западники" заўсёды цярпелі паражэньне, і пасьля гэтага расейскае грамадзтва зноў дасягала рэжымнай стабільнасьці. Так было ў 1812, у 1825, у 1831, у 1864, у 1906, у 1917, у 1921 гадах. Падобнае адбываецца ў Расеі і цяпер. Таталітарызм – найбольш стабільны стан імпэрыі.

Імпэрская мэнтальнасьць, імпэрыялістычная палітыка – і дэмакратыя – несумяшчальныя. І не мае значэньня, як і што пры гэтым гаворыцца расейскімі палітыкамі. Дэмакратыя для Расеі – гэта хутчэй „прывід". У Расеі адбываецца чарговая зьмена рэжымаў, і задачы дзяржаваў (якія вызваліліся з-пад акупацыі) – не расьціць ілюзіяў і не спазьніцца са сваімі інтарэсамі.

Ня мець ілюзіяў, значыць не спадзявацца, што ўсё ўладкуецца само сабой ці нехта „нам" дапаможа. Трэба не спазніцца стаць на ногі, умацаваць дзяржаву, пераарыентаваць і рэфармаваць эканоміку, падняць культуру, умацаваць мараль.

Трэба не спазьніцца навязаць добрыя двухбаковыя стасункі з суседзямі, і ў тым ліку раўнапраўныя, цывілізаваныя дачыненьні з Расеяй праз моцную і цывілізаваную мяжу. Дарэчы, вось тут якраз і пачынаецца найбольш злосны і фальшывы лямант каляніяльных мастадонтаў, шавіністаў і проста нядобразычліўцаў, якім хацелася б захаваць нераўнапраўнасьць Беларусі, яе штучную залежнасьць ад усходняга суседа. Пачынаюць зноў гучаць выдумкі пра „историческую общность", заклінаньні, што „надо быть вместе", пра дружбу, „скреплённую кровью" (вось ужо сапраўды крыві нам пусцілі шмат таварышы-дабрадзеі), пра тое, што Эўропа, маўляў, аб'ядноўваецца, а „мы", маўляў, разьядноўваемся і г.д. – увесь імпэрскі набор.

Што датычыць „общности" „дружбы", „старшего брата" і іншай каляніяльнай тэрміналёгіі, то ўсе гэтыя фальшывыя сантымэнты стануць хутка зьнікаць, як толькі пачнецца пераход у гандлі і эканамічных дачыненьнях на сусьветныя цэны. А гэта наканавана. Тады мы ўбачым, як раптоўна паразумнеюць нават некаторыя зацятыя каляніяльныя намэнклятуршчыкі і імгненна пазбавяцца ад нястрыманага сантымэнталізму. Як кажуць, гром не грымне – мужык не перахрысьціцца.

Спынюся, аднак, на іншым прапагандысцкім шулерстве – на савецкім „разьяднаньні" і эўрапейскай „інтэграцыі". Тут трэба ведаць, што станоўчы зьмест можна атрымаць, калі інтэгруюцца і аб'ядноўваюць інтарэсы багатыя дзяржавы. Жабракі, як правіла, не аб'ядноўваюцца, з аб'яднання бедных нічога добрага не вынікае, хіба што склокі, перадзелы, узаемныя папрокі ды імкненьне „выехаць" на іншых. Бо няма дзеля чаго бедным аб'ядноўвацца – усім не хапае. Адпаведна і тэндэнцыі да такога аб'яднаньня ўзаемна не ўзьнікаюць, а калі зьяўляюцца, то, як правіла, у аднабаковым парадку з-за палітычных ці іншых якіх рацыянальных мэтаў.

Эўропа пачала інтэгравацца тады, калі краіны ў выніку прадуманага разьвіцьця дасягнулі такога ўзроўню багацьця, што ў іх зьявіўся лішак тавараў і прадуктаў. Неразумна было, скажам, выліваць малако ў мора, як на тое вымушала эканамічная сітуацыя, ці пастаянна перажываць крызісы перавытворчасьці, беспрацоўе і г.д. Можна было пабудаваць больш разумнае ўзаемадзеяньне паміж дзяржавамі, скаардынаваць інтарэсы па выкарыстаньню багацьця, узгадніць працу людзей і накіраваць яе вынікі на агульную грамадзкую карысьць. Так натуральна разьвіваліся ідэі і практыка эўрапейскай інтэграцыі і дэмакратыі.

У былым Савецкім Саюзе адбываліся і адбываюцца працэсы зусім іншай аб'ектыўнай уласьцівасьці. Гэта адваротныя працэсы дэзінтэграцыі катастрафічна бяднеючага грамадзтва, якія пачаліся з дэградацыі і тупіковага распаду савецкай адміністрацыйна-партыйнай імпэрскай эканомікі. Суверэнізацыя і лакалізацыя высілкаў па нацыянальна-дзяржаўнай прыкмеце і нават па эканамічна-адміністрацыйных раёнах (Дон, Сібір, Далёкі Усход, Санкт-Пецярбург, Крым і да т.п.) ёсць аб'ектыўны рух самавыратаваньня, і выкліканы ён, перш за ўсё, узмацненьнем эканамічнага крызісу і пачаткам эканамічнай катастрофы. Спачатку прычына, затым ідэі, потым працэс. Эканамічная катастрофа ў грамадзтве спараджае лакалізацыю эканамічных тэрыторыяў з мэтай самазахаваньня грамадзтва (уключэньне мясцовых інтарэсаў, паскоранага абарачэньня гаспадарчых і эканамічных жыцьцёва важных цыклаў і да т. п.). Паколькі катастрофа тупіковай эканомікі разгортвалася на

фоне крызісу тупіковай ідэалёгіі ў тупіковай шматнацыянальнай імпэрыі, пачаўся ўсеагульны паўраспад сістэмы, які яшчэ не закончаны па сёньняшні дзень. Гэты паўраспад, дэзінтэграцыя прымусовага саюзу, ёсць працэс вызваленьня з-пад мёртвага цела, працэс жыцьцёва важны, станоўчы і ствральны.

Плакальшчыкі па „недзялімай" могуць, вядома, лямантаваць, клікаць да расправы і выклікаць духаў. Іх зразумець можна. Чалавек жа, які ў такой сітуацыі пачынае прапаноўваць зноў „обьедениться", нагадвае дзівака, што, трапіўшы на пажар, запрашае пайсці купацца, бо горача. (У Эўропе ж купаюцца.)

Другая ***важнейшая і абавязковая ўмова інтэграцыі, дакладней, умова жыцьцёвасьці інтэграванай сістэмы дзяржаваў, ёсць раўнавага сілаў, збалянсаванасьць інтарэсаў і супрацьвагаў сістэмы. Супрацьвагі павінны ўраўнаважвацца.*** У Эўрапейскім эканамічным супольніцтве мы якраз і бачым існаваньне ўнутранай раўнавагі сілаў. Францыя, Нямеччына, Італія, ( у пэрспэктыве магчыма яшчэ Іспанія), Вялікабрытанія і па тэрыторыі, і па колькасьці насельніцтва, і па эканамічным, навуковым, культурным патэнцыяле – блізкія. Яны здольныя ўраўнаважваць адна другую, ствараць раўнавагу сілаў, што дазваляе раўнапраўна існаваць у такой збалянсаванай сістэме іншым меншым дзяржавам. Сістэма фармальна і структурна жыцьцеўстойлівая. (Заўважце, як чуйна зрэагавала яна на аб'яднаньне і ўзбуйненьне Нямеччыны – Маастрыхскія пагадненьні, рэфэрэндум у Францыі, шэраг палітычных „прыцірак", супрацьстаўленьне Колю і Мітэрану і да т.п.).

Цяпер паглядзім на Усход, на СНД. Велізарнай па тэрыторыі, насельніцтву, эканамічнаму патэнцыялу, рэсурсах і ваеннай магутнасьці Расеі няма тут супрацьвагі. Якая б фармальная сістэма дзяржаваў ні ўтваралася разам з Расеяй у межах былой Расейскай і савецкай імпэрыі – ці то саюз, ці то канфэдэрацыя, ці то садружнасьць, ці то якая-небудзь асацыяцыя, ці іншая супольнасьць, – яна заўсёды будзе асуджана на імпэрскую пэрспэктыву, на залежнасьць ад Расеі, на паступовую страту астатнімі сваіх правоў і незалежнасьці, на палітычны ўціск і навязваньне расейскіх інтарэсаў, „языка", агульнага войска і г.д. Гэткія працэсы адбываліся б нават тады, калі б Расея была нармальнай краінай без імпэрскай сьвядомасьці, ідэалёгіі і палітыкі. Само ўзаемадзеяньне надзвычай нераўназначных па вялічыні мас Расеі і іншых дзяржаваў прыводзіла б да залежнасьці ад Расеі і нераўнапраўных вынікоў. Калі ж усё гэта памножыць на расейскі экспансіянізм і яе традыцыйную палітыку – сцэнарый вядомы.

Пацешна чытаць, напрыклад, у праекце статута СНД, што ў дачыненьні да дзяржавы, якая парушыць статут, „могут применяться меры". Ну вось і парушыць Расея статут, сістэматычна і калі захоча (гэтак жа, як парушае пагадненьні па СНД). Якія „меры" супраць яе „прыменяць"? І хто?

Прыміце „меры", цяпер, „спадары-засядацелі", – вярніце сто мільярдаў рублёў Беларусі, якія Расея задоўжыла Беларусі за яе прадукцыю. Што ж не прымаеце? Вось такая служба, то бо дружба, „скрепленная кровью".

***Сумесна з Расеяй у межах былога СССР ня можа стабільна існаваць ніякая аб'яднаўчая сістэма дзяржаваў. Гэта аб'ектыўная, навуковая і гістарычная рэальнасьць.*** Пара б ужо гэта некаторым зразумець, пазбавіцца ад ілюзіяў, чужых пражэктаў і марнаваньня часу. Лепш пайсьці на выхад з пагрозьлівага становішча.

Такі выхад БНФ прапаноўвае даўно***. Неабходна аднавіць раўнавагу на ўсходзе Эўропы, разбураную 200 гадоў таму.***

Размова ідзе пра Балтыйска-Чарнаморскую садружнасьць (асацыяцыю) дзяржаваў (Эстонія, Латвія, Летува, Беларусь, Украіна, Малдова). Гэта шлях да стабільнасьці і раўнапраўнага супрацоўніцтва, гарантыя суверэнітэту. Краіны БЧС, супрацоўнічаючы з Эўропай, змаглі б стаць тым нестаючым ураўнаважваючым чыньнікам, які б стымуляваў узаемавыгаднае разьвіцьцё, у тым ліку і Расеі, вечна пакутуючай ад імпэрскай хваробы. Ідэя БЧС, распрацаваная беларускімі палітыкамі і выказаная на міжнародным зьезьдзе ў Лазане яшчэ ў 1916 годзе – выдатная, абгрунтаваная з усіх бакоў, выкліканая патрэбамі народаў і дзяржаваў гэтай часткі Эўропы.

Аднак мушу заўважыць, што ***ідэя БЧС гэта не ёсць ідэя інтэграцыі.*** Інтэграцыя цяпер нерэальная і немагчымая па прычынах, якія ўжо адзначаныя. Тут важная ўзаемная каардынацыя па агульных пытаньнях дачыненьняў з Усходам. Гэта тая ж праблема раўнавагі.

***Другая галіна, дзе магчымае аб'яднаньне высілкаў – экалёгія і забесьпячэньне энэргетычнымі рэсурсамі. Для ўсіх балта-чарнаморскіх краінаў было б жыцьцёва выгадна, напрыклад, стварыць вось энэргетычнага забесьпячэньня „поўдзень – поўнач".*** (Акрамя існуючай „усход– захад".) Ужо робяцца пэўныя захады краінамі Балтыі (газ з Нарвэгіі) і Украінай (блізкаўсходняя нафта). Павінна, аднак, быць сістэма, якую можна ўладкаваць, злучыўшы ўжо існуючыя ніткі нафта- і газаправодаў на Беларусі і Украіне, працягнуўшы іх да балтыйскіх і чарнаморскіх тэрміналаў і да т.п. Усё гэта патрабуе агульных клопатаў, інвестыцыяў і сумесных рашэньняў.

Вялікадзяржаўныя памкненьні расейскіх уладаў у апошні час пачалі насіць гратэскава фарсавы характар (паўтарэньне збанкрутаваных ідэяў гісторыі – заўсёды фарс). Гэтак, пабіўшыся кулакамі ў Вярхоўным Савеце, расейскія дэпутаты зьвярнуліся з прапановай да ўсіх уступіць з Расеяй... у канфэдэрацыю (чаго не прыдумаеш „после драки"). Расейскія генэралы складаюць пляны ваеннага саюзу з Беларусяй і да т.п. Але самым цікавым сачыненьнем у гэтай галіне зьяўляецца праект статута СНД. У аснову гэтага твора пакладзены апошні праект гарбачоўскага „саюзнага дагавора". Прапанавана, фактычна, структура бюракратычнай дзяржавы, цалкам адарваная ад рэальнага жыцьця. Праектуецца 18 кіруючых і каардынуючых арганізацыяў. Сярод іх такія „пэрлы", як „Савет Міністраў замежных справаў", „Савет Міністраў абароны" (павінен займацца „ваеннай палітыкай „ і „ ваенным будаўніцтвам" (?!), „Галоўнае камандаваньне ўзброеных сілаў" (?!), „Савет камандуючых памежнымі войскамі". „Камандаваньне памежнымі войскамі" (чыіх межаў?). Больш таго, „Савет кіраўнікоў дзяржаваў" і „Савет кіраўнікоў урадаў" могуць ствараць „рабочыя і дапаможныя ворганы на часовай і пастаяннай аснове". Прадугледжаны „ворганы галіновага супрацоўніцтва" (саветы, камітэты), у склад якіх „уваходзяць кіраўнікі адпаведных ворганаў выканаўчай улады".

Як бачым, у праекце закладзеныя шырачэзныя магчымасьці для структуратворчасьці і бюракратычнага самаразьвіцьця. Завядзіце такую чыноўніцкую машыну, і праз год ужо зьявяцца сотні „ворганаў". Але навошта яны? Каму патрэбныя? І хто павінен будзе ўтрымліваць гэтую запраектаваную бюракратычную „гамэрню"? Прытым большая частка яе разьмесьціцца ў Менску.

У артыкуле 41 сказана: „Расходы на фінансаваньне дзейнасьці ворганаў Садружнасьці разьмяркоўваюцца на аснове долевага ўдзелу дзяржаваў-членаў". Віншую вас, шаноўныя грамадзяне і падаткаплацельшчыкі, з выдатнай пэрспэктывай!

Паглядзім жа цяпер, на якіх прынцыпах грунтуецца прапанаваная структура СНД. Ну, вядома ж, на прынцыпах „ объединения". Дзеля гэтага спатрэбілася нават фальсіфікацыя з першага ж радка, дзе напісана: „Государства, добровольно объединившиеся в Содружество Независимых Государств". Але не было такога, спадары фальсіфікатары. Дзяржавы заключылі пагадненне аб СНД, і ўсяго. Далей Садружнасьці запраектавана ўзрастаць на „исторической общности своих народов", на „общем экономическом пространстве" „межгосударственной интеграции", на „коллективной безопасности и военно-политическом сотрудничестве" (нават гэтак), на „совместном использовании вооруженных сил" і „строительстве вооруженных сил". (Гэта значыць, пашлюць вас зноў, хлопцы-беларусы, на чужую вайну, у Азэрбайджан і Таджыкістан за расейскія „интернациональные" інтересы.") Садружнасць павінна будзе грунтавацца таксама на аснове „внешних границ"(?), на каардынацыі „военно-экономической деятельности" і нават на „формировании общего информационного пространства". Ну і, вядома ж, як запісана ў артыкуле 38, „рабочим языком Содружества является русский язык". (А как же – нельзя без языка.)

Шчыра кажучы, калі цяпер прыходзіцца чытаць гэткае бессаромнае, старадумна-імпэрскае, салдафонскае „праектанцтва", зьнікае ўсялякая павага да такіх палітыкаў і ўсіх гэтых „чэсных бюракратаў". Гэтыя людзі нічога ня хочуць разумець і нічаму ня вучацца. Такое сачыненьне – знявага дзяржавам. Невыпадкова, што ні Украіна, ні Малдова, ні нават Туркмэністан і Таджыкістан не ўзгаднілі праект. З эўрапейскіх краінаў узгадніла толькі Беларусь. (Ну, гэтыя надпішуць, што хочаш. Каб толькі лоб не разьбілі перад Масквой.)

Дэпутацкая Апазыцыя БНФ у Вярхоўным Савеце выступіла з рэзкай крытыкай праекту статута СНД. Безумоўна, Беларусі нельга падпісваць такі статут. Ня трэба ўвогуле займацца самаашуканствам. СНД, практычна, ўжо не існуе. Яна ціха канае і хутка памрэ зусім, трэба ўмацоўваць сваю дзяржаву і разьвіваць двухбаковыя сувязі.

Быў прапанаваны таксама і больш лагодны варыянт. Падпісаць пасьля ўнясеньня неабходных паправак прэамбулу статута, разьдзел 1 (Мэты і прынцыпы), разьдзел 2 (Членства) і разьдзел 5 (Супрацоўніцтва ў эканамічнай, сацыяльнай і прававой галінах). Астатнія разьдзелы не падпісваць. Фактычна, гаворка ідзе толькі пра асацыятыўнае членства Беларусі ў СНД.

Як будуць разьвівацца дачыненьні з прыняцьцем статута СНД, убачым у другой палове студзеня. Мне здаецца, што шмат хто ўжо пазбаўляецца ад ілюзіяў пра СНД і расейскую „гегемонію" ды звяртае свой позірк на неабходнасьць добрай гаспадарскай і культурнай адбудовы нашай незалежнай дзяржавы дзеля карысьці і будучыні ўсіх людзей Беларусі.

***Зянон ПАЗЬНЯК,***
***народны дэпутат Беларусі.***

*Надрукавана: („ Народная Газета",– 1993, 14 студзеня )*




***70. Народны плякат.***

# БРЭЙГЕЛЬСКІ ШЛЯХ

***На пачатку года ў друку зьявілася спавешчаньне з прэс-канфэрэнцыі Мітрапаліта Менскага і Слуцкага Філярэта Патрыяршага экзарха Беларусі. (ЛіМ,– 1993, 8 студзеня).***

Гаворачы пра польскіх ксяндзоў, што прыехалі рознымі спосабамі на Беларусь, Уладыка адзначыў: „...тым, хто прыязджае, трэба памятаць, што гэта – Беларусь, а не Польшча. Ксяндзы з Польшчы павінны ўсьведамляць, што яны прыехалі ў Рэспубліку Беларусь і што з касьцёльнага амбона гаварыць аб межах 1939 года – гэта нонсенс. Вывешваць польскі сьцяг у касьцёле – гэта таксама, я думаю, недарэчна, як і не па-брацку гаварыць аб праваслаўі, што гэта „ня тая" вера. Гэтыя факты нас насьцярожваюць і не садзейнічаюць развіццю экуменічных адносінаў".

Слушныя разважаньні, адзначым мы. Але далей карэспандэнт задае пытаньне: „Як вы лічыце, Уладыка: адраджэньне Грэкака-таліцкай Царквы на Беларусі зьяўляецца пагрозай для Царквы праваслаўнай?"

„Пагроза была і ёсць, – адказвае Патрыяршы экзарх,– Унія – гэта няпраўдзівы шлях да адзінства ў Царкве".

Як кажуць, „вось табе і раз", „опять двадцать пять". Ізноў „ня тая" вера. Ну, і ці ж будзе такое разуменьне „садзейнічаць развіццю экуменічных адносінаў"? Далей Уладыка выказаўся пра ўніяцкія абшчыны: „яны ствараюцца штучна (?), кіруючыся, хутчэй, толькі палітычнымі і **нацыяналістычнымі ідэямі".** (Падкрэслена мной – З. П.). Нядобра сказана. Неяк не па-хрысьціянску, а па-партыйнаму, па-кадэбісцку. А тым часам Унія, якая адраджаецца на Беларусі, яднае ў сабе найбольш тых людзей, што раней былі бяз Бога, не належылі ні да якіх канфэсіяў. У яе пайшла моладзь, інтэлігенцыя, людзі, якія шануюць Божае слова ў роднай мове, якія імкнуцца жыць па запаведзях Хрыстовых, шчыра любячы сваю Бацькаўшчыну, культуру, народ. Як гэта добра. І раптам такая непрыхільнасць.

Дарэчы, ***будучыня на Беларусі будзе за той канфэсіяй, якая хутчэй засвоіць і адродзіць у сваім афіцыйным ужытку беларускую мову. Ніякая вольная незалежная дзяржава і ніякая дэмакратычная ўлада не пацерпіць аніякай антыдзяржаўнай, антыбеларускай дзейнасьці пад выглядам канфэсійнай працы незалежна ад таго, адкуль яна інсьпіруецца*** – з Масквы, з Варшавы, з Львова, Нью-Йорка ці з аналаў замежных разьведак. Ня трэба расьціць ілюзіяў. Гэты пераходны пэрыяд і камуністычна-намэнклятурная ўлада на Беларусі ня вечныя. Гэтай уладзе засталося ўжо ня так шмат часу дыхаць, а яшчэ менш існаваць. Дзяржаўнасьць і незалежнасьць Беларусі будзе ўсталявана моцна. Гэта грамадзкая неабходнасьць. Калі праваслаўная і каталіцкая адміністрацыя да гэтага часу так і не павернецца тварам да Беларусі, да беларускай мовы, да гістарычнага духоўнага лёсу беларускага народа, можна не сумнявацца, што беларуская дзяржава падтрымае Унію (іншага не застанецца) і знойдзе шмат спосабаў, каб па-сапраўднаму абараніць духоўныя і нацыянальныя інтарэсы беларускага грамадзтва.

У гэтым жа кантэксьце павінен сказаць, што „кратовае палітыканства" некаторых польска-каталіцкіх місіянераў, накіраванае супраць беларускай дзяржавы і культуры, можа прывесьці толькі да затармажэньня і звужэньня каталіцызму. ***Будучыня каталіцтва на Беларусі зьвязаная зь беларускім Адраджэньнем.*** А яно ў пэўным часе перастане вяла сачыцца і паплыве магутнай плыньню. Сьвятары, што вераць у Бога і сапраўды зацікаўленыя ў квітненьні і жыцьцёвасці каталіцтва ў Беларусі, я ўпэўнены, згодна запаведзяў, будуць спрыяць беларускаму духоўнаму і нацыянальнаму адраджэньню Касьцёла.

Тое ж адносіцца і да Праваслаўнай Царквы. І вельмі шкада, што Уладыка, паддаўшыся згубнай маскоўска-палітыканскай традыцыі, так зьняважліва адносіцца да братоў сваіх у Хрысьце – маладых грэка-католікаў. А між тым, беларуская Уніяцкая Царква ёсць пакутніцкая Царква. Унія не заплямiла сябе супрацоўніцтвам з НКВД і КГБ. Яна была патоплена ў крыві расейскім самадзяржаўем і расейскім, зросшымся з царскім рэжымам, праваслаўем. Беларуская Унія, якую вызнавала 80 адсоткаў беларусаў, ня вытрымала рускага самадзяржаўна-праваслаўнага генацыду. Было забіта, закатавана, затаптана казацкімі коньмі, саслана тысячы беларусаў-уніятаў, манахаў, сьвятароў толькі за тое, што яны былі ўніятамі і беларусамі. Калі я ў Вільні ў аддзеле рэдкіх кнігаў і рукапісаў унівэрсітэцкай бібліятэкі чытаў „Акты пакутніцкай Уніі" – цяжка было чытаць. ***Віна за кроў нявінна забітых ляжыць на рускай праваслаўнай Царкве. Ніхто зь яе сьвятароў ніколі не асудзіў генацыд, учынены ў 1830-х гадах над Ўніяй і беларускім народам.*** Але ж па-хрысьціянску не асуджэньне патрэбнае, а пакаяньне. Не зразумелі. Бог наслаў кару – бальшавіцкія рэпрэсіі; самы захлынуліся ўласнай крывёй сьвятары-суддзі. Зноў не зразумелі.

„Пагроза" праваслаўю. „Непраўдзівы шлях". „Ня тая" вера. Вось табе і „пастыры". Пра якія экуменічныя дачыненьні можна гаварыць тым, хто хоча „пасьвіць" народ і не прызнае культурна-нацыянальнае адраджэньне беларускага народа? Народа – лёс, гісторыю і культуру якога тапталі ў гразь. Народа – якому якраз цяпер патрэбная духоўная дапамога, каб адрадзіць душу, культуру, дзяржаву і сябе. Толькі прызнаньне беларускага народа суб'ектам веры (а не палітыкі) можа выклікаць сапраўдныя экуменічныя дачыненьні. Уся справа, аднак, у тым, што шмат якім людзям у сутанах лёс гэтага народа чужы. У іх, відаць, аслабела вера, аслабела любоў. (Усё, як напісана ў Сьвятым Пісьме.)

Беларускі Народны Фронт, які ў аснове сваіх найбольш агульных аб'яднаўчых ідэй зыходзіць з народніцкіх адраджэнцкіх прынцыпаў (прынцыпаў эўрапейскіх народных партыяў) і цэнтрысцкіх каштоўнасьцяў хрысьціянскай дэмакратыі, аднолькава адносіцца да ўсіх традыцыйных хрысьціянскіх канфэсіяў на Беларусі. ***Прыярытэт ня цэрквам, а народу (які аб'ектыўна гэтыя цэрквы яднае), не канфэсійнаму зьместу, а хрысьціянскай людзкой маралі.***

Яшчэ ў 1988 годзе БНФ першы паставіў пытаньні (і потым адлюстраваў у сваёй Праграме) пра вяртаньне храмаў вернікам, пра падтрымку хрысьціянскай маралі, пра свабоду традыцыйных веравызнаньняў, пра аўтакефалію праваслаўнай беларускай Царквы і стварэньне беларускага праваслаўнага экзархату, пра прызнаньне і правы Уніі, пра правы пратэстантаў і спыненьне іх перасьледваньняў, пра адраджэньне беларускага каталіцтва, пра беларускую мову ў храмах, пра свабоду духоўна-асьветніцкай і міласэрнай дзейнасьці Касцёла і Царквы і г. д. БНФ працягнуў руку ўсім. Ніводнае значнае масавае мерапрыемства БНФ, ніводзін зьезд не абыходзіцца без сьвятароў усіх канфэсіяў. Мы не адрываем рэлігію ад грамадзтва, ад адраджэньня беларускай культуры.

Мы ня можам не заўважаць, што палітыканізацыя канфэсійнай дзейнасьці стымулюецца і ідзе зьверху, і з-за межаў Беларусі, ня можам не адзначаць, што ўзьдзеяньне Царквы і Касцёла на духоўнае адраджэньне насельніцтва мізэрнае. Хамства, злачыннасьць, заняпад маралі, сямейныя разводы, нявыхаванасьць, азлабленьне, эгаізм – коцяцца, як навала. Не прыходзіць духоўнае прасьвятленьне, але зьяўляюцца штучныя канфэсійныя праблемы, адчужанасьць і нападкі „пастыраў”.

Пытаньне, аднак, зразумелае і простае: ***рэлігійнае жыцьцё нашай краіны ня можа кіравацца з-за мяжы іншай краіны. Кіраваць павінны свае.*** Калі гэта ўлічыць, то няма канфэсійных праблемаў на Беларусі. Ёсць праблема духоўнага адраджэньня беларускай нацыі. Паміж прыхільнікамі і непрыяцелямі яе ў рэлігіі разыгрываецца ўся дзея, заўвагі й нападкі на «правільных» і «няправільных». Гэта банальна. Але й вельмі сур’ёзна, калі памятаць, хто за гэтым стаіць. Толькі ня пойдзе ўжо Беларусь Брэйгельскім шляхам. Яна пойдзе сваёй дарогай.

***Зянон ПАЗНЯК,***
***народны дэпутат Беларусі.***

*Надрукавана: (Звязда,– 1993, студзень)*



***71. Пітэр Брэйгель. „Прыпавесьць пра сьляпых.” 1568 г.***

* * *

*Адчыняю Эвангельле наўгад і чытаю: „Гэтак чалавек павінен разумець нас, як служак Хрыстовых і аканомаў таямніц Божых;” (Перш. пасл. Паўлы да Карын., 4; 1). Тады я сабе напісаў:*

*Хто служыць цёмнаму народу,*
*Той рана ці позна*
*Ім будзе забіты,*
*Вучэньне яго растаптана.*
*Таму стацца служэньнем павінна – асьвета.*

*2004 г.*

# ПАКАРАНЬНЕ

„Сачыненьні" Леніна мне, як і кожнаму студэнту, асьпіранту і навуковаму працаўніку ў камуністычнай „бээсэсэры" прыходзілася чытаць і перачытваць шмат разоў дзеля ўсялякіх „кандыдацкіх мінімумаў", экзаменаў, сэмінараў і да т.п. Гэта была пакута. Адчуваньне, быццам сутыкаешся зь нечым нячыстым. Псіхалягічны вобраз, што паўставаў за радкамі, – жорсткі, злосны, мэтанакіравана ненавідзячы ўсіх чалавечак, гэтакі „Маленькі Цахэс". Нейкая д'ябальская паталёгія згадвалася ў ім. Што мяне ўражвала тады, і яшчэ больш цяпер, дык гэта неверагодная, дыямэтральная неадпаведнасьць паміж вобразам культу Леніна, створанага камуністамі, і рэальнай нікчэмнасьцю яго асобы і „творчасьці". Абмежаванасьць, вузкасьць думаньня, парадыйны прымітывізм аргумантаў проста зьбянтэжваў. Жорсткасьць, цынізм і амаральнасьць ашаламлялі. І пры гэтым надзвычайная энэргія і актыўнасьць. Усё, напісанае ім, выдавалася шмат разоў зборамі „твораў" мільённымі тыражамі, што займалі паліцы кожнай бібліятэкі, установы, кабінета, хаты-чытальні. І ўсе сьпявалі асанну гэтаму незвычайнаму культу. Ці чытаў тады яго хто-небудзь?

Чыталі, у асноўным, каб падабраць цытаты. Цытатніцтва – цэлая галіна ленінізму. Цытатамі Леніна можна было падмацаваць дыямэтральна процілеглыя думкі. Яго выказваньнямі спрабавалі нават карыстацца ў барацьбе зь ленінізмам. Тут, праўда, патрэбна была асьцярожнасьць. Памятаю, як некалі, яшчэ ў асьпірантуры, я працытаваў Леніна (з „Ленинского сборника" выданьня 1937 года) у абарону беларускага сялянства, дык ледзь ні „загрымеў", як кажуць у народзе. Ня тое працытаваў. Бальшавіцкія цэрберы ад навукі не драмалі. Палітыка і задачы партыі лічыліся вышэй ленінізму і культу Леніна. Ленінскі культ быў зброяй у руках кіруючых камуністаў. Гэтай зброяй маніпулявалі толькі яны. Вартыя жалю былі людзі, што наіўна думалі абараніць ісьціну, цытуючы Леніна (творы тыпу „Ленін пра Беларусь" і да т.п.). Па-першае, на кожную ленінскую цытату была ленінская антыцытата. Па-другое, аўтару заўсёды можна было заткнуць рот, „бить по головкам, бить безжалостно", – як пісаў „чалавечны чалавек".

З „расстрэльнага" трызьненьня Леніна мяне, памятаю, найбольш уразіў яго загад расстрэльваць салдат Чырвонай арміі за неакуратнасьць („неоккуратных"). Строгі быў нечалавек. У ім адчувалася незразумелая на першы погляд нянавісьць да людзей, увогуле – да роду чалавечага. „Расстреливать ...колеблющихся, никого не спрашивая". „Расширить применение расстрела ко всем видам деятельности меньшевиков", „...расстрел за неразрешенное возвращение из-за границы." „Предупреждаю... буду арестовывать и добиваться расстрела." „Я лично буду проводить ... не только аресты, но и расстрелы... С коммунистическим приветом. Ленин."

Расстрэльваць „буржуяў", „папоў", „кулакоў", „меншавікоў", „эсэраў", „прастытутак", „былых афіцэраў", „всякую сволочь" і г.д. „Поощрять энергию и массовидность террора." „Провести беспощадный и массовый террор..." і г.д. „Сомнительных запереть в концентрационный лагерь" і г.д. Здавалася, што тыран хацеў бы пазабіваць усіх людзей, усіх, што жывуць. Тут нейкая паталёгія, анамалія асобы.

У хрысьціянскай рэлігійнай традыцыі гэткая д'ябальшчына антыхрыста атрымала сваё тлумачэньне. Мне яно зразумелае. Але гэта метафізіка. Крытычны розум патрабуе канкрэтнасьці, таму схільны шукаць зямныя прычыны.

Нядаўна польскі часопіс „Spotkania" (1992, №45, 5-11 лістапада) зьмясьціў уражальныя фатаграфіі Леніна, зробленыя ў 1923 годзе. Гэтыя фатаграфіі, як сьведчыць часопіс, складалі адну з найвялікшых і найбольш сакрэтных таямніц Савецкага Саюза, якую сьцераглі амаль 70 гадоў. Але нядаўна за жменю даляраў яе прадалі на Захад. Фатаграфіі надрукаваў нямецкі часопіс „Шпігель". У 34-м жнівеньскім нумары за 1992 год няякасныя рэпрадукцыі са „Шпігеля" зьмясьціў на сваіх старонках маскоўскі часопіс „Новое время". Крыху лепшай якасьці рэпрадукцыі ў „Spotkaniu". Часопіс піша:

„Сьнежань 1923 года. Невялікая дачная мясьціна Горкі пад Масквой. Ленін памірае. Але ад чаго?

Афіцыйна – ад прагрэсіруючага паралічу, што разьвіўся ў выніку замаху на яго ў 1918 годзе". (Зазначу, што расейскія дасьледчыкі, як паведаміў маскоўскі друк, ужо высьветлілі: ніякага „замаху" на жыцьцё Леніна ў сапраўднасьці ніхто не рабіў. Гэта была задуманая інсцэніроўка кіруючай кучкі бальшавікоў, каб мець прычыну разьвязаць і апраўдаць чарговы „чырвоны тэрор". Гэткі своеасаблівы „падпал рэйхстага". Каплан страляла, хутчэй за ўсё, халастымі патронамі. У канцы 1992 года пракуратура Расейскай Фэдэрацыі ўзбудзіла крымінальную справу па факту замаху на У. І. Леніна і расстрэлу эсэркі Фані Каплан у сувязі са „зноў адкрытымі абставінамі".) Але цытуем далей:

„Сапраўдную прычыну сьмерці толькі праз некалькі гадоў выявіў адзін з расейскіх членаў камісіі, што апекавалася правадыром бальшавікоў, прафэсар Осіпаў, перш чым Сталін навечна замкнуў яму рот. Бацька рэвалюцыі памёр ад сіфілісу, якім заразіўся, праўдападобна, ад сваёй шматгадовай палюбоўніцы Інэсы Арманд, ці, магчыма, у нейкім з дамоў цярпімасьці, якія надта ахвотна наведваў падчас свайго знаходжаньня ў Парыжы ў 1902 годзе.

Прагрэсіруючы параліч, паражэньне мазгоў, нэўрастэнічны стан, страта памяці, афазія (няздольнасьць да фармуляваньня выказваньняў у размове і пісьмова, а таксама да разуменьня сказаных ці напісаных слоў) і, нарэшце, у сакавіку 1923 года – вар'яцтва. Адзіныя гукі, якія выдае з сябе, – гэта неартыкуляванае жаласьлівае скавытаньне, у якім толькі зрэдку можна разабраць некалькі слоў: „народ... дапамажыце... рэвалюцыя..."

Дзьве жанчыны не адступаюць ад Леніна да канца: жонка Надзея Крупская і сястра Марыя. Уласна яны і зьяўляюцца аўтаркамі ўражлівых здымкаў."

А здымкі сапраўды страшныя. З фатаграфіяў жаласна пазірае на сьвет вытарашчанымі пустымі вачыма аблічча ідыёта. Поўная адсутнасьць інтэлекту. Як пакараў Бог Леніна. З медыцынскай энцыкляпэдыі можна даведацца, што якраз прагрэсіруючы параліч (псіхічнае захворваньне, абумоўленае сіфілітычным паражэньнем цэнтральнай нэрвовай сістэмы, што прыводзіць да гібелі клетак мазгоў галавы і распаду асобы) як позьняя форма гэтай жахлівай хваробы праходзіць асабліва пакутліва і цяжка.

Пакуты і цярпеньне жывога стварэньня выклікаюць жаль і боль душы. Лаўлю сябе на думцы, што шкадую гэтую балесную нікчэмную істоту на фатаграфіі, забойцу мільёнаў людзей. Так выклікаюць жаль мучэньні адпетага бандыта і садыста, што пакутуе ў турме. Але пашкадуйце яго – выпусьціце. Ён вам жа плюне ў твар, а пры нагодзе і заб'е. Кара павінна



*72. Уладзімер Ульянаў (Ленін) у пэрыяд рэвалюцыйнай дзейнасьці.*

быць. Тут жа, на фатаграфіі, мы бачым кару Божую. Пра яе трэба ведаць. Пэўна, яна прадаўжаецца, бо нават труп Леніна не прыняла Зямля, а ўся гісторыя рэжыму і імпэрыі, якую ён заснаваў, – гэта суцэльны „прагрэсіруючы параліч", які таксама прадаўжаецца. (Увесь час быў няспынны „прагрэс".) Напрошваецца, аднак, зусім не містычнае заключэньне, зыходзячы з лёгікі сувязяў рэчаў і зьяў, што „прагрэсіруючы параліч" постсавецкага абшару можа скончыцца якраз тады, калі труп Леніна забярэ Зямля і ідалы яго зьнікнуць з твару Яе.

Жыцьцё гэтага чалавека (калі толькі ён быў чалавек) у метафізічным сэнсе глыбока няшчаснае. Аднак існуе іншы народна-прымхлівы погляд на жыцьці людзей, дзе гаворыцца: „д'ябал сваіх меціць". І „няшчаснасьць" тут не пры чым.

Невылечныя хваробы, прыроджанае калецтва і да т.п. паразнаму ўзьдзейнічаюць на псіхіку і паводзіны хворых. У людзей амбіцыйных, жорсткіх, сябелюбівых, зайздросных могуць разьвіцца розныя мізантрапічныя комплексы, спантанная злосьць, агрэсіўная нянавісьць да чалавецтва, да здаровых людзей, да ўсіх мужчын ці да ўсіх жанчын і да т.п. Вядомыя, напрыклад, выпадкі псіхалягічнай паталёгіі, калі, скажам, хворы на сухоты (раней невылечныя) ці на распусныя хваробы, ці яшчэ на якое распаўсюджанае невылечнае заразнае цярпеньне імкнуўся сьвядома заразіць іншых. (Помста невінаватаму ёсьць неўсьвядомленая помста Богу.) Гэтакія людзі звычайна кепска заканчваюць сваё жыцьцё.

Можна знайсьці шмат агульнага ў паводзінах і псіхалёгіі такіх хворых. Возьмем, скажам, Ніцшэ, Леніна, Маякоўскага. Вельмі падобная карціна. Псіхічны комплекс хваробы, пэўна, рэзаніраваў са схільнасьцямі натуры. Адсюль, магчыма, невытлумачальная нянавісьць да людзей, да людства ў рамантыка-містычнай філязофскай публіцыстыцы аднаго, у палітычнай дзейнасьці другога, у крымінальнай богазьняважлівай літаратурнай творчасьці трэцяга.

„Товарищ Маузер" і „товарищ Нож", падняты і ўзьвялічаны Сталіным, услаўлялі Леніна. Яны вельмі падобныя ў насаджэньні (кожны па-свойму) культу жорсткасьці, у нянавісьці да Бога і чалавека. Але нават Ленін не дадумаўся да таго, каб напісаць, як Маякоўскі:

*„Я люблю смотреть,*
*Как умирают дети".*

Як напісаў адзін з дасьледчыкаў, Маякоўскі гэтым самым, фактычна, адлучае сябе ад людзей. Я не сустракаў такога нават у самай паскуднай літаратуры, якая калі-небудзь існавала і зь якой мне прыходзілася знаёміцца. У дзецях – сьвятасьць

*73. Помнік Леніну ў расейскім горадзе. (Сучаснае фота).*

жыцьця, вышэйшая Боская наканаванасьць і Божае аблічча. Гэта разумеюць інстынктыўна ўсе народы на зямлі, хто б яны ні былі і дзе б яны ні жылі.

Вельмі небясьпечнае тыражыраваньне бруду ідэй і тым больш – вобразаў. Тады яны ўзьдзейнічаюць як інфармацыйная сістэма, фармуюць асобу. Цяпер ужо стала не сатанінскім – звычайным „любить смотреть, как умирают дети", калі родны бацька гвалціць сваю сямігадовую дачку, вялікаўзроставы хлапец мучыць і заразае свайго малога брацікa, каб паглядзець, „как он, падла", будзе крычаць і да т.п. Пра ўсё гэта, захліпаючыся, паведаміць вам штодзень непераборлівая прэса. І шмат хто, прачытаўшы, тут жа забудзе, ідучы на абед.

Гэта і ёсьць „прагрэсіруючы параліч", грамадзяне.

***„ Стар – убивать, На пепельницы черепа,"*** – як пісаў бальшавіцкі „паўпрэд" „пера и штыка".

Гэты параліч – сіндром ад утапічнай ідэалёгіі і крымінальнай рэвалюцыі. Параліч бальшавізму. Ён не мінае сам па сабе, не мінае бяссьледна. Для пераадоленьня патрабуе велізарных духоўных высілкаў людзей.

Дробна перабіраючы нагамі, цягнуцца бальшавіцкія старцы ў Менску да помніка правадыру (апранутага чамусьці па волі скульптара ў жаночае паліто). Кланяюцца дэманстратыўна, углядаюцца ў чорны, узьняты з пафасам твар. Што ў іх за плячыма? Дарэмна пражытае жыцьцё, растрачанае на фальш. Добра яшчэ, калі нікога не забілі „чэсныя камуністы".

Углядайцеся, узірайцеся ў свайго крывавага куміра. Бог міласэрны – пакаяцца можна і за хвіліну да сьмерці.

***Зянон ПАЗЬНЯК,***
***старшы навуковы супрацоўнік***
***Інстытута гісторыі Акадэміі Навук Беларусі,***
***народны дэпутат Беларусі***

## АД РЭДАКЦЫІ:

**Артыкул Зянона Пазьняка – з тых, наконт аўтараў якіх газэта штодня згадвае ў выхадных зьвестках: „Іх меркаваньні не заўсёды супадаюць з меркаваньнем рэдакцыі".**

**На нашу думку, пры ацэнцы гістарычных дзеячоў такога маштабу, як Ленін, немагчыма абысьціся фарбамі аднаго колеру. Эмацыянальныя рэзкія выпады, адназначныя абвінавачваньні, выказаныя непрымірымым тонам, неабачлівае нястрыманае смакаваньне вэрсій асабістага жыцьця і асабістай трагедыі – гэта, на наш погляд, не спрыяе высьвятленьню ісьціны і наўрад ці дадае новыя штрыхі да партрэта тэарэтыка і практыка камуністычнай утопіі, якая, на жаль, стала лёсам для некалькіх пакаленьняў людзей у нашай краіне і аказала вялізны ўплыў на сусьветную гісторыю.**

**Прызнаемся шчыра: калі б аўтарам артыкула быў іншы вучоны або палітык не з такім гучным імем, – газэта хутчэй за ўсё ўстрымалася б ад публікацый. Мы даём месца для артыкула лідара парляманцкай Апазыцыі не дзеля таго, каб лішні раз штурхнуць нагой зьвергнутага куміра, а хутчэй як ілюстрацыю, што дапаўняе партрэт самога Зянона Станіслававіча, яго погляды, перакананьні, падыходы. На нашу думку, менавіта гэтым найперш цікавы артыкул, які мы прапануем вашай увазе.**

*Надрукавана: („Звязда",– 1993 г., 11 лютага)*

# ВЫСТУП НА 11-Й СЭСІІ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА

Спадары дэпутаты!

Пачынаючы з 27 ліпеня 1990 года – дня прыняцця Дэкларацыі аб дзяржаўным сувэрэнітэце Беларусі – перад Рэспублікай паўсталі новыя задачы. У жніўні 1991 года, пасьля абвяшчэньня незалежнасьці, узьніклі рэальныя магчымасьці ажыцьцяўленьня гэтых задачаў. Зь іх важнейшыя – тры: ***дзяржаўнае будаўніцтва, адраджэньне нацыянальнай культуры і рынкавая рэфэрма эканомікі.*** Для ўвасабленьня новых задачаў павінна быць дасягнута абавязковая палітычная ўмова – абнаўленьне дзяржаўнага кіраўніцтва. Гэта значыць, калі абвяшчаецца новая незалежная дэмакратычная дзяржава, тады абавязкова праводзяцца новыя дэмакратычныя выбары. Стары парлямант і стары ўрад, створаныя пры таталітарным рэжыме, ня ў стане праводзіць дэмакратычныя і рынкавыя пераўтварэньні, ажыцьцяўляць новыя задачы. Гэта аксіёма.

Адсутнасьць такіх выбараў на Беларусі дае магчымасьць дапушчальна спрагназаваць яе дзяржаўную стагнацыю, разбурэньне эканомікі, сельскай гаспадаркі і ў цэлым заход развіцьця ў тупік, што пры далейшай пасіўнасьці грамадзтва і адсутнасьці палітычных пераменаў у нашай сітуацыі можа скончыцца стратай незалежнасьці і ліквідацыяй дзяржавы. Гэта таксама аксіёма. Палітыка ўрадавага бяздзеяньня, як бачым, ужо падводзіць нас да гэтай мяжы. Але ў эканамічных цяжкасьцях, у стратах рынкаў збыту хочуць вінаваціць каго заўгодна, толькі не палітыку ўраду Кебіча.

Што перашкаджала ўраду і старшыні Кебічу ўсе гэтыя гады праводзіць пераарыентацыю нашай прамысловасьці і ўсёй эканомікі на патрэбы Рэспублікі Беларусь? Што перашкаджала не тармазіць, а ініцыяваць захаваньне і разьвіцьцё сельскай гаспадаркі? Што перашкаджала рэальна спрыяць стварэньню сапраўднай фінансава-крэдытнай і банкаўскай сістэмаў, садзейнічаць падрыхтоўцы ўвядзеньня нацыянальнай валюты? Што перашкаджала займацца канвэрсіяй ваеннай прамысловасьці? Што перашкаджала шукаць і ствараць другія і трэція крыніцы забесьпячэньня энэргарэсурсамі і перш за ўсё – нафтай і газам? Ёсьць жа вопыт іншых краінаў; ёсьць канструктыўныя прапановы. Ёсьць выхад.

Чаму нічога не скарыстана? Чаму паставілі такім чынам Беларусь у залежнасьць ад расейскай нафтаздабычы, якая, дарэчы, цяпер згортваецца і дэградуе? Што перашкаджала ўраду ініцыяваць абгрунтаваную, зручную для разьвіцьця вытворчасьці падатковую палітыку? Што перашкаджае, нарэшце, праводзіць эфэктыўную барацьбу са злачыннасьцю і карупцыяй?

Чаму ў дзяржаве, фактычна, адсутнічаюць неабходныя медыкаменты, а мільёны даляраў выдаткаваныя зь ведама Старшыні Саўміна на іх закупку камэрцыйнай структуры, у якой працуюць сваякі прэм'ер-міністра, і грошы выкарыстаны не па прызначэньню? Гэта факт. Як выглядае ў такім разе рэпутацыя кіраўніка беларускага Ўраду?

Ёсьць шмат „чаму?". Але адказ адзін. Прэм'ер-міністар меў магчымасьць пасьлядоўна ажыцьцяўляць палітыку дзяржаўнага разьвіцьця Беларусі, але ня выкарыстаў іх, ня ўмеў і не хацеў. Спадзяваўся, што Беларусь можа існаваць у адміністрацыйным рэжыме, без уласных грошай, без эканамічных прыярытэтаў, без рэформы ўласнасьці, бяз межаў, без канцэпцыі самастойнага дзяржаўнага разьвіцьця – існаваць сярод іншых краінаў, якія нас ужо апярэдзілі.

Увесь сэнс палітыкі Ўраду заключаўся ў спадзяваньнях атрымліваць нафту з Расеі па нізкіх цэнах. Гэта ж ілюзія. У выніку такой палітыкі наша прамысловасьць, сельская гаспадарка, у цэлым эканоміка, фінансы апынуліся ў тупіку, і Старшыня Саўміна ня бачыць ніякага выхаду з гэтага тупіка, ня мае ніякіх канструктыўных ідэяў, акрамя непрыймальных прапановаў адмовіцца ад нейтралітэту, падпісаць ваенны дагавор аб калектыўнай бясьпецы, заключыць эканамічны саюз з нестабільнай Расеяй, якая вядзе ваенныя дзеяньні. Я ўжо не кажу пра цяперашні развал у яе эканоміцы, пра неплацежаздольнасьць прадпрыемстваў і т.п.



*74. У Вярхоўным Савеце. (З. Пзьняк і С. Шушкевіч).*

На працягу апошніх гадоў Беларусь заключыла шэраг двухбаковых дамоваў і пагадненьняў з Расеяй і іншымі дзяржавамі СНД, у тым ліку і агульны дагавор, падпісаны 18 кастрычніка 1991 года „Аб эканамічнай супольнасьці" паміж Беларусяй, Расеяй, Арменіяй, Казахстанам, Кыргызстанам, Таджыкістанам, Туркменістанам, Узбекістанам. Што перашкаджала ўраду і спадару Кебічу выконваць гэтыя супольныя дагаворы і пагадненьні? Ці не таму, што сп. Кебіч разумеў, што ўсе заключаныя ўмовы Расеяй не выконваюцца?

На мой погляд, прапанова прэм'ер-міністра аб эканамічным саюзе выглядае ў гэтай сытуацыі ні чым іншым, як імкненьнем стварыць чарговую дымавую заслону, падсунуць чарговы міф, каб зноў у каторы раз імітаваць дзейнасьць і пазьбегну-

ць адказнасьці за пустазвонства і памылкавую безадказную палітыку.

Колькі мы ўжо чулі такіх міфаў, пустых заяваў і прапановаў з боку прэм'ер-міністра. Нічога не ажыцьцёўлена, бо сама лёгіка дзяржаўнага эканамічнага разьвіцьця супярэчыць гэтым „пражэктам". Усе навакол нас будуюць свае незалежныя дзяржавы, свае дзяржаўныя інстытуты. Трэба будаваць і нам.

Выклікае пэўнае недаўменьне заклік кіраўніка ўраду, зроблены 18 сакавіка, скасаваць важнейшую палітычную каштоўнасьць нашай дзяржавы – нэўтралітэт і заключыць ваенны саюз з нестабільнай Расеяй. Такія заклікі ня толькі супярэчаць Канстытуцыі, але і сьведчаць пра высьпяваньне дзяржаўнай здрады. Беларусі непатрэбныя ніякія ваенныя саюзы, тым больш з ваюючай велізарнай краінай на ўсходзе.

Усе гэтыя маніпуляцыі паказваюць, што ***прэм'ер-міністар вычарпаў усе свае ідэі і магчымасьці да паправы становішча ў краіне.***

Дзейнасьць ураду пад яго кіраўніцтвам даўно спынілася на мёртвай кропцы і ня мае пэрспэктываў. Каб пачаць выходзіць з тупіка, дэпутатам трэба праявіць палітычную волю і прымаць захады. Лічу, што Вярхоўны Савет павінен запатрабаваць адстаўкі спадара Вячаслава Кебіча з пасады Старшыні Савета Міністраў. Вядома – гэта палавіністае рашэньне. Яно ня вырашыць цалкам праблемы. Але далей заставацца на мёртвай кропцы небясьпечна для дзяржавы. Трэба зрабіць першы крок – зыйсьці зь яе.

Уношу прапанову: уключыць у парадак дня і паставіць на галасаваньне 11-й нечарговай Сэсіі Вярхоўнага Савета пытаньне аб адстаўцы Вячаслава Францавіча Кебіча з пасады Старшыні Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь.

***Зянон ПАЗЬНЯК***

*30 сакавіка 1993 г.*

## Прадчуваньне бяды

*Бачу мноства пачвар пад дрэвамі.*
*Рабая сьвіньня ў гамаку*
*Задзірае ўгару капыты.*
*Сноўдаюцца каросьлівыя сабакі,*
*Гаўкаюць на ўвесь лес.*
*Ляжыць кілбаса ў дэкальтэ.*
*Рохкаюць япрукі,*
*Рыюць пад дубам карэньні...*
*А вецер у хвоях шуміць,*
*Трапеча ў лісьці асін.*
*І ніякіх ім спраў да пачвар,*
*Да ўсіх.*
*Да пустых берагоў,*
*Да агнёў,*
*Што попельна ліжуць траву языкамі,*
*Да цынкованых трун,*
*Што грымотна лятуць над палямі,*
*Да руін,*
*Да забытых сьвятынь...*
*Ужо даўно не жывуць чалавекі.*
*Зорка шчасьця ў глыбіні нябёс*
*адляцела...*
*І ніякіх ім спраў...*
*Толькі ў соснах высокіх*
*Вершаліны ссохлі*
*І лісьце бяроз пажаўцела.*

*1985 г.*

# ПРЫНЦЫПЫ НАШАЕ ПРАГРАМЫ

*(Спавешчаньне на сакавіцкім Сойме БНФ напярэдадні III-га Зьезду БНФ, 1993 г.)*

Мы, Народны Фронт, як рух, пачыналіся ў 1988 годзе, калі ідэя Народнага Фронту ўжо ўзьнікла ў Эстоніі, пасьля – у Латвіі ды Летуве і потым (пасьля нас) прайшла па ўсім былым Саюзе. Такая форма руху склалася натуральна, бо асноўнай задачай была барацьба з камунізмам і змаганьне за незалежнасьць і дэмакратыю. Тады была поўная яснасьць ў падзеле палітычных сілаў: з аднаго боку – намэнклятура і КПСС, з другога – дэмакратычныя сілы. У той сытуацыі мелі вялікае значэньне разавыя акцыі, кідкія лёзунгі, усё, што магло прывесьці да зьмены ўлады. Утварэньне народнага руху выканала станоўчую ролю.

Што мы назіраем цяпер на абшарах былой савецкай імпэрыі? Найбольш поўна і жыцьцёва захаваўся толькі адзін народны фронт – беларускі. Некаторыя франты, у прыватнасьці, прыбалтыйскія, дасягнулі сваіх мэтаў. Прыкладам, у Эстоніі фронтаўцы правялі ўжо другія выбары. Да ўлады там прышлі чатыры партыі, якія выйшлі з Народнага Фронту. Яны заключылі кааліцыю, перамаглі на выбарах і цяпер аб'ядналіся. Выпадак асаблівы і канструктыўны. Фармаваньне гэтых партыйных структураў пачалося ў нетрах Народнага Фронту. Народны Фронт Эстоніі зараз у апазыцыі да хрысьціянска-дэмакратычнага ўраду.

Вось якія адбываюцца дзіўныя, на першы погляд, метамарфозы. Тое, што зроблена ў Эстоніі, добра відаць. За год яна выйшла далёка наперад, стабілізавала крону, прамысловасьць, сельскую гаспадарку, палітыку, межы, падняла жыцьцёвы ўзровень, вырашыла пытаньне з таварамі і, фактычна, уваходзіць у Эўропу.

Падобныя працэсы разьвіваюцца і ў Латвіі. У Лутуве – крыху інакш. Там у структуры „Саюдзісу" пачалося фармаваньне партыі незалежнасьці. Лідарам гэтай партыі быў В. Чапайціс. Камуністычныя сілы, у першую чаргу, дзяржбясьпека, нанесьлі паразу „Саюдзісу" тым, што перашкодзілі фармаваньню партыі Чапайціса. Яны разьяндалі Вярхоўны Савет, дзе „Саюдзіс" меў бальшыню, уцягнуўшы дэпутатаў у высьвятленьне адносінаў: хто ў якой ступені быў зьвязаны з КГБ. Усё гэта дыскрэдытавала палітыкаў „Саюдзісу", і гэты рух ня змог перамагчы на выбарах. Гэта яшчэ добра для Летувы, што там перамены не пагражаюць незалежнасьці краіны, ня гледзячы на тое, што да улады прышлі сілы іншага кірунку.

Што мы бачым на Каўказе? Якія зьмены адбыліся ў Народным Фронце Грузіі, нам добра вядома. Я ўжо не кажу пра народныя франты Сярэдняй Азіі. Скажам, Народны Фронт Таджыкістану – аб'яднаньне камуністычнай намэнклятуры – разьвязаў грамадзянскую вайну.

Калісьці мы спэцыяльна зьбіралі Сойм, калі неабходна было акрэсьліць нашую палітычную „нішу". ***Мы прышлі да высновы, што па сваіх мэтах, арганізацыі і практычнай дзейнасьці Беларускі Народны Фронт стаіць у шэрагу клясычнага ўзору народных і хрысьціянска-дэмакратычных аб'яднаньняў.*** Мы пакінулі структуру Народнага Фронту нязьменнай: гэта шырокі рух, што абапіраецца ня толькі на сваіх сяброў, якія могуць складаць аб'яднаньне партыйнага тыпу, але і на шырокае кола прыхільнікаў, сярод якіх ёсьць і асобныя грамадзяне, і партыі дэмакратычнага кірунку. Гэта дае нам магчымасьць больш эфектыўна супроцьстаяць маніпуляцыям намэнклятуры, захоўваючы сваю чысьціню.

***Беларускі Народны Фронт у жніўні 1991 года не зрабіў памылкі, як іншыя дэмакратычныя арганізацыі, не паддаўся намэнклятурнай палітыцы дэмакратычнай мімікрыі.*** Не памыліўся ня толькі таму, што намі быў зроблены дастаткова добры аналіз; сама сытуацыя на Беларусі склалася такім чынам, што дзейнічаць неадпаведна было нельга і недапушчальна. Нельга было паддавацца эўфарыі ды падтрымліваць намэнклятуру, якая на некалькі дзён стала на незалежніцкія пазыцыі. „Дэмакратычная Расея", падтрымаўшы Ельцына, фактычна, зьнішчыла дэмакратычную апазыцыю, завязла ў структурах, у міжусобнай барацьбе, і зараз будучыню Расеі вызначае апазыцыя чырвона-карычневага толку. Папулярнасьці „Дэм. Расея" і дэмакратычныя рухі ў грамадзтве ня маюць.

Што мы бачым на Ўкраіне? Пэрспэктыўная палітычная арганізацыя – Рэспубліканская Партыя: пасьлядоўная і ў сацыяльным пляне, і ў пляне незалежнасьці, выдае 6 газэтаў, 2 часопісы. Сяброў – некалькі тысячаў чалавек.

Народны Рух Украіны падтрымаў Краўчука і намэнклятуру, якая стала на пазыцыі незалежнае Украіны. Гэтым самым Рух паспрыяў умацаваньню незалежнасьці Ўкраіны. Яны стварылі свае структуры, арганізавалі нацыянальную гвардыю Ўкраіны – гэта 1500 чалавек надзейнага войска. Тут безумоўная заслуга Руху.

Аднак намэнклятура ёсьць намэнклятура. Іншай палітыкі яна праводзіць ня будзе, як тую, якую праводзіла і да якой прывучаная. Сацыяльная і эканамічная сытуацыя на Ўкраіне яшчэ цяжэйшая, чым у нас, выклікае незадаволенасьць людзей. І тут ужо Руху няма куды падзецца. На яго паказваюць пальцам. Маўляў, вы пайшлі з намэнклятурай, з Краўчуком, вы іх падтрымалі, дык і вы адказныя.

Гэтак ніхто ня скажа Беларускаму Народнаму Фронту. Яшчэ 25 жніўня, калі Шушкевіч крычаў: *«якая апазыцыя, няма ніякай апазыцыі, Вярхоўны Савет адзіны»* – намі было цьвёрда сказана: мы былі і застаемся апазыцыяй. Прыйшлося прыкладаць палітычныя намаганьні, каб пераканаць у гэтай неабходнасьці і «смых сябе». (Бо беларуская намэнклятура не была незалежніцкай.) Цьвёрдая пазыцыя, вытрыманая і абгрунтаваная, захавала і ўзвысіла наш змагарны адраджэнскі Фронт. А пасьля таго, як у мінулым годзе намэнклятура растаптала рэфэрэндум і кінулся да Масквы, – ўсе, хто яшчэ сумняваўся, пераканалася ў правільнасьці нашых дзеяньняў.

У чым жа тады, вы скажаце, пытаньне? Ды ў тым, што ўсе сродкі масавай інфармацыі, усе інфармацыйныя структуры знаходзяцца ў руках партнамэнклятуры. Мы ня можам уплываць на грамадзкую думку праз газэты, радыё, тэлебачаньне.

Для нас важна ведаць свае слабыя і моцныя бакі. Калі пачынаецца зацяжная пазыцыйная палітычная барацьба, калі ставяцца задачы, якія могуць вырашыць толькі арганізаваныя, паўнацэнныя палітычныя структуры, то такога кшталту арганізацыя, як Фронт, як Рух, ня тое, каб не эфэктыўная, яна ў такой сытуацыі ня можа вынікова дзейнічаць. Прыбалты гэта заўважылі адразу ды вялі адпаведную працу.

Калі адбудуцца, скажам, выбары, і таталітарная сістэма скончыць сваё існаваньне, і можна будзе спраўджваць у жыцьці тую сацыяльную і эканамічную палітыку, якая закладзена ў нашых праграмах, дык, безумоўна, прыйдзе такі час, што ў

грамадстве ня будзе патрэбы ў такім народным руху. Але калі мы захаваем структуру, якую зараз маем, дык гэтая палітычная арганізацыя застанецца ўплывовай, зможа уплываць на палітычнае жыцьцё дзяржавы.

Я хацеў бы зьвярнуць увагу на ідэалягічныя і палітычныя прынцыпы, на якіх грунтуецца наш рух і якія цяпер, на мой погляд, ў значнай ступені зыходзяць з падвойнай структуры нашага руху.

***Асноўны прынцып, асноўны дэвіз нашага руху – гэта Адраджэньне.***

Мы прынялі праграмную заяву «Свабода, незалежнасьць, адраджэньне» на Другім Зьезьдзе Фронту. Гэтыя дэвізы, гэтыя прынцыпы былі самыя важныя, самыя аб'ядноўчыя. Яны і зараз аб'ядноўваюць усе палітычныя дэмакратычныя сілы Беларусі. З таго часу, часу барацьбы з камунізмам, яны і па сёньняшні дзень адыгрываюць сваю кансалідацыйную ролю. Наша нацыя гістарычна апынулася ў такім становішчы, што ***для нас цяпер найважнейшай каштоўнасьцю зьяўляецца нацыянальная дзяржава.***

Пакуль яна існуе, у нас ёсьць пэрспэктыва. Калі б толькі мы яе, ня дай Бог, страцілі, то нашае грамадзтва ўжо магло б і не падняцца. Мы знаходзімся тым часам у крытычным стане. Існаваньне дзяржавы для нас вызначальнае. Пытаньне незалежнасьці застаецца на парадку дня.

Мы дэталёва разглядалі Адраджэньне, як фактар гістарычны, як чыньнік аднаўленьня нашае культуры. ***Калі незалежнасьць мы можам разглядаць як галоўную палітычную задачу, то Адраджэньне – гэта галоўная гістарычная задача нацыі. Адродзім мы нашу культуру, мову, гісторыю, нашыя традыцыі, нашыя грамадзкія ўзаемадачыненьні – значыць будзе незалежнасьць, будзе жыць наша дзяржава.***

Свабода. Мы разглядалі гэтае паняцьце як сынтэз незалежнасьці і свабоды чалавека, як свабоду ад таталітарызму, як свабоду разьвіцьця. У нейкай ступені мы сыходзімся зь лібэральным разуменьнем свабоды ў эканоміцы, але для нас прыярытэтам ёсьць свабода народу, таму што такая ўзьнікла гістарычная неабходнасьць. Гэтыя прыярытэты застаюцца. Аднак у дзеяньне ўступаюць таксама іншыя прыярытэты стварэньня. Не перамогшы цалкам таталітарызм, нам трэба адначасна вырашаць задачу будаўніцтва дзяржавы, стварэньня грамадзянскай супольнасьці, разьвязаньня сацыяльна-эканамічных пытаньняў. Мы ня можам паводзіць сябе такім чынам, што, маўляў, давайце спачатку разьбяромся з камунізмам, вырашым першасныя палітычныя задачы, а потым пачнем усё астатняе. Гэта выглядала б несур'ёзна.

***Мы павінны ў гэтай сытуацыі спрыяць дзяржаўнаму будаўніцтву, рыхтаваць канструктыўныя прапановы і эканамічныя праграмы праз нашыя дэпутацкія структуры, узьдзейнічаць на сацыяльнае жыцьцё сваёй працай і сваімі ўплывамі.*** Мы, аднак, знаходзімся ў цяжкім становішчы. Рэальныя магчымасьці знаходзяцца ў руках дзяржавы, а дзяржава ў руках камуністычнай намэнклятуры і старых структураў. Мы павінны ажыцьцяўляць нашыя праграмныя палажэньні, знаходзячыся ў апазыцыі, у дэпутацкай меншасьці ў парляманце. Калі мы (як і раней) ня будзем адначасна вырашаць канструктыўныя задачы і стымуляваць дзяржаўнае будаўніцтва, мы проста зьнікнем як рух, сыйдзем з палітычнай арэны.

Неабходнасьцю становіцца ўтварэньне палітычнага ядра, пра якое мы гаворым, і вызначэньне прынцыпаў, характэрных для народнай партыі. Практычна, Народны Фронт яднае ў сабе прынцып народнага руху і ідэалёгію народнай партыі. У гэтым сэнсе нам трэба істотна ўдакладніць паняцьце свабоды. ***Свабода – гэта сынтэз правоў і абавязкаў чалавека ў свабодным грамадзтве. Чалавеку павінен быць гарантаваны шанец, чалавек павінен мець права на ініцыятыву. Мы павінны зыходзіць з паняцьцяў чалавека і сям'і як асновы грамадзтва.*** Нашае разуменьне свабоды павінна выходзіць на паняцьце сацыяльнай эканомікі. У нашых эканамічных праграмах і канцэпцыях прысутнічае разуменьне сацыяльнай эканомікі, а гэта якраз разуменьне народных цэнтрысцкіх партыяў і рухаў. Гэта эканоміка, якая дае чалавеку сацыяльную абароненасьць, эканоміка, якая зыходзіць з маральнасьці чалавека і салідарнасьці ўсіх членаў грамадзтва. У гэтым сэнсе ***для нас вельмі важны прынцып салідарнасьці.*** Мы павінны заўсёды адлюстроўваць яго ў нашай праграме. Гэта народны прынцып.

У палітычным сэнсе – гэта салідарнасьць усяго народу ў змаганьні за паляпшэньне жыцьця, дабрабыту, за незалежнасьць, свабоду, здаровую эканоміку і г. д. Мы адмаўляем падзел на клясы і антаганізмы паміж імі. Нашае разуменьне салідарнасьці суадносіцца з нашым разуменьнем свабоды. Салідарнасьць народная і салідарнасьць чалавечая. Чалавек і іншы чалавек салідарныя ў агульнай рабоце дзеля паляпшэньня цяперашчыны і народнай будучыні.

Неаддзельны ад гэтых прынцыпаў ***павінен быць прынцып справядлівасьці.*** Прынцып справядлівасьці намі разглядаецца ў кантэксьце згаданых вартасьцяў як прынцып гуманізму, дзе павінны быць роўныя шанцы для кожнага чалавека. Але роўныя шанцы не абавязкова даюць роўныя вынікі. І тым ня менш, ***кожны чалавек у грамадзтве павмнен мець права на падтрымку дзеля ўдзелу ў агульнай справе.*** Гэта – калі зыходзіць з агульнай гуманістычнай трактоўкі чалавека. Прывяду прыклад. Калі чалавек – інвалід і ня можа канкураваць са здаровым чалавекам, яму трэба даць шанец. Але ён фізічна ня можа яго выкарыстаць так, як здаровы чалавек. Грамадзтва павінна дапамагчы гэтаму чалавеку. Ён мае права на дапамогу, каб свае магчымасьці выкарыстаць на агульную справу. Грамадзтва з такімі прынцыпамі магчымае.

Другі прыклад. Жанчына, якая знаходзіцца ў дэкрэтным адпачынку, не працуе. Яна павінна мець абавязковую падтрымку ад грамадзтва, дастаткова доўгую ды істотную, таму што яна гадуе чалавека. У яе роўныя шанцы зь іншымі людзьмі, але іншыя магчымасьці. Грамадзтва павінна йсьці ёй насустрач, бо гэта на карысьць усёй нацыі, ўсяго народу, на карысьць грамадзкіх ідэалаў.

Такім чынам, ***прапануючы адлюстраваць у праграме такія прынцыпы як салідарнасьць, справядлівасьць, свабода, незалежнасьць, адраджэньне, я хачу падкрэсьліць нашае палітычнае разьвіцьцё ад руху да больш арганізаванай палітычнай структуры, якая мае сваё абгрунтаваньне ва ўсёй структуры грамадзтва.*** Людзям баліць, што ў іх малая зарплата, што ім пагражае беспрацоўе, што падвышаюцца цэны і г. д. Мы павінны мець выразную агульную канцэпцыю і прапанаваць яе людзям. Інакш, безумоўна, ня будзе ў нас і палітычнае пэрспэктывы.

І наступнае. Мы павінны дзейнічаць так, як склалася ў гісторыі Народнага Фронту. У нашым статуце адлюстравана: непрацыўленьне насільлем насільлю ўладаў. Мы гэта пацьвердзілі сваёй працай.

Мы пацьвердзілі таксама, як, дарэчы, пацьвярджаюць народныя партыі Эўропы, адкрытасьць і маральнасьць нашай

палітыкі: якую палітыку праводзім – пра тое адкрыта кажам. ***Мы гаворым праўду людзям, якая б яна ні была балючая для нашага грамадзтва.*** На нас за гэта сыплюцца прапагандысцкія шышкі непрыяцеляў. Але ўрэшце рэшт праўда працуе на нашу і на агульную карысьць.

***Цяпер, калі б хто заняўся аналізам руху Народнага Фронту, ён згадаў бы, пра што мы казалі людзям: гэта праўда пра Чарнобыль, пра сталінізм і камунізм, пра Курапаты, пра суверэнітэт і незалежнасьць. Усё гэта ўжо стала рэальнай праўдай, фактам рэчаіснасьці.***

Для нас вельмі важна зыходзіць з канцэпцыі чалавека як свабоднага і гуманнага Божага стварэньня. І тут я хачу падкрэсьліць адзін момант, для нас вельмі істотны, які, я лічу, мы, як палітычны рух, павінны вырашыць. Уся дэмакратыя Эўропы прымае канцэпцыю чалавека, але ў розных кшталтах. Найбольш блізкая для нас канцэпцыя чалавека, прынятая ў хрысьціянска-дэмакратычных і народных партыях.

Якія вынікі ўвасабленьня канцэпцыі чалавека ў Эўропе? Гэта прывяло да абароненасьці яго правоў, да дабрабыту, да раскрыцьця ягоных магчымасьцяў, да перакшталтаваньня эўрапейскай цывілізацыі, яно правяло да міру, урэшце рэшт. Гэта станоўчыя вынікі. Але ёсьць і нэгатыўныя зьявы.

Эўрапейская канцэпцыя чалавека ставіць правы чалавека вышэй за суверэнітэт (пытаньне яшчэ, што гэта за правы). У 50-х гадах, калі гэтая канцэпцыя толькі пачыналася, у эўрапейскія краіны перасялілася мноства арабаў, туркаў, людзей з былых калёніяў. Ніхто не рабіў ім ніякіх перашкодаў, наадварот – спрыялі. Прыбышы, практычна, не інтэграваліся ў эўрапейскае грамадзтва, але карысталіся ўсімі сацыяльнымі ільготамі (напрыклад, на дзяцей). Тыя зь іх, якія мелі па шмат дзяцей (а ў іх, як правіла, дзяцей шмат), маглі, фактычна, не працаваць. Расходы на выхаваньне дзяцей пакрывала дзяржава. Тым часам у карэнных жыхароў абвастрыліся праблемы беспрацоўя, бо праца імігрантаў абыходзілася таней. У той жа час Міністэрства культуры (у прыватнасьці, напрыклад, Бэльгіі) распрацоўвае пытаньне аб мультыкультурнасьці. Гэта можна было б зразумець, гледзячы на Канаду, якая нават утварылася як краіна эмігрантаў. Але як яго разглядаць ў Эўропе (у той жа Бэльгіі)?

Такім чынам, з аднаго боку, гаворыцца пра правы чалавека, з другога – ствараюць новыя сацыяльныя супярэчнасьці ў старым грамадзтве, паколькі карэнныя жыхары апынуліся ў сьціснутых дыскамфортных умовах. Супярэчнасьці будуць паглыбляцца.

Вось вам прыклад, як прыярытэт правоў чалавека перад суверэнітэтам нацыі апынуўся наадварот, заціскаеньнем правоў чалавека і, фактычна, паставіў пад пагрозу суверэнітэт.

Мы з свайго боку павінны абавязкова рабіць аналіз, каб не паўтараць чужых памылак. Не атрымаецца вечна жыць так, як жыве пасьляваенная Эўропа – усё роўна будзе крызіс. Гэты крызіс ужо адчуваецца. Нам належыць прапанаваць сваю канцэпцыю. Відавочна, што ў дадзеным выпадку ***нельга гаварыць пра прыярытэт: альбо суверэнітэту – альбо правоў чалавека. Бо суверэнітэт – як правы ўсяго народу – гэта таксама правы чалавека (прытым, вялікія, усеагульныя правы)! Зразумела, што трэба прызнаваць не праярытэт, а парытэт, роўнасьць гэтых правоў.*** Мы гэта павінны вырашыць.

Мне б хацелася, каб пры распрацоўцы праграмы, мы зрабілі патрэбны аналіз. Адказ на гэтыя пытаньні мы, як палітычны рух, абавязкова павінны даць.

***Зянон Пазьняк***

*(Сакавік, 1993 г.)*

*Вытрымкі са стэнаграмы. Надрукаваныя:*
*(„Навіны Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне". – 1993, 26 сакавіка – 20 красавіка, № 4(39): Прынцыпы нашае праграмы*
*(Спавешчаньне на сакавіцкім Сойме БНФ напярэдадні III-га Зьезду БНФ). Кніжны тэкст адаптаваны згодна стэнаграмы.*

## Рай

*У сьведамасьці жывуць*
*Бацькаўшчына і Рай.*
*Рай – гэта пачатак жыцьця над Гаўёй,*
*І квітнеючы луг,*
*І аблокі,*
*Белыя, нібы з-пад млына шум,*
*І цьвітучая бульба –*
*Бяскрайні абсяг –*
*І перазвон касьцельны.*

*2003 г. (З цыклу „Перазвон")*

# ЯК ДЗЕЙНІЧАЕ НАМЭНКЛЯТУРА

*(Палітычны камэнтар)*

На XI-й нечарговай сэсіі Вярхоўнага Савету мы сталі сьведкамі (і ўжо ня першы раз), фактычна, антыдзяржаўнай змовы супраць нацыянальных інтарэсаў Беларусі і назіралі, як яна ажыцьцяўлялася. І хоць камуністаў у Вярхоўным Савеце амаль 90 адсоткаў, у Апазыцыі былі рэальныя шансы гэтую „змову” праваліць, калі б, як заўсёды ціха і непрыкметна, у патрэбны момант ні „знайшоў згоду” Старшыня Вярхоўнага Савету. Нешматлікая Апазыцыя БНФ выйграла ўсе дні сэсіі, акрамя апошняга.

Тое, што С. Шушкевіч „знойдзе згоду”, нельга было сумнявацца (прырода сваё возьме). Цікава было толькі паглядзець, як гэта здарыцца. А здарылася ўсё трывіяльна, хоць і больш тонка, чым пры антызаконнай забароне рэфэрэндуму, пры аднаўленьні дзейнасьці КПСС-КПБ і іншых драбнейшых маладушных учынкаў. Сьпікер з прэм’ерам проста дамовіліся.

Як і ў ранейшых выпадках, намэнклятура паставіла сьпікера (ці, як яны вымаўляюць, „скіпера”) перад выбарам, намякаючы адначасна пра магчымасьць яго адстаўкі. Прыём заўсёды спрацоўваў бездакорна. Ад „скіпера” патрабавалася ня даць нармальна працаваць Апазыцыі БНФ – адзінай сіле ў Вярхоўным Савеце, якая можа сапсаваць гульню большасьці. Кіраўнік сэсіі заўсёды стараўся. Груба парушаліся законы, рэглямант, адключаліся і не ўключаліся мікрафоны, не давалася слова, галасаваньнем большасьці спынялася дыскусія.

Ужываліся нават адкрытыя падтасоўкі галасаваньня (як, напрыклад, пры аднаўленьні КПСС-КПБ), супрацьзаконныя перагаласоўкі і г.д. Вярхоўны Савет у такім выпадку поўнасьцю губляў свае, нават мінімальныя, прыкметы парляманту; дэпутатаў Апазыцыі БНФ пад гіканьне і выкрыкі, ёрніцтва Старшыні, разьлічанае на ўхваленьне камуністычнае большасьці, фактычна, пазбаўлялі на сэсіі дэпутацкіх правоў. Дзіўна, што ў такіх бальшавіцкіх умовах пры сваёй малалікасьці Апазыцыя Народнага Фронту часам магла перамагаць гэтую кучу сонных, не заўсёды цьвярозых, ахамелых „народных абраньнікаў”.

На гэты раз выбар быў пастаўлены вельмі сур’ёзна. Адмова ад нэўтралітэту і бязьядзернасьці Беларусі, ваенны саюз з Расеяй і азіяцкімі краінамі – гэта ня толькі пэрспэктыва страты незалежнасьці, гэта крах мірнай незалежнай палітыкі, страты прэстыжу і пазыцыяў у сьвеце. Гэта пагроза жыцьцям грамадзянаў Беларусі. Старшыня Вярхоўнага Савету такой дзяржавы ператвараецца ў палітычны нуль. С. Шушкевіч зразумеў гэта і ... павёў сэсію па рэгляманце.

Апазыцыя БНФ атрымала роўныя магчымасьці з дэпутатамі намэнклятурнай большасьці і пачала перамагаць. Тады раптам перапынілі сэсію на тыдзень, каб падрыхтаваць падтрымку ад саўмінаўскіх структураў (правёўшы розныя псэўдаэкспэртызы і інш.).

Пасьля перапынку першы дзень (8-га красавіка) намэнклятура зноў прайграла. У яе пачаліся лёгкія „дрыжыкі”. І вось тады, назаўтра, мы ўбачылі бяздарны спэктакль.

Дарадца В. Кебіча, ён жа дэпутат, прапануе на галасаваньне пытаньне аб даверы С. Шушкевічу. Кароткая дыскусія ў карысьць гэтай прапановы – і ў другім канцы ўстае іншы стагнат з гэтай жа каманды і пачынае ... абараняць Шушкевіча, заклікае не галасаваць за парпанову першага „актора”. Першы выступант упарціцца. Прадстаўнік Апазыцыі цікавіцца ў Прэм’ер-Міністра, што „сіе” значыць, ці думае спадар Кебіч гэтак жа, як яго прыбліжаны дараднік? Спадар Кебіч чырванее і кажа, што размаўляў з дараднікам, але да яго прапановы ня мае ніякага дачыненьня. Дэпутаты ўхмыляюцца. Гульня мускулаў прадаўжаецца. Намэнклятура дэманструе „скіперу” сваю сілу. Паспрабуй, зрабі не па-нашаму.

Спадар Шушкевіч, між іншым, спакойны. Ён ужо са спадаром Прэм’ерам знайшоў згоду. Сьпікер ставіць на галасаваньне пытаньне аб даверы сабе і, вядома, атрымлівае яго. І тут жа ўсё мяняецца. Дэпутаты Апазыцыі зноў не атрымліваюць слова, зноў парушаецца рэглямант, не ўключаецца мікрафон і г.д. Сьпікер падводзіць пад галасаваньне чацьверты пункт – аб калектыўнай бясьпецы (супраць якога выступае сам, але што зробіш – спэктакль дзеецца, трэба выконваць ролю).

Сьпікер пачынае сьпяшацца. Ён, як і ўсе ў залі, ведае, што пасьля абеду ваенны саюз будзе правалены, бо сёньня пятніца, і палова „палітбайцоў” разьедзецца па дамах. Праверана – нішто не стрымае іх: ні вайна, ні гром нябесны, нават канец сьвету. Яны ўсяроўна разьбягуцца па хатах. Таму спадар Шушкевіч не марудзіць і, паглядаючы на засяроджнага Прэм’ера, вядома ж, дасягае мэты. Дарма дэпутаты Апазыцыі зьвярталі ўвагу ўсіх, што галасаваць канстытуцыйнае палажэньне трэба 2/3 галасоў, кідаліся да трыбуны, пратэставалі, выходзілі з залі. Згода адбылася.

Прагаласавалі простай большасьцю пра даручэньне падпісаць ваенны дагавор аб калектыўнай бясьпецы. Тут жа спадар Шушкевіч эфэктоўна заявіў пра вынясеньне пытаньня на рэфэрэндум – і тут жа згадзіўся з стагнацкай большасьцю, каб вынесьці на ўсенароднае галасаваньне „іншыя важнейшыя пытаньні”, што і разглядзець на чарговай сэсіі ў траўні.

У выніку задаволеныя: спадар Шушкевіч, які захаваў сваё крэсла, падмацаваў свой вобраз змагара за згоду і дасягнуў згоды з Прэм’ерам; спадар Кебіч, які выйграў палітычную гульню і накінуў-такі на шыю Беларусі пятлю ваеннага саюзу (засталося толькі зашмаргнуць, што і пастараюцца зрабіць у траўні); спадары намэнклятура, якія дасягнулі мэты і перамаглі Апазыцыю. Адным словам, суцэльная згода. Закон парушаны. Выйгралі ўсе палітыканы. Прайграў народ і Народны Фронт.

Падзеі ў траўні будуць у значнай ступені залежыць ад вынікаў рэфэрэндуму ў Расеі аб даверы прэзыдэнту Ельцыну. Калі Ельцын не атрымае падтрымкі народу Расейскай Фэдэрацыі, дык, безумоўна, камуністы і антынезалежніцкія сілы ва ўрадзе і Вярхоўным Савеце Беларусі ўзбадзёрацца, стануць паводзіць сябе нахабна і самаўпэўнена, убачаць новы шанц для зьнішчэньня нашае дзяржавы, для эксгумацыі СССР і камунізму.

Малаверагодна таксама, каб пры апатыі народу Беларусі, якую мы цяпер назіраем, справа дайшла да рэфэрэндуму. Навошта гэта намэнклятуры, калі ўсё залежыць ад яе? Прыдумаюць чарговую згоду. У гэтым можна не сумнявацца, маючы на ўвазе „палітычна-бытавыя” паводзіны сьпікера, яго беспрынцыповае імкненьне спалучыць неспалучальнае – інтарэсы гвалтаўніка і ахвяры, знайсьці паміж імі „згоду”.

Жыцьцё ўвесь час б’е яго па галаве, прымушае раз за разам здраджваць, але, відаць, ня вучыць. Якое можа быць пагадненьне з тымі, хто, будучы ў Вярхоўным Савеце, ненавідзіць нашую дзяржаву, незалежнасьць, дзяржаўныя сьвятыні і сымбалі, хто ўступае ў антыдзяржаўную змову з камуністамі іншай краіны, рыхтуе дзяржаўны пераварот?!

На наступнай сэсіі яны паставяць чарговыя пытаньні – аб зьнішчэньні асноваў дзяржаўнасьці Беларусі, у першую чаргу грамадзянства (праз увядзеньне двайнога грамадзянства), увосень пастараюцца паставіць пытаньне аб дзяржаўнасьці расейскай мовы, аб аднаўленьні камуністычных сьвятаў, камуністычнай сымволікі, аб „маёмасьці" КПСС-КПБ, аб інкарпарацыі ў Расею і г.д.

Сытуацыя ўнікальная: незалежная дзяржава – але сэрвільнае грамадзтва, антынацыянальны нелегітымны парлямант і антыдзяржаўны ўрад. Так скула ня лопне. Хутчэй пачнецца гангрэна. Толькі сіла можа ўратаваць такі арганізм ад клінічнай сьмерці. Ці знойдзецца, ці зьявіцца такая сіла – вось дзе пытаньне.

***Мар'ян ВАНЬКЕВІЧ***

*Надрукавана: Навіны Беларускага Народнага Фронту,– 1993, красавік, спэцыяльны выпуск;*
*(Пад псэўд. Мар'ян Ванькевіч. Назва артыкула: „ Выйгралі палітыканы прайграў Народны Фронт")*

# АХ, АСТАП ІБРАГІМАВІЧ! *(УСЁ ПА-СТАРОМУ)*

Дзеяньне нечарговай 11-й сэсіі Вярхоўнага Савета разгортвалася нечакана досыць драматычна для ўрадавай намэнклятуры. Відаць, стопрацэнтнай упэўненасьці ў перамозе змовы і прыняцьця дагавора аб „калектыўнай бясьпецы" (з Расеяй) не было. Тады 30-га сакавіка ціха і бяз лішняга агалошаньня Савет Міністраў прымае пастанову № 185, якая зацьвердзіла палажэньне... аб чым бы вы думалі? – аб пэнсіі „за асобыя заслугі перад Рэспублікай Беларусь" (гл. газэту „Рэспубліка", – 1993, 10 красавіка). У „асоба заслужаныя", акрамя розных герояў „соцтруда", узнагароджаных савецкімі ордэнамі, лаўрыятаў і г. д. уключаныя, між іншым, „народныя дэпутаты Рэспублікі Беларусь, вабраныя, пачынаючы з 12-га скліканьня Вярхоўнага Савета, члены Прэзыдыюма Вярхоўнага Савета і Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь, члены ураду, старшыні Камітэту Дзяржаўнай Бясьпекі, праўленьня Белкаапсаюзу, Вярхоўнага Суду, Кантрольнай Палаты, Фэдэрацыі Прафсаюзаў Беларусі, генэральныя пракуроры, начальнікі Сакратарыяту Вярхоўнага Савету (надта ж важная шышка! – З.П.), старшыні аблвыканкамаў і Менскага гарвыканкама."

Гэтым асобам пэнсія „за асобыя заслугі" ўстанаўліваецца ў памеры пэнсіі па ўзросту ці інваліднасьці **з павышэньнем яе на 100 – 200 адсоткаў** мінімальнага памеру пэнсіі па ўзросту (гэта значыць у 2-3 разы). Акрамя таго членам Прэзыдыюму Вярхоўнага Савета, ураду і ўсім чыноўным пасадам, пералічаным ў папярэднім абзацы, пэнсія будзе налічвацца мужчынам з 55 гадоў, жанчынам – з 50 гадоў ў памеры 85 адсоткаў пэнсіі па ўзросту. Маладзейшым за гэты ўзрост (55 і 50 гадоў) выплачваецца 50 адсоткаў пэнсіі па ўзросту, калі ў мужчын працоўны стаж 25 гадоў, а ў жанчын – 20 гадоў.

Істотна таксама, што „пэнсіі за асобыя заслугі перад Рэспублікай Беларусь (хоць бы той чынок яе тройчы прадаваў і сто разоў абакраў) **выплачваюцца працуючым пэнсіянерам у поўным памеры незалежна ад атрыманага імі заробку (даходу)".**

Ндрэнна прыдумалі, праўда? Лепш нават, чым былыя савецкія пэрсанальныя пэнсіі намэнклятурным таварышам. Ах, Астап Ібрагімавіч! Ах, шалунішкі! Ну, даюць „ребята"! І „дзяпутатаў" ўставілі. А мы тут думалі, змагаліся з прывілеямі, адмянялі, забаранялі, і вось на табе – яны йзноў за сваё! Няхораша.

Толькі, відаць, самы сябе рашылі на мякіне купіць, спадары камбінатары. Ня можа такія пастановы прымаць Савет Міністраў. Гэта прэрэгатыва Вярхоўнага Савета, які, дарэчы, даўно праняў закон аб пэнсіях, дзе ніякаму начальству ніякіх прывілеяў не прадугледжана.

Охо-хо-хо, панове. Як кажуць „марната марнаты і ўсялякая марната". Да сустрэчы на чарговай 12-й сэсіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, калегі. З павагай –

***Зянон Пазьняк***
***Народны дэпутат Беларусі.***

*Надрукавана: (Народная Газета, –1993, красавік)*



(Фота З. Пазьняка).

## ЗЯНОН ПАЗЬНЯК:

# „НАМ НЕ ПАТРЭБНЫ ВАЕННЫ САЮЗ З РАСЕЯЙ”

*(Паводле скарочанай стэнаграмы XI нечарговай сэсіі Вярхоўнага Савета)*

Спадары дэпутаты!

Ня можа ня выклікаць зьдзіўленьня тая пасьлядоўнасьць і тая частотнасьць, зь якой у апошні час узьнікае ў Вярхоўным Савеце пытаньне аб скасаваньні нашага канстытуцыйнага палажэньня аб імкненьні да нэўтралітэту і бязьядзернай дзяржавы. Імкнуцца зьнішчыць гарантыю нашага незалежнага мірнага міжнароднага існаваньня. Больш таго, стараюцца зьнішчыць асновы нашай дзяржаўнасьці і культурнага разьвіцьця, грамадзянства Рэспублікі Беларусі і дзяржаўнасьць беларускай мовы. Прыдумваюць розныя міты накшталт пагрозы Беларусі з боку НАТО ці немагчымасьці эканамічных дачыненьняў з Расеяй без ваеннага саюзу і дагавору аб «калектыўнай бясьпецы».

У чым жа прычына? Хто зацікаўлены ў такой палітыцы, адкуль яна зыходзіць? Што датычыць Старшыні Савету Міністраў, які адказны за правал рынкавых рэформаў і тупіковы стан эканомікі, – тут усё зразумела. Прыдумваецца чарговая дымавая заслона, каб пазьбегнуць адказнасьці.

А вось пазыцыя ўраду Расеі, выказаная 30 сакавіка віцэпрэм’ерам А. Шохіным на прэс-канфэрэнцыі: „Мы не ставим вопрос об экономическом союзе - это инициатива Беларуси и Казахстана” І далей: „Мы переходим со всеми странами СНГ на нормальные торгово-экономические отношения, как со странами дальнего зарубежья. России это выгодно экономически”. І далей зноў пра калектыўную бясьпеку: „Я впервые слышу такое настойчивое предложение с вашей стороны.”

Як бачым, пазыцыя акрэсьленая. Тады, можа, без ваеннага дагавору ня можа існаваць на Беларусі былы савецкі вайсковапрамысловы комплекс? Яны тут выступалі і казалі – ня можам, маўляў, без ваеннага саюзу, няма заказаў, заводы спыняцца.

Але адгорнем дагавор паміж Беларусяй і Расеяй „Аб каардынацыі дзейнасьці ў ваеннай галіне”, падпісаны спадаром Кебічам 20 ліпеня 1992 г. і ратыфікаваны Вярхоўным Саветам Беларусі. У арт. 5 напісана: „Бакі забясьпечваюць разьмяшчэньне заказаў Міністэрстваў абароны бакоў на заводах прамысловасьці і прадугледжваюць меры па іх выкананьні”.

Дык чаго ж вам яшчэ трэба, спадары камісары ВПК? Чаму вакол усе гавораць няпраўду? У чым рэч? Тым больш, што вайскова-прамысловы комплекс Расеі ня ў меншай ступені залежыць ад нашых вытворцаў (больш чым на 60%). А падводныя лодкі, расейскі флёт амаль цалкам залежыць ад многіх нашых паставак.

Рэч у тым, што беларускія намэнклятурныя артадоксы зрабілі стаўку на авантурныя сілы Расеі, якія імкнуцца адрадзіць КПСС, Савецкі Саюз, халодную вайну, савецкую таталітарную сістэму. І спадзяюцца на пэўныя колы старадумнай расейскай ваеншчыны, якая не хавае сваіх намераў.

Тым часам сытуацыя ў расейскіх узброеных сілах катастрафічная. Армія не ўкамплектаваная. Гэтай вясной у Расеі, па афіцыйных зьвестках, змогуць набраць толькі 16% прызыўнікоў. Міністар абароны Расеі П. Грачоў гаворыць: „Если дело так пойдет и дальше, то к 1995 году российских войск в „горячих точках” просто не будет. Пусть тогда политики думают, как обеспечить стратегические интересы России”.

Ва ўсёй кампаніі з калектыўнай бясьпекай і з ваенным дагаворам у расейскай ваеншчыны, акрамя геапалітычнага, ёсьць трывіяльны інтэрас – гэта інтарэс гарматнага мяса для „горячих точек” і „стратегических интересов России”. Гэты інтэрас спрабуюць закамуфляваць за нейкімі агаворкамі, абяцаньнямі для прасьцячкоў аб непасыланьні салдат за межы Беларусі і да т.п. – прыём непрыстойны і ашуканцкі. Зразумела, што як толькі нашай краінай будзе заключены ваенны дагавор аб калектыўнай бясьпецы з краінамі СНД (Арменіяй, Казахстанам, Кыргызстанам, Расеяй, Таджыкістанам, Узбэкістанам), над нашымі грамадзянамі навісьне небясьпека апынуцца ў „гарачых кропках”.

За што вы, кіруючая большасьць у Вярхоўным Савеце, схільныя зноў праліваць беларускую кроў? За чыю выгаду? Хіба Беларусь мае стратэгічныя інтарэсы у Азіі, на Каўказе, на таджыцка-аўганскай мяжы? Куды вы штурхаеце наш народ? Нам трэба мець тавары, працу, сацыяльныя гарантыі, свабоду, жыць і працаваць на сваёй зямлі. У нас няма стратэгічных інтарэсаў ні ў Азіі, ні ў Расеі. І ня трэба ўцягваць нашу краіну ў чужыя камуністычныя авантуры.

Падпісаўшы дагавор аб «калектыўнай бясьпецы», мы павінны будзем выконваць яго яшчэ да ратыфікацыі. Гэта міжнародныя нормы, і гэта элемэнтарна. Больш таго, тут спасылаліся на ўнутранае заканадаўства, якім, спадзяюцца, будуць кіравацца. Нічога падобнага. Міжнародныя законы, міжнародныя дагаворы маюць прыярытэт у такіх адносінах. Тым больш, што, згодна таму ж артыкулу 6-му вырашаць будуць кіраўнікі дзяржаваў – пасылаць ці не пасылаць войскі ў тую ці іншую „кропку”. Гэта значыць, што ў нашай дзяржавы будзе толькі адзін голас. Я ужо не кажу пра тое, што будзе Галоўнакамандуючы Ўзброенымі Сіламі.

Існуе прысяга, існуе прызыў. І хто будзэ адказваць, калі нашыя салдаты, нашыя грамадзяне загінуць дзе-небудзь у Абхазіі? Эрых Хонэкер ці Леанід Ільіч Брэжнеў, які падпісаў рашэньне Палітбюро і накіраваў салдат у Аўганістан? А адказнасьць павінна быць канкрэтнай, і адказваць будуць, безумоўна, тыя палітыкі, якія гэтае рашэньне прымаюць.

Цяпер паглядзім на геапалітычную сітуацыю. Уявім, што Беларусь адмовілася ад нэўтралітэту і заключыла ваенны дагавор з Расеяй. А як да гэтага паставіцца Ўкраіна? Як паставяцца нашыя суседзі? Можа, незразумела, які ўсталюецца рэжым на межах зь імі? Можа, незразумела, зь якога моманту пачнецца падрыхтоўка да інкарпарацыі тэрыторыі Беларусі ў сфэру палітычнага распараджэньня Расеі? Мы станем тэрыторыяй супрацьстаяньня.

Тут гаварылася, што дэпутаты камуністычнай большасьці вельмі любяць езьдзіць у НАТО. Я растлумачу, чаму яны любяць туды езьдзіць. Я там быў і таксама размаўляў з натаўскай бюракратыяй. Яна зацікаўлена ў тым, каб утвараўся такі саюз. Яна зацікаўлена ў супрацьстаяньні, таму што ў НАТО цяпер няма чаго рабіць. Калі скончацца канфлікты ў Босьніі і Герцагавіне, тады ў іх ізноў узьнікнуць праблемы. Справа ня ў тым, што сам НАТО зацікаўлены ў нашым ваенным дагаворы з Расеяй. НАТО ніколі такога ня скажа адкрыта. А вось натаўская бюракратыя зацікаўленая. Ня дзіва, што вы знайшлі агульныя інтарэсы.

А як паставіцца да адмаўленьня Беларусі ад сваіх нэўтральных прынцыпаў Эўропа, міжнародная супольнасьць? Здрада



(Фота З. Пазьняка).

*76. Ноч на танкавым палігоне пад Менскам. 1980 г.*

нэўтралітэту аўтаматычна пацягне за сабой зьнікненьне бязьядзернага статусу. Няўжо гэта незразумела? Якую ж тады пэрспэктыву нашай дзяржаве рыхтуюць спадары змоўшчыкі? А гэта сапраўды змова, змова супраць Беларусі.

Тут спадар Кебіч грымеў філіпікамі ў адрас Беларускага Народнага Фронту. Маўляў, і ўрад крытыкуюць, і ў эканоміцы не разьбіраюцца. Наконт „разьбіраньня ў эканоміцы" Вам, шаноўны Старшыня Савету Міністраў, лепш было б нічога не казаць. Вынікі Вашага разуменьня эканомікі відавочныя. Наша насельніцтва ўжо чэрпае э гэтых вынікаў поўнай чашай. У Вас ва Ўрадзе няма нават ніякай праграмы, пляну, ніякай эканамічнай канцэпцыі, ніякага эканамічнага здаровага сэнсу. Вы не прыслухаліся ні да адной разумнай парады, якія Вам казалі. Дарэчы, ***усе эканамічныя прагнозы Апазыцыі БНФ спраўдзіліся. Усе псэўдапачынаньні Ўраду праваліліся.*** Гэта ж факт.

Імклівае падзеньне пачалося з 1992 года, калі Ваша палітычная бязьдзейнасьць уцягнула краіну ў шалёную інфляцыю. Я памятаю, як ліха выступалі Вы тады ў парляманце пад гром апладысмэнтаў. І што ж цяпер? Гэта Вы, спадар Кебіч, Вашай бяздумнай эканамічнай палітыкай паспрыялі ператварэньню ў пыл грашовых укладаў насельніцтва, што адным махам кінула наш народ у нястачу. А цяпер Вы адшпільваеце падачкі пэнсіянерам – праезд бясплатны, 300 рублёў на беднасьць. Усё гэта зараз дапаможа, як мёртваму прыпаркі.

Так, Вы зразумелі, што зайшлі у тупік. Але мяне зьдзіўляе ня столькі Вашая ўпартасьць не прызнаваць гэтага, колькі гатоўнасьць дзеля свайго выратаваньня ахвяравацца нашымі важнейшымі палітычнымі каштоўнасьцямі: нэўтралітэтам, бязьядзернасьцю, а ў выніку – суверэнітэтам і жыцьцямі людзей.

***Беларусі не патрэбны ніякі ваенны саюз, ніякі дагавор пра «калектыўную бясьпеку». Ня трэба ўступаць ні ў які ваенны блёк з Расеяй.*** Само геапалітычнае разьмяшчэньне нашае краіны ў цэнтры Эўропы, паміж Усходам і Захадам, прымушае нас (прынамсі, пакуль прымушае) трымацца нэўтралітэту. Гэта гарантыя спакою, стабільнасьці для народу Беларусі. Неўмяшальніцтва ўжо апраўдала сябе. Нельга ў чарговы раз паддавацца на камуністычную авантуру. Гэтыя авантуры нічога не прыносілі нашаму народу, акрамя праліцьця крыві, зьнішчэньня, разбурэньня і зьнявагі нас як народу. Пра гэта трэба памятаць і не забывацца.

***Зянон ПАЗЬНЯК***

*8 красавка 1993 г.*
*Надрукавана: „Навіны Беларускага Народнага Фронту",*
*– 1993, красавік; спэцыяльны выпуск;*
*(рубрыка: „ Што казала Апазыцыя БНФ")*

# Д'ЯБЛЫ

Вам, паважаныя чытачы, прапануецца цяжкі артыкул, хоць я і ашчадна пішу пра падзеі. Мы павінны ведаць праўду, якой бы змрочнай яна ні была. Бо нельга жыць у хлусьні.

Не магу ня выказаць падзяку „Звяздзе" за добрую прыпіску да майго артыкула „Пакараньне" (11.02.1993), асабліва што датычыць ацэнкі артыкула як ілюстрацыі да маіх „поглядаў, пераканаьняў і падыходаў". Гэта сапраўды так і ёсьць. Але самае важнае тое, што прыпіска, тонка апэлюючы да людзей пэўнай катэгорыі, дала выдатны вынік – дзьве газэтныя паласы водгукаў, дзе, асабліва ў нумары ад 24 лютага, сабралася (амаль выключна) адна масьць, адна ўзроставая катэгорыя людзей, выяўленыя ўсе распаўсюджаныя стэрэатыпы думаньня постбальшавіцкіх рэспандэнтаў – ад „Ленін – бог, якому мы маліліся ўсё жыцьцё" да „... стварыў магутную дзяржаву, няхай сабе і праз расстрэлы". Гэтае характэрнае сацыялягічнае сьведчаньне і паводзіны, думаю, цікавыя для сучасьнікаў і дасьледчыкаў.

У пачатку сакавіка я атрымаў ліст з Пінска ад вядомага лекара-псіхіятра Льва Пятровіча Наваковіча. Ён паведамляе:

*"Спэцыяльна для „Зьвязды" напісаў і сёньня высылаю белетрызаваны акт пасьмяротнай псіхіятрычнай экспэртызы хваробы Леніна, дзе прыводзіцца разгорнуты дыягназ і яго абгрунтаваньне. У „Медицинской газете" 18.09.1992 г. надрукаваны мой артыкул „Болезнь Ленина: диагноз психиатра", дзе прыведзенае абгрунтаваньне ленінскага прагрэсіўнага паралічу. Артыкул абмяркоўваўся на катэдры псіхіятрыі Беларускага Інстытуту Ўдасканаленьня Лекараў трыццацьцю псіхіятрамі. Дыягназ прызнаны правільным.*

*Пры здаровым меркаваньні камунізм-ленінізм – не настолькі ўтопія,* – заўважае Л.Наваковіч, *– колькі трызьненьне. Сусьветная рэвалюцыя, зьнішчэньне капіталізму, прыватнай уласнасьці і г.д. у сусьветным маштабе – гэта мегагаманічнае трызьненьне, якраз і характэрнае пры прагрэсіўным паралічы. „Шматмудрасьць", шматслоўе, мноства пісьмовай прадукцыі, ідэй (паталягічных), „агромністая" воля-гіпербумія, цяга да разбурэньня, пастаянны (да 1921 г.) ленінскі неадэкватны сьмех – усё гэта сімптомы маніякальнага стану, ажыятацыі, у якіх „самы чалавечны чалавек" знаходзіўся. Жорсткасьць яго паталягічная, уласьцівая пры арганічным паражэньні мазгоў",* – піша лекар.

*Дарэчы, пра неадэкватны „ленінскі сьмех". Лекары адзначалі, што ў першыя гады пасьля перавароту настрой у Леніна быў пастаянна „павышаны". Ён шмат рагатаў. Пра гэта з замілаваньнем піша А. Стасава: „Часта на паседжаньнях ЦК можна было чуць выбухі гучнага рогату".*

*Бэртран Расел таксама зьвярнуў на гэта ўвагу, але па-іншаму: „Ён шмат рагоча, спачатку яго сьмех здаецца дружалюбным і вясёлым, але паступова мне стала неяк не па сабе".*

Л. Наваковіч, зыходзячы з дыягназу хваробы Леніна, выказаў меркаваньне ў „Медицинской газете", што неадэкватны сьмех і настрой „правадыра" меў хутчэй за ўсё нематываваны эйфарычны характар. Але з 1921 года, з паглыбленьнем хваробы, весялосьць пачала пакідаць Леніна.

На жаль, „Звязда" не надрукавала рукапіс Л. Наваковіча „Сакрэтны дыягназ". Ня буду яе ў гэтым асуджаць. Аднак некаторыя месцы з дыягназу спэцыяліста варта ўсё ж працытаваць:

„У часопісе „Огонек" №4 1990, нарэшце, быў надрукаваны артыкул псіхіятра-прафэсара В. Осіпава, які лячыў сьмяртэльна хворага Леніна, і апісаў клінічную карціну і характэрнае разьвіцьцё яго хваробы...

*Дадзеныя паталагаанатамічнага ўскрыцьця цела Леніна, надрукаваныя акадэмікам Б.Пятроўскім... Былі выяўленыя масіўныя атрафіі мазгоў і сасудаў... (Дарэчы, па дадзеных Н. Сямашкі, які прысутнічаў пры ўскрыцьці, „склероз сасудаў мазгоў Уладзімера Ільіча быў настолькі моцны, што сасуды гэтыя звапнаваліся: пры ўскрыцьці па іх стукалі мэталічным пінцэтам, як па камені".)*

*„Апісаныя зьмяненьні мазгоў,* – піша Л. Наваковіч, *– не бываюць пры раненьнях, атручваньнях, ператамленьнях і неўласьцівыя спадчыннаму захворваньню. Акадэмік Б. Пятроўскі справядліва адзначыў, што ня 5 і ня 10 гадоў хварэў гэтым захворваньнем Ленін, яно пачалося задоўга да 1917 г. Псіхіятар праф. В. Осіпаў у „Красной Летописи„(1927 г.) апісаў лячэньне хворага правадыра: яго лячылі прэпаратамі ёду, ртуці, мыш'яку і прышчэпкамі ліхаманкі (малярыі), г. зн. было праведзена актыўнае антысіфілітычнае лячэньне. Прышчэпкамі малярыі тады лячылі прагрэсіўны параліч...*

*Характэрная сімптаматыка, разьвіцьцё хваробы, яе стадыйнасьць, завяршэньне і праведзенае антысіфілітычнае лячэньне – усё гэта дазваляе цалкам абгрунтавана і неабвержна сьцьвярджаць, што У. І. Ленін звыш 10 гадоў хварэў хранічным спэцыфічным менінгаэнцэфалітам – позьнім нейрасіфілісам у выглядзе прагрэсіўнага паралічу з распаўсюджаным атэрасклерозам сасудаў мазгоў."*

*„Афіцыйны дыягназ – „распаўсюджаны атэрасклероз сасудаў на глебе заўчаснага іх зношваньня" – не адлюстроўвае сутнасьці захворваньня...*

*„Геній" быў нэрвова-псіхічна хворым, і пара сказаць народу праўду, дзеля яго ж прасьвятленьня і выратаваньня",* – піша Л. Наваковіч.

Хвароба ня можа кампрамэтаваць чалавека, нават калі яна зьвязана з псіхікай і галавой. Аднак на справе атрымліваецца: тое, што дазволена Мапасану, не ўспрымаецца ў дачыненьні да Леніна. Бо Ленін не Мапасан. Справа нават ня ў тым, што ён асабіста стаў прычынай неверагоднага генацыду, голаду, людаедства, вынішчэньня мільёнаў нявінных людзей. Такіх сярод герояў і галаварэзаў у гісторыі хапае (хоць Ленін і вылучаецца). Справа ў тым, што хвораму Леніну, які ідэалягічна акамуляраваў і палітычна ўвасабляў вар'яцкія ідэі, створаны камуністычнай сістэмай ілжывы міф генія, заснавальніка „перадавога" вучэньня, вялікага тэарэтыка і „самага чалавечнага чалавека". Гэтым міфам апраўдваюцца ня толькі забойствы, агрэсія, разбурэньні, насільле, абалваньваньне людзей, палітычны і духоўны прыгнёт, хлусьня. Апраўдваецца „вучэньне" аб гэтай хлусьні. Маўляў, вучэньне правільнае, ды вось „сказілі", камунізм будзе „жыць вечна". Трэба толькі трымаць „чысціню" ленінскіх ідэй. А „ідэі" – псіхапатычныя.

Міф пра Леніна вынікаў з патрэбнасьці самазахаваньня савецкай таталітарнай сістэмы. Усе камуністычныя правадыры ўмацоўвалі гэты міфічны культ і хавалі яго таямніцы. Гэтак жа, як некалі культ Сталіна, Ленінскі міф ператварыўся ў тыповы для камуністычных краінаў сурагат рэлігіі – сацыяльнае ідалапаклонства.

Могуць запярэчыць: але ж тое, што казаў і рабіў Ленін, тое самае гаварылі і ажыцьцяўлялі іншыя бальшавікі. Ня ўсе ж

яны былі хворымі маньякамі? Так, у клінічным сэнсе ня ўсе. Бальшавіцкае вар'яцтва асобай уласьцівасьці. Гэта псіхічная хвароба сэрвільнага грамадзтва, сацыяльная шызафрэнія калектывісцкай ідэалёгіі. Клінічныя маньякі ў такім асяроддзі нічым не вылучаліся, хіба што, часьцей былі завадатарамі. У тым і справа, што калі б у бальшавіцкай сістэме на пасадзе Леніна апынуўся любы зь яго „соратников" (падкрэсьліваю, любы), яму стварылі б аналягічны цёмны культ. Ведаючы бальшавізм, хіба цяжка ўявіць на месцы генсека Леніна, скажам, Льва Троцкага, Сьвярдлова ці Дзяржынскага, Зіноўева ці Кірава, Лацыса, Радэка, Склянскага, Менжынскага, Кагановіча ці Бухарына? Ня цяжка. А генсекам стаў, між іншым, шэранькі малаадукаваны Коба (Сталін), у мінулым крымінальнік. І што атрымалася?! – Геній усіх часоў і народаў.

Трэба сказаць, што „соратнікі" – вартыя свайго правадыра. За міфы пра іх камуністы прадаўжаюць трымацца, як п'яніца за слуп. Ім хочацца знайсьці сярод бальшавікоў хоць адну нармальную асобу ў чорным пантэоне. Чаго вартыя апошнія спробы абяліць такога агіднага індывідуума, як Бухарын. Гэты „выдающийся теоретик", „любимец партии", „прекраснодушный интеллигент" пісаў у сваёй працы „Экономика переходного периода" (1920 г.): „Расстрелы являются одной из форм становления коммунистического общества". Альбо: „Без массовых репрессий и расстрелов нам коммунизм не построить". Ці яшчэ: „Пролетарское принуждение во всех своих формах, начиная от расстрелов... является методом выработки коммунистического человека из человеческого материала капиталистической эпохи".

Мэтад „выработки коммунистического человека" ў дачыненьні да Бухарына прымяніў Сталін. Пры гэтым „теоретик" быў моцна напалоханы, плакаў і не хацеў ператварацца ў „коммунистического человека".

Пабудову камунізму па бальшавіцкай мэтодыцы Ленін і „соратники" пачалі адразу пасьля кастрычніцкага перавароту. Былі ліквідаваныя ўсе судовыя ўстановы. 10 лістапада 1917 г. спэкулянты аб'яўляюцца „ворагамі народа" і „расстрэльваюцца на месцы". У іншым ленінскім дэкрэце „ворагамі народа" аб'яўлены сяляне, што маюць „лішкі хлеба". (Из истории ВЧК, – М., 1958) У лістападзе 1917 г. утварылі Рэвалюцыйныя Трыбуналы, якія кіраваліся „велением революционной совести" і складаліся спачатку з сямі чалавек, а з 17 лютага 1919 г. – з трох („ревтройки"). Ідэя Леніна. Нагадаю, напрыклад, яго тэлеграму ў Ніжагародзкі Саўдэп 9.08.1918 г.: „... составить тройку диктаторов, навести тотчас массовый террор, расстрелять и вывезти..." і г.д.

5 верасьня 1918 года быў прыняты дэкрэт Савета Народных Камісараў аб стварэньні канцлягераў. Бралі закладнікаў. Забойствы без суда і масавыя расстрэлы сталі звычайнай зьявай.

Цікава заўважыць, што Сталін не прыдумаў літаральна нічога новага, чаго б не было ў Леніна. Нават ідэі „СМЕРШа" і „заградотрядов" нарадзіліся ў галаве Ільіча. Праўда, ня ўсё, што напісана Леніным, можна прачытаць. Поўны збор твораў яго – гэта, у значнай ступені, фальсіфікацыя. Там шмат купюраў, ніяк не адзначаных у тэксьце. Вось, напрыклад, абзац ліста Троцкаму. Купюра, вырваная ў ПСС, т.51, с.68, намі падкрэсьленая: „Если наступление начато, нельзя ли мобилизовать еще тысяч 20 питерских рабочих плюс тысяч 10 буржуев, поставить позади их пулеметы, расстрелять несколько сот и добиться настоящего массового напора на Юденича?"

Неабмежаваныя паўнамоцтвы атрымала ЧК – яшчэ адно ўвасабленьне антычалавечых фантазіяў бальшавіцкага правадыра. Пачаўся такі гвалт, у такіх маштабах, якіх дагэтуль яшчэ ня бачыў сьвет. Забівалі ўсіх: старых і малых, мужчын і цяжарных жанчын. Забойствы сталі бытавой зьявай, вар'яцкай нормай жахлівай рэчаіснасьці.

З 1918 да 1924 гг. насельніцтва былой Расейскай імпэрыі паменшылася на 15,1 мільёнаў чалавек. Зь іх 2 мільёны прыпадае на эміграцыю і 800 тысяч на грамадзянскую вайну. Астатнія перабітыя, перадушаныя, закатаваныя, замораныя голадам бальшавікамі-ленінцамі. Да 1953 года ахвяраў камунізму лічылі ўжо на дзясяткі мільёнаў душ.

„Для нас нет и не может быть старых устоев морали и „гуманности", выдуманных буржуазией для угнетения и эксплуатации низших классов, – пісалася ў 1919 г. у чэкісцкім штотыднёвіку „Красный меч". – Наша мораль новая, наша гуманность абсолютная, ибо она покоится на светлом идеале уничтожения всякого гнета и насилия. Нам все разрешено."

„Ленін стварыў магутную дзяржаву, няхай сабе і праз расстрэлы", – пішуць цяпер. *(„Звязда", 1993 г., 24.02.)*

Увогуле, фразы, накшталт вышэйпададзенай, і лічбы, якімі б вялікімі, страшнымі яны ні былі, часам дрэнна асэнсоўваюцца на слых. Для некаторых гэта абстракцыі, за якімі не ўяўляецца нічога канкрэтнага (нават для тых, хто ўхваляе забойствы. Успомнім Бухарына.). Што ж, давайце зазірнём, што стаіць за дзеяньнямі людзей, якім было „ўсё дазволена".

Сьведчаньняў, дакумантаў, матэрыялаў, артыкулаў, кніг на гэтую тэму надрукавана больш, чым дастаткова. Я асабліва адзначыў бы працы С. Мельгунова „Красный террор в России. 1918-1923", Ніластонскага, Авербуха, Мергуліеса, а таксама матэрыялы „Асобай Камісіі па рассьледваньні злачынстваў бальшавікоў", створанай генэралам А. Дзянікіным. Дакуманты з парыжскага архіва Камісіі часткова надрукаваныя ў Расеі (часопіс *„Родина",* 1990, №10 і інш.).

У сакавіку 1919 г. у Астрахані адбываецца забастоўка рабочых. „Дзесяцітысячны мітынг рабочых, якія мірна абмяркоўвалі сваё цяжкае матэрыяльнае становішча, быў ачэплены кулямётчыкамі, матросамі гранатчыкамі. Пасьля адмовы рабочых разысьціся быў дадзены залп зь вінтовак. Потым затрашчалі кулямёты, накіраваныя ў шчыльную масу ўдзельнікаў мітынгу, і з аглушальным трэскам пачалі разрывацца ручныя гранаты... Ня менш дзьвюх тысячаў ахвяр было выхаплена з рабочых радоў." (Мельгуноў.)

Потым пачаліся арышты рабочых. „У падвалах „чрезвычаек", камендатур і проста ў дварах расстрэльвалі. З параходаў і баржаў кідалі проста ў Волгу. Некаторым няшчасным прывязвалі камяні на шыю... 13-14 сакавіка расстрэльвалі зноў толькі адных рабочых... потым... рашылі браць першых трапіўшых пад руку „буржуяў"... Да 15 сакавіка наўрад ці можна было знайсьці хоць адзін дом, дзе б не аплаквалі бацьку, брата, мужа... Да пачатку красавіка расстралялі чатыры тысячы ахвяраў. А рэпрэсіі ўсё не сьціхалі... Жудасную карціну ўяўляла Астрахань у гэты час. На вуліцах – поўнае бязьлюддзе. У дамах ручаі сьлёз."

(Успомніце хрушчоўскі расстрэл рабочых у Новачаркаску ў 1962 г. Бальшавізм „един".)

У студзені 1919 года было хваляваньне рускага насельніцтва ў Туркестане, нездаволенага бальшавікамі. „У ноч з 20 студзеня былі масавыя расстрэлы. Груды целаў былі навалены на чыгуначнае палатно. У гэтую страшную ноч было перабіта звыш 2500 чалавек." (Мельгуноў.)

1920 г. Казань. Бальшавікі расстралялі 60 рабочых за патрабаваньне васьмігадзіннага рабочага дня.



**Нарком Ежов**

В сверкании молний ты стал нам знаком,
Ежов, зоркоглазый и умный нарком.
Великого Ленина мудрое слово
Растило для битвы героя Ежова.

Великого Сталина пламенный зов
Услышал всем сердцем, всей кровью Ежов.
Когда засияли октябрьские зори,
Дворец штурмовал он с отвагой во взоре.

***Джамбул.***
*("Пионерская правда", №171, 20.12.1937).*

***77. Яжоў, адзін з крывавых кіраўнікоў савецкага НКВД, і два слупкі зь вялікага хвалебнага словаблудзтва.***

1920 г. Бальшавікі ў Адэсе. „Кожны дзень расстрэльваюць... Колькасьць расстраляных па афіцыйных дадзеных даходзіць да 7000.” Загадалі эвакуіраваць з Адэсы ўсіх галічан. „Але калі яны сабраліся на таварную станцыю з жонкамі, дзецьмі і багажом, іх сталі расстрэльваць з кулямётаў.”

Бальшавікі ў Екацярынадары. Турмы перапоўненыя. „Са жніўня 1920 па люты 1921 толькі ў адной турме расстралялі каля 3000 чалавек.”

Стаўрапальская губернія. „Расстрэльваюць жонак за тое, што не данесьлі пра ўцёкшага мужа, забіваюць 15-ці, 16-гадовых дзяцей і 60-гадовых старых... Расстрэльваюць з кулямётаў, часам сякуць шаблямі.”

Менск. 1922 г. На сценах сьпіскі расстраляных. „Расстрэльваюць кожны дзень па некалькі дзясяткаў чалавек.”

Крымская разьня 1920-1921 гг. Колькасьць расстраляных называюць ад 50.000 да 150.000 чалавек. „У Сімферопалі можна было бачыць расстраляных жанчын з груднымі немаўлятамі.”

У маленькай Еўпаторыі за 3-4 дні арыштавалі 300 чалавек, перавезьлі на караблі і забівалі на палубах. „Ахвяру акружалі з усіх бакоў узброеныя матросы, здымалі зь яе верхнюю адзежу, зьвязвалі вяроўкамі рукі і ногі... адразалі вушы, нос, губы, палавы орган, а часам і рукі, і ў такім выглядзе кідалі ў ваду...” (Справа №56 Асобай Камісіі...)

„На металургічным заводзе кінулі ў доменную печ 50 чалавек.”

У Харкаве, Палтаве і іншых украінскіх гарадах Асобая Камісія выявіла шмат забітых бальшавікамі ў агульных магілах. Трупы з адрэзанымі рукамі, языкамі, насамі, выкалатымі вачамі, сплюшчанымі галовамі і т.п. Сярод іх 18 сямідзесяцігадовых манахаў. З 75-гадовага архіепіскапа Радзівона зьнялі скальп. „У ліку ахвяр – маладыя дзяўчаты, старыя бабулькі і цяжарныя жанчыны.”

„Дваццаць пяць сьвятароў расстралялі ў Пярмі, а епіскапа Андроніка жывога закапалі.”

„Забітых пакідалі доўга валяцца на месцы расстрэлу і не дазвалялі родзічам забіраць целы, пакідаючы іх на зьядзеньне сабакам і сьвіньням, якія цягалі іх.” (Мельгуноў.)

„Ворагаў народа”, сялян, рабочых, буржуяў, „гнілую інтэлігенцыю” і г.д. чэкісты шмат дзе вешалі і расстрэльвалі днём, проста ў горадзе ў прысутнасьці разьзявак, родзічаў і дзяцей.

У маскоўскай ЧК у 1923 годзе ўсю зіму расстрэльвалі проста ў двары. Сьнег быў буры. Калі ён пачаў раставаць, на вуліцу з-пад варот хлынула рэчка крыві. Чэкісты выскачылі і адчынілі на вуліцы нейкі люк, спускаючы туды крывавую плынь.

У Саратаве бальшавікі расстрэльвалі каля горада ў вялікім глыбокім яры. Трупы не засыпалі. За год іх накапілася тысячы. Як магнітам туды цягнула людзей. Стаялі на перакідным мастку, узіраліся ў чалавечае месіва, дзе жыравалі каты, вароны, сабакі, спадзяваліся ўбачыць сваіх родзічаў. Цікаўных тут жа арыштоўвалі чэкісты. А людзі, як у самнамбулічным стане, ішлі і ішлі.

Хворых і раненых зьнішчалі „беспощадно”. Вось прыехала група бальшавікоў у шпіталь пасьля адыходу Дзянікіна. „Пагаварыўшы трошкі з раненымі, пачалі затым расстрэльваць і секчы ўсіх падрад... прычым адзін зь іх дастаў сякеру і сек ёю... Праз нейкі час... усе вымазаныя крывёй абмывалі сябе і сваю зброю, сякеры і рыдлёўкі на двары ў карытах, а потым зноў вярнуліся прадаўжаць... (Справа №2.)

Над людзьмі і трупамі абавязкова глуміліся. У прысутнасьці жонкі бальшавік ударыў яе мужа шабляй па галаве.”Мазгі выпалі і разьбіліся на кускі па тратуары; удава кінулася падбіраць іх, каб ня даць схапіць сабакам. Адагнаўшы ўдаву, чырвоны кат закрычаў; „Ня руш. Хай сабакі зжаруць.” (Справа 43-44)

„Расстрэльвалі дзяцей у прысутнасьці бацькоў і бацькоў у прысутнасьці дзяцей... Асабліва лютаваў Асобы аддзел ВЧК. Ён прысылаў з „франтоў” у Бутыркі (Масква – З.П.) цэлымі пачкамі малалетніх „шпіёнаў” ад 8 да 14 гадоў.” (Мельгуноў)

Надзвычай жорстка зьнішчалі сялян.

1921 г. „Амаль уся Ляскавіцкая воласьць Бабруйскага павету спаленая бальшавікамі дарэшты, – паведамляецца ў Мельгунова. – Арыштаваных адсылаюць у Валагодзкую губ. Ці ў галодныя месцы. Маёмасьць іх канфіскуецца. Бяруцца дзясяткамі закладнікі.”

Загад №69 па Кіеўскай акрузе прадпісваў „ужываньне масавага тэрору супраць заможных сялян, аж да вынішчэньня іх „поголовно”.

У Кастрамской губ. начальства, прыехаўшы ў вёску, „ставіла ўвесь сход на калені, каб сяляне адчулі павагу да савецкай улады...”

У Арлоўскай губ. пры зысканьні надзвычайнага падатку шырока практыкаваліся ператварэньні сялян у „ледзяныя слупы” (аблівалі вадой прывязанага на марозе).

У Тамбоўскай губ. чэкісты „арыштавалі” ікону Багародзіцы і глуміліся над ёй (плявалі і т.п.) Сяляне пайшлі „сьцяной вызваляць Багародзіцу. Ішлі бабы, дзяды, дзеці. Па іх ЧК адкрыла агонь з кулямётаў. Кулямёт косіць па радах, а яны йдуць па трупах, па раненых, лезуць напралом, вочы страшныя, маткі дзяцей наперад, крычаць: „Матухна Заступніца, уратуй, памілуй, усе за Цябе ляжам...” (Мельгуноў.) І ляглі.

Страшным, пакутным было становішча жанчын. Дзікае, подлае глумленьне. Вясной 1918 г. у Екацярынадары камуністы выдалі дэкрэт, надрукавалі яго ў „Известиях Совета” аб „сацыялізацыі” дзяўчат ва ўзросьце ад 16 да 25 гадоў. Жадаючыя зьвярталіся ў „надлежащие революционные учреждения”.

Вось дакумэнтальны ўзор такога мандата: „Мандат. Предъявителю сего товарищу Карасёву предоставляется право социализировать в городе Екатеринодаре 10 душ девиц возрастом от 16 до 20 лет, на кого укажет товарищ Карасёв. Подпись: Главком Иващев. Место печати.” (Справа №18)

На падставе такіх мандатаў было схоплена 60 дзяўчат. Усе яны былі згвалтаваныя. Некаторыя пасьля жорсткіх катаваньняў былі забітыя і выкінутыя ў раку. „Так, напр., вучаніца 5-га кляса гімназіі была згвалтаваная на працягу 12 сутак цэлай групай... Затым бальшавікі прывязалі яе да дрэва і палілі агнём і, нарэшце, расстралялі.” (Справа №18)

Сьведчаньні аб засьценках, катаваньнях і дзейнасьці ЧК – жахлівыя. Гэта пекла. Адзін з кіраўнікоў ВЧК Лацыс пісаў у „Чырвоным тэроры”: „Першае пытаньне, якое вы павінны прапанаваць абвінавачанаму – якога ён паходжаньня, выхаваньня, адукацыі ці прафэсіі. Гэтыя пытаньні і павінны вызначыць лёс абвінавачанага. Мы зьнішчаем буржуазію як кляс”.

Допыт сьледчага ЧК у Стаўрапальскай губ. зводзіўся да адной фразы: „Пакажы руку! Разьдзець.” Зь вязьня зрывалі адзежу і штурхалі да выхаду. Там яго падымалі на штыкі і кідалі цела ў яму.

Яшчэ прасьцей вялі сьледзтва ў Броньніцах пад Масквой. „Там камісарамі расстрэльваліся ўсе, чые фізіяноміі ім не падабаліся.” (Мельгуноў.)

У Яраслаўлі закладнікаў расстрэльвалі з прэвентыўнай мэтай. У іншых месцах, як сьведчыў Лацыс, „на всякий случай”. Людзей афіцыйна забівалі, часам ня ведаючы іхных прозьвішчаў, каго і за што забілі.

Мэтады забойстваў ЧК (а гэта ўсё стаяла „на канвееры”) былі самыя разнастайныя, – ад грубага біцьця па патыліцы перад ямай, напоўненай мазгамі, да „артыстычнага паляваньня”. Арыштаваных жанчын (ці мужчын) месячнай ноччу голымі выпускалі ў абгароджаны глухім плотам сад і наладжвалі на іх паляваньне з рэвальверамі.

Забівалі дубінай павольна на працягу гадзіны, каб назіраць пакуты ахвяры. У Харкаве (кіраўнік ЧК Саенка) здымалі скальпы, у тым ліку з рукі (рабілі пальчаткі з чалавечай скуры). Памочнік Саенкі матрос „Эдуард” умеў пры забойстве па-сяброўску размаўляць з вязьнем і тут жа „артыстычна” выстраліць яму ў патыліцу, заліваючыся бесклапотным сьмехам. У Царыцыне і Камышыне пілавалі косьці. У Палтаве і Крамянчугу сьвятароў і сялян саджалі на кол. Сялян яшчэ і спальвалі на калах, а кіраўнік ЧК („Грышка-прастытутка”) сядзеў на крэсьле і пацяшаўся пры гэтым. У Екацярынаславе ўкрыжоўвалі, павольна смажылі ў печах, разрывалі папалам лябёдкамі, апускалі ў кіпень. У Варонежы качалі ў бочках, прабітых цьвікамі. У Кіеве ЧК прыдумала прыстасаваньне з трубой, калі ахвяру наскрозь праядаў пацук. У Адэсе... Страшна было ў Адэсе.

Асабліва зьвярэлі каты-жанчыны. Нейкая дзяўчына Вера Грабеннюкава літаральна крамсала свае ахвяры. За два с паловай месяцы службы ў Адэскай ЧК забіла 700 чалавек. У Валагодзкай і Архангельскай губ. забівала нейкая Рэвека Майзель. Езьдзіла нават у страшны Халмагорскі канцлягер, каб суняць сваю страсьць. Там утапіла 500 чалавек. У Пензе зьвярэла нейкая Бош, у Маскве – дама з папяроскай, у Адэсе – садыстка па клічцы „Мопс”, у Баку – „товарищ Люба”, у Рыбінску – „Зіна”. Усюды былі свае „зьвяры”. Ніхто ня мог, аднак, зраўняцца з чэкісцкім катам Магам з Масквы. Гэты адзін забіў 11 тысяч людзей. У час „апэрацыі” Мага прыходзіў у экстаз. Аднойчы пасьля расстрэлу 20 чалавек ён згубіў кантроль над сабой, накінуўся на камэнданта турмы Асобага аддзелу ВЧК, які прысутнічаў пры расстрэле так сабе, „из любви к искусству”. „Распранайся!” – закрычаў Мага, увесь апырсканы крывёй і мазгамі. Ледзь скруцілі энтузіяста.



*78. Характэрнае фота Л. Бэрыі.*

У Растове-на-Доне ЧК узначальваў Петэрс. У час расстрэлаў за ім бегаў хлопчык гадоў 8-9 і пастаянна прыставаў да яго: „Тата, дай я...”

Пра катаваньні, што прыдумвалі чэкісты, немагчыма ні слухаць, ні пісаць. Скажу толькі, што фантазія тут была нечалавечая – сатанінская. Людзкі розум да такога не дадумваецца. Самае простае катаваньне – гэта калі жывога чалавека клалі ў труну з гніючым трупам, зачынялі вечка і закопвалі ў магілу на 30 хвілін. Затым адкопвалі і прадаўжалі допыт, пакуль ня скажа, што трэба, альбо не звар’яцее. Потым забівалі.

„Чрезвычайная Комиссия – краса и гордость Коммунистической партии”–казаў Зіноўеў. „Отныне мы все должны стать агентамі Чека”, – Бухарын. „Чрезвычайка – это лучшее, что наши советские органы могут дать”, – Лацыс. І гэта сапраўды так. У ЧК і потым у НКВД і КГБ – квінтэсэнцыя бальшавізму.

Ня буду пісаць таксама пра катаваньні, крывавыя оргіі ў турмах і глумленьне чэкістаў над жанчынамі. Тут, здаецца, сама прырода змаўкае ў жаху, увесь Сусьвет. Лічу, што нельга гэта апісваць, бо ўжо само апісаньне ёсьць зьнявага Той, на якой трымаецца жыцьцё.

Сьведчаньняў пра зьвярынае аблічча ленінскага бальшавізму тысячы. Я пераказаў тут некалькі агульнавядомых у некамуністычных краінах фактаў, каб тыя, хто чытае подлыя сцьвярджэньні, накшталт „няхай сабе і праз расстрэлы”, ведалі, што рэальна за гэтым стаіць і як адбіваецца на чалавечых лёсах.

Бальшавізм ёсьць ідэалягічнае выяўленьне крымінальнай ахлакратыі. Ідэалёгія, выведзеная з псіхалёгіі ўзбуджанага натоўпу, дзе чалавек траціць якасьці асобы і ператвараецца ў псіхапатычную частку біялагічнай чарады, дзе рэзка абніжаецца набыты ўзровень культуры, дзе пануюць дзікія інстынкты. Вось яна, тая антыхрысьціянская „бэстыя”, пра якую марыў і пісаў Ніцшэ (яшчэ адзін цёмны „геній”), той „дыянізаўскі дух”, вызвалены ад культуры. Ён ажыцьцявіўся гістарычна ў бальшавіках.

Сэрвілізм, не абмежаваны ніякой сістэмай, – ідэальнае сацыяльнае асяроддзе для бальшавікоў. Натоўп падтрымліваў, абагаўляў сваіх мучыцеляў, нават прайшоўшы праз ЧК і ГУЛАГ. У справе №25 Асобай камісіі гаворыцца пра забойства



*79. А. М. Горкі і чарговы крывавы кіраўнік НКВД Г. Г. Ягода (Іегуда).*

*Ко мне –*
*Кто всадил спокойно нож*
*И пошел от вражьего тела с песнею!*

– пісаў Маякоўскі (успомнім матроса „Эдуарда"). Гэта названа ім новай „нагорнай пропаведдзю".

*„Это я попал пальцем в небо,*
*Показал: он – вор!*

Пасьля кастрычніцкага перавароту богазмагарская тэма ў Маякоўскага і апяваньне Антыхрыста зьмяняюцца. Месца Антыхрыста займае Ленін – канкрэтны чалавек. Экзальтаванае апісаньне яго асобы Маякоўскім – гэта прыняцьце акту прышэсьця Антыхрыста ў форме багахульнага літаратурнага юродзтва. Уся гэтая кніжная мярзота была ўведзена ў савецкія школы, убівалася ў галовы асьлепленых, невідушчых з дзяцінства людзей.

ў Растове-на-Доне прафэсара Колі. Бальшавікі вывелі яго з дому на вуліцу і пачалі „разьбірацца". Сабраўся выпадковы натоўп і крычаў яму „генэрал", „мільянер", патрабаваў забіць, „як і ўсіх багатых людзей". Бальшавікі расстралялі прафэсара і труп выцягнулі на сярэдзіну вуліцы. Натоўп пачаў глуміцца над трупам. „Жанчыны тапталі нагамі, некаторыя плявалі.., патрабавалі сьмерці для яго ўдавы і дзяцей". Трыццатыя гады потым далі неверагодныя прыклады рабалепства.

У чым жа прычына бальшавізму? Максім Горкі, знаўца Расеі, тлумачыў яе „исключительной жестокостью русского народа" („О русском крестьянстве"), калі „нядаўні раб" стаў уладаром бліжняга свайго".

Горкі крышку памыліўся. Гэта не прычына, а, хутчэй, вынік. Адказнасьць за вар'яцкія ідэі павінен несьці не народ, а пачка рэвалюцыянераў на чале зь Леніным.

Заўважце, як суадносіцца ўся гісторыя камунізму ў СССР, увесь ланцуг злачынстваў з выказваньнямі і нават з тэрміналёгіяй Леніна і яго акружэньня. Зло сталі называць дабром, а дабро злом. Адбывалася перакульваньне, падмена фундамэнтальных паняцьцяў жыцьця. Нормай рабіўся грэх, ненармальнае – нармальным. У 20-х гадах у Тыфлісе быў надрукаваны зборнік чэкісцкай паэзіі „Улыбка Чека". Бальшавіцкі садыст, што катаваў і забіваў, нейкі Эйдук, пісаў:

*Нет большей радости,*
*нет лучших музык,*
*Как хруст ломаемых*
*жизней и костей.*
*Вот отчего, когда томятся*
*наши взоры*
*И начинает буйно страсть*
*в груди вскипать,*
*Черкнуть мне хочется*
*на вашем приговоре*
*Одно бестрепетное:*
*„К стенке! Расстрелять!"*

Гэты збочаны падонак ня трапіў у бальшавіцкія хрэстаматыі. Большасьць камуністаў, відаць, задавальнялі свой юр звычайным спосабам.

Камуністы-ленінцы паставілі сябе і сваю партыю па-над маральлю. „Маральна толькі тое, што карысна для рэвалюцыі", – казаў Ленін. Тэрарыстамі былі раней народнікі, эсэры, іншыя рэвалюцыянеры-бязбожнікі. Стаўшы на шлях забойства і адкінуўшы хрысьціянскую этыку, яны не пазбавіліся, аднак, хрысьціянскай псіхалёгіі. Адсюль раскаяньне некаторых, мукі сумленьня, адчуваньне цяжару граху ці адкладаньне замаху, каб не пацярпелі жанчыны і дзеці і г.д. Рэвалюцыянеры-ленінцы зьнялі гэтую супярэчнасьць паміж псіхалёгіяй і этыкай, адмовіўшыся ад хрысьціянскай маралі. Дакладней, прыняўшы **сатанінскую антымараль**. Аказваецца, можна было масава зьнішчаць людзей і бесклапотна сьмяяцца, любавацца пейзажамі, мастацтвам, займацца палітыкай, літаратурай, фліртам і спакойна спаць. Асабліва гэта стала проста, калі па тваіх загадах забівалі іншыя.

Не богазмаганьне, не цынічнае багахульства, а менавіта пазбаўленьне ад маралі і ад культуры сьведчыць пра сатанізм бальшавікоў. Усёпаглынаючым сурагатам маралі стала ў бальшавікоў хлусьня, грандыёзная і шматаблічная, страшная, нябачная дасюль, незразумелая. Яны перасталі быць людзьмі ў хрысьціянскім сэнсе слова; гэта сапраўды рэвалюцыя ў сьвядомасьці, крок назад, але нават не ў дзікунства, не ў арду, а ў асэнсаванае зло, у зло як сьветапогляд, як феномэн сусьвету.



*80. Характэрны тыпаж расейскага энкавэдзіста.*

За ленінізмам і ідэямі бальшавізму няма нічога гістарычна-сэнсоўнага, што б было хоць як абгрунтавана жыцьцём і патрэбамі разьвіцьця, акрамя волі да ўлады любымі спосабамі. Карэньні іх ідэй і паводзінаў я знаходжу ў масоншчыне, у розных сатанінскіх вучэньнях, ерасях і арганізацыях. За бальшавікамі стаяла апраметная, і пекла ішло за імі.

Бальшавізм ня ў стане зьмяніцца, бо ня можа пакаяцца.

Для пакаяньня патрэбная вера ў Бога, сумленьне і хрысьціянская мараль. У бальшавізме, відаць, зафіксаваны пераход (этап) да д'ябальшчыны на Зямлі. Гэта значыць да такой эманацыі духу, што па прыродзе сваёй ня ў стане тварыць дабро і нічога, акрамя зла.

Бальшавізм склаўся як нерэфармуемая, нязьменная ідэйна-псіхалягічная сістэма разбурэньня і зла. Зь ёй нельга супрацоўнічаць. Ёй нельга даравацъ. Яе трэба ізаляваць, як ізалюе арганізм балячку на целе.

Формула вышэйшага хрысьціянскага дараваньня тут не падыходзіць. Езус дараваў бандыту на крыжы. Але, па-першае, бандыт перад сьмерцю пакаяўся. Па-другое, гэта быў проста чалавек, і грахі яго былі чалавечыя. Найвышэйшая Божая справядлівасьць у тым, што д'ябал (Шатан) будзе пакараны, і слугі яго. Д'яблам дадзена свабодная воля тварыць зло, але дараваньня ім няма. Езус ніколі, нідзе і ні ў чым не дараваў цёмнай сіле.

Прыйдзе час, і расейскі камунізм будзе пакараны. Прырода патрабуе раўнавагі. (У тым ліку і грамадзтва – сацыяльна-культурная прырода.) І там, дзе яна парушана, абавязкова адбываецца рух, імкненьне да ўстойлівасьці. Гэта плянэтарны працэс. Вось толькі як, за які час, якім коштам – шмат залежыць ад людзей, ад таго, як здолеюць людзі разабрацца, выцерпець тое, што наканавана, і зрабіць тое, што трэба. Такое пытаньне цяпер стаіць перад нашай нацыяй і кожным чалавекм.

***Зянон ПАЗЬНЯК,***
***Старшы навуковы супрацоўнік***
***Інстытута гісторыі Акадэміі Навук,***
***Народны дэпутат Беларусі***

## АД РЭДАКЦЫІ (ЗВЯЗДЫ)

**Мінулае працягвае ўчэпіста трымаць нас у сваіх руках. У ім – вытокі, карані сапраўдных і ўяўных ідэалаў многіх пакаленьняў, ключ да спасьціжэньня таго, што з намі адбываецца, куды мы павінны ісьці, ад чаго берагчыся, будуючы новую Беларусь.**

**Артыкул лідэра БНФ у Вярхоўным Савеце Зянона Пазьняка, які сёньня прапануецца вашай увазе, – працяг тэмы, раскрытай аўтарам у матэрыяле „Пакараньне" („Звязда", 11 лютага г.г.) Пасьля лютаўскай публікацыі рэдакцыя атрымала дзясяткі надзвычай супярэчлівых водгукаў, дамінавалі сярод якіх, аднак, галасы гнеўныя, абураныя, успрыняўшыя артыкул як асабістую зьнявагу.**

**Сёньняшняе выступленьне Зянона Пазьняка – спроба адказу апанентам і адначасова – працяг тэмы. Рэдакцыя, як правіла, імкнецца ўстрымлівацца ад публікацыяў такога значнага аб'ёму, шануючы час і цярпеньне сваіх чытачоў. Аднак, улічваючы дэпутацкія правы аўтара і яго палітычнае імя, мы вырашылі задаволіць настойлівае патрабаваньне лідэра Апазыцыі і падаём артыкул у тым выглядзе, у якім прынёс яго ў рэдакцыю Зянон Пазьняк.**

*Надрукавана: (Звязда,–1993, 12 траўня)*



***81. Бальшавікі.***

# СТАНОВІШЧА ПЕРАД III ЗЬЕЗДАМ БНФ

Упэўнены, шмат хто зь сяброў Народнага Фронту, успамінаючы пройдзены чатырохгодовы шлях, поўны зьнясільваючых цяжкасьцяў, нават руціны, але адначасна і вялікага духоўнага ўздыму, супрыналежнесьці да свободы і Адраджэньня, шлях шматлікіх падзеяў і переменаў, шмат хто назаве яго лепшым часам у пражытым сваім жыцьці. Гэта сапраўды так. Толькі не па сваёй волі затрымаўшыся ў дарозе, спадзяваймася, што лепшае – наперадзе.

Няма калі адпачываць, азірацца і разглядацца. Рушым, каб не засьпела нас ноч. Храм рукатворны, сьветлы і прыўкрасны, як наша зямля, ужо відаць на небаспадзе, там, за смугою аблокаў, там – куды мы йдзем, куды навобмацак вяртаецца, вандруе наш род. Засталося няшмат, але цяжкі кавалак – перайсьці праз гадзючае поле. А пройдзе той, хто ўзарэ яго дарэшты і ня спыніцца, не азірнецца.

19 кастрычніка 1988 года мы ступілі на гэтае поле. Тады быў створаны Арганізацыйны Камітэт Беларускага Народнага Фронту. І мы памятаем, як увесь тысячаголовы крывавы цмок зашыпеў, заскрыгатаў, закрычаў сваімі вогненнымі пашчамі. Толькі не азірацца...

***30 кастрычніка 1988 года.*** Дзяды ў Менску. Дзень задушны. Нам рыхтаволі крывавы дзень. Але ніхто не азірнуўся… І захлынуўся цмок. 30 кастрычніка паказала: мы – салідарны народ. І, калі ў нас уваскрэсьне нацыянальная ідэя і сьвядомасьць, мы – непераможныя.

***19 лютага 1989 года.*** Першы масовы мітынг БНФ на перапоўненым стадыёне „Дынама" у Менску. Першая адкрытая перомога над камуністычнай партакратыяй.

Пэрыяд Аргкамітэту быў, бадай, самы цяжкі. Ён завяршыўся Ўстаноўчым зьездам у Вільні ***24-25 чэрвеня 1989 года.*** Пачалася мэтадычная барацьба з камуністычнай „вандэяй" за дэмакратыю, за праўду пра чарнобыльскае злачынства, за волю і незалежнасьць, за сацыяльную рынкавую экономіку, за беларускую мову і культуру, за нацыянальную школу і свабоду рэлігіі, за гістарычную справядлівасьць, за годнасьць чалавечую.

***30 верасьня 1990 года*** – акцыя „Чарнобыльскі шлях". У лістападзе – міжнародная Асамблея „Чарнобыльскі шлях" і „Чарнобыльскі трыбунал".

І увесь час суды, арышты, перасьлед, паклёпы, правакацыі, напады міліцыі і фізічныя расправы над сябрамі і прыхільнікамі БНФ. Ізноў жа, нідзе ніколі ніводзін фронтавец не сарваўся, не паддаўся на правакацыю.

***26 лютага 1990 года.*** Статысячны перадвыбарчы мітынг Народнага Фронту ў Менску. Заняцьце студыі тэлебачаньня. Поўны правал камуністычнай верхавіны і яе прапагандысцкай кампаніі. Тым ня менш на выбарах намэнклятура прадэманстравала, у чым яе сапраўдная сіла: структуры ўлады, дзяржаўная ўласнасьць (адсюль – залежнасць людзей), сродкі масавай інфармацыі, законы, практычна, неабмежаваная магчымасць фальсіфікацыяў. БНФ не атрымаў і 10 працэнтаў месцаў у Вярхоўным Савеце. Неўзабаве там утвараецца дэпутацкая фракцыя, а потым і Апазыцыя Народнага Фронту.

***7 лістапада 1990 года.*** Вялікая антыкамуністычная дэманстрацыя і мітынг у Менску, арганізаваныя БНФ. Сымвалічнае вяртаньне „дароў камунізму" пад помнік злачынцу №1.

У гэтым жа годзе Апазыцыя БНФ выкладае ў Вярхоўным Савеце канцэпцыю пераходу да рынку і пабудовы беларускае дзяржавы.

***24-25 сакавіка 1991 года*** – II зьезд Народнага Фронту. Галоўныя задачы: адраджэньне, свабода, незалежнасьць.

***19 жніўня 1991 года.*** На раніцы – заява Апазыцыі БНФ аб супраціўленьні камуністычнаму путчу. Увечары - пікеты БНФ з пратэстамі супраць ГКЧП. 20, 21, 22 жніўня – мітынгі БНФ у Менску перад Вярхоўным Саветам.

***24 жніўня 1991 года.*** Адкрыцьце нечарговай Сэсіі Вярхоўнага Савету, скліканай з ініцыятывы дэпутатаў Апазыцыі БНФ.

***25 жніўня 1991 года.*** Незвычайная перамога Апазыцыі Народнага Фронту – канстытуцыйнае замацаваньне незалежнасьці Беларусі, прыпыненьне дзейнасьці КПСС-КПБ.

***19 сьнежня 1991 году.*** Заява Апазыцыі БНФ у Вярхоўным Савеце пра збор подпісаў за правядзеньне рэфэрэндуму аб роспуску Вярхоўнага Савету і нечарговых выбарах. ***Студзень – сакавік 1992г. – збор больш за 442 тысячы подпісаў***. Падрыхтоўка да рэфэрэндуму.

З ***29 кастрычніка 1992 года*** – часу незаконнай забароны рэфэрэндуму і ўзурпацыі ўлады камуністычна-намэнклятурнай большасьцю Вярхоўнага Савету – разьвіваецца новы палітычны этап на Беларусі – этап „адкату" назад, а дакладней – этап здрады.

У Вярхоўным Савеце пачаліся напады на асноўныя вартасьці дзяржавы – грамадзянства, нэўтралітэт, сувэрэнітэт, дзяржаўную мову, гэрб і сьцяг, адмаўленьне рынкавых рэформаў, прыватнай уласнасьці на зямлю, пэнсіянерская агітацыя за „сацыялістычны лад", Савецкі Саюз і да т.п. палітычная геранталёгія. Празь нейкі час аднавілі дзейнасьць КПСС-КПБ, паставілі пытаньне аб канфэдэрацыі з Расеяй, аб адмове Беларусі ад нэўтралітэту і заключэньні ваеннага дагавору пра калектыўную бясьпеку з Расеяй, краінамі Каўказу і Сярэдняй Азіі.

Рэзкая стымуляцыя намэнклятурнай здрады выклікана дзьвюма асноўнымі прычынамі. Першая – гэта поўны правал урадавай палітыкі „адміністрацыйнай кансэрвацыі" у эканоміцы, страх перад блізкім крахам ды імкненьне пазьбегнуць адказнасьці за яго. Адсюль спадзяваньне, што ваенны дагавор аб калектыўнай бясьпецы юрыдычна дасьць магчымасьць у выпадку неспрыяльнага для намэнклятуры палітычнага крызісу ўвесьці на Беларусь войскі чужой дзяржавы, як гэта неаднаразова рабілася, прыкладам, у былым Варшаўскім дагаворы.

Другая прычына – псіхалягічная. Пасьля незаконнай і цынічнай забароны рэфэрэндуму намэнклятура з радасьцю ўбачыла, што грамадзтва маўчыць, што яму ўсёроўна. Яна пераканалася, што людзі не зьмяніліся, што яны згодныя падпарадкоўвацца і цярпець, быў бы „мінімум" пражыць. Уласнасьць, свабода, лёс нацыі іх не цікавіць. Ідэальнае асяроддзе для мафіі і нажывы. Урад узбадзёрыўся і пачаў набіраць замежныя крэдыты для праяданьня (няважна, што будзе аддаваць народ): прадаецца маёмасьць, закладваецца эканоміка, раскрадаюцца сыравіна, рэсурсы. А калі прад'явяць па вэксалях плаціць - не бяда, можна здаць дзяржаву, ліквідаваць незалежнасьць (пры „усеагульным адабрэньні народу") і канцы ў ваду, хай Масква плаціць, мільянэры нідзе не прападуць.

Трэба канстатаваць, што за апошнія два гады на Беларусі адбылося намэнклятурнае пераразьмеркаваньне функцыяў улады. На дзяржаўнай уласьнасьці і адміністрацыйнай эканоміцы

створаны дэфіцытна-спэкулянцкі рынак і аснова мафіёзнай дзяржавы. Пра гэта адкрыта сьведчыць нават пракуратура: „страты дзяржавы вылічваюцца ўжо мільярдамі рублёў. Шчупальцы мафіёзнага спрута прайшлі на ўсе ўзроўні ўлады... для росту карупцыі, перапампоўваньня грошай зь дзяржаўнага бюджэту ў камэрцыйныя структуры створаныя спрыяльныя ўмовы" (Народная газэта, – 1993, 30.04.)

Для ўтварэньня такой сытуацыі клясычнаму лібэралізму (ці, як яго называюць, капіталізму) спатрэбілася б дзясяткі гадоў, пакуль утварыліся б алігаполіі, кланы і карпарацыі, манапалізавалі б рынак і падграблі б пад сябе дзяржаву. Зьмест такога дзікага капіталізму вядомы: рэзкае расслаеньне грамадзтва на вельмі багатых і вельмі бедных. Мафіёзная ж дзяржава, як адно з магчымых наступстваў такога капіталізму, даводзіць маёмасны падзел грамадзтва да абсурднай мяжы і, як вынік, усталёўвае таталітарны рэжым.

На Беларусі працэс ідзе ў адваротным парадку: ад ідэякратычнай улады камуністычнай партакратыі да адміністрацыйна-эканамічнай, фінансавай улады карумпаванай немэнклятуры; ад таталітарнай да мафіёзна-спэкулянцкай улады.

Паколькі ўлада, эканоміка і дзяржава засталіся ў руках намэнклятуры, працэс пераразьмеркаваньня (лібэралізму навыварат) ідзе вельмі хутка, а таму небясьпечна, бо грамадзтва з прычыны інэрцыі, застаючыся ў палоне прапагандысцкіх стэрэатыпаў і сацыяльных ілюзіяў, не пасьпявае арыентавацца і, часьцей за ўсё, праклінаючы мафію, падтрымлівае мафіёзную палітыку (успомнім лямант пра „коней на переправе").

Падыходзячы да трэцяга зьезду, Народны Фронт павінен выразна усьведамляць, як зьмянілася сытуацыя на Белорусі, якое грамадзтва вырастае з намэнклятурнага камунізму, як змагацца зь несправядлівасьцю. Публічнасьцю, фактамі і напорам можна ўшчэнт разьбіць ідэялёгію, палітычныя структуры, але не карупцыю, не нажыву, ня тоўстыя валютныя мяшкі, бо гэта ўжо не ідэалёгія, моцная партыяй, а спосаб жыцьця, ён жа - індывідуалізаваны (кожны мяшок - сіла).

Трэба мець выразную праграму станоўчай пэрспэктывы Беларусі, скіраваную да чалавека, да асобы і яе патрэбаў, да асноўных вартасьцяў нацыі, грамадзтва.

Мафёзная структура, гэтак жа як і камуністычна-намэнклятурная, імкнецца зьнішчыць палітычных праціўнікаў і ўстанавіць жорсткі кантрольны ці надзвычайны рэжым над грамадзтвам у сваіх інтарэсах. На Беларусі ў дасягненьне такога рэжыму намэнклятура хоча выкарыстаць прэзыдэнцкую ўладу. Камуністы апэрацыю з „прэзыдэнцкай дыктатурай" хацелі правесьці яшчэ ў траўні 1991 г., калі прапанавалі праекты законаў аб прэзыдэнцкай уладзе, аб выбарах прэзыдэнта і … аб надзвычайным становішчы. Гэта быў варыянт ціхага путчу для Беларусі. Апазыцыя БНФ тады раскусіла гэтыя няхітрыя пляны бюро ЦК і, заручыўшыся падтрымкай іншых дэпутатаў, правaліла камуністычныя задумы.

Цяпер пытаньне прэзыдэнцтва зноў моцна ініцыіруецца парляманцкай большасьцю, асабліва прыўрадавым лобі. Пра-



*82. 27 ліпеня 1993 г. Каля Сядзібы БНФ. Зьлева напр.: Сяргей Навумчык, Валянціна Трыгубовіч, Зянон Пазьняк, Мікола Крыжаноўскі, Юры Хадыка, Лявон Зданевіч, Юры Беленькі.*

пануюць спачатку выбраць моцнага прэзыдэнта, які стане кіраўніком выканаўчай улады, а потым правесьці выбары ў парлямант, які будзе працаваць на непастаяннай аснове (як цяперашні Вярхоўны Савет). Зразумела, што ўся ўлада апынецца ў руках прэзыдэнта. Пры гэтым Вярхоўным Севеце і ўрадзе, пры поўнай манаполіі на ўладу і сродкі масавой інфармацыі ўсе перавагі пры выбарах прэзыдэнта будуць у намэнклятуры (незележна, дарэчы, ад таго, каго выберуць - В.Кебіча, ці С. Шушкевіча).

Ацэньваючы становішча, Народны Фронт ад пачатку заняў выразную і пасьлядоўную адмоўную пазыцыю супраць увядзеньня цяпер прэзыдэнцкай пасады на Беларусі. Але гэта ня значыць, што БНФ увогуле адмоўна ставіцца да магчымасьці ў нас прэзыдэнцкай рэспублікі. Усяму свой час. Цяпер нельга даць намэнклятуры ашукаць народ і ўзьлезьці яму з нагамі на галаву. І так сядзяць на карку.

Вось калі спачатку абраць новы парлямант, – тады іншая справа. Тады Кебіч І намэнклятура, упэўнены, не былі б ужо дырыжорамі-манапалістамі, а выступалі б на роўных падставах. Шанцы на захоп намэнклятурнай мафіяй прэзыдэнцкай пасады зьменшыліся б.

Аднак, улічваючы шматлікасьць і арганізаванасць камуністычнай намэнклятуры ў Вярхоўным Савеце і неразуменьне палітычнай сутнасьці „прэзыдэнцкага пытаньня” шмат якімі намэнклятурнымі дэпутатамі, ня выключана, што гэтую апэрацыю ажыцьцёвяць. Народны Фронт у такім выпадку павінен, на май погляд, абавязкова прыняць актыўны ўдзел у выбарах прэзыдэнта. Шанцы ў БНФ, вядома ж, будуць невялікія (уяўляем прапагандысцкую кампанію). Але жыцьцё можа прапанаваць такія нечаканыя для намэнклятуры павароты, што сто разоў праклянуць яны тое моцнае прэзыдэнцтва, асабліва калі з мафіі паляцiць пер’е.

***Беларускі Народны Фронт падыходзіць да свайго ІІІ-го зьезду як структурная палітычная арганізацыя ў асноўным народна-цэнтрысцкага накірунку і адначасна як шырокі народны рух, які яднае ўсіх людзей, што выступаюць супраць камуністычнага таталітарызму, за дэмакратыю, незалежнасьць, рынкавыя эканамічныя рэформы і нацыянальна-культурнае адраджэньне Беларусі.*** Колькасьць прыхільнікаў ідэяў Народного Фронту вялікая, яна расьце, што добра відаць у час такіх масавых акцыяў, як збор подпісаў за рэфэрэндум. Цяпер ізноў на суд грамадзтва выстаўляецца адна з найкаштоўнейшых ідэяў БНФ і падстава нашага грамадзкага існаваньня – ідэя нэўтралітэту (і зьвязаная зь ёй ідэя бязьядзернасьці Беларусі). Гэтую ідэю Народны Фронт абараніў у Вярхоўным Савеце яшчэ ў 1990 г., а ў 1991, менавіта з ініцыятывы Фронту, яна стала нормай Канстытуцыйнага закону. Цяпер намэнклятура, фактычна, праводзіць рэвізію ўсіх ідэяў БНФ у заканадаўстве дзяржавы. Але мы бачым, што людзям падабаюцца ідэі Фронту. Хіба ж дрэнна жыць у міры і спокоі? Хіба ж дрэнна мець гарантыі стабільнасьці, незалежнасьці і будучыні, не плаціць непатрэбных падаткаў? А ўсё гэта дае нам нэўтралітэт.

Хранічная бяда БНФ - адсутнасьць доступу да сродкаў масавай інфармацыі. Але ўсё ж хоць павольна, ды канчаецца ўжо эпоха вялікага ашуканства. Беларусь зноў уступае ў паласу цяжкіх выпрабаваньняў, але і Народны Фронт трохі загартаваўся і яго не правядуць на мякіне.

***Самае галоўное цяпер – абараніць дзяржаву і незалежнасьць ад унутранай камуністычнай здрады.*** Пры гэтым трэба памятаць, што ўсе прынятыя з 29-га кастрычніка 1992 году законы і пастановы Вярхоўнага Савету ўжо ня маюць абавязковай сілы. Гэта рашэньні нелегітымнага воргану, што ўтрымлівае ўладу незаконным чынам насуперак волі людзей. Што б яны зараз ні прымалі на шкоду незалежнасьці – усё гэте ня будзе прызнана наступным парлямантам, куды, спадзяюся, ужо ня трапяць ненавіснікі Беларусі, здраднікі і былыя пэрсанальныя пэнсіянеры.

Упэўнены, што добрае зерне, кінутае Фронтам у глебу Бацькаўшчыны і не заўважанае людзьмі, яшчэ прарасьце і ускалосіцца, нібы само з сябе, нібы так і трэба, бо нішто добрае не зьнікае. Дабро вечнае, як наш народ. Хіба ж ня радосна ўсё гэта ведаць.

***Зянон Пазьняк***

*Надрукавана: (Навіны Беларускага Народнага Фронту, – 1993, травень, спэцыяльны выпуск газэты)*

# ЗДРАДА – СПОСАБ ІСНАВАНЬНЯ

***Гэты артыкул З. Пазьняка – не апошні, які рэдакцыя хоча прадставіць увазе чытача. У наступным нумары мы змесьцім меркаваньні старшыні Сойму БНФ пра мажлівы ваенны саюз Беларусі зь некаторымі краінамі СНД.***

Камуністычная здрада на нашай зямлі выяўляе пэрманентны характар і абумоўленая тым, што камунізм ня мае ніякага дачыненьня да Беларусі і беларускага народа. Гэта чужародная зьява, прынесеная на Беларусь з Расеі ў часе І-й Сусьветнай вайны бальшавізаваным расейскім войскам. У канцы 1918 года расейскія бальшавіцкія войскі ўварваліся ў *Беларускую Народную Рэспубліку,* вязучы з сабой у абозе калябаранцкі ўрад Жылуновіча і іншых нацыянал-камуністаў. 1-га студзеня 1919 года аб'явілі аб стварэньні марыянетачнай бальшавіцкай БССР, якую праз два месяцы самі ж і ліквідавалі. Потым, у 1920 годзе, вымушаныя былі яе зноў аднавіць галоўным чынам па той прычыне, што беларускія камуністы-калябарацыяністы з прыдуманага «ўраду» былі дрэннымі здраднікамі–трымаліся за Беларусь, за сялянаў ды культуру. Прыйшлося расейцам іх неўзабаве ўсіх рэпрэсаваць і накіраваць на той сьвет.

Наступнае пакаленьне бальшавіцкіх халуёў на Беларусі хутка ўцяміла, як трэба сябе паводзіць. Здрадніцтва было даведзенае да паталагізму – прадавалі Бацькаўшчыну, веру, сяброў, бацьку, матку, мову, культуру, гісторыю, гонар. Спаборнічалі выслужыцца ў нізасьці, поўзалі на каленях, аддана плявалі на свой род, а ў канцы ўсяроўна атрымлівалі кулю ў патыліцу, так і не зразумеўшы, «за што». Нашчадкі тых халуёў кіруюць цяпер. Эстафета прадаўжаецца.

Год таму па ініцыятыве дэпутацкай Апазыцыі БНФ у Вярхоўным Савеце паміж шматлікімі грамадзка-палітычнымі арганізацыямі Беларусі (акрамя камуністаў) і кіруючымі структурамі было падпісанае Антыкрызіснае пагадненьне аб аб'яднаньні намаганьняў на абарону суверэнітэту ў выніку пагрозы незалежнасьці Беларусі (маецца на ўвазе з боку Расеі). Пад пагадненьнем з аднаго боку стаяць подпісы Старшыні БНФ, кіраўнікоў партыяў і арганізацыяў, з другога – прэм'ерміністра В. Кебіча, старшыні КДБ Э. Шыркоўскага, міністраў, дзяржаўных дзеячоў. Цяпер аказалася, што гэтыя ўрадавыя дзяржаўныя дзеячы самы сталі ініцыятарамі пагрозы незалежнасьці Беларусі.

Цікава пачытаць выступы некаторых камуністаў-дэпутатаў Вярхоўнага Савета 26-27-га ліпеня 1990 г., калі прымалі палажэньні аб імкненьні да нэўтралітэту і бязьядзернасьці Беларусі ў Дэкларацыі аб незалежнасьці. Які напышлівы казённы стыль, якая падтрымка! Цяпер гэтак жа дэклямуюць навыварат, супраць нэўтралітэту.

У сярэдзіне сьнежня 1992 года ў Вярхоўным Савеце прымалі Ваенную дактрыну Рэспублікі Беларусі. Міністар абароны і іншыя генэралы, пагаджаючыся з Апазыцыяй БНФ, пафасна дэкляравалі вернасьць Дэкларацыі аб незалежнасьці і курсу на нэўтралітэт. Так і запісалі, што Рэспубліка Беларусь «праводзіць самастойны курс у галіне ваеннай палітыкі, імкнецца да пераходу ў статус нэўтральнай, бязьядзернай дзяржавы.., узаемадзейнічае з зацікаўленымі дзяржавамі рэгіёна па стварэньні бязьядзернага пояса ад Балтыйскага да Чорнага мораў».

Прайшло тры месяцы, і Міністар разам з генэраламі, вокам не міргнуўшы, засьпявалі ўсё наадварот. А ўявім, што ў Расеі пачаліся грамадзянскія закалоты і банды бальшавікоў зноў напалі на Беларусь. Як павядуць сябе гэткія генэралы і гэткі Міністар?

16 сьнежня 1992 г. Вярхоўны Савет прыняў Пастанову, дзе даручыў Саўміну *«да 1-га сакавіка 1993 года: прадставіць у Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь прапановы па прывядзеньні заканадаўчых актаў Рэспублікі Беларусі ў адпаведнасьць з Ваеннай дактрынай Рэспублікі Беларусі».*

Нічога выканана не было. Замест выкананьня В. Кебіч, падыгрываючы расейскім камуністам, выступіў за ваенны саюз – „калектыўную бясьпеку" з Расеяй, супраць нэўтралітэту Беларусі. (А значыць, супраць Канстытуцыйнага закона, Ваеннай дактрыны і нэўтральнай міралюбнай палітыкі нашай дзяржавы).

Хіба гэта ня здрада?

Сытуацыя ў БеларусІ склалася дрэнная і парадаксальная. Ва ўладзе новай незалежнай дзяржавы засталіся старыя савецкія структуры кіраваньня, людзі, якія заўсёды былі шалёнымі ворагамі беларускай незалежнасьці, дзяржаўнасьці, мовы, культуры, беларускай нацыі. Для сьпелай нацыі і нармальнага нацыянальнага сьвядомага грамадзтва такое становішча немагчымае. Альбо парлямант і ўрад адстойвалі б дзяржаву і незалежнасьць, альбо гэты парлямант і ўрад доўга б не праіснавалі. Толькі на Беларусі ў хворым савецкім грамадзтве магчымае існаваньне антынацыянальнага ўраду і Вярхоўнага Савета.

У траўні 1992 г. неверагоднымі намаганьнямі нацыянальна-дэмакратычных сілаў Беларусь атрымала ўнікальную магчымасьць правесьці рэферэндум аб роспуску Вярхоўнага Савета і аб нечарговых выбарах. Адзіны і своечасовы гістарычны шанец, якога дамогся Народны Фронт, быў зглумлены па адной прычыне, якая мае два бакі: крымінальная антыбеларускасьць улады і апатыя грамадзтва да ўласнага лёсу. Усё гэта нагадвае аднаго шыбеніка з казкі братоў Грым, які быў такі лянівы, што палянаваўся нават пад шыбеніцай абрэзаць вяроўку на шыі, каб не павіснуць.

Ня буду апісваць псіхалёгію саўковага грамадзтва і тым больш кіраўніцтва, што парушае законы. Істотна іншае. Растаптаўшы ў бязвыхадным адчаі рэферэндум, закон, Канстытуцыю, правы асобы і не спаткаўшы супраціўленьня ў народзе, камуністычная намэнклятура канчаткова пазбавілася страху і зразумела, што ўсё можна, усё дазволена.

З гэтага часу і пачалася адкрытая палітыка здрады, накіраваная на зьнішчэньне незалежнасьці, нэўтралітэту, дзяржаўнасьці, магчымасьці беларускага культурна-нацыянальнага адраджэньня. Этапы гэтай здрады – маскоўскія ваенныя пагадненьні 20 ліпеня 1992 года, эксгумацыя КПСС– КПБ, рашэньне аб далучэньні да ваеннага дагавора пра „калектыўную бясьпеку". Далейшыя пляны намэнклятура не хавае. Палітыка яе разьвіваецца па шляху рэгрэсу, будуць перагледжаныя і адмененыя ўсе мінімальна-дэмакратычныя і дзяржаўна-незалежніцкія рашэньні Вярхоўнага Савета, прынятыя дзякуючы стараньням Апазыцыі БНФ. Будзе прадаўжацца стварэньне штучнай галечы на Беларусі. Вынікі яе будуць цяжкімі. Спраўджваюцца самыя дрэнныя прагнозы, што намэнклятурна-камуністычнае кіраўніцтва пратрымаецца на Беларусі да чарговых выбараў і новы парлямант прыйдзе на галавешкі.

Гэта найбольш балюча ўсьведамляць, бо за паўтара гады мафіёзнага кіраваньня Беларусь ужо страціла асноўныя свае вартасьці, магчымасьці і перавагі ў эканоміцы. Я ўжо не кажу пра рэгрэс



***83. На мітынгу.***

маралі і культуры. Пацьвярджаецца агульнавядомая ісьціна: разьвіваецца і багацее ня тая краіна, дзе ёсьць золата і кілбаса, а тая, дзе ў людзей ёсьць нацыянальная годнасьць, дзе цэняць свабаду.

Зрэшты, тэарэтычна ў беларусаў ёсьць яшчэ адзін шанец – гэта распусьціць Вярхоўны Савет сілай, склікаць Устаноўчы Сойм, выбраць урад, прыняць Канстытуцыю, закон аб выбарах і правесьці свабодныя выбары. Гэтыя дзеяньні ў дадзеным становішчы былі б цалкам прававымі і легітымнымі. Нагадваю, што, калі парлямант у пытаньні пра давер да сябе парушае правы людзей, Канстытуцыю, закон і ўзурпуе такім чынам уладу, народ мае права патрабаваць яго адстаўкі любымі спосабамі.

Тым часам людзям Беларусі пакуль што нехапае дастатковай сілы на энэргічныя захады. І, дадам, у бліжэйшы час – ня будзе хапаць з прычыны псіхалягічнай і арганізацыйнай няздольнасьці бальшыні цяперашніх беларусаў на рашучыя самастойныя ініцыятывы ва ўласных інтарэсах. Рашучы грамадзкі паварот малаверагодны ў найбліжэйшай пэрспэктыве. Патрэбная абавязковая падрыхтоўка грамадзтва – нацыянальная асьвета і нацыянальна-культурная праца. Хіба толькі нейкія надзвычайныя абставіны зрушаць зь месца людзей. ***Station: Station***

Перад абліччам здрады, аднак, ёсьць яшчэ рэсурсы ў нашым грамадзтве. Трэба мацаваць нацыянальна-дэмакратычныя арганізацыі, і, перш за ўсё, Народны Фронт. Мацаваць ня толькі падтрымкай на словах, але і асабістым удзелам, маральна, матэрыяльна, арганізацыйна, палітычна. Ёсьць яшчэ ў здаровых сілаў шанец дапамогі, шанец супраціўленьня, шанц удзелу і салідарнасьці. Ці будзе ён выкарыстаны – не бяруся сцьвярджаць, але скарыстаць яго трэба. Хоць і хворае яшчэ наша грамадзтва, але іншага шляху, як здаравець, працаваць, ствараць, супраціўляцца здрадзе і змагацца за волю – іншага шляху дзеля разьвіцьця і сцьвярджэньня сябе на сваёй зямлі – няма.

На Беларусі, таксама, ужо ёсьць дастаткова вялікая колькасьць свабодных людзей і тых, што ўсталі з каленяў. Трэба сказаць гэтым людзям: «Мужайцеся!» Бо ў самы бліжэйшы час яны могуць стаць сьведкамі зьдзеку пачкі ўчарашніх зданяў мінулага, што засталіся пры ўладзе, – зьдзеку з Бацькаўшчыны, незалежнасьці, мовы і свабоды. Пад рогат „абраньнікаў народа" і адабрэньне „простых людзей" будуць распраўляцца з грамадзянствам дзяржавы (уводзіць „двайное", як у СССР), з дзяржаўнасцю беларускай мовы (юрыдычна замацуюць расейскую). Пры пасьпяховым абалваньваньні гатовага зьмірыцца з усім насельніцтва Беларусь як дзяржава можа быць, фактычна, ліквідаваная пэнсіянерамі і намэнклятурнымі камуністамі, захаваўшы пакуль толькі фармальныя атрыбуты самастойнасьці. Вось тады пачалося б самае жахлівае, асабліва для аматараў кілбасы.

У мяне не выклікае сумненьня, што ў такой сытуацыі, думаючы пра лепшае, трэба быць гатовым да горшага і рыхтавацца да яго сур'ёзна і дзелавіта, усімі спосабамі, сродкамі і думкамі, памятаючы Купалу:

*Гэта бітва ідзе сусьветна*
*Між сьвятлом і*
*апраметнай.*

***Зянон Пазьняк***

*Надрукавана: (Выбар,– 1993, 12–18 траўня)*

# АБ ПАЛІТЫЧНАЙ СЫТУАЦЫІ

***(Ватрамкі з выступу на Сойме БНФ 11-га верасьня 1993 г.)***

Паважаныя калегі! Я закрану палітычныя пытаньні і ацэнку сітуацыі сёньня ў грамадзтве. Антынезалежніцкія сілы, фактычна, ўжо падрыхтавалі падставы і спосабы зьнішчэньня нашай дзяржаўнасьці і нашай незалежнасьці. Калі б тое рабілася толькі палітычнымі мэтадамі, то, магчыма, было б лягчэй разабрацца і грамадзтву, і Народнаму Фронту. Але тое, што адбываецца зараз, робіцца апасродкаваным чынам, цераз прыняцьцё адзінай валютнай сістэмы з Расеяй, праз заключэньне эканамічнага саюзу, адным словам, цераз эканамічныя хады, якія вымагаюць ад насельніцтва пэўнага веданьня, пэўнага абстрактнага думаньня. Таму вельмі істотнай зьяўляецца работа сродкаў масавай прапаганды – масавага ўздзеяньня на грамадзкую думку. Фактычна, мы бачым, што грамадзтва не разумее, што адбываецца.

7 верасьня абвешчана пра аб’яднаньне грашовых сістэмаў Беларусі і Расейскай Фэдэрацыі. Гэта значыць, што эмісія будзе рабіцца ў Маскве, што адменяць пошліны і мытні, паўстане пытаньне пра адзіны бюджэт. Гэта ёсьць пытаньне адзінай дзяржавы, і з таго вынікае поўная страта незалежнасьці ў беларускай эканоміцы і падпарадкаваньне яе эканоміцы іншай дзяржавы. Дадзенае пагадненьне будзе разглядацца Вярхоўным Саветам і можа быць ратыфікаванае 2/3 галасоў. Мы бачым таксама, што законы ў нас не выконваюцца самой уладай, існуюць крымінальныя падыходы і будуць спробы ашукаць, каб дамагчыся ратыфікацыі. Непасрэдна на сёньняшні дзень мы ўжо назіраем прыклады, як імкнуцца здаць нашу прамысловасьць стратэгічнага значэньня ў расейскія рукі („Захадтрансгаз”, ніткі газаправоду, якія праходзяць праз Беларусь і інш.).

Цяпер пра эканамічны саюз. Гэта чыста палітычная акцыя, якая прыкрываецца эканомікай. Ня робіцца рэальных захадаў па стварэньню агульнага рынка, хаця дэклярацыяў шмат.

І наступная пагроза – ваенна-палітычны блёк калектыўнай бясьпекі з Расеяй – пагроза афармленьня на нашай тэрыторыі чужога (расейскага) войска.

Са здзяйсьненьнем ўсяго гэтага, закрыліся б пэрспэктывы на палітычнае разьвіцьцё незалежнасьці. Нас чакала б адпаведная арыентацыя на Ўсход і плата падаткаў на ўтрыманьне чужога войска, плата сваімі жыцьцямі за чужыя інтарэсы.

Што ж тут рухае і падтрымлівае антынезалежніцкія дзеяньні? Па-першае, улада засталася ў руках былой камуністычнай дзяржнамэнклятуры, у тым ліку ўлада на сродкі масавай інфармацыі. І гэтую ўладу намэнклятура пачала выкарыстоўваць выключна ў сваіх інтарэсах, для свайго эканамічнага абагачэньня.

Другі чыньнік – нацыянальны нігілізм наменклятуры... Легалізуюцца камуністы (ПКБ), „славянскія саборы” і г.д. Гэты стан народжаны кампрадорскімі, імпэрскімі памкненьнямі нашай намэнклятуры, а спраектаваны ў Расеі... Канчатковая мэта – забор, акупацыя Беларусі... Палітыка распрацоўваецца ў Маскве, і чаўночныя рэйды нашых дэпутатаў туды – відавочнае пацьвярджэньне гэтага.

Плянуецца ціхая акупацыя Беларусі. Якія тут у іх магчымасьці і пэрспэктывы? У ацэнках нам трэба падыходзіць сур’ёзна і адказна, ўлічваць нашу беларускую спэцыфіку і ня мераць падзеі выключна эўрапейскімі ды суседскімі меркамі. Калі ў Маскве Бразаўскас сказаў, што яны „на жаль, зьвязаныя вынікамі гарбачоўскага рэфэрэндума” (аб захаваньні СССР), то ўся Летува ўстала на ногі: што значыць, „на жаль” зьвязаны рэфэрэндумам?!

У нас – іншае. Але нават з улікам згаданага можна сцьвярджаць, што плянуемая рублёвая зона, эканамічны саюз вынікаў не дадуць, рэальных пэрспэктываў тут усё ж няма. Ды й намэнклятура пэрспэктыўных задачаў ня ставіць. Яе мэта пратрымацца яшчэ год, потым яшчэ год і парабаваць... Канешне, небясьпека вялікая, бо калі яны сапраўды пратрымаюцца яшчэ год-паўтара, наша эканоміка можа быць вынішчана.

Якая ж стратэгія Фронту ў гэтай сітуацыі? Мы павінны зрабіць прагноз далейшага разьвіцьця і вызначыцца ў прыярытэтах нашай палітыкі. У цяперашні момант неабходна накіраваць усе свае інтэлектуальныя сілы на распрацоўку фінансавых і энэргетычна-паліўных пытаньняў і праграмаў, ды прапанаваць гэта грамадзтву і ўладзе.

Акрамя таго, трэба выказацца і падрыхтавацца па пытаньнях навядзеньня парадку, бо сёньня грамадзтва ўжо стамілася ад паўсюднай крыміналізацыі жыцьця. Неабходна распрацоўваць праграмы, зьвязаныя з праблемамі мясцовай улады і сельскай гаспадаркі. У тактыцы мы павінны прыкласьці вялікія намаганьні па аб’яднаньню ўсіх антыімпэрскіх, антыкамуністычных сілаў. Нам неабходна ўзмацніць працу па фармаваньні новых фронтаўскіх структураў, напаўняць іх дзейнасьць канкрэтным палітычным зьместам, мы павінны цяпер рэальна паклапаціцца пра новыя кадры, у тым ліку і пра кадры (кандыдатаў і працаўнікоў) на будучыя выбары.

***Зянон ПАЗЬНЯК***

*Надрукавана: („Ратуша”, Магілёўская дэмакратычная газэта,– 1993, 23-29 верасьня)*



(Фота З. Пазьняка, 1965 г.)

***84. Брама.***

# ХВОРЫ ДРУК, ХВОРАЯ ЎЛАДА, НЯШЧАСНАЯ КРАІНА

Апошнім часам я прысутнічаў на некалькіх прэс-канфрэнцыях у Вярхоўным Савеце. Мяне цікавіла ня столькі тое, пра што там будзе гаварыцца, колькі, як яно будзе асьвятляцца потым у манапольным і паўманапольным друку Беларусі. Вынікі, лічу, проста абсурдныя. Чытачы атрымліваюць тэндэнцыйную і суб'ектыўную інфармацыю. І мне ўспамінаецца роспачнае ўскліканьне аднаго сталага сумленнага журналіста: „Калі ня вырваць друк з брудных лапаў, у якія ён трапіў, Беларусь стане няшчаснай краінай!"

Дэградацыя друку набыла сапраўды небясьпечны характар. Зьнікла элемэнтарная аб'ектыўнасьць нават прасьцейшай інфармацыі. Поўны абсурд, каб пра звычайную, нават банальную падзею рознымі карэспандэнтамі (якія разам яе назіралі) давалася б рознае, нават супрацьлеглае і ўзаемавыключаючае апісаньне ў розных газэтах. Напрыклад, пра спатканьне дэпутатаў Апазыцыі БНФ 7 кастрычніка з выбаршчыкамі горада, дзе прысутнічала мноства карэспандэнтаў, я прачытаў у сямі пэрыядычных выданьнях. Ну што можа быць прасьцей: пабываць на месцы падзеі, паглядзець, паслухаць і даць інфармацыю чытачу пра тое, што адбылося. Што ж у выніку? А ў выніку пра адну канкрэтную і простую падзею надрукавана сем розных інфармацыяў, дзе не супадаюць нават элемэнтарныя зыходныя (прытым аб'ектыўныя) дадзеныя. І калі чытач, скажам, з Магілёва ці Віцебска прачытаў бы ўсе гэтыя паведамленьні, то так і не зразумеў бы, што ж адбылося ў сапраўднасьці. Зрэшты, гэта яшчэ было б паўбяды. На самай жа справе чытач у Магілёве чытаў бы пра гэта ў адной газэце, а чытач з Віцебска – у іншай. Уявім, калі б яны спаткаліся і надумаліся аб прачытаным факце пагаварыць.

Сітуацыя з прасьцейшай інфармацыяй паказвае, па-першае, у якім стане знаходзіцца пэрыядычны друк на Беларусі і што ён сабой уяўляе. Па-другое, на прыкладзе элемэнтарнага добра відаць, што прафэсіяналізм і сумленьне карэспандэнта-журналіста ёсьць паняцьці неадрыўныя. Таму журналіст – гэта часьцей за ўсё альбо асоба, альбо, прабачце, адсутнасьць асобы. (Тут як з талентам: альбо ён ёсьць, альбо яго няма.)

Часам падаецца такая інфармацыя, зьмест і сэнс якой напачатку ўвогуле цяжка зразумець. Напрыклад, „Знамя юности" нядаўна напісала, што на тэксьце заявы дэпутатаў Апазыцыі БНФ ёсьць толькі подпіс народнага дэпутата С.Навумчыка і даецца чамусьці фотакопія кампутарнага набору. Пры гэтым пішуцца нейкія скамарошыя намёкі: „Мы говорим партия – подразумеваем..."

Сэнс гэтай заметкі і незадаволенасьці газэты незразумелыя. Тым больш, што інфармацыя правільная. Так праходзяць усе паперы Апазыцыі Беларускага Народнага Фронту ў Вярхоўным Савеце, накіраваныя ў друк. Пасьля таго, як дакумант абмяркоўваецца і прымаецца на пасяджэньні Апазыцыі і ўзгадняецца з народнымі дэпутатамі і сябрамі фракцыі, тэкст яго з прозвішчамі гэтых дэпутатаў перадаецца адным з каардынатараў Апазыцыі ў сродкі масавай інфармацыі. Пры перадачы каардынатар, як правіла, выкладае просьбу і візуе экзэмпляр сваім подпісам.

Прызначэньне незразумелай і трохі клоунскай публікацыі „Знамени юности" высьвятляецца потым, калі па іншых газэтах гатунку „Знамени юности" (гл., напрыклад, „Белорусскую ниву", 12.X.1993 г.) раптам падымаецца лямант, што заявы Апазыцыі БНФ падпісвае за ўсіх (а можна падумаць, што і піша) адзін дэпутат – С.Навумчык. Можна зноў павесяліцца са, здавалася б, ненармальных глупстваў і нізкасьці. Але ўжо нясьмешна, бо стала ўсё зразумелым.

Перад намі тыповы прыём так званай прапагандысцкай інфармацыі, распрацаванай камуністамі і доктарам Ёзэфам Гэбельсам. Сутнасць гэбельсаўскай прапаганды чытачам вядомая. Прыём, ужыты ў „Знамени юности", – элемэнтарны. Спачатку даецца бязглуздая, абсурдная інфармацыя „ні аб чым , але з цёмнымі неадэкватнымі намёкамі. Прапагандысцкі эфект яе амаль нулявы. Чытачы, як правіла, сьмяюцца, паціскаюць плячыма альбо нічога не разумеюць. Аднак праз нейкі час у іншых газэтах зьяўляюцца публікацыі, накіраваныя супраць таго ж самага апанэнта, дзе папярэдняя бязглуздая публікацыя ўжо перакручваецца і падаецца як факт, як спасылка для абвінавачаньняў і мэтанакіраваных разважаньняў. Потым зьяўляюцца публікацыі яшчэ і яшчэ, бязглуздасьць ператвараецца ў сьведчаньне, у прадмет прапагандысцкай рэчаіснасьці, у аргумант прапаганды. Чаму так становіцца? А вельмі проста. Людзі ў грамадзтве чытаюць розныя газэты і розныя матэрыялы. Прычынна-выніковая сувязь інфармацыйных зьяваў лёгка разрываецца ў часе. Той, хто, скажам, прачытаў цяпер „Белорусскую ниву", не чытаў раней Знамя юности" і не стане шукаць гэты нумар газэты, каб нешта ўдакладняць. Тым больш што з цягам часу гэта зрабіць няпроста (трэба ісьці ў бібліятэку і т.д.). Масавы характар штодзённай інфармацыі і дыскрэтны характар яе ўспрыняцьця ёсць тая асаблівасьць, зь якой маніпулюе ўсялякая несумленная прапаганда.

Самым небясьпечным у такіх варунках зьяўляецца прапагандысцкі манапалізм на сродкі пэрыядычнага друку. На вялікі жаль, ён захаваўся ў Беларусі і разьвіваецца цяпер у надзвычай пачварных, нават нязведаных раней формах. Становішча ў беларускім друку адлюстроўвае становішча ва ўладзе. А гэта аднабока і ненармальна. Друк павінен адлюстроўваць становішча ў грамадстве, шукаць і паказваць лепшыя пэрспэктывы яго разьвіцьця.

***Зянон ПАЗЬНЯК,***
***народны дэпутат Рэспублікі Беларусь***

*Надрукавана: (Народная Газета,– 1993, 15 кастрычніка)*



***85. Дэманстрацыя і гэпэнінг.***

# ПРАВАЛ НАМЭНКЛЯТУРЫ. ДА ХАРАКТАРЫСТЫКІ ПАЛІТЫЧНАГА СТАНОВШЧА Ў КРАІНЕ

*(Даклад, прачытаны ў кастрычніку 1993 г. на соймавай канфэрэнцыі БНФ)*

Паважаныя спадарыні і спадары.

Становішча ў дачыненьнях улады і ў эканоміцы, якое склалася цяпер на Беларусі, бярэ свой пачатак яшчэ з 1990 года. Менавіта з той пары, калі, абапіраючыся на антыдэмакратычны закон пра выбары і валодаючы паўнатой таталітарнай улады, кіруючая камуністычная намэнклятура выйграла выбары. Стала зразумелым, што ў параўнаньні з суседнімі краінамі, дзе намэнклятура не атрымала такой татальнай перамогі, Беларусь правальваецца і асуджана на непазьбежную страту ўсіх сваіх перавагаў і стартавых магчымасьцяў, на адставаньне і закрыцьцё самастойнай пэрспэктывы.

Шанц на выбарах 1990 года ня быў выкарыстаны таксама з прычыны слабасьці арганізаваных дэмакратычных сілаў у Беларусі, з-за кволасьці ў грамадзтве свабодалюбных і нацыянальна-вызваленчых памкненьняў. Грамадзтва тады яшчэ поўнасьцю не высьпела да асэнсаваных масавых палітычных дзеяньняў за свае інтарэсы. Аднак яго палітычная актыўнасць разьвівалася. Гэта дало магчымасьць вельмі актыўна і часам нават вельмі вынікова дзейнічаць у Вярхоўным Савеце нешматлікай дэпутацкай Апазыцыі Народнага Фронту. Галоўнымі палітычнымі вынікамі першапачатковай дзейнасьці Апазыцыі сталі, акрамя шэрагу законапалажэньняў, – зьмест Дэклярацыі аб суверэнітэце, ідэі аб нэўтралітэце і бязьядзернасьці Беларусі, якія былі потым зацьверджаныя ў канстытуцыйным законе.

У жніўні 1991 года Апазыцыя БНФ пры падтрымцы грамадзтва своечасова і без прамаруджваньня дамаглася заканадаўчага пацьвярджэньня незалежнасьці Беларусі і спыненьня дзейнасьці КПСС-КПБ. Аднак не ўдалося дасягуць вельмі важнага – правядзеньня нечарговых выбараў у новы парлямант незалежнай Беларусі. Новая дзяржава вымагала новай улады. Велізарныя высілкі Народнага Фронту і ўсіх нацыянальна-дэмакратычных сілаў нашай краіны па правядзеньні рэфэрэндуму аб адстаўцы старога Вярхоўнага Савета і аб новых выбарах былі груба, з парушэньнем усіх нормаў закона, растаптаныя дэпутацкай камуністычнай большасьцю. Неправамоцны Вярхоўны Савет яшчэ раз пацьвердзіў сваю неадпаведнасць, няздольнасьць ажыцьцяўляць законныя функцыі ўлады.

З гэтай пары, менавіта з восені 1992 года, дэпутацкая большасць Вярхоўнага Савета і Ўрад распачалі адкрытую палітыку камуністычнага рэваншу, накіраваную на тармажэньне рынкавых рэформаў, ліквідацыю дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі і аднаўленьне таталітарнага СССР.

Такім чынам быў страчаны (ці, дакладней, зьнішчаны) важнейшы шанс нашага незалежнага дзяржаўнага разьвіцьця – прывядзеньне ў адпаведнасць дзяржаўнай мэты з дзяржаўнай уладай.

У жніўні 1991 года беларускія нацыянальна-вызваленчыя дэмакратычныя сілы дамагліся дзяржаўнай незалежнасьці краіны, але ўся ўлада зьверху данізу засталася ў руках камуністычнай намэнклятуры, правінцыйнай групы савецкіх упраўленцаў, якія ніколі ня думалі дзяржаўнымі катэгорыямі і заўсёды выступалі супраць дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі, адраджэньня яе мовы і культуры. У жніўні-снежні 1991 года дзяржава Беларусь, каштоўнасці якой яны не разумелі і не прызнавалі, поўнасьцю апынулася пад іхнай уладай.

Ужо тады сёньняшнюю сітуацыю здрады і антыдзяржаўнай палітыкі можна было лёгка прадбачыць. Аднак, першае, што стала рабіць намэнклятура, атрымаўшы ў рукі дзяржаву, пачала яе рабаваць. Ня буду спыняцца на „прыхватызацыі”, карупцыі і спэкуляцыі. Гэтыя зьявы ўсім відавочныя. Намэнклятура захавала на Беларусі старую адміністрацыйную сістэму, дзяржаўна-разьмеркавальную эканоміку і стварыла спэкуляцыйны рынак – рынак дэфіцытаў. Валодаючы рычагамі разьмеркаваньня, намэнклятура атрымала ў гэтых варунках небывалыя магчымасьці хуткага ўзбагачэньня, прыкладаючы, практычна мінімум намаганьняў. Непазьбежнае пры гэтым пагаршэньне сацыяльнага становішча людзей па-прапагандысцку сьпісваецца на дзейнасьць міфічных дэмакратаў, „развал Саюза”, „сувернітэт” і г. д.

У выніку шкоднай дзейнасьці намэнклятурнага Ўраду і Вярхоўнага Савета Беларусь застацца па сёньняшні дзень у становішчы „поўдзяржавы”; рынкавыя рэформы затармажаныя, пытаньне зь зямлёй і праблема замежных інвэстыцыяў ня вырашаныя, падатковая сістэма антырынкавая, антывытворчая, антыэканамічная, сацыяльная палітыка прымітыўная, культура ў стане занядбаньня, але самае галоўнае – праваленая фінансава- крэдытная палітыка. Фактычна дзяржаўнай палітыкі і дзяржаўнага падыходу тут у фінансавай галіне прынцыпова ніколі не было. Усе неабходныя, нават элемэнтарыя прапановы дэпутацкай Апазыцыі БНФ па ўпарадкаваньні фінансава-крэдытнай сістэмы, падрыхтоўцы да ўводу нацыянальнай валюты і г. д. адкідвалі адразу, альбо з палітычных меркаваньняў, альбо па прычыне непрафэсійнасці і неадукаванасьці ўрадавых чыноўнікаў і намэнклятурных дэпутатаў. Дзяржава без сваіх паўнавартасных грошай нармальна існаваць ня можа, эканоміка ня дзейнічае, прыватызацыя немагчымая. Тым ня менш, насуперак усялякаму здароваму сэнсу і грамадзскай неабходнасьці, і Ўрад, і дэпутацкая большасць Вярхоўнага Савета зрабілі і робяць усё, каб не дапусьціць ўвядзеньня беларускай валюты, станаўленьня эканомікі і дзяржавы.

Быў прыкладзены максімум высілкаў, каб перашкодзіць прыняцьцю канструктыўных прапановаў дэпутацкай Апазыцыі БНФ аб паліўна-энэргетычным забесьпячэньні (стварэньні другіх і трэціх крыніцаў пастаўшчыкоў, падключэньні камэрцыйных структураў і г. д.). У выніку ўжо летам 1993 года Саўмінам быў створаны паліўна-энэргетычны голад на Беларусі. Выхаду зь яго Ўрад ня бачыць, хоць і вымушаны быў часткова пайсьці на ўступкі патрабаваньням Апазыцыі адмяніць пошліны і ліцэнзіі на ўвоз нафты і дазволіць яе ўвозіць камэрцыйным структурам.

Стала вядома, што нашая плата Расеі за газ пакрываецца ў валюце за кошт заходніх крэдытаў, якія транжыраца не па прызначэньні. У крэдытнай палітыцы Ўраду, як і ва ўсім астатнім, дамінуе падыход дачаснасьці і безадказнасьці. (Аддаваць жа пазыкі прыйдзецца іншаму ўраду). Я ужо не кажу пра тое, што ***ніякай платы з Расеі за перапампоўку ёй газу і нафты праз нашу тэрыторыю і праз нашыя трубаправоды былы урад БССР не бярэ, зрэшты, як і за карыстаньне нашымі дарогамі, паветранымі шляхамі і г. д.***




*86. Сакавіцкі мітынг БНФ. 1993 г.*

Вынікі такой недзяржаўнай, непрафэсійнай адміністратарскай палітыкі дрэнныя. Беларусь страціла і прадаўжае губляць сваю маёмасьць, каштоўнасьць, капітал, фактычна, ліквідаваная эканамічная стартавая перавага Беларусі, якая існавала ў 1991 годзе ў параўнаньні з нашымі суседзямі. Не праведзеная структурная перабудова ў інтарэсах нашага грамадзтва. ***Адсутнасьць нацыянальнай валюты, рынкавых рэформаў, прыватызацыі, нармальных зямельных дачыненьняў і дачыненьняў уласнасьці плюс нічым не абмежаванае раскраданьне дзяржаўнай маёмасьці і нацыянальных багацьцяў, рабаўнічы для Беларусі клірынг і разьлікі з Расеяй, навязаныя расейскім кіраўніцтвам і прынятыя беларускім урадам – усё гэта прывяло да таго, што нашая дзяржава за два гады такой дзейнасьці Ўраду і дэпутацкай большасці Вярхоўнага Савету скацілася з перадавых пазіцыяў і стала адставаць нават ад Расеі.*** Я ўжо не кажу пра краіны Балтыі, якія цяпер мінаюць першы рубікон цяжкасьцяў фармаваньня рынкавай эканомікі і пасьпяхова крочаць да нармальнага эўрапейскага існаваньня.

Матывы антынацыянальнай палітыкі кіруючай намэнклятуры і паводзінаў Ураду добра вядомыя. Імкнучыся захаваць сваю ўладу, сумясьціць несумяшчальнае – адміністрацыйную сістэму і адміністрацыйную эканоміку з рынкам і, ня ставячы ніякіх пэрспэктыўных дзяржаўных задачаў (акрамя, вядома, задавальненьня ўласных інтарэсаў), старое кіраўніцтва Беларусі зайшло ў тупік, стала банкрутам, але раптам і са страхам усьвядоміла, што СССР больш няма, што на Маскву ўжо не спашлешся і адказваць перад грамадзтвам за ўсе свае дзеяньні, за дрэнныя вынікі сваёй дзейнасьці і квазі-палітыку прыйдзецца ім самім. Ім, і нікаму больш.

Гэта адна з прычынаў (бадай асноўная) капітулянцкага павароту Ўраду і большасьці белкамнамэнклятуры ў бок Расеі. Другой прычынай стала ажыўленьне камуністычнага, імпэрскага рэваншызму ў Расейскай Фэдэрацыі, дзе гэтую палітыку ўзначаліў былы расейскі Вярхоўны Савет. Зь лета 1992 года мы мелі магчымасьць назіраць, як адпрацоўваўся расейскі камуністычны сцэнар на Беларусі. Рэарганізуецца структура Саўміна па ўзору ЦК КПБ. Там утвараюцца розныя ўпраўленьні і аддзелы, павялічваецца штат чыноўнікаў і саветнікаў зь ліку народных дэпутатаў пракамуністычнай арыентацыі, потым зьяўляюцца нават дзяржсакратары накшталт былых сакратароў ЦК. У выніку міністры, зацьверджаныя Вярхоўным Саветам, апынуліся ў падначаленьні гэтых нелегітымных структураў і асобаў. Савет Міністраў перастаў быць Саветам Міністраў, перастаў лічыцца легітымным урадам.

Наступны крок. Былыя палітрукі, што атрымалі пасады ў гэтым „структурным урадзе", пачынаюць па прыкладу краінаў Балтыі і Масквы ствараць грамадзкае апірышча кіруючай намэнклятуры – нешта накшталт „інтэрфронту", Каардынацыйны Камітэт, перайменаваны потым у „Народное движение", куды ўвайшлі ўсе камуністычныя і пракамуністымныя арганізацыі, праімпэрскія фантомы, так званыя баталісты, марыністы, яцьвягі і, як паведамлялі, нават скіфы і готэнтоты. Зразумела, што ўсё гэта мішура, створаная агентурай КГБ для прыкрыцьця камуністычных арганізацыяў, каб свабодней было манеўраваць Ураду.

У гэты ж час па адпрацаваным у іншых месцах сцэнару зьяўляецца і пачынае раптам узмоцнена паўтарацца сцьвярджэньне пра неабходнасьць двухмоўя. Дарэчы, з усёй камунаімпэрскай палітыкі гэты прыём (як і іншыя мэтады зьнявагі мовы) найбольш подлы, бо вядзе да расколу грамадзтва і ставарае ўмовы для напружанасьці.

У гэты ж час восеньню на сэсіі Вярхоўнага Савета пачынаюцца першыя напады на нэўтралітэт і зьневажэньні дзяржаў-

ных гістарычных сымвалаў Беларусі. Выказваюцца думкі аб пагрозе нападу блёку НАТА на Беларусь і аб неабходнасьці ўступаць у ваенны саюз і ў «калектыўную бясьпеку» з Расеяй і краінамі СНД. 29 кастрычніка 1992 г. забараняецца рэфэрэндум, падвяргаецца нападкам закон пра грамадзянства, зьяўляюцца імкненьні да рэвізіі прынятага заканадаўства, скасаваньня дэмакратычных палажэньняў. Пачасьціліся кантакты з расейскімі камуністамі, ставіцца пытаньне аб скасаваньні белавежскіх пагадненьняў, аб канфэдэрацыі Беларусі з Расеяй, аб зьняцьці Старшыні Вярхоўнага Савета як аднаго з удзельнікаў пагадненьня ў Віскулях.

Перамога Ельцына на рэфэрэндуме ў Расеі ў красавіку 1993 г. на нейкі момант прыпыніла рэваншысцкую актыўнасьць на Беларусі. Але ўжо ў траўні стала эразумела, што расейскія „чырвона-карычневыя" экстрэмісты разам зь Вярхоўным Саветам Расеі ўзялі кірунак на рашучыя і крайнія сілавыя дзеяньні, дзе Беларусі рыхтавалі ролю камуністычнага пляцдарма маскоўскіх бальшавікоў і імпэрыялістаў.

Падзеі разгортваліся даволі планамерна. Рыхтавалася агульная акцыя ў Расеі і Беларусі па абмежаваньні прэзыдэнцкай упады ў Расеі, рэанімацыі СССР і ліквідацыі дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі. Пра гэта галасна сталі гаварыць дэпутаты пракамуністычнай большасці; яны ўступаюць у адкрыты хаўрус з Хасбулатавым* і расейскімі эстрэмістамі, удзельнічаюць у правакацыйным кангрэсе савецкіх камуністычных сілаў у Менску, дзе ў выступах і прамовах зьневажаецца наша дзяржава і прымаюцца рэзалюцыі ў якасьці грамадзкіх аргумантаў для будучых урадавых і палітычных рашэньняў. Адчуваецца стаўка на сілу. Сыплюцца пагрозьлівыя і прэтэнцыёзныя заявы.

А што ж урад Беларусі? Урад спрыяе ўсяму гэтаму шабашу, забараняе беларускія дэмакратычныя мерапрыемствы і, што ўжо зусім фантастычнае, нават адмаўляецца ад нацыянальнай гісторыі беларускага народа, пра што засьведчыў у спэцыяльнай заяве. Старшыня Савета Міністраў Кебіч у гэты час публічна крытыкуе СНД, раскайваецца ў белавежскіх пагадненьнях, выступае за аднаўленьне Савецкага Саюза, за дзяржаўную інтэграцыю з Расеяй. Разам з Чарнамырдзіным** і Кучмай прапаноўвае заключыць то чарговы „эканамічны саюз", то ўвайсьці ў новую рублёвую зону, то падпарадкавацца расейскаму рублю, расейскаму банку, расейскім законам, расейскаму бюджэту і „суверэнна" існаваць разам з Расеяй.

Апошні план абазначае не што іншае, як поўную ліквідацыю беларускай дзяржаўнай незалежнасьці, праграмаваньне поўнага разбурэньня нашай эканомікі, выпампоўваньня рэсурсаў, маёмасьці і капіталу, згортваньне беларускага бізнэсу і прадпрыймальніцтва і падпарадкаваньне іх расейскай эканамічнай мафіі.

Тое, што ліквідацыяй дзяржавы займаецца ўрад дзяржавы, выглядае дзіўным абсурдам, непраўдападобнай зьявай. Але, тым ня менш, гэта факт рэчаіснасьці.

Якая ж сітуацыя склалася цяпер, пасьля правалу камуністычнага мецяжу*** ў Расеі? Спадар Кебіч тут жа перавярнуўся на 180 градусаў, пачаў хваліць жыцьцяздольнасьць СНД, гаварыць пра ўрадавыя перамогі на працоўным фронце і нават міралюбна паляпаў па плячы спадара Шушкевіча, які, займеўшы ў сябры Ельцына, пачаў быў ужо нават і задзіраць Урад. Міралюбнага паляпваньня яму аказалася дастаткова, каб зноў казаць, што Ўрад стаў працаваць з патроенай энэргіяй, адначасна адмовіцца ад скліканьня нечарговай сэсіі Вярхоўнага Савета і ад рашучых захадаў, на чым настойвала дэпутацкая Апазыцыя БНФ. Аднак тут мая размова не пра нікчэмнасьць тых, хто воляй выпадку кіруюць нашай дзяржавай, а пра рэчы больш аб'ектыўныя і сур'ёзныя.

1991 год паказаў, што тады беларуская кіруючая намэнклятура, бадай што, аднолькава, а можа нават і мацней, ненавідзела Ельцына, чым свой дзяржаўны суверэнітэт. Гэта, як ні дзіўна, адыграла нават пэўную станоўчую ролю на першым этапе намэнклятурнай разгубленасьці. Але як жа будзе цяпер, пасьля прылюднага і агрэсіўнага засьведчаньня свайго нешанаваньня да дзяржавы і яе суверэнітэту? Павольна, цяжка, са скрыпам, але рынкавыя рэформы ў Расеі ўжо йдуць і нават даюць некаторыя таварныя вынікі. 72 адсоткі гандлю нафтай належаць расейскім камэрцыйным структурам. Гэты адсотак будзе павялічвацца. Тое ж здарыцца ў іншых расейскіх галінах гандлю і эканомікі. З кім жа і як будзе тады гандляваць беларускі Саўмін на сваім дзяржаўна-адміністрацыйным востраве, тым больш, што ён сто разоў перад гэтым заявіў: „Без России нам нельзя"?

На адміністрацыйным узроўні гандаль і дачыненьні ўжо не атрымаюцца. З расейскімі камэрцыйнымі структурамі"? Калі дзяржава гандлюе з камэрцыйнымі структурамі, вынік вядомы і, дарэчы, ва ўсім сьвеце ён аднолькавы – карупцыя дзяржаўных функцыянераў і рабаваньне нацыянальнага багацьця. Крах наступіць хутка, бо эканоміка ў такіх варунках проста можа спыніцца. Пайсьці па шляху рынкавых рэформаў? – Нельга паступіцца прынцыпамі і ўвогуле „как тогда насчет государственного строя?" Дый адсталі ўжо ад усіх на некалькі гадоў. Пайсьці зноў здавацца ў Расею? Ужо страшна – там Ельцын. Іншая справа, праўда, спадару Шушкевічу, той гатоў цяпер здавацца „сябру" нават падскокваючы. Такая вось трагікамэдыя.

Ня ведаю, якія варыянты выхаду з урадавай безвыходнасьці могуць прыйсьці ў галовы намэнклятурным урадавым адміністратарам, але, мяркую, што толькі не варыянт асэнсаваньня ўласнага банкруцтва і адстаўкі, бо не такія яны па прыродзе, каб гэтакія крокі рабіць. Я не сумняваюся, што калі іх не папрасіць, то яны застануцца на сваіх пасадах нават у стадыі поўнага паралічу, калапсу і клінічнай сьмерці.

Тым часам гісторыя дае Беларусі чарговы шанец выйсьці на сваю дорогу. Часу адпушчана некалькі месяцаў – пакуль Расея разьбярэцца са сваімі выбарамі. Потым можна чакаць усяго: і дзікага мафіёзнага лібэралізму, вынікі якога мы адчуем на сабе, і чарговай унутрырасейскай канфрантацыі, і войнаў на яе межах, і нават шырокамаштабнага ваеннага канфлікту. Але, што б там ні было, ***Расея, разабраўшыся з уладай і незалежна ад характару упады, будзе надалей працягваць сваю экспансіяністкую геапалітыку. Дачыненьні Расейскай імпэрыі да нашай дзяржавы складваліся стагоддзямі і сэнс іх ніколі не зьмяняўся. Гісторыя дае нам зноў крыху часу, каб умацавацца. Яна сьведчыць, што трэба сьпяшацца.***

Калі пры ўладзе эастанецца гэты антынацыянальны Ўрад, адзін з магчымых варыянтаў разьвіцьця падзеяў будзе заключацца ў тым, што расейскае кіраўніцтва, цяперашняе і будучае,

---

* Руслан Хасбулатаў, старшыня пракамуністычнага Вярхоўнага Савета Расеі; у 1993 годзе ўзначальваў там антыельцынскія сілы. *(Рэд.)*

** Віктар Чарнамырдзін, Прэм'ер-міністар Ураду Расеі пры Ельцыну. *(Рэд.)*

*** Маецца на ўвазе 1993 г., кастрычніцкі камуністычны мяцеж у Маскве і задушэньне яго Ельцыным. *(Рэд.)*

падтрымае і урад Кебіча, і гэты Вярхоўны Савет. Няхай сабе кансэрвуецца на Беларусі адміністрацыйна-камуністычны запаведнік, маўляў, вашая суверэнная справа. Хай гіне, развальваецца беларуская эканоміка, марнуюцца рэсурсы, бяднее народ, расьце зьнешні доўг, хай пануе намэнклятура. Дадуць ім, чаго тыя па прывычцы папросяць – нафты і газу (больш жа атрымліваць няма адкуль, не паклапаціліся), а потым у патрэбны час, дзе-небудзь перад зімой, павядуць жорсткую палітыку. На піск не будуць зьвяртаць увагі. Няма валюты – расплочвайцеся нафтаправодамі, заводамі, чыгункамі, лясамі, вадасховішчамі і г. д. Спадары „ШушКебічы" спусьцяць усё, можна не сумнявацца. І ня трэба будзе ніякіх палітычных рашэньняў, акупацыяў, запальваньня дамовай вайны. Ціха і непрыкметна ашуканы беларускі народ перастане быць уласьнікам сваёй маёмасьці і гаспадаром на сваёй зямлі, і ўсяму так званаму „цывілізаванаму сьвету" будзе глыбока напляваць на чужое гора вялага бесталковага грамадзтва нейкай там „беларашы".

***Сёньня, цяпер, першачарговай задачай павінна стаць – адстаўка антынацыянальнага недзеяздольнага ўрада.*** Трэба пры гэтым мець на ўвазе, што пракамуністычная большасьць Вярхоўнага Савета абапіраецца, перш за ўсё, на Ўрад і сама залежная ад яго. Адстаўка Ўраду аблегчыць выбары.

Да выбараў павінен дзейнічаць пераходны кааліцыйны ўрад некамуністычных антыімпэрскіх сілаў. Трэба разумець, што ***ў Беларусі ня можа існаваць кааліцыйны ўрад і ніякая кааліцыя з удзелам камуністаў. Гэта супярэчыць прыродзе рэчаў. Камуністы на Беларусі выступалі і выступаюць супраць існаваньня беларускай дзяржавы і яе незалежнасьці, супраць беларускага культурна-нацыянальнага Адраджэньня, дзяржаўнасьці беларускай мовы, супраць нацыянальнай гісторыі, школы і ўвогуле супраць усяго беларускага. Гэта пачварны прыклад, адзіны ў сваім родзе. Ня могуць кіраваць дзяржавай людзі, што выступаюць супраць дзяржавы. Дзейнасьць такіх арганізацыяў у нармальным грамадзтве недапушчальная і павінна быць забаронена.***

Хачу падкрэсьліць, што нельга канчаткова змарнаваць шанс, які ўсё ж яшчэ адкрывае Беларусі гісторыя. Мы павінны зьвярнуцца да здаровага сэнсу ўсіх нашых некамуністычных дэпутатаў, да ўсяго нашага незакранутага камуністычнай хваробай грамадзтва. Антынацыянальны ўрад згубіў права на ўладу. Далейшае яго існаваньне – небясьпечнае для грамадзтва, для нашай дзяржавы.

Крывавыя падзеі ў Расеі яшчэ раз далі нам зразумець, наколькі нямоцная, зыбкая наша дзяржаўная незалежнасьць і якая гэта вялікая культурная, сацыяльная і палітычная каштоўнасьць, за якую аддадзена столькі жыцьцяў, за якую змагаліся цэлыя пакаленьні нашых продкаў. Іх абавязкі і на нашых плячах. Мяркую, што нам хопіць добрай волі, стараньня і цярпеньня, каб разам з нашай краінай выйсьці на яе сьветлы і сапраўдны шлях.

***Зянон ПАЗЬНЯК***

*Надрукавана: (Выбар,– 1993, 27 кастрычніка – 9 лістапада)*

## Мой лес

*У дарозе, ля горада, ў лесе,*
*Дзе поўна чужых людзей*
*Галёкала, ламала кустоўе і дрэвы,*
*Піло, ела, паліла агні,*
*Ляжала пад сонцам дармовым,*
*Засьпеў мяне дождж*
*Зь ветрам і градам.*
*У момант усё апусьцела,*
*І бурны струмень*
*Каляровае сьмецьце панёс.*
*І радасна мокнуць мне*
*Ў лесе маім,*
*І люба мне стыць*
*Пад ветрам і градам.*

*1983 г.*

# НАСТАЕ ЧАС ДЗЕЯНЬНЯЎ І РАСПЛАТЫ

У агульнай дэградацыі намэнклятурнай улады на Беларусі і яе правінцыйнай палітыкі надышоў час, калі крытыка ўжо ня мае сэнсу. Яна дастаткова поўна выказана намі два і тры гады таму. Настае час дзеяньняў і расплаты. Расплаты грамадзтва, вядома. Зрэшты расплаты баіцца якраз урад. Адказнасьці за поўнае сваё банкруцтва, за ашуканства і „прыхватызацыю”, за разрабаваньне дзяржаўнай маёмасьці і зьніжэньне сацыяльнага ўзроўню жыцьця, за разбурэньне эканомікі і сельскай гаспадаркі, медыцыны і культуры і самае галоўнае – за свядомы правал фінансава-крэдытнай палітыкі і як вынік – за здраду дзяржаўнасьці Беларусі, здраду, прадэманстраваную кіраўніком гэтага ўрада прылюдна і бессаромна.

Некаторыя людзі задаюць сабе пытаньне, як такое магло здарыцца, каб урад дзяржавы адкрыта выступіў бы супраць незалежнасьці гэтай дзяржавы і рыхтаваў бы яе ліквідацыю. У гісторыі няма аналагаў такой сітуацыі. Яшчэ больш зьдзіўляе пры гэтым поўная апатыя народа да свайго лёсу, бязглуздыя разважаньні часткі інтэлігенцыі, якая („соль нацыі”), здаецца, нават не разумее, што адбываецца. Прычыны, на жаль, элемэнтарныя, пра якія ўжо ня раз казалі і ад якіх сэрвільнае грамадзтва не ў сілах пазбавіцца. Новая дзяржава вымагае новай адпаведнай ёй улады і новых людзей у кіраўніцтве.

24–25 жніўня 1991 года, дзякуючы змаганьню Народнага Фронту і ў першую чаргу яго дэпутацкай Апазыцыі ў Вярхоўным Савеце, Беларусь здабыла незалежнасьць. Аднак дзяржава апынулася ва ўладзе тых структураў і тых людзей, якія, па-першае, не былі падрыхтаваныя для кіраваньня дзяржавай, па-другое – заўсёды яра выступалі супраць дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі, супраць нацыянальна-культурнага адраджэньня, супраць беларускай мовы, супраць прыватнай уласнасьці на зямлю, супраць кардынальных рынкавых рэформаў эканомікі. Мы здабылі незалежнасьць, але не змаглі адначасна (не хапіла сілаў) кардынальна перамяніць савецкую ўладу. У руках старой намэнклятуры апынулася незалежная дзяржава, незалежнасць якой яны так ненавідзелі.

Ці трэба тлумачыць, што з гэтага павінна было атрымацца праз паўтара-два гады і якую яны стануць праводзіць палітыку? Ненавісьнікі незалежнасьці ня будуць будаваць незалежную дзяржаву. Людзі, што трымаюць у руках эканоміку, уладу і разьмяркоўваюць грамадзкае багацьце, ня стануць ствараць рынак уласьнікаў. Ненавісьнікі беларускай мовы ня будуць яе ні адраджаць, ні сцьвярджаць, ні вывучаць. Бескультурныя не адновяць культуру, бяспамятныя – памяць.

Каб не дапусьціць катастрофы, патрэбна было абавязковае палітычнае дзеяньне – выбары новага парляманта і сфармаваньне новага ўраду, за што адразу з 1991 года і пачаў змагацца Народны Фронт. Гэтая прасьцейшая арыфмэтыка і неабходная ўмова аказалася занадта цяжкай для саўковай псіхалёгіі дэнацыяналізаванай часткі грамадзтва (нацыянальна несьвядомы чалавек, практычна, адлучаны ад палітыкі). Тым ня менш, мэта магла б быць дасягнута, калі б ня грубы антыправавы, антызаконны акт забароны рэфэрэндуму аб роспуску Вярхоўнага Савета і нечарговых выбарах. Шляхам узурпацыі намэнклятура і Саветы затрымалі за сабой уладу.

У выніку (што і павінна было здарыцца), замест цывілізаванага рынку тавараў стварылі спэкулятыўны рынак дэфіцытаў, загналі эканоміку ў тупік разам з народам і гатовыя за выратаваньне скуры расплаціцца дзяржавай, якую ўспрымаюць як тавар, як сваю прыватную ўласнасьць.

Я лічу, што нелегітымны ўжо цяпер, не адпаведны рэальнаму грамадзтву, рэальнаму дзяржаўнаму стану Вярхоўны Савет і намэнклятурны ўрад выступілі, як і трэба было чакаць, органамі разбурэньня дзяржаўнасьці Беларусі, яе эканомікі, культурнай і сацыяльнай пэрспэктывы. Пакуль існуюць гэтыя рэліктавыя органы, дзейнічаюць іхныя функцыянеры і кіраўнікі – разбуральная праца будзе працягвацца і можа скончыцца (што верагодна) поўным крахам намэнклятурнай Рэспублікі Беларусь і яе ў большасьці яшчэ апатычнага, абыякавага да свайго лёсу грамадзтва. І да гэтай засьцярогі трэба аднесьціся сур’ёзна.

Тут трэба адзначыць другую прычыну беларускай драмы – умовы, у якіх існуюць разбуральныя органы ўлады. Беларускае грамадства яшчэ моцна хворае. Гісторыя ўсяго XX стагоддзя была тут такой бязьлітаснай, асабліва пэрыяд савецка-бальшавіцкага вынішчэньня і этнацыду, што падарвала ў масе беларусаў здольнасьць супраціўляцца злу. (Калізія гэта ня новая, адлюстраваная ў клясычнай літаратуры; успомнім „Сон на кургане” Янкі Купалы.) Гатоўнасць сьцярпець любую зьнявагу, ашуканства, адкрытае рабаваньне, насільле магла б незвычайна зьдзіўляць, калі б не былі вядомыя прычыны такога стану людзей. Сэрвільнасць безаблічнага савецкага кшталту страшнейшая за самую махровую азіятчыну, дзе хоць існуюць азіяцкія мэтады абароны гонару асобы (помста, кінжал, куля і да т.п.), што карэктуюць паводзіны сэрвільнага чалавека на ўсходні манер.

Разгарніце любую рускамоўную газэту на Беларусі. Колькі бруду, колькі памыяў выліваецца на нашу мову, на сьвятое, на культуру, на ўсё беларускае! Якое дзікунства. Як гісторык сьведчу – гэтакіх зьняваг не было яшчэ ў нашай гісторыі і такога рабскага маўклівага халуйства. Ні ў адной, нават самай адсталай, самай каляніяльнай азіяцкай краіне, немагчыма прачытаць, скажам, такое:

„Рагачы, бамбула, над раздрыпаным каханьнем”. Вот такой вольный перевод на „матчыну мову” известной арии „Смейся, паяц”. Грешно смеяться над тягой людей к родному языку, скажете вы. А, по-моему, грешно требовать преподавать русский язык и литературу на белорусском. Если можно представить перевод Шекспира с языка оригинала на язык межнационального общения бывшего СССР, то перевод Пушкина на суверенный язык нашей республики представить трудно... А представляете, как будут смеяться юные акселераты на геометрии, когда бедный учитель обьяснит им, что в свете новых веяний „перпендикуляр” переименуется в „тарчок”? А на анатомии выяснится, что у нас теперь не почки внутри, а „камки”... Чтобы не пришлось... детишкам из детского садика обьяснять, почему Кащей Бессмертный оказался Здыхам Бессмяротным”.

Такія пячорныя „матэрыялы” друкуе – якое б вы думалі выданьне? – прафсаюзная газэта „Беларускі час” (гл. нумар ад 23–30 жніўня 1993 г.), Я ўжо не кажу пра камуністычныя газэты. Гэта не палеміка. Гэта беларусафобства, расперазанае хамства ў друку.

Такое захаваньне немагчымае ў цывілізаванай эўрапейскай краіне. Не дазволіць нармальнае выхаваньне. А калі б, уявім, нешта падобнае зьявілася, то суд над „публіцыстам” быў бы хуткі. Я ўжо не кажу пра маральную рэакцыю ў грамадзтве. Такое немагчыма таксама нідзе на Усходзе, нават там, дзе няма




***87. Народныя шаржы.***

законаў. „Русскоязычные публіцысты” там гэта ўлічваюць і не адважваюцца на зьнявагі карэннай нацыі. Рускі хам на Беларусі, у грамадзтве беззаконьня, ведае іншае: куды ні плюнь – вытруцца ды яшчэ пахіхікаюць заадно.

***Адсутнасьць нацыянальнай сьвядомасьці ў грамадзтве азначае, перш за ўсё, адсутнасьць нацыянальнай годнасьці асобы. Без нацыянальнай сьвядомасьці незалежная нацыянальная дзяржава не ствараецца. Нават думкі пра гэта не ўзьнікае.*** Бальшавікі засьцерагаючы свае геапалітычныя інтарэсы, прыклалі шмат намаганьняў, каб духоўна разбурыць нашу нацыю, культуру, стварыць бяспамятнае атамізаванае грамадзтва без традыцыяў і абавязкаў перад будучыняй. Вынікі іхяй разбойніцкай дзейнасьці мы цяпер перажываем. (Дарэчы, за тры гады дзеяньня Закона аб мовах ні адзін член Ураду не загаварыў па-беларуску.)

Трымаючы ўладу ў такой супольнасьці, намэнклятура нават не лічыла патрэбным хаваць сваю здрадніцкую змову з расейскімі камуністамі па ліквідацыі нашай незалежнасьці і аднаўленьні таталітарнага СССР. Аднак... мяцеж праваліўся. У Расеі Ельцын, Гайдар, лібэральныя рэформы, забаронены камуністы і ліквідаваны Саветы. Што рабіць? Каму здавацца? Тым больш, што Ельцына беларуская намэнклятура ненавідзіць ня менш, чым сваю мову і свой дзяржаўны сувэрэнітэт.

Тым часам зканамічныя структуры ўжо не сумяшчальныя – у Расеі разьвіваюцца рынкавыя рэформы, зьмяняецца палітычная сістэма. Беларусь жа абрабавалі да ніткі і пакінулі без уласных грошай, без запасных крыніц энэргарэсурсаў, без неабходных законаў, зь мільярднымі пазыкамі, большасць якіх праедзена, выкарыстана Ўрадам не па прызначэньню і раскрадзена. Калі на працягу бліжэйшага часу ня будуць знойдзены сродкі, каб разьлічыцца з калгасамі, сельская гаспадарка пачне падаць. Наперадзе крах. І гэта ўсё нарабіў той урад, які, выконваючы рашэньні апошняга зьезда КПБ - КПСС, з маніякальнай упартасьцю трымаецца за савецкія калгасы, выступае супраць прыватнай уласнасьці на зямлю, які ўжо чатырыкроць сарваў зямельную рэформу ў Беларусі.

Мафіёзная ўлада, што сфармавалася за два гады пад дахам Рэспублікі Беларусь, не праводзіла ніякай мэтанакіраванай дзяржаўнай палітыкі ў эканоміцы, акрамя палітыкі рабаваньня ўласнай дзяржавы і спадзяваньняў на пастаўкі газу і нафты з Расеі па нізкіх цэнах. Спадзяваньням прыйшоў канец, а запасных варыянтаў не стварылі. Становішча такое, што ў бліжэйшыя месяцы можа спыніцца падача цяпла ў дамы. Ва Ўрадзе паніка. Значыць, трэба чакаць, што хутка зноў абвінавацяць ва ўсім суверэнітэт. (Асабліва дрэнны, кажуць, суверэнітэт эстонскі „дажыліся”, маўляў, што фіны прыязджаюць у Эстонію прадукты купляць, бо ў Эстоніі іх шмат і таньней.) Дарэчы дарэмна панікуюць ягамосьці. Грамадзтва ж ўсёроўна сьцерпіць. Беларусы так любяць Саўмін, Кебіча, што ім яшчэ і лепш будзе без цяпла.

У гэтай сітуацыі Ўраду даўно трэба было падаваць у адстаўку. Але тыя, што захапілі ўладу ў 1917-м, самы, як вядома, у адстаўку ня ходзяць.

Могуць быць тры найбольш верагодныя варыянты паводзінаў збанкрутаваных кіраўнікоў. Першы – гэта прадаўжаць ліквідацыю незалежнасьці Беларусі праз падпарадкаваньне („аб’яднаньне”) фінансава-крэдытнай сістэмы нашай краіны грашовай сістэме Расеі. Як ні дзіўна, але гэта ўрадам Кебіча, дарэчы, пры поўнай згодзе сп. Шушкевіча і апатыі грамадзтва, якраз і ажыцьцяўляецца. Вядуцца закрытыя перамовы ў Маскве, уносяцца нейкія таемныя папраўкі ў праект пагадненьня, прымаюцца капітулянцкія ўмовы і г.д.

Калі б гэты праект быў, напрыклад, ажыццёўлены, то дзяржаўная незалежнасьць нашай краіны неўзабаве была б ліквідаваная, згарнулася б беларускае прадпрымальніцтва (яго паглынула б мацнейшае расейскае і руская мафія), спынілася б большасць прадпрыемстваў; маёмасць і вытворчасць хутка перайшла б ва ўласнасць Расеі, расейскіх вытворцаў і бізнесмэнаў. Чаканых „рублёў” ня зьявіцца, бо Расея ня стане іх даваць, каб не павялічваць інфляцыю. У выніку пачаўся б страшэнны калапсуючы крызіс і крах беларускай эканомікі. Гэтага часу Расеі будзе дастаткова, каб прыбраць усё да сваіх рук, зацьвердзіць на Беларусі сваю ваенна-стратэгічную пляцоўку і прадаставіць права беларускім салдатам ваяваць у Таджыкістане, а насельніцтву плаціць падаткі ў бюджэт Расейскай Фэдэрацыі.

Калі меркаваць чыста фармальна, такі паварот павінен азначаць пачатак канца беларускай нацыі. Ні культурна, ні эканамічна Беларусь тады ўжо ня зможа падняцца.

Другі варыянт, які таксама па інэрцыі ажыцьцяўляецца, – гэта працяг старой мафіёзна-адміністрацыйнай палітыкі, ня гледзячы ні на што. Ельцынска-чарнамырдзінская адміністрацыя ў такім разе падтрымае ўрад Кебіча. Гэта аксіёма. Ім стратэгічна нявыгадна падтрымліваць дэмакратаў і Народны Фронт на Беларусі. Мы гэта выдатна бачым, іхныя незацікаўленыя адносіны да нас, да дэмакратаў Балтыі, да Руху Украіны і г.д. Ідзе звычайная імпэрская гульня ў дэмакратыю. Намэнклятурны рэжым на Беларусі атрымае ад Расеі энэргарэсурсы, крэдыты, магчыма, запэўніваньні ў неўмяшаньні і г.д. А потым у патрэбны момант выставяць банкрутам жорсткія патрабаваньні – плаціце! Ах, няма чым? Тады расплачвайцеся сваімі заводамі, трубаправодамі, чыгункамі, лясамі, зямлёй і г.д.

Будзьце ўпэўненыя: спадары, уладу трымаючыя, тут жа „расплацяцца”. І тады наш такі харошы, такі „шматпакутны”,

такі „талерантны” народ, які яны гэтак „любяць”, стане жабраком на ўласнай зямлі, якая яму ўжо ня будзе належаць. Вьнік? Як і ў першым варыянце. Яшчэ й горшы.

Трэці ход, да якога ўрадавая намэнклятура зараз узмоцненна рыхтуецца, – гэта варыянт „надзвычайнай палітычнай ініцыятывы”. Пачаўся ён з мафіёзных разборак і забойства старшыні Гарадзенскага аблвыканкама Д.Арцьмені. На другі ж дзень пасля забойства ў Саўміне выставілі надзвычайную міліцэйскую ахову, якой загадалі не пускаць нават народных дэпутатаў (што, дарэчы, недапушчальна і супярэчыць закону). У страха, кажуць, вялікія вочы. Нечакана стала відаць сувязь паміж Саўмінам і крымінальнымі падзеямі ў Горадні. Далей – болей. Вырашылі стварыць спэцыяльны батальён (750 чалавек) аховы Саўміна, падпарадкаваны, вядома ж, Саўміну. Але і гэтага мала. Паколькі, як высьветлілася, Міністар унутраных справаў У.Ягораў часта мае сваю прафэсійную думку і не заўсёды глядзіць у рот розным саўмінаўскім чыноўнікам, вырашылі забраць з-пад яго падпарадкаваньня ўнутраныя войскі МУС і падпарадкаваць іх Саўміну цераз сваю кандыдатуру, якой стаў намесьнік У.Ягорава К.Платонаў – былы камсамольска-партыйны функцыянер, адзін з „герояў” праваленай крывавай правакацыі 30 кастрычніка 1988 года ля Усходніх могілак у Менску.



*88. Сакавіцкія дні. (Зьлева напр.: З. Пазьняк, С. Навумчык, (?).*

Але і гэтага недастаткова. Непасрэдна Савету Міністраў перападпарадкавалі Менскі АМАП. Што яшчэ? Спрабуюць забараніць зьбірацца народу перад Саўмінам на плошчы Незалежнасьці ў Менску. Усім членам Прэзыдыюма Вярхоўнага Савета, усім начальнікам аж да раённага маштабу будзе выдзеленая ахова.

Рыхтуецца цыркуляр, які ўдасканаліць набыцьцё зброі для ўсяго начальства, ад Саўміна і да сельсавета. Словам, намэнклятура ўзбройваецца. Хутка, пэўна, пачуем кананаду, перад якой забойства Арцымені будзе выглядаць дзіцячай забаўкай. А зрэшты, калі глянуць на ўсю гэту саўмінаўскую апэрэту больш сур’ёзна, то пачынаеш прыходзіць да высновы, што ў некага там ці то ад смагі, ці то ад недахопу „глузду”, як кажуць у народзе, „паехаў дах”. Зь кім, скажыце, зьбіраецца ваяваць Саўмін, што, напляваўшы на закон, падпарадкаваў сабе ўсё – армію, унутраныя войскі, АМАП ды яшчэ й стварае свой асобы саўмінаўскі батальён? Нармальнага адказу няма. Застаецца адно – мафія зьбіраецца абараняцца сама ад сябе. Хутка пад іхнія „разборкі” мы пачуем і палітычную падкладку.

Трэба заўважыць яшчэ адну немалаважную асаблівасьць. Былы Саўмін БССР на сёньняшні дзень даўно перастаў быць легітымнай сістэмай. У ім панастворана розных бюракратычных упраўленьняў, аддзелаў і структураў, якія камандуюць міністэрствамі і міністрамі, хоць ня маюць на гэта канстытуцыйнага права (міністраў зацьвярджаў Вярхоўны Савет). Прыдумалі нават пасады дзяржсакратароў (па ўзору сакратароў ЦК КПСС), якія кіруюць цэлымі галінамі. Так, напрыклад, усімі падпарадкаванымі Саўміну войскамі, сілавымі структурамі і г.д. камандуе „дзяржсакратар” нехта Г. Данілаў – былы партыйны функцыянер (раней курыраваў КГБ па Менскай вобласьці), які стаў вядомы ў апошні час сваімі судовымі скандаламі з журналістамі.

З усяго бачна, што былы Саўмін БССР даўно перастаў быць Урадам Рэспублікі Беларусь і ператварыўся ў закрытую партыйна-мафіёзную нелегітымную структуру намэнклятуры, у ворган, які падгрэб пад свой уплыў Вярхоўны Савет і, фактычна, абслугоўвае сам сябе. Яго існаваньне ў такім выглядзе робіцца небясьпечным для грамадзтва.

Урад імкнецца пазьбегнуць адказнасьці за разбуральныя вынікі сваёй дзейнасьці. Аднак рэальнага выйсьця ў яго ўжо няма, ідэі адсутнічаюць, а арсеналы дэмагогіі, фактычна, вычарпаныя. У гэтых абставінах нікога не павінна зьдзівіць, калі Саўмін праз сваё лобі ў Вярхоўным Савеце (фракцыя „Беларусь”) выступіць ініцыятарам новых выбараў. Намэнклятура, аб’яднаная вакол Саўміна думае абаперціся на ўрадавую манаполію ўлады, сродкаў масавай інфармацыі, сілавых структураў, фінансаў, эканомікі (хоць і паралізаванай) і любымі спосабамі хутка дамагчыся перамогі на прэзыдэнцкіх выбарах.

Саўмін спадзяецца ашукаць Вярхоўны Савет (і нават Апазыцыю БНФ) і дамагчыся рашэньня аб выбарах некалькімі спосабамі (прыняцьцем, напрыклад, „прэзыдэнцкай” Канстытуцыі, прыняцьцем новага закона аб выбарах, увядзеньнем пасады прэзыдэнта і г.д.). Тут будуць прымальныя шматлікія спосабы, толькі б правесьці выбары пры гэтым Урадзе і пры ўсёй той сітуацыі, якая гэтаму Ўраду падкантрольная. Калі, скажам, Саўміну такое ўдасца, то, як толькі пачнецца выбарчая кампанія, у ахвяру будзе прынесены ўвесь Вярхоўны Савет. Гэта, магчыма, стане неспадзяваным для шмат якіх нават

цьвёрдых намэнклятурных дэпутатаў, але трэба ж зразумець і Саўмін, якому проста няма на каго, акрамя як на Вярхоўны Савет, зваліць усе свае грахі і адказнасьць за правал у эканоміцы. Інакш выбарчую кампанію яму ня выйграць. Ды й спадару Кебічу можна будзе пакрасавацца гэткім Ельцыным шыварат-навыварат.

Апазыцыя БНФ гэтую дарожку саўмінаўскай намэнклятуры ўбачыла яшчэ месяц таму, адразу пасьля правалу мяцяжу ў Расеі. Нашыя прапановы вядомыя: адстаўка Ўрада Кебіча і сфармаваньне пераходнага ўраду (кабінета міністраў) са спэцыялістаў, які можа быць кааліцыйным урадам некамуністычных антыімпэрскіх сілаў. Задачы гэтага ўрада: захаваць незалежнасьць Беларусі, распачаць рынкавыя рэформы (у тым ліку зямельную), увесьці пераходную нацыянальную валюту (ёй могуць стаць „разьліковыя білеты"), вырашыць пытаньне з паліўным энэргазабесьпячэньнем, падрыхтаваць выбары ў парлямант (сойм) і мясцовыя органы ўлады.

Усе іншыя прапановы і захады Саўміна з захаваньнем свайго існаваньня (і ў рэальнасьці – кантролю над выбарамі), як кажуць, „ад нячысьціка". Хацелася б засьцерагчы ад спакусы паддавацца на саўмінаўскае палітыканства. Выбары ці то парляманту, ці то прэзыдэнта без адстаўкі Кебіча і збанкрутаванай саўмінаўскай структуры ня будуць ні дэмакратычнымі, ні карыснымі для нашага грамадзтва. Яны могуць зноў прывесьці да ўлады мафію і зноў надоўга.

Зразумела, што немагчыма таксама прымаць новую намэнклятурную Канстытуцыю Беларусі пры існаваньні Саўміна Кебіча (дарэчы, прапануюць зноў, фактычна, савецкую Канстытуцыю, толькі крыху падпраўленую.) Намэнклятура падыходзіць да прыняцьця новай Канстытуцыі не з дзяржаўных, а са сваіх кан'юктурных мэтаў. Успомнім, як за апошні час дэпутацкая большасьць Вярхоўнага Савета шэсьць разоў мяняла свае погляды на процілеглыя аб прэзыдэнцкай уладзе, у залежнасьці ад развіцьця падзеяў у Расеі. Пра што тут можна сур'ёзна гаварыць! Некаторыя зь іх пры гэтым прапануюць нават вынесьці недасканалы праект Канстытуцыі на рэфэрэндум. Канстытуцыю на рэфэрэндуме лепш не прымаць. Тым больш недапрацаваную. Парлямант тады ўжо ня зможа яе паправіць.

Для нармальнага разьвіцьця Беларусі важна ня толькі ўнутранае, але і зьнешняе вызначэньне. Прыклад і вопыт нашых суседзяў паказвае, што ***трэбаісьці па шляху балтыйскіх краінаў. Беларусь павінна рыхтавацца да выхаду з СНД. Трэба разьвіваць раўнапраўныя двухбаковыя дачыненьні з усімі краінамі-суседзямі, у тым ліку і з Расеяй, але нельга ўступаць зь ёй ні ў якія, нават фармальная, саюзы, садружнасьці і да т.п. Гэта небясьпечна. Расея заўсёды праводзіць імпэрскую палітыку, і нельга даваць ёй повад для палітычнага ці эканамічнага ціску на Беларусь.***

Варта мець на ўвазе, што ***грамадзкі раскол у Расеі, які пачаўся дзесьці з 1988 г., адбыўся ў асяроддзі камуністычнай намэнклятуры не па дачыненьнях да дэмакратычных ідэяў (хаця зьнешне выглядала так), а па дачыненьнях да ўлады.*** У Расеі стварылася намэнклятурнае двоеўладдзе. Канфлікт у Расеі ня ёсць клясычны канфлікт паміж дэмакратамі і таталітарыстамі (камуністамі), як, напрыклад, на Беларусі, у Латвіі ці Летуве, дзе з аднаго боку БНФ, „Саюдзіс", новыя людзі, дэмакраты-нацыяналісты а з другога – якраз камуністычная (прарасейская) намэнклятура.

Нацыянальную дэмакратыю ў краінах Балтыі, у Польшчы, у Беларусі ўзначалілі антыкамуністы-дэмакраты. Дэмакратыю ў Расеі ўзначаліла намэнклятура, што фармальна адмовілася ад КПСС. „Разборкі" паміж імі носяць там традыцыйна расейскі, нецывілізаваны характар. Праўда, камунізм паўсюдна прыўносіць асаблівыя крывавыя дачыненьні. Гэта трэба ўлічваць.

***Ня трэба, аднак, мець ніякіх ілюзіяў, што пераможная дэмнамэнклятура Расеі, якая, дарэчы, цяпер схіляецца да лібэральных ідэяў, адмовіцца ад імпэрскай палітыкі і ад сваіх геапалітычных і стратэгічных інтарэсаў. Імпэрыялізм Расеі ў гэтых варунках з цягам часу можа нават узмацніцца. Эканамічны ціск праз рынак і часовы сыравінны (рэсурсавы) манапалізм стане магутным і разбуральным рычагом расейскай палітыкі менавіта для Беларусі як краіны, якую штучна затрымалі ў адміністрацыйным рэжыме.***

Адзіна правільны шлях у такой сітуацыі – мацаваць дзяржаўную незалежнасьць Беларусі, умацоўваць нацыянальную фінансава-крэдытную сістэму, рэфармаваць эканоміку, павышаць яе вытворчыя самарэгулюючыя і партнёрскія магчымасьці і знаходзіць раўнавагу, балянс паміж Усходам і Захадам. Нашае вяртаньне ў Эўропу ляжыць праз нэўтралітэт (прынамсі ў пачатку), няўдзел ні ў якіх вайсковых саюзах і блёках. Нашыя палітычныя і эканамічныя партнёры найперш – на Захадзе, а ўжо потым на Ўсходзе. Мадэль паводзінаў Беларусі тут відавочная. Аднак патрэбна актыўная палітыка. Палітыка ня здрады, а разьвіцьця, не калапсу, а нацыянальнай духоўнай пэрспэктывы, палітыка творчага раскрыцьця вольнага чалавека, што робіць грамадзтва заможным, а народ свабодным.

***Зянон ПАЗЬНЯК,***
***народны дэпутат Беларусі***

*Надрукавана: („ Народная Газэта",– 1993, 9 лістапада)*


(Фота З. Пазьняка).

***89. Брук.***

**ЗЯНОН ПАЗЬНЯК:**

# ІМПЭРЫЯ НЯ МОЖА БЫЦЬ ДЭМАКРАТЫЧНАЙ

***(Лідэр Апазыцыі БНФ пра Расею і пра яе выбары)***

**– Як вы ацэньваеце вынікі выбараў у Расеі? Ці былі яны для Вас нечаканымі?**

– Адбылося тое, што павінна было адбыцца ў краіне, якая, па сутнасьці і псіхалёгіі сваёй, зьяўляецца імпэрыяй і да таго ж зьведвае страшэнны сацыяльна-эканамічны крызіс. У такіх сітуацыях абавязкова зьяўляюцца людзі, якія апэлююць да люмпэна, да простых сацыяльных інстынктаў, заснаваных на нянавісьці, разьмеркаваньні, выкрываньні, абяцанках. Гэта вядомы шлях, які ў свой час перажыла Эўропа і які зараз праходзіць Расея. Нічога непрадбачанага для БНФ тут не было. Больш таго, мы не чакалі ад выбараў якога-небудзь паляпшэньня, паколькі ні адна з партыяў, якія там супернічалі, ня мела антыімпэрскай плятформы. Усе яны ў той ці іншай ступені стаялі на імпэрскіх пазыцыях, і – тут я не баюся паўтарыцца – як вядома, імпэрыя проста „па вызначэньню” ня можа быць дэмакратычнай. Гэта аксіёма.

Зараз Расея відавочна пайшла па шляху антыдэмакратызму – гэта гістарычна заканамерны для яе шлях, хаця і вельмі драматычны. Ня толькі Дзяржаўная дума атрымаецца гранічна палярызаванай, але палярызаваная і сама структура ўлады: на адным краі – прэзыдэнт, на другім – парлямант, які, напэўна, пачне з высьвятленьня адносінаў з Ельцыным. Усё гэта ў бліжэйшы час можа прывесьці да грамадзянскага канфлікту і нават да збройнага сутыкненьня.

Гаворачы аб выніках выбараў у Расеі, нельга не засьведчыць і поўны правал заходняй палітыкі ў адносінах да яе. Захад яшчэ раз паказаў неразуменьне таго, што адбываецца на Ўсходзе, поўны крах сваіх ілюзіяў. Увогуле, заходнюю палітыку я расцэньваю як філістэрскую (абывацельскую, посную, мяшчанскую – В.Ц.), – гэта тая палітыка, якая ў 30-я гады прывяла да аншлюсу Аўстрыі, да пакта Молатава-Рыбентропа, здачы Чэхаславаччыны і г.д. Аднак палітыка, разьлічаная на стварэньне „дэмакратычнай Расеі”, ілюзорная – Расея ня можа быць дэмакратычнай, пакуль яна існуе як імпэрыя. А яна можа існаваць толькі як імпэрыя...

**– Інакш кажучы, Вы лічаце, што Расея можа існаваць толькі як імпэрыя альбо – Расеі як дзяржавы ўвогуле ня можа быць?**

– У гэтым уся справа.

**– І гэта, па-вашаму, будзе карысна для ўсяго сьвету?**

– Сьвету стане лепей, калі такой імпэрыі ня будзе існаваць. Дасягнуўшы вяршыняў свайго разьвіцьця, Расея ў XIX-м і XX-м стагоддзях уяўляла сабой пастаянную пагрозу міру. Імпэрыя жыве законамі экстэнсіўнага разьвіцьця – яна гатовая пашырацца на ўвесь сьвет, „паглынаць” чужыя культуры, эканомікі і называць іх рускімі. Такімі катэгорыямі мысьлілі рымляне – і што ў выніку? Рымская імпэрыя разваліліся, рымскага этнасу няма, мова мёртвая.

Самым расейцам цяпер трэба, каб дамінуючая руская нацыя вызначылася як нацыянальнасьць. Менавіта нацыянальная культура імкнецца вычленіць, разьвіць і абараніць свой творчы пачатак. Пакуль жа ў рускіх не нацыянальная а імпэрская сьвядомасьць, рускі абывацель, руская культура думаюць катэгорыямі імпэрыі, а ня нацыі.

**– Але як самым расейцам зразумець тое, што ім патрэбны развал Расеі?**

– Зразумець гэта ім амаль немагчыма. Тут, безумоўна, асобная сур’ёзная размова – можа, і не для газэтнага інтэрв’ю – але трэба рэальна ўяўляць: Расея – імпэрыя з насельніцтвам, якое валодае імпэрскай мэнтальнасьцю. І тут драма і бяда гэтага насельніцтва.

**– З Вашых слоў нейкае сумнае зачараванае кола выходзіць. У чым жа тады выйсьце?**

– Выйсьце – ў стварэньні процівагаў. У рэалізацыі ідэі, якую даўно прапануе БНФ, аб стварэньні балянсу сіл на ўсходзе Эўропы. Гэты блёк дзяржаваў – ***Балтыйска-Чарнаморская садружнасьць*** – патрэбны якраз ня супраць Расеі (гэта ідыёцка-савецкі вобраз мысьленьня), а для стабільнасьці ў Эўропе. Ідэя гэта, якая, нагадаю, нарадзілася на Беларусі яшчэ ў 1916 годзе, важная для ўсёй Эўропы, у тым ліку і для Расеі. Калі ня будзе такога балянсу сілаў, гэта можа прывесьці да яе некантралюемай экспансіі, агрэсіі і распаду. З аднаго боку, вышэй я гаварыў, што гэта можа адбыцца, але, з іншага – гэта небясьпечны і не адначасовы працэс, – ён мусіў бы йсьці эвалюцыйна.

**– Як выбары ў Расеі паўплываюць на пракамуністычную большасьць нашага парляманта зь яе ідэяй аб „яшчэ больш цеснай інтэграцыі з Расеяй”?**

– Камунізм і фашызм вырастаюць з аднаго кораня, у іх падобныя ідэі і сымболіка. На пэўным этапе яны здольныя мімікрыраваць, пераўвасабляцца адно ў адно і нават аб’ядноўвацца. Але гісторыя сьведчыць, што камуністы нідзе і ніколі ня будуць дзяліць уладу – толькі часова. Дарэчы, асабліва красамоўна гэта бачна на гісторыі Расеі, калі за адну ноч выразалі цэлыя партыі – былыя паплечнікі бальшавікоў (левыя эсэры, анархісты). Камуністы гатовы пайсьці на саюз з кім заўгодна, але, прышоўшы да неабмежаванай улады, адразу ж зьнішчаюць сваіх часовых саюзьнікаў. Калі ў абранай Дзяржаўнай думе ўмацуюцца пазыцыі камуністаў (а гэта, бачна па ўсім, павінна адбыцца), беларускія іх аднадумцы адразу ж сябе праявяць.

Пакуль жа яны на скрыжаваньні, на ростанях, – ня ведаюць, што рабіць. Заўважце, колькі часу прайшло пасьля выбараў, а ў Вярхоўным Савеце аб Расеі яшчэ аніводнага слова! Нібыта яе і няма!

**– Якія канкрэтныя, практычныя высновы робіць БНФ пасьля выбараў у Расеі?**

– Мы не прапануем нічога экстравагантнага. Існуюць нормы, па якіх павінны жыць грамадзтва і дзяржава. Яны былі растаптаныя ў апошнія дзесяцігоддзі і зараз адраджаюцца разам з нашай дзяржаўнасьцю. Трэба падымаць эканоміку праз увод уласнай валюты, праводзіць дзяржаўную палітыку, зыходзячы з інтарэсаў Беларусі, – інакш кажучы, каб карыстацца плёнам сваёй працы, трэба прымусіць сябе прызнаць, як гэта зрабіла маленькая Эстонія.

Другая, больш канкрэтная выснова, – аб ядзернай зброі. Калі ў ядзернай дзяржаве да ўлады прыходзяць авантурысты, якія ставяць задачу правядзеньня войнаў, зьмены межаў, – такія людзі ня маюць права валодаць ядзернай зброяй. Гэта ж элементарна. Таму ні Ўкраіна, ні Беларусь не павінны аддаваць ракеты гэтай дзяржаве. Нам ня трэба ядзерная зброя. Нагадаю, што менавіта БНФ ініцыяваў і дамогся таго, што без’ядзернасьць і нэўтральнасьць сталі нормай нашай Кансты-

туцыі. Ядзерная зброя не патрэбная нам, але мы ня маем права аддаць яе тым палітыкам, якія могуць уцягнуць сьвет у вайну.

**– Як Вы думаеце, ці можа да падобных ідэй аб ядзернай зброі прыйсьці цяперашняе кіраўніцтва Беларусі?**

– Прыйсьці да гэтага нескладана, але зараз яны больш занятыя пытаньнем, хто больш накраў і як утрымацца ва ўладзе. Справа ў тым, што без Захаду мы зброю ня зьнішчым – гэта надта дарагая справа. Нават пры гэтым кіраўніцтве




*90. Дэлегаты III Зьезду БНФ „Адраджэньне”. Менск. Тэатр імя Янкі Купалы. 29-30 траўня 1993 г.*

Беларусь пайшла на ўсё: мы рэжам танкі, ракеты, – заўважце, акрамя нас ніхто гэтага ня робіць. Усё гэта – выключна за наш рахунак, улічваючы Чарнобыль, і... ніякай дапамогі Захаду.

Як жа гэта назваць? Калі Захад і далей ня будзе дапамагаць нам раззбройвацца, думаю, можна будзе знайсьці іншае выйсьце з сытуацыі. Ня мы ж прыдумалі ядзерныя ракеты і ня мы іх сюды завезьлі.




**– Ці можна чакаць, што палітыка Захаду да Расеі пасьля выбараў зьменіцца? Бо мяняць палітыку пасьля наступных выбараў – прэзыдэнцкіх – магчыма, ім будзе ўжо позна.**

– Усю палітычную, маральную і матэрыяльную дапамогу Захад накіраваў у Расею, поўнасьцю ігнаруючы Беларусь і Ўкраіну. Захадам было дапушчана, каб Расея, дзякуючы свайму дамінуючаму становішчу, валоданьню нафтай і газам, асаблівай палітыцы цэн, выдаіла і паставіла на калені Ўкраіну і Беларусь. Захад сьвядома пайшоў на гэта, напэўна, думаючы, што вядзе мудрую палітыку па стварэньні „новай дэмакратычнай Расеі”.

Аднак, калі клапаціцца аб пашырэньні эўрапейскай цывілізацыі, свабоднага сьвету, трэба было перш за ўсё дапамагаць умацаваньню дзяржаўнасьці ў Прыбалтыцы, на Ўкраіне і Беларусі. І не даваць крэдыты гэтаму пракамуністычнаму рэжыму (які ляжа ярмом на нашу шыю), а аказваць найперш маральна-палітычную падтрымку дэмакратычным сілам. Нам дармовых грошай ад іх ня трэба – маем свае рукі, свой розум. Але трэба, каб аб нас інфармавалі, прыязджалі сюды, вывучалі нашу сітуацыю, дапамагалі стварэньню грамадзкай думкі. Усяго гэтага няма – ўся ўвага туды, дзе страляюць і забіваюць.

Ці здолее Захад зьмяніць свае адносіны? Нейкія карэктывы, напэўна, будуць. Але, наколькі я разумею заходнюю палітыку, – гэта вельмі інэртнае і зашоранае мысьленьне, якое наўрад ці зможа рашуча зьмяніцца. Там надта распаўсюджанае думаньне выключна ўласным кашальком, супакаеньнем і адчуваньнем таго, што ўсё гэта дзесьці вельмі далёка. А гэта блізка, надта блізка... Баюся, што, як і ў выпадку з Гітлерам, Захад, сам таго не разумеючы, дапаможа фашыстам, дакладней, гэбістам у Расеі прыйсьці да ўлады і замацавацца.

***(Размову вёў Віталь ЦЫГАНКОЎ)***

*Надрукавана: (1993 г.),*
*(крыніца незанатаваная).*

# КУРС НА СТРАТУ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ

*(Стэнаграма)*

**Мінулы і пачатак гэтага тыдня былі пазначаны гарачымі парляманцкімі дэбатамі пра шляхі выйсьця з эканамічнага (дый палітычнага) крызісу, у якім апынулася Беларусь. У гэтых дэбатах, як і раней, ярка выявіліся розныя, часам супрацьлеглыя погляды на праблемы нашага дзяржаўнага будаўніцтва. І можа самае прыкрае тое, што большасьць дэпутацкага корпусу па-ранейшаму ня ўвязвае пытаньні эканамічнага выжываньня з такімі асноватворнымі для любой краіны паняцьцямі, як суверэнітэт, незалежнасьць.**

**Аднак гучалі з трыбуны сэсіі і іншыя выступленьні, у якіх самастойнасьць Беларусі сцьвярджалася і перадумовай яе дабрабыту, уладкаванасьці ўсіх сфэраў грамадзкага жыцьця.**

**Друкуем меркаваньні на гэты конт дэпутатаў Н. Гілевіча і З. Пазьняка, якія прагучалі на сэсіі Вярхоўнага Савета 17 і 18 лістапада *(1993 г.)*.**

**Зянон ПАЗЬНЯК:**

– Я хацеў бы таксама засяродзіць на гэтым вашую ўвагу. Сапраўды, ідэя СНД узьнікла тады, калі ва ўрад Расеі прыйшлі эканамісты чыкагскай школы, якія цудоўна разумелі, што палітычнымі мэтадамі ўтрымаць гэтую бочку – Савецкі Саюз – ужо немагчыма. Яна ўзарвецца. І ўзарвалася б вельмі крывава. І таму быў прапанаваны другі мэтад. Мэтад СНД. Тут было заўважана, што як толькі былі ратыфікаваныя віскулёўскія пагадненьні па СНД, адразу ж праз месяц пачалася лібэралізацыя цэнў у Расеі. Я прашу вас заўважыць, як дзейнічаў наш Урад і як, фактычна, пад яго дыктоўку вымушана была дзейнічаць большасьць Вярхоўнага Савета. Фактычна, калі зрабіць аналіз, зрэз гэтых гадоў, то атрымліваецца, што ***палітыка большасьці нашага Вярхоўнага Савета і Ўраду ішла сінхронна з палітыкай адпаведных колаў Расеі.***

Вазьміце падаткавую сістэму, пра якую ішла гаворка. Катэгарычна былі не ўспрыняты тыя прапановы, якія выказваліся Апазыцыяй БНФ і іншымі дэпутатамі. Аб узроўні нашых падаткаў, напрыклад, якія большыя, чым у суседзяў. Ясна, куды пайшоў беларускі капітал. Ён пайшоў у тыя краіны рублёвай зоны, дзе падаткі меншыя. У асноўным у Расею.

Што датычыць лібэралізацыі цэнаў у 1992 годзе. Катэгарычна не ўспрымаліся тут ніякія думкі аб уводзе ўласнай нацыянальнай валюты, а менавіта ў 1992 годзе, тады, калі ў нас яшчэ былі добрыя стартавыя магчымасьці, гэта трэба было зрабіць. Тады, вы памятаеце, эканамісты рабілі аналіз і паказвалі, што ў найбольш выгадных умовах па ўвядзеньні нацыянальнай валюты знаходзіцца якраз Беларусь. Калі б тады мы прыступілі да ўвядзеньня сваёй уласнай валюты, як у той час пачала рыхтавацца Эстонія, мы б ня мелі тых праблем, якія маем зараз.

Цяпер паглядзіце, што адбывалася. Расея валодае стратэгічнымі запасамі нафты, энэргарэсурсамі, значыць яна можа дыктаваць цэны. Гэта зразумела, таму што мы залежныя ад яе рэсурсаў. Яна ўводзіць на сваю нафту адну цану, унутраную, і другую цану, зьнешнюю. І вось на гэтых, як кажуць, вагах энэргарэсурсаў і розных цэнах была пастаўлена на калені Ўкраіна.

Узяліся за Беларусь. Паглядзіце, як пасьлядоўна. Наш Урад увесь час гаварыў, што Беларусь залежыць толькі ад энэргарэсурсаў Расеі. Яны не хацелі ісьці ні на якія пагадненьні з іншымі краінамі аб энэргарэсурсах (тое, што прапанавала Летува па тэрмінале ў Клайпедзе, той жа самы Балтыйска-Чарнаморскі калектар, прапановы па тэрмінале ў Вэнтспілсе).

Злучаныя Штаты Амэрыкі маюць 28 пастаўшчыкоў нафты, бо ў законе сказана, што нельга, каб адзін пастаўшчык даваў нафты больш за 30 працэнтаў. Гэта зразумела, чаму. У нас жа Ўрад намёртва прывязваецца да расейскіх пастаўшчыкоў, да расейскай нафты. Адсюль вынікае, што Расея можа дыктаваць свае цэны, сваю палітыку.

Глядзіце, як разьвіваюцца падзеі далей. Узьнікае прапанова пра „калектыўную бясьпеку", ставіцца пытаньне пра эканамічны саюз і, нарэшце, пытаньне аб аб'яднаньні грашовых сістэмаў. Гэтым, фактычна, знойдзена форма ліквідацыі незалежнасьці Беларусі.

Давайце пагледзім, што за сілы кіруюць у Расеі. Распаўсюджаная думка – дэмакраты і камуністы. Але давайце глянем на гэтую сітуацыю глыбей. Калі справа ідзе пра Эстонію, Латвію ці іншыя балтыйскія краіны – так. Сапраўды, туды прышлі ва ўрад новыя людзі, не намэнклятура. З другога боку, засталіся старыя людзі, старыя структуры, якія былі адхілены ад улады. ***Што ж адбылося ў Расеі? Адбыўся падзел па прынцыпе не дачыненьняў да ідэі дэмакратыі, а па прынцыпе дачыненьняў да ўлады. І Ельцын, і яго каманда – гэта тая самая намэнклятура, якая адмовілася ад ідэі камунізму, якая ўсплыла на антыкамунізме.*** І невыпадкова, што менавіта гэтая намэнклятура ўспрыняла ідэі лібэральнага капіталізму, ідэі лібэралізму, носьбітам якіх стаў Гайдар. І вось гэтыя ідэі, якія ў аснову ставяць прагматычную эканоміку, яны, бадай, страшнейшыя для нашай незалежнасьці, чым камуністычная экспансія, якую ажыцьцяўляў Хазбулатаў. Таму што яны нас хочуць паставіць на калені шляхам прадуманай эканамічнай безвыходнасьці і вымусіць нас самых ісьці ў гэтую „рублёвую" зону, гэтак жа, як трус ідзе ў пашчу ўдава, ды яшчэ каб мы думалі, што гэтае пажыраньне стане выратаваньнем. Гэта вельмі небясьпечная і, я б сказаў, страшная, варожая палітыка, таму што, паўтаруся, яна ідзе шляхам ашуканства, а вымушаны выбар павінны рабіцца ашуканымі нібы добраахвотна.

Я перакананы, што сярод вас ёсьць людзі, якія сапраўды думаюць, што гэта будзе пэўная палёгка, што гэта нейкі выхад з таго стану, у якім мы апынуліся. Але паглядзіце, як пасьлядоўна палітыка нашага Ўраду, ураду спадара Кебіча, давяла нашую эканоміку да таго стану, калі мы стаім на каленях, і тут жа кажуць, быццам бы няма выхаду. І толькі цяпер, не ў 1992 годзе, не ў пачатку 1993 года, а менавіта цяпер зьявілася гэтая заплянаваная падступная прапанова: давайце, маўляў, аб'ядноўваць грашовыя сістэмы. Але ж гэта элемэнтарна: без сваёй нацыянальнай валюты і фінансава-крэдытнай сістэмы ня можа быць дзяржаўнай незалежнасьці.

Што з гэтага можа атрымацца? Першае, што можна прагназаваць, – спыняцца нашыя заводы. Спыняцца, бо рэформы ў Расеі пайшлі значна далей, расейцы маюць больш танную сыравіну, менш затрачваюць працы на вытворчасьць адпаведных прадуктаў, яны будуць значна таньнейшыя. І калі расейскія

тавары прыйдуць сюды (а яны прыйдуць, таму што і эмісіяй, і фінансава-крэдытнай палітыкай будзе валодаць Цэнтральны банк Расеі, будзе валодаць Расея, а ня мы), то нашая вытворчасьць ня зможа канкурыраваць, нашы тавары будуць даражэйшымі, проста нам ня будзе патрэбы гэтыя тавары выпускаць, будзе нявыгадна, і заводы спыняцца. Вось вам першы сацыяльны крызіс, які адбудзецца.

Расеі будзе нявыгадна разьвіваць тут структурную перабудову. Гэта павінна рабіць наша дзяржава, яна павінна ўкладваць сродкі. Небясьпека аддзяленьня ўсяроўна будзе стаяць, і Расея будзе ажыцьцяўляць тут свае стратэгічныя мэты.

Такім чынам, куды мы пойдзем, куды трапім, калі зараз на гэтым Вярхоўным Савеце будуць ратыфікаваныя гэтыя пагадненьні? Тут жа няма ніякіх эканамічных пэрспэктываў. Той бізнэс, тая прадпрыймальніцкая вытворчасьць, якая зараз разьвіваецца ў Расеі (і разьвіваецца дастаткова бурна, прытым па дастаткова дзікіх законах, таму што грамадзкая супольнасьць там слабая, яна несфармаваная), яны значна мацнейшыя за наш бізнэс, за нашую прадпрымальніцкую вытворчасьць. І іхныя банкі значна мацнейшыя, чым нашы. Калі мы ня будзем распараджацца сваімі фінансамі (а мы ж ня будзем, мы ж будзем плаціць падаткі ў фэдэральны расейскі бюджэт, будзем падпарадкоўвацца законам расейскага банку), то яны нам, як кажуць, напішуць танец. Зразумела, што не ўзьнікне ніякага эканамічнага супрацоўленьня, і зразумела, што наша вытворчасьць, наш бізнэс будуць тут жа ліквідаваны, яны ня вытрымаюць ніякай канкурэнцыі. Нашыя банкі лопнуць.

Спадар Беленькі гаварыў, што ў лепшым выпадку яны стануць філіяламі (гэта ў лепшым выпадку). Але яны проста перастануць існаваць.

У выніку нашыя заводы, нашыя фабрыкі, чыгункі, лясы апынуцца ва ўласнасьці расейскіх прадпрымальнікаў і бізнэсмэнаў. Наша маёмасьць, прадпрыемствы будуць спушчаны з малатка, з аўкцыёна. І гэта элемэнтарна можна пралічыць, нават ня будучы эканамістам, а гісторыкам, бо такое ў нашай гісторыі ўжо было.

Узгадаем тры падзелы Рэчы Паспалітай. Мы цудоўна ведаем, як адбывалася тады разбурэньне нашых мануфактур, як нішчылася наша эканоміка, і гэта была сьвядомая палітыка Расейскай імпэрыі. Трэба рабіць вывады з гісторыі, таму што імпэрская палітыка паўтараецца. Цяпер мы бачым яе на новым вітку.

Я вельмі прасіў бы ўсё ж такі ўсіх дэпутатаў большасьці (сярод якіх, напэўна, ёсьць людзі, якія думаюць, што, прагаласаваўшы за ратыфікацыю, яны зробяць дабро, ну, для нашага „рэгіёна", для насельніцтва) прасіў бы задумацца сур'ёзна над вынікамі магчымага вашага рашэньня, якое можа аказацца фатальным для нашай дзяржавы і для нашага народа. Я вельмі прасіў бы над гэтым задумацца і, як кажуць, сем разоў адмераць, перш чым галасаваць.

Мы не павінны ратыфікаваць гэтае пагадненьне. Нам неабходна ўводзіць сваю нацыянальную валюту і праводзіць сваю незалежную эканамічную палітыку, сваю фінансавую палітыку. Нам прапануюць увесьці „зайцаў" як часовую валюту. Так, гэта пакуль што выхад. Нам трэба гэта рабіць.

Але ж заўважце, якая кручаная хітрасьць, што Расея гэта нам сама прапаноўвае. Заганяе ў пастку і прапаноўвае. Таму што калі ня будзе ў нас сваёй валюты (у нас жа яе няма), то потым Расеі нявыгадна ўкладаць сюды свае рэсурсы і быццам бы „дапамагаць" нам, каб затым нас і праглынуць. Яны хочуць яшчэ, каб мы, пагадзіўшыся на паглынаньне, ўвялі гэту сваю валюту, каб ім можна было адпаведна і зручна для сябе прыраўняць курсы, каб можна было, так бы мовячы, эксплуатаваць вось гэтыя штучныя грашовыя курсы адзін да шасьці, ды адзін да аднаго, адзін да чатырох і г.д., і праз некалькі месяцаў праглынуць нас поўнасьцю, ды яшчэ і за наш кошт. Мы ж не павінны вось так станавіцца на калені і не разьбірацца ў элемэнтарных рэчах. Вельмі б вас прасіў над гэтым глыбока задумацца і не ратыфікаваць пагадненьне.

***Зянон ПАЗЬНЯК***

*Надрукавана: („Літаратура і мастацтва",– 1993, 26 лістапада).*



***91. Спатканьне прэзыдэнта Польшчы Леха Валэнсы і Зянона Пазьняка ў Курапатах. 1993 г. Зьлева напр.: Альжбэта Смулэк (амбасадар РП у Беларусі), Зянон Пазьняк, Данута Валэнса (жонка прэзыдэнта), Лех Валэнса.***

# ГАЛОЎНЫ ВОРАГ – РАСЕЙСКІ ІМПЭРЫЯЛІЗМ

*(Выступ на V-м зьезьдзе Руху ў Кіеве 11 сьнежня 1993 г)*

Паважаныя спадарыні і спадары! Шаноўныя дэлегаты Зьезду!

Дазвольце перадаць вам сардэчнае прывітаньне ад Беларускага Народнага Фронту
„ Адраджэньне”.

Мае развагі будуць пра Беларусь. Але вы ўбачыце, што тым самым размова йдзе і пра Ўкраіну, бо ў нас падобныя праблемы, падобныя задачы, падобная бяда і агульны вораг – былая камуністычная намэнклятура і імпэрскія сілы Расеі.

У жніўні 1991 года, калі пасьля правалу камуністычнага путчу ў Маскве мы дамагліся незалежнасьвці і спынілі дзейнасьць КПСС, тады не ўдалося дасягнуць вельмі важнага – правесьці новыя выбары і адхіліць намэнклятуру ад улады. У Беларусі засталіся ва ўладзе стары Вярхоўны Савет, стары камуністычны ўрад, сфармаваны яшчэ на бюро ЦК КПБ, старыя Саветы і ўся савецкая намэнклятура. Тая самая намэнклятура, якая на дух не ўспрымала дзяржаўную незалежнасьць Беларусі; тая самая намэнклятура, што адмовілася ад беларускай мовы і ўгоднічала перад Масквой. І вось гэтая намэнклятура воляю нашага лёсу і воляю нашага змаганьня апынулася ў незалежнай дзяржаве, зь якой яны ня ведалі, што рабіць.

І яны пачалі яе рабаваць, раскрадаць, пераразьмяркоўваць дзяржаўную маёмасьць ў сваю прыватную ўласнасьць. За два гады яны да рэшты развалілі эканоміку, паралізавалі фінансава-крэдытную сістэму, раскралі маёмасьць на мільярды даляраў, паставілі пад пагрозу нашу незалежнасьць і само існаваньне Беларускай дзяржавы. Яны ўступілі ў змову з расейскімі камуністамі – групамі Хазбулатава, Руцкога, Чарнамырдзіна і рыхтавалі ліквідацыю дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі. Правал сёлета кастрычніцкага камуністычнага мецяжу ў Маскве часткова прыпыніў гэты працэс.

Унікальнасьць посткамуністычнай сітуацыі на Беларусі ў тым, што намэнклятурная ўлада, якая ацалела як рэліктавае ўтварэньне, выступае за ліквідацыю ўласнай дзяржавы, выступае супраць рынкавых рэформаў, супраць дзяржаўнасьці беларускай мовы, супраць нацыянальнага дзяржаўнага сьцяга і гэрба, якія раней пад страхам яна вымушана была прыняць і зацьвердзіць. Гэта зьява фэнамэнальная, але адначасна і заканамерная. У камунізма няма бацькаўшчыны і няма народа. Гэта крымінальная ўлада. Тут псіхалёгія крымінальнай ахлакратыі, якая зьяўляецца сутнасьцю намэнклятурнай палітыкі: красьці, ашукваць, прыстасоўвацца, ілгаць і зноў красьці. Вось і ўся палітыка.

***Улада для іх – гэта іхняя прыватная ўласнасьць, а Бацькаўшчына – тавар, разьменная маёмасьць, якой яны гатовыя ў любы час заплаціць за ўратаваньне сваёй скуры.***

Справа дайшла да таго, што беларуская намэнклятура пачала здаваць Расеі за даўгі нацыянальныя нафтаперагонныя заводы і нацыянальную народную ўласнасьць.

Каб утрымаць за сабой уладу, яны пойдуць на любую подласьць, на любое крывавае злачынства. Посткамуністычныя гісторыя краінаў былога СССР гэта добра пацьвярджае. Мы зрабілі для сябе высновы з гэтай гісторыі.

**Першая выснова.** Нельга супрацоўнічаць з камуністычнай намэнклятурай у галіне дзяржаўнага будаўніцтва і палітыкі. Гэта беспэрспэктыўна, амаральна і супярэчыць прыродзе рэчаў. Пазытыўнага выніку ня будзе.

Беларускі Народны Фронт адразу са жніўня 1991 года стаў у жорсткую апазыцыю да намэнклятуры і не зрабіў памылкі, ня верыў ні на ёту сваім „краўчукам”, не супрацоўнічаў зь імі.

**Другая выснова.** У нармальным здаровым грамадзтве не павінна быць ніякіх камуністычных арганізацыяў. Яны ствараюць пагрозу людзям, дзяржаве, грамадзтву. Дзейнасьць іх павінна быць забароненая. Метастазы камунізму павінны быць выдаленыя. Тым больш, пасьля жахлівага генацыду, які камуністы тварылі ў нас з 1917 года, і таго тэрарызму і нянавісьці, якія яны правакуюць цяпер.

**Трэцяя выснова.** Ніякай дэмакратыі, ніякіх рынкавых рэформаў і ніякага станоўчага дзяржаўнага будаўніцтва ня будзе, пакуль застаецца ўлада саветаў. Саветы – гэта разбуральныя структуры, прыдуманыя бальшавікамі. Саветы трэба ліквідаваць рашуча, хутка і беспаваротна.

**Чацьвёртая выснова.** Зло павінна быць пакаранае. Інакш яно робіцца нормай. Калі ў Беларусі стане дэмакратычная ўлада і калі да яе будзе мець дачыненьне Народны Фронт, тады ў краіне першым чынам будзе наведзены парадак.

Усе антыдзяржаўныя дагаворы і акты, прынятыя нашым тройчы нелегітымным Вярхоўным Саветам, ня будуць прызнаныя. Дзяржаўныя прадпрыемствы, раскрадзеныя намэнклятурай, перададзеныя Расеі і карумпаваным асобам, будуць нацыянальзаваныя, вернутыя дзяржаве і ўласьнікам. Народная ўласьнасьць знойдзе сваіх гаспадароў, злачынцы і крымінальнікі – сваю турэмную камэру.

**Пятая выснова.** Беларусь павінна выйсьці з СНД. Рашуча і цьвёрда. Наш шлях – прыклад Балтыйскіх краінаў. Нельга быць ні ў якіх саюзах, ні ў якіх садружнасьцях разам з Расеяй. Нельга даваць ніякіх фармальных повадаў для прымяненьня ў дачыненьні да нашай краіны расейскай імпэрскай палітыкі. Яна пагражае нашаму нацыянальнаму існаваньню.

**Шостая выснова.** Рынкавыя рэформы трэба пачынаць з уладкаваньня фінансава-крэдытнай сістэмы і ўвядзеньня нацыянальнай валюты.

**Сёмая выснова** міжнароднага кшталту. Павінна быць балтыйска-чарнаморская каардынацыя.

Усе краіны, разьмешчаныя паміж Балтыйскім і Чорным морамі, паміж Расеяй і Польшчай, маюць падобныя ўнутраныя задачы і агульную зьнешнюю пагрозу з боку імпэрскіх сілаў Расеі.

У гэтых геапалітычных умовах кожнаму ў адзіночку, ды яшчэ знаходзячыся ў СНД, супрацьстаяць імпэрскай палітыцы вельмі цяжка. Мы – балтыйска-чарнаморскія дзяржавы, проста абавязаныя каардынаваць свае дзеяньні паміж сабой і нашыя дачыненьні з усходам. Нашыя ўсходнія межы павінны стаць аднолькава цьвёрдымі, а межы між сабой – мяккімі. Мы павінны стварыць процівагу, баланс паміж усходам і захадам, калі хочам выжыць як незалежныя дзяржавы ў гэтым падзеленым сьвеце. Ва ўсіх нас ёсьць агульная геапалітычная ніша. Мы павінны яе заняць, як толькі дэмакратычныя сілы і сілы незалежнасьці перамогуць ў нашых краінах.

Дэмакратычныя нацыянальныя сілы ў Беларусі цяпер дамагаюцца нечарговых выбараў і адстаўкі антынацыянальнага ўраду, які праводзіць прарасейскую палітыку. ***Галоўным на-***

***шым апанэнтам на выбарах будзе, як гэта, магчыма, здасца для вас нечаканым, расейская імпэрская разьведка і тыя палітычныя ўтварэньні, арганізацыі-фантомы і структуры, якія яна стварыла і кантралюе.*** А кантралюе яна, практычна, поўнасьцю ўрад (Савет Міністраў), армію, памежныя і ўнутраныя войскі, камуністычныя і ветэранскія арганізацыі, часткова КДБ. Робіцца ўсё, каб разбурыць нашу дзяржаву, дыскрэдытаваць суверэнітэт, задушыць адраджэньне нацыянальнай культуры, паралізаваць эканоміку.

Сілы нацыянальнай незалежнасьці, дэмакратыі, дзяржаўнага разьвіцьця і ўвогуле нашы народы робяць намаганьні супраць агульнага ворага. Мы перажываем цяжкі час. Але я не сумняваюся, што ўрэшце рэшт – мы пераможам.

Галоўныя перашкоды – старая намэнклятурная ўлада і расейскі імпэрыялізм. Яны ня вечныя ўжо самы па сабе. Гэтыя перашкоды абавязкова абваляцца. Трэба толькі набліжаць гэты час. І тады пачнецца новы ўздым – уздым спакойнага стваральнага і эфэктыўнага разьвіцьця нашых вольных краінаў і народаў.

Набліжайма ж гэты сьвяты час! Багаслаўляйма гэты добры шлях!

Слава Ўкраіне! Жыве незалежная Беларусь!

***Зянон Пазьняк***

*Кіеў, 11 сьнежня 1993 г.*



***92. „Жыве Беларусь!”***

# ПРА ЖАНЧЫНУ І КАХАНЬНЕ

**„Беларуская нацыя моцная і адметная сваімі жанчынамі і па зьнешняму харастਤву, і па характару, і па ўнутраных душэўных якасьцях, і па ролі, якую яны адыгрываюць у жыцьці,» – такое прызнаньне зрабіў Зянон Пазьняк, разважаючы пра каханьне.**

**Мы паставілі апошнюю кропку ў гэтым інтэрв'ю некапькі дзён таму, але ўжо звыкла не абмінаем позіркам сьветлыя вокны трэцяга паверху Дома ўрада.**

**...Наш субяседнік не задаў недарэчнага пытаньня: Чаму з размовай аб каханьні – менавіта да яго, і дзякуй Богу за гэты штрых да партрэта.**

**Стрыманы на людзях, лідар Народнага фронту Зянон Пазьняк зблізку аказаўся чалавекам з адкрытым добразычлівым тварам і прамяністымі вачамі. І як мы былі яму ўдзячныя за тое, што некалькімі словамі зьнішчыў напружанасьць, ствараўшы атмасфэру мяккай восеньскай шчырасьці. Адагрэўшыся ў кабінеце Зянона Станіслававіча, мы здалёк пачалі – аб розным. Але ўвесь час шукалі вытокі ягонага ідэалізму...**

**– Уявіце сітуацыю – у перапынку на сэсіі вам перадаюць ландышы ад незнаёмай дзяўчыны. Што вы думаеце ў такім становішчы?**

– Думаю, што нейкая добрая дзявочая душа мяне падтрымлівае і хоча падбадзёрыць. Былі і ландышы. Праўда, я не пюблю ландышаў. Гэта халодныя і, на маё адчуваньне, хваравітыя кветкі. Але ў шчырасьці і добрасьці тых, хто перадаваў, я ніколі не сумняваўся, хоць ніколі іх потым ня бачыў.

**– Вы як католік – як вы вызначаеце межы, за якія можна пераходзіць у каханьні! Наколькі апраўдана (і неабходна!) магчымасьць кантраляваць сябе, спыніцца? Як вы вызначаеце паняцьце «грэх»! Проста грэх і грэх у каханьні? Вось у нейкім прыгодніцкім рамане: «Сутнасьць – часта гаварыць «так» Богу і „не" – людзям. Што вам бліжэй?**

– Каханьне – гэта справа дваіх. Мужчыны і жанчыны. Гэта іхняе шчасьце і іхняя таямніца, асьвечаная грамадзтвам, рэлігіяй і маральлю. Усе добрае і ўсё магчымае, што прыемна абодвум, што прымаецца разам. Мяжа – павага да каханай (каханага). Зьнікае павага, зьнікае і каханьне. Таму ў каханьні не павінна быць прымусу, грубасьці і насільля. Вышэйшая сутнасьць павагі – любоў. Любоў ёсьць аснова сьвету і аснова каханьня.

Цяпер пытаеце, што мне бліжэй: «так» – Богу і «не» – людзям, ці наадварот. У прыгодніцкім рамане, што вы прачыталі, відаць, адлюстравана блытаніна ў аўтарскай галаве. Нешта накшталт пытаньня, колькі будзе двойчы два – пяць ці сем? У жыцьці такой супярэчнасьці паміж абавязкамі перад Богам і людзьмі, практычна, не ўзьнікае, калі не парушаны запаведзі. Але ўсё залежыць ад веры чалавека, моцы яго рэлігійнага перакананьня і разуменьня.

**– Вашы любімыя творы аб каханьні? „Канцэпцыя жанчыны" – калі можна аб такой гаварыць – якая вам бліжэй, якой нацыі, якіх пісьменьнікаў?**

– Калі мне было 18 гадоў, мае фантазіі круціліся вакол Патрыцыіі Хольман Э.М. Рэмарка («Тры сябры»). Я тады думаў, што гэта выдатны пісьменьнік. (Цяпер думаю інакш). Аднак найбольш падабаліся мне потым коласаўская Ядвіся („На ростанях") і асабліва Данута А. Карпюка ў аднаіменнай аповесьці.

Блізкая і поўнасьцю прымальная для мяне „канцэпцыя", як вы кажаце (дакладней, вобраз), беларускай жанчыны, адлюстраваная ў творах Адама Міцкевіча, Вінцука Дуніна-Марцінкевіча, Янкі Купалы, Якуба Коласа, Уладзімера Караткевіча, Аляксея Карпюка. Наогул жа лічу, што беларуская нацыя моцная і адметная сваімі жанчынамі і па зьнешняму хараству, і па характару, і па ўнутраных душэўных якасьцях, і па ролі, якую яны адыгрываюць у жыцьці. Беларускія мужчыны наадварот, калі браць у цэлым, выглядаюць даволі нікчэмна, асабліва ў важнейшых сфэрах нацыянальнага існаваньня. Ім не хапае сьмеласьці, мужнасьці, рашучасьці, ініцыятывы і энэргіі, і проста розуму, здольнасьці браць адказнасьць на сябе – чыста мужчынскіх якасьцяў. Гэта можна рас-тлумачыць цяжкай паднявольнай гісторыяй апошняга часу, задушэньнем паўстаньняў, генацыдам і г. д. Вынішчаліся, у першую чаргу, лепшыя мужчыны, Але самае страшнае ў тым, што прыдушана была нацыянальная сьвядомасьць народа – духоўны стрыжань культуры, нацыі і дзяржавы. Мужчына, якому прыродай наканавана быць актыўным, без духоўнага стрыжаня робіцца нікчэмным.

Па сваёй псіхалёгіі беларуская нацыя ёсць увогуле жаночая нацыя (нацыя з жаночай псіхалёгіяй). Гэта трэба разумець, але тут ужо іншая тэма. Што датычыць хараства беларускіх жанчын, то павінен сказаць, што, па маіх уяўленнях, яны самыя прыгожыя жанчыны ў сьвеце. Дзе б я ні быў у апошні час на Захадзе (ці то ў Вашынгтоне, Таронта, Брусэлі, Нью-Ёрку, Мілане і г. д.), там на людных вуліцах я ня бачыў ніводнай прыгожай жанчыны. Гэта неверагодна. Я быў уражаны. Менск, ды што Менск, якая-небудзь Рэчыца – райскае месца. Ужо за адно гэта трэба бараніць гэтую нашу мілую зямлю ўсімі сіламі, усім розумам і ўсімі мускуламі, а жанчынам казаць толькі ласкавыя словы павагі і захаплення.

**– У Ляроўфуко: „Сапраўднае каханне падобнае на здань: усе аб ім гавораць, але мала хто бачыў". Ці даводзілася вам (банальнае пытаньне) сутыкацца з тым, што меў на ўвазе класік (не абавязкова ва ўласным жыцьці). Пытаньні „на падсвядомасці" – якія вобразы ў вас узьнікаюць пры слове „каханьне"? Як бы вы гэта намалявалі? Як – у дзяцінстве і як – зараз?**

– Зьмест выказваньня, як у Лярошфуко, характэрны для ладу думак і паводзінаў малаактыўных летуценьнікаў і замкнутых сантымэнтальных дзяўчат, якія сядзяць і чакаюць, што вось прыйдзе раптам аднекуль прынцэса ці прынц і пачнуць іх кахаць гэтак, як яны хочуць. Тым часам каханьне – гэта актыўная творчасьць, дзе трэба аддаваць больш, чым забіраць, а не марыць упустую ці плысьці па хвалях сваіх пачуцьцяў, не клапоцячыся, што даюць вашы пачуцьці іншаму.

Адносна „падсьвядомасьці". Ніколі не задумваўся над гэтай сувязьзю. Але цяпер сам дпя сябе адкрываю са зьдзіўленьнем, што ўсплываюць карціны травеньскай прыроды, маладая лістота бяроз, ружовы цьвет яблыняў і яркае блакітнае неба. Я разумею прыроду гэтых асацыяцыяў. Травеньскую пару люблю надзвычайна. І жыцьцё мераю ад траўня да траўня, калі цьвітуць вішні. Відаць, нешта ўгэтым ёсць. Штосьці замыкаецца.

**– Першае і апошняе пытаньне да Пазняка-палітыка, бо астатнія будуць – да паэта-рамантыка. Наколькі прапарцыянальна суадносіцца здольнасць кіраваць палітычна, выклікаючы на нейкія мэты лепшую энэргію людзей, і здольнасць падпарадкаваць сабе волю жанчыны, прычым жанчыны вартай, якая цікавая сама па сабе? (Бо Ева ж – з рабра Адама, значыць, частка не зусім самастойная).**

– Мне цяжка адказаць на гэтае пытанне, бо мала вядома пра асабістае жыцьцё палітыкаў. Што датычыць мяне, то ні адна жанчына ні ў чым мной ніколі не кіравала (акрамя маці ў раньнім дзяцінстве). Усе спробы заканчваліся, як кажуць, „незваротна". Зрэшты, сам я не люблю кіраваць ці, тым больш, „падпарадкоўваць" сабе іншага чалавека, ды яшчэ й каханую асобу. Усё павінна складвацца само сабой, згодна з павагай і




*93. Цьвіценьне.*

разуменьнем справы. Словам, у гэтай сітуацыі людзі павінны, як кажуць, адзін да аднаго „падабрацца", а не займацца неразумным спаборніцтвам па кіраваньні, „падпарадкаваньні" волі і т. п.

**– Наколькі вы ідэаліст? Калі пачытаць уважліва вашы вершы – адчуваецца воблік жанчыны вашага ўспрыманьня як прыкладна ў Блока – зоркі, сьнегавая халоднасьць, недасягальнасьць, і разам з тым – пранізьлівая чысьціня. НаколькІ для вас у жанчыне супярэчліва зямное І ўзьнёслае, як вы гэта для сябе сумяшчаеце? Якія жанчыны вам здаюцца цікавымі, чаго наогул чакае ад жанчыны чалавек разумны?**

– Шчыра кажучы, я зьдзіўлены, што вы трапілі ў кропку. ***Чысьціня, чыстасьць, як я лічу, важнейшая катэгорыя эстэтыкі, характва і важнейшая ацэнка чалавека. Чалавек павінен імкнуцца быць чыстым у сэрцы, у душы, у думках, у гігіене цела.*** Калі такі чалавек ёсьць, ён як золата: яму ня страшная ніякая грамадзкая ці жыцьцёвая грязь, Да яго яна не прыстане.

Што датычыць зямнога і ўзьнёслага ў жанчыне «сьнегавой халоднасьці» і г. д., то павінен сказаць, што небясьпечна блытаць літаратурныя рамантычныя вобразы і мастацкія ідэалы з рэальным жыцьцём. На вялікі жаль, узьнёслыя рамантычныя дзяўчаты, якія прымітыўна выхаваныя на літаратуры, *як* правіла, не знаходзяць у каханьні і ў сям'і таго шчасьця, на якое спадзяваліся, а то і ўвогуле кепска канчаюць. У большасьці, ніхто, акрамя іх самых, у гэтым не вінаваты. Аднабокае выхаваньне, аднабокія ілюзорныя ўяўленьні.

Тое ж датычыцца і паэтаў, якія ствараюць ідэальныя вобразы жаночага характва. Але, дзякаваць Богу, большасць пігмаліёнаў кахаюць і жэняцца на нармальных жанчынах, а не на тых, што самы выдумалі. І не адзін зь іх уратаваў гэтым сваю паэзію, здароўе і доўгае жыццё. Нельга кахаць свае ілюзіі, прывіды і жаніцца на зданях сваёй фантазіі, нават самых найхарашэйшых, ідэальнае існуе ў духу як вобраз, як узор для ўдасканаленьня, як ідэал для імкненьня, як прыклад дпя натхненьня.

Вы, відаць, ужо зразумелі, што ў дачыненьні да жанчыны і жаночага характва я паважаю больш патрабаваньні народнай эстэтыкі і традыцыйную народную хрысьціянскую мараль. ***Жанчына павінна быць шляхетнай. Гэтая рыса характэрная для тыповай беларускі.*** Лічу народныя прынцыпы найбольш здаровымі і выпрабаванымі жыцьцём. Я так лічыў заўсёды і з гадамі толькі ўмацоўваўся ў сваіх перакананьнях.

контрмеры, таму што структура нашай эканомікі не вымагала такіх рэформаў, якія прапанаваў Гайдар у Расеі. І калі гэтыя рэформы ўжо пайшлі б (аб чым мы сказалі Ўраду), то яны прынесьлі б на Беларусь інфляцыю. Гэтыя рэформы і гэтая інфляцыя, якая прыйшла б да нас (а яна прыйшла б), разбурыла б нашую эканоміку, яна прывяла б да спыненьня вытворчасьці, да абрабаваньня нашага таварнага рынку і, самае кепскае, што яна прывяла б да зьбядненьня ўсяго нашага насельніцтва, бо інфляцыя была б такой высокай, што мы згубілі б усе свае ўклады на ашчадных кніжках і мы б сталі беднымі людзьмі на сваёй зямлі, колькі б мы ні працавалі.

Усе гэтыя аргументы былі сказаны і Ўраду, і ў Вярхоўным Савеце. Які быў адказ? Адказ быў такі: мы пойдзем усьлед за Расеяй. Ну як жа вы пойдзеце ўсьлед за Расеяй? Станок жа ў Ельцына. Вы ж не надрукуеце стотысячныя купюры, вы ж ня можаце рэгуляваць эмісію грошай!

Гэта была тая ўлада, якая сфармавалася раней, якая прывыкла толькі выконваць указаньні з Масквы і ня несьці ніякай адказнасьці, ня думаць пра свой народ. Але атрымалася так, што, калі мы дасягнулі незалежнасьці, нам не ўдалося правесьці новыя выбары, застаўся гэты стары савецкі намэнклятурны апарат. І вось вынік. Пайшлі ўсьлед за Расеяй.

Я прашу вас, шаноўныя тэлегледачы, успомніць, што пачалося з пачатку 1992 года. Пайшлі рэформы ў Расеі, а мы заставаліся ў рублёвай зоне. У выніку ў нас рэзка пачалі расьці цэны.

Наш народ, як вядома, для таго, каб мець, будзе працаваць. Нашыя людзі не павязуць прадаваць гвазьдзікі на Каўказ, наш чалавек будзе „ўкалываць" у дзьве зьмены, ён будзе працаваць ноччу, будзе рабіць „хаўтуру", як кажуць у народзе (левую работу), каб забясьпечыць сям'ю, каб разбагацець. Самая бедная бабулька на вёсцы будзе трымаць бычка, карміць яго, каб потым здаць мяса, атрымаць грошы, пакласці у панчаху ці на ашчадную кніжку. У выніку такой працы народ наш ня быў бедны, але ён ня быў і багатым, таму што савецкая сістэма зарплаты была такая: 8 капеек з рубля. (У нармальных краінах 70 капеек з рубля.) І тым ня менш, дзякуючы працы нашага народа, у кожнага былі пэўныя зьберажэньні на ашчаднай кніжцы. Вялікіх не было, сярэднія ад 2 да 10, да 15 тысячаў.

Што ж здарылася, як пайшла гэтая новая інфляцыйная палітыка? Мы ўсе да канца 1992 года сталі беднымі, таму што ўсе ўклады зьніклі. Гэтыя тысячы пераўтварыліся ў пыл, у прах.

І вось цяпер уявіце: жыў чалавек, працаваў на нізкааплачваемай рабоце, скажам, атрымліваў мінімум зарплаты: 70 рублёў - дворнік, прыбіральшчык, санітарка. Ён выходзіў на пэнсію, атрымліваў невялікую суму і меў нешта на кніжцы, накапіў за жыцьцё 2, 3, 4 тысячы, думаў, што памрэ, дык яго пахаваюць на гэтыя грошы. А што яму рабіць цяпер? Яму ўжо нельга паміраць, таму што на гэтыя грошы яго ніхто не пахавае. На гэтыя 2 тысячы, якія раней былі грашыма, цяпер можна купіць два батоны – і ўсё.

Хто вінаваты? Хто ў гэтым вінаваты? Што, тыя кіраўнікі, якія спрагназавалі гэтую палітыку, ня ведалі, што робяць? Яны, што, неразумныя? Ну дапусцім, яны неразумныя. Але ж калі чалавек неразумны, калі ён памыляецца, то памылкі павінны быць у два бакі. Але памылкі атрымліваюцца такія, што Ўрад памыляецца толькі ў наш бок. Церпім толькі мы, церпіць народ. Мы згубілі нашыя ўклады, мы працуем, мы не багацеем, наша праца ператвараецца ў нішто. Інфляцыя расьце і адначасна растуць „катэджы", паяўляюцца мерсэдэсы намэнклятуры, паяўляюцца камэрцыйныя банкі, у праўленьне якіх уваходзіць гэтая ж самая намэнклятура, паяўляюцца ўклады ў банках Швайцарыі, Нямеччыны. Значыць, памылкі – толькі не ў нашу карысьць. (Як кажуць у народзе, дурны-дурны, а скваркі любіць.) Значыць, штосьці тут ня тое.

Дык вось давайце разьбярэмся, у чым жа справа. Магчыма я буду гаварыць вельмі падрабязна. Прашу запасьціся цярпеньнем. Для нас вельмі важна высьветліць прычыны, механізм нашага абрабаваньня, таму што нас рабуюць, але рабаваньне нябачнае. Мы, быццам, яго ня бачым, ня ведаем, адкуль што бярэцца. Вось мы працуем, а толку ніякага. Куды яно дзяецца, тое, што мы працуем? Што, яно вылятае куды-небудзь у космас? Гэта ж каштоўнасьці.

Сутнасць вось у чым. Інфляцыя – гэта такі механізм, які дае магчымасьць пераразьмеркаваць багацьце ад народа да пэўных карумпаваных групаў, якія знаходзяцца ва ўрадавых структурах, маюць дачыненьне да банкаў, да валютных махінацыяў, да карупцыі. Гэта характэрна ня толькі для нас цяпер. Гэта было характэрна для Нямеччыны 30-х гадоў, калі быў вялікі крызіс. Гэта было характэрна для Лацінскай Амэрыкі, дзе ішла інфляцыя. Увогуле, ва ўсіх крызісных пэрыядах, калі разьвіваецца інфляцыя, гіперінфляцыя, гэтыя групы зацікаўленыя ў ёй, таму што гэта дае ім магчымасьць абагачацца быццам бы „законным" чынам, выкарыстоўваючы ўладу, абагачацца баснаслоўна.

Я прывяду вам некалькі канкрэтных бытавых прыкладаў, каб было зразумела, як гэта адбываецца. Вось уявіце сітуацыю. Мы з вамі працуем, і кожны з нас, нармальны чалавек, за жыцьцё павінен зарабіць на будучыню сваім дзецям: мець хату, уклады на кніжках і г. д. Інакш які сэнс? Чалавек прапрацаваў сорак гадоў, выйшаў на пэнсію, яму далі маленькую пэнсію і ў выніку – у яго нічога няма. Дык вось, кожны чалавек мае права і павінен мець свой дом. Да прыкладу, амэрыканскае грамадзтва дае такую магчымасьць, фактычна, кожнаму грамадзяніну (які працуе і атрымлівае сярэднюю зарплату), у сярэднім за 8 гадоў. Я ўжо не кажу пра іншае. Вось хто-небудзь з вас, што слухае мяне, ня мае дома. Ідзіце ў банк і вазьміце крэдыт для пабудовы катэджа. Трэба вялікі крэдыт. Ну, мільярд. Вам дадуць гэты мільярд? Можаце не адказваць. Вам не дадуць. Вас спытаюць, якая ў вас зарплата. Вы скажаце, ну, колькі там, – 150 тысячаў. Вам маглі б даць крэдыт, але вельмі маленькі. На гэты крэдыт вы і палавіну дзьвярэй для катэджа ня зробіце. Тым ня менш тыя людзі, якія будуюць, яны атрымліваюць. Хто ж будуе? А будуе, у асноўным, намэнклятура. Людзі, якія маюць дачыненьне да ўлады і да ўладных структураў. Яны атрымліваюць крэдыты пад вельмі невялікія працэнты. Я нядаўна быў у Пінску і высьветліў: для народа – 240%, для намэнклятуры – 10%.

І вось уявіце: чалавек, які працаваў ва ўрадавай структуры, пайшоў і ўзяў такі крэдыт – мільён. За год-два ён пабудаваў свой „катэдж" на тры паверхі, зь ліфтам, з двума гаражамі, і цяпер яму трэба вярнуць гэты крэдыт. Як вы думаеце, за які час ён яго аддасьць? Правільна. Ён яго аддасьць за адзін месяц. За адну месячную сваю зарплату. І ўсё законна. Усё законна. Юрыдычна ён узяў мільён – і праз два гады аддаў мільён.

Дык вось, у нармальнай эканоміцы, у нармальнай сітуацыі мільён два гады таму і мільён праз два гады – гэта мільён. Але ў нашым цяперашнім становішчы, гэта ўжо не мільён, таму што ідзе механізм інфляцыі. Гэта значыць, што ўсе мы працуем, усе мы тавары вытвараем, а інфляцыя (пустыя грошы) вынікі нашай працы зьядае, і гэтыя вынікі пераразьмяр-

ныя курсы. Вось гэтыя курсы (1:7, 1:10, 1:2 і г. д.) – гэта ўсё штучныя курсы, яны не адпавядаюць рэальнасці. Яны не рэгулююцца намі. Кім жа яны рэгулююцца? Яны рэгулююцца некалькімі чалавекамі, якія маюць дачыненьне да валютных біржаў і стасункаў з Расеяй і Беларусяй. Штучныя курсы ўстанаўліваюцца для дасягеньня пэўных мэтаў і дзеля нажывы.

Я вам прывяду адзін прыклад хаця, можа, і недастатковы. У 1992 годзе Расея ўвяла свой разьліковы безнаяўны рубель (які потым стаў наяўным). Расея ўвяла безнаяўны рубель, не спытаўшы ні Ўкраіну, ні Беларусь і парушыўшы Белавежскае пагадненьне. У Расеі (калі трэба) яно не прымалася пад увагу. Але справа ня ў гэтым. Справа ў тым, што адразу быў устаноўлены курс 1:2 (адзін рубель расейскі – за два „нашыя", гэта значыць – савецкія). Адкуль такі курс узяўся? Ён быў прыдуманы расейцамі штучна для таго, каб сьцягнуць за бясцэнак ў Расею маёмасьць былых рэспублік СССР, потым, каб уцягнуць іх у расейскую рублёвую зону і, нарэшце, каб абагаціцца пэўнай катэгорыі людзей.

Тады ў Вярхоўным Савеце нам прыходзілася змагацца паўгода. Мы змагаліся, гаварылі, што ідзе абрабаваньне нашай дзяржавы, абрабаваньне людзей, што трэба гэта спыніць, трэба прымаць меры адпаведныя. І ўсё – як аб сьценку гарохам. Можа, некаторыя людзі, якія глядзелі тэлебачаньне тады, думалі, чаго там тая Апазыцыя крычыць? Я растлумачу, у чым сутнасць гэтай афёры.

Расейскі рубель неўзабаве абясцэніўся і рэальна стаў да беларуска-савецкага, як 1:1 (бо людзі пачалі скупаць ня рускія рублі, а даляры). Аднак афіцыйны курс расейцы яшчэ доўгі час трымалі, як 1:2. І вось уявіце: працаваў чалавек у дзяржаўнай установе, скажам, у Саўміне. Быў там загадчыкам ці намесьнікам загадчыка. Ён ішоў у банк і браў крэдыт (тымі савецкімі рублямі): напрыклад, адзін мільён, потым рознымі спосабамі пераводзіў гэтыя рублі ў расейскія па рэальным курсе 1:1, ехаў з гэтым мільёнам у Маскву, укладваў у расейскі банк, затым пераводам пераводзіў у Менск, у беларускі банк, вяртаўся назад у Менск і здымаў гэтыя грошы па афіцыйным курсе 1:2. Колькі здымаў? Правільна. Два мільёны. Значыць адзін ужо ўкраў, бо курс жа быў 1:2 (адзін рускі - два „нашы"). Здымаў два мільёны і адзін краў у нас усіх. Толькі таму, паўтараю, што быў штучна ўстаноўлены курс і чыноўнік меў доступ узяць крэдыт. Ён гэтыя два мільёны ізноў ператвараў ў расейскія рублі па рэальным курсе 1:1, вёз у Маскву, укладваў у банк, пераводзіў і здымаў 4 мільёны, а потым 4 зноў вёз туды, пераваздзіў сюды і атрымліваў 8 мільёнаў і гэтак далей. Такая схема. Дык вось у чым сутнасць гэтай махінацыі. Сядзеў чалавек, ва ўладзе, жыў з зарплаты. Была трошкі вышэйшая ягоная зарплата. Але жыў, як усе мы, з зарплаты. І на працягу некалькіх дзён гэты чалавек мог зрабіцца мільянерам.


(Фота У. Кармілкіна).

*106. (Менск 1995).*

коўваюцца вось таму чалавеку, які меў доступ да крэдытаў і які ўзяў крэдыт юрыдычна правільна. (Мільён узяў – мільён аддаў.) Але механізм інфляцыі накруціў яму гэтыя грошы, бо абясцэніўся гэты мільён. У чым тут злачынства? У тым, што ўвесь народ адлучаны ад вынікаў сваёй працы (і ад крэдытаў), а вось толькі гэтая група людзей можа крэдыт атрымаць і выкарыстаць механізм інфляцыі. Такім чынам, намэнклятуры пры ўладзе выгадна атрымліваць такія крэдыты і выгадна, каб была інфляцыя. Інакш – абагачэньне немагчымае. Хіба будуць яны старацца, каб гэтую інфляцыю спыніць?

Прывяду іншы прыклад. Можа трошкі больш складанага кшталту.

Вось няма ў нас нацыянальнай валюты. Разьліковыя білеты, так званыя „зайчыкі", – гэта часовы сурагат, замяняльнік валюты. Значыць, калі ёсьць нацыянальная валюта, Нацыянальны Банк па закону мае магчымасць рабіць валютную інтэрвэнцыю на біржу, г.зн. ён можа выкінуць на валютную біржу стабільную валюту – даляры, маркі, – каб устанавіць нармальны курс паміж іншымі валютамі; трымаць гэты курс выгадна дзяржаве. Калі валюты няма, банк ня мае такіх магчымасьцяў. І, тым ня менш, валюты ў нас няма, а курс устанаўліваецца. Гэта штуч-



*107. Беларуска-Украінска-Прыбалтыйская Канфэрэнцыя па Балта-Чарнаморскаму нафтаваму калектару, арганізаванвая БНФ. Менск 1993 г. Дом Літаратара. Выступае З. Пазьняк.*

Вы што думаеце, што гэтыя людзі будуць клапаціцца, як зьнізіць інфляцыю? Вы думаеце, яны будуць клапаціцца пра дзяржаўную палітыку? Пра нашыя інтарэсы? Пра дзяржаўныя інтарэсы? А як жа тады ім будзе зрабіцца мільянерамі? Тады ж гэтага ня будзе. Я гэтых людзей бачыў у калідорах, як кажуць, у калідорах улады, у іх зрачкі бялеюць ад сквапнасьці. Вось у чым уся і заключаецца сітуацыя.

Для таго, каб інфляцыю спыніць, трэба ўвесьці свае грошы, праводзіць манетарную палітыку і праводзіць палітыку эканамічных рэформаў. Па гэтым шляху пайшла Эстонія, якая ўвяла ў 1992 годзе крону летам, а к канцу года яна ўжо спыніла інфляцыю. Па гэтым шляху пайшла Летува. Успомніце, зусім нядаўна, яшчэ год таму, у яе былі вялікія праблемы. Цяпер яны ўвелі літ. Мы бачым, як сітуацыя палепшылася. Па гэтаму шляху пайшла Латвія і лат надзвычай моцна стаіць. Яны вельмі жорсткую праводзяць валютную палітыку. Я разумею, тут (ў жорсткай манетарнай палітыцы) ёсць пэўная небясьпека, але гэта ўжо спэцыяльная размова.

Зразумела, чаму савецкая намэнклятура ў Беларусі так супраціўляецца ўвядзеньню беларускіх грошай. Інфляцыя раскручваецца, на інфляцыі растуць капіталы (быццам бы з паветра), а капіталы робяцца тымі, хто мае доступ да ўлады. Гэта ёсць карупцыя***. Інфляцыя і карупцыя звязаныя паміж сабой.*** Вось чаму ідзе ўладная прапаганда супраць беларускіх грошай і выступаюць у друку ўсялякія выхаванцы ВПШ: маўляў, ня трэба нацыянальная валюта, давайце аб'яднаем грашовую сістэму з расейскай і гэтак далей.

Яшчэ трэба ўлічыць вось што. Тое, што накруцілі на інфляцыі і пабудавалі „катэджы" – гэта яшчэ паўбяды. Яны ўсё ж такі пабудаваныя на нашай зямлі, і ёсьць мэтады эканамічныя, як прымусіць гэтую маёмасць дзейнічаць у карысць усяго грамадзтва. Але я хачу сказаць іншае. Больш разбуральнае тое, што ў выніку такога рабленьня грошай з паветра (а на самай справе – з рабаваньня нашай працы) гэтая карумпаваная намэнклятура пераводзіць грошы ў замежныя банкі. Па маіх




(Фота В. Дзяругіна).

*108. Дарога ў Чарнобыль.*

зьвестках кожны год з краінаў СНД выплывае ў швайцарскія і нямецкія банкі 7 мільярдаў даляраў. Там ужо больш 30 мільярдаў ляжыць. А раз яны там ляжаць, значыць яны інвэстуюць нямецкую эканоміку. У нас укралі – і інвэстуюць багатую Нямеччыну. А нам зь Нямеччыны вязуць гуманітарную дапамогу, нам – пераможцам у Другой Сусветнай вайне. Мы працуем, і нас трымаюць за жабракоў. У маральным плане гэта вельмі брыдка. Я быў у Нямеччыне, быў у бяднейшых краінах, быў на сельска-гаспадарчых фермах у Канадзе і я пераканаўся: наш народ працуе ня менш, чым у Нямеччыне і ня горш. Ён працуе лепш, працуе болей; болей працуе беларус, чым працуе немец. Іншая справа, што ў нас праца марнуецца, праца раскрадаецца, і мы не валодаем вынікамі нашай працы. Чалавек ня бачыць стымула працаваць, калі ён працуе і ня можа прадаць сваю прадукцыю. Калі бутэлька вады каштуе даражэй, чым бутэлька малака. Вось у чым прычына. Уся справа ў тым, як арганізавана наша праца. А арганізавана яна такім чынам, што мы працуем задарма. Людзей абкрадаюць.

Іншае пытаньне, якое і зьвязана з інфляцыяй, з вось гэтым механізмам, які цяпер круціцца, – гэта пытаньне энэргетычнага забесьпячэньня. Нафта – гэта такі важны прадукт, што дзяржавы дачыненні ў гэтай вобласці ўводзяць у заканадаўства. Напрыклад, у Амэрыцы існуе заканадаўства, згодна якога нельга з аднаго месца купляць нафты больш за 30%. І Амэрыка закупае нафту з 28 месцаў. Гэта зразумела, чаму. Таму што, калі прывязаны да аднаго месца, там могуць палітычнымі меркамі перакрыць заслонку, ці здарыцца там, напрыклад, якая-небудзь бяда, крызіс, вайна, катастрофа экалягічная, ці якая іншая, і ўсё – удар па амэрыканскай эканоміцы. Таму дачыненьні па нафце ўведзеныя ў закон; гэта элемэнтарныя рэчы.

Мы прапанавалі і Вярхоўнаму Савету, і Ўраду рашэньні, як пазьбегнуць такой сітуацыі, каб не застацца прывязанымі толькі да расейскай нафты. Таму што якія б у нас ні былі добрыя дачыньнені ў Расеі, але ў яе ёсць свае эканамічныя інтарэсы, урэшце рэшт, палітычныя інтарэсы і, калі мы станем залежныя, то Расея будзе выступаць манапалістам у гэтай вобласьці і дыктаваць нам цэны. Мы прапанавалі Ўраду цэлую канцэпцыю. Пра гэта былі неаднаразова размовы ў Вярхоўным Савеце. Якія ж былі контраргумэнты? Пярэчаньні і адгаворкі такія. Маўляў, „нам" (гэта значыць „ім") выгадна атрымліваць нафту з Расеі па больш нізкіх цэнах. Мы гаворым: а колькі часу вы будзеце так атрымліваць? Усёроўна ж усе прыйдуць да сусьветнай цаны. І тады, калі мы не забясьпечым сябе іншай крыніцай паступленьня нафты, мы апынемся ў такім становішчы, што вымушаныя будзем купляць гэтую нафту па цэнах вышэй сусьветных. Гэта было сказана 3 гады таму. Цяпер мы ўжо пажынаем плады намэнклятурнай палітыкі.

Чаму на гэта пайшоў Урад? А вось чаму. Нафта атрымлівалася з Расеі па больш нізкай цане цераз сістэму ліцэнзіяў, а гэта сістэма хабарніцтва, гэта сістэма разбурэньня нашага таварнага рынку. Па такой сістэме нафта сюды паступала і ішла на рээкспарт – прадажу іншым краінам па сусьветных цэнах. Атрымалі па нізкай цане, прадалі па сусьветнай, і прадавалі камэрцыйныя структуры, якія створаны непасрэдна каля ўрадавых структураў. Розьніца ішла не ў бюджэт, а у кішэню гэтых структур. І тут ужо былі нажытыя не тысячы і не мільёны, тут былі нажытыя мільярды.

Вось тая аснова, на якой утварылася ў нас і ў Расеі нафтавая мафія. А нафтавая мафія самая магутная ў сьвеце. Яна не нацыянальная, гэта мафія інтэрнацыянальная. Яна імкнецца да інтэграцыі.

Цяпер паглядзіце, у якім стане мы апынуліся. Прайшло паўтары гады, і мы атрымліваем нафту з Расеі – 128 даляраў за тону. Сусьветная цана – ад 80 да 93 даляраў. Вось вынік той антынароднай палітыкі і рэалізацыя прагнозу, які мы рабілі і два, і тры гады таму. На гэта Ўрад пайшоў сьвядома. Не таму, што ён зрабіў няправільны разьлік, памыліўся. Няхай бы ён не ў сваю карысьць памыліўся. Ён ня ў нашу карысць памыліўся, таму што мы атрымліваем нафту па цэнах, вышэй сусьветных, з манапольнай Расеі (усьлед за якой Урад хацеў ісьці). Гэта яшчэ адна бяда. Другая – тое, што разьлічваемся мы за гэта не грашыма, а таварамі па клірынгу. І гэтыя тавары мы вымушаныя даваць за бясцэнак – трактары, аўтамабілі, халадзільнікі, тэлевізары. Усе ідзе туды па клірынгу, цэны дыктуе Расея. Таму што без нафты мы не абыдземся, а без тэлевізараў яны могуць абысьціся (купіць у Японіі). У некалькі разоў усё нашае ідзе ў Расею таньней. Аўтамабілі БЕЛАЗ ідуць за бясцэнак. А Расея перапрадае іх Кітаю па сусьветнай цане. Для каго мы працуем? Для каго? Створана агульная сістэма абрабаваньня, і ўжо нас рабуе ня толькі наша намэнклятура, але і маскоўская.

Тут трэба зразумець, чаму кіруючая намэнклятура прапануе (вось ужо 8 месяцаў ідзе гэтая прапанова) аб'яднаць грашовыя сістэмы Беларусі і Расеі. Хаця, якая грашовая сістэма ў Беларусі? У нас няма сваёй валюты. Тым ня менш, прапануецца. І Гайдар, і астатнія рускія эканамісты, і ўсе нашыя эканамісты засьведчылі, што гэта блеф, што немагчыма гэтае аб'яднаньне. Тым ня менш, яно мусуецца. Тым ня менш падпісываецца дамова паміж Кебічам і Чарнамырдзіным, дзе парушаецца 6 артыкулаў Канстытуцыі, і гэтая палітыка праводзіцца. Што гэта азначае? Гэта азначае, што на 8 месяцаў спынена дзелавая актыўнасць. Спыніліся інвэстыцыі, разбураецца наша эканоміка, спыняюцца заводы. Страты, якія панеслі ў першыя месяцы нашыя вытворцы, наша эканоміка – гэта ***адна трэць нацыянальнага валавога прадукту.*** Гэта вельмі шмат. Па папярэдніх падліках нашых эканамістаў гэта складае 25 мільярдаў рублёў у дзень.

Якія вялікія страты адбываюцца! Чаму гэта робіцца? У чым сутнасьць? Чаму навука гаворыць, што гэта блеф, а палітыкі стараюцца гэты блеф зрабіць, кормяць каш народ абяцанкамі? Таму што інтарэсы за гэтым стаяць не дзяржаўныя, а інтарэсы мафіёзных групаў. І расейскія мафіёзныя групы, і мафія на Беларусі аб'ядноўваюцца. Адбываецца аб'яднаньне мафіёзных згуртаваньняў на аснове сваіх інтарэсаў, а пад гэта падшываецца палітыка. А вынік – вы бачыце, што адбываецца. Вынік адмоўны для нас.

Хто ў чым зацікаўлены? Маскоўская мафія зацікаўленая прыдбаць нашу маёмасьць і мець гарантыі бясплатнага транзыту нафты і газу праз Беларусь. Гэта асноўнае. Затым ВПК (ваенна-прамысловы копмлекс) і расейскія імпэрыялістычныя колы, якія зацікаўленыя мець тут стратэгічную тэрыторыю, захаваць ядзерныя ракеты, сістэму супрацьпаветранай абароны і г.д. Гэта канец нашай незалежнасьці, а значыць, можа стацца, што мы будзем жыць на нашай зямлі, але ня будзем валодаць нашай маёмасьцю; мы будзем працаваць на прадпрымствах, але яны ня будуць нам належыць. Гэта палітыка называецца – ***нэакаляніялізм.*** Гэта палітыка вядомая ў сьвеце. Яна была ў Лацінскай Амэрыцы, у Афрыцы. Зараз яна пачынаецца ў нас.

Вось чаму Народны Фронт выступіў супраць гэтага самагубнага аб’яднаньня, вось чаму Народны Фронт бачыць вялікую небясьпеку ў маскоўскай мафіі, у аб’яднанні гэтых двух мафіёзных сілаў. І заўважце, як толькі Народны Фронт раскрыў сутнасць гэтай зьдзелкі, адбылася істэрыка. Што толькі ні гаварылася: і аб тым, што супраць Расеі выступае Пазняк, і што супраць рускага народа. Я магу сказаць гэтым людзям: панове, пакіньце ў спакоі рускі народ. Вам на яго наплявваць, вы яго абрабавалі да ніткі сваёй сістэмай ваучэрызацыі. Паглядзіце, што вы зрабілі з гэтым рускім народам, і цяпер вы хочаце абрабаваць нас сумесна. Наша задача, задача Народнага Фронта, не дапусціць гэтага.

Некаторыя палітычныя дзеячы з фальшывым пафасам сказалі, што маюць за мэту свайго жыцьця – аб’яднаць Беларусь і Расею і аб’яднаць грашовыя сістэмы. Паколькі мне вядома сутнасьць гэтай палітыкі, і што пад ёй схавана, я бачу сваю мэту – не дапусціць гэтага. Таму што гэта рабства, гэта абрабаванне, гэта зладзейства. Мы ня можам дапусьціць панаваньня карупцыі над народам, які працуе, які годны лепшай долі. Народны Фронт стаіць цьвёрда на гэтых пазыцыях, мае палітычныя сілы, мае сілы прафэсіяналаў: эканамістаў, юрыстаў, сацыёлагаў, мае праграмы і ўпэўнены ў сваёй будучыні. Будучыня будзе такой, якой заслугоўвае наш працавіты народ.

***Зянон ПАЗЬНЯК***



***109. На рэгіянальнай канфэрэнцыі БНФ па Чарнобылю ў Магілёве.***

# НАРОДНЫ ФРОНТ РАТУЕ, АБАРАНЯЕ, ДАПАМАГАЕ

Вынікі першага тура выбараў Прэзыдэнта засьведчылі, што рэжым Кебіча ў яго цяперашнім выглядзе пацярпеў крах. Але людзі выбралі сродкам свайго пратэсту супраць камуністычнага рэжыму галасаваньне за прадстаўніка новага пакаленьня намэнклятуры, падмануўшыся ягонаю сацыяльнай фразэалёгіяй.

Першы тур выбараў засьведчыў палітычны і псіхалягічны стан нашага грамадзтва. Народ, які шмат гадоў атручвалі камуністычнай прапагандай, пастаўлены перад выбарам: альбо незалежная эўрапейская дзяржава Беларусь і самастойная палітыка, альбо страта незалежнасьці і нацыянальнай пэрспэктывы ў абмен на прывідныя абяцанкі апекі іншай дзяржавы. Гэты выбар галоўны, бо вызначае наш народны лёс.

23 чэрвеня ён адбыўся на карысць страты, адбыўся хутчэй неўсьвядомлена пад уплывам саўмінаўскай прапаганды і дэмагагічнай агітацыі. У другі тур прайшлі А. Лукашэнка і В. Кебіч. Гэтыя кандыдаты належаць да аднаго палітычнага асяроддзя. Іх яднае нянавісць да беларускага нацыянальнага адраджэньня, да незалежнага дзяржаўнага станаўленьня нашай нацыі, да рынкавага рэфарматарства, да беларускай культуры, да эўрапейскага шляху раьвіцьця Беларусі.

Іх разьядноўвае барацьба за ўладу. Гэта барацьба падобных. Змагаючыся, яны апэлююць да народа.

Мае аднадумцы і я заклікаем ***не галасаваць*** на выбарах за гэтых кандыдатаў. ***Выбар аднаго зь іх (ня важна каго) стане працягам ганебных памылак і грамадзкага няшчасьця, прадаўжэньнем народнага самагубства.*** Галасаваньне за гэтых людзей увогуле траціць сэнс, бо выбару няма.

Выбары Прэзыдэнта ў час эканамічнага і грамадзка-палітычнага крызісу, у абстаноўцы разгулу сацыяльнай дэмагогіі, манаполіі на інфармацыю небясьпечныя для краіны. Пра гэта сьведчыць вопыт Нямеччыны, Расеі і іншых дзяржаваў. Пра гэта я ня раз папярэджваў.

Народны Фронт і я як яго прадстаўнік трапілі ў складанае становішча. Маючы каля 40 адсоткаў электарату (прыхільнікаў), мы пераконвалі выбаршчыкаў не скандаламі і зьнявагамі супернікаў, а сваімі пазытыўнымі праграмамі і канструктыўнымі прыкладамі. Але прэзыдэнцкая выбарчая кампанія доўжылася 20 дзён, а выкарыстаньне эфіру – два тыдні (з 7 па 21 чэрвеня). Нідзе ў сьвеце такіх сьціслых тэрмінаў не было і няма. Людзям, не задаволеным Урадам, не было часу добра ва ўсім разабрацца, і яны, шукаючы магчымасьці засьведчыць пратэст супраць рэжыму Кебіча, выказаліся на карысьць разбуральнай дэмагогіі. Але я ўпэўнены, што грамадзтва яшчэ разьбярэцца (калі толькі ня будзе позна).

Раскольніцкая дзейнасьць былога Старшыні Вярхоўнага Савета С. Шушкевіча і кіраўнікоў некаторых партыяў пераняла ад Фронту няшмат адсоткаў галасоў і рашаючага ўплыву ня мела. Аднак шкада, што некаторыя партыйныя кіраўнікі ня здолелі ці не пажадалі зразумець мэтазгоднасьці яднаньня дэмакратаў вакол Народнага Фронту.

Народны Фронт праводзіць адкрытую, маральную палітыку, выступае супраць камуністычнай намэнклятурнай мафіі, усіх згоднікаў і супрацоўнікаў з гэтай мафіяй. Народны Фронт – гэта народная апазыцыя карумпаванаму намэнклятурнаму рэжыму. Я не сумняваюся ў надзейнасьці палітыкі нашага руху.




***110. Лёзунг і дата.***

Каб выправіць становішча, якое склалася пасля першага туру выбараў, патрэбны час і доступ да сродкаў масавай інфармацыі. Час – гэта некалькі тыдняў. Доступ да сродкаў масавай інфармацыі павінен забясьпечвацца гуртаваньнем усіх апазыцыйных рэжыму народных некамуністычных сілаў вакол Народнага Фронту. Маю на ўвазе рабочы рух, сялян, прадпрыймальнікаў, што стаяць на дзяржаўных пазыцыях; інтэлігентаў, якім дарагія культура і свабода Беларусі; дэмакратычныя партыі, якія разумеюць агульныя задачы нацыі і краіны і ставяць іх вышэй за асабістыя інтарэсы.

Неабходна стварыць заканадаўчыя гарантыі свабоды друку і інфармацыі. Вярхоўны Савет мусіць адмовіцца ад заснавальніцтва „Народнай Газэты", а Савет Міністраў – ад сваёй манаполіі на пэрыядычныя выданьні, тэлебачаньне і радыё. Трэба неадкладна аднавіць дзейнасць радыёстанцыяў „Беларуская маладзёжная" і „Крыніца", выпуск забароненых газэтаў „Навіны БНФ" і „Выбар", даць нармальную магчымасьць друкавацца газэце „Свабода". Спадары Сталяроў, Булацкі, Бутэвіч, Драгавец, Аляксейчык, Паваляеў, Мельнікаў і Замяталін, якія скампрамэтавалі сябе антыдэмакратычнымі дачыненьнямі з прэсай і антыдзяржаўнай палітыкай, павінны быць адпраўлены ў адстаўку.

Яшчэ застаўся шанец не пагоршыць становішча. Беларускі Народны Фронт павінен прадоўжыць жорсткі кантроль за выбарамі. Нельга дапусьціць, каб фальсіфікатары накідалі бюлетэняў (а такое было) за выбаршчыкаў, якія ня прыйдуць галасаваць. Назіральнікі мусяць быць на кожным выбарчым участку.

У гэтых абставінах ніхто з тых, каму баліць лёс і будучыня Беларусі, не павінен маўчаць. Мафія і палітычныя авантурысты заўсёды выязджалі наверх на сьпіне ашуканага народа. Трэба тлумачыць людзям зьмест таго, што робіцца, дапамагаць ім арыентавацца ў падзеях. Народны Фронт заўсёды ратаваў народ, бараніў яго ад намэнклатурнай улады, дапамагаў людзям. Калі яны будуць мець магчымасьць параўнаць і падумаць, то, я ўпэўнены, прымуць правільнае рашэньне, каб захаваць будучыню сваёй краіны.

Я ўдзячны тым выбаршчыкам, што разабраліся, паставілі подпісы і прагаласавалі за мяне, і ўпэўнены, што Фронт з падвоенай энэргіяй будзе змагацца ў гэтых абставінах за праўду – дзеля людзей і лепшую долю Беларусі.

***Зянон ПАЗЬНЯК,***
***старшыня Беларускага Народнага Фронту,***
***народны дэпутат Рэспублікі Беларусь.***

*Надрукавана: (Народная Газета,– 1994, 29 чэрвеня)*




***111. Пад Сьцягам. Зьлева напр.: Артур Вольскі, Сяргей Навумчык, Зянон Пазьняк, Васіль Быкаў, Сьвятлана Захарэвіч.***

# 1995–III.1996

## ЗЯНОН ПАЗЬНЯК „АДКРЫЎ” ВЯЛІКАБРЫТАНІЮ

***Паводле ангельскіх традыцыяў, лідар Апазыцыі лічыцца другім чалавекам у дзяржаве. Таму Зянона Пазьняка прымалі ў Лёндане, дзе ён знаходзіўся з 29.01 па 5.02 на запрашэньне брытанскага ўраду, як „вельмі шаноўнага сэра” і з адпаведным пратаколам.***

**– Спадар Пазьняк, зь якой мэтай Вы езьдзілі ў Вялікабрытанію?**

– Я паставіў задачу пазнаёміцца ня толькі з палітычным жыцьцём Брытаніі, але, перш за ўсё, з функцыянаваньнем структураў выканаўчай улады, дзяржаўных і грамадзкіх інстытутаў. Мне хацелася паглядзець на іхную дзейнасьць знутры, убачыць тое, пра што нідзе не прачытаеш, каб пераняць вопыт і дастасаваць яго пры пабудове дзяржаўнасьці будучай вольнай дэмакратычнай Беларусі. Праграмай візыту я задаволены і мяркую, што паездка была вельмі карыснай.

Адбыліся спатканьні з кіраўнікамі і прадстаўнікамі ўсіх галоўных палітычных партыяў Вялікабрытаніі (кансэрватыўнай, лейбарысцкай, лібэральна-дэмакратычнай, Шатляндзкай Нацыянальнай партыяй, Валійскай партыяй (Ўэльс), прысутнічаў на паседжаньні парляманту, меў спатканьне зь міністрам замежных справаў і па справах Садружнасьці і з асабістым радцам Яе Вялікасьці Каралевы Вялікабрытаніі спадаром Дугласам Хогам, кіраўнікамі дзяржаўных ведамстваў і аддзелаў, навукова-дасьледчых, мастацкіх установаў, прафсаюзаў і грамадзкіх арганізацыяў.

**– Якія ж „адкрыцьці” Вы зрабілі для сябе?**

– Што адразу кідаецца ў вочы, гэта асабліва станоўчая роля традыцыяў у дзейнасьці бадай усіх брытанскіх інстытутаў і



*112. Рыгор Барадулін, Васіль Быкаў, Зянон Пазьняк у кабінэце В. Быкава на вуліцы Танкавай у Менску 19 чэрвеня 1993 г.*

(Фота У. Кармілкіна).

ў цэлым у паводзінах людзей. Традыцыі замяняюць законы і, фактычна, мацнейшыя за іх, бо амаль не парушаюцца.

Напрыклад, прэм'ер-міністар ніколі не прызначыць міністрам унутраных справаў чалавека, які працуе ў паліцыі (паліцэйскага), і нават калі ў ягонай біяграфіі была служба ў паліцыі. (Па савецкіх звычках у нас – усё наадварот.) Аднак такія паводзіны прэм'ера дыктуюцца не законам, а традыцыяй. Інспэктарам паліцыі, таксама згодна з традыцыяй, ніколі не прызначаецца чалавек, які быў паліцыянтам. (Дарэчы, карупцыі ў брытанскай паліцыі няма.)

У кожнага дзяржаўнага чыноўніка ў Брытаніі ёсьць разуменьне, што дзяржаўныя службоўцы незалежныя ад палітычных партыяў, і прыход той ці іншай палітычнай сілы да ўлады ніяк не адбіваецца на дзяржаўнай службе, хоць закона, які забараняў бы чыноўніку займацца палітычнай дзейнасьцю ў партыях, няма. Са службоўцамі толькі падпісваецца кантракт, дзе гэта абумоўліваецца.

**– Вы кантактавалі з ангельскімі журналістамі. У прыватнасьці, я чытаў артыкул пра Ваш візыт у лёнданскай *The Times*. Ці ведаюць брытанскія журналісты пра абмежаваньні свабоды друку ў Беларусі?**

– Так, у Англіі пра гэта паведамлялася. Там успрымаюць нашыя „белыя плямы" у газэтах і забарону незалежных выданьняў як дзікунства. У Вялікабрытаніі кожны ведае, што прэса, друк – свабодныя. І нікому не прыходзіць у галаву абмежаваць свабоду друку. Закона аб друку, аб свабодзе слова і да т.п. у Англіі не існуе.

Я пытаюся: „А што, калі б нейкі ўрадавы чыноўнік ці дзеяч, які мае магчымасьці і ўплыў, захацеў бы забараніць друкаваць які-небудзь матэрыял у газэце ці зачыніць газэту?"

– Гэта немагчыма, – адказвае мне функцыянэр.

– Ну, а калі б усё ж такое адбылося і такі дзеяч знайшоўся б?

– Ня ведаю, – задумаўся мой афіцыйны суразмоўца. – Такога яшчэ ніколі ў Англіі не было.

Ня так даўно лейбарысцкая апазыцыя запатрабавала закона, які гарантаваў бы свабоду друку. (Вядома ж, сацыялісты „пякуцца" аб свабодзе.) Гэта занепакоіла ўсю ангельскую прэсу, бо зразумела, што ўсялякі закон у краіне, дзе ўжо ёсьць гарантыі, стане іх абмежаваньнем.

Журналісты і рэдактары брытанскіх газэтаў стварылі арганізацыю – Камісію скаргаў у прэсу, каб не дапусьціць прыняцьця закона і ўмяшаньня ўраду ў друк. Камісію падтрымліваюць газэты і брытанская прамысловасьць. Камісія існуе з 1991 года, разглядае скаргі чытачоў на рэдактараў і на выданьні, прымае па іх рашэньні, якія друкуюцца ў той газэце, якая зрабіла парушэньне. І ніхто з рэдактараў яшчэ не адмовіў, як бы яму ні хацелася, бо інакш ён падарваў бы давер да Камісіі і стварыў бы прэцэдэнт для ініцыятывы ўраду абараняць правы чытача.

**– У Вялікабрытаніі, як вядома, кожны грамадзянін мае права заканадаўчай ініцыятывы. Ці знаёміліся Вы, як гэта прымяняецца на практыцы?**

– Я цікавіўся гэтым. Любы грамадзянін Брытаніі можа падрыхтаваць праект закона і дамагчыся яго прыняцьця парляментам. Існуе дасканалая працэдура, якая, па-першае, гарантуе рэалізацыю гэтага права, а па-другое, – абараняе парлямант ад нашэсьця дурняў. Такую працэдуру ажыцьцяўляе спэцыяльная арганізацыя. Я быў першым чалавекам з Усходняй Эўропы, які афіцыйна наведаў яе.

Грамадзянін Брытаніі, які падрыхтаваў законапраект, падае ў гэтую арганізацыю заяву і кароткую анатацыю праекта. Потым у газэтнай рэкляме даецца паведамленьне, што рыхтуецца такі праект закона. Любы грамадзянін можа запярэчыць законапраекту; аўтар праекта павінен падаць яго разам зь пісьмовым пярэчаньнем апанэнта ў спэцыяльны арбітражны камітэт. Калі апанэнта і пісьмовага пярэчаньня няма, то праект павінен прачытаць член палаты лордаў. Камітэт разглядае праект і пярэчаньне на яго ў прысутнасьці аўтара і апанэнта. Пасьля гэтага праект разглядаецца ў 2-х палатах парляманту тры разы. Аўтар жа выплочвае парляманту 10 000 фунтаў (паўгадавая сярэдняя зарплата). Уся працэдура займае каля 2-х гадоў. Такім чынам, жадаючых лёгка пісаць законы „зь языка" і „левай нагой" няшмат. Хоць парлямант ужо ня раз прымаў заканадаўчыя акты такой працэдурай.

**– Мне цікава, якія запісы Вы зрабілі для сябе падчас наведаньня брытанскага парляманту?**

– Зараз паглядзім... Тут запісаныя пераважна лічбы. У брытанскім парлямянце (Палата абшчын) 640 дэпутатаў. Як вядома, парляманцкая большасьць зь ліку дэпутатаў стварае ўрад. Цяпер у Палаце абшчын 330 кансэрватараў, 270 лейбарыстаў, 23 лібэральныя дэмакраты, 17 дэпутатаў ад розных партыяў Паўночнай Ірляндыі, 4 – ад Валійскай партыі, 3 – ад Шатляндзкай і іншыя.

Апазыцыя працуе згодна з працэдурай, заснаванай на традыцыі. Вялікую ролю тут адыгрываюць каардынатары („бізуны"), якія сочаць за тым, як галасуюць члены Апазыцыі. Перад кожным паседжаньнем парляманту „бізуны" распаўсюджваюць узгодненны са старшынём Апазыцыі парадак паседжаньня, дзе трыма рыскамі падкрэсьліваюць тыя законапраекты, на галасаваньні за якія прысутнасьць абавязковая. Дзьвюма рыскамі – патрэбныя. Сябра Апазыцыі можа адсутнічаць (пры дзьвюх рысках) толькі заручыўшыся партнэрам з супрацьлеглай фракцыі, які таксама будзе адсутнічаць. Абодва рэгіструюць сваю адсутнасьць у „бізуноў". Адной рыскай падкрэсьленыя праекты (пытаньні), дзе прысутнасьць пры галасаваньні пажаданая.

Калі сябра Апазыцыі ігнаруе працэдуру, не прысутнічае на паседжаньні і г.д. – інстытут „бізуноў" сумесна са старшынём пазбаўляе іх права голасу. Гэта ўмоўнае ўнутрыпартыйнае рашэньне, бо дэпутат можа галасаваць у парлямянце. Але на наступных выбарах яго ўжо ня выставяць кандыдатам у дэпутаты.

**– У пачатку нашай гутаркі Вы сказалі, што сустракаліся з прадстаўнікамі ўсіх асноўных партыяў Брытаніі. За якую зь іх Вы прагаласавалі б, калі б жылі там?**

– З усіх партыяў найбольш саліднае ўражаньне пакінулі кансэрватары. Аднак мяне прыемна зьдзівілі зьвесткі і развагі дэпутатаў ад Валійскай партыі.

У княстве Ўэльс жыве 2 млн. 800 тыс. чалавек. Англія акупавала Ўэльс у XIII ст. У XVI ст. быў фармальны акт далучэньня Ўэльса да Англіі. Да сярэдзіны XX ст. ангельская асыміляцыя зрабіла сваю справу. Але пасьля Другой сусьветнай вайны пачалося нацыянальнае адраджэньне Ўэльса. У 1967 г. прыняты акт аб прызнаньні валійскай мовы. За 25 гадоў Уэльс зрабіў вялікі крок наперад. Як сказаў мне член парляманту з Уэльса Юан Він Джонс, „мы ўжо за вуглом" (г.зн. падняліся з каленяў). Валійцы маюць свой нацыянальны канал радыё і 20 гадзінаў на тыдзень на тэлебачаньні. 25% школаў ужо на валійскай мове. Ёсьць чатыры валійскамоўныя каледжы ва ўнівэрсітэце. Валійская мова ўжываецца ў дзяржаўных установах, у рэкляме і на шыльдах. 20% насельніцтва гаворыць на валійскай мове. Ужываецца ін-

тэнсіўны курс (па ізраільскім прыкладзе) навучаньня валійскай мове. Расьце ўэльская нацыянальная сьвядомасьць. Тут ідзе працэс кансалідацыі на аснове нацыянальнай сьвядомасьці. Валійцы разумеюць значэньне валійскай мовы ў будучыні Ўэльса. Чаго, як мне падалося, не разумеюць прадстаўнікі Шатляндзкай нацыянальнай партыі. Шатляндзкай мовы ўжо амаль не засталося. Шатляндзкі нацыяналізм грунтуецца на краёвай (тэрытарыяльнай) сьвядомасьці і гісторыі. Гэта ўзровень месьніцтва. Пэрспэктывы нацыянальнага адраджэньня (ў адрозьненьне ад Уэльса) тут невялікія, хоць 75% насельніцтва Шатляндыі за аўтаномію і 40% – за незалежнасьць ад Вялікабрытаніі.

Уяўленьне аб нацыянальнасьці і дзяржаўным разьвіцьці Шатляндыі і Ўэльса ў маіх афіцыйных субяседнікаў падаліся мне даволі цьмянымі. І адныя, і другія за нацыянальную незалежнасьць у рамках будучага Эўрапейскага Зьвязу, „дзе ўсе роўныя", дзе Эўрапарлямант „ураўняе ўсіх" (і Англію, і Ўэльс), дзе яны будуць карыстацца эўрапейскай валютай бяз межаў і пошлінаў, і да таго падобныя ружовыя развагі эўрапейскага правінцыялізму.

**– Як Вы правялі свае апошнія гадзіны ў Лёндане?**

– У апошні дзень побыту я спатыкаўся са Згуртаваньнем беларусаў Вялікай Брытаніі, з шаноўным айцом Аляксандрам Надсанам, старшынём Згуртаваньня Янам Міхалюком, Часовым Павераным Беларусі ў Вялікабрытаніі Алегам Якавіцкім, нашымі прыўкраснымі студэнткамі і студэнтамі, якія навучаюцца ў Лёндане... Асабліва добрае ўражаньне зрабіла скарынаўская бібліятэка беларускіх кнігаў і рукапісаў, дзеля стварэньня якой шмат клопату і працы паклаў айцец Надсон. Гледзячы на гэтых згуртаваных сьціплых ахвярных людзей, воляю лёсу закінутых далёка ад Бацькаўшчыны, думаеш: а ўсё ж жыла, жыве Беларусь і будзе жыць.

***(Гутарыў Пятро ПАНКРАТОВІЧ)***

*Надрукавана: („Свабода",– 1995, 15 лютага)*




***113. Пратэст супраць антыбеларускай палітыкі прамаскоўскага рэжыму. Сьнежань 1994 г.***

ЗЯНОН ПАЗЬНЯК :

# „ НЕЛЬГА ПАБУДАВАЦЬ УЛАСНАЕ ШЧАСЬЦЕ, КАЛІ Ў НЯШЧАСЬЦІ СВАЯ ДЗЯРЖАВА...”

**Зянон Пазьняк – асоба вядомая, і ня толькі ў палітычных колах, Пагутарыць зь ім было вялікай удачай. Лідэр БНФ з ўсёй сурёзнасьцю паставіўся да пытаньняў газэты і, на наш погляд, даў даволі вычарпальныя адказы, у чым вы можаце пераканацца.**

**– Зянон Станіслававіч, раскажыце, калі ласка, як пачынаўся БНФ? Што стала падставай для яго стварэньня?**

– Гэта вядома кожнаму жыхару Беларусі. Народны Фронт «Адраджэньне» ўзьнік у 1988 годзе як рух за свабоду ад камуністычнага дэспатызму, усёўладдзя КПСС і савецкага імпэрыялізму. Народны Фронт аб’яднаў і ініцыяваў найбольш актыўных і сьвядомых людзей Беларусі, стварыў ідэйна-палітычны дэмакратычны авангард нацыі. Мэтамі руху сталі агульнаэўрапейскія дэмакратычныя каштоўнасьці: свабода асобы і забесьпячэньне яе правоў, дэмакратычная сістэма ўлады, незалежная нацыянальная дзяржава, рынкавая эканоміка.

**– Ці зьмяніліся яго мэты на працягу часу? Як?**

– Мэты БНФ могуць зьмяніцца тады, калі яны будуць дасягнуты. Зроблена шмат, нават (улічваючы абставіны) – немагчымае. Але канчатковыя мэты не дасягнуты. А з устанаўленьнем аўтарытарна-крымінальнага рэжыму затаптаны нават тыя парасткі дэмакратызму , якія ўжо прарасьлі.

Таму рух прадаўжае дзейнічаць, змагаецца за дэмакратычныя мэты, але ўжо ў горшых умовах.

**– У актыве партыі знаходзяцца толькі беларусы, ці ёсьць прадстаўнікі іншых нацыянальнасьцяў?**

– Дэмакраты разглядаюць грамадзтва не па этнічнаму, а па нацыянальнаму, гэта значыць агульна-грамадзянскаму прынцыпу. Таму ня мае значэньня, якога этнічнага паходжаньня людзі ў Фронце: беларусы, расейцы, кітайцы ці японцы, Быпі б яны толькі аб’яднаныя дэмакратычным сьветапоглядам, прымалі мэты і задачы БНФ і падтрымлівалі нацыянальныя інтарэсы Беларусі. У нас ёсьць татары, грузіны, палякі. ўкраінцы, расейцы, яўрэі і шмат хто.

**– Ці лічыце Вы патрыятызм нацыянальнай прыналежнасьцю? (Ці могуць быць патрыётамі Беларусі не беларусы?)**

– Гэта элемэнтарныя рэчы. Нацыянальны патрыятызм не залежыць толькі ад этнічнай прыналежнасьці.

**– Што падштурхнула Вас да вызначэньня нацыянальнай ідэі як галоўнай?**

– Гістарычны вопыт Эўропы. Нацыя ня можа мець іншай ідэі, акрамя нацыянальнай. Калі такой ідэі няма, этнас (ці група этнасаў) у сучасным сьвеце ўжо не могуць быць свабоднымі і незалежнымі. У той ці іншай ступені яны, ці іхняя



*114. На ўгодках Слуцкага Збройнага Чыну ў Вызьне. Зьлева напр.: Аляксей Марачкін, Зянон Пазьняк, Мікола Купава.*

тэрыторыя, ці іхняя прырода і нетры, ці іхняя праца – стануць аб’ектам эксплуатацыі і прысвойваньня іншымі.

**– У чым, на Ваш погляд, заключана сутнасьць нацыянальнай ідэі, акрамя прыняцьця беларускай мовы з усімі вынікамі?**

– Нацыянальная ідэя кансалідуе грамадзтва і прыводзіць да стварэньня нацыянальнай дзяржавы –інстытуту выгаднага для ўсёй нацыі, бо пры дапамозе сваёй нацыянальнай дзяржавы можна задаволіць патрэбы ўсіх і абараніць правы людзей, вынікі іх працы, культурныя, духоўныя патрэбы і г.д. (законамі, палітыкай, фінансава-крэдытнай сістэмай і т.п.)

**– У чым розьніца паміж нацыянальнай і нацыяналістычнай ідэяй?**

– Істотнай розьніцы няма. У першым значэньні тэрмін мае больш навукова-вызначальны сэнс, безадносны да палітыкі. У другім – падразумявае палітыку, заснаваную на нацыянальнай ідэі. Дарэчы, нацыянальная ідэя – аснова дэмакратыі. Камуністы ў СССР у тэрмін «нацыяналізм», «нацыяналістычная ідэя» ўкладвалі адмоўны сэнс (у значэньні „шавінізм”, „расізм” і г.д,). Гэта вынікала, па-першае, зь іхняй ідэалёгіі, заснаванай на „клясавай барацьбе” і пралетарскім (люмпэнскім) інтэрнацыяналізме, па-другое, з імпэрскай сьвядомасьці. Савецкі Саюз (Расея) як імпэрыя быў варожы нацыянальнай сьвядомасьці і нацыянальнай ідэі. Дарэчы, гэтая асаблівасьць добра відаць у цяперашняй Расеі, дзе імпэрская ідэя зьмяніла камуністычную і зноў стала галоўнай догмай існуючага там рэжыму і грамадзтва наогул.

– Якія якасьці павінны быць у змагара за нацыянальную ідэю?

– Элемэнтарныя - ён павінен быць нацыянальна сьвядомай асобай грамадзтва. Не этнічна абмежаваным, не касмапалітам, не імпэрыялістам, не з правінцыйным (другасным) сьветапоглядам, а з узроўнем нацыянальнай свядомасьці, г. зн. чалавекам, які разумее ўзаемасувязь і залежнасьць асабістага (асабовага) і агульнага (нацыянальнага, дзяржаўнага). Нельга пабудаваць уласнае шчасьце, калі ў няшчасьці свая дзяржава. Некаторым, праўда, гэта ўдаецца, але не ўсяму грамадзтву, не народу, ня большасьці людзей. Урэшце прайграюць усе.

**– Чаму ў такой зразумелай і прывабнай ідэі, тым ня меньш, столькі супраціўнікаў?**

– Гэта залежыць ад канкрэтных абставінаў. Найбольш неспрыяльныя яны там, дзе нацыянальная ідэя сутыкаецца з інтарэсамі імпэрыі. (Імпэрская ідэалёгія, як я ўжо заўважыў, варожая нацыянальнай).

**– Ці бачыце Вы сам ў сваёй канцэпцыі нацыянальнай ідэі нейкія недахопы? (Бо ўсе мы людзі, усе мы можам памыляцца.)**

– Людзі, вядома, могуць памыляцца. Да Воршы можна даехаць праз Барысаў і праз Парыж вакол зямнога шара. Было б жаданьне быць у Воршы. (А ня ў лазьні – тады зусім іншае.) Таму, маючы за плячыма гісторыю Эўропы, сумнявацца ў правільнасьці разьвіцьця нацыі шляхам стварэньня нацыянальнай дзяржавы неразумна. Іншага не было.

**– Калі б Вы апынуліся ў якасці кіраўніка дзяржавы, як бы Вы абышліся з сваімі ярымі апанентамі? Да прыкладу, цэлая група рускамоўнага насельніцтва патрабуе абавязковага ўжывання рускай мовы для сябе і сваіх дзяцей у школах, унівэрсітэтах, сродках масавай інфармацыі.**

– На жаль, нашае грамадзтва такое, што, калі б я стаў кіраўніком дзяржавы гэтакім, як вы ўяўляеце, большасьць маіх



*115. Дэлегаты IV Зьезду БНФ „Адраджэньне”. 5 ліпеня 1995 г.*

«ярых апанентаў» сталі б маімі ярымі прыхільнікамі і пабеглі б навыперадкі засьведчваць мне сваю прыхільнасьць і наогул – да беларускай мовы, да Беларусі і незалежнасьці. Праблемы, якую вы прывялі ў прыкладзе, – не існуе, як не існуе яе ўжо, фактычна, ў Эстоніі, Латвіі, Летуве (ды й не існавала). Ня трэба прымаць прапаганду за рэчаіснасьць.

Прынцыпы і механізмы дэмакратычнага ўладкаваньня моўна-культурных пытаньняў вядомыя. А выніку будуць такія: і сваёй мовай будуць карыстацца, і беларускую ведаць. Прытым ніхто прымушаць ня будзе. Ня хочаш – ня ведай. Калі так будзе ім зручна і выгадна – права на няведаньне беларускай мовы ніхто не адбярэ. І яшчэ: такія пытаньні не вырашаюцца адразу,



асабліва на Беларусі, дзе бальшавікі праводзілі русіфікатарскую палітыку. Анямечаным чэхам спатрэбілася амаль дваццаць гадоў дзяржаўнага разьвіцьця, каб адрадзіць чэшскую мову.

**– Вашы мэты дасягнуты: беларуская культура адроджана, Вы на чале ўлады, беларуская мова гучыць на тэрыторыі Рэспублікі, людзі ведаюць гісторыю Бацькаўшчыны і шануюць яе. Што далей? Якія генэральныя ідэі разьвіцьця краіны вы прапануеце?**

– Для дасягненьня гэтых культурніцкіх мэтаў спатрэбіцца час. Яны не дасягаюцца асобна ад

агульнага дзяржаўнага, эканамічнага і сацыяльнага разьвіцьця краіны. Тут я пастараўся б выкарыстаць самы моцны бок БНФ – гэта яго эканамічныя праграмы, заканапраекты і галоўнае – спэцыялістаў, якія зь веданьнем справы, з павагай да людзей і карысьцю для грамадзтва ажыцьцёвяць эканамічныя рэформы. Сутнасьць іх будзе блізкай да рэформаў у Чэхіі і Эстоніі. (Шмат што намі ўжо надрукавана.) Беларусь стане заможнай эўрапейскай краінай, якая не ўваходзіць у ваенныя і палітычныя блёкі, утварэньні (НАТА, СНД) і прытрымліваецца палітыкі нэўтралітэту (прынамсі, на пэрыяд станаўленьня), гарантаванага міжнародным супольніцтвам.

**– Ці распрацаваны Вашымі камісіямі нейкія арыгінальныя ідэі разьвіцьця беларускай навукі, тэхнікі, сельскай гаспадаркі?**

– Такія распрацоўкі зроблены Апазыцыяй БНФ у Вярхоўным Савеце і Ценявым Кабінетам Міністраў Апазыцыі.

**– Ваша палітыка накіравана на масы, масавую сьвядомасьць. Ці думаеце Вы аб асобных людзях, сапраўдных талентах, якія здольныя падняць культуру ўжо сёньня? Што Вы ім прапануеце?**

– Наша палітыка не накіравана на масавую сьвядомасьць. Мы зьвяртаемся да розуму, да здаровага сэнсу і да грамадзкай сьвядомасьці. У гэтым наша сіла і наша часовая слабасьць. Бо масавай сьвядомасьцю, асабліва ў пэрыяд эканамічнага крызісу, апаноўваюць дзяржаўныя папулісты.

**– Што Вы прапануеце чалавеку, які распрацаваў абсалютна арыгінальную тэорыю, якая магла б даць вельмі шмат Беларусі, але не жадае прынцыпова размаўляць па-беларуску?**

– Сітуацыя, якую Вы змадэлявалі, зьвязана з рынкам інтэлектуальнай уласнасьці. Па-першае, павіннен быць добры адпаведны закон. Па-другое, калі інтэлектуальны тавар каштоўны і патрэбны грамадзтву, яго трэба купіць у любой мове, хоць па марсіянску. Праблема перакладу – гэта ўжо дробязь.

**– Я ведаю, што ствараецца беларуская гімназія з новымі прынцыпамі навучаньня. Сярод маіх знаёмых ёсць геніяльны псіхолаг, які стварыў методыкі разьвіцьця творчых здольнасьцяў у дзяцей. На сёньняшні дзень на належным узроўні выкладаць іх здольны толькі сам аўтар. Але ён думаў і іствараў іх па-руску і катэгарычна не жадае перакладу на беларускую мову. Ці дазволім яму пасьпяхова выкладаць свае ідэі ў Бостане ці Мюнхене, ці пойдзем насустрач, ведаючы, што гэта пойдзе на карысць беларускай нацыі?**

– Дрэнна, што вы пачалі фармуляваць мне дзіцячыя „рэбусы”. Ваш аўтар не зьяўляецца „геніяльным”, а хутчэй псіхічна хворым, паколькі стварае «методыку», па якой толькі сам і можа выкладаць. У тым і сутнасьць методыкі, што гэта ўнівэрсальнае кіраўніцтва для іншых.

Добрую методыку можна параіць надрукаваць і аўтару заплаціць. Потым тэкст яе можна (калі трэба) перакласьці на любую мову выкладаньня. Тое ж, што ён згодны перакласьці свой твор на ангельскую, але толькі не на беларускую, гаворыць аб яго адмоўным стаўленьні да беларускай культуры. Такія паводзіны, ізноў жа, не пацьвярджаюць „геніяльнасьці” і ня сьведчаць пра прыстойнасьць вашага псіхолага. Разумныя пюдзі паводзяць сябе інакш. Ад паводзінаў такіх асобаў звычайна не выйграе ні беларуская, ні руская культура, ня кажучы ўжо пра ангельскую.

**– Вы выглядаеце як чалавек з моцнай энэргетыкай і сілай волі. Гэта вельмі карысна для палітычнага лідара. Ці не перашкаджаюць гэтыя якасьці, калі вы знаходзіцеся сярод сяброў і родных, ці не падаўляеце вы іх?**

– Пра гэта трэба спытаць у сяброў. Дарэчы, я не люблю міфаў ні пра сябе, ні пра іншых.

**– Вялікі дзякуй Вам, Зянон Станіслававіч, за інтэрв'ю. Посьпехаў Вам.**

***Гутарыла Сьвятлана Бялевіч***
***(Спэцыяльна для „Сенсацыі”)***

*Надрукавана: („Сенсация”,– 1995, верасень-кастрычнік (№ 6 (9)*




***116. Тэлекадр, які паказвае людзей, што парвалі Беларускі Нацыянальны Сьцяг над будынкам улады і пішуць на ім свае выказваньні. Усе гэтыя асобы ідэнтыфікаваныя. Другі справа І. Ціцянкоў.***

# ГЭТА ЎМЯШАНЬНЕ ВА ЎНУТРАНЫЯ СПРАВЫ БЕЛАРУСІ

**– Тэма рэфэрэндуму пра „паглыбленьне палітычнай і эканамічнай інтэграцыі” Беларусі і Расеі ўсё часьцей зьяўляецца прадметам дыскусіяў як сярод палітыкаў, так і ў сродках масавай інфармацыі. Карэспандэнт агенцтва „Павет” Галіна Прыгара зьвярнулася да лідэра БНФ Зянона Пазьняка з просьбай выказаць стаўленьне да мяркуемага рэфэрэндуму.**

– Гэта тыповая правакацыя, – сказаў З. Пазьняк. – Гісторыя імпэрскай палітыкі Расеі скрозь нашпігаваная такога кшталту выпадкамі. Ім зноў хачацца праглынуць Беларусь. Яны мяркуюць, што цяпер, калі да ўлады на Беларусі прыведзены іхны стаўленік, можна дзейнічаць не саромячыся: груба, нахабна і просталінейна. Пасьля таго, як на травеньскім рэфэрэндуме з ганьбай на ўвесь сьвет расправіліся зь беларусамі, калі нацыя быццам бы адмовілася ад сваіх гістарычных нацыянальных сымвалаў і прадэманстравала непавагу да беларускай мовы, што маральна выключыла нас з супольнасьці цівылізаваных народаў, пасьля таго, яны мяркуюць, можна рабіць, што заўгодна. Тут маскоўскія палітыканы, як прафэсійныя цынікі, амаль не памыляюцца.

Калі няма дэмакратыі, аўтарытарны рэжым пасьпяхова праводзіць любыя рэфэрэндумы, хоць пра павешаньне ўсёй нацыі – прагаласуюць і падтрымаюць.

Тым часам дыскусія ў Расеі, што разгарнулася вакол заявы Савету Фэдэрацыі, паказала яе палітыканскі зьмест. Пэўныя дзеячы ў Расеі зацікаўленыя ў захопніцкіх ініцыятывах, каб на выбарах прыдбаць галасы па-імпэрску настроеных выбаршчыкаў. Гэта ўскоснае ўмяшаньне ва ўнутраныя справы Беларусі, непавага да нашае краіны. Няхай яны лепей паспрабуюць правесьці рэфэрэндум аб канфэдэрацыі з Амэрыкай ці з Кітаем. Няма чаго лезьці на Беларусь.

**– Што будзе рабіць БНФ дзеля таго, каб пазьбегнуць ліквідацыі незалежнасьці Беларусі?**

– На Беларусі палітычны крызіс улады, умацоўваецца аўтарытарны рэжым. Эканоміка развалена, культура прыдушана. Дзяржава ў небясьпецы.

Першы крок да выратаваньня краіны – адстаўка Лукашэнкі, галоўнай прычыны палітычнага крызісу, дзяржаўнага развалу. Калі б прэзыдэнт гэта ўсьвядоміў сам і пайшоў у адстаўку, было б найлепш. Аднак, наўрад ці такое адбудзецца. Ня той узровень сьвядомасьці. Галоўнае залежыць ад стану грамадзтва, грамадзкай эліты і іншых дачыненьняў да дыктатуры і беззаконьня.

Народны Фронт прытрымліваўся і прытрымліваецца канстытуцыйных законных мэтадаў дзейнасьці. На гэтым заснаваны статут і праграма. З гэтых пазыцыяў мы ацэньваем усё, што адбываецца ва ўладзе. Мы стараемся цяпер згуртаваць усе здаровыя сілы грамадзтва на прынцыпах самакаштоўнасьці беларускай дзяржавы, яе свабоды і незалежнасьці, народнага дабрабыту і нацыянальных інтарэсаў краіны.

Сумленныя здаровыя грамадзяне павінны адстойваць законнасьць у грамадзтве, дзяржаўнасьць і правы людзей. Цяпер настаў прыярытэт гэтых каштоўнасьцяў.

***(Запісала Галіна ПРАГАРА)***

*Надрукавана: („ Свабода”,– 1995, 17 кастрычніка)*

„Народная Воля", 24 снежня 2002 г. № 256 (1562)

ТАК ДУМАЮ

## Живем чужими идеями

Вспоминаю конец 80-х. Многотысячные митинги в Куропатах и на площадях, где люди слушали Зенона Позьняка. Его статьи в газетах, выступления в Верховном Совете, в залах домов культуры и кинотеатрах, просто на улице. Каждое его слово было смелым откровением, да и сегодня звучит, как набат.

Нет, Зенон Станиславович не ошибался, когда говорил о российском империализме и шовинизме (помните, какая буря тогда поднялась?), о том, что только мы сами, и никто другой, сможем обеспечить себе достойную жизнь, если возьмем судьбу в собственные руки. Иного — не дано. Иных путей, как независимость, национальный дом, мир не знает... Это был поистине дар провидения, дар Божий.

Но мы, я имею в виду большинство жителей Беларуси, не приняли этот дар. Ибо не приучены сами мыслить и анализировать, а живем чужими, навязанными взглядами, идеями, даже информацией. Поэтому так и живем, как живем, и будем жить еще долго, пока не научимся думать сами о себе.

Восемь лет нам пудрят мозги интеграцией с Россией в разных вариантах. Невозможно уже слышать об этом. Кому-то хочется приблизиться к российскому трону, кому-то — прихватить наши "гиганты индустрии", скупить леса и много чего еще... Все эти годы наша оппозиция выступала против такой интеграции, за независимое государство Республика Беларусь. Но теперь многие и из ее среды ринулись в Москву, словно там медом намазано и у россиян одна забота — сохранение независимости "синеокой" соседки. Неужели непонятно, что у нее свои — и это естественно — интересы?

Насколько сейчас Россия стала рыночной и демократической страной, можно спорить и спорить. Не все так однозначно. Трудно, по-моему, не заметить, что сейчас это страна с экономикой, где кучка дельцов заправляет богатством всей страны, а народ в основном бедствует. Об этом говорят постоянные "разборки" в кругах воротил, кровь льется ежедневно. Более-менее прилично живут всего в нескольких наиболее крупных городах, но это далеко не вся Россия.

Нам надо смотреть не на Россию, а на соседей, идущих реально по пути демократического развития. Зачем же бросаться из огня да в полымя? А нашим оппозиционерам давно пора отбросить личные амбиции, собраться вместе и создать крупную, действительно демократическую партию, выражающую глубинные интересы народа. И чтобы народ видел, что эта партия за него, за демократию, за независимую свободную Беларусь.

**Валентина СЕРАФИМОВИЧ,**
**постоянная подписчица "Народной воли".**

*Минск.*

***117. Адзін з тыповых лістоў, як настальгія па мінулым часе Адраджэньня. („ Народная Воля”, – 2002, 24 сьнежня).***

# НЕЛЬГА ДАПУСЬЦІЦЬ, КАБ НА ЗЯМЛЮ БЕЛАРУСІ ЯШЧЭ АДЗІН РАЗ ПРАЙШОЎ АДОЛЬФ ГІТЛЕР

Пэрыяд нацыянальнай ганьбы перажывалі ня толькі беларусы. Нейкі паранойны абсурд запоўніў усю нашу дзяржаўную палітыку і грамадзкія дачыненьні. Аднак у кожнага народа, як і ў кожнага чалавека, свая мяжа цярпеньня.

Мая мяжа цярпеньня пяройдзена даўно. Сьвятое ніколі не кідаюць пад ногі свіньням і не дазваляюць таптаць. На шматпакутнай Беларусі, некалі спаленай і здратаванай гітлераўцамі, знайшоўся чалавек, які праз 50 гадоў пасьля вайны адкрыта пачаў усхваляць Гітлера. Гэта той чалавек, якога выбралі за прэзыдэнта Беларусі, у першую чаргу, тыя людзі, што пацярпелі ад вайны. Вось, што ён сказаў:

« …И не все только было плохое связано в Германии и с известным Адольфом Гитлером.

Он перечеркнул все хорошее, что он сделал в Германии, всей внешней политикой и развязал Вторую мировую войну, ну а все остальное уже вытекало из этого…»

А. Лукашэнку належаць і такія словы: « Ведь немецкий порядок формировался веками. При Гитлере это формирование достигло наивысшей точки. Это то, что соответствует нашему пониманию президентской республики и роли в ней президента.»

Удумайцеся: «Это то, что соответствует нашему пониманию…» Агідна і гадка.

Карэспандэнт «Гандэльсблят» Маркус Цынер, які запісаў інтэрв'ю Лукашэнкі, не рашыўся друкаваць такое кашчунства ў Нямеччыне, народ якой пакаяўся ў гітлераўскіх злачынствах. М. Цынер піша: « Цитируемые высказывания господина Лукашенко действительно имели место в интервью. Но наша редакция приняла решение эти высказывания не публиковать, и, в частности, из того соображения, чтобы не предоставлять крупную надрегиональную немецкую ежедневную газету в качестве трибуны для подобного рода тезисов» («Известия», №227, 30 лістапада 1995 г.).

Гітлераўскі парадак і «известного» Адольфа Гітлера ўхваляе той чалавек, не без ведама якога ў траўні гэтага года перад выбарамі быў зроблены і двойчы паказаны па тэлебачанню лжывы фільм «Нянавісьць. Дзеці хлусьні», дзе нізка паклёпнічалі на мяне, хлусьліва параўноваючы з фашыстамі.

Вы, спадар Лукашэнка, ухваляючы Гітлера, апаганьваеце памяць майго бацькі, які загінуў пад Катавіцамі ў барацьбе з гітлераўцамі, як і памяць майго дзядзькі, што прайшоў з 1941-га ўсю вайну ў танку „КВ" і згарэў у ім 9 лютага 1945 годзе пад Мэркіш Фрыдлянд ва Уходняй Прусіі. Калі б яны ўсталі – яны б вам паказалі Гітлера.

У тысячах беларускіх сем'яў яшчэ жыве дух загінуўшага мужа, бацькі і сьвятая памяць пра іх. Знайшоўся чалавек, які напляваў на гэтую памяць.

Я зьвяртаюся да адукаваных людзей Беларусі, да тых, хто здольны нешта разумець, рабіць высновы з нацыянальнай і сусьветнай гісторыі. Я пра гэта пісаў і казаў неаднаразова: ***Беларусь пад пагрозай усталяваньня дыктатуры, прытым надзвычай дурной дыктатуры, якая маральна зганьбіць нас на цэлыя пакаленьні, прынізіць нашу нацыянальную супольнасьць, адкіне далёка назад у эканамічным, грамадзкім і палітычным разьвіцьці.***



*118. Беларусы ў форме – апора антыбеларускага рэжыму.*



*119. Пачатак новага прамаскоўскага рэжыму: Зьбіваюць дэманстранта.*



(Фота з друку: Irex/promedia).

***120. Новы антыбеларускі рэжым: Беларусы зьбіваюць беларусаў.***



***121. 8–га верасьня 1994 г., Менск. Пачатак новага прамаскоўскага рэжыму: АМАП па загаду Міністра МУС Ю. Захаранкі спрабуе перашкодзіць сьвяткаваньню Дня Беларускай Вайсковай славы. На пярэднім плане В. Голубеў, З. Пазьняк і дружыньнік БНФ.***

прагітлераўскага дыктатарскага рэжыму.

Я хацеў бы асабліва перасьцерагчы ад лёгкадумнага стаўленьня да авантурных заяваў і паводзінаў Лукашэнкі, ад іранічных усьмешак і пацьвельваньня з чалавечай абмежаванасьці. Справа не ў абмежаванасьці, а ў паўнаце ўлады, якая не ў руках тых, хто пасьмейваецца. Пасьміхаліся зь Леніна, Сталіна, Гітлера, афрыканскіх палкоўнікаў і іншых. Ніхто іх на пачатку сур'ёзна не ўспрымаў. Потым расплачваўся ўвесь народ. Неабходна стварэньне антыфашыскай, антыдыктатарскай кааліцыі ўсіх здаровых сілаў беларускага грамадзтва – як у грамадзянскай супольнасьці, так і ў сістэме ўлады.

Мы, сучасьнікі, павінны перш за ўсё думаць пра будучыню Беларусі, асабліва тады, калі будучыня яе ў небясьпецы.

Адукаваныя людзі, інтэлігенцыя, інтэлектуалы зьяўляюцца лепшымі прадстаўнікамі народа. Ствараючы будучыню, ***народ выяўляецца і жыве ня ў люмпэнах, ня ў хамах, а ў сваіх лепшых прадстаўніках. Нельга дапусьціць зноў панаваньня хамаў, бо гэта прывядзе да нянавісьці і разбурэньня.*** Нельга дапусьціць распаўсюджаньня камуна-фашызму на Беларусі, яго імпэрыялістычнай квазіславянскай ідэялогіі, усталяваньня

***Зянон Пазьняк,***
***дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь,***
***член сям'і загінуўшых у Другой Сусьветнай вайне***

*Надрукавана: ( 1 –„ Народная Воля”,– 1995, сьнежань, № 32; 2 – „ Свабода”,– 1995, 8 сьнежня (пад загалоўкам: „ Ня плюйце ў памяць ахвяраў” )*

# ТРЭЦЯЙ СІЛЫ НЯМА

***(З выступу старшыні БНФ „Адраджэньне" Зянона Пазьняка на Сойме БНФ)***

Той стан, які зараз перажывае наша краіна, я б назваў крытычным. Вельмі шмат залежыць ад выбараў. Ад іх ў значнай ступені будзе залежыць бліжэйшы лёс нашай краіны. У гэтай сітуацыі нам вельмі важна цьвяроза ацэньваць падзеі і не нарабіць памылак, правільна спраграмаваць сваю тактыку і свае паводзіны. Зараз выдзелілася некалькі грамадзкіх і палітычных сілаў, якія маюць свае інтарэсы. Перш за ўсё я выдзеліў бы сілу, якую ўмоўна можна назваць „хунта" – гэта вертыкаль, выканаўчая прэзыдэнцкая сістэма ўлады. Яе палітыка і тактыка відавочная. Гэта карпаратыўны рэжым, у аснове якога – перадзел маёмасьці дзяржавы і ўласнае абагачэньне. Тут інтарэсы, якія рухаюць палітычнымі паводзінамі гэтых людзей. У гэтым сэнсе інтарэсы Лукашэнкі і ягоных падначаленых вельмі блізкія.

Ня буду спыняцца на тых падзеях, якія вам вядомыя: як забараняюць газэты, манапалізуюць радыё, тэлебачаньне. Сутнасьць у тым, што рэжым стараецца ўмацаваць сваё адзінаначальле і ўплывае на ўсе сфэры палітыкі і жыцьця. І, тым ня менш, мы бачым, што імкненьне пабольшыць гэтыя ўплывы ёсьць, але рэальнае ўздзеяньне не павялічваецца. Нават зьмяншаецца, таму што палітыка настолькі ў абвале, прымітыўная, не падмацаваная эканомікай, не падмацаваная пазытыўнымі сацыяльнымі зрухамі ў грамадстве, што гэтая палітыка выклікае псіхалягічнае непрыняцьце ў значнай часткі людзей.

Другая група, якую можна выдзеліць, – гэта камуністы і аграрнікі. Практычна, яны адно і тое. Гэта старшыні калгасаў, былыя скратары райкамаў, якія займаліся сельскай гаспадаркай, пытаньнямі прамысловасьці. Гэтыя людзі, што займалі пасады ў КПСС. Яны ўяўлялі адзін ідэалягічна-палітычна-аграпрамысловы комплекс. Гэтыя людзі зараз знайшлі сабе выяўленьне праз Аграрную партыю.

Зразумела, чаму ідзе такая падтрымка вертыкальлю Аграрнай партыі і чаму ёсьць матэрыяльнае забесьпячэньне, і чаму яны ўяўляюць зараз самую ўплывовую сілу. Можна зразумець, чаму яны пайшлі пад сваёй шырмай і сваім сьцягам, а не зьядналіся з мітынговымі камуністамі. Але не павінна быць сумненьня, што гэта адно і тое ж. Гэтыя дзьве групы ўяўляюць першую сілу, сфармаваную пад выбары.

Другая сіла, якая супроцьстаіць ім, – гэта Народны Фронт.

На працягу пяці-шасьці гадоў мы чуем пастаянныя размовы пра трэцюю сілу, пра цэнтрызм. І ніякай трэцяй сілы не зьяўляецца, і ніякага цэнтрызму таксама. Для таго, каб зразумець гэтую палітычную раскладку, трэба зразумець нашае грамадзтва.

Грамадзтва нашае падзелена на дзьве часткі. Першая частка – гэта тыя людзі, якія бачаць сваю будучыню праз аднаўленьне мінулага, аднаўленьне Савецкага Саюза, КПСС і г.д. За гэтым стаіць пэўная псіхалёгія, як мы кажам, „саўковая".

Людзі старэйшага пакаленьня – гэта людзі, якія сфармаваліся ва ўмовах, калі ім не было чаго траціць, акрамя сваіх ланцугоў. Яны ня мелі ўласнасьці і ў іх адпаведная псіхалёгія. Гэтая частка зьвязвае сваю будучыню з пэўнымі інтэграцыйнымі працэсамі. Але інтэграцыйныя працэсы – у межах адноўленай імпэрыі.

Другая частка грамадзтва – гэта людзі ў асноўным інтэлектуальнага кшталту, больш маладога пакаленьня, больш энэргічныя і нацыянальна сьвядомыя. Гэтыя людзі зьвязваюць сваю будучыню з незалежнай, дэмакратычнай дзяржавай Беларусь. Незалежная дзяржава, інтэграцыя з Эўропай, рынкавая эканоміка, нацыянальнае адраджэньне – вось другая частка грамадзтва.

Другую частку грамадзтва выяўляе Народны Фронт. Першую частку грамадзтва, якая глядзіць у мінулае, выяўляюць камуністы, зьвязаны зь імі Лукашэнка і аграрнікі. Тут, як паміж жыцьцём і сьмерцю. Трэцяй катэгорыі няма. Няма ў нас трэцяй сілы ў грамадзтве, а адпаведна гэтаму няма і ў палітыцы. Ёй няма каго выяўляць.

Але чаму ўзьнікаюць такія заявы. Па-першае, яны маюць прапагандысцкі сэнс. Па-другое, мноства партыяў, якія паствaралі (і вядома хто), падыходзяць пад катэгорыю малых партый, ня маюць сваёй ідэалёгіі, ня маюць сваіх структураў і ня маюць адпаведнага вопыту работы зь людзьмі. Таму яны могуць лёгка мяняць свае перакананьні, таму яны лёгка аб'ядноўваюцца, разьядноўваюцца, разыходзяцца і г.д.



***122. Алесь Адамовіч на фронтаўскім мітынгу пад „Пагоняй".***

Мы гэта павінны разумець, каб не трапляць у пастку, расстаўленую для нашага выбаршчыка. Вось, маўляў, крайнія сілы, а вось – цэнтар, які нікуды не павядзе. Гэта ілюзія, і гэтую ілюзію трэба разьвейваць, таму што нашае грамадзтва, фактычна, робіць выбар паміж адной сістэмай і другой. Або нас заганяць у расейскую імпэрыю – і нас няма, або нацыянальная дзяржава, і мы інтэгруемся з Эўропай як краіна. Нават калі няма ўсьведамленьня гэтага на лягічным узроўні, то падсьвядома людзі гэта разумеюць. Невыпадкова на выбарах вясной галасы дзяліліся паміж камуністамі і Народным Фронтам.

***Зянон Пазьняк***

*Надрукавана: („Пагоня"–1995, 17-23 лістапада)*

# ЧАЧЭНСКІЯ ГЕРОІ АБАРАНЯЮЦЬ БАЦЬКАЎШЧЫНУ І СВАБОДУ

Усе добрыя людзі з перажываньнем і болем сочаць за падзеямі страшнай расейска-чачэнскай вайны, адчуваючы сваё бясьсільле паўзьдзейнічаць на акупантаў, каб спыніць злачынную бойню і зьнішчэньне чачэнскага народу. Толькі што расейскія тэрарысты, прымяніўшы танкі, артылерыю, самалёты, верталёты, ракетныя ўстаноўкі „Град", поўнасьцю зьнішчылі дагестанскі пасёлак „Першамайскі" (сапраўдная назва невядомая), забілі шмат мірных людзей. Якія назіраньні і высновы можна зрабіць з гэтых падзеяў і з усяго таго, што адбываецца на паўночным Каўказе?

1. Расея праводзіць тыповую для яе каляніяльную вайну з характэрнымі для гэтай імпэрыі жорсткасьцю, бесчалавечнасьцю і вераломствам. Падзеі зноў пацьвердзілі крымінальны характар гэтай краіны, яе тэрарыстычнай арміі і кіраўніцтва, якое зрабіла закладнікамі ўвесь чачэнскі народ.

Нагадаю, што група чачэнскіх салдат (прыблізна 200 чалавек) павінна была ажыцьцявіць зьнішчэньне расейскага вайсковага аэрадрому ў Дагестане (горад Кізьляр), адкуль расейцы рабілі налёты на Чачэнію, бамбавалі чачэнскія паселішчы і гарады. (У чачэнцаў няма ні авіяцыі, ні супрацьпаветранай абароны і зброі.) Аднак расейскія „спэцслужбы", даведаўшыся пра чачэнскую апэрацыю, вывелі тэхніку з аэрадрому. Калі чачэнцы прыйшлі, то ўбачылі толькі тры рускія верталёты, якія яны і зьнішчылі. Аднак чачэнцы трапілі ў падрыхтаваную пастку. Тады яны захапілі закладнікаў і прадыктавалі свае ўмовы. З расейскімі і дагестанскімі ўладамі дамовіліся, што чачэнцаў разам з закладнікамі прапускаюць да чачэнска-дагестанскай мяжы. Там чачэнцы адпускаюць закладнікаў і вяртаюцца ў Чачэнію.

Аднак расейскія „стратэгі" вераломна парушылі ўсе пагадненьні і на мяжы напалі на калёну з паветра, абстралялі яе і сьцінулі дэсант. Чачэнцы разам з закладнікамі адыйшлі ў дагестанскае сяло „Першамайскае" і занялі там кругавую абарону. Тым часам да сяла „Першамайскага" была сьцягнута велізарная вайсковая сіла ў некалькі тысячаў чалавек з авіяцыяй, артылерыяй, танкамі, бронемашынамі і іншай тэхнікай. Сюды сьцягнулі ўсё лепшае, што было ў расейскай арміі, лепшыя („элітныя") часткі: „Альфу", „Віцязь", розныя „спэцназы", узорныя армейскія падразьдзяленьні і г.д. Была пастаўлена задача зьнішчыць акружаных чачэнцаў любымі сродкамі і любым спосабам, чаго б гэта ні каштавала. ***Дамоўленасьці, абавязкі перад уладамі Дагестана, пасёлак, жыхары пасёлка, закладнікі ў разьлік не прымаліся.*** На іх адразу быў пастаўлены крыж. Расейскім ваенным чынам, расейскаму кіраўніцтву і расейскаму прэзыдэнту (напярэдадні выбараў) патрэбная была перамога ці хаця б бачнасьць яе любой цаной. А паколькі ў імпэрскай Расеі чалавечае жыцьцё ніколі нічога не каштавала, то пра дагестанскіх заложнікаў расейская ваеншчына і кіраўніцтва ня думалі і не клапаціліся.

Журналістаў ад падзеяў ізалявалі, а афіцыйная прапаганда паведаміла, што ўсе закладнікі нібыта ўжо забітыя чачэнцамі, што быццам бы давала магчымасьць бамбардаваць і штурмаваць пасёлак „Першамайскі". Аднак расейская вайсковая перавага, расейская страшная зброя і адборныя элітныя часткі аказаліся бясьсільнымі зламаць супраціўленьне чачэнскіх герояў і дагестанскіх закладнікаў. (Закладнікі, даведаўшыся, што іх прадалі і асудзілі на сьмерць, дапамагалі чачэнцам. Некаторыя са зброяй у руках.)

Бой цягнуўся амаль тыдзень. Адборныя расейскія часткі пакінулі на полі бою горы сваіх трупаў. Вось тады яны і зьмялі з твару зямлі пасёлак „Першамайскі", прымяніўшы ракетныя ўстаноўкі „Град". Пасьля агня „Градаў" не застаецца нічога жывога і ніхто ня можа ўратавацца. Васьмідзесяцікілаграмовыя ракеты, якія ляцяць пачкамі адразу па сорак штук, зьнішчаюць усё. І тым ня менш, палова чачэнскага атраду і закладнікаў ня толькі ўратаваліся, але, прарваўшы трайное акружэньне, з боем выйшлі ў Чачэнію. Гераізм гэтых людзей, што змагаюцца за свабоду Айчыны, і высокі баявы ўзровень чачэнскіх салдатаў уражвае.

2. Падзеі ў Дагестане яшчэ раз пацьвердзілі, што ўсе народы для Расейскай імпэрыі, усе лёсы паняволеных народаў, гэтак жа, як і жыцьці асобных людзей, ня маюць ніякага значэньня перад інтарэсамі імпэрыі, а у дадзеным выпадку – яшчэ і перад інтарэсамі расейскага нафтавага капіталу.

Нагадаю, што калі групай Басаева былі захопленыя расейскія закладнікі ў расейскім горадзе Будзёнаўску, на расейскай тэрыторыі, то калёну з закладнікамі прапусьцілі, захопленых рускіх ня зьнішчалі і „Градам" рускія паселішчы не разбуралі.

Дагестанцы для расейскіх генэралаў – гэта ж ня рускія, дагестанскія закладнікі для іх жа ня людзі, ці, дакладней, людзі іншага гатунку. Навошта клапаціцца пра іх вызваленьне ці пра жыцьцё нейкіх там нярускіх у пасёлку „Першамайскі"! „Градам" па іх і па іхны дамах, па іхнай маёмасьці і па іхных каровах. Злачыннасьць і подласьць гэтых імпэрскіх генэралаў і ўладных кіраўнікоў таксама ўражвае.

3. Трагедыя ў Дагестане яшчэ раз пацьвердзіла (і для нас гэта асабліва важна зразумець), што дзеля ажыцьцяўленьня імпэрскіх інтарэсаў, дзеля ўтрыманьня ўлады і капіталу, дзеля захопу чужых тэрыторыяў і маёмасьці Расея ішла на ўсё і пойдзе на ўсё: на самае кашчуннае вераломства, на самае жорсткае злачынства. Скопішча зла ня спыніцца ні перад чым, нават (калі пачуе пагібель) перад ужываньнем ядзернай зброі і трэцяй сусьветнай вайной.

4. Падзеі ў „Першамайскім" яшчэ раз выразна паказалі амаральнасьць і цынізм імпэрскай, ці, як яны сябе цяпер называюць, „дэмакратычнай" улады ў Расеі (хоць большасьць там цяперашнія і былыя камуністы).

У той час, калі пад расейскімі бомбамі, ракетамі і кулямі гінулі дагестанскія закладнікі і жыхары пасёлка „Першамайскі", у рускай Думе і прэзыдэнцкай адміністрацыі дзялілі партфэлі, палітыканствавалі, жартавалі, сьмяяліся, рагаталі і няшчадна лгалі свайму народу і ўсяму сьвету.

Злачынства ў „Першамайскім" яшчэ раз паказала ўсяму сьвету характэрна-азіяцкую сутнасьць расейскай імпэрскай хлусьні. Гэта ўжо ня толькі палітыка, а цэлы сьветапогляд, які некалі слаўна скарысталі бальшавікі. Масква ня верыць сьлязам, і ***ніколі ні ў чым нельга верыць Маскве.***

5. Расейская тэрарыстычная апэрацыя ў сяле „Першамайскім" паказала ўсю гніласьць, бездапаможнасьць, небаяздольнасьць і маральнае раскладаньне ўзброенай да зубоў расейскай арміі і ў цэлым імпэрскай ваеннай машыны. Сьвет павінен зразумець, што такая дэмаралізаваная ваеншчына, якая валодае зброяй масавага зьнішчэньня і выхаваная на чванлівай імпэрскай ідэі, уяўляе вялікую пагрозу міру ў Расеі і ва ўсім сьвеце.

6. Расейска-чачэнская каляніяльная вайна і асабліва падзеі ў былым сяле „Першамайскім" паказалі ўсім, ***што народ, які***



*123. Чачэнскае мястэчка, разбомбленае расейскай авіяцыяй.*



*124. Ацалелыя ад рускіх бомбаў чачэнскія жыхары на руінах жыльля.*

***зь верай у сваю зямлю самааддана змагаецца за жыцьцё і свабоду Бацькаўшчыны, – непераможны.*** Ён выяўляе цуды гераізму, здольны перамагаць.

Расейскія журналісты, апраўдваючыся за паражэньне арміі, занадта завысілі крытыку „бяздарнасьці" генэралаў. Калі расейская ваеншчына перамагае (нават калі пíравым мэтадам), тады – „наши доблестные воины". Калі ж яна церпіць паражэньне (і, як правіла, ад малых сілаў), тады аказваецца, што армія была разута, разьдзета, салдаты галодныя, а генэралы бяздарныя. Так было ў Цусіме, пад Порт-Артурам, пад Варшавай, так і ў Чачэніі пад „Першамайскім". „Альфа" ёсьць „Альфа", „Віцязь" ёсьць „Віцязь", а адборная ўкамплектаваная армія ёсьць армія. Сітуацыя паказала, што прафэсійныя спэцыяльна падрыхтаваныя забойцы з „Альфы" бездапаможныя перад людзьмі, якія горача любяць свабоду сваей Радзімы і гатовыя дзеля яе на сьмерць. „Альфы" і „Віцязі", схаваўшыся ў маскі, могуць пасьпяхова зьбіваць толькі безабаронных дэпутатаў парляманту і ваяваць зь мірным насельніцтвам, якое выйшла на мітынгі і забастоўкі. Міф пра нібыта „звышсалдат" разьвеяўся.

Расейская акупацыя Чачэніі, бесчалавечнасьць, жорсткасьць, масавыя бамбардыроўкі і зьнішчэньні паселішчаў, прымяненьне хімічнай зброі, генацыд – усё гэта выклікала адчайнае супраціўленьне чачэнцаў, захопы закладнікаў і іншыя дзеяньні. Расейская прапаганда фальшыва спрабуе абвінаваціць чачэнцаў у тэрарызьме. Але сапраўдным шырокамаштабным тэрарыстам зьяўляецца якраз расейская дзяржава – яе кіраўніцтва і ўзброеныя сілы. Расейская прапаганда зьняважліва абзывае чачэнскіх салдатаў і абаронцаў бацькаўшчыны бандытамі. Але тыповымі міжнароднымі бандытамі зьяўляюцца якраз акупацыйныя расейскія войскі ў Чачэніі. Чачэнцы ў сябе дома, а бандыты ўварваліся ў іх дом, зьнішчаюць іхныя вёскі і гарады, забіваюць і рабуюць мірнае насельніцтва.

Чалавек, якога забіваюць, мае права на абарону любымі сродкамі. Калі ён пры гэтым, ратуючы сваё жыцьцё і апынуўшыся ў бязвыхадным становішчы, заб'е забойцу, суд яго апраўдае, згодна закону. Паўтараю, чалавек мае права на абарону свайго жыцьця, калі яго забіваюць. Гэтак і народ. Чачэнцаў зьнішчаюць ужо дзьвесьце гадоў. Бальшавікі ажыцьцяўлялі генацыд Чачэніі, выганялі чачэнцаў зь іхнай зямлі, вывозілі ў Азію, у пустыню. Але яны вярнуліся і акрыялі. Цяпер іх забіваюць зноў. Зьнішчаюць, разбураюць іхную зямлю. У гэтых умовах ***чачэнцы маюць права на любую абарону свайго народнага існаваньня, свайго жыцьця.***

Ва ўмовах, калі на тэрыторыі Чачэніі знаходзіцца акупацыйная расейская армія і Расея вядзе бесчалавечную, жорсткую каляніяльную вайну з Чачэніяй, вайну на зьнішчэньне, гаварыць пра „тэрарызм" тых, хто бароніць сваё жыцьцё, гаварыць пра недапушчальнасьць захопу закладнікаў – бессэнсоўна.

Выведзіце сваю тэрарыстычную армію з Чачэніі, спадары расейскія дзяржаўныя палітыкі, і перастаньце забіваць чужы вам народ. Ён мае натуральнае Боскае права на свабоду сваёй зямлі. І вось калі і пасьля гэтага яны захопяць вашых закладнікаў, тады абвінавачвайце. На жаль, Аўганістан нічаму не навучыў міжнародных бандытаў.

Праз некалькі дзён пасьля чарговага злачынства расейскай ваеншчыны на Каўказе Расею прынялі ў Савет Эўропы. Змрочнае ўражаньне пакідае гэты клюб эўрапейскіх палітыкаў. Кажуць, Эўропа без ідэалёгіі. Усёабдымнай, трансцэндэнтнай ідэалёгіяй эўрапейскай палітыкі заўсёды было і застаецца рафінаванае філісьцерства. Яно прывяло да Першай сусьветнай вайны, да Другой, да аншлюсаў... Прывядзе і да трэцяй. Пад пустазвонныя прамовы пра правы чалавека і дэмакратыю. Эўропа, павесіўшы сабе стопудовы камень на шыю ў выглядзе Расеі, проста адвярнулася ад лёсу Чачэніі. Вядома ж, для Эўропы Расея ня Сэрбія, а таму і Чачэнія ня Босьнія. Філісьцерскі двайны стандарт тут відавочны.

Для нас, беларусаў, усё гэта вельмі важна бачыць, ведаць і разумець. Расея праз сваіх стаўленікаў у вышэйшай выканаўчай уладзе на Беларусі вядзе ў нас халодную вайну. Тут крыху іншыя мэтады, чым у Чачэніі, але мэта тая ж – вынішчэньне беларускай нацыі, мовы, культуры, памяці, сьвятынь, захоп нацыянальнай маёмасьці, інфраструктуры, улады, кантроль над тэрыторыяй і рэсурсамі, ліквідацыя беларускай дзяржавы.

І гісторыя, і вопыт, і сітуацыя, і падзеі ў Расеі, у Эўропе і сьвеце паказваюць, што няма іншага шляху, як усім грамадзтвам бараніцца, палітычна змагацца, яднацца вакол Беларускай ідэі, клапаціцца пра свае нацыянальныя і жыцьцёвыя інтарэсы, пра сваю дзяржаву і яе незалежнасьць, пра нашу нацыянальную ўласнасьць, беларускую мову, школу, культуру, мастацтва, цэрквы і касьцёлы, пра свой народ і саміх сябе.



*125. Джахар-Гала (былы Грозны) сталіца Чачэніі, зруйнаваная расейцамі.*

***Зянон ПАЗЬНЯК.***

*Надрукувана:*
*(Пагоня,– 1996, 16–22 люта)*

# АТРЫМАЎШЫ ПА ЗУБАХ У ЧАЧЭНІІ, РАСЕЯ ХОЧА ПРАГЛЫНУЦЬ БЕЛАРУСЬ

Мінуў месяц пасьля страшных падзеяў у Дагестане – разбурэньня расейскай ваеншчынай пасёлка „Першамайскі" і зьнішчэньня мірных людзей. Становіцца ўсё больш відавочным, што гэтае варварскае злачынства было задумана і сплянавана ў вышэйшым кіраўніцтве Расеі. Тым, хто разьвязаў брудную каляніяльную вайну у Чачэніі, патрэбна была хоць якая перамога над чачэнцамі, каб задаволіць імпэрскія амбіцыі расейскага абываццеля напярэдадні прэзыдэнцкіх выбараў.

Было, відаць, дадзена заданьне перамагчы любой цаной, не зважаючы на жыцьцё і сьмерць людзей, на суверэнітэт Дагестана, на міжнароднае права і г.д. Нічога ня мела значэньня перад халодным палітычным разьлікам. Тыпова расейская палітыка. Гэтым тлумачыцца (таксама „тыповая") грандыёзная цынічная хлусьня рускай прапагандысцкай машыны, пакліканай апраўдаць злачынства. Але...

Але адборная ўзброеная да зубоў расейская ваеншчына, зьдзейсьніўшы тэрарыстычны акт, пацярпела паразу ад групы гераічных чачэнскіх салдатаў. Вось тут і замітусіліся стратэгі выбарчай кампаніі ў Маскве. Яны зразумелі, што спадар Ельцын можа праваліцца (бо мала забілі чачэнцаў, разьлічвалі больш). Дадумаліся адкласьці выбары. Але як?

Патрэбна было прыдумаць нейкую важную падзею, што закране асновы дзяржавы. І прыдумалі... прарвацца на беларускім фронце. Вырашылі (і таксама любою цаною) тэрмінова праглынуць Беларусь. Тут жа маскоўскія імпэрскія дэмакраты, адхіліўшыся на хвіліну ад дзяльбы партфэляў, пачалі гаварыць пра неабходнасьць беларуска-расейскай канфэдэрацыі. І так яна ім спатрэбілася, што ня могуць без яе.

Першай выступіла за „конфедерацию" „ярко выраженная демократка", як назвалі яе ў газэце „Известия", ельцынская прыхільніца Галіна Старавойтава. А потым ужо і іншыя „дэмакраты" загаманілі на матыў „Боже, царя храни".

Разьбірацца, што там хто зь іх сказаў, нам ужо няма патрэбы. Бо для нас яны цяпер усе аднолькавыя – цынікі і ворагі Беларусі. Незалежна ад таго, як яны сябе называюць: „дэмакратамі", камуністамі, фашыстамі, анархістамі і г.д. Усе яны – імпэрыялісты і гатовыя апраўдаць любую імпэрскую подласьць, любое забойства, любое злачынства дзеля ўлады і расейскіх інтарэсаў, незалежна ад полу, адукацыі і палітычнай групы.

Зраблю толькі дзьве заўвагі. Праглынуць Беларусь „крывавым дэмакратам Расеі" будзе ня так проста, як яны думаюць. Па-першае, расейскія камуністы, якія ня любяць Ельцына, маюць рэальны шанец выйграць выбары. Ім не з рукі адклад, хоць і Беларусь захапіць хочацца.

Беларускім камуністам і ўсёй пятай калёне на Беларусі таксама хочацца хутчэй прадацца (ды каб яшчэ і задарма). Але і „чувство интернациональной солидарности с российскими товарищами" „тоже есть". А ўлада для камуністаў– найважней.

Жырыноўшчыкі, якія ня любяць і Ельцына, і камуністаў, хутчэй за ўсё будуць гандлявацца. Лукашэнка, які любіць камуністаў і ня любіць Ельцына, але хваравіта марыць пра расейскі прастол, будзе рабіць, як скажуць, і дзейнічаць, як хоча. (Верны шлях скруціць шыю.) У выніку, і як заўсёды, за грахі авантурыстаў разьлічыцца народ (паколькі і ў Беларусі, і ў Расеі ён звычайна „безмолвствует"). Зрэшты, на Беларусі могуць знайсьціся сілы, што яшчэ пастаяць за свабрду Бацькаўшчыны, як некалі. Тады „ярко выраженным" імпэрыялістам будзе нядобра. Зразумела, што ў Расеі гэта імпэрскія гульні перад выбарамі, але ўсё ж... у што гэта яны бавяцца!

Другая мая заўвага тычыцца так званых расейскіх „дэмакратаў" і дэмакратыі ў Расеі. Мне прыходзілася ўжо ня раз гаварыць і пісаць, што ніякай дэмакратыі ў Расеі няма і ня будзе. Магчыма толькі хімера, прафанацыя дэмакратыі. Расея ў прынцыпе ня можа быць дэмакратычнай краінай эўрапейскага кшталту. Дэмакратыя і імпэрыя несумяшчальныя. Расея нават па сваёй структуры – тыповая імпэрыя, ды яшчэ і з калёніямі (Сібір, Каўказ, Поўнач і г.д.). Я ўжо не кажу пра расейскую гісторыю і сьвядомасьць расейскага жыхара. Пакуль існуе Расея са сваім імпэрскім сьветапоглядам, імпэрскімі інтарэсамі і ваеннапрамысловым комплексам, свабода і незалежнасьць Беларусі і іншых суседзяў Расеі будзе пад пагрозай.




*126. Усьвядомлены пратэст.*

***Уся наша беларуская палітычная гісторыя, пачынаючы з сярэднявечча, – гэта гісторыя барацьбы з Расеяй, спачатку з Масковіяй, а потым – з імпэрыяй.*** Мы, так бы мовячы, былі з гэтай краінай заўсёды натуральнымі ворагамі, знаходзіліся ў стане вайны. Беларусь увесь час баранілася ад расейскай агрэсіі. Агрэсія, агрэсіўны падыход, захопніцкія інтарэсы – гзта пастаянны стан Расеі ў дачыненьні да Беларусі, заўсёды і па сёньняшні дзень. З гэтай рэальнасьці трэба зыходзіць, бачачы ў якія гульні яны гуляюць і думаючы пра будучыню беларускай нацыі і дзяржавы.

***Зянон ПАЗЬНЯК***

*Надрукавана: (Пагоня,– 1996, 1-7 сакавіка)*

# ПАСТАЎЦЕ КЕЛІХІ, СПАДАРЫ!

9 студзеня 1996 года закончыліся паўнамоцтвы Вярхоўнага Савету 12-га скліканьня. Нечакана трапіўшы ў апошні год існаваньня пад агонь беззаконьня, маральнага трэціраваньня і прававога самадурства з боку прэзыдэнта і яго саўдзельнікаў, гэты Вярхоўны Савет увайшоў у ролю нявіннай ахвяры ўзурпаванай ўлады. У такіх умовах шмат каму з былой агрэсіўна-намэнклятурнай большасьці 12-га Вярхоўнага Савету хочацца пагаварыць аб значнасьці свайго існаваньня, аб тым, як шмат яны „зрабілі", пра свой уклад у гісторыю і г.д.

Сапраўды, 12-ы Вярхоўны Савет увайшоў у гісторыю Беларусі, толькі не агрэсіўна-коснай большасьцю ў 320 галасоў, а дзейнасьцю нешматлікай Апазыцыі Беларускага Народнага Фронту, якая, абапіраючыся на грамадзкі рух, зрабіла немагчымае, неверагодна больш, чым увогуле можна было ў тых умовах зрабіць 25-30 дэпутатам – дамаглася незалежнасьці Беларусі, стварэньня інстытутаў незалежнай дзяржавы, адрадзіла і ўзаконіла нацыянальныя сымвалы краіны, заканадаўча вярнула хрысьціянскія сьвяты і храмы, беларускіх салдат з чужых войнаў і „гарачых кропак", спыніла дзейнасьць КПБ-КПСС, адкрыла праўду пра Чарнобыль.



*127. (1996 г.)*

У 12-м Вярхоўным Савеце, аморфным, канфармісцкім, намэнклятурна-камуністычным, Апазыцыя Беларускага Народнага Фронту была генэратарам дзяржаўных ідэяў і заканадаўчых прапановаў, выступала энэргічным рухавіком у правядзеньні іх у жыцьцё. Дэпутаты Апазыцыі распрацавалі, напісалі і прапанавалі дзясяткі праектаў законаў і сотні іншых заканадаўчых дакумантаў, распрацавалі канцэпцыю эканамічнага разьвіцьця Беларусі, праграмы рынкавых рэформаў, пераўтварэньня сельскай гаспадаркі, рэформы мясцовага самакіраваньня, адукацыйнай, фінансава-крэдытнай сфэры, стратэгічныя падыходы ў міжнароднай палітыцы (неўтралітэт, няўдзел у ваенных пагадненьнях, саюзах і блёках, паглыбленьне і пашырэньне сувязяў з Эўропай і г.д.).

Апазыцыя БНФ, ня гледзячы на шалёную антыфронтаўскую прапаганду і дзікія паводзіны намэнклятурнай большасьці, энэргічна працавала і актыўна стварала вольную, дэмакратычную, незалежную Беларусь, старалася абараніць беларускі народ ад інфляцыі, карупцыі, „прыхватызацыі".

Што ж рабіла ў гэты час агрэсіўна-намэнклятурная большасьць? Стварала? Ці, можа, ажыцьцяўляла рынкавыя рэформы, народную прыватызацыю? Будавала незалежную Беларусь, ці, можа, заканадаўча падтрымлівала беларускую культуру, ці – фінансы?

Яна разбурала і тармазіла ўсё здаровае, што зыходзіла ад Апазыцыі БНФ. Вось асноўны занятак дэпутацкай большасьці ў 12-м Вярхоўным Савеце.

Успомнім дэпутацкую групу „Беларусь" з каардынатарам Генадзем Казловым (дзе, дарэчы, цяпер гэты жвавы работнік ворганаў?), ветэранскую фракцыю „Саюз", цьвёрдых камуністаў. Гэта яны ўцягнулі Беларусь у так званую „калектыўную бясьпеку" з Расеяй (чакайце, ягадкі яшчэ на пасьпелі). Гэта яны 29 кастрычніка 1992 г., нахабна парушыўшы Канстытуцыю і закон, забаранілі і растапталі рашэньне аб рэфэрэндуме пра новыя выбары парляманту, напляваўшы на ўсё, у тым ліку і на 440 тысячаў подпісаў выбаршчыкаў-грамадзянаў Беларусі.

Гэта яны стварылі заканадаўчыя і выканаўчыя ўмовы для інфляцыі, карупцыі, прыхватызацыі, раскраданьня дзяржаўнай маёмасьці, мафіёзнай залежнасьці ад Расеі, сістэмнай і структурна-эканамічнай дэградацыі Беларусі. Гэта яны безаглядна падтрымлівалі кампрадорскую дзейнасьць кабінета Кебіча і пакрывалі велізарныя страты, нанесеныя яго дзейнасьцю нашай краіне.

Гэта яны амаль гвалтам увялі амэрыканскую прэзыдэнцкую сістэму на Беларусі і падрыхтавалі ўвесь гэты ганебны абсурд, у які трапіла наша краіна. Гэтыя людзі ніколі не шанавалі законаў, не паважалі здаровага сэнсу і не любілі Беларусь. Дык чаму ж вам цяпер не да фасону Лукашэнка, спадары? Ён жа тыповы прадстаўнік вашай большасьці, чалавек з каманды Кебіча, дух ад духу вашага, мяса ад мяса. Ён жа дзейнічае гэтаксама, як увесь час дзейнічалі вы!

„І што мы нарабілі, што нарабілі, каго абралі, што нарабілі?" – стукае сябе па галаве, спаткаўшы мяне, адзін, другі, трэці, пяты намэнклятурны дэпутат. Ня стукайце сябе па галовах, шаноўныя спадары, бо нічога ня выстукаеце. Вы ведалі, што рабілі, і ні ў чым не пакаяліся.

Гэта вы, спадары намэнклятурна-ветэранская большасьць, падтрымалі прэзыдэнцкі путч 12 красавіка 1995 году, калі ў будынак Вярхоўнага Савета былі ўведзеныя войскі, і батальён аўтаматчыкаў у масках у залі сэсіяў парляманту расправіўся з 19 дэпутатамі Апазыцыі. Падзея ўскалыхнула, уразіла ўсю Эўропу, толькі ня вас. Вы былі задаволеныя, што гэтак дзіка па-бандыцку абышліся з вашымі парляманцкімі апанэнтамі. Я памятаю вашы зьзяючыя радасныя твары, ліхаманкавыя ўсьмешкі і выкрыкі: „Правільно! Хорошо! Мало далі!"

Узбуджаныя пахам крыві і бразганьнем зброі, вы ў гэты ж дзень, парушыўшы Канстытуцыю, закон, працэдуру, рэгля-

мант, перагаласавалі ўсе не прынятыя раней пытаньні лукашэнкаўскага рэфэрэндуму і ганебна іх прынялі. У гэты ж дзень вы, насуперак патрабаваньням Апазыцыі, якая пакінула сэсію, помсьцячы элемэнтарнаму здароваму сэнсу, бяздумна ратыфікавалі самазабойчыя для Беларусі мытнае і транзітнае пагадненьні з Расеяй, падпісаныя Лукашэнкам. Страты, якія вы разам з прэзыдэнтам нанесьлі гэтым беларускай дзяржаве, складаюць каля трох мільярдаў даляраў у год (гэтая сума амаль роўная ўсяму нашаму гадавому нацыянальнаму бюджэту).

Дзеяньні Лукашэнкі (нанясеньне буйной страты дзяржаве і дзяржаўным інтарэсам) падпадаюць пад артыкулы крымінальнага кодэксу. Але ж вы ратыфікавалі іх, спадары партнамэнклятура, вы адобрылі гэтыя дзеяньні і паклапаціліся, каб галасаваньне не было паіменным!

12 красавіка вы думалі, што разам з Лукашэнкам растапталі дэпутацкую Апазыцыю БНФ. Вы растапталі сябе, спадары.

12 красавіка ўсе ўбачылі, што ніякія вы не „парлямантары" і што ніколі вы імі не былі. 12 красавіка, адобрыўшы збройнае насільле над Апазыцыяй, вы паставілі крыж на ўсіх вашых парляманцкіх ілюзіях, на ўсёй вашай квазіпарляманцкай дзейнасьці, на вашым існаваньні як праляманту. І толькі палітычна разумная дзяржаўніцкая пастава дэпутатаў Апазыцыі БНФ, якая, калі ўзьнік крызіс дачыненьняў Вярхоўнага Савету з прэзыдэнтам, думаючы пра Беларусь, пра пагрозу дыктатуры, вярнуліся і падтрымалі вас (вас, улюлюкаўшых, каб нас пазабівалі!) – толькі пастава Апазыцыі БНФ утрымала гэты Вярхоўны Савет ад заўчаснага і поўнага краху. Бо дастаткова было толькі нязначнага штуршка знутры, каб гэты Вярхоўны Савет паваліўся. А ў нас хапала сілы, каб зрабіць такі штуршок.

Спыніў існаваньне 12-ы Вярхоўны Савет. Падсумоўваючы дзейнасьць, не кажыце тосты, шаноўная большасьць, за свае посьпехі – яны ўяўныя. І за свае справы не кажыце – яны дрэнныя. Вы страцілі, ганебна змарнавалі гістарычны час. Усё, што мы маем цяпер у палітыцы і эканоміцы, уключаючы і прэзыдэнта Лукашэнку, увесь гэты развал, сорам, адсталасьць, – усё гэта ў значнай ступені справа вашых рук, вашай палітычнай дзейнасьці, спадары, партгасактыўная большасьць 12-га Вярхоўнага Савету, дзейнасьць, якая атрымала адпаведны працяг у справах вашага прэзыдэнта.

Я бачу, што для многіх гістарычная лекцыя з прэзыдэнцтвам не прайшоў дарма. Нешта зразумета, нешта дадумана, нешта перадумана. Можа, я каго незнарок пакрыўдзіў? Выбачайце. Толькі калі б паўтарылася ўсё спачатку, я ўпэўнены, вынік быў бы такі ж самы. Чаму? Ды таму, што каб не нарабіць таго, што нарабілі дэпутаты большасьці 12-га Вярхоўнага Савету, неабходна любіць Беларусь і служыць нацыянальнай ідэі. Ідэі самай неабходнай, самай канструктыўнай, самай дэмакратычнай, гуманнай і кансалідуючай, праверанай часам і гісторыяй Эўропы. ***Няма нацыі без нацыянальнай ідэі; няма і дзяржавы. Без усьведамленьня гэтых дзьвюх гуманістычных каштоўнасьцяў – нацыянальнай ідэі і любові да краіны – лепш няісьці ў палітыку.*** Вы пайшлі і ператварылі яе (палітыку) у вайну групавых інтарэсаў. У выніку прайграла нацыя. Не Апазыцыя, спадары, не Народны Фронт, а Нацыя. І вы ў тым ліку.

Зрэшты, нацыя будзе жыць. Шлях зь егіпецкай няволі да Бацькаўшчыны ляжыць праз пустыню, спадары. Ніхто яе не міне. Усё пытаньне ў тым, колькі ісьці. Вы ўжо падоўжылі гэты шлях на пяць гадоў. Пастаўце келіхі, спадары былыя намэнклятурныя дэпутаты. І калі вы нічога не зразумелі, вяртайцеся назад у Егіпет, толькі самы, можа, вас там чакаюць. А мы застанемся ў пустыні з сваім народам і пойдзем зь ім, колькі б ні прышлося трываць.

***Зянон ПАЗЬНЯК,***
***Старшыня Беларускага Народнага Фронту***
***„Адраджэньне"***

*Надрукавана: („Пагоня",–1996, 19-25 студзеня).*



***128. Сьцягі Адраджэньня.***

## Крык

*Пачуўся крык у зьсечаным лесе.*
*Я азірнуўся –*
*Прада мной доўгая вуліца:*
*Пад сонцам сьпякотным*
*Плойма народу плыве.*
*„Стойце! – пачуўся ізноў гучны крык, –*
*Куды йдзяцё?!”*
*Але ніхто не спыніўся.*
*Толькі вецер гарачы павеяў зь бялёсых нябёс,*
*І ледзь чутна зямля затрымцела.*

*1983 г.*

# ДАДАТАК

## 1988-1990

LAUDETUR JESUS CHRISTUS
СЛАВА ЕЗУСУ ХРЫСТУСУ

МЕНСК–СМАЛЕНСК № 1

# ВЕРА

Беларускі Каталіцкі часопіс 1988

Мацi Божая Вострабрамская – Заступніца і Апякунка Беларусі.
/Гэты абраз – Маці Божая "Вострабрамская" – паходзіць з XVI стагоддзя. Напачатку ён быў праваслаўным, пасьля Уніі – уніяцкім, потым каталіцкім. Сьвятыня рэлігійнай еднасьці беларускага хрысьціянства/

**Ад рэдакцыі!**

Беларусы! Мы перажываем цяжкі для Веры і Бацькаўшчыны час. Каталікоў на Беларусі вынішчаюць разам з палякамі, што зьмешвае [illegible] мову і веру, што напэўна не любілі нас хрысьціянскі народ. Не ўсе такімі былі і былі, але большасьць.

[illegible] і праваслаўе, а верхавіна яго, сьвятары – [illegible] ў [illegible] рускім шавінізме, не прызнаюць ні мовы нашай, ні гісторыі, ні будучыні.

[illegible] бюракраты і функцыянеры глушаць нашу Веру, мову і культуру, зьнішчаюць беларускія школы, разбураюць нашу гістарычную спадчыну, прыроду, лясы, рэкі, касьцёлы і цэрквы, руйнуюць нашыя святыні.

Маўчаць у такіх абставінах нельга. Трэба ратаваць духоўныя нацыянальныя каштоўнасьці, разьвіваць і праяўляць іх у нашым народзе. Народ – моцны духам і культурай. Задача нашага часопісу даваць інфармацыю пра рэлігійнае жыцьцё, рэлігійную гісторыю і рэлігійную культуру Беларусі.

**ЗВЕСТКІ ПРА ВЕРНІКАЎ**

На прэс-канферэнцыі ў Маскве 24.04.1979 г. дырэктар Інстытуту навуковага атэізму Акадэміі грамадзкіх навук пры ЦК КПСС прафесар П.Курачкін сказаў: "Сацыялагічныя абсьледаваньні, праведзеныя ў шэрагу абласьцей, раёнаў і гарадоў РСФСР, Украіны, Беларусі, Сярэдняй Азіі, Малдавіі, Прыбалтыкі паказваюць, што [illegible] вернікаў, якія больш-менш рэгулярна [illegible], [illegible], наведваюць [illegible], каля 8-10% дарослага насельніцтва".

Больш дакладныя лічбы вернікаў у СССР [illegible] у 1975 годзе [illegible] філасофскіх навук В.Лісаўскі, інструктар аддзелу прапаганды ЦК КПСС, [illegible] рэдкалегіі часопісу "Навука і рэлігія", у сваёй брашуры "Рэлігія ў [illegible] ідзе". "Паводле зьвестак, – [illegible] ў брашуры В.Лісаўскага, – атрыманых на аснове вывучэньня ўзроўню рэлігійнасьці ў цэлым шэрагу рэгіёнаў Савецкага Саюзу, можна зрабіць выснову, што пад уплывам рэлігіі ў той ці іншай ступені ў [illegible] рэгіёнах знаходзіцца амаль 25-30% дарослага насельніцтва".

Колькасьць вернікаў у сьвеце: Венгрыя – 40%, ГДР – 80%, Югаславія – 35%, Польшча – 85%, Францыя – 30-35%, Англія – 55%, ЗША – 65-70%.

На Беларусі колькасьць вернікаў /1979 г./ у вёсках – [illegible], у гарадах 20%. Найбольш вернікаў у заходніх абласьцях рэспублікі /больш за 60%/, менш у цэнтральных і усходніх абласьцях /[illegible] 26%/.

Цяпер на Беларусі 370 праваслаўных прыходаў з 383 сьвятарамі. Існуе таксама манастырская грамада ў Жыровічах [illegible], [illegible] Слоніма – 33 манахіні і 15 манахаў.

ПАЦЕРЫ КАТАЛІЦКІЯ
(Imprimatur. † Romualdus Archiepiskopus Vilnensis, Vilnae, 11. VII. 1927, Nr. 1784)

Знак крыжа сьвятога
+ У імя Айца і Сына і Духа Сьвятога. Амэн.

Малітва Гасподняя
Ойча наш, каторы ёсьць на небе.
Сьвяціся імя Тваё. Прыйдзі валадарства Тваё. Будзь воля Твая, як на небе, так і на зямлі.
Хлеба нашага штодзённага дай нам сёньня. І адпусьці нам грахі нашы, як і мы адпушчаем вінаватым нашым.
І не ўвядзі нас у спакусу, але збаў нас ад злога. Амэн.

Анёльскае прывітаньне
Прывітана будзь, Марыя, поўная ласкі, Пан з Табою, благаслаўлёная Ты між жанчынамі і благаслаўлёны плод улоньня Твайго, Езус. Сьвятая Марыя, Маці Божая, маліся за нас, грэшных, цяпер і ў часіну сьмерці нашай. Амэн.

*Д-1. „Вера". Самвыдатаўскі часопіс, падрыхтаваны ў 1987 годзе Зянонам Пазьняком і С-3*. Выдадзены на Беласточчыне ў таемнай друкарні.*

* Крыптанім не раскрываецца з увагі на рэжым у Беларусі)

# ПОМНІК ДОЙЛІДСТВА, СЬВЕДКА ГІСТОРЫІ

Тэатр імя Янкі Купалы – адзін зь нямногіх тэатральных будынкаў XIX стагоддзя, што зьберагліся на Беларусі пасьля войнаў, акупацыяў і бюракратычнага вынішчэньня культуры. Аднак і ён панёс страты. У 1958 годзе помнік быў перабудаваны (арх. А. Духан). Асабліва пацярпеў галоўны фасад тэатра – некалі найбольш цікавая ў архітэктурных адносінах і прэзэнтабельная частка пабудовы.

Будынак разьмешчаны ў гістарычнай зоне горада на паўднёва-заходнім рагу старога менскага сквера, які быў пасаджаны на месцы былой рыначнай плошчы (так званага «Новага места») у самым пачатку 70-х гадоў мінулага стагоддзя коштам і стараньнямі жыхароў горада. Зьяўленне сквера – вынік калектыўнай працы менчан пры матэрыяльнай падтрымцы гарадзкіх уладаў. Работа закончылася ў 1874 годзе, калі ў цэнтры маладога саду, на скрыжаваньні галоўных алеяў, быў пабудаваны фантан з бронзавай скульптурай хлопчыка і лебедзя. Удала размешчаны ў цэнтры горада, засаджаны цяністымі лісьцёвымі дрэвамі, сквер адразу стаў любімым месцам менчан. На ўсход ад яго знаходзіўся ансамбль «Епархіяльнага падвора» з Крыжаўзьвіжанскай царквой (разбурана ў 1930-х гг.), а вакол выраслі мураваныя будынкі па вуліцах Захар'еўскай, Петрапаўлаўскай (Даміканскай) і Падгорнай.

У 1884 годзе здарыўся пажар у старым гарадзкім тэатры на Саборным пляцы (зьнесены ў 1984 годзе). Будынак быў моцна пашкоджаны агнём. Вырашана было тэатральную залу ў ім не аднаўляць, а пабудаваць новы гарадзкі тэатр, які адпавядаў бы ўсім сацыяльным, тэхнічным і эстэтычным патрабаваням таго часу. Аднак ажыцьцявіць задуму было ня проста. Грашовыя сродкі ў горада былі невялікія, а спадзяваньні на казну, практычна, нерэальныя, бо на пабудову тэатра патрэбна было не менш 100.000 рублёў. У 1887 годзе Менская гарадзкая дума змагла выдаткаваць на пабудову толькі 5.000 рублёў.

Ідэю пабудовы тэатра падтрымала грамадзкасьць. Паколькі грамадзкая ініцыятыва ў пабудове Менскага тэатра адыгрывала не апошнюю ролю, то невыпадкова і тое, што месца для новага тэатральнага будынка было выбрана прыгожае і прадстаўнічае – той самы Навамескі сквер (пазьней названы Аляксандраўскім), незадоўга перад гэтым пасаджаны менчанамі. Неўзабаве па падпісцы сабралі суму ў 17.000 рублёў. (У Менску тады жыло 70 тысяч жыхароў). З гэтымі грашыма і пачалі будаўніцтва. Тым часам будаўнічая камісія працягвала зьбіраць сродкі і ахвяраваньні, наладжвала платныя танцавальныя вечары на карысьць тэатра і іншыя «імпрэзы».

Аднак у гэты час зьявіліся і праціўнікі пабудовы тэатра. Некаторыя рэакцыйныя таўстасумы з гарадской управы і царскія бюракраты лічылі, што новы тэатр для Менска непатрэбная раскоша, лепш выдаткаваць сродкі на іншыя, больш карысныя, на іх думку, для горада справы. Незадаволена было і епархіяльнае ведамства, з пабудовамі якога, хоць і праз сквер, павінен быў суседнічаць тэатр. Рашаючую ролю ў гэтай барацьбе адыграла тактычная чыноўніцкая хітрасць менскага губэрнатара, які са сваіх пазыцыяў таксама аказаўся гарачым прыхільнікам будаўніцтва тэатра. Будучы ў Пецярбурзе, ён дамогся ад асобаў царскай сям'і згоды прыехаць у Менск на ўрачыстасьць закладкі тэатра. Расстрыгаць стужачкі, выступаць на юбілейных урачыстасьцях, закладваць «першыя цагліны» і т. п. – усё гэта было прывычным заняткам для сваякоўцаў царскага дома. І сапраўды 26 чэрвеня 1888 года па старому стылю «іх імпэратарскія высокасці» вялікі князь Уладзімер Аляксандравіч і вялікая княгіня Марыя Паўлаўна «соблаговолили», як пісаў тагачасны гісторык, «прыбыць да месца закладкі тэатра». Пры гэтым, што цікава, протаіерэй Пятрапаўлаўскай (тагачаснай Кацярынінскай) царквы Смоліч асьвяціў месца і адслужыў маленьне з прычтам, пасля чаго «іх імпэратарскія высокасьці», апусьціўшы некалькі залатых манетак пад падмурак, «уласнаручна» паклалі над імі па цаглінцы. Потым падалі шампанскае, заіграла ваенная музыка і грымнула гучнае «ўра». Ад апазыцыі не засталося і сьледу.

Дзіўна часам назіраць, як зьмяняліся амбіцыі і рытуалы, у залежнасьці ад абставінаў. У другой палове XVII стагоддзя, калі беларускія акцёры ўпершыню прывезьлі ў Масковію тэатр, ладзілі спэктаклі, якія так уразілі цара Аляксея Міхайлавіча, маскоўскія праваслаўныя артадоксы аддавалі анафеме «бесаускія дзеі», а пасьля сьмерці цара ў 1676 г. увогуле забаранілі паказ спэктакляў. Праз 200 гадоў дастаткова было толькі прысутнасці царскіх сваякоў, каб архіерэю рускай праваслаўнай царквы ў Беларусі адмовіцца ад апазыцыі, а протаіерэю пасьвяціць рысталішча.

5 мая 1890 года па старым стылі адбылося адкрыцьцё і асьвячэньне (!) новага будынка Менскага гарадзкога тзатра, якое прайшло з надзвычайнай, нават камічнай, пышнасьцю, што сёньня ўжо нельга ўспрыняць без усьмешкі. Урачыстасьць праходзіла прынародна. Прысутнічалі ўсе чыны і ведамствы, прадстаўнікі усіх групаў насельніцтва. Напачатку той жа протаіерэй Смоліч адслужыў малебен і акрапіў сьвятой вадой усе памяшканьні і закуткі тэатра, сцэну і фае. Потым падалі шампанскае, гучалі прамовы і здравіцы, грымела «ўра», іграў аркестар ваеннай музыкі, сьпяваў хор архірэйскіх сьпевакоў. Кожнаму, хто хоць што-колечы зрабіў для пабудовы тэатра, складаліся тосты і дыфірамбы. Губэрнатар успомніў нават нябожчыка былога гарадзкога галаву нейкага Галіневіча, які першы прыйшоў да яго з выяўленьнем гарачага «сочувствия» пабудове тэатра. Пры гэтых словах хор архірэйскіх сьпевакоў засьпяваў «Вечную памяць», а аркестар грымнуў «Калі слаўны». Закончылася пампезная ўрачыстасьць тостам начальніка губэрні «за здоровье всех присутствующих и отсутствующих дам», як пісаў гісторык. Вечарам гэтага ж дня аматарскай пастаноўкай драмы Актава Фелье «Сфінкс» распачаў сваю дзейнасьць новы Менскі гарадзкі тэатр.

Грамадзкая зацікаўленасьць у пабудове тэатра і афіцыёзная падтрымка гэтай справы мелі сваё сацыяльна-палітычнае тлумачэньне. Аднадушнасьць была ўяўнай. Яна супадала ў задачах (неабходнасьць у новым будынку тэатра) і розьнілася ў мэтах – ідэйна-эстэтычным разуменьні і прызначэньні сцэнічнага мастацтва. Афіцыёзныя, вышэйшыя чыноўніцкія колы (губэрнатар і інш.) бачылі ў рускім тэатры на Беларусі перш за ўсе, сродак русіфікацыі і прапаганды імпэрскай ідэалёгіі, самадзяржаўнай маралі, сцьвярджэньне адзінай дзяржаўнай мовы – рускай – і адзінай сістэмы каштоўнасцяў – бюракратычна-памешчыцкай. Іншага чакала ад тэатра дэмакратычная грамадскасьць Менска і передавая інтэлегенцыя – гуманістычных ідэяў, ідэйна-эстэтычнай асьветы для народа, асьветніцкай місіі.

Гісторыя паказала, што надзеі рэакцыйнага чыноўніцтва цалкам не апраўдаліся. (Дакладней, апраўдаліся толькі часткова, у плане русіфікацыі). Рускі тэатр у канцы XIX – пач. XX ст. быў моцна зьвязаны з новай рускай літаратурай, з дэмакратычнымі ідэямі, з грамадзкай барацьбой і ў цэлым (у плане ідэёвым) уплываў на разуменьне і разьвіццё гэтых ідэяў у Беларусі сярод гледачоў, у першую чаргу, сярод інтэлігенцыі.

На працягу 1890-х і пачатку 1900-х гадоў менчане мелі магчымасьць бачыць на сцэне гарадзкога тэатра спэктаклі вядомых расейскіх сталічных і правінцыяльных труп, пазнаёміліся з мастацтвам вядомых рускіх акцёраў П. Арленева, М. Савінай, В. Далматава, М. Дальскага, М. Іванова-Казельскага, К. Варламава, А. Яблачкінай, П. Ленскага, В. Камісаржэўскай, М. Зьверавай і іншых. Мінчане

пазнаёміліся на сваёй сцэне з клясычнай рускай і эўрапейскай драматургіяй, з мастацтвам Парыжскага тэатра Морыса Метэрлінка і «Італьянскай опэры» Ф. Кастэляна з удзелам М. Батыстыні, горача прымалі ўкраінскія вандроўныя трупы М. Старыцкага, М. Крапіўніцкага, Д. Гайдамакі, М. Васільева-Святошанкі, Г. Дзеркача, Ф. Хмары, О. Суслава і іншых, глядзелі асноўны нацыянальны ўкраінскі рэпертуар. Выступленьні ўкраінскіх вандроўных калектываў мелі стымулюючае значэнне для аднаўленьня творчай дзейнасці беларускай нацыянальнай сцэны, якая была забаронена яшчэ ў сярэдзіне XIX ст. разам з тэатрам В. Дуніна-Марцінкевіча.

Спэктаклі ўкраінскіх труп на сцэне Менскага тэатра адбываліся з незвычайным посьпехам, карысталіся гарачай падтрымкай гледачоў. Трупа М. Старыцкага выступала ў горадзе двойчы, у 1888 г. і ў 1891 г. на новай сцэне. Янка Лучына, захоплены яе спэктаклямі, пісаў у «Менскім лістку»:

*Дзякуй вам, брацікі, сястрыцы родныя!*
*За вашы хвацкія песьні народныя,*
*За тую гутарку вашу вясковую.*
*За праўду сьветлую, за праўду новую!*

Так сцэна новага Менскага гарадзкога тэатра ўваходзіла ў гісторыю Беларускай культуры і сяброўскіх узаемаадносінаў паміж народамі.

23 красавіка 1917 года пастаноўкай «Паўлінкі» Янкі Купалы і «У зімовы вечар» Э. Ажэшкі аднавілася на сцэне Гарадзкога тэатра дзейнасць забароненага ў 1913 годзе Першага Таварыства Беларускай Драмы і Камедыі. Гэта быў сцэнічны калектыў, які заклаў падваліны будучага Беларускага Дзяржаўнага Тэатра (БДТ, потым БДТ-1, цяпер тэатр імя Янкі Купалы). Працуючы ў незвычайна цяжкіх умовах інтэрвэнцыі, акупацыі і грамадзянскай вайны, у пэрыяд частых зьменаў улады, але нязьменных варожых адносінаў да разьвіцьця беларускай культуры, Першае таварыства пад кіраўніцтвам вядомага рэжысёра і акцёра Фларыяна Ждановіча здолела за чатыры гады творчай працы стварыць сталы беларускі рэпертуар, моцную пастаянную трупу, закласці асновы беларускай акцёрскай школы прафэсійнага тэатра, выхаваць артыстаў.

Шмат чаго пабачыла сцэна Менскага гарадзкога тэатра ў той час: і выдатную ігру акцёра Антука Крыніцы (А. Ждановіча, брата Ф. Ждановіча), і першую пастаноўку купалаўскага «Раскіданага гнязда», і творчасьць любімага вучня Ф. Ждановіча акцёра Рамуальда Жакоўскага, і танцы п'яных нямецкіх фэльдфэбеляў у час спэктакля, і стрэлы ў кулісы з маўзэра некаторых нецьвярозых «таварищей», што не прызнавалі «нацыяналістаў»... Усё сплыло, нібы кашмар, а вялікае мастацтва выжыла.

14 верасьня 1920 года спэктаклем «Рысь» («У зімовы вечар») распачаў сваю дзейнасьць Беларускі Дзяржаўны Тэатр. Пачаўся новы, вышэйшы этап у нацыянальным сцэнічным мастацтве Беларусі. Пастаноўкі Еўсьцігнея Міровіча і ўвогуле творчасьць БДТ ужо ў 20-х гадах атрымлівае „ўсесаюзную" вядомасьць, а ў 1930-х – безумоўнае прызнаньне. Тэатр дасягае высокіх творчых вышыняў і становіцца адным з найбольш вядомых і сталых у СССР. На яго падмостках igралі і іграюць агульнапрызнаныя карыфеі беларускай сцэны, якія стварылі гонар усяму тэатральнаму мастацтву, рэжысёры Е. Міровіч, К. Саньнікаў, Л. Літвінаў, акцёры У. Крыловіч, Б. Платонаў, Г. Глебаў, У. Уладамірскі, П. Малчанаў, У. Дзядзюшка, Г. Грыгоніс, 3. Стома, Г. Аўсяньнікаў, Л. Ржэцкая, І. Ждановіч, В. Галіна, С. Станюта, Г. Макарава, В. Пола, К. Міронава, М. Захарэвіч і іншыя.

Перажыў тэатральны будынак ня толькі этапы разьвіцьця сцэнічнага мастацтва, але і бурныя падзеі нацыянальнай і рэвалюцыйнай гісторыі. 3 – 8 снежня 1917 г. у Гарадзкім тэатры адбыўся 2-гі зьезд арміяў Заходняга фронту. Прысутнічала 714 дэлегатаў. Яны віталі рэвалюцыю*, выбралі галоўнакамандуючага фронтам і франтавы камітэт.

28–30 снежня 1917 г. у тэатры адбыўся самы прадстаўнічы і шматлікі форум з усіх, якія адбываліся ў тыя гады ў Менску, – Усебеларускі кангрэс, альбо І Усебеларускі зьезд. У рабоце зьезда ўдзельнічала 1915 дэлегатаў, з іх 1175 з рашаючым голасам. Зьезд быў склікаhandы на аснове дэмакратычных прынцыпаў, шырока прадстаўлена было войска і ўсе асноўныя партыі і арганізацыі на Беларусі.

На зьездзе ішла размова аб самастойным дзяржаўным існаваньні Беларусі, аб суверэнных нацыянальных правах беларускага народа. Кангрэс, зыходзячы са складанасьці міжнародных абставінаў, выказаўся большасьцю за дзяржаўную аўтаномію Беларусі ў межах Расеі. Была прынята рэзалюцыя аб стварэньні воргана краёвай улады «ў абліччы Усебеларускага Савета сялянскіх, рабочых і салдацкіх дэпутатаў». Апошняе рашэньне зьезда стала прычынай і сігналам да прымяненьня супраць яго ваеннай сілы з боку бальшавіцкага Саўнаркома Заходняй вобласьці і арышту дэлегатаў.

***Зянон Пазьняк***

*Надрукавана: („Літаратура і Мастацтва",– 1988, 4 лістапада).*

# КУРОПАТЫ ПРИОТКРЫЛИ ЗАВЕСУ НАД ЕЩЕ ОДНОЙ ТАЙНОЙ СТАЛИНИЗМА

*На актуальные темы с председателем историко-просветительского общества памяти жертв сталинизма „Мартиролог Белоруси", старшим научным сотрудником Института истории АН БССР Зеноном ПОЗНЯКОМ беседует наш корреспондент Элла АГРАНОВСКАЯ.*

**– Все, что мы узнали о Курапатах, страшно и трагично. Но страшно и то, что вскоре за известием об этой белорусской трагедии пришло другое известие – о событиях в Минске 30 октября…**

– Положение, которое сложилось в Белоруссии, осознавалось людьми. Одними глубже, другими в общих чертах. Но люди-то понимали, что оно совершенно ненормальное – нет национальных школ, из государственной сферы вытеснен национальный язык, национальную историю не изучают и не знают ее, оскорбляют культуру, уничтожают памятники. Конечно, народ в Белоруссии трудолюбивый. Но сколько бы человек ни работал, он все же задает себе вопрос: куда деваются результаты его труда, почему он работает много, а получает мало? Так вот, эмоциональным ответом на эти вопросы явилась публикация правды о Куропатах. Это известие было подобно разорвавшейся бомбе.

**– Это вы раскопали эту правду?**

– Так сложилось судьба: я жил там, неподадеку, еще в 70-х годах. Вместе с коллегой Евгением Шмыгалевым мы разговаривали со стариками, и они рассказывали нам, как всё было, показывали место расстрелов. Но тогда говорить, писать об этом было невозможно.

* Маецца на ўвазе бальшавіцкі пераварот 7.XI.1917 г. *(Рэд.)*

Это было время реабилитации Сталина, борьба с так называемыми диссидентами, с национализмом и прочее. Ну, и молчать было невмоготу, потому что умирали свидетели, а вместе с ними умирала и память о преступлении. Жить с таким грузом, с чувством бессилия было очень трудно. Но сказать обо всем стало возможно лишь накануне XIX партконференции – раньше чиновники не пустили бы это в печать. Да и позже тоже.

**– Но ведь это огромная исследовательская работа.**

– Сначала были опрошены свидетели. Мы со Шмыгалевым опросили десятки людей в разных деревнях вокруг Куропат. Потом были сделаны археологические раскопки: поскольку я археолог, это не представляло труда. Сразу же выяснилось, что могилы после войны, в 40-х годах, кто-то раскапывал, трупы изъяты. Это был страшный психологический удар, ведь следы заметены. То есть свидетели говорят одно, а в могилах пусто. Для всей нашей группы это был просто шок. Помог случай. Потом путем рассуждений я бы сам пришел к этому, но случай помог в тот же день. Мальчишки играли в войну, и в одной из могил рыли себе землянку. Мы делали раскоп глубиной до полутора метров, и ничего не нашли – чистая земля. В то же время из показаний свидетелей нам было известно, что ямы убийцы наполняли трупами доверху и присыпали слоем песка толщиной сантиметров двадцать. Стало понятно, почему могилы выглядели полузасыпанными ямами: трупы вырыли, песка не хватало. Ну, а мальчишки эти докопали где-то на глубину до 2 метров и наткнулись на штабель человеческих костей. Тогда уже мы вместе довершили этот раскоп, и выяснилось, что глубина могил была до трех метров. Видно, те, которые заметали следы, просто не додумались до этого и поленились копать глубже. Нашли мы тогда и гильзы от советских наганов, и пули, и расчески, и галоши советские с маркировкой 37-го года.

После этого и была подготовлена статья в еженедельнике „Літаратура і мастацтва”. Сначала ее несколько раз снимал наш ЦК партии. Редакции „выламывали” руки, но сотрудники возмутились, ведь то, что они прочитали, касалось судьбы каждого из нас и совести каждого из нас. Люди поняли, что здесь поставлена на карту не только их собственная честь, но и честь всей нации. Встали все до единого – от редактора до уборщицы – или статья будет напечатана, или они примут самые крайние меры, вплоть до обращения на партконференцию*. Пришлось уступить. Правда, сделали купюры, но все же статья вышла. Повторю, это действительно было подобно взрыву бомбы. Ведь до того было лишь известно, что в Белоруссии во времена Сталина было уничтожено приблизительно 75 тысяч коммунистов, половина партийной организации. Среди них было много невинных людей, но сколько было бандитов, которые сами принимали участие в расстрелах!

Однако кто же были те миллионы уничтоженных белорусов? Те миллионы и были вот эти крестьяне, вот эти безвинные жертвы, которые массово уничтожались. Как их уничтожали, окончательно никто не знал. Где их трупы? Это же люди! Куда они делись, ведь тогда еще не было крематориев. Куропаты приоткрыли завесу над этой тайной сталинизма. Они впервые показали миру, что это был геноцид, запланированное уничтожение народа. В Куропатах, судя по найденным приметам, лежит простой народ – крестьяне, рабочие, сельская интеллигенция. И свидетели подтверждают, как хватали людей в деревнях, как приезжали „черные вороны” и забирали их. Исполнялся план: приехали в соседнюю деревню Зеленовка, и за одну ночь забрали 25 мужиков, и все они как в воду канули.

**– Читая об этом и ужасаясь этой трагедии, я все время думаю еще о том, как люди жили с грузом этой памяти, этого знания. Ведь они только сейчас начали говорить! Ведь столько времени они молчали. Знали и молчали. Это же такое психологическое бремя.**

– Они и сейчас еще многие говорят шепотом. Боятся.

**– И ведь это тоже совершенно неисследованное явление, правда?**

– Ужас сталинизма не поддавался осмыслению нормальной человеческой психикой. В нем было что-то сатанинское. Этот ужас вызывал мистический страх. И потом, люди ведь жили в системе рабства. Это особые отношения, ибо раб – неинициативный, безвольный человек. Возьмем 30-е годы – рождение колхозов. Возвратили крепостное право в новых социальных условиях, только гораздо более жестокое: человек стал более бесправен, он больше подвергался унижению. Люди-рабы без паспортов в тотальной паспортной системе полностью зависели от тех, кто в любой момент мог отправить их на тот свет. Они работали и не получали за это ни копейки. У крестьянина отобрали все – и землю, и скот, и свободу, и достоинство. Не отработаешь трудодни – не дадут лошадь обработать приусадебный участок или же не разрешат привезти дрова из лесу. И человек вынужден был работать даром, чтобы отопить избу или обработать участок. А кроме того, с этого же участка еще платили налоги. И если в других местах был страшный голод и люди умирали – в Поволжье, на Украине, – то крестьянин-белорус, благодаря своей покладистости и трудолюбию, тянул новое ярмо, как-то перебивался. Голодал, но с голода не погибал. И для меня по сей день удивительно, как могли эти люди выжить.

Я вспоминаю рассказ одной женщины, белоруски, приехавшей из Австралии. Со своими детьми она попала к немцам в лагерь. Колючей проволокой огородили участок, пулеметы поставили, загнали людей, как скот, и держали там. На день бросали им, как курам, горсть зерна – больше ничего не давали. Люди умирали, как мухи. Особенно итальянцы, французы – они, цивилизованные люди, не знали, что делать с этим зерном, бросали по одному зернышку в рот и гибли от голода. А эта женщина выжила: терла зерна между камнями, какой-то травы, коры добавляла, коренья и делала лепешки – человек боролся за жизнь, как только мог! И своих детей спасла. Слушая такие рассказы, я вижу в нашем народе огромную жизненную силу. Чего бы его ни лишали, кроме жизни, он все равно выживет и пробьется.

Сталинский коммунизм физически уничтожал нас как нацию, как этнос. В результате наших археологических исследований и выборочной эксгумации могил, проведенной совместно с Прокуратурой БССР, сделано заключение, что в среднем только в одних Курапатах было расстреляно четверть миллиона человек. Но выяснилось, что такие душебойки, как Курапаты, были вокруг каждого города в Белоруссии. Только в Минске нами найдено шесть таких мест. Теперь становится ясно, почему в 20-м году население Белоруссии насчитывало 12 миллионов человек, а перед войной, в 40-м, 9 миллионов 200 тысяч. Куда делись 2 миллиона 800 тысяч? Ведь территория была уже, практически, та же самая – к 40-му году западные земли Белоруссии были возвращены. Наши историки предпологают, что от сталинизма пострадал каждый четвертый белорус.

**– Как от фашизма.**

– И уничтожались лучшие – крестьяне, которые умели работать, интеллигенция, ученые, писатели, учителя, – цвет нации. Стали-

* Трэба ведаць звычкі і атмасфэру тых часоў. Зварот калектыву „партайгэнос-сэ” на кан’юнктурную 19-ю партканфэрэнцыю КПСС у Маскву мог бы мець непрадбачаныя і нечаканыя вынікі для мясцовага партыйнага начальства. Дарэчы, аўтар гэтых радкоў таксама скарыстаў тую „кан’юнктуру” і нэрвовую няпэўнасьць беларускага камуністычнага кіраўніцтва, каб надрукаваць артыкул пра Курапаты. (*З.П.*).

низм себя проявил как враг всякой культуры, система сознательно вела к понижению культуры, уничтожала лучшее, что дает жизнь.

**– Зенон Станиславович, сдерживая информацию о Куропатах, чем можно было это мотивировать? Что возможно возразить этой страшной, пронзительной правде?**

– Возрозить? Возрозить невозможно. Но можно употребить испытанное оружие бюрократии – ложь, дезинформацию. Например, один партийный деятель выступает и говорит, что „Позняк сделал грязное дело", потому что здесь, дескать, „расстреляно 38 тысяч немецких офицеров". Человек взял с потолка форменную чушь и публично сообщил ее на митинге десяткам тысяч людей. Потом все выяснилось. Но человек, который солгал от имени партийного аппарата, не несет никакой ответственности, даже моральной. История показывает, что бюрократия не имеет морали. Это такая структура, которая аморальна сама по себе.

**– А если по существу этой лжи?**

– Если по существу, 38 тысяч офицеров не было взято в плен на протяжении всей Второй мировой войны. Во-вторых, после Гаагской конференции 42-го года ни немцы, ни большевики не расстреливали пленных офицеров. Ложь эта кощунственна, и даже трудно подыскать ей определение. Тем более, что живы еще 229 свидетелей, которые знают о Куропатах. Есть свидетели, которые видели все от начала до конца, которые каждый день созерцали, как въезжали эти машины со смертниками за ограду, иногда по 16 машин в день, как люди кричали, как женщины плакали, как молились Богу, как спрашивали „за что?", как хлопали выстрелы. Они все это видели и слышали каждый день. И при этом аппаратчики осмелились лгать.

Аппарат у нас старается столкнуть общество лбами – и на национальной основе, и на социальной, но ничего не удается. И не получится. У нас они не создадут Интердвижение. По крайней мере, в ближайшее время. Здесь нет достаточно серьезных общественных конфликтов белорусов с русскими, евреями или другими группами национальных меншинств.

**– В общем, полная межнациональная идилия?**

– Идилия здесь ни при чем. Национальное возрождение Белоруссии из сталинского небытия начинается как глубоко демократическое движение, ставящее целью интегрировать в него все национальные меншинства. У нас есть возможность не повторить ошибок других в возрождении нашего общего белорусского Дома. Существуют возможности для осуществления этой благородной консолидирующей идеи национального возрождения и суверенитета. Нужны работа, выдержка, солидарность и время. Увы, время для нас категория значительно более объективная, чем в Эстонии. Но когда это время созреет, я уверен, и эстонцы, и белорусы, и литовцы, и латыши гораздо глубже осознают общность нашей исторической перспективы и общность судьбы.

**– Значит, вы настаиваете на том, что национальные меншинства в вашей республике сегодня никак не страдают?**

– В нашей республике страдают все. Рубеж противостояния пролег между обществом и аппаратом, который опирается, в основном, на милицию; запрещаются все митинги, подавляются все независимые общественные движения.

**– Но разве в наших сегодняшних условиях это возможно запретить?**

– Не только запретить, но возможно пустить в ход пожарные и милицейские машины, водометы, дубинки, газы. Но, заметьте, даже милиция уже не так слепо покорна. Армия живет в казарме, она изолирована, а милиционеры ведь живут среди людей и знают нужды этих людей. Я видел, как курсанты, которые были вынуждены разгонять митинг-реквием 30 октября в Минске, стыдились этого. Люди стояли на коленях, а они по головам пошли – сапогами по детям, по женщинам. Ведь нужно какой-то человеческий барьер в себе преодолеть. Потому те, кто, обладая властью, считает, что все дозволено, не должны владеть этой властью. Ясно, что в основе всего – бюрократическая* система. Но система управляется определенными людьми. Для бюрократической системы экстремизм – обычное явление. Это ее внутренняя закономерность. Крайнее выражение такого экстремизма – сталинизм, сталинские репресии. Сегодня он выражается по-разному. То, что случилось в Тбилиси, – это не нонсенс, это выражение внутренней сущности системы. Она всегда была такой, ничуть не изменилась. Изменились мы – общество. Те люди, которые потерпели, которые вырастают, которые внутренне свободны. Это мы выходим из-под гипноза социальной болезни, которая появилась в 30-х. А они – нет. Осталась та же структура, те же антиценности, те же методы. Наоборот, система еще более усовершенствовалась и даже может позволить себе действия, подобные тем, что были в Тбилиси.

**– Следовательно, рассчитывать на то, что кадровые изменения могут принести какой-то успех, не приходится. Значит, они не нужны, так?**

– Нет, нужны. Это необходимый этап. Если на место нынешнего придет такой же аппаратчик, он не будет иметь комплекса того, что уже натворил. Те, кто наделал много гадостей, должны ведь давать задний ход, признавать ошибки. Для них это невозможно, не та психология, не те правила поведения. Если же придут новые управленцы, они будут распологать возможностью маневра. Это дает надежду, что демократия продвинется хотя бы на один шаг.

**– Насколько мы здесь у себя располагаем информацией, Народный Фронт Белоруссии не поддерживается и не признается республиканскими властями. Но насколько поддерживается он своим народом? Насколько болеет его болями?**

– Народный Фронт Белоруссии поставил задачу – объединить всех для достижения трех основных задач: демократизация общества, ликвидация бюрократической системы и возрождение нации на демократической основе. Но в официальной печати иначе не пишут, как „так называемый Белорусский Народный Фронт". Только после поражения на выборах в Минске перестали делать вид, что ничего подобного в природе не существует. Хотя в природе уже существовали около 500 групп поддержки, а в движении участвовали тысячи человек. Народный Фронт расширяется, приобретает опыт и не даст себя спровоцировать.

**– Вы имеете в виду события 30 октября прошлого года?**

– Не только. Все митинги, все общественные начинания были запрещены. Наступило 26 апреля – третья годовщина чернобыльской трагедии. Вы знаете, наверное, что Чернобыль – это, прежде всего, трагедия Белоруссии. Чернобыльская станция в пяти километрах от белорусской границы, на протяжении недели на нас шли ветры, захватив всю территорию республики. Но самое страшное, что в Могилевской области позже расстреливали и осаждали стронциево-цезиевые облака, которые шли на Москву. Сейчас в Могилевской области радиация выше, чем в чернобыльской зоне. Местами от 45 до 100 кюри на квадратный километр (при допустимом пороге 15 кюри). Там нельзя жить и нельзя обрабатывать ту землю.

Но там живут и обрабатывают, и кормят детей и нас всех. Никакой серьезной последовательной медицинской помощи, в сущности, нет. Это профанация, нет даже необходимых медицинских

* Эўфемізм слова „коммунистическая" (гэты эўфемізм ужываўся да сярэдзіны 1989 г. – *З.П.*).

приборов. Три года об этом говорим, но до сегодняшнего дня нет индивидуальных дозиметров. Учитывая позицию Народного Фронта, руководители были вынуждены разрешить опубликовать некоторые карты радиационной зараженности. Это через три года! Но действительное состояние дел скрыто от общественности республики. Десятки тысяч детей болеют лейкемией, не говоря уже о прочих болезнях, связанных с понижением иммунитета вследствие радиационного воздействия. Но даже детей, которые скоро начнут умирать, никуда не вывозят.

Сейчас Народный Фронт ставит задачу: на лето вывезти хотя бы тысячу наших детей в другие республики. Уже организован Комитет*, который ведет переговоры для того, чтобы их приняли. Об этом общественность информирована слабо, но все же знает. Так вот, 26 апреля, в годовщину Чернобыльской трагедии, Народный Фронт решил провести на площади Ленина перед Домом правительства в Минске „Час скорби и молчания". Не митинг, а час скорби и молчания. То есть только постоять со свечами и помолчать. Народный Фронт дал заявку, Горисполком, как обычно, запретил, но зато издал спешное постановление, что в глухом лесопарке на краю заводского района выделена площадка для митингов – дескать, идите туда, стойте и молчите. Но смысл был провести этот час скорби именно перед Домом правительства, которое скрыло и скрывает от народа действительную опасность. В 1986 году не отменили даже Первомайскую демонстрацию в Гомеле, не предприняли минимальных мер заботы о населении вне формальной зоны заражения, ну хоть бы объявили, чтобы форточки в домах закрывали, чтобы детей на улицу не пускали и т.п. Я уже не говорю о препаратах йодистого калия, которых не было. Потом удалось установить, что детям сановной бюрократии эти таблетки все же давали. Что поделаешь, спецснабжение, привилегии... Какая низость!

В лесопарке аппаратчики спешно организовали официальный митинг. Наши же объявления, расклеенные по городу, срывались. Поэтому на площадь пришло всего тысяч десять – с черными знаменами, с черными хоругвями, на которых был знак радиации и названия городов, которые ей подверглись. Когда люди стали стекаться, милиция была уже наготове, во дворах стояли машины с решетками. Подвезли духовой оркестр, он тут же стал трубить. Никто не обращал на это внимания. Люди были молчаливы, сосредоточены. Но, наверное, поступило какое-то указание (мы предупредили телеграммами Москву) – милиция вела себя корректно; по мегафону даже объявили, мол, не беспокойтесь, провокаций со стороны милиции не будет. И разрешили пройти на площадь. Все собрались в центре. Два человека взяли колокол на черной ленте с надписью „Чернобыль". Зажгли свечи. Было сказано несколько слов. И на протяжении часа молча стояли все эти десять тысяч. Каждые пять – семь секунд – удар колокола. Когда все закончилось, люди тихо прошли с площади на проспект, свернули хоругви и разошлись**.

**– В прессе было что-нибудь об этом?**

– Было. Только сначала в центральной. А наши две молодежные газеты, русская и белорусская, дали обширную информацию о митинге в лесопарке, проиилюстрировав ее фотографиями, сделанными... на площади Ленина. Мало того, что они информацию сокрыли, так еще и извратили ее. Какая-то люмпен-психология.

**– А что было на официальном митинге?**

– Рассказывают, он тоже прошел неплохо. Правда, сначала по бумажкам читали вещи известные, затертые. А потом очень критически выступили несколько ученых. Люди начали говорить нежелательное властям – о том, что обманывают народ, что нет информации и так далее. В общем, устроители элементарно просчитались. По-видимому, они полагали, что от радиации может умереть только Народный Фронт. Увы! Смертны все, не спасут и спецкормушки. Но бюрократия прежде всего и всегда думает о себе. Если на карту будет поставлена жизнь народа и минимальные интересы бюрократии, она, не колеблясь, будет спасать свои интересы. Это особенно ярко показал Чернобыль. Но примеров множество, их бессчетное количество. Разве народ это не понимает?

Иногда кажется, что мы живем в каком-то фантастическом театре абсурда, где „Кафка становится былью". Кто бы мог предположить, что во время скорбной медитации тысяч людей и чернобыльского молчания на площади народ старательно снимали всякие „органы". Потом завели „дела" и посыпались повестки в милицию Московского района, и начались массовые допросы, и писание протоколов, и угрозы и т.п. Даже спецкора журнала „Дружба народов", известного писателя-публициста Евгения Будинаса, вызвали повесткой (молчал на площади). Будинас – человек любознательный, приехал. „Откуда узнал о мероприятии?", „Как очутился на площади?" – допрашивал „товарищ"-капитан.

– „Где взял свечу?", „Откуда спички?", „Имеется ли у вас жена?" (Надо же. Кстати, жена у Будинаса „имеется".) Впрочем, для Минска это уже банальщина. В городе Бобруйске, где также состоялся „Час скорби и молчания", участников его пытались арестовать, оскорбили девушку, избили юношу за то, что те фотографировали скорбящих.

Сейчас в Минске готовится совершенно необычный аттракцион – процесс над участниками Первомайской демонстрации за участие... в этой демонстрации. Уже готовы фотографии демонстрантов, в массовом порядке разосланы повестки, ведутся допросы, строчат протоколы. Суть в том, что в демонстрации участвовала отдельная колонна Народного Фронта. При этом горисполком колонну „запретил", Совет Министров – „разрешил", а „штаб" демонстрации (он же горком партии), когда все собрались, снова „запретил", даже выстроил доблестные ряды милиции, преградив путь к родному правительству. Пришлось идти в обратном направлении – через город в Курапаты. Так уж получается неоднократно, что там, где сталинщина, – дорога одна, в Курапаты. Символическая традиция.

**– Вы убеждены, что этот „прцесс"состоится?**

– „Процесс" срывают судьи. Не решаются брать „дело" к производству. Не знаю, или с непривычки, или еще не „перестроились", как надо. Вопрос решается в „высших инстанциях".

**– Ваш рассказ подобен страшному сну. Хочется очнуться, чтобы убедиться: это наваждение.**

– Я почти не сомневаюсь, что в Эстонии не поверят в эту реальность. И напрасно. Сталинизм сам по себе абсурд, тем более, в реликтовом состоянии, в каком он сохранился в БССР. Все это, должен сказать, стимулирует чувство юмора у наших сограждан (национальная особенность). Но при всем при этом не следует забывать, что этот „неореликтовый" сталинизм умеет убивать не хуже „классического", даром, что дубиной и саперной лопатой. Поэтому отнесемся к нему серьезно.

*Минск-Таллинн*

*Надрукавана: („Молодежь Эстонии",– 1989, 20 мая)*

---

* Маецца на ўвазе Камітэт „Дзеці Чарнобыля". (*З.П.*).

** „Гадзіна смутку і маўчаньня" зрабіла незвычайна моцнае ўражаньне на менчан. Людзі былі ўзрушаныя і салідарныя з Фронтам. (*З.П.*).

„Автозаводец", 24 февраля 1990 г. № 40 (7110)

# Чалавек, які не баіцца сістэмы

## Зянон Станіслававіч Пазняк балаціруецца ў народныя дэпутаты БССР па Ангарскай выбарчай акрузе № 9

ІМЯ гэтага чалавека сёння ведаюць многія. Яго вымаўляюць побач з назваю Курапаты — месцам жудасных злачынстваў сталіншчыны, дзе каты ў форме НКУС знішчылі па падліках З. С. Пазняка каля чвэрці мільёна сваіх ахвяраў. Ён здолеў сказаць гэтую страшную праўду Беларусі і ўсяму чалавецтву.

Зянон Станіслававіч Пазняк нарадзіўся ў передапошні год вайны. Тады ж, у 1944-м пайшоў на фронт і загінуў яго бацька. За пяць гадоў да гэтага, яшчэ ў 1939-м, быў закатаваны ў сталінскіх засценках Зянонаў дзед Ян, адзін з актыўных дзеячоў беларускага нацыянальнага руху ў Заходняй Беларусі.

Зянон — археолаг, кандыдат мастацтвазнаўства, старшы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі Акадэміі навук БССР. Ён — аўтар кнігі «Рэха даўняга часу», найлепшай, на наш погляд, кнігі пра старадаўнюю менскую архітэктуру. Камусьці можа здацца, што, як бы прабачаючы за трагічную долю дзеда і бацькі, лёс спрыяў унуку... Але блізкія Зянона Пазняка ведаюць, чаго каштавала яму кожная прыступка яго грамадскага і творчага ўзыходжання. У час студэнцтва яго, неўтаймоўнага змагара за справядлівасць, двойчы выключалі з інстытута. Сваю дысертацыю па гісторыі беларускага тэатру ён вымушаны быў абараняць у Ленінградзе: рыцеры застойнага часу пазбавілі яго магчымасці зрабіць гэта на Беларусі.

У 70-я гады ён быў сярод прадстаўнікоў беларускай інтэлігенцыі, якія ў тагачаснай задушлівай атмасферы мужна паднялі свае галасы супроць мэтанакіраванага знішчэння нацыянальнай культуры, супроць дыскрымінацыі нашай мовы і фальсіфікацыі гісторыі. Тыя, хто трымаў у сваіх руках уладу над падманутым народам, адпомсцілі Пазняку ганеннямі, выгнаннем з працы, пагрозамі.

Калі гуляеце па ўтульных вулачках Траецкага прадмесця, успомніце добрым словам Зянона Пазняка. Гэта ён з нешматлікімі тады прыхільнікамі бараніў помнікі старажытнага Менска і гатовы быў легчы пад бульдозеры, якімі пад сцягам псеўдаінтэрнацыянал і з м у руйнавалі нашы нацыянальныя святыні сучасныя герастраты.

Ён — адзін з арганізатараў рэспубліканскага гістарычна - асветніцкага таварыства памяці ахвяраў сталінізму «Мартыралог Беларусі» і Беларускага народнага фронту за перабудову «Адраджэнне». На першым з'ездзе БНФ Зянон Пазняк быў абраны яго старшынёй.

БНФ дагэтуль не зарэгістраваны, не мае ні памяшкання, ні статуса юрыдычнай асобы. Але, нягледзячы на неспрыяльныя ўмовы, Фронт паспеў ужо нямала зрабіць і ў першую чаргу — сарваць заслону сакрэтнасці з Чарнобыльскай трагедыі, прымусіць вырашаць гэтую праблему як праблему фізічнага выжывання беларускай нацыі. БНФ бу-

### Слова кандыдату

МАЯ праграма — парламентская барацьба за рэальны суверэнітэт Беларусі на аснове яе поўнай эканамічнай самастойнасці.

Хачу падкрэсліць першачарговую важнасць прыняцця законаў пра ўласнасць і пра зямлю, неабходнасць скасавання 6-га артыкула Канстытуцыі БССР аб кіруючай ролі КПСС. Я выступаю за дэмантаж сістэмы партыйна - дэмакратычнай наменклатуры з усімі яе прывілеямі, за свабоду ўтварэння і дзейнасці розных партый і незалежных прафсаюзаў.

Вялікае месца ў маёй перадвыбарчай праграме займае праблема выратавання насельніцтва рэспублікі ад радыяцыйнай небяспекі. Расцэньваючы трохгадовае ўтойванне праўды пра Чарнобыль як злачынства супроць чалавецтва, буду патрабаваць прыцягнуць вінаватых у гэтым кіруючых асобаў да крымінальнай адказнасці. Лічу, што ўлады СССР павінны тэрмінова кампенсаваць Беларусі звязаныя з катастрофай страты.

Патрэбны сацыяльныя гарантыі для найменш забяспечаных слаёў насельніцтва.

Лічу, што трэба скараціць тэрмін вайсковай службы і даць грамадзянам Беларусі права адбываць вайсковы абавязак на тэрыторыі рэспублікі.

Я — за дэідэалагізацыю і дэмілітарызацыю адукацыі, за выратаванне і адраджэнне нашай роднай мовы, за вызваленне рэлігіі ад партыйна-дзяржаўнага дыктату.



дзіць людзей ад палітычнага сну, рыхтуе рэальныя ўмовы для пераходу ўлады ў Беларусі ў рукі самога народа. Ва ўсе справы Фронту ўкладзена энергія і праца З. Пазняка.

Яго грамадская дзейнасць выклікала шалёную нянавісць ворагаў дэмакрытызацыі. Кожны з нас памятае, колькі беспардоннае хлусні і бруду вылілі на яго пасля стварэння «Мартыралогу Беларусі». Цяпер тыя, хто не зможа існаваць у чыстым паветры сапраўднае галоснасці, усімі сіламі імкнуцца не дапусціць абрання Зянона Пазняка ў народныя дэпутаты. Ужо ёсць факты, калі ў час яго сустрэчы з выбаршчыкамі пашыраюцца правакацыйныя аркушоўкі, дзе Пазняка і іншых лідэраў БНФ беспадстаўна абвінавачваюць не толькі ў спробах развaліць эканоміку і распаліць нацыянальную варожасць, але і ў імкненні аднавіць эксплуатацыю чалавека чалавекам і нават у закліках да захопу ўлады шляхам ваеннага перавароту. Ананімныя аўтары гэтых фальшывак, якія падпісваюцца як «группа неформальных сторонников перестройки», не саромеюцца зневажаць і памяць знішчанага сталіністамі Яна Пазняка.

Мяркуем, што выбаршчыкі разбяруцца, хто кажа праўду: «неформальные перестройщики», што баяцца назваць свае імёны, або Зянон Пазняк.

Як сказаў пра яго Васіль Быкаў, «Зянон Пазняк — гэта чалавек, які не баіцца сістэмы». Хочацца дадаць, што ён не толькі не баіцца яе, але і актыўна працуе дзеля таго, каб не бяздушная адміністрацыйна - камандная сістэма, а сам народ вырашаў свой лёс. Дык будзем жа верыць словам Васіля Быкава.

**Уладзімір АРЛОЎ,**
член Саюза пісьменнікаў СССР.

**Юрый ДРАКАХРУСТ,**
кандыдат фізіка - матэматычных навук, супрацоўнік Інстытута матэматыкі Акадэміі навук БССР.

*Д-2. („Автозаводец”, – 1990, 24 февраля).*

„Навіны БНФ..." 2'1990 23 красавіка

# СУМЕСНАЯ ПАЛІТЫЧНАЯ ЗАЯВА ГРУПЫ ДЭПУТАТАЎ ВЯРХОЎНАГА САВЕТУ ЛІТОЎСКАЙ РЭСПУБЛІКІ АД ЛІТОЎСКАГА РУХУ ЗА ПЕРАБУДОВУ "САЮДЗІС" І ДЭЛЕГАЦЫІ БЕЛАРУСКАГА НАРОДНАГА ФРОНТУ „АДРАДЖЭНЬНЕ"

Зважаючы на тое, што 11-га сакавіка 1990 г. Вярхоўны Савет Літвы абвясьціў аднаўленьне Літоўскай дзяржаўнасьці;

што кіраўніцтва СССР ігнаруе ўніверсальнае права нацыяў на самавызначэньне;

што яно выкарыстоўвае ў дачыненьні да Літвы сродкі ваеннага і палітычнага націску, у тым ліку сілу дзеля захопу жыхароў Літвы і грамадзкіх будынкаў, а таксама пагрозу тэрытарыяльнай цэласнасьці Літвы, ігнаруючы Гельсінскі прынцып недапушчальнасьці гвалтоўнай зьмены дзяржаўных межаў;

што Прэзідыум Вярхоўнага Савету БССР 29-га сакавіка 1990 г. запатрабаваў Вільню і прылеглыя тэрыторыі Літоўскай Рэспублікі;

што на Беларусі яшчэ пануе каманда-ва–адміністрацыйная сістэма, якая абапіраецца на манаполь улады КПСС;

што на Беларусі пашыраецца ўсенародны рух за правы чалавека і нацыі, за дэмакратыю і дзяржаўную незалежнасьць;

што ў Вярхоўным Савеце БССР сфармавалася група дэпутатаў, якая стаіць на платформе Беларускага Народнага Фронту, а дэпутаты ад "Саюдзіса" ў Вярхоўным Савеце Літвы здабылі большасьць;

што народы Літвы і Беларусі на працягу стагодзьдзяў мелі гістарычна–палітычныя, этнакультурныя, эканамічныя сувязі і традыцыі мірнага сужыцьця;

што горад Вільня ад часоў Вялікага княства Літоўскага быў палітычным і культурным цэнтрам абодвух народаў;

што Віленскі рэгіён з даўных часоў быў зонай пражываньня і этнічных кантактаў беларусаў і літоўцаў;

што жыхары Віленскага рэгіёну па-абапал сучаснай мяжы між Літвой і Беларусьсю адчувалі і адчуваюць цяжкасьці ў акрэсьленьні і захаваньні сваёй нацыянальнай прыналежнасьці з прычыны паланізацыі і русіфікацыі, якая праводзілася доўгі час у мінулым;

што трэцця сілы неаднойчы спрабавалі выкарыстаць асаблівасьці Віленскага рэгіёну у сваіх інтарэсах, што стварыла зону палітычнай напружанасьці і нестабільнасьці ня толькі тут, але і ў маштабе Цэнтральнай Еўропы;

што менавіта такія дзеяньні, якія правакуюць сёньня стварэньне крыніцы напружанасьці ў гэтым рэгіёне, могуць узбудзіць міжнацыянальныя канфлікты і стаць нагодай ваеннага ўмяшальніцтва;

што БНФ "Адраджэньне" 3-га сакавіка 1990 г. ацаніў заяву Прэзідыуму Вярхоўнага Савету БССР як палітычны шантаж у адносінах да Літоўскай Рэспублікі –

## ЗАЯЎЛЯЕМ:

1. Спробы блакіраваць рэалізацыю права на самавызначэньне накіраваныя супраць правоў і жыцьцёвых інтарэсаў усіх народаў СССР.

Прад'яўленьне тэрытарыяльных патрабаваньняў можа нанесьці паважную шкоду стабільнасьці палітычных працэсаў у Цэнтральнай Еўропе.

2. Камуністычнае кіраўніцтва як былой Літоўскай ССР, гэтак і Беларускай ССР ня толькі не вырашыла сьпецыфічныя этнамоўныя, сацыяльна–эканамічныя ды іншыя праблемы Віленскага рэгіёну, але яшчэ і паглыбіла іх. Гістарычныя персьпектывы літоўскага і беларускага народаў на гэтых тэрыторыях Літвы і Беларусі павінны быць заканадаўча гарантаваныя з абодвух бакоў. Такія гарантыі ў поўнай меры могуць забясьпечыць толькі суверэнныя і дэмакратычныя дзяржавы Літвы і Беларусі.

3. У сістэме гарантыяў нацыянальным групам а абодвух бакоў мэтазгодна прадугледзець стварэньне і падтрымку школаў, друку, радыё– і тэлепраграмаў, нацыянальна– культурных цэнтраў і таварыстваў. Для гэтай мэты неабходна стварыць зьмешаныя экспертныя камісіі, заснаваць літоўска–беларускае і беларуска–літоўскае культурныя таварыствы, сумесныя перыядычныя выданьні.

4. Абодва бакі павінны паклапаціцца, каб новая палітычная сітуацыя ў Літве і пазіцыя кіраўніцтва Беларускай ССР не пашкодзілі эканамічным, культурна–палітычным дачыненьням паміж літоўскім і беларускім народам і каб новыя магчымасьці выкарыстоўваліся ў поўнай меры дзеля дабра абодвух народаў.

| | |
|---|---|
| Ад "Саюдзіса": | Ад БНФ "Адраджэньне": |
| *В.Чапайціс,* | *З.Пазьняк,* |
| *Г.Ілгунас,* | *А.Трусаў,* |
| *А.Шыменас,* | *В.Голубеў,* |
| *В.Павілёніс,* | *Ю.Хадыка,* |
| *Г.Сангайла.* | *А.Марачкін,* |
| | *В.Вячорка.* |



**Вільня, 14 красавіка. Фота Уладзімера Кармілкіна.**

*Д-3. („Навіны БНФ", –1990, 23 красавіка).*

„Вечерний Минск", 21. III. 90 г.

**РЕШЕНИЕ ИСПОЛКОМА МИНСКОГО ГОРОДСКОГО СОВЕТА НАРОДНЫХ ДЕПУТАТОВ ОТ 20 МАРТА 1990 Г.**

# О ЗАЯВЛЕНИИ граждан Позняка З. С., Ходыко Ю. В. и Марочкина А. А.

Исполком Минского городского Совета народных депутатов, рассмотрев заявление гр. Позняка З. С., Ходыко Ю. В. и Марочкина А. А. о проведении 25 марта 1990 года празднования «Дня независимости Белоруссии, посвященного 72-й годовщине провозглашения БНР», в виде массовых шествий, митинга на площади им. В. И. Ленина и художественных выступлений отмечает, что, согласно заключению Академии наук БССР, Института истории партии при ЦК КПБ и Министерства юстиции БССР, дата 25 марта 1918 года не может расцениваться как день национальной независимости белорусского народа. Провозглашенная в этот день в условиях немецкой оккупации Белорусская народная республика (БНР) никогда не являлась государственным образованием. Это была лишь идея буржуазной государственности, которую стремились воплотить в жизнь представители белорусских национальных партий и других политических течений, не признававших Советскую власть.

На основании изложенного исполком решил:

1. Отказать гр. Позняку З. С., Ходыко Ю. В. и Марочкину А. А. в предоставлении площадей, улиц и других общественных мест города для организации 25 марта текущего года празднования так называемого «Дня независимости Белоруссии» на основании ст. 48 Конституции БССР, гарантирующей гражданам БССР свободы: слова, печати, собраний, митингов, шествий и демонстраций только в соответствии с интересами народа и в целях укрепления и развития социалистического строя.

2. Предупредить граждан Позняка З. С., Ходыко Ю. В. и Марочкина А. А. о персональной ответственности в случае нарушения ими действующего законодательства о порядке проведения митингов, шествий и демонстраций.

3. УВД Мингорисполкома 25 марта т. г. обеспечить соблюдение на территории города общественного порядка и требований Положения о порядке организации и проведения собраний, митингов, уличных шествий и демонстраций.

4. Просить средства массовой информации довести данное решение до сведения минчан.

**Председатель исполкома**
**В. И. МИХАСЕВ.**
**Секретарь**
**Л. Н. ВОЛОДЬКИНА.**

*Д-4. („Вечерний Минск", – 1990, 21 сакавіка).*

ЗАЯВЛЕНИЕ
от Оппозиции Белорусского Народного Фронта
и Демократического Клуба в Верховном Совете
Белорусской ССР

Спецвыпуск „Фронт", №7

Депутаты от Оппозиции БНФ и Демократического Клуба в Верховном Совете Белорусской ССР осуждают вмешательство Вооруженных Сил СССР в республиках Прибалтики, которое привело уже к кровопролитию и жертвам среди мирного населения в Литовской Республике.

Мы выражаем решительный протест с политикой Президента СССР, который разглядывает суверенитет республики и их законно избранный Верховный Совет и Правительство с имперских позиций.

Депутаты от Оппозиции БНВ и Демократического Клуба в Верховном Совете Белорусской ССР обращаются к народу Прибалтийских республик, к их законным органам власти и в это нелегкое время заверяют их в своей поддержке.

Мы скорбим по жертвам безответственных антиконституционных действий военщины в Литве и выражаем соболезнование семьям всех, кто погиб. Считаем, что создание так называемого "комитета национального спасения Литвы" является антиконституционным актом, который объективно ведет до разжигания гражданской войны и требуем роспуска и ареста самозванного комитета.

Мы требуем от Президента СССР немедленно остановить незаконные действия Вооруженных Сил. Каждый народ имеет право сам решать свою судьбу. Требуем в возбуждении уголовного дела в отношении к виновным в убийствах мирных жителей в Вильно и проведения объективного расследования.

Мы, народные депутаты БССР, страны-участницы ООН, обращаем внимание международной общественности на нарушение норм международного права со стороны руководства СССР. Мы также обращаемся во всем Верховным Советам суверенных республик с предложением поддержать народы Прибалтийских республик в их справедливых требованиях.

Мы обращаемся также к военнослужащим-белорусам, которые по воле судьбы оказались в Прибалтике, с просьбой не принимать участие в делах, которые носят антиконституционный, античеловеческий характер.

Путь к диктутуре - это путь в исторический тупик, путь к гражданской братоубийственной войне.

I5 января I99I г.
г. Минск

Подписи депутатов БССР от Оппозиции БНФ и Демократического Клуба в Верховном Совете БССР

Всего 83 подписи.

Подпісы народных дэпутатаў БССР ад Апазіцыі БНФ і Дэмакратычнага клуба ў Вярхоўным Савеце БССР

пад Заявай у сувязі з падзеямі ў Літве і іншых рэспубліках Прыбалтыкі.

Зенон Пазьняк 15 студзеня 1991 г.

З. Пазьняк, 9-я Менск. З.Паз

*Д-5. Пераклад для друку на рускую мову Заявы дэпутацкай Апазыцыі БНФ аб падзеях у Прыбалтыцы.*




**23-24 сакавіка ў Менску прайшоў Другі зьезд Беларускага Народнага Фронту. Зьезд прыняў новы Статут і зьняў з поўнае назвы Фронту — БНФ за перабудову «Адраджэньне» — словы «за перабудову». Галоўны вынік зьезду — пэўная рэарганізацыя Фронту. Па-іншаму цяпер выглядае структура Сойму БНФ. 50 чалавек абіраюцца на зьезьдзе, 50 складаюць квоты ад рэгіянальных радаў, новастворaных партый, дэмакратычных арганізацыяў. У новы склад Сойму абраныя 13 народных дэпутатаў БССР: М.Аксаміт, С.Антончык, Л.Баршчэўскі, І.Гермянчук, В.Голубеў, Ул.Заблоцкі, Л.Здановіч, Ул.Новік, З.Пазьняк, С.Папкоў, П.Садоўскі, Г.Сямдзянава, А.Трусаў, — а таксама шмат дэпутатаў іншых узроўняў. Старшыня Фронту — З.Пазьняк, яго намесьнікі — Ул.Голубеў, Ул.Заблоцкі, Ю.Хадыка.**

*Д-6. Паведамленьне аб 2-м Зьезьдзе БНФ (крыніца не занатаваная).*

## Адкрыты ліст

„Народная газета", 31 мая 1991 г. Н.Г. 31.05.91

# Апазіцыя не галасуе...

**У пятніцу 24 мая на сесіі Вярхоўнага Савета была зачытана Заява Апазіцыі БНФ, са зместу якой вынікае, што Апазіцыя пераходзіць на класічныя крытычныя прынцыпы, рэзка адмяжоўваецца ад усіх рашэнняў камуністычнай большасці. Зянон Пазьняк падкрэсліў адказнасць камуністычнай наменклатуры за пагаршэнне жыцця народа і за тыя рашэнні Вярхоўнага Савета, якія, на яго думку, прывядуць рэспубліку да бездані. Апазіцыя склала спіс пытанняў павесткі дня, па якіх яна не будзе прымаць удзел у галасаванні. Падтрымліваюцца толькі пытанні, прапанаваныя страйкамам, і некаторыя іншыя, пастаўленыя раней.**

**Заяву Апазіцыі БНФ просім надрукаваць у «Народнай газеце», каб пра яе ведалі і выбаршчыкі.**

Абмеркаванне і прыняцце павесткі дня сесіі і Дзяржаўнай праграмы па стабілізацыі эканомікі яшчэ раз высветліла поўнае нежаданне камуністычнай большасці ў Вярхоўным Савеце лічыцца з цяжкім становішчам народа і з абставінамі, што склаліся ў рэспубліцы. Наменклатура хоча вывратаваць сябе шляхам увядзення надзвычайнага становішча і прэзідэнцкай улады, якая ва ўмовах існуючай манапольнай партыйна-адміністрацыйнай сістэмы на Беларусі няўхільна прывядзе да

дыктатуры. Наменклатура ў сваёй палітыцы пайшла «ва-банк».

Неўключэнне ў павестку дня ўсіх патрабаванняў рабочых і пытанняў Апазіцыі БНФ аб суверэнітэце, без вырашэння якіх немагчымы ніякія рэформы, прымушае нас заявіць наступнае:

Мы, дэпутаты Апазіцыі Беларускага Народнага Фронта, адмаўляемся прымаць удзел у галасаванні па тых пытаннях, якія вынесены на сесію партыйнай наменклатурай. Мы рэзка адмяжоўваемся ад усіх рашэнняў камуністычнай большасці Вярхоўнага Савета і накіроўваем усю сваю дзейнасць на падтрымку патрабаванняў рабочых, на дэпутацкую працу сумесна з народам. Мы бачым, што ўсе прапановы Апазіцыі ігнаруюцца, што адбываецца пастаяннае парушэнне рэгламенту сесіі ва ўгоду наменклатуры. Галасаваць у такіх умовах бессэнсоўна. Мы пакідаем за сабой крытыку і крытычныя прапановы — метады жорсткай апазіцыі. Мы лічым, што палітычны крызіс у рэспубліцы павінен вырашацца шляхам правядзення нечарговых выбараў у Вярхоўны Савет БССР.

**З. Пазьняк, В. Алампіеў, Г. Сямдзянава, С. Навумчык, Л. Баршчэўскі, У. Заблоцкі, А. Трусаў, В. Малашка, В. Голубеў, Я. Новікаў, І. Пырх, Ю. Беленькі, А. Паруль, А. Шут, Л. Зданевіч, С. Папкоў, Я. Цумараў, С. Антончык, І. Гермянчук, Л. Дзейка, П. Холад, Г. Маісееў, М. Крыжаноўскі, Г. Грушавы, В. Галубовіч, Я. Глушкевіч, Б. Гюнтар, У. Станкевіч, М. Маркевіч, М. Аксаміт, С. Бабачонак, А. Спіглазаў, А. Сасноў.**

*Д-7. („Народная Газэта”, – 1991, 31 траўня).*

„Наша Слова”, №20(30), 3-9 ліпеня 1991 г.

# СТВАРАЕЦЦА ЦЕНЯВЫ КАБІНЕТ



**Ценявы кабінет міністраў у рэспубліцы: прагноз ці рэальнасць?** Адназначны адказ на гэта пытанне пакуль не дадзены. Але парламенцкая апазіцыя Беларускага Народнага Фронту, па словах галавы будучага ўрада, народнага дэпутата БССР Уладзіміра Заблоцкага, які, мяркуецца, зойме гэту пасаду, ужо шукае юрыдычныя асновы, якія дазволяць мець апазіцыйныя структуры ў рамках цяперашняй Канстытуцыі. Гэта нармальная з'ява ў грамадстве, якое набліжаецца да дэмакратыі, лічыць ён.

На здымку: у размове аб стварэнні магчымага ценявога кабінета ўдзельнічаюць У. Заблоцкі (злева), З. Пазняк, А. Трусаў (справа) і іншыя.

Фота У. МЯЖЭВІЧА. (БЕЛТА).

*Д-8. („Наша Слова”, – 1991, 3-9 ліпеня).*



„Наша Слова", № 28 (38), 28 жніўня – 3 верасня 1991 г.

# НАРОД БЕЛАРУСІ НЕ МАЎЧАЎ

20 жніўня г. г. ва ўмовах надзвычайнага становішча, уведзенага ў краіне авантурыстамі, дэпутаты ад апазіцыі Вярхоўнага Савета БССР правялі сустрэчу з выбаршчыкамі, на якой рашуча асудзілі рэакцыянераў.

НА ЗДЫМКУ: выступае народны дэпутат БССР лідэр БНФ Зянон ПАЗЬНЯК.

*Д-9. („Наша Слова", – 1991, 28 жніўня – 3 верасьня).*

„Наша Слова", № 32 (42), 25 верасня – 1 кастрычніка 1991 г.

# Жыве Беларусь!

## 19 верасня беларускі парламент прыняў гістарычнае рашэнне. Цяпер мы — РЭСПУБЛІКА БЕЛАРУСЬ!

**Дзяржаўным гербам зацверджана «Пагоня», статус дзяржаўнага нададзены і старадаўняму бел-чырвона-беламу сцягу, асвечанаму Грунвальдам.**

*Д-10. („Наша Слова", – 1991, 25 верасьня – 1 кастрычніка).*

-9-



**БССР**
**МІНСКІ ГАРАДСКІ САВЕТ НАРОДНЫХ ДЭПУТАТАЎ**

г. Мінск, Ленінскі праспект, 8. Тэл. 22-05-75

**БССР**
**МИНСКИЙ ГОРОДСКОЙ СОВЕТ НАРОДНЫХ ДЕПУТАТОВ**

г. Минск, Ленинский проспект, 8. Тел. 22-05-75

**РАШЭННЕ** / **РЕШЕНИЕ**

ад 6 сентября 1991г. № 170

5-й внеочередной сессии XXI созыва

О площади им. В.И. Ленина и Ленинском проспекте в г. Минске

Исходя из декларирования и развития государственности и суверенитета Белоруссии в отношениях между другими суверенными государствами СССР, утверждения политической и экономической самостоятельности республики на международной арене и, учитывая в связи с этим важность топонимических названий и монументальной символики мест, где размещаются высшие органы государственного управления, Минский городской Совет народных депутатов РЕШИЛ:

1. Поручить депутатской комиссии по культуре, охране и возрождению историко-культурного наследия и исполкому горсовета в течение сентября 1991 года решить вопрос о переименовании площади Ленина и Ленинского проспекта с учетом предложений народных депутатов и граждан города Минска.

2. Мингорисполкому разработать и до 1.05.1992г. осуществить комплекс мероприятий по благоустройству данной площади, исходя из следующего:

- заменить памятник В.И. Ленину на архитектурно-художественную композицию, символизирующую суверенитет и независимость Белоруссии, национальное возрождение белорусского народа.

Для разработки проекта указанной композиции объявить республиканский конкурс, его результаты обсудить с широким кругом населения и творческой интеллигенции г. Минска.

- проектом благоустройства пересмотреть схему движения транспорта и пешеходов по площади, исключив разделение дорогой памятника и площади массового накопления людей, создать возможность свободного подхода и размещения больших групп народа непосредственно у памятника.

Председатель горсовета А. Герасименко

Тип. 1. З. 2647. Т. 3000 Минск 1990

*Д-11. Рашэньне Менгарсавета аб плошчы Леніна і Ленінскім праспэкце у Менску.*

„Народная газета", 13 лістапада 1991 г. № 220 (233)

# ЗАЯВА

## дэпутатаў Апазіцыі БНФ у Вярхоўным Савеце Рэспублікі Беларусь

Настае крытычны час для нашай Бацькаўшчыны. 25 жніўня перамаглі дэмакратычныя ідэі Беларускага Народнага Фронту і яго прыхільнікаў, але ўсе структуры кіраваньня, уся ўлада на Беларусі засталіся, як і раней, поўнасцю ў руках камуністычнай наменклатуры. Савет Міністраў, узначалены былым

членам бюро ЦК КПБ Вячаславам Кебічам, бязьдзейнічае і праводзіць вузкую эгаістычную палітыку ў інтарэсах кіруючай групы людзей і былога партапарату, ажыцьцяўляе незаконную прыватызацыю дзяржаўнай маёмасьці, не дбаючы пра народ, яго сацыяльна-эканамічнае становішча, будучыню і суверэнітэт беларускай дзяржавы.

Вярхоўны Савет, які выбраны на недэмакратычнай аснове падчас панаваньня камуністычнай «вандэі», складаецца ў большасьці з былых наменклатурных камуністаў. Ён аказаўся няздольным кантраляваць згубныя для Беларусі дзеяньні ўрада, выпрацаваць канцэпцыю дзяржаўнай палітыкі незалежнай Беларусі, прыняць законы, што адкрылі б шлях да рынку, абаранілі б уласнасьць і дабрабыт беларускага насельніцтва.

Ні Савет Міністраў, ні Вярхоўны Савет, нягледзячы на прапановы дэпутацкай Апазіцыі БНФ, не зрабілі нічога дзеля таго, каб падрыхтаваць выпуск беларускіх грошай, стварыць нацыянальную фінансава-крэдытную сістэму, зрабіць захады, каб абараніць таварны рынак, пазьбегчы гіперінфляцыі, нястрыманага росту цэнаў, вывазу прадуктаў і прамысловых вырабаў зь Беларусі. Доўжыліся размовы і ашуканства.

У выніку Беларусь апынулася ў хвасьце палітыкі Расеі і балтыйскіх краінаў, стала залежнай ад разбуральных працэсаў у эканоміцы гэтых рэспублік, ад павышэньня цэнаў і эканамічнага шантажу, стала аплачваць цаной працы свайго народа балячкі чужога грамадзтва, жывіць маскоўскіх сьпекулянтаў, паўднёвыя мафіі, рынак Польшчы, Латвіі. Урад не змог забясьпечыць насельніцтва нават па талонах, якія выпусьціў дзеля гарантаванага разьмеркаваньня.

Апазіцыя БНФ лічыць, што неабходна як найхутчэй вызначыць сацыяльную будучыню і статус савецкага войска ў Рэспубліцы, падыходзячы да яго з пазіцый закона і павагі правоў чалавека. Аднак наменклатурны Вярхоўны Савет і Савет Міністраў адмовіліся нават разглядзець пытаньні часовага знаходжаньня Савецкай Арміі на тэрыторыі Беларусі, стварэньня беларускага войска, ваеннага міністэрства і тым самым паставілі рэспубліку перад абліччам вайскова-сацыяльнага абвалу, грамадзкага канфлікту і страты незалежнасьці.

Беларускаму насельніцтву з-за такіх дзеянняў урада пагражае рэзкае пагаршэньне жыцьцёвых умоў, зьбядненьне, страта працоўных месцаў, развал сельскай гаспадаркі. Рэспубліка можа стаць краінай-банкрутам. Беларусь апынулася на парозе сацыяльнага выбуху. І калі такі народны выбух адбудзецца, які б ён ні быў разбуральны для дзяржавы і грамадзтва, абурэньне людзей будзе справядлівым.

Дэпутацкая Апазіцыя Беларускага Народнага Фронту ў Вярхоўным Савеце Рэспублікі Беларусь застанецца заўсёды на баку народа, у якім бы цяжкім становішчы ён ні апынуўся, на баку нашых рабочых, гарадзкіх і сельскіх працаўнікоў, інтэлігенцыі і студэнтаў. Няма ніякага даверу існуючаму ураду В. Кебіча і наменклатурнаму Вярхоўнаму Савету. Апазіцыя

(Друкуецца ў арфаграфіі арыгінала).

БНФ яшчэ ў 1990 годзе запатрабавала роспуску камуністычнага Вярхоўнага Савета, адмовілася галасаваць за гэты Савет Міністраў, прадказваючы яго хуткае банкруцтва. Дэпутаты Апазіцыі Народнага Фронту стаяць у апазіцыі да ўсяго Вярхоўнага Савета, які зросься з пракамуністычным урадам В. Кебіча і трапіў пад уплыў саўмінаўскай наменклатуры.

Наменклатуршчыкі, адчуваючы свой хуткі канец, ліхаманкава ўладкоўваюцца, будуюць і перакупляюць дамы і дачы, прыватызуюць дзяржаўную маёмасьць, фарміруюць капіталы, сумесныя прадпрыемствы і рахункі ў банках, займаюць пасады і цёплыя месцы, каб пры першых жа ўдарах сацыяльнага грому разьбегчыся ў норы, як пацукі з тонучага карабля, у тысячны раз здрадзіўшы сваім абавязкам.

Аднак, калі падымецца хваля народнага пратэсту, мы ўпэўнены, што і дэпутаты Апазіцыі, і ўвесь дэмакратычны рух здолее ўзяць адказнасьць за будучыню Беларусі на свае плечы і дапамагчы грамадзтву выратавацца, выйсьці з крызісу, ажыцьцявіць неабходныя пераўтварэньні.

Першым чынам павінен будзе пайсьці ў адстаўку існуючы ўрад разам з прэм'ерам В. Кебічам. Трэба стварыць новы ўрад — урад народнага даверу. Народ можа атрымаць магчымасьць прымяніць палітычны націск на Вярхоўны Савет, патрабуючы неадкладнага прыняцьця новага дэмакратычнага закона аб выбарах, які даўно ўжо падрыхтаваны Апазіцыяй БНФ, і прызначэньня нечарговых выбараў у прафесійны беларускі парламент.

Калі ж ізноў усё застанецца незразуметым і будзе адкінута, тады можна тэрмінова прыступіць да падрыхтоўкі ўсенароднага рэферэндуму па гэтых пытаньнях — адстаўка ўрада, роспуск Вярхоўнага Савета, нечарговыя выбары, а таксама — перадача маёмасьці КПБ—КПСС—ЛКСМБ народу (дзяржаве) і спыненьне дзейнасьці КПБ—КПСС.

Самы вялікі наш грамадзкі набытак, які ігнаравалі камуністы і не цэніць кіруючая наменклатура — гэта незалежная дзяржава. Маючы незалежную дзяржаву, зьбярогшы і ўсталяваўшы дзяржаўны суверэнітэт, народ можа забясьпечыць сабе сацыяльную, культурную і гістарычную будучыню, ажыцьцявіць эканамічныя і палітычныя пераўтварэньні, памножыць дабрабыт. Мы не павінны дапусьціць разбурэньня грамадства і дзяржавы. Каб выйсьці з крызісу, Беларусі неабходна праводзіць палітыку незалежнай краіны.

Нам трэба рухацца да рынкавай эканомікі, усталяваўшы раўнапраўнасьць усіх формаў уласнасьці. Мы павінны пачынаць на гэтым шляху зь вёскі, ратуючы сельскую гаспадарку і сялян, збалансаваўшы падаткі і цэны, гарантуючы законам права ўласнасьці на зямлю і на тэхнічнае забесьпячэньне. Мы павінны праводзіць такую прыватызацыю дзяржаўнай маёмасьці, такі пераход да рынку, які забясьпечваў бы роўныя стартавыя магчымасьці для ўсіх грамадзянаў Беларусі. Мы павінны захаваць наш таварны рынак, эканоміку ад разбурэньня і ўвесьці сваю валюту — беларускі талер, а на падрыхтоўчы перыяд — пераходныя грошы (купоны). Мы павінны ажыцьцяўляць канцэпцыю незалежнай беларускай дзяржа-

вы як свабоднай еўрапейскай краіны. Нам трэба пазьбягаць усялякіх саюзаў і супольнасьцяў, што вядуць да рэанімацыі СССР, да стварэньня унітарнай дзяржавы, да эканамічнай залежнасьці Беларусі, збаўляцца ад вынікаў бальшавіцкага імперыялізму і савецкага каланіялізму. Мы павінны ажыцьцяўляць канцэпцыю актыўнай, партнёрскай, накіраванай ва ўсе бакі міжнароднай палітыкі, каб дасягнуць міжнароднага прызнаньня і супрацоўніцтва. Нам, імкнучыся да нейтральнай бязьядзернай дзяржавы, трэба ажыцьцяўляць сваю палітыку на аснове двухбаковых, а не блокавых пагадненьняў, нам трэба гандляваць.

Ніякая наменклатура, ніякая палітычная ці мафіёзная сіла ніколі не «накарміла» і не «накорміць» народ і нічога яму не дасьць. Задача ў тым, каб даць магчымасьць людзям свабодна працаваць на сябе, распараджацца прадуктам сваёй працы, мець уласнасьць і ўсе правы, абароненыя законам, тады народ накорміць і сябе і грамадзтва, створыць усё, у чым будзе патрэба.

---

**Народныя дэпутаты Апазіцыі БНФ ў Вярхоўным Савеце Беларусі:**

**З. ПАЗЬНЯК, В. ГОЛУБЕЎ, С. НАВУМЧЫК, І. ПЫРХ, Г. СЯМДЗЯНАВА, Я. НОВІКАЎ, Л. БАРШЧЭЎСКІ, Л. ЗДАНЕВІЧ, С. ПАПКОЎ, В. ГАЛУБОВІЧ, С. АНТОНЧЫК, В. АЛАМПІЕЎ, Б. ГЮНТАР, І. ГЕРМЯНЧУК, М. АКСАМІТ, Л. ДЗЕЙКА, М. КРЫЖАНОЎСКІ, А. ШУТ, П. ХОЛАД, У. СТАНКЕВІЧ, Л. ЗЬВЕРАЎ, С. БАБАЧОНАК, А. ПАРУЛЬ, Я. ГЛУШКЕВІЧ, Г. МАІСЕЕЎ, У. НОВІК, С. СЛАБЧАНКА, А. КАНЦЭВІЧ, В. СЯРДЗЮК, М. МАЦЮШОНАК, Ю. БЕЛЕНЬКІ, Л. ТАРАСЕНКА, Г. ГРУШАВЫ, У. ЗАБЛОЦКІ.**

*АД РЭДАКЦЫІ. Апазіцыя БНФ у Вярхоўным Савеце рэспублікі выступіла з чарговай заявай. Слова, лічым, за ўрадам. Народ павінен ведаць пазіцыю Кабінета міністраў у гэты цяжкі для Беларусі час.*

*Д-12. („Народная Газэта", – 1991, 13 лістапада).*

Алесь ЕМЕЛЬЯНОВ:

# «Я был сексотом КГБ»

Один из "отцов" Национально-демократической партии Белоруссии Алесь Емельянов хорошо известен радикализмом своих суждений и нестандартностью поступков. Но то, что он заявил недавно в нашей редакции, буквально поразило. Его признание, по сути, не имеет аналогов и разбивает все отрицательные утверждения "компетентных органов" на извечный вопрос о наличии в республике сети так называемых сексотов — секретных сотрудников.

А начался наш разговор с простенького вопроса:

— Алесь, что ты думаешь о людях, которых звали "антисоветчиками"?

— Раньше — ничего. Если по правде, то я очень и очень мало знал эту сторону жизни. Ну, а с десяток лет и самому довелось походить с ярлыком "националиста", а, следовательно и "антисоветчика".

Понимаете, диссиденты не просто видели, как большинство из нас, всю мерзость и глупость нашей жизни. Они старались что-то сделать, будили остальных... Почему меня поздновато прибило к тому берегу? Дело не только в незнании. Скорее, останавливала врожденная крестьянская осмотрительность. Даже сейчас, как вам не покажется странным, стараюсь не перегнуть палку: понимаю, что здесь, на свободе, сделаешь больше, чем за решеткой. Хотя, с другой стороны, сегодня иное время. Но разумное должно оставаться всегда...

Помню, учился на филфаке БГУ. Как мог, прикрывал ребят. Каким образом?

Вот здесь очень любопытная история... Где-то в начале первого курса меня "высчитали" — бывший пограничник! Вызывают в деканат. Удивился: почему? Прихожу — краем глаза вижу на столе декана писульку, где значатся моя и еще три фамилии. "Сам" говорит: у тебя, мол, Емельянов, что-то не вытанцовывается с военными документами — "Надобно, брат, зайти тебе по такому адресочку..."

Зашел. Долго со мной беседовали, "прощупывали", а потом предложили быть... сексотом КГБ!.. Первым родилось желание послать их на... Но подавил вспышку эмоций, вспомнил, как исключили из филфака Рязанова, перед глазами всплыл тот злосчастный листок на столе декана с четырьмя именами и понял: "мое" место пустым не останется. Вот тогда и подписал бумагу о сохранении тайны и сотрудничестве...

Тайну я сохранил. А вот сотрудничество... Оно получилось односторонним. На встречах — а они всегда были тайными — стремился выяснить — кем и чем интересуется гебист, как мог — упреждал события и поведение ребят.

Однокурсники вначале злились, что, на их взгляд, я уж слишком перестраховываю возникающие ситуации, суну нос не в свое дело... Но потом, видимо, поняли, что я знаю больше и вижу глубже. А скорее всего — догадались. Но, спасибо им, доверие ко мне не только не уменьшилось, а наоборот возросло. Не задавали лишних вопросов, чаще стали прислушиваться.

"Раскусили" меня и в КГБ. Я знал, что рискую и что меня в любой момент могут выгнать из университета. Но делаться профессиональным стукачом, шестеркой, доносчиком — извините! Временами было невыносимо тяжело. Паутина на "тайных встречах" плелась тонкая, густая, со знанием дела. Неизвестно, что спросят в следующий момент, какая ситуация выясняется контекстуально... Часто думал; ну зачем, дурак, согласился?! Но отступать уже, увы, не приходилось. Я избрал тактику шланга, разыгрывал этакого долбню-незнайку...

Когда перевелся на заочное и пошел работать в "Чырвонку", от меня отстали. О, это было счастьем!

Но не надолго — последовал затем еще один круг моего "сотрудничества". Вызывали, обещали золотые горы, молочные реки и кисельные берега. Отказался. Стали угрожать, пугали... Отказался — ведь учеба уже осталась позади и вести двойную игру больше не имело смысла. С намеком попросили хорошенько подумать. Сколько раз потом еще звонили, а потом вызвал редактор и попросил написать заявление "по собственному желанию". Я все понял и... остался без работы.

Почему пришел с этим рассказом к вам? А что в нем противоправного? К тому же я и не "рассказываю" — просто называю, без всяких секретных подробностей.

Во-вторых, мои откровения осознанные. Дело в том, что по городу да и республике пущена поголоска: мол, НДПБ — легально зарегистрированная партия, ей, якобы, создан режим благоприятствования, поскольку создана она под началом КГБ и работает под его же контролем! Видите, какой тонкий расчет: с одной стороны — якобы безобидная ошибочка с регистрацией (нас упорно не желают регистрировать!), с другой — создана секретной службой... Вот обманутый народ и глядит на нас с опаской.

Да ложь это, ложь! Наша Национально-демократическая партия Белоруссии результат не "трудов" КГБ — она итог нашей боли и осознанной необходимости создания крепкой структуры, способной что-то изменить.

Что касается лично меня, то клянусь: в архивах КГБ можно найти только один мой письменный документ времен "сотрудничества" — там подробно описано, как я поднимал чарку с англичанами. И все.

Знаю: КГБ — серьезная и глубокая организация. И от нее можно ожидать разного. Но не боюсь, а надеюсь, верю, если хотите, что сыны нашей Батьковщины, где бы они ни служили, остаются сегодня белорусами. Должны оставаться! Иначе о каком возрождении нации, Белоруссии можно толковать? Наша сила в единстве. А кто не против нас, тот с нами.

*Д-13. Характэрная зьява ў апошні год існаваньня СССР. („Свободные Новости", – 1991, июнь, № 10, стар. 7).*

*Інтэрв'ю карэспандэнта інфармацыйнага агенцтва «БелаПАН»*

**Зянон ПАЗЬНЯК:** „Выбар", № 4, 20 лістапада 1991 г. для «Выбара»

# «Урад Кебича ёсць урад банкрутаў»

***Некалькі дзён назад парламенцкая апазіцыя прыняла заяву, якую варта расцэньваць хутчэй як ультыматум. «Першым чынам,—гаворыцца ў гэтым дакуменце,—павінен пайсці ў адстаўку існуючы ўрад разам з прэм'ерам В. Кебічам. Трэба стварыць новы ўрад—урад народнага даверу». У выпадку ж, калі Вярхоўны Савет Беларусі не пойдзе на гэта, апазіцыя тэрмінова прыступіць да падрыхтоўкі ўсенароднага рэферэндуму па наступных пытаннях: адстаўка ўраду, роспуск Вярхоўнага Савету, нечарговыя выбары, а таксама перадача маёмасці КПБ—КПСС—ЛКСМБ народу (дзяржаве) і спыненне дзейнасці КПБ—КПСС. Вакол гэтага і вялася гаворка карэспандэнта інфармацыйнага агенцтва «БелаПАН» з лідэрам апазіцыі, старшынёй Сойму Беларускага народнага фронту З. Пазьняком.***

**—Зянон Станіслававіч, вы неаднаразова заяўлялі: урад Кебіча ёсць урад банкрутаў. Ці не маглі б вы аргументаваць такую канстатацыю?**

—Дык а што тут гаварыць? Гэтым усё сказана...

**—Але ўсё-такі. Выходзячы з апазіцыйнай заявы, адстаўка сённяшняга беларускага ўраду выратуе наш народ і саму Беларусь?**

—Урад ідзе ў адстаўку не таму, што гэта нешта выратуе, а таму, што ён няздольны нічога рабіць, ня можа нічога прапанаваць: як бачым, і не прапаноўвае. Ен працуе толькі ў інтарэсах пэўнага клану наменклатуры. Такіх паняццяў, як Рэспубліка, Беларусь, Незалежнасць, Дзяржава для яго проста не існуе. Ен—банкрут, ён—у тупіку.

**—Апазіцыя, я так разумею, прапануе Вярхоўнаму Савету кампраміс: або той адпраўляе ў адстаўку ўрад Кебіча, або яму самому пагражае роспуск у выніку рэферэндуму...**

—Менавіта так.

Той, хто глядзеў тэлерэпартажы з сесіі, сталі сведкамі істэрыкі папулістаў—Лукашэнкі, Булахава. Яны цяпер хочуць схавацца за спіну апазіцыі—маўляў, будзем тануць разам. Яшчэ ў гісторыі парламентарызму не было такога, каб апазіцыя адказвала за сваіх палітычных праціўнікаў. Калі гэтая лодка топіцца, то мы толькі дапаможам ёй тапіцца. Мы аб'ектыўна ў гэтым зацікаўлены, таму што не прызнаём іхняй палітыкі.

Зараз часу амаль што не засталося. Трэба тэрмінова мяняць і прэм'ера, і астатні склад ураду. Калі Вярхоўны Савет гэтага ня зробіць, то сацыяльны выбух фактычна непазбежны, ён змяце і Вярхоўны Савет, і ўрад. Змяце самым некарысным для рэспублікі чынам.

**—Але ці варта нашаму парламенту, які гэтак сябе дыскрэдытаваў, даваць шанц заставацца ва ўладзе? Можа, лепей адразу намагацца ягонага роспуску?**

—Сутнасць у тым, што некаторыя законы, напрацаваныя Вярхоўным Саветам, па сутнасці, нядрэнныя. Напрыклад, закон аб індэксацыі мы прынялі год назад, а ў Расіі яго няма дагэтуль. Шмат добрых законаў прынята пад націскам апазіцыі. Яна, трэба адзначыць, унікальная, працуе ў непрафесійным Вярхоўным Савеце і ў грамадстве, у якім знішчаны палітычныя традыцыі. Таму мы не можам быць класічнай апазіцыяй заходняга тыпу. Мы—апазіцыя канструктыўная, прапаноўваем свае праекты законаў, свае канцэпцыі і змагаемся за іх. Хаця ў той жа час у нашых інтарэсах, каб цяперашні Вярхоўны Савет утапіўся. Але гэта не ў інтарэсах рэспублікі. Мы працуем канструктыўна, бо ў нас баліць сэрца за наш народ, за нашу Бацькаўшчыну, за нашу дзяржаву.

Каб нас не было, паверце, гэты парламент і рэспубліка ўжо даўно сядзелі б у яме. Проста ніхто не задумваўся над роляй апазіцыі ў нашым Вярхоўным Савеце. І калі што добрае прынята, дык гэта дзякуючы апазіцыі. Але колькі адрынута, затаптана і аплявана!

**—Наколькі верагодна, што ультыматум апазіцыі будзе выкананы Вярхоўным Саветам?**

Не будзе выкананы. Кебіч у адстаўку пойдзе, у гэтым можна не сумнявацца. Але адстаўка ягоная будзе праведзеная ў інтарэсах наменклатуры. Уся справа ў тым, што Вярхоўны Савет у сваёй наменклатурнай частцы куплены Саветам Міністраў. Тут ёсць сваё саўмінаўскае лоббі. Гэта ненармальна, калі выканаўчая і заканадаўчая ўлада зрастаюцца ў мафіёзную структуру. Гэта вельмі некарысна для грамадства.

Яны ўжо самі бачаць пэўнае банкруцтва, і таму Кебіча ў адстаўку пашлюць. Але будуць намагацца паставіць на ягонае месца другога, які меней «засвяціўся».

У такі Саўмін ніхто з апазіцыі не пойдзе, гэта натуральна. Хаця мы і праводзім палітыку «малых крокаў». Калі б быў прэм'ер ад апазіцыі, прэм'ер ад народнага фронту, то ўрад мы б сфармавалі. У нас ёсць дзве кандыдатуры на гэту пасаду...

**—А іхнія прозвішчы не назавяце?**

—Пакуль не.

Пасаду Старшыні Саўміна можа заняць і «пераходная» фігура, здольная йсці на кампраміс. Магчыма, у такім разе мы маглі б заняць некаторыя пасады. Але гэта не будзе кааліцыйны урад, проста мы, зыходзячы з інтарэсаў рэспублікі, паслалі б некалькі чалавек, каб яны маглі ўзначаліць нейкія сферы дзейнасці.

Калі ў тым урадзе, іхнюю працу блакіруюць, мы адклічам адтуль нашых прадстаўнікоў.

Справа тут не ў палітыцы, а ў лёсе народа, у лёсе Бацькаўшчыны. Яшчэ пару месяцаў такой палітыкі, якую вядзе Вярхоўны Савет, і мы ня будзем мець ні суверэнітэту, ні хлеба, нічога... Тое, што творыцца,—злачынства. Магчымасці, якія былі ў Беларусі, згубленыя на працягу апошніх месяцаў. І цяпер вось літаральна адбываецца гэтая згуба.

**—І дзе выйсце з крызісу?**

—Выйсце толькі ў адным: незалежная дзяржава павінна праводзіць незалежную палітыку. Выйсце толькі ў незалежнасці і ў свабодзе.

**—Я ўзгадваю ідэю «ценевага» кабінету. Наколькі суадносіцца яна з ультыматумам, выстаўленым апазіцыяй?**

—Ультыматум прадыктаваны не палітычнай воляй, а ацэнкай сітуацыі, якая складваецца.

І ў гэткай сітуацыі народны фронт здольны ўзяць на свае плечы адказнасць за будучыню Беларусі, гэта значыць—здольны браць уладу.

Раз мы змагаліся з камуністычнай навалай, то проста абавязаныя весці сваю барацьбу да канца...

**Гутарку вёў Алесь ЛІПАЙ, агенцтва «БелаПАН».**

*Д-14. („Выбар", – 1991, 20 лістапада).*

## ГАЛЕРЭЯ



„Культура", 14-20 лістапада 1991г. № 2(2)

**Сапраўднае мастацтва нараджаецца тады, калі мастак расчыняе сваю душу свету, адчувае гармонію жыцця і космасу. Але натхненне нараджаецца і падчас служэння сваёй зямлі і народу — у змрочныя часіны таталітарызму і нацыянальнага забыцця ці ў гады магутных гістарычных разломаў, калі вырашаецца лёс нацыі. Тады творца абавязкова звернецца да светлых вобразаў папярэднікаў — тых, хто пранёс скрозь стагоддзі адданасць народу, зрабіў для яго ўсё магчымае. Ефрасіння Полацкая, Рагнеда, Вітаўт Вялікі, Сімяон Полацкі, Максім Багдановіч, Іван Луцкевіч — да іх і многіх іншых звяртаўся ў розныя часы мастак Аляксей Марачкін. Звяртаўся — і ўкладаў у сваю працу глыбіню сённяшняга нашага асэнсавання іх подзвігу, іх шчырага служэння роднай зямлі.**

**Да гэтага шэрагу сыноў і дачок нашай Бацькаўшчыны належыць і Зянон Пазьняк, якому прысвячаецца адна з апошніх работ Марачкіна.**

**В.Б.**

*Д-15. („Культура", – 1991, 14 – 20 лістапада).*




# ЗЯНОН ПАЗЬНЯК – ЛИДЕР БНФ – БЕЛОРУССКИХ НАЦИОНАЛ-ФАШИСТОВ

Родился в 1944 году в м. Суботники Ивьевского р-на Гродненской области. Его отец – кулак, при немцах – полицейский, вместе с немцами казнил подпольщиков и других людей (в КГБ есть такая фотография). Отец бежал от Красной Арми с фашистами в 1944 году. Мать из панской семьи. Дед – один из лидеров ХДС – христианско-демократического союза и агент польской охранки – «двуйки». Выдавал белорусских патриотов охранке, выступал за отрыв Белоруссии от России.

Зянон (Зенусь) учился в Суботниках, в культпросветучилище. Из вуза исключался. Карерист-неудачник, высокомерен, скандалист, жаден к деньгам. Контрреволюционной деятельности обучался у литовского „Саюдиса". Враждебная деятельность БНФ и его фюрера Пазьняка против Верховного Совета и Правительста оплачивается зарубежными спецслужбами. Его главная цель – создать в республике экономический хаос, свергнуть существующую власть, учредить диктатуру компродорской буржуазии, подчинить Белоруссию западному капиталу.

Пазьняк – ярый враг славянских народов. Призывает к изгнанию из республики русских, запрету политических партий и патриотических организаций, расправе над инакомыслящими. Во имя достижения поставленых целей готов развязать гражданскую войну.

Отбросим прочь новоявленного фюрера БНФ!
Защитим Республику, наше будущее!
Обеспечим мирный переход власти к трудовому народу, Советам!

*Д-16. Прыклад тыповай камуністычнай лістоўкі, падрыхтаванай КГБ пад выглядам „галасоў зь нізу" (1990-1991).*

„Добры вечар", 21 лютага 1992 г. № 35 (220)

**Пачынаецца збор подпісаў пад патрабаваннем правесці ўсебеларускі рэферэндум. Фармулёўка выносімага на яго пытання такая: «Ці лічыце вы неабходным правядзенне ўвосень 1992 года выбараў у вышэйшы орган дзяржаўнай улады Рэспублікі Беларусь на падставе «Закона аб выбарах народных дэпутатаў Беларусі», праект якога ўнесены апазіцыяй БНФ у Вярхоўным Савеце, і ў сувязі з гэтым датэрміновы роспуск цяперашняга Вярхоўнага Савета?» Больш падрабязна пра мэты рэферэндуму і магчымыя наступствы гэтай акцыі карэспандэнт БелаПАНа гутарыць са старшынёй Сойма БНФ, лідэрам парламенцкай апазіцыі Зянонам ПАЗЬНЯКОМ.**

## Зянон ПАЗЬНЯК:

# «ВЫРАШЭННЕ ЭКАНАМІЧНЫХ ПРАБЛЕМ НА БЕЛАРУСІ МАГЧЫМА ЗАРАЗ ТОЛЬКІ ПАЛІТЫЧНЫМІ СРОДКАМІ»

**— Першае пытанне, бадай, падасца банальным, але без яго не абысціся... Навошта патрэбны рэферэндум?**

— Рэферэндум неабходны найперш для таго, каб правесці дэмакратычныя выбары ў парламент, бо зараз ніякімі іншымі спосабамі іх правесці немагчыма. Гэты Вярхоўны Савет, сабраны ў часы БССР зусім для іншых функцый, няздольны ажыццяўляць дзяржаўную палітыку, як і няздольны вывесці рэспубліку з крызісу і — дадам — не хоча гэтага рабіць. Дэпутаты цяперашняга Вярхоўнага Савета ўяўляюць сабой былых наменклатурных работнікаў, інтарэсы якіх разыходзяцца з інтарэсамі большасці грамадства. І трэцяе пытанне, якое вынікае з двух папярэдніх: «А навошта наогул мяняць Вярхоўны Савет?» Гэта трэба таму, што ніякія эканамічныя пытанні, ніякія рэформы і ніякае паляпшэнне не адбудзецца пры гэтай уладзе. Вырашэнне эканамічных праблем на Беларусі магчыма зараз толькі палітычнымі сродкамі, зменай улады. Трэба даць магчымасць народу выбраць той парламент, якому ён будзе давяраць і які будзе адлюстроўваць ягоныя інтарэсы.

Вось чаму адзіны — паўтаруся — адзіны выхад для Беларусі — толькі новыя выбары новага парламента.

БНФ ставіць так пытанне — паслядоўна — яшчэ з 1990 года, калі лідэрам апазіцыі было сказана аб роспуску гэтага Вярхоўнага Савета. Дзякуючы нашым намаганням, быў прыняты Закон аб рэферэндуме, які пачаў дзейнічаць з 1 студзеня 1992 года, — і адразу ж мы падалі дакументы на арганізацыю рэферэндуму.

**— Зараз у беларускай прэсе вельмі шырока абмяркоўваецца стварэнне блока «Новая Беларусь». І хаця лідэры БНФ і Грамады сцвярджаюць, што ніякага расколу няма, многія**

думаюць наадварот... А пасляховасць жа рэферэндуму шмат залежыць ад таго, наколькі аб'яднанымі прыйдуць да яго дэмакратычныя сілы.

— Усё, што вы чытаеце ў прэсе пра так званы раскол,— гэта мыльныя бурбалкі, выпушчаныя расткова прэсай, а часткова — наменклатурай, якая за ёй стаіць. Ніякага расколу няма, бо няма з кім расколвацца. Палітычны рух на Беларусі даўно ўжо вызначыўся, заняты асноўныя палітычныя нішы, але партыі, якія іх запоўнілі, вельмі кволыя. Фронт фактычна ініцыіраваў стварэнне сацыял-дэмакратычнай Грамады—трэба было запоўніць гэтую палітычную нішу, бо інакш туды абавязкова залезлі б камуністы, як гэта здарылася ў краінах Усходняй Еўропы. БНФ усяляк падтрымліваў стварэнне беларускай сацыял - дэмакраты: 70 працэнтаў БСДГ — сябры БНФ.

Стварэнне блока мы характарызавалі як палітычную памылку, я нават скажу больш жорстка — гэта палітычнае дылетанцтва, заснаванае на амбіцыях некаторых партыйных кіраўнікоў. Нельга аб'ядноўваць неаб'ядноўваймае, у розных партый — розныя метады. Ну, ці не дзіва: з'яўляецца ініцыятыва стварыць блок, які будзе прапаноўваць нейкія праграмы Вярхоўнаму Савету і адначасова выступаць за ягоны роспуск — тут элементарная палітычная маніпуляцыя.

— У сувязі з рэферэндумам ужо пачаліся палітычныя хады. Ці не маюць рацыю тыя, хто сцвярджае, што ён дэстабілізуе абстаноўку на Беларусі і адштурхне ад нас магчымых эканамічных замежных партнёраў?

— Заходнія краіны даўно ўжо выпрацавалі палітыку адносін да былых рэспублік СССР, вызначыўшы асноўныя дзве ўмовы, пры якіх, напрыклад, Беларусь, можа вярнуцца ў Еўропу. Першае — павінна адбыцца змена ўлады, замест старых структур— прыйсці новыя, альтэрнатыўныя сілы. І другое — рыначная рэформа ў эканоміцы, развіццё рыначных дачыненняў. У Беларусі нічога гэтага няма.

З гэтым Вярхоўным Саветам мы акрамя таго, што валімся ў яму, ніколі не інтэгрыруемся ў Еўропу, нас усур'ёз, як роўных, з цяперашняй уладай туды не прымуць. Гэта ж элементарныя рэчы!

— Але ці разумееце Вы, што першы посткамуністычны ўрад, які прыйдзе пасля змены ўлады, як сведчыць гісторыя, амаль заўсёды асуджаны на недаўгавечнасць?

— Новы парламент, які будзе выбраны народам, не ствараецца для таго, каб існаваць вечна. Ён робіцца для выканання адпаведных задач, дзеля чаго трэба некалькі ўмоў. Большасць з іх — стандартныя, але я спынюся на адной нестандартнай — гэта крэдыт даверу. Урад, які будзе выбраны, павінны мець крэдыт даверу не менш як на год-паўтара, можа нават больш. Па эканамічнай канцэпцыі развіцця Беларусі, падрыхтаванай БНФ, для стабілізацыі будзе патрэбны прыкладна год пасля таго, як гэта канцэпцыя пачне працаваць. Народ грае першасную ролю, і таму фактар даверу абавязковы ва ўсіх урадах, якія прыходзяць у абставінах крызісу. Адразу ўсё зрабіць немагчыма.

— А дзе гарантыя, што такі крэдыт будзе дадзены?

— Гарантыяй—дэмакратычны Закон аб выбарах, які народу прапануецца прыняць на тым жа рэферэндуме. І калі людзі будуць адчуваць, што іх не падманваюць, не ашукваюць, не душаць на акруговых сходах, як гэта было ў 90-м годзе, калі людзі сапраўды вольна выбіраюць таго, каго хочуць, то давер у народа да такога ўрада абавязкова будзе.

**Гутарку вёў**
**Віталь ЦЫГАНКОЎ,**
**БелаПАН.**

*Д-17. („Добры Вечар", – 1992, 21 лютага).*

№ 8 (14) 15 красавіка 1992 г.

„Выбар", 15 красавіка 1992 г. № 8 (14)

# ЛІДЭРАЎ БНФ ВІТАЛІ АРШАНЦЫ

**Гэту сустрэчу меркавлася правесці ўжо даўно, але так складваліся абставіны, што яна двойчы пераносілася. І вось доўгачаканы прыезд адбыўся. Зала не змагла ўмясціць усіх, хто прыйшоў. У прэзідыуме—Старшыня БНФ, народны дэпутат рэспублікі Зянон Пазьняк, дэпутаты ад апазіцыі—Галіна Сямдзянава, Уладзімір Заблоцкі, Віктар Радамысльскі, намеснік старшыні Беларускага Згуртавання Вайскоўцаў падпалкоўнік Уладзімір Савянок.**

Галоўная ідэя, што праходзіла чырвонай стужкай праз усе выступленні дэпутатаў—неабходнасць правядзення усебеларускага рэферэндуму аб роспуску цяперашняга Вярхоўнага Савета рэспублікі і новых выбарах прафесійнага парламента. Лідэр Беларускага Народнага Фронту З. Пазьняк падрабязна ахарактарызаваў сённяшняе палітычнае і эканамічнае становішча, прычыны крызісу. Ён пераканаўча даказаў, што цяперашні Вярхоўны Савет не мае ўласнай канцэпцыі (ні эканамічнай, ні палітычнай) дзяржаўнага развіцця рэспублікі, і пляцецца з завязанымі вачыма ў хвасце падзей услед за Расіяй і Украінай. Чаму так атрымалася? На Беларусі змены ўлады не адбылося: большую частку сённяшняга вышэйшага заканадаўчага органа рэспублікі складаюць былыя партыйныя кіраўнікі, ветэранская эліта, старшыні калгасаў, выканкомаўскія начальнікі і г. д. Такім чынам, сёння намі кіруюць тыя ж самыя людзі, што яшчэ нядаўна вялі нас «к победе великих идей коммунизма».

Яны больш хвалююцца аб тым, каб утрымацца на сваіх мяккіх крэслах, жыццё ж сваіх выбаршчыкаў іх мала цікавіць. Іх рукамі створана напалову планавая, напалову рынкавая эканоміка, якая дае магчымасць некаторым кіруючым асобам атрымліваць вялікія даходы, нічога не робячы, перапампоўваючы ўласнасць дзяржавы ў асабістую. Не забыўся пра інтарэсы роднай наменклатуры і Савет Міністраў, выдаўшы надзаконныя акты аб дзікай прыватызацыі, альбо, як яшчэ ахрысцілі гэты працэс у народзе,—«прыхватызацыі». Але, бадай, самае страшнае, што беларуская наменклатура ў адрозненне ад расійскай і ўкраінскай не праводзіць дзяржаўнай палітыкі ў карысць беларускага народу. Інакш як растлумачыць падпісанне С. Шушкевічам пагаднення аб бясплатным транзіце праз Беларусь?

З. Пазьняк падкрэсліў, што далейшае існаванне такога Вярхоўнага Савета і ўрада небяспечнае для рэспублікі і неабходна змена ўлады канстытуцыйным шляхам рэферэндуму. Гэтая ж думка аргументавана прагучала ў выступленнях Г. Сямдзянавай і У. Заблоцкага.

Апошняе, на што звярнуў увагу Старшыня БНФ, ніякія самыя лепшыя рэформы не дадуць вынікаў, пакуль грамадства не адродзіцца духоўна, не адчуе сябе адзінай скансалідаванай нацыяй, за плячамі якой стагоддзі багатай гісторыі, пакуль кожны чалавек не будзе адчуваць побач плячо другога.

Госці падрабязна адказалі на шматлікія пытанні, большасць з якіх была самага сур'ёзнага характару. Было і некалькі яўна правакацыйных, аднак нічога, акрамя смеху ў зале, яны не выклікалі. Панавала лагодная атмасфера, таму не дзіўна, што сустрэча доўжылася амаль пяць гадзін. Але і пасля яе заканчэння людзі яшчэ доўга не разыходзіліся, адчуваючы патрэбу падзяліцца паміж сабой прыемнымі ўражаннямі.

**Алесь ШУТАЎ.**



**На здымку**: Зянон Пазьняк у Оршы.

Фота **Ф. Быкава**.

*Д-18. („Выбар", – 1992, 15 красавіка).*

„Добры вечар", 9 чэрвеня 1992 г. №106 (291)

## *Зянон ПАЗЬНЯК:*

# «БУДЗЕМ ПІЛЬНЫМІ, НАСТОЙЛІВЫМІ, ДЫ ПРАЦАВІТЫМІ...»

**Вельмі цікава прайшла канферэнцыя Маскоўскай раённай рады БНФ, што адбылася днямі ў грамадскім цэнтры «Галактыка» (мікрараён Паўднёвы Захад-3) і якая разглядала вынікі сваёй дзейнасці ў зборы подпісаў жыхароў Мінска пад патрабаваннем правесці ўсенароднае галасаванне аб даверы цяперашнім уладным структурам Рэспублікі Беларусь. Гэта адметнасць была невыпадковая: у канферэнцыі браў удзел лідэр руху, народны дэпутат Беларусі Зянон Пазьняк. Франтаўцы, у тым ліку спецкарэспандэнт «Добрага вечара», задалі Зянону Станіслававічу шмат пытанняў, якія тычацца маючага адбыцца рэферэндуму і ўнутрыпалітычнай сітуацыі ў нашай рэспубліцы. Некаторыя пытанні і адказы на іх, вельмі блізкія да стэнаграмы, мы і прапануем увазе чытачоў.**

**— Як зараз складваецца сітуацыя з рэферэндумам?**

— Найперш, чым адказаць на гэтае пытанне, я хачу павіншаваць вас, шаноўныя аднадумцы, асабліва тых, хто збіраў подпісы людзей, пераконваў нашых землякоў у неабходнасці правядзення рэферэндуму, адстойваў прынцыпы і погляды нашага руху, ахвяраваў асабістым часам і здароўем, з першай перамогай Беларускага народнага фронту: вынікі падрыхтоўчага этапу ў гэтай справе зацверджаны Цэнтрвыбаркамам. Рэферэндуму — быць! Пастановай Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад 19 мая пытанне аб правядзенні ўсенароднага галасавання ўключана ў праект парадку дня чарговай сесіі ВС. Зразумела, праект — гэта яшчэ не зацверджаны дэпутатамі парадак дня сесіі. І тут нам трэба быць вельмі пільнымі, каб пранаменклатурная большасць не зацягнула зацвярджэнне даты правядзення рэферэндуму. Згодна з Законам аб рэферэндуме, Цэнтральная выбарчая камісія паведамляе ў Вярхоўны Савет аб выніках збору подпісаў, дзе гэтыя вынікі могуць разглядацца не больш месяца. Пасля гэтага чарговая сесія ўстанаўлівае дзень усенароднага галасавання, улічваючы, што такая дата можа быць прызначана не пазней трох месяцаў з моманту канчатковага зацвярджэння вынікаў кампаніі па збору подпісаў. Значыцца, што рэферэндум павінен адбыцца ў канцы жніўня — пачатку верасня. Трывожыць мяне і тое, што дата правядзення чарговай сесіі пакуль яшчэ таксама не прызначана. У выпадку цяганіны з усім комплексам гэтых пытанняў, цяганіны, якая выкліча парушэнне Закона аб усенародным галасаванні, ініцыятыўная група будзе змушана падаць на тых, хто распачне такую валакіту, у Вярхоўны Суд рэспублікі.

Вось чаму першая перамога не павінна нас кідаць у эйфарыю. Трэба быць пільнымі, настойлівымі і працавітымі. Уласна, праціўнікі рэферэндуму нам заспакойвацца не дадуць — успомніце, колькі надуманых прэтэнзій з так званай «факсімільнай праблемай, з не тымі пячаткамі» ды іншымі яны прад'явілі да нас! І калі б мы не зрабілі пад час збору подпісаў пэўны запас трываласці, то зараз ніякай гаворкі наконт рэферэндуму наогул не было б...

**— Ці мае цікавасць да рэфе-**

**рэндуму міжнародная грамадскасць?**

— Так, пра маючае адбыцца ўсенароднае галасаванне на Беларусі ведаюць у Еўропе і Амерыцы. З гэтай нагоды мы нядаўна сустракаліся з прадстаўнікамі Хрысціянска-дэмакратычнага Інтэрнацыянала, Савета Еўропы, прафсаюзаў са Злучаных Штатаў—АФТ—КПП. Апошнія нам сказалі, што для назірання за ходам спраў у правядзенні рэферэндуму прышлюць сваіх назіральнікаў ды кансультантаў. Мае намер з намі сустрэцца нават пасол Турцыі. Між іншым, па яго ініцыятыве.

**— У друку прамільгнула інфармацыя: ідэю правядзення рэферэндуму падтрымлівае нават Расійская партыя працы. Партыя гэта, між іншым, пракамуністычнага светапогляду...**

— Мяне не хвалюе светапогляд адной з партыяў замежнай краіны. Падтрымлівае нас гэтая партыя — добра, падтрымае яшчэ якая, напрыклад, Рэспубліканская партыя ЗША — таксама няблага.

**— У газетах сустракаюцца выказванні пра тое, што ў рэферэндумаўскія бюлетэні можа быць унесена пытанне аб уядзенні на Беларусі інстытута прэзідэнцтва...**

— Я адношуся да гэтага крытычна. Ну, мяркуйце самі, мы жывём у чыста постбальшавіцкай краіне, дзе ў руках наменклатуры па-ранейшаму парламент, урад, КДБ, МУС, сродкі масавай інфармацыі. Зразумела, пры такой раскладцы палітычных сіл уядзенне пасады прэзідэнта прывядзе да аўтарытарнага рэжыму. Некаторыя палітыкі, праўда, гавораць: давайце ўвядзём прэзідэнцтва «бутафорскае», з абмежаванымі правамі. Я асабіста такой «бутафорыі» засцерагаюся. Калі, напрыклад, на гэту пасаду пройдзе дэмакрат, то пры абмежаваных правах (а іх наменклатурны парламент прэзідэнту-дэмакрату не пашырыць), ён нічога карыснага для дзяржавы і яе народа не зробіць. Іншая справа — прэзідэнт-наменклатуршчык. Трываць абмежаванне ў правах ён не будзе. На самай бліжэйшай сесіі папросіць пашыраных паўнамоцтваў. І гэты Вярхоўны Савет такія паўнамоцтвы свайму стаўленіку дасць. І тады ўжо той усім дэмакратам пакажа, дзе ракі зімуюць... Урэшце, справа дойдзе да аўтарытарнага рэжыму...

**—Якія ў кіраўніцтва БНФ адносіны да Станіслава Шушкевіча?**

— Складаныя. На выбарах у Вярхоўны Савет СССР спадар Шушкевіч балаціраваўся па адной акрузе з таварышам Ґалко, сакратаром Мінскага гаркама КПБ. Пад час абрання Старшыні Вярхоўнага Савета яго сапернікам быў Вячаслаў Кебіч. І ў абодвух выпадках мы свядома ішлі на падтрымку Шушкевіча, бо інакш было б горш. Шкоды ж Народнаму фронту Станіслаў Станіслававіч прынёс нямала. Бо праводзіць ён палітыку згодніцтва з наменклатурай, з нашым урадам і яго непрадуманымі, злачыннымі крокамі, скіраванымі на разбурэнне эканомікі і духоўнасці рэспублікі, скіраванымі на сацыяльны выбух. У тым, што народ за лічаныя паўгода пераўтварыўся ў жабрацкую нацыю, ёсць прамая віна Станіслава Шушкевіча: ён не здолеў, як галава дзяржавы, узняцца над гэтым згодніцтвам, заняць прынцыповую дзяржаўную пазіцыю. Мы спрабавалі ў дэпутацкай апазіцыі БНФ размаўляць з ім і агульнай мовы не знайшлі. Станіслаў Станіслававіч нас абвінавачваў нават у тым, што мы ўзнялі ў свой час чарнобыльскае пытанне... Сёння ж людзі, да якіх мы ідзём з ідэямі рэферэндуму, гавораць: «Дык Шушкевіч — гэта ваш чалавек. А што ён зрабіў для народа? Усё разбурыў разам з урадамі». Не будзеш жа кожнаму даказваць і расказваць пра сённяшнюю пазіцыю БНФ...

Але працаваць на рэферэндум трэба на ўсіх узроўнях: у друку, у чарзе за прадуктамі, ва ўлётках. Нам, сапраўды, неабходна ўзняць на яшчэ больш высокі ўзровень усю агітацыйную работу. Дык настроімся на тое, што трэба гэту справу давесці да лагічнага канца. А працавітасці і грамадзянскай мужнасці нам не займаць!..

Запісаў
Алесь МІКАЛАЙЧАНКА.

*Д-19. („Добры Вечар", – 1992, 9 чэрвеня).*

# Слова дэпутатам

## Зянон ПАЗЬНЯК:

Што я хачу сказаць праз "Народную газету"? 25 лістапада на сесіі Вярхоўнага Савета выступіў народны дэпутат У. Русакевіч і абнародаваў таямніцу, пра якую не ведаў друк, але здагадваліся палітыкі. Аказваецца, яшчэ 5 лістапада ў Міністэрства замежных спраў Беларусі паслом ЗША Д. Суарцам была перададзена нота Злучаных Штатаў аб антызаконным адхіленні рэферэндуму на Беларусі Вярхоўным Саветам. У ноце, паводле пераказу У. Русакевіча, сказана: "Адмова Вярхоўнага Савета 29 кастрычніка ад правядзення рэферэндуму сведчыць пра наяўнасць рэгрэсу на шляху да будаўніцтва дэмакратычнай і прававой дзяржавы ў Рэспубліцы Беларусь. Злучаныя Штаты выяўляюць сваё шкадаванне з нагоды рашэння Вярхоўнага Савета. Кампетэнтная прававая камісія сачыла за выкананнем законнасці і афіцыйна пацвердзіла наяўнасць і правільнасць колькасці подпісаў, неабходных у падтрымку рэферэндуму. Пры наяўнасці неабходнай колькасці подпісаў законам Рэспублікі Беларусь прадпісваецца Вярхоўнаму Савету прызначыць дату рэферэндуму. Замест гэтага Вярхоўны Савет проста адхіліў гэтую ініцыятыву.

У сувязі з тым, што ўрад ЗША ў цяперашні час не падтрымлівае ніякія палітычныя партыі ці групы ў Рэспубліцы Беларусь, мы вымушаны выказаць нашу крайнюю заклапочанасць з нагоды рашэння Вярхоўнага Савета, які ігнаруе свае ж уласныя законы, а таксама вынікі свабоднага волевыяўлення значнай часткі насельніцтва".



Пры гэтым карэктная, палітычна вытрыманая па ўсіх міжнародных правілах нота ЗША была ахарактарызавана дэпутатам як "палітычны дэмарш" і "прававое ўмяшанне ва ўнутраныя справы суверэннай дзяржавы". Такая характарыстыка вельмі некампетэнтная і сведчыць пра тое, што наменклатурная большасць Вярхоўнага Савета не ведае і не хоча разумець элементарных рэчаў аб тым, што пытанні дэмакратыі і праvoў чалавека знаходзяцца ў сферы не толькі дзяржаўнай, але і міжнароднай зацікаўленасці. Асабліва ўлічваючы, што Беларусь падпісала ўсе міжнародныя пакты і пагадненні па правах чалавека і дэмакратычных гарантыях. Здаецца, нашая кансерватыўная наменклатура пачынае выходзіць на міжнародную палітычную арэну. Арыгінальны "выхад".

*Д-20. („Народная Газэта", – 1992, 28 лістапада).*

Выбар "Выбар", снежань 1992 г. №21(27)
2). "Добры вечар", 10 лістапада 1992 г.

# ЗАЯВА

## АПАЗІЦЫІ БЕЛАРУСКАГА НАРОДНАГА ФРОНТУ Ў ВЯРХОЎНЫМ САВЕЦЕ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСІ

29 кастрычніка 1992 года Вярхоўным Саветам Беларусі прынята беспрэцэдэнтная пастанова, паводле якой насуперак Закону «Аб народным галасаваньні (рэферэндуме)» праігнаравана ініцыятыва больш як 442 тысячаў грамадзянаў нашай дзяржавы аб правядзеньні рэферэндуму пра роспуск выбранага за часы непадзельнага кіраваньня КПБ—КПСС парламента і правядзеньні датэрміновых выбараў у новую найвышэйшую ўстанову дзяржаўнай улады Рэспублікі Беларусі.

Вярхоўны Савет гэтым сваім рашэньнем паказаў сваю адкрытую пагарду да рэалізацыі неад'емнага права народа на волевыяўленьне, парушыўшы тым самым артыкулы 2 і 5 дзейнай Канстытуцыі Рэспублікі Беларусі, артыкулы 6 і 14 Закона «Аб народным галасаваньні (рэферэндуме)» Рэспублікі Беларусі.

Цэнтральная камісія па рэферэндуму не адзначыла ніякіх парушэньняў Закона з боку Ініцыятыўнай групы рэферэндуму, якія давалі б падставу адхіліць правядзеньне рэферэндуму, аб чым сьведчыць Заключэньне Камісіі. Падпісныя лісты, у якіх Цэнтральная камісія па рэферэндуму выявіла недакладнасьці ў афармленьні, былі аднятыя ад агульнай колькасьці падпісных лістоў. Усе астатнія праверадзеныя Камісіяй падпісныя лісты былі прызнаныя сапраўднымі і склалі 384318 падпісаў грамадзянаў, што значна перавышае колькасьць, неабходную для правядзеньня рэферэндуму. На аснове гэтага і было прынятае Заключэньне Цэнтральнай камісіі па рэферэндуму і 12 мая 1992 г. перададзена ў Прэзідыум Вярхоўнага Савета Беларусі. Прэзідыум, ігнаруючы законную волю грамадзянаў, выяўленую ў падпісных лістах, на працягу паўгода не зьбіраў Сесію Вярхоўнага Савета і не займаўся пытаньнем пра рэферэндум, штучна адцягваў абавязковае рашэньне пытаньня.

29 кастрычніка 10-я Сесія Вярхоўнага Савета Беларусі з падачы Камісіі па заканадаўству сфальсіфікавала вывады Заключэньня Цэнтральнай камісіі па рэферэндуму і прадставіла як грубыя парушэньні Закона. Але такія парушэньні Закона, калі б яны былі, мог устанавіць толькі суд. У дадзеным выпадку суду падлягае парламен, які прыняў антызаконную пастанову на падставе ім жа сфальсіфікаваных аргументаў. Аднак у нашай дзяржаве няма Канстытуцыйнага суда.

У сувязі з вышэйсказаным мы, дэпутаты Апазіцыі Беларускага Народнага Фронту ў Вярхоўным Савеце, заяўляем, што Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусі 12-га скліканьня, адхіліўшы законную ініцыятыву сотняў тысяч грамадзянаў Беларусі аб правядзеньні рэферэндуму пра нечарговыя выбары і роспуск цяперашняга Вярхоўнага Савета, стаў на шлях адкрытага парушэньня законаў, Канстытуцыі Рэспублікі Беларусі і тым самым фактычна згубіў сваю легітымнасьць. Дзеяньні Вярхоўнага Савета аб недапушчэньні

рэферэндуму могуць быць расцэненыя толькі як утрыманьне ўлады незаконнымі сродкамі.

На жаль, кіруючая большасць у Вярхоўным Савеце Беларусі, якая так нічога і не зрабіла для паляпшэньня жыцьця народа, засьведчыла на гэтай Сесіі выразныя тэндэнцыі, накіраваныя супраць існаваньня беларускай дзяржавы і беларускай нацыі. Гэта выявілася ў непрыняцьці новай Канстытуцыі Рэспублікі Беларусі, у тармажэньні эканамічных пераўтварэньняў, у непавазе да дзяржаўнай беларускай мовы і сімвалаў беларускай дзяржавы, у імкненьні ўцягнуць нейтральную Беларусь у ваенны блок з Расеяй, у спробах захаваць адміністрацыйна-сацыялістычны лад і аднавіць КПБ—КПСС. Антыдзяржаўная палітыка ёсьць палітыка антынародная, бо, не маючы сваёй дзяржавы, народ не можа распараджацца вынікам сваёй працы.

У ажыцьцяўленьні рэакцыйных задумаў наменклатуры перашкаджае дзейнасьць аб'яднанай Апазіцыі Народнага Фронту і дэмакратычных партыяў. Мы, дэпутаты Апазіцыі БНФ у Вярхоўным Савеце Рэспублікі Беларусі, усьведамляем свае абавязкі перад народам у цяжкі для нашай Бацькаўшчыны час і, нягледзячы ні на што, застаючыся ў жорсткай парламенцкай Апазіцыі, будзем змагацца за аднаўленьне законнасьці, за інтарэсы нашых выбаршчыкаў, нашай Беларусі і яе грамадзянаў.

Мы застаемся паўнамоцнымі прадстаўнікамі нашых выбаршчыкаў, але не лічым для сябе абавязковым прымаць удзел у галасаваньні ў гэтым Вярхоўным Савеце.

Неабходнасьць рэферэндуму, законна засьведчаная воляй 442 тысячаў грамадзянаў Беларусі, не зьнятая з парадку дня. Дэпутаты Апазіцыі БНФ будуць дамагацца адмены антызаконнага рашэньня Вярхоўнага Савета ўсімі даступнымі канстытуцыйнымі сродкамі. Рэферэндум павінен адбыцца.

Мы, дэпутаты апазіцыйнай меншасьці, усе, хто 29-га кастрычніка прагаласаваў за рэферэндум, за выкананьне Канстытуцыі і Закона, застаемся легітымнай часткай гэтага Вярхоўнага Савета, каб не дазволіць яго кіруючай большасьці бесперашкодна парушаць правы чалавека, зьневажаць духоўныя і матэрыяльныя інтарэсы народа, дыскрэдытаваць беларускую дзяржаву, каб дамагчыся датэрміновага спыненьня яго паўнамоцтваў на аснове Закона.

Мы верым у шчаслівую будучыню Беларусі, вольнае і заможнае жыцьцё народа і, адстойваючы законныя інтарэсы і правы людзей, спадзяемся на іх разуменьне нашай пазіцыі, падтрымку і арганізаванасьць.

**Дэпутаты Апазіцыі БНФ:**

**З. ПАЗЬНЯК, В. ГОЛУБЕЎ, Г. СЯМДЗЯНАВА, С. НАВУМЧЫК, Л. ЗДАНЕВІЧ, Г. ГРУШАВЫ, С. АНТОНЧЫК, У. ЗАБЛОЦКІ, Ю. БЕЛЕНЬКІ, Л. ТАРАСЕНКА, С. ПАПКОЎ, Я. НОВІКАЎ, І. ГЕРМЯНЧУК, Л. БАРШЧЭЎСКІ, Л. ДЗЕЙКА, П. ХОЛАД, А. ШУТ, А. ТРУСАЎ, В. КАКОЎКА, М. АКСАМІТ, Я. ГЛУШКЕВІЧ, М. КРЫЖАНОЎСКІ, С. БАБАЧОНАК, М. МАРКЕВІЧ, А. ПАРУЛЬ, І. ПЫРХ, Я. БЯДУЛІН, В. МАЛАШКА, В. АЛАМПІЕЎ, М. МАЦЮШОНАК, С. СЛАБЧАНКА, Я. ЦУМАРАЎ.**

*Д-21. („Выбар", – 1992, сьнежань № 21(27). Тое-ж самае: („Добры Вечар", – 1992, 10 лістапада).*

# ЛІДАР

***(Нататкі да палітычнага партрэта Зянона Пазьняка)***

Час, які ўвайшоў у нашу гісторыю пад назвай перабудовы і які, мяркуючы па ўсім, беззваротна мінае, адзначыўся, апроч іншага, радыкальным пераглядам многіх маральных каштоўнасьцяў, банкруцтвам казённых псэўдалідараў і выхадам на грамадзка-палітычную арэну сапраўдных народных аўтарытэтаў. Так было ў шмат якіх рэспубліках дзяржавы, дзе хвалі народнага пратэсту часам праз няўдачы і крывавыя катаклізмы рушылі з тронаў атлусьцелых стаўленікаў таталітарызму, і на іх месца заступілі іншыя людзі. Малаважна, што ня ўсе яны і не адразу ўпісваліся ў рамкі звыклых афіцыйных структураў. Узначаліўшы народныя рухі, некаторыя зь іх хоць і не дамагліся ўлады, затое набылі папулярнасць і агульнанацыянальнае прызнаньне. Менавіта яны сталі сапраўднымі выразьнікамі нацыянальных інтарэсаў, спакутаванай волі народа. Адным з такіх лідараў нацыі стаў беларускі навуковец, самаадданы палітычны дзеяч Зянон Пазьняк.

Мабыць, шмат каму з грамадзянаў Беларусі памятны той цёплы вясновы дзень, калі на гарадзкой плошчы сталіцы сабраліся тысячы яе насельнікаў, якія пасьля гняўлівага мітынгу рушылі ў напрамку да Сьвіслачы. Народу надакучыла немата, ён прагнуў сказаць на ўвесь сьвет сваю праўду, і неўзабаве здарыўся цуд: тая праўда загучала з экранаў тэлевізараў. Людзі ўбачылі там жывых кіраўнікоў Беларускага Народнага Фронту і ягонага лідара Зянона Пазьняка. Менавіта тады ён сказаў у непасрэдны эфір тое, што дзесяцігоддзі муляла у людскіх сэрцах, але што да яго ніхто не адважыўся сказаць такім голасам на ўсю Беларусь. А сказаў ён пра тое, чым на самай справе зьяўляецца партыя камуністаў, чым яна найболей адзначыла сябе ў нашай гісторыі, што прынесла народам іншых краінаў, нашым суседзям. Ён заклікаў беларускі народ аб'яднацца ў барацьбе са шматгадовай пачварай і ладзіць жыцьцё па-свойму, на сваёй зямлі.

Так прыкладна сказаў гэты чалавек, хоць на той час ён ужо ня быў загадкавы незнаёмец – яго ўжо ведалі ў Рэспубліцы, як зьведалі і за яе межамі. Якраз перад тым шырока па сьвеце разышлася сумная слава беларускіх Курапатаў, дзе ў страшныя гады бальшавіцкага тэрору было зьнішчана болей за 200 тысячаў бязьвінных ахвяр. Гэтая славутасьць нікому не вядомага ляска пад Менскам пачалася з публікацыі ў «ЛіМе» вялікага артыкула, аўтарамі якога былі Шмыгалёў і Пазьняк. Тое, што болей за паўстагоддзе старанна і пасьпяхова хавалі ад чужога вока карныя ўлады Беларусі, найперш клопатам Пазьняка, было выстаўлена на ўсясьветны агляд. Актыўна ўдзельнічаючы ў раскопках курапацкіх магілаў, ён перацёр у пальцах кожны выняты адтуль грудок зямлі, пералічыў усе чалавечыя рэшткі, склаў падрабязную дакумэнтацыю раскопак. Усё тое давалася няпроста. І праз болей чым пяцьдзесят гадоў пэўныя воргана ня рупіліся садзейнічаць раскрыцьцю злачынства. Пазьняк не саступіў з сваёй пазыцыі, яго падтрымала грамадскасьць, яму паверылі людзі. Праўда пра крывавыя трыццатыя гады, малую частачку якіх адкрыў Пазьняк, надта ж, аднак, не спадабалася пэўным сілам, якія ўсчалі новае, запозьненае «дасьледваньне» курапацкай трагедыі. Але тую трагедыю ўжо не абвергнуць ніякім пасьпешлівым вэрсіям пра «гамбургскіх яўрэяў» ды іхніх катаў-фашыстаў. Цяпер ужо вядома на увесь сьвет, што там савецкія чэкісты пастралялі сотні тысячаў нашых людзей. Пра тое сьведчаць косці, чарапы і факты.

Менавіта сумныя факты ў каторы раз пацьвердзілі нязрушаную сутнасць камуністычнай дыктатуры, калі 30 кастрычніка 1988 года ля Ўсходніх могілак народ Беларусі ў чарговы раз сутыкнуўся зь яе нахабным мурлом. Тады была прадпрынята чарговая спроба паніш-чыць мізэрныя рэшткі нацыянальных традыцый, паралізаваць народную волю, адбіць у народа імкненне да дэмакратыі. І калі справа абышлася без крыві і сьмерцяў, дык у тым найбольшая заслуга менавіта Зянона Пазьняка. Гэта ён, сам атручаны газам, у крытычны момант сутычкі заклікаў шматтысячны натоўп мінчукоў да спакою і вытрымкі, сілаю аўтарытэту сваёй асобы засьцярог іх ад старанна падрыхтаванай сакалоўскімі* карнікамі правакацыі і павёў за гарадзкую рысу ў Курапаты. Не зважаючы на паліцэйскую расправу, на газы і бальшавіцкія «дэмакратызатары», людзі стрывалі ўсё і не ўступілі ў бойку, не аказалі безнадзейнага супраціўленьня ўзброенай сіле, якая тады была мацней за іх. Мусіць, у той момант і ў тых варунках гэта было адзіна правільна. Мэтад вялікага Гандзі таксама тоіць немалую, а часам і рашучую сілу – асабліва ў імпэрскім асяроддзі, на пачатковай стадыі дэмакратычнага адраджэньня.

Народная воля беларусаў, іхняе імкненьне да свабоды і нацыянальнага вызначэньня, выразна праявілася і пазьней, калі быў створаны Беларускі Народны Фронт, Сойм якога па праву ўзначаліў Зянон Пазьняк. У жахлівай атмасфэры маральнага тэрору, бязьлітаснага супрацьдзеяньня партыйных уладаў, цкаваньня і адміністрацыйных перасьледванньяў гартавалася палітычная воля франтаўцаў і іхняга лідара. Фронт за кароткі тэрмін распрацаваў шмат якія праграмы беларускага нацыянальнага Адраджэньня – у галіне эканомікі, права, культуры і іншыя. Большая частка тых праграмаў, на жаль, засталася малавядомай для шырокай публікі, афіцыйны друк іх адкінуў, а бальшавіцкія ўлады павялі шалёную барацьбу як зь іхняй сутнасцю, так і зь іх аўтарамі пэрсанальна.

Тая барацьба не спынялася да апошняга часу, хоць яе цэнтар перамясьціўся з плошчаў і старонак партыйных газэтаў у залю паседжаньняў Вярхоўнага Савета, дзе створана парляманцкая Апазыцыя БНФ, якой кіруе народны дэпутат Зянон Пазьняк. Дзейнасьць тае Апазыцыі таксама прыпадае на экстрэмальныя ўмовы, калі большасьць належыць камуністычнай групоўцы, якая, як даўно вядома, рупна выконвае ўстаноўкі свайго ЦК па ўтрыманьню ўлады. Менавіта ўтрыманьне ўлады, як і заўжды, зьяўлялася галоўнай задачай камуністаў, дзеля чаго яны ня грэбавалі ніякімі сродкамі – ні лёгікай, ні маральлю. Усё тое, што ўдаецца адстаяць у інтарэсах народа ды зацьвердзіць у выглядзе законаў, каштуе Апазыцыі вялікага поту, нэрвовага напружаньня. Але Пазьняк таксама навучыўся праяўляць характар і прынцыповасьць у абароне народных інтарэсаў парляманцкімі сродкамі, сярод якіх нават жалезная лёгіка – ня самы дзейсны сродак. Мабыць, самы дзейсны – вытрымка і праца, праца і вытрымка. Дзясяткі праектаў законаў, якія не прыняты бальшавіцкай большасьцю, сотні самых канструктыўных прапановаў, выпрацаваных Апазыцыяй і яе лідарам, патрабавалі ад іх шматлікіх бяссонных начэй, зайздроснай эрудыцыі і ўменьня цярпліва чакаць. Парляманцкая барацьба загартавала Пазьняка-палітыка, выпрацавала ў ягоным характары новыя якасьці. І дарма некаторыя зь ягоных праціўнікаў наракаюць на пазьнякоўскі экстрэмізм, празьмернасць ягоных праграмаў. У Пазьняка цяпер, як ніколі, хапае разважнасьці ды разумнай умеранасьці, мудрасьці, якая даецца праз навуку памыляцца і адначасна вучыцца на ўласных памылках. Напрыклад, у адносінах да той жа партыі камуністаў Пазьняк казаў, што ня трэба было яе заганяць у кут, у куце яна стане больш небясьпечнай. Трэба даць ёй магчымасьць памяркоўна паглядзець на сябе знутры, спакойна разважыць над тым, што яна зрабіла са сваім народам. Можа,

* Яфрэм Сакалоў, на той час Першы сакратар ЦК КПБ, ініцыятар правакацыі 30-га кастрычніка 1988 г. *(Рэд.)*

яно і праўда. Калі б толькі яна мела здольнасьць спакойна сядзець у куце…

„Асьцярожна, сталінізм!" – папярэджваў Зянон Пазьняк люд Беларусі, і ён меў рацыю. Сапраўды, бальшавікі ёсьць бальшавікі. „КПБ і яе намэнклятура дзе скрыта, дзе адкрыта падтрымліваюць саюзную і міжнародную рэакцыю, камуністычных „путчыстаў" з краінаў Балтыі, Буракявічусаў і Ермалавічусаў, прадастаўляюць свае друкарні іхнім газэтам і інтэрфронтаўскім лісткам, радзяцца…" „Пазыцыі сталінскага бальшавізму добра відаць у палітыцы КПБ – у дачыненьні да зямельнага пытаньня, да рынку, да суверэнітэту Беларусі, да сістэмы «саветаў», да прыватызацыі, да дэпартызацыі дзяржаўных і прававых установаў, да нацыянальнай культуры і нават да Міхаіла Гарбачова",– пісаў ён нядаўна ў „ЛіМе". Вядомы абсалютна адмоўныя адносіны Пазьняка і дэпутацкай Апазыцыі да па-змоўніцку падрыхтаванага пад Масквой праекта Саюзнага дагавора, які «яшчэ больш імпэрыялістычны, чым дагавор 1922 года. Ён зьнішчае нават фармальны суверэнітэт рэспублік, плянуе ператварыць СССР з саюза дзяржаў у фэдэратыўную дзяржаву, дзе суверэнітэтам, як вядома, валодае толькі фэдэрацыя, а не суб'екты фэдэрацыі".

Як ужо сказана, сучасны бальшавізм болей за ўсё быў заклапочаны ўмацаваньнем сваёй улады, якая пахіснулася, і ён вынаходзіць для таго новыя сродкі. Адным з такіх «вынаходстваў» зьявіліся спробы ўвесьці прэзыдэнцкае кіраванне Рэспублікай – спроба, тайны сэнс якой быў своечасова разгаданы парляманцкай Апазыцыяй БНФ. Зянон Пазьняк пісаў з гэтай нагоды: «Прэзыдэнцтва на Беларусі, дзе ўся ўлада ў руках камуністычнага апарату,– гэта плян намэнклятуры, спосаб намэнклятурнага ўмацаваньня рэжыму ЦК КПБ. Таму гэтак і старалася камуністычная большасьць на 4-й сэсіі Вярхоўнага Савета БССР. І хоць плян з прэзыдэнцтвам яны прайгралі, няма гарантыі, што ім ня ўдасца яго ажыццявіць потым".

Найбольшы клопат Зянона Пазьняка як прызнанага лідара нацыянальнага руху складаюць пакутныя праблемы незалежнасьці Беларусі. Вядома, ён ня мог не разумець сапраўдны кошт Дэклярацыі аб суверэнітэце, якая год таму ў прапагандысцкіх мэтах была прынята Вярхоўным Саветам БССР. І ён бачыў, які цяжкі шлях ляжаў да сапраўднага суверэнітэту. Посьпех тут залежаў ад шмат якіх умоў, але найперш – ад палітычнай сталасьці і нацыянальнай сьвядомасьці беларусаў. У якасьці варыянта парляманцкая Апазыцыя БНФ дапускала магчымасьць пераходнага пэрыяду ў форме садружнасьці Украіны, Беларусі, Летувы, Эстоніі, аб'яднаныя намаганні якіх далі б новыя магчымасьці ажыццяўленьня іхняга суверэнітэту. Але вядома, як цяжка аб'яднаць дэмакратаў, узгадніць іхнія высілкі. Гэта рэакцыя аб'ядноўваецца адразу і без намаганьняў, як гэта здарылася ў дні нядаўняга фашыстоўска-камуністычнага путчу. Пазыцыя ж БНФ і Пазьняка ў тыя дні была гранічна выразнай: ніякай падтрымкі антынароднай змове, усеагульнае супраціўленьне путчыстам з боку аб'яднаных дэмакратычных сілаў. Арганізаваць тое супраціўленьне, аднак, было вельмі складана ва ўмовах, калі амаль усё кіраўніцтва Рэспублікі адразу і з натхненьнем падтрымала путчыстаў. Цяпер яно вініцца, адмываецца і чакае наступнага заходу, плянуючы большую пэўнасьць сваёй перамогі. Тым болей што «страты» ў іхніх радах сапраўды да сьмешнага малыя, а сьляды іхняй дзейнасьці ўжо надзейна схаваны.

У новых умовах дзяржаўнасьці адразу зьявіліся новыя складаныя праблемы. Так нядаўняя камуністычная намэнклятура ў тэрміновым парадку мяняе афарбоўку, набываючы нацыяналістычныя колеры. Мэта тут даволі празрыстая: пранікненьне ў нацыянальную дэмакратыю. І, безумоўна, не для таго, каб ашчасьлівіць нацыю, а, вядома, каб адабраць у дэмакратаў выпакутаваную імі ўладу. Вопыту для таго ў былых камуністаў хапае.

Трэба спадзявацца, народу Беларусі калі-небудзь стане вядомы ўвесь грандыёзны комплекс высілак, якія зрабіў БНФ па ажыцьцяўленню галоўнай нацыянальнай ідэі – суверэнітэту Беларусі. Цяпер некаторыя зь нядаўніх праціўнікаў незалежнасьці спрабуюць прыпісаць сабе найбольшыя ў тым заслугі. Увогуле зрабіць тое магчыма, калі ўлічыць усю складанасьць абставінаў замоўчваньня і паўлегальнасьці, у якіх доўгі час працаваў БНФ. Калі ж суверэнітэт Беларусі фармальна здзейсьніўся, галоўны акцэнт кіраўніцтва БНФ, безумоўна, пераносіцца на канструктыўную працу па яго фактычнаму ажыцьцяўленьню. Трэба разумець, што тое будзе ня меней складана. Ад лідэра БНФ запатрабуецца ня толькі пэўная палітычная выверанасьць пазыцыі, але і вялікая маральная дакладнасьць, асабліва ў праблемах міжнацыянальных адносін – унутры Рэспублікі з нацменшасьцямі, па-за яе межамі – з суседнімі суверэннымі дзяржавамі. Усё тое, вядома, надта праблематычна і рызыкоўна, як у адносінах з кансэрватыўнымі элемэнтамі, так і дэмакратычнымі. Вядома, што гэтыя апошнія ў новых умовах набываюць якасна іншы характар. Асабліва тое прыкметна на палітычным небасхіле нашай суседкі Расеі.

Зянон Пазьняк шмат гадоў вядомы на Беларусі як выдатны мастацтвазнаўца, а таксама вучоны-археолаг. Ягоныя публікацыі па праблемах нацыянальнай культуры даўно пазначылі сябе як самыя важныя і прынцыповыя ў беларускім друку. Калісьці ў эстонскім часопісе «Радуга» зьявілася надзвычай цікавая праца З. Пазьняка аб вострых пытаньнях нацыянальных моваў. Тады для пэўных колаў беларускай інтэлігенцыі некаторыя моманты тае працы здаваліся спрэчнымі, можа, трохі заўчаснымі і празьмернымі. Але жыцьцё неўзабаве пераканала ў іх неабвержнасьці. Пазьняк глядзеў далей і бачыў больш. Зрэшты, так яно і мае быць.

Так яно і мае быць, бо апостал народнае праўды заўжды апераджае свой час. Як сапраўдны беларус і палітык Зянон Пазьняк цярпліва марыць пра росквіт нацыянальнай культуры, пагарджанай беларускай мовы. Але ён ведае, што той росквіт настане толькі пры адной-адзінай умове: поўнай незалежнасьці Беларусі, калі яна на справе стане суверэннай дзяржавай, роўнай у суполцы эўрапейскіх народаў. Здаецца, такі час набліжаецца. І ў тым, што ён стаў, нарэшце, магчымым, адна з найпершых заслуг належыць прызнанаму лідару нацыі, вернаму сыну Беларусі Зянону Пазьняку.

***Васіль БЫКАЎ***

*1992 г.*

# 1993



„Народная Газета“, 19 сакавіка 1993 г.

*Адкрытым тэкстам*

# Заява аб дачыненнях у войску

Дэпутаты апазіцыі БНФ у Вярхоўным Савеце выказваюць занепакоенасць з прычыны антынацыянальнай палітыкі асобных структур наменклатурнага ўрада Беларусі і Міністэрства абароны ў галіне вайсковага будаўніцтва.

У арміі квітнее карупцыя і нічога не робіцца дзеля яе спынення. Вывозіцца за межы Беларусі вайсковая маёмасць, якая належыць нашаму народу (гомельскі склад медпрэпаратаў, абсталяванне каманднага пункта пад Ваўкавыскам, рыштунак вайсковых часцей і інш.). Ёсць факты неабгрунтаванага звальнення з беларускага войска афіцэраў-беларусаў, санкцыянуецца антыбеларуская прапаганда і антыдзяржаўная палітычная дзейнасць пракамуністычных і расійскіх шавіністычных груп, якія праводзяць ідэалагічны развал войска, настройваюць афіцэраў супраць краіны і народа, якому прынеслі прысягу; робяцца непераадольныя перашкоды вяртанню афіцэраў-беларусаў на Бацькаўшчыну з іншых краін былога СССР. Ва ўрада ўвогуле адсутнічае праграма вяртання вайскоўцаў — грамадзян Беларусі на радзіму і выезду грамадзян іншых краін з беларускага войска ў свае краіны. Не заключаны патрэбныя міждзяржаўныя пагадненні аб грамадзянскім і сацыяльным статусе вайскоўцаў былых узброеных сіл былога СССР. Не выканана пастанова Вярхоўнага Савета Беларусі аб вывадзе і вяртанні да 1.01.93 г. нашых афіцэраў і прапаршчыкаў з зон ваенных дзеянняў іншых краін. Пры гэтым назіраецца імкненне пэўных сіл у Міністэрстве абароны, ва ўрадзе і Вярхоўным Савеце скасаваць нейтралітэт Беларусі і ўцягнуць нашу краіну ў ваенную сістэму калектыўнай бяспекі сумесна з Расіяй, Узбекістанам і іншымі дзяржавамі СНД, што азначала б няспынную прысутнасць на Беларусі чужога войска, удзел беларусаў у чужых крывавых канфліктах у чужой імперскай палітыцы, скіраванай у аснове супраць незалежнасці нашай дзяржавы.

Менавіта зыходзячы з такіх праімперскіх меркаванняў, наменклатурна-камуністычная большасць Вярхоўнага Савета ў аднабаковым парадку ратыфікавала нявыгадныя для Беларусі вайсковыя пагадненні з Расіяй, заключаныя 20 ліпеня 1992 г., і дагавор аб стратэгічных узброеных сілах.

Вярхоўны Савет не адмяніў рашэнні былога кіраўніцтва былога СССР і сваю згоду на ўвядзенне ў Беларусь расійскага войска з былой савецкай Заходняй групы войск. Вайсковыя часці з Германіі былі пераведзены на Беларусь і працягваюць прыбываць. Гэтыя людзі тут жа атрымліваюць кватэры, не маючы фактычна права на жыхарства ў Беларусі. Тады большасць Вярхоўнага Савета прыняла ў

пачатку гэтага года закон аб наданні беларускага грамадзянства асобам з ліку вайскоўцаў, якія прыбылі ў Рэспубліку Беларусь пасля прыняцця Закона аб грамадзянстве, чым яшчэ больш абвастрыла сітуацыю.

Закон аб грамадзянстве да гэтага часу на Беларусі фактычна не працуе, што адкрывае прастору для маніпуляцый дзяржаўнай уласнасцю. Адначасова зневажаюцца маёмасныя і сацыяльныя правы тых грамадзян Беларусі, якія апынуліся ва ўзброеных сілах Расіі, часова дыслакаваных на нашай тэрыторыі.

Грубым парушэннем Закона аб грамадзянстве і правоў чалавека з'яўляюцца дзеянні вайсковых улад і ўрадавых структур у дачыненні да вайскоўцаў — грамадзян Беларусі з Лідскага авіяпалка Першай гвардзейскай Сталінградскай пяціардэнаноснай дывізіі, падпарадкаванай Расіі. Трэць афіцэраў і большасць прапаршчыкаў (дарэчы, у асноўным беларусы і жыхары Беларусі) адмовіліся насільна эміграваць у Расію, куды пераводзіцца полк для расфарміравання, выказалі жаданне застацца на Бацькаўшчыне. (Між іншым, прысяга на вернасць Расіі ў гэтым палку ўвогуле не праводзілася.) Аднак Міністэрства абароны Беларусі і ўрад не знаходзяць гэтым вайскоўцам ніякай альтэрнатывы, не хочуць уладкаваць іх і фактычна імкнуцца выштурхнуць нашых грамадзян за межы краіны, каб такім чынам вырашыць за кошт выгнаных беларускіх грамадзян пытанне з забеспячэннем кватэрамі вайскоўцаў іншай часці, падпарадкаванай беларускаму войску, перавёўшы яе з Пружан у Ліду. Больш таго, відавочныя імкненні кіруючых наменклатурных структур сутыкнуць інтарэсы вайскоўцаў гэтых часцей, распаліць канфлікт, каб потым стрыгчы купоны са сваёй антыбеларускай дэмагогіі.

Мы выказваем абурэнне і пратэст супраць такога абыходжання з нашымі грамадзянамі, іх воляй і правамі. Міністэрства абароны і ўрад яшчэ раз засведчылі сваю адчужанасць ад нацыянальных інтарэсаў беларускай дзяржавы, ад законных інтарэсаў яе людзей. Вайскоўцы-беларусы Лідскага расійскага авіяпалка, што адмовіліся ад прымусовай эміграцыі, павінны знайсці месца ў беларускім войску. Яны маюць права на сацыяльнае і кватэрнае забеспячэнне. Урад дзяржавы павінен клапаціцца пра сваіх грамадзян і абараняць іх інтарэсы.

Заклікаем Савет Міністраў зацікаўлена выконваць законы Рэспублікі Беларусь і разабрацца з палітыкай і дзеяннямі Міністэрства абароны ў дачыненні да вайскоўцаў — грамадзян Беларусі і ў цэлым у дачыненні да метадаў і прынцыпаў будаўніцтва нацыянальных узброеных сіл.

Па пастаўленых пытаннях і асабліва аб уладкаванні вайскоўцаў — грамадзян Беларусі з Лідскага авіяпалка патрабуем ад Савета Міністраў і Міністэрства абароны зрабіць адпаведныя захады і аб прынятых мерах даць нам пісьмовы адказ у вызначаны законам тэрмін.

**Народныя дэпутаты апазіцыі БНФ у Вярхоўным Савеце Беларусі:**
**З.ПАЗЬНЯК, Г.СЯМДЗЯНАВА, В.ГОЛУБЕЎ, І.ГЕРМЯНЧУК, Л.ДЗЕЙКА, С.НАВУМЧЫК, А.ШУТ, П.ХОЛАД, А.ТРУСАЎ, Я.ЦУМАРАЎ, У.ЗАБЛОЦКІ, В.АЛАМПІЕЎ, Б.ГЮНТЭР, С.АНТОНЧЫК.**

*Д-22. („Народная Газэта", – 1993, 19 сакавіка).*

"Народная газета", 6 красавіка 1993 г. № 65 (578)

# "Калектыўная бяспека" і гульні вакол яе

## Зварот народных дэпутатаў апазіцыі БНФ да народа Беларусі

Паважаныя суайчыннікі, грамадзяне Рэспублікі Беларусь!

Над нашай краінай навісла пагроза страты незалежнасці і сацыяльнай перспектывы. Пракамуністычная большасць Вярхоўнага Савета і ўрада пачала адкрыта праводзіць палітыку, накіраваную на ліквідацыю нейтралітэту Беларусі, на ўваходжанне ў ваенны блок з Расіяй і іншымі краінамі СНД, на тэрыторыі якіх адбываюцца ваенныя дзеянні. Гэтая палітыка вядзе да адмаўлення ад суверэнітэту, што паграджае знікненнем дзяржаўнасці і магчымасці выхаду з крызісу, пабудовы вольнага жыцця і дабрабыту.

Такія паводзіны кіруючых структур улады выкліканы надыходзячым эканамічным калапсам і страхам адказнасці ўрада за сваю палітыку, а таксама дзеяннямі старых камуністычных сіл, накіраваных на аднаўленне савецкай таталітарнай сістэмы.

Дамогшыся незалежнасці ў жніўні 1991 года і прыпынення дзейнасці КПСС—КПБ, Беларусь не змагла, аднак, змяніць старую дзяржаўную камуністычную ўладу, правесці выбары, выбраць новы парламент і ўрад. Старое таталітарнае кіраўніцтва не ў стане ажыццяўляць новыя незалежныя дзяржаўныя задачы. Палітыка Вярхоўнага Савета і ўрада ўсе гэтыя гады была накіравана не на рэфармаванне эканомікі і развіццё незалежнай дзяржавы, а на захаванне саміх сябе і старых структур. Эканамічная палітыка будавалася на старых прынцыпах дзяржаўных датацый і спадзяваннях на пастаўкі нафты і сыравіны з Расіі па нізкіх цэнах. Пераарыентацыі эканомікі, і ў першую чаргу ВПК, на патрэбы народа Беларусі не рабілася, другія і трэція пастаўшчыкі энергарэсурсаў не знойдзены. Акрамя таго, не вырашаны пытанні з дачыненнямі ўласнасці, не падрыхтаваны нацыянальная фінансава-крэдытная сістэма, пераход на ўласную валюту, не прыняты важнейшыя рыначныя законы, а тыя, што прыняты, не выконваюцца. На Беларусі не закладзена аснова для рыначных рэформаў эканомікі, не ўтвораны неабходныя інстытуты існавання дзяржавы, увогуле адсутнічае ўрадавая канцэпцыя дзяржаўнага развіцця.

Правалілася і сацыяльная палітыка ўрада, якая носіць дэкларатыўны характар. Менавіта гэтая палітыка разбалансавала цэны, прыспешыла інфляцыю, што абясцэніла ўсе ўклады насельніцтва, зрабіла народ бедным, падарвала вытворчасць, стымулявала карупцыю і арганізаваную злачыннасць.

Канструктыўныя распрацоўкі апазіцыі Народнага фронту, прапановы іншых дэмакратычных арганізацый адмяталіся, усе прагнозы (якія, дарэчы, спраўдзіліся), усе захады не прымаліся пад увагу. Бяздумна набіраліся расійскія і іншыя замежныя крэдыты, якія ва ўмовах інфляцыі выкарыстоўваліся без належнага кантролю, а аддаваць пазыкі давядзецца народу тады, калі гэтага ўрада ўжо не будзе. Эканоміку Беларусі фактычна загналі ў тупік. Шматлікія прадпрыемствы апынуліся пад пагрозай спынення.

Вось тады, каб пазбегнуць адказнасці, урадам і быў прапанаваны на 11-ю сесію Вярхоўнага Савета чарговы міф аб выхадзе з тупіка праз стварэнне эканамічнага саюзу і ваеннага дагавору аб калектыўнай бяспецы з краінамі СНД (Арменіяй, Казахстанам, Кыргызстанам, Расіяй, Таджыкістанам, Узбекістанам), каб аднавіць "парваныя старыя эканамічныя сувязі", быццам бы ў гэтым уся прычына складанага становішча. Прычына якраз у адсутнасці неабходнай дзяржаўнай эканамічнай палітыкі, якая б выходзіла з інтарэсаў Беларусі і беларускага грамадства.

Акрамя таго, Беларусь яшчэ ўвосень 1991 г. заключыла дагавор аб эканамічным супольніцтве і потым дзесяткі двухбаковых эканамічных пагадненняў з краінамі СНД. Ураду трэба было толькі дамагацца іх выканання.

Высветлілася, што пытанне аб эканамічным саюзе надуманае. Гэта толькі шырма. Сутнасць у ваенным блоку.

У чым жа прычына? Хто зацікаўлены ў такой палітыцы? Адкуль яна зыходзіць? Што датычыць Старшыні Савета Міністраў В.Кебіча, які адказны за правал рыначных рэформаў і тупіковы стан эканомікі, тут усё зразумела — зроблена чарговая "дымавая заслона", каб пазбегнуць адказнасці і пратрымацца далей.

А вось пазіцыя ўрада Расіі, выказаная 30 сакавіка віцэ-прэм'ерам А.Шохіным на сустрэчы з журналістамі: "Мы не ставим вопрос об экономическом союзе. Это инициатива Беларуси и Казахстана... Мы переходим со всеми странами СНГ на нормальные торгово-экономические отношения, как со странами дальнего зарубежья. России это выгодно экономически". І далей пра калектыўную бяспеку: "Я впервые слышу такое настойчивое предложение с вашей стороны". Пра калектыўную бяспеку як умову для эканамічнага саюзу А.Шохін сказаў: "У нас таких условий нет".

Прадстаўнікі беларускага ўрада могуць сказаць, што існуе таемная расійская палітыка адваротнага кшталту. Напэўна, так. Толькі чыю ж палітыку праводзіць урад Кебіча?

Як бачым, афіцыйная пазіцыя расійскага ўрада акрэсленая. Тады, можа, без ваеннага дагавору не ў стане існаваць на Беларусі былы савецкі ваенна-прамысловы комплекс? Кіраўнікі яго так і прадстаўляюць справу (адсутнасць заказаў і г.д.). Але адгорнем дагавор паміж Беларуссю і Расіяй "Аб каардынацыі дзейнасці ў ваеннай галіне", падпісаны прэм'ерам Кебічам 20 ліпеня 1992 года і ратыфікаваны Вярхоўным Саветам Беларусі. У артыкуле 5 там напісана: "Бакі забяспечваюць размяшчэнне заказаў Міністэрства абароны бакоў на заводах прамысловасці і прадугледжваюць меры па іх выкананні".

Дык у чым жа справы? Чаму вакол гаворыцца няпраўда? А справа вось у чым. Расійская Федэрацыя не выяўляе зараз адзінай міжнароднай палітычнай пазіцыі. Там цяпер рэальнае двоеўладдзе і патэнцыяльнае шматуладдзе. Пытанне ў тым, на якую расійскую патэнцыяльную сілу зрабілі стаўку беларускія наменклатурныя артадоксы, якія і заварылі гэтую кашу з калектыўнай бяспекай і скасаваннем нейтралітэту Радзімы. Вядома ж, іхнія спадзяванні не на Ельцына (мы падтрымліваем яго барацьбу з камуністамі) і, паверце, нават не на Хасбулатава (фігуру часовую і пераходную). Стаўка зроблена на тыя авантурныя расійскія сілы, што імкнуцца адрадзіць КПСС, Савецкі Саюз, халодную вайну, старую таталітарную сістэму. Гэтая палітыка "здачы Беларусі", ліквідацыі яе незалежнасці, інкарпарацыі ў Расію асабліва выразна абазначылася пасля 29-га незаконнага з'езда КПСС, які адбыўся нядаўна ў Расіі. Кіраўнік жа беларускага Саўміна фактычна выступае выканаўцам гэтай палітыкі. Спадзяванні робяцца таксама на старадумныя імперскія колы расійскай ваеншчыны, якія не хаваюць сваіх экспансіянісцкіх намераў.

Аб'ектыўна ўдзел Беларусі ў калектыўнай бяспецы не на карысць не толькі беларускаму народу, але і народам Расіі. Тым часам сітуацыя ў расійскіх Узброеных Сілах катастрафічная. Войскі ўкамплектаваныя салдатамі і сяржантамі на 55 працэнтаў. Цяпер прызвана ў войска толькі 27 працэнтаў прызыўнікоў. Болей не дазваляе закон. Гэтай жа вясной можна будзе прызваць толькі 16 працэнтаў. Міністр абароны Расіі П.Грачоў гаворыць: "Если дело так пойдет и дальше, то к 1995 году российских войск в "горячих точках" просто не будет. Пусть тогда политики думают, как обеспечить стратегические интересы России" ("Независимая газета", 1993, 23.03.).

Вось дзе, як кажуць, пабуджальная прычына да ваеннага саюзу. І "палітыкі" думаюць. Сэнс у нястачы гарматнага мяса для "стратегических интересов России", для "горячих точек". Беларусы, што былі найбольш надзейнымі салдатамі і афіцэрамі ў Савецкай Арміі, шчодра палілі сваёй крывёй за чужыя "інтарэсы" Венгрыю і Чэхаславакію, кітайскую мяжу і Афганістан, Азербайджан і Асецію, Грузію і Абхазію, Таджыкістан і Малдову. Выходзіць, трэба яшчэ? Як толькі ваенны дагавор аб калектыўнай бяспецы з усімі агаворкамі для прастачкоў (аб службе толькі на сваёй тэрыторыі і т.п.) будзе падпісаны, беларуская кроў зноў пальецца. Трэба ж ахоўваць камуністычны рэжым ва Узбекістане, антыдэмакратычны рэжым у Таджыкістане, афганскую мяжу, рускія інтарэсы на Каўказе і г.д. Прытым усё будзе "законна" абстаўлена. Прапануем прачытаць хаця б змест чацвёртага артыкула Дагавора пра калектыўную бяспеку, куды нас заганяюць:

"В случае совершения акта агрессии против любого из государств-участников все остальные государства-участники предоставят ему необходимую помощь, включая военную, а также окажут поддержку находящимися в их распоряжении средствами в порядке осуществления права на коллективную оборону".

Цяпер у Вярхоўным Савеце пад выглядам неабходнасці эканамічнага саюзу і ваеннага дагавору аб калектыўнай бяс-

пецы з СНД, навязанага 11-й сесіі наменклатурнай большасцю, ідзе брыдкі, нізкі, агідны гандаль жыццямі нашых людзей, сыноў і братоў, дыскутуецца дзяржаўная здрада пры поўным маўчанні і дэзінфармацыі грамадства. Гэта змова супраць Беларусі, арганізаваная структурамі Саўміна і дэпутацкай пракамуністычнай большасцю Вярхоўнага Савета. Гэта змова з рэакцыйнымі, антыдэмакратычнымі, антыбеларускімі сіламі іншай дзяржавы. Ігнаруецца Канстытуцыя і Ваенная дактрына Рэспублікі Беларусь, дзе гаворыцца, што наша краіна "праходзіць самастойны курс у галіне ваеннай палітыкі, імкнецца да пераходу ў статус нейтральнай, бяз'ядзернай дзяржавы". Адкрыта і брудна зневажаюцца ў Вярхоўным Савеце нашыя дзяржаўныя герб і сцяг, наша беларуская мова, нашы святыні, героі і гісторыя, парушаюцца законы. Адмятаецца ўсё карыснае і канструктыўнае, што нязручна для наменклатуры. На гэтай сесіі нават простая прапанова апазіцыі гарантаваць усім жадаючым атрымаць згодна з законам участак зямлі да 10 сотак — і тое было адкінута большасцю Вярхоўнага Савета.

Дыскусія на 11-й сесіі паміж наменклатурай і апазіцыяй БНФ схілілася, аднак, не на карысць наменклатуры. Тады, 1 красавіка, перад прыняццем рашэнняў дэпутаты наменклатурнай большасці сарвалі кворум, а прэзідыум на кароткі час узурпіраваў уладу ў Вярхоўным Савеце. Сесію мяркуюць працягнуць 8 і 9 красавіка. Рыхтуюць антыканстытуцыйнае прыняцце ваеннага дагавору аб калектыўнай бяспецы, ліквідацыю нейтралітэту, пагражаюць змяніць Старшыню Вярхоўнага Савета.

Незалежнасць і нейтралітэт ёсць нашы важнейшыя палітычныя каштоўнасці, гарантыі спакою, стабільнасці, павагі да нас у свеце. Уявім, што нейтралітэт ліквідаваны і Беларусь уцягнулі ў ваенны блок з Расіяй. Адразу зменяцца нашы ўзаемадачыненні з суседзямі — Украінай, Польшчай, Літвой, Латвіяй, якія не ўваходзяць у сістэму калектыўнай бяспекі. Пераменяцца адносіны да нас з боку міжнароднай супольнасці, бо адначасова са стратай нейтралітэту мы згубім і перспектыву бяз'ядзернай дзяржавы. Беларусь зноў пачне ператварацца не толькі ў расійскага пастаўшчыка гарматнага мяса, але і ў расійскі ваенна-стратэгічны плацдарм. Пра будучыню народа не трэба і казаць. Яе ўрэшце не будзе.

Пакуль існуе незалежнасць і нейтралітэт, выхад са складанага становішча ў эканоміцы, экалогіі, культуры, сацыяльнай сферы — ёсць. Прынцыпы выхаду з крызісу, ход і парадак магчымых рэформаў распрацаваны апазіцыяй Народнага фронту. Аднак ажыццявіць іх ва ўмовах наменклатурнага рэжыму і антынароднай палітыкі немагчыма. Патрэбны дэмакратычныя выбары парламента. Тым часам пасля антыканстытуцыйнай, незаконнай забароны рэферэндуму на Беларусі і страты легітымнасці Вярхоўным Саветам дзейнасць яго зрабілася безадказнай, хаатычнай і рэгрэсіўнай, абнізілася мараль, праца скіроўваецца на перагляд і адмену раней прынятых дэмакратычных палажэнняў, гарантуючых нам існаванне дзяржаўнасці, развіццё культуры, сацыяльнай сферы і г.д. Цяпер праца гэтага органа ўлады і створанага ім урада небяспечныя для грамадства. Раскрадаецца дзяржаўная ўласнасць і нічога не робіцца, каб гэта спыніць; валам нарастае злачыннасць. Узброеныя крымінальнікі з Азіі і Каўказа ўжо распараджаюцца на Беларусі, рабуюцца нават страшныя і святыя для кожнага беларуса брацкія магілы ў Курапатах. Улады не варушаць і пальцам. Тым часам навесці парадак можна. Трэба толькі за гэта ўзяцца. Аднак замест парадку прапануюць ваенны блок і праблемы "гарачых кропак".

Мы за раўнапраўныя, узаемавыгадныя дачыненні са свабоднай Расіяй, але вайсковыя справы хай кожны вырашае сам.

У сувязі з усім сказаным апазіцыя БНФ будзе зноў ставіць пытанне аб адмене незаконнай пастановы аб забароне рэферэндуму і аб прызначэнні Вярхоўным Саветам даты правядзення ўсенароднага галасавання аб новых выбарах згодна з заключэннем Цэнтральнай камісіі па рэферэндуму і законнай воляй 442 тысяч грамадзян, што паставілі свае подпісы за правядзенне рэферэндуму. Мы спадзяёмся на падтрымку выбаршчыкамі гэтай ініцыятывы.

У чацвер і ў пятніцу, 8 і 9 красавіка, у час працы сесіі пракамуністычнай большасцю можа быць спынена трансляцыя. Мы, дэпутаты апазіцыі БНФ, будзем выходзіць на плошчу і інфармаваць выбаршчыкаў аб тым, як у Вярхоўным Савеце вырашаецца лёс Беларусі.

Няхай жыве вольная, мірная і незалежная Беларусь!

Народныя дэпутаты апазіцыі БНФ у Вярхоўным Савеце:

**З.Пазьняк, Л.Баршчэўскі, А.Трусаў, Л.Зданевіч, В.Голубеў, Г.Сямдзянава, Б.Гюнтар, Л.Дзейка, В.Какоўка, У.Заблоцкі, С.Папкоў, С.Антончык, А.Шут, П.Холад, С.Бабачонак, С.Навумчык, Л.Звераў, Ю.Беленькі, М.Крыжаноўскі, В.Алампіеў, М.Аксаміт, М.Маркевіч, Г.Грушавы, Я.Цумараў, І.Гермянчук, В.Галубовіч, С.Слабчанка, І.Пырх, І.Герасюк.**

*Д-23. („Народная Газэта", – 1993, 6 красавіка).*

# Заява апазіцыі Беларускага народнага фронту ў Вярхоўным Савеце

На адзінаццатай нечарговай сесіі Вярхоўнага Савета Беларусі яго пракамуністычнай большасцю зроблены яшчэ адзін крок у бездань: прынята пастанова даручыць Старшыні Вярхоўнага Савета падпісаць ад імя Рэспублікі Беларусь дагавор аб "калектыўнай бяспецы" з Расіяй, Арменіяй, Казахстанам, Кыргызстанам, Таджыкістанам, Туркменістанам, Узбекістанам. Камуністы спрабавалі ўвесці ў зман грамадскасць Беларусі, хаваючы свае сапраўдныя намеры — цераз адмаўленне ад нейтралітэту ліквідаваць незалежнасць нашай краіны. Правядзенне палітыкі, скіраванай на знішчэнне нашага нейтралітэту, што цягне за сабой і адмаўленне ад бяз'ядзернасці Беларусі, прымус да ўступлення ў ваенны блок з Расіяй выкліканы дзвюма прычынамі. Па-першае, гэта вынік поўнага правалу эканамічнай палітыкі Савета Міністраў і боязь адказнасці перад народам за разбуральныя наступствы сваіх дзеянняў. Наменклатура шукае знешняй сілы, на якую можна зваліць свае грахі і абаперціся, калі ўлада захістаецца. Другая прычына — гэта авантурнае імкненне старых камуністычных сіл адрадзіць ранейшую ўладу КПСС, узнавіць таталітарны СССР. Беларуская посткамуністычная наменклатура, што не прызнавала самастойнасці і суверэнітэту краіны, заўсёды вылучалася правінцыяльнасцю і нацыянальным нігілізмам, фактычна ўступіла ў змову з найбольш рэакцыйнымі і артадаксальнымі пракамуністычнымі сіламі Расіі, зацікаўленымі ў рэанімацыі КПСС і інкарпарацыі Беларусі ў аднаўленую імперыю. Кіруючая алігархія Беларусі не падтрымлівае дэмакратычную Расію, а выступае за саюз з Расіяй таталітарнай, камуністычнай, імперскай. Гэтыя людзі гатовыя прадаць свой народ і незалежнасць дзяржавы. Капітуляцыю Беларусі перад ваенным дагаворам аб калектыўнай бяспецы кіруючыя змоўшчыкі хочуць выкарыстаць як адзін з аргументаў супраць дэмакратычнай, антытаталітарнай палітыкі Ельцына ў Расійскай Федэрацыі.

Апазіцыя Беларускага народнага фронту ў сваім "Звароце да народа Беларусі" ("Народная газета" за 6 красавіка г.г.) дала падрабязную юрыдычную і палітычную ацэнку факту змовы пракамуністычных, праімперскіх сіл Расіі і Беларусі. У час сесіі гэтыя аргументы абвергнуты не былі. Усё вырашыла машына для галасавання, усё вырашылі ўжо звыклыя парушэнні рэгламенту — калі канстытуцыйная норма была прагаласавана простай большасцю галасоў, калі не ставіліся на галасаванне пісьмовыя папраўкі дэпутатаў ад апазіцыі і г.д.

Тым не менш Беларускі народны фронт, іншыя дэмакратычныя сілы, што ўзнялі свой голас супраць антынародных планаў урада В.Кебіча, атрымалі маральную перамогу. Пракамуністычнаму, прасаўмінаўскаму лобі, якое складае большасць у сённяшнім Вярхоўным Савеце, давялося пад націскам апазіцыйных дэпутатаў прыняць рашэнне, згодна з якім лёс нейтральнага і бяз'ядзернага статуса нашай дзяржавы павінен будзе вырашацца на ўсебеларускім рэферэндуме. Галоўная мэта дэмакратычных сіл сёння — каб да падпісання дагавора такі рэферэндум адбыўся. Не знята і не можа быць знята з парадку дня таксама пытанне аб адмене незаконнага рашэння Вярхоўнага Савета ад 29 кастрычніка 1992 года аб забароне рэферэндуму па датэрміновай яго адстаўцы, ініцыятарам якога выступілі 442 тысячы грамадзян Беларусі. Толькі новыя выбары паводле дэмакратычнага закона могуць прывесці да замены скарумпіраванай камуністычнай мафіі, якая пакуль што трымае ўладу практычна паўсюдна на Беларусі.

Апазіцыя Беларускага народнага фронту заклікае ўсе здаровыя сілы нашага грамадства гуртавацца вакол ідэй барацьбы за захаванне нейтралітэту нашай дзяржавы, правядзенне рэферэндуму па іншых кардынальных пытаннях нашага жыцця. Мы не маем права даць камуністам змарнаваць той шанц, які гісторыя адпусціла нашаму народу ў канцы XX стагоддзя.

НЕ — уцягванню Беларусі ў ваенна-палітычныя блокі і ў канфлікты далёка за межамі нашай дзяржавы!

НЕ — антынароднаму, пракамуністычнаму ўраду, які рыхтуе глебу для новай рэакцыйнай дыктатуры!

НЕ — паўзучаму наступу камуністычных праімперскіх сіл на Беларусі, цесна звязаных з антыдэмакратычнымі сіламі ў Расіі!

Жыве нейтральная, мірная, дэмакратычная, вольная Беларусь!

**Дэпутаты апазіцыі БНФ ў Вярхоўным Савеце.**

**Ад рэдакцыі.** *Заява ёсць заява, гэта афіцыйны дакумент, рэдагаваць які рэдакцыя не мае права. Але мы не выключаем таго, што ў апанентаў дэпутацкай апазіцыі Вярхоўнага Савета ёсць свае меркаванні наконт грамадска-палітычнай і эканамічнай сітуацыі, якая склалася на Беларусі, як, дарэчы, і наконт дзеянняў парламента і ўрада. Такім чынам, размова можа быць працягнута.*

„Народная газета", 22 красавіка 1993 г. № 74(587)

*Д-24. („Народная Газэта", – 1993, 22 красавіка).*

# В ОКТЯБРЕ 17-ГО РОССИЮ ВЗДЫБИЛ ЧЕЛОВЕК, КОТОРЫЙ БЫЛ УЖЕ НЕИЗЛЕЧИМО БОЛЕН

**К великому сожалению, бредовые догмы еще прочны в сознании оболваненных людей, доныне считающих идеи Ленина гениальными, а его – мессией, создателем великого государства.**

**Поддержке мифа способствует незнание народом правды о вожде мирового пролетариата. Он был велик, но он был нервно-психически болен. Зенон Пазьняк правду в „Звязде" написал, за что на него многие обиделись, а заодно и на БНФ. О болезни Ленина могут высказываться компетентно прежде всего психиатры, видевшие хотя бы единожды прогрессивный паралич, ибо это заболевание психическое.**

**Я повторно послал в „Звязду" беллетризированый акт посмерной психиатрической экспертизы, но они не решаются, повидимому, публиковать. Поэтому посылаю вам (переписаный специально для „Народной газеты" ) вариант. В нем все научно обосновано и написано на основании изучения многотомных сочинений Ленина, многочисленных воспоминаний о нем его современников ( Б. Рассел, Г. Уэллс, А. И. Куприн, В. Шульгин, Н. Семашко, В. Осипов, Ф. Дан и др. ) данных истории болезни и протокола патологоанатомического вскрытия, фотографий, сделанных во время болезни в 1923 г. И других серьезных источников. В предлагаемой статье изложена только правда, которую народ должен знать. Это необходимо народу, демократии, всем нам, жертвам тоталитаризма и его пропаганды.**

Официально утверждается, что В.И. Ленин страдал „распространенным артериосклерозом сосудов головного мозга на почве преждевременного их изнашивания" и непосредственной причиной смерти явилось усиление нарушения кровообращения в головном мозгу и кровоизлияние в мягкую мозговую оболочку в области четверохолмия. Итак, по официальной версии был лишь банальный, „безобидный" артериосклерз и ничего больше. Но почему-то история болезни вождя и расчлененный на 30 000 микроскопических срезов мозг все еще хранятся в тайне. Истинный диагноз не назван. Свыше полувека, обожествляя вождя, о болезни предпочитали не говорить.

В 1990 г. в „Огоньке (№ 4) была опубликована статья профессора-психиатра В.Осипова „Болезнь и смерть В.И. Ленина.", в которой описана клиническая картина болезни, но диагноза тоже нет.

Из воспоминаний соратников Ленина и врачей, лечивших его, известно, что „нечеловеческая" работоспособность, огромная воля и доброе настроение с 1921 г. стали угасать, нарастали явления слабости, истощения. Ленин неоднократно говорил своему брату и Кржижановскому, что ему уже не хочется работать. Участились приступы онемения правых конечностей, усилились головные боли, вспыльчивость, раздражительность, бессонница, появилась болезненная подозрительность (казалось, что врачи хотят его отравить). Последнее послужило причиной приглашения для лечения зарубежный врачей, расценивших перечисленную симптоматику как результат переутомления. На самом деле то была невростеническая стадия специфического органического поражения центральной нервной системы – нервно-психического заболевания.

С конца марта 1922 г. у Ленина появились эпилептические припадки, во время которых он терял сознание, падал, затем следовали судороги и нарушения речи. Согласно данным профессора-психиатра В. Осипова, лечившего Ленина с мая 1923 г., припадки эти повторялись часто, до двух раз в неделю, но были не слишком продолжительными, от 20 минут до 2 часов.

Присоединение к неврозоподобной симптоматике („переутомлению") эпилептических припадков свидетельствует о начале манифестного течения заболевания. Оно продолжало развиваться, симптоматика – нарастать. Трудоспособность с конца марта 1922 г. была стойко и безвозвратно утрачена.

20 мая 1922 г. развился первый инсульт с нарушением сознания, утратой речи (афазией), параличем правой половины тела. Состояние было критическим, но к осени улучшилось настолько, что больной смог произнести реч на немецком языке. Явление хронической недостаточности мозгового кровообращения заметно стали нарастать в декабре, а в ночь с 15 на 16 декабря 1922 г. последовал второй инсульт, после которого усилились нарушения речи и паралич правой половины тела (гемиплегия).

Эпилептические припадки, повторные инсульты, параличи, нарушения речи, утрата трудоспособности характерны для следующей стадии болезни – расцвета симптоматики. После третьего инсульта, развившегося 17.03.23 г., усилились страдания от резких головных болей, бессонницы, утраты аппетита, галлюцинаторно-бредовых переживаний, сопровождавшихся приступами психомоторного возбуждения (двигательного и психического беспокойства); интеллект, движения и речь были утрачены. Больной нуждался в постоянном уходе, так как болезнь превратила его в немощного и слабоумного человека. Произошел полный психический и физический распад личности. Развилась стадия паралитического маразма.

Четвертый инсульт 21 января 1924 г. завершился смертью.

Данные патологоанатомического вскрытия тела В.И. Ленина опубликованы знаменитым хирургом академиком Б. Петровским (дважды изучавшим историю болезни покойного вождя) в статье „Ранение и болезнь В.Ленина” („Правда” 25-26 ноября 1990 г.).

На вскрытии мозга Ленина были обнаружены уменьшения масы мозга, характерные изменения его оболочек и желудочков, множественные очаги размягчений, западений, атрофия, кисты (пузыри с жидкостью), распространенный артериосклероз сосудов головного мозга. Преимущественно было поражено левое полушарие, резко была выражена атрофия левой лобной доли мозга.

Присутствовавший на вскрытии тела Ленина нарком здравоохранения Н.А.Семашко в книге „Незабываемый образ” (М. Политиздат, 1975 г.) свидетельствует: „Склероз сосудов мозга Владимира Ильича был настолько силен, что сосуды эти обызвествились, при вскрытии по ним стучали металлическим пинцетом, как по камню. Стенки многих сосудов настолько утолщились и сосуды настолько заросли, что не пропускали в просвете даже волоска. Так целые участки мозга были лишены доступа свежей крови, оставались без питания”.

Перечисленные патологоанатомические изменения не развиваются вследствие переутомлений, ранений, отравлений, наследственных заболеваний, они свидетельствуют о давнем, т.е. хроническом специфическом менингоэнцефалите с грубыми деструктивными изменениями, коим Ленин страдал не менее десяти лет ( что отмечал и академик Петровский).

Профессор-психиатр В.Осипов писал, что болезнь, которая была у Владимира Ильича, не начинается внезапно, что перед началом заболевания, которое относится к марту 1922 г., был некоторый „подготовительный” период, что установить, с какого именнно момента Ленин заболел, трудно, но что болезнь началась ранее марта 1922 г., тому есть некоторые доказательства.

Грубые и массивные деструктивные изменения мозга, приведенные выше выводы академика Б.Петровского и профессора В.Осипова позволяют обоснованно утверждать, что в октябре 1917 г. „вождь мирового пролетариата” уже был болен неизлечимой болезнью, но заболевание развивалось еще скрыто. Он обращался периодически к врачам еще в Цюрихе, однако заболевание не было распознано. Официально утверждалось, что причинами болезни являлись наследственность, ранение, отравление и переутомление, чрезмерная умственная работа. После ранения 30 августа 1918 г. „отравленными пулями” Ленин жил еще пять лет и пять месяцев – значит, яд не действовал, ибо не было его, и магистральные сосуды шеи не были повреждены. По данным академика Б.Петровского, тогда еще не умели начинять пули ядом. В случае повреждения магистральных сосудов шеи речь шла бы не о длительной болезни, а о мгновенной смерти.

Будучи в эмиграции с 1900 г. по апрель 1917 г., Ленин не переутомлялся: по найму не работал, весело и приятно проводил время, занимался своим хобби – революционной деятельностью, мечтая об уничтожении ненавистного ему капитализма в мировом масштабе. Взрыв трудоспособности, которую современники называли „нечеловеческой”, длился с 1917 по1921 год, затем стали одолевать немощи телесные и психические.

„Нечеловеческий” труд в течении четырех лет завершился развалом сильной российской рыночной экономики, опустошением казны, голодом, людоедством и массовым террором. Мозг Ленина в это время уже был поражен непрерывно развивавшимся „распространенным артериосклерозом сосудов на почве преждевременного их изнашивания”.

Итак, ранение, отравление, наследственность и переутомление не являются причинами болезни Ленина.

Истинные причины и диагноз болезни „вождя мирового пролетариата” умышленно были скрыты.

Лечивший его профессор-психиатр В.Осипов в „Красной летописи” в 1927 году писал, что лечили больного вождя препаратами йода, ртути, мышьяка и прививками малярии, т.е. было проведено активное антисифилитическое лечение. Так распространенный артериосклероз не лечат, так лечат поздний нейросифилис – сифилитический менингоэнцефалит, проявляющийся прогрессирующим распадом психических и телесных функций.

Официальный диагноз „распространенный артериасклероз сосудов на почве преждевременного их изнашивания” не отражает всей сути заболевания, этиологии, патологоанатомических изменений, ведущих синдромов, течения, осложнений, исхода, поэтому является не клиническим диагнозом, а фрагментом его, пропагандистско-политическим диагнозом, намеренно скрывающим истину в политических целях.

Характерные симптоматика, течение заболевания (длительный скрытый период, неврастеническая стадия, стадия расцвета симптоматики, стадия паралитического маразма, т.е. полного психического и физического распада личности), патологоанатомические изменения мозга, проведенное активное антисифилитическое лечение – все перечисленное вполне убедительно свидетельствует, что Ленин свыше 10 лет страдал **поздним нейросифилисом, хроническим диффузным сифилитическим менингоэнцефалитом в виде прогрессивного паралича с распространенным артериосклерозом сосудов головного мозга, проявлявишимся хронической недостаточностью мозгового кровообращения, эпилептическими припадками, повторными инсультами, параличем правой половины тела, афазией (утратой речи), исходом в паралитический маразм** и завершившемся смертью вследствие очередного инсульта, как и бывает при названном заболевании.

Приведенный выше развернутый диагноз болезни Ленина не является ни клеветой, ни позором – это его и наше несчастье. Позор в том, что мы до сих пор пребываем в неведении. Да, правда о болезни Леина многим неприятна, но от нее никуда не уйти. Придется смириться и принять ее, ибо время правды уже пришло.

***Лев НОВАКОВИЧ,***
***врач-психиатр 1-й категории***

*Надрукувана: (Народная Газета,– 1993, 1 ліпеня)*

**ЗА КАДРАМ** „Свабода", №8, 16-31 ліпеня 1993

**Лех Валэнса і Зянон Пазьняк у Курапатах, 28 чэрвеня 1993 г.**

**Гэтым здымкам мы адкрываем новую рубрыку: «За кадрам». Вельмі часта здараецца, што афіцыйная прэса не заўважае істотных падзеяў і фактаў, вартых публікацыі. Магчыма ў іх палітыка такая, а можа ўся праблема ў прафэсіяналізме. У выніку ж людзі не атрымліваюць цікавай і разнастайнай інфармацыі. Дарэчы, польская прэса адзначыла, што прэзыдэнт Лех Валэнса спаткаўся зь лідарам БНФ Зянонам Пазьняком. Нашае ж тэлебачаньне так старанна рабіла «рэпартаж», каб у кадр, крый Божа, ня трапіў Зянон Пазьняк. У «агитпропа» (так завецца гэты жанр) — свае законы.**



*Здымак Уладзімера КАРМІЛКІНА*

*Д-25. („Свабода", – 1993, 16–31 ліпеня).*

*Заява апазіцыі БНФ у Вярхоўным Савеце Рэспублікі Беларусь*

„Народная Газета", 17 жніўня 1993 г.

# Аб правапе грашовай і фінансава-крэдытнай палітыкі ў Рэспубліцы Беларусь

Яшчэ ў 1990 годзе, у самым пачатку дзейнасці Вярхоўнага Савета XII склікання, апазіцыя Беларускага народнага фронту выступіла ў Вярхоўным Савеце і ў друку з прапановай аб неабходнасці стварэння беларускай фінансава-крэдытнай сістэмы і пераходу на нацыянальную валюту (талер). Гэта неабходна было зрабіць, каб забяспечыць кантроль над грашовай эмісіяй і ўтаймаваць інфляцыю, каб стварыць спрыяльныя ўмовы для інвестыцыйнай дзейнасці, каб уратаваць нашу эканоміку ад разбурэння, каб прадухіліць раскраданне нацыянальнай маёмасці, падрыў таварнага рынку і збядненне людзей. Гэта трэба было зрабіць тым больш, што іншай перспектывы не было, бо нашы суседзі па так званай рублёвай зоне, у тым ліку і Расія, з развіццём рынкавых рэформ абавязкова павінны былі прыйсці да ўвядзення сваёй нацыянальнай валюты. Гэта трэба было пачынаць рабіць тады, калі ў Беларусі былі лепшыя, чым у іншых, стартавыя магчымасці. Гэта неабходна было рабіць раней яшчэ і таму, што такая аперацыя патрабуе для падрыхтоўкі шмат часу (год-паўтара), грошы немагчыма ўвесці адразу.

Аднак і Вярхоўны Савет, і Саўмін, і Нацыянальны банк, і асабліва Планавая і бюджэтна-фінансавая камісія Вярхоўнага Савета не прыслухаліся да нашых прапаноў ды абгрунтаванняў і рэгулярна адкідвалі іх на працягу ўсіх гэтых трох гадоў свайго існавання. Удалося дамагчыся толькі ўвядзення часовых разліковых білетаў (менавіта яны сёння ў нейкай ступені ратуюць становішча).

Прынцыпы нашых прапаноў у эканоміцы і ў грашовай сістэме

вядомыя. У агульных рысах яны ажыццёўлены ў Эстоніі і ажыццяўляюцца ў Латвіі, дзе ўжо спынена спіраль інфляцыі, лат і крона становяцца стабільнымі канверсуемымі валютамі, сітуацыя там няўхільна паляпшаецца.

Тое, што эканоміка і фінансава-крэдытная сістэма Рэспублікі Беларусь, якая мела добрыя першапачатковыя магчымасці, апынуліся за тры гады ля разбітага карыта, вінаватыя перш за ўсё гэтыя Савет Міністраў, Вярхоўны Савет, адпаведныя камісіі Вярхоўнага Савета, Нацыянальны банк і — персанальна — іхнія кіраўнікі. Яны ведалі пра ўсё і дзесяткі разоў былі праінфармаваны апазіцыяй БНФ і іншымі дэпутатамі дэмакратычнага блока. Цяпер, пасля вераломных крокаў Расіі і маніпуляцый з рублём, здарылася тое кепскае, пра што мы папярэджвалі ўрад і Вярхоўны Савет. Няма ніякага апраўдання некампетэнтнаму кіраванню і палітыцы ігнаравання нацыянальных інтарэсаў, бо цярпіць ад гэтага ўся наша дзяржава і ўвесь беларускі народ.

У гэтай сітуацыі, калі пацярпелі тысячы людзей, што не змаглі выехаць у адпачынак за межы Беларусі, калі наша дзяржава па віне безадказнасці палітыкі нясе страты, калі Нацыянальны банк фактычна прызнаў памылковасць сваёй пазіцыі, мы яшчэ раз нагадваем аб неабходнасці тэрміновай і ўсебаковай падрыхтоўкі да ўвядзення беларускага талера, да хуткага яго прыняцця ў якасці нацыянальнай валюты, патрабуем неадкладнага правядзення рынкавых рэформ эканомікі і карэкціроўкі адпаведных законаў.

Нам стала вядома аб панічных намерах урада прытрымацца ў сваім банкруцтве шляхам таемнай перадачы нашых нафтаперагонных заводаў і іншых нацыянальных каштоўнасцей ва ўласнасць Расіі. Такія намеры сведчаць пра поўную маральна-палітычную дэградацыю кіраўніцтва і заслугоўваюць асобага разгляду на сесіі Вярхоўнага Савета.

У сувязі з правалам эканамічнай і фінансава-крэдытнай палітыкі мы лічым неабходным паставіць на гэтай сесіі пытанні аб тэрміновай адстаўцы кіраўнікоў Савета Міністраў і Камісіі Вярхоўнага Савета па планавай і бюджэтна-фінансавай палітыцы, аб грашовай палітыцы Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь, аб стварэнні кааліцыйнага ўрада і прызначэнні нечарговых выбараў на вясну 1994 года.

Мы ўхваляем дзеянні прафсаюзаў па збору подпісаў за датэрміновыя выбары, аб неабходнасці якіх апазіцыя БНФ заявіла яшчэ ў 1991 годзе, і звяртаемся да дэпутатаў усіх узроўняў, каму дарагія наш народ і наша Рэспубліка Беларусь, з заклікам падтрымаць нас.

**Народныя дэпутаты Беларусі ад апазіцыі БНФ:**
**З.Пазьняк, У.Заблоцкі, В.Алампіеў, В.Голубеў, А.Трусаў, С.Навумчык, А.Шут, П.Холад, Г.Сямдзянава, С.Слабчанка, І.Гермянчук, І.Пырх, Ю.Беленькі, С.Антончык.**

*Д-26. („Народная Газэта", – 1993, 17 жніўня).*

*Супольная заява*

# Аб захаванні грамадскага адзінства

Эканамічны і палітычны крызіс, у якім апынулася Беларусь, відавочны: спыняюцца прадпрыемствы, вымушана не працуюць людзі. Кіраўніцтва краіны, выбранае і прызначанае ў часы СССР і панавання КПСС, аказалася няздольным праводзіць эканамічныя рэформы і кіраваць новай незалежнай дзяржавай. Стары здыскрэдытаваны рэжым стаў на шлях адмаўлення ад нейтралітэту, ад прагрэсіўных рэформ, ад незалежнасці Беларусі, на шлях супрацоўніцтва з рэакцыйнымі, камуністычнымі, імперскімі коламі Расіі. Гэтыя колы зацікаўлены ў тым, каб захаваць у Беларусі расійскія войскі, паласу супрацьпаветранай і супрацьракетнай абароны Масквы, базы стратэгічных і тактычных ракет — фактычна пакінуць Беларусь у стане краіны-заложніцы.

Сутнасць змовы ў тым, каб штучна стварыўшы эканамічныя цяжкасці, прымусіць Беларусь уступіць у сістэму калектыўнай бяспекі і ў вайсковы саюз з Расіяй, ліквідаваць нашу дзяржаўную незалежнасць. Выкарыстоўваецца паліўна-энергетычны шантаж і ствараецца штучны дэфіцыт нафты; адбываецца грубы націск на

беларускую фінансава-крэдытную сістэму; арганізуюцца розныя палітычныя акцыі.

У Беларусі ніколі не было міжнацыянальнай варажнечы, і шчасце наша ў тым, што яе няма і цяпер, у няпростыя крызісныя часы. Але пракамуністычныя, праімперскія сілы не трацяць надзеі справакаваць у Беларусі сутычкі на нацыянальна-моўнай глебе, унесці ў краіну нестабільнасць і стварыць такім чынам падставы для замацавання таталітарнага імперскага рэжыму.

Раздзімаецца надуманая праблема дзяржаўнага двухмоўя. Чарговай спробай распаліць напружанасць стала задума правядзення "кангрэса народаў Беларусі", з якой выступілі арганізацыі камуністычнага ды імперскага кірунку, аб'яднаныя ў "Народное движение Беларуси". Сама назва меркаванага мерапрыемства выклікала абурэнне сваёй правакацыйнасцю. Бо народ Беларусі — адзіны, ён не дзеліцца па этнічна-моўных прыкметах; народ Беларусі — гэта ўсе мы разам: і беларусы, і прадстаўнікі нацыянальных меншасцей. Нездарма, атрымаўшы адмову з боку арганізацый нацыянальных меншасцей, ініцыятары мерапрыемства вымушаны былі ўнесці змену ў яго назву (кангрэс не "народаў", а "народа Беларусі").

Адсутнасць паўнамоцнага прадстаўніцтва ператварае гэту акцыю ў палітычны фарс. Арганізатары "кангрэса" нікога, акрамя саміх сябе, не прадстаўляюць, аднак збіраюцца прыняць на ім патрабаванне аб скасаванні незалежнасці нашай краіны праз канфедэрацыю з Расіяй. Але ж сапраўдную думку народа аб будучыні нашай краіны ўжо выказаў прадстаўнічы З'езд беларусаў свету, што нядаўна адбыўся ў Мінску.

Уступіўшы ў канфедэрацыю з Расіяй, Беларусь непазбежна будзе зацягнута ў бясконцыя і крывавыя войны. Але новыя Афганістаны не патрэбны ніводнаму жыхару Беларусі.

Мы пярэчым спробам знішчыць незалежнасць нашай краіны і перакрэсліць надзею на лепшае ў нашага народа. Мы патрабуем спыніць правакацыйныя намаганні перасварыць людзей Беларусі.

Мы выступаем на незалежную Беларусь, якая мае добрыя дачыненні з усімі суседнімі краінамі і супрацоўнічае з імі на двухбаковай аснове. Мы выступаем за Беларусь, дзе будуць гарантаваны правы чалавека кожнай нацыянальнасці.

**Ад Беларускага народнага фронту "Адраджэнне" —**
**Зянон ПАЗЬНЯК**
**Ад Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады —**
**Алег ТРУСАЎ**
**Ад Згуртавання беларускіх татар "Аль-Кітаб" —**
**Барыс ШАБАНОВІЧ**
**Ад Саюза палякаў Беларусі — Тадэвуш ГАВІН**
**Ад Свабоднага прафсаюза Беларусі — Генадзь БЫКАЎ**
**Ад Асацыяцыі ўкраінцаў Беларусі "Ватра" —**
**Багдан МІХАЙЛЮК**
**Ад Беларускай сялянскай партыі — Іван НІКІТЧАНКА**
**Ад Аб'яднання беларускіх яўрэйскіх арганізацый і суполак —**
**Леанід ЛЕВІН**
**Ад Таварыства немцаў Беларусі "Адраджэнне" (Беларускага цэнтра нямецкай культуры) —**
**Аляксандр МАЙСНЭР**
**Ад Беларуска-Літоўскага задзіночання — Ян ВОЙНІЧ**
**Ад Жаночага хрысціянска-дэмакратычнага руху Беларусі —**
**Людміла ПЕЦІНА**
**Ад Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына" —**
**Ганна СУРМАЧ**
**Ад Аб'яднанай дэмакратычнай партыі Беларусі — Станіслаў ГУСАК**
**Ад Нацыянальна-дэмакратычнай партыі Беларусі —**
**Алесь АПРЫШКА**

*26 жніўня 1993 г.*
г.Мінск.

***Д-27. („Народная Газэта", – 1993, 31 жніўня).***

„Народная газета", 8 снежня 1993 г. № 239 (752)

*Погляд народных дэпутатаў Рэспублікі Беларусь*

# Распродаж Беларусі пачаўся. Што будзе далей?

**Віктар АЛАМПІЕЎ, Леанід БАРШЧЭЎСКІ, Юрый БЕЛЕНЬКІ, Зянон ПАЗЬНЯК**

Так, пачаўся. Пачалося тое, што павінна было здарыцца пасля таго, як у жніўні і снежні 1991 года на Беларусі ацалелі старая наменклатурная ўлада і адміністрацыйная сістэма. Эканамічная дэградацыя, крызіс і страта суверэнітэту ў такіх варунках — наканаваныя з'явы. Аналагічныя працэсы мы назіралі ва ўсіх посткамуністычных краінах, дзе засталіся ва ўладзе старыя структуры. Аднак "беларускі шлях" асаблівы і цалкам выключны. Аналагаў няма. Камуністычная наменклатура краін былога савецкага лагера пасля дасягнення дзяржаўнага суверэнітэту паўсюдна стала на абарону нацыянальнай дзяржаўнасці і незалежнага развіцця. У гэтым яна ўбачыла магчымасць захавання сваёй улады і кансервацыі старых структур. Беларуская ж наменклатура (практычна цалкам "манкуртызаваная") стала не на нацыянальны, а, не пабаімся сказаць, на крымінальны шлях, на дарогу крымінальшчыны — раскрадання дзяржаўнай маёмасці, гандлю нацыянальнымі інтарэсамі. І як вынік — прыйшла да ліквідацыі дзяржаўнай незалежнасці.

Раней мы і іншыя прадстаўнікі БНФ, а таксама дэпутаты, якія прытрымліваюцца дэмакратычных поглядаў, неаднаразова пісалі і папярэджвалі аб прычынах крызісу і спосабах, якімі будуць разбураць дзяржаву Беларусь. Далёка не апошнюю ролю ў гэтым разбурэнні адыгрываюць расійскія спецслужбы (якія вольна дзейнічаюць на Беларусі) і імперска-камуністычная "пятая калона". Аднак галоўную небяспеку ўяўляе і непасрэдна разбуральную працу праводзіць мясцовая наменклатура — Савет Міністраў і дэпутацкая большасць Вярхоўнага Савета. Ужыта небяспечная форма ліквідацыі незалежнасці — адмаўленне ад уводу нацыянальнай валюты і ад нацыянальнай фінансава-крэдытнай палітыкі, прапануецца ўваходжанне ў расійскую грашовую сістэму, у сістэму краіны, якая ідзе да таго ж па шляху жорсткага ліберальнага капіталізму.

Калі гэта адбудзецца (а дэпутацкая большасць Вярхоўнага Савета нядаўна ратыфікавала такое пагадненне), то катастрофа Беларусі стане развівацца паскорана і незваротна.

Што ж пачнецца?

**Фінансава-крэдытная сістэма.** Беларускія банкі перастануць існаваць. Як паразнальна слабыя і больш нізкага ўзроўню, яны будуць паглынуты велізарнымі расійскімі. (У лепшым выпадку стануць філіяламі, але гэта малаверагодна.)

Беларускім прадпрыемствам створаць умовы, пры якіх яны стануць банкрутамі і пяройдуць ва ўласнасць прадпрымальнікаў і бізнесменаў Расіі. (Аб беспрацоўі пры гэтым мы ўжо не кажам.) На тэрыторыі Расіі ўтворана вэксальная форма разлікаў, пры якой пазыкі (даўгі) прадпрыемстваў афармляюцца вэксалямі. Гэта такая сістэма, калі пры адсутнасці грошай і магчымасці выплат па пазыках даўжнік разлічваецца сваёй маёмасцю. Пры канцэнтрацыі 30 працэнтаў вэксаляў у адных руках прадпрыемства пераходзіць да вэксалетрымальніка. Ва ўмовах штучна створанай паліўна-энергетычнай залежнасці і пераважнай залежнасці ад паставак з Расіі сітуацыю банкруцтва для беларускіх прадпрыемстваў стварыць няцяжка. Яна ўзнікае сама па сабе. (Метадаў мы апісваць не будзем — іх шмат. Калі, скажам, беларускае прадпрыемства пастаўляе тавар у Расію і мае сто пастаўшчыкоў камплектуючых у Расіі, то дастаткова арганізаваць у "патрэбны" момант непастаўкі ад аднаго з іх, каб атрымаць "вынікі" па вэксалях на карысць расійскага заказчыка і г.д. Прыёмы вядомыя.) Вядома ж, будзе разбурана і наша прадпрымальніцтва. Грашовыя дачыненні — кроў эканомікі. Але ў расійскай сістэме дачыненняў наша прадпрымальніцтва загіне, будзе праглынута расійскім.

Наіўныя людзі, паслухаўшы авантурныя прамовы кіраўнікоў Саўміна, думаюць, што хутка з'явяцца расійскія рублі (Расія "дасць") ці што "з'явяцца" яны пры быццам бы выгадным абмене беларускіх разліковых білетаў і рублёў у прапорцыі 1:1. Рэальная ж сацыяльна-эканамічная сутнасць такога абмену акажацца нечаканай для многіх, хто прывык жыць ілюзіямі простых лікаў, не ведаючы, што за імі стаіць. А рэальна будзе тое, што ў некалькі разоў зменшыцца зарплата жыхароў Беларусі, а цэны стануць як у Расіі. Гэта,

вядома, павінна разглядацца тэарэтычна як часовая з'ява. Але гэта будзе ўдар па нас і па нашых прадпрыемствах такой магутнай сілы, якога мы не вытрымаем.

**Энергарэсурсы.** Наіўным людзям кажуць, што пры "аб'яднанні" грашовых сістэм Беларусі і Расіі з'явяцца танныя энергарэсурсы. У сапраўднасці танных рэсурсаў не будзе. Афіцыйныя прадстаўнікі Расіі заявілі аб пераходзе ў бліжэйшы час на сусветныя цэны на нафту. Але ўжо сёння Беларусь фактычна купляе нафту ў Расіі па сусветнай цане. Сусветная цана складаецца для нас з цаны на нафту, па якой яна прадаецца спажыўцам Расіі, пры пераразліку па курсу долара да рубля (дарэчы, завышанаму, як сцвярджаюць самі расійцы, у некалькі разоў) плюс мытная пошліна — каля сарака долараў ЗША за тону. Рэальна ж, калі ўлічыць грабежніцкія для нас узаемаразлікі з Расіяй, што робяцца пад дыктатам нафтавага шантажу, мы даўно ўжо купляем гэтую нафту па цане ў 2—2,5 раза вышэй за сусветную. Гэткім метадам выдаілі Украіну, цяпер выдойваюць Беларусь.

Зразумела, што калі адменіцца мытная пошліна, а фактычная цана расійскай нафты стане сусветнай, то рэальны грабежніцкі яе кошт для нас не зменіцца. Ён заўсёды будзе вышэйшы, чым у Расіі, улічваючы манапалізм Расіі ў пастаўках нафты і склаўшуюся структуру гандлю паміж дзвюма краінамі. Больш таго, адмена мытных пошлін прадугледжвае плацяжы ў федэральны расійскі бюджэт, бо ўнутраныя цэны ў Расіі на шэраг тавараў фарміруюцца з улікам бюджэтных датацый. Адпаведна ўзровень жыцця на Беларусі стане ніжэйшы за расійскі.

Расія застаецца і будзе заставацца імперыялістычнай дзяржавай з глабальнымі інтарэсамі за сваімі межамі. Яна павінна траціцца на вялікае войска, узбраенне, утрыманне спецслужб, замежных структур і г.д. Усё гэта ляжа на плечы падаткаплацельшчыка і ў Беларусі, калі наша краіна будзе запрададзена і паглынута Расіяй. Народ вымушаны будзе аплачваць чужую палітыку, чужое войска, чужыя непатрэбныя яму геапалітычныя інтарэсы і авантуры. (У тым ліку і жыццямі.)

Новая сітуацыя прывядзе да адкрыцця ўсіх памежных шлюзаў з Расіяй і ўстанаўлення досыць жорсткіх межаў з іншымі краінамі: у дадатак да Польшчы з Украінай, Літвой, Латвіяй. Расія запатрабуе гэтага за наш кошт. Расійскі капітал апынецца тады ў нас па-за канкурэнцыяй (з-за слабасці нашых рынкавых суб'ектаў). Па-за канкурэнцыяй у канчатковым выпадку апынуцца ў нас і расійскія тавары, што выкліча спыненне нацыянальнай вытворчасці.

**Сельская гаспадарка.** Калгасам давядзецца, згодна з расійскімі законамі, плаціць у расійскі бюджэт 10-працэнтны падатак на дабаўленую вартасць, які ў нас, дарэчы, для іх ужо даўно зняты. Гэта зменшыць канкурэнтнасць нашых прадуктаў, выкліча рост цэн на іх. Да таго ж беларускія сельгаспрадпрыемствы не атрымаюць "цэнтралізаваных" крэдытаў у неабходных памерах. І тут таксама пачнецца крах і скупка збанкрутаваных прадпрыемстваў расійскім капіталам, якому ўжо стала цесна ў сваіх межах.

**Прыватызацыя.** Народныя дэпутаты дэмакратычнай арыентацыі прапанавалі прыняць закон аб імянных прыватызацыйных чэках, па якіх кожны грамадзянін Беларусі павінен быў бы атрымаць частку дзяржмаёмасці ў выглядзе трох квот: жыллёвай, зямельнай і часткі дзяржмаёмасці прадпрыемстваў. Пры глыбокіх спадах эканомікі, калі вельмі складана забяспечыць сацыяльную абарону людзей, дзяржава павінна была падзяліцца часткай сваёй уласнасці, каб даць сваім грамадзянам шанц выжыць. Аднак большасць Вярхоўнага Савета не прыняла гэтых заканадаўчых прапаноў. Усе грамадзяне зямлю не атрымалі. Прыватызацыйныя чэкі не выдадзены. Цяпер жа ўрад гатовы прыняць умовы ўказаў расійскага прэзідэнта (продаж зямлі і г.д.), паводле якіх наша зямля, наша ўласнасць трапіць у рукі не нашых грамадзян, а многіх багатых расіян. Гэта ўсё вынікае з так званага "аб'яднання" грашовых сістэм Расіі і Беларусі.

**Сацыяльнае забеспячэнне.** Уваходжанне ў грашовую сістэму Расіі (і страта ў сувязі з гэтым дзяржаўнай незалежнасці) выкліча скарачэнне нашых фондаў сацыяльнай абароны насельніцтва. У нас фонд сацыяльнай абароны фарміруецца з памеру 40,8 працэнта ад фонду заработнай платы, а ў Расіі толькі 36 працэнтаў. У нас пенсіённы фонд утвараецца з памеру 89 працэнтаў ад фонду сацыяльнай абароны, а ў Расіі ўсяго 72 працэнтаў. У Беларусі давядзецца замарозіць пенсіённы фонд і істотна пагоршыць сацыяльную абарону людзей.

Да 1 снежня 1993 года паводле пастановы Вярхоўнага Савета ад 23 лістапада ўрад павінен быў распрацаваць і прадставіць Вярхоўнаму Савету механізм функцыяніравання беларускага разліковага білета як адзінага плацежнага сродку. Аднак распрацоўка ў вызначаны тэрмін прадстаўлена не была. Замест гэтага спадар Кебіч і яго паручэнцы накіраваліся ў Расію да прэм'ера Чарнамырдзіна з тым, каб, вобразна кажучы, стаць на калені і таргавацца аб здачы Беларусі. Гандаль скончыўся працягваннем энергетычнай агоніі да Новага года (1994-га) узамен за здачу Расіі Мазырскага і Полацкага нафтаперапрацоўчых заводаў, дзе, як паведаміў сп. Кебіч, "и мы будем иметь акции".

Уся гэта, з дазволу сказаць, "палітыка" (у якой мы бачым прыкметы дзяржаўнага злачынства) нагадвае псіхалогію і матывацыю п'яніцы, які выносіць з дому рэчы і закладвае іх, каб апахмяліцца. Зразумела, чым канчаецца такая "гаспадарчая дзейнасць" п'яніцы.

Акрамя таго, у Расіі сп. Кебіч дамовіўся, што да 1 студзеня 1994 года будзе зроблена палітычная заява. Якога характару? На мове палітыканаў яна, вядома, будзе такой — "О вхождении Республики Беларусь и России в единую денежную систему". А на самай справе размова будзе ісці аб адмове Беларусі ад незалежнасці. Пры гэтым спадар Кебіч заўважыў, што "Борис Николаевич тоже одобрил и тоже назвал пока (!) только Беларусь, чтобы **на примере Беларуси опробовать** всю эту систему". Цынізму ў выказваннях "цяперашніх" і "ўчарашніх" ужо даўно няма межаў. Таму не будзем іх абмяркоўваць. Яны кажуць самі за сябе. Чарговы эксперымент над беларусамі пачаўся. Пра магчымыя вынікі яго прадстаўнікамі БНФ ужо

напісана і сказана не аднойчы: разам са стратай дзяржаўнай незалежнасці беларусы паступова страцяць сваю маёмасць і права на нацыянальную ўласнасць. Замест незалежнай дзяржавы атрымаюць бантустан. Яны стануць народам, што жыве на сваёй гістарычнай зямлі, якая ім ужо не належыць, не з'яўляецца іх уласнасцю; яны будуць працаваць на прадпрыемствах, уласнікамі якіх ні ў прыватным, ні ў грамадскім, ні ў дзяржаўным сэнсе яны не з'яўляюцца, будуць выраблялць тавары, прыбыткам ад якіх не змогуць карыстацца. Такі стан нацыянальнай супольнасці заўсёды сацыяльна бядотны. Ён поўнасцю бесперспектыўны і азначае яе культурную і гістарычную смерць.

Пра рэальныя шляхі выхаду са становішча, пра канкрэтныя эканамічныя і палітычныя крокі, якія неабходны, каб прадухіліць сацыяльна-эканамічную і палітычную катастрофу, апазіцыя і прадстаўнікі БНФ, дэпутаты, якія з'яўляюцца прыхільнікамі дэмакратычных працэсаў, неаднаразова, часта і настойліва пісалі, казалі і пераконвалі. Тут няма пытанняў. Тое, што трэба рабіць, зразумела ўжо кожнаму нармальнаму беларусу. Таму не будзем паўтараць сказанае.

Першы эксперымент па разрабаванню і разбурэнню нашай эканомікі, фінансаў і стварэнню штучнай паліўна-энергетычнай залежнасці Беларусі ад Расіі прайшоў удала. Удала падабрана і выніковая "ідэалогія" эксперыменту (для "саўка"): "зачэм нам этат суверэніцет!" Цяпер разгортваецца другі эксперымент па палітычнай рэалізацыі першага.

Наша задача ў гэтых заметках — звярнуць увагу на тое, што чакае ўсіх, калі эксперымент над намі працягнецца. Хочам толькі заўважыць, што хоць і цяжкія выпрабаванні чакаюць Беларусь і яе народ, але ў рэшце рэшт нічога не атрымаецца ў яе непрыяцеляў як унутраных, так і знешніх. Жыве Беларусь і будзе жыць! Ніякія рашэнні гэтага тройчы нелегітымнага Вярхоўнага Савета, накіраваныя на згубу нашай нацыі і дзяржавы, не маюць прававой і законнай сілы. Яны будуць адменены і прызнаны несапраўднымі першым жа дэмакратычным, нармальным парламентам. Раскрадзеныя, раздадзеныя урадам і закладзеныя прадпрыемствы будуць нацыяналізаваны, вернуты беларускай дзяржаве і ўласнікам. Будзе наведзены парадак. Народная маёмасць знойдзе нарэшце сваіх гаспадароў, справядлівасць вернецца разам з законамі, разам з уласнасцю, свабодай і сапраўднай незалежнасцю нашай краіны

**АД РЭДАКЦЫІ**

**Можна прадугадаць, які рэзананс выкліча артыкул групы народных дэпутатаў Рэспублікі Беларусь. Паляцяць стрэлы не толькі ў адрас аўтараў, але і рэдакцыі. Хоць мы лічылі і лічым, што лепш, калі людзі спрачаюцца, высвятляюць пазіцыі на старонках газет, чым у акопах, якія знаходзяцца адзін супраць другога. Ды і ў 18-м артыкуле Закона аб статусе народнага дэпутата сказана: "Рэдагаванне выступленняў народнага дэпутата.., а таксама матэрыялаў, прадстаўленых ім для апублікавання, без згоды народнага дэпутата... не дапускаецца". У дадзеным выпадку народныя дэпутаты Рэспублікі Беларусь В.Алампіеў, Л.Баршчэўскі, Ю.Беленькі, З.Пазьняк папрасілі надрукаваць матэрыял без скарачэнняў і правак.**

**Вядома ж, у іх апанентаў могуць быць свае меркаванні. "Народная газета" з павагай аднясецца да самых розных поглядаў.**

*Д-28. („Народная Газэта", – 1993, 8 сьнежня).*

# Мемарандум

## апазіцыі БНФ і дэмакратычных дэпутатаў Вярхоўнага Савета аб сістэме ўлады ў Беларусі

Дачыненні да сістэмы ўлады ў Беларусі выказаныя ў праграме БНФ, прынятай на III з'ездзе БНФ 30 мая 1993 г., ў заявах і паведамленнях дэпутацкай апазіцыі БНФ у Вярхоўным Савеце, зробленыя на працягу 1990—1993 гг. Нашы адносіны да дзяржаўнага ўладкавання застаюцца нязменнымі:

Беларусь — парламенцкая рэспубліка, у якой можа быць прэзідэнт, які з'яўляецца кіраўніком дзяржавы, выбіраецца ўсім народам, мае права пры вызначаных законам умовах распусціць парламент і сённяшнія недзеяздольныя Саветы, прызначыць новыя выбары прадстаўнічай улады. Аднак гэты прэзідэнт не з'яўляецца кіраўніком выканаўчай улады;

выбары такога прэзідэнта магчымыя не раней як праз шэсць месяцаў пасля выбрання новага прафесійнага парламента і сфарміравання новага ўрада:

першымі крокамі да выхаду з палітычнага крызісу і эканамічнага тупіка можа стаць адстаўка цяперашняга Савета Міністраў і стварэнне пераходнага ўрада;

другім крокам — прыняцце папраўак да Канстытуцыі альбо прыняцце новай Канстытуцыі і правядзенне нечарговых выбараў у парламент, які будзе працаваць на прафесійнай аснове;

павінна быць паэтапна ліквідавана сістэма Саветаў як разбуральная недзеяздольная

структура ўлады і заменена муніцыпальнай сістэмай. Выбары кіраўнікоў мясцовых органаў улады павінны ажыццяўляцца ўсім народам і адбывацца аднача- сова з выбарамі прэзідэнта;

павінны быць ліквідаваны вобласці і створана двухступен- ная сістэма адміністрацыйнага падзелу.

Мы асабліва падкрэсліваем, што без адстаўкі цяперашняга збанкрутаванага ўрада выхад з палітычнага і эканамічнага крызісу немагчымы. Нельга, каб урад, які разбурыў эканоміку, аддаў краіну на разрабаванне, паставіў пад пагрозу яе суверэнітэт і які да таго ж валодае велізарным лобі ў Вярхоўным Савеце, застаўся надалей, каб ён рыхтаваў і праводзіў выбары (прэзідэнта, парламента, мясцовых органаў улады) і такім чынам зноў забяспечыў перавагу скампраметаваўшай сябе наменклатуры.

**Народныя дэпутаты Беларусі:**
**З.Пазьняк, У.Заблоцкі, Л.Зданевіч, А.Трусаў, Ю.Беленькі, М.Крыжаноўскі, Л.Дзейка, В.Аляміеў, Б.Гюнтар, В.Какоўка, І.Германчук, С.Антончык, В.Голубеў, Я.Цумараў, С.Папкоў, А.Шут, П.Холад, Г.Грушавы, С.Слабчанка, П.Драган, І.Сямашка (супраць любога прэзідэнта), А.Спіглазаў, С.Навумчык, А.Паруль, Я.Глушкевіч, В.Даўгалёў, А.Янец, М.Маркевіч, М.Аксаміт, Г.Сямдзянава, Л.Баршчэўскі, І.Герасюк, М.Мацюшонак, У.Сапронаў, І.Лапаухаў, М.Калбаска, М.Сукач, Р.Вячэрскі, І.Пырх, Л.Сечка, А.Сасноў, В.Сярдзюк, В.Радамысльскі, А.Кузьма, А.Шаўнін, В.Уласенка, А.Барысенка, Н.Салдатава, Л.Звераў, А.Даўлюд, А.Волкаў, А.Лятко, Э.Багаўцоў, Я.Бядулін, У.Лазарэвіч, Р.Плоцкі, А.Кічкайла, У.Шаўцоў, Л.Тарасенка, М.Слямнёў, П.Палагеча, Б.Савіцкі, Я.Новікаў.**

„Народная газета", 15 снежня 1993 г. № 243 (756)

*Д-29. („Народная Газэта", – 1993, 15 сьнежня).*

# 1994

„Свабода", № 5, 8–14 лютага 1994 г.

## „Есьць сілы, здольныя на барацьбу"

### Заява Апазыцыі БНФ «Аб палітычным моманце»

Нягледзячы на прынцыповую эканамічную немагчымасьць аб'яднаньня грашовых сыстэмаў Рэспублікі Беларусі і Расейскай Фэдэрацыі бяз страты незалежнасьці й дзяржаўнасьці Беларусі, прыкладаецца шмат намаганьняў — як з боку расейскага ўраду Чарнамырдзіна, так і з боку беларускага пракамуністычнага ўраду Кебіча, каб палітычнымі і адміністрацыйнымі рашэньнямі ажыцьцявіць фактычную ліквідацыю нашай дзяржавы. Такая змова і такія дзеяньні, як бы іх ні камуфлявалі, зьяўляюцца антыдзяржаўнай дзейнасьцю і цягнуць за сабою адказнасьць.

Так званае аб'яднаньне грашовых сыстэмаў, а на самой справе — уключэньне Беларусі ў грашовую сыстэму Расеі, будзе абазначаць ня што іншае, як раззбраеньне беларускай эканомікі і беларускай дзяржавы перад больш магутнымі расейскім капіталам і прадпрымальніцтвам.

Будуць паглынутыя нашыя прадпрыемствы і банкі, скуплена маёмасьць і нацыянальнае багацьце.

У выніку мы застанемся на сваёй зямлі, але яна ўжо ня будзе нам належаць; мы вымушаны будзем працаваць на чужых гаспадароў і чужую дзяржаву.

Канкурэнтнасьць нашых тавараў зьнізіцца, што ў канцовым выніку прывядзе да спыненьня вытворчасьці.

Мы страцім свае тэхналёгіі ды інтэлектуальны патэнцыял, ператворымся ў грамадзтва хранічнай беднасьці, беспрацоўя, расейскай крымінальшчыны й непарадку, станем плацдармам для чужога войска і ядравых ракетаў.

Мы зробімся дармовым калідорам для бяспошліннага транзыту на Захад расейскага газу, нафты й сыравіны.

Прыхаваная эканамічная вайна Расеі супраць Беларусі, якая вялася апошнія два гады пры дапамозе і здрадніцтве ўраду Кебіча, ужо прывяла да сумных вынікаў. Аднабаковая арыентацыя толькі на ўсход ужо прынесла велізарныя страты Беларусі ў клірынгавым тавараабмене, а кошт расейскай нафты й сыравіны перавысіў сусьветны ўзровень. (Напрыклад, мы плоцім 128 даляраў ЗША за 1 тону расейскай нафты, тады як яна каштуе 91 даляр на Ротэрдамскай біржы.)

Узьнікае пытаньне, чаму намэнклятурны ўрад і большасьць Вярхоўнага Савету Беларусі падтрымлівае нэакаляніяльную палітыку артадаксальных імпэрскіх колаў Расеі, дзейнічае супраць уласнае дзяржавы. Таму што намэнклятурнікі баяцца адказнасьці перад народам за карупцыю, «прыхватызацыю», разрабаваньне агульнанароднай маёмасьці і разбурэньне эканомікі нашай краіны. Каб пазьбегнуць адказнасьці, яны гатовыя здаць дзяржаву. Калі ліквідуецца дзяржава, тады зьнікае суб'ект права, ад імя якога можна прад'явіць рахунак, абвінавачваньне, пазоў у суд. Яны, накраўшыся і збанкрутаваўшы ў палітыцы, хочуць, застаючыся пры сваіх капіталах, зьмяніць гэты суб'ект права на іншы, каб надзейна замесьці сьляды. Што можна цяпер прад'явіць Кузьмічам, Іванавічам ды Сяргеевічам, якія кралі пры ўладзе за часы СССР? Няма больш СССР! Гэтак плянуюць і зь Беларусяй.

Але разбуральныя задумы ўрадавай намэнклятуры мусяць быць спыненыя. Мы не павінны дапусьціцца да таго, каб наш народ са зброяй вымушаны быў весьці нацыянальна-вызваленчую барацьбу за свабоду і незалежнасьць, як гэта робіцца ў іншых краінах. Гэта цяжкі і ня лепшы варыянт для беларускага грамадзтва, а яно ўжо зьмянілася, і ёсьць сілы, здольныя на барацьбу. Найбольш рэальным і законным дзеяньнем мы лічым масавую ўсебеларускую палітычную маніфэстацыю з патрабаваньнямі адстаўкі антынацыянальнага ўраду Кебіча, роспуску нелегітымнага Вярхоўнага Савету і правядзеньня дэмакратычных выбараў.

Нашаму народу няма цяпер на каго абаперціся, акрамя як на самога сябе. Мы з разуменьнем ставімся да заклікаў страйкавых камітэтаў і Свабодных прафсаюзаў аб усеагульнай палітычнай забастоўцы. Усе на барацьбу зь імпэрскай камуністычнай рэакцыяй! За свабоду, незалежнасьць і дабрабыт Беларусі!

**Народныя дэпутаты Беларусі:**
**З.Пазьняк, В.Голубеў, С.Папкоў, С.Навумчык, Г.Сямдзянава, Ю.Беленькі, Л.Баршчэўскі, В.Какоўка, А.Шут, П.Холад, А.Барысенка, М.Крыжаноўскі, В.Аляміеў, Л.Дзейка, С.Антончык, Л.Зданевіч, Б.Гюнтар, А.Паруль, І.Пырх, М.Аксаміт, М.Маркевіч, І.Германчук, І.Герасюк.**

*Д-30. („Свабода", – 1994, 8-14 лютага).*

# ЗЯНОН ПАЗЬНЯК: РАДЫКАЛІЗМ ЦІ ПАСЬЛЯДОЎНАСЬЦЬ?

Апошнім часам у друку пачалі зьяўляцца артыкулы з ацэнкай асобы Старшыні Беларускага Народнага Фронта Зянона Пазьняка (адзін зь іх, напісаны Сымонам Сьвістуновічам, быў зьмешчаны ў „Звяздзе").

Ва ўсіх гэтых выступах прасочваецца думка: Пазьняк – занадта радыкальны палітык. Магчыма, тое, што ён гаворыць, маўляў, і мае сэнс, але ж можна было б рабіць гэта неяк мягчэй, ня ў лоб, з разьлікам на рахманасьць і талерантнасьць сярэдняга беларускага грамадзяніна.

Ну а давайце паспрабуем вярнуцца на некалькі гадоў назад і ўявіць, як бы разгортваліся падзеі, калі б Пазьняк дзейнічаў не па ўласным сумленьні, а па рэкамендацыях сваіх крытыкаў.

Вясна 1988 года. Археолаг Пазьняк натрапіў на страшэнную таямніцу Курапатаў. Па раскопу відавочна, што забойства дзясяткаў тысячаў людзей адбылося да вайны, і прысуд выконваўся НКВД. Кіраўніцтва ЦК і КДБ адмаўляліся прызнаць факт масавага зьнішчэньня «савецкіх людзей», перакладаючы адказнасьць на фашысцкіх захопнікаў. Ды праўда – пра рэпрэсіі на той час было сказана шмат, а вось паказаць, што зьнішчаліся не адзінкі з палітычнай ды мастацкай эліты, а тысячы простых людзей, і што рабілі гэта камуністы ў форме НКВД, і не дзенебудзь на далёкай Калыме, а вось тут, побач... Усведамленне гэтага грамадзтвам можа сапраўды стварыць пагрозу для Сістэмы. Пазьняк згаджаецца з такой вэрсіяй. Ні ў „ЛіМе", ні ў іншых выданьнях ніякіх артыкулаў пра Курапаты не зьяўляецца. На месцы Курапатаў закладваецца парк адпачынку – з шашлычніцамі для дарослых, танцпляцоўкамі для моладзі і атракцыёнамі для дзяцей.

Але Пазьняк сказау праўду (калі-небудзь, спадзяюся, грамадзтва даведаецца, чаго яму гэта каштавала). Сьвет – жахнуўся. А таварышы камуністы з „Мы и время" і да гэтага часу ня могуць зьмірыцца з тым, што Пазьняк прывеў неабвяргальныя доказы вынікаў дзейнасьці бальшавіцкай ўлады. І ніколі яму гэтага не даруюць. Шэраговыя камуністы абураныя экстрэмізмам Пазьняка.

Кастрычнік 1988 года. БССР зьяўляецца самай стабільнай Рэспублікай; кіраўніцтва кіруе, народ працуе. Згодна з рэзалюцыямі апошняга Пленума ЦК КПСС, ідзе падрыхтоўка да выбараў народных дэпутатаў СССР, якія павінны стаць яшчэ адным доказам развіцьця сацыялістычнай дэмакратыі. У дэпутаты будуць вылучаныя „найлепшыя" людзі Рэспублікі – партыйныя работнікі з ліку кіраўніцтва ЦК, першыя сакратары абкамаў КПБ, работнікі дзяржаўнага апарата, генэралы Савецкай Арміі і КДБ, сумленныя фрэзероўшчыкі і прывабныя трактарысткі, а таксама некалькі таварышаў з ЦК КПСС і Дзяржплану СССР, якія акажуць дапамогу ў матэрыяльным забесьпячэньні планавай гаспадаркі Рэспублікі.

Прыгадваеце гэты абсурд? Супроцьстаяць яму мог толькі арганізаваны дэмакратычны рух. Рух, здольны вытрымаць ня менш абсурдныя абвінавачваньні. Але патэнцыяльны арганізатар гэтага руху Зянон Пазьняк, як і належыць законапаслухмянаму грамадзяніну, накіроўваецца не да людзей, а ў ЦК КПБ – баявы штаб беларускіх камуністаў. Ён заяўляе: так, таварышы Сакалоў і Пячэньнікаў, вы маеце рацыю: КПСС зьяўляецца адзіным рычагом дэмакратызацыі, а атрад беларускіх камуністаў – прывадны рамень гэтага мэханізму.

Давайце падтрымаем лепшых прадстаўнікоў гэтага атраду, якія ў час сэсіяў будуць спрыяць ажыцьцяўленьню планаў партыі энэргічным галасаваньнем.

Але Пазьняк утварае Аргкамітэт БНФ, які потым наладжвае па ўсёй Беларусі вылучэньне і падтрымку дэмакратычных кандыдатаў. Афіцыйная прэса прасочвае „эвалюцыю палітычнага невуцтва" ініцыятараў стварэньня дэмакратычнага руху; перадавыя даяркі і сьвядомыя ветэраны заклікаюць насельніцтва „ня йсьці ў Фронт". Навошта ён, гэты Фронт? А галоўнае – супраць каго? Радавога грамадзяніна асабліва хвалюе вось гэтае апошняе пытаньне: дык супраць каго Фронт, супраць каго Пазьняк? Навошта быць „супраць", калі можна – „за"? Радавы грамадзянін абураны экстрэмізмам Пазьняка.

Вясна 1989. Акадэмік Канапля вядзе дасьледваньні і бачыць, як адбіваецца Чарнобыльская аварыя на арганізме. Бачыць гэта прафэсар Шушкевіч. Разумеюць гэта і дзясяткі іншых навукоўцаў. Але іх навуковыя спавешчаньні на сэмінарах ды канфэрэнцыях – ня больш, чым чарговая вэрсія. Таварышы з ЦК вызначылі, што Чарнобыль ня даў шкоды. Вось і Зянон Пазьняк згаджаецца, што Чарнобыль – надуманая праблема; кіраўніцтва ЦК на чале са Слюньковым своечасова ажыцьцявіла ўвесь комплекс мераў, якія здолелі зьвесьці да мінімуму вынікі аварыі і забясьпечыць бясшкоднае існаваньне людзей на так званых „забруджаных тэрыторыях", пра якія так любяць вяшчаць хлусьлівыя забугорныя галасы. І увогуле, Чарнобыль – гэта пытаньне, якім павінны займацца толькі такія высокакваліфікаваныя спэцыялісты, як таварыш Камай з Гомеля і прафэсар Ільін з Масквы.

Але Пазьняк і БНФ у красавіку праводзяць „гадзіну смутку", а ў верасьні ладзяць „Чарнобыльскі шлях". Афіцыйная прэса папракае арганізатараў, што замест таго, каб узяць удзел у суботніку, яны вывелі людзей на плошчу. Простыя грамадзяне вымяраюць тэмпературу: сапраўды, усё ў норме, якая радыяцыя? Простыя грамадзяне абураюцца экстрэмізмам Пазьняка.

Сакавік 1990 года. Сейм Летувы абвяшчае незалежнасьць. На Беларусі адбываюцца выбары Вярхоўнага Савета. У лік дэпутатаў трапляе некалькі прадстаўнікоў інтэлегенцыі. Ня іх віна, што не ўдалося ім, як большасьці калег па парляманту, дасягнуць партыйных і дзяржаўных пасадаў. Затое яны не перашкаджаюць галасаваць тым, хто дні і ночы на гэтых пасадах клапоціцца пра дабрабыт народа. Прадстаўнікі інтэлегенцыі ўцягваюцца ў складаны працэс заканатворчай дзейнасьці – у парламанцкіх камісіях яны не задаюцца бязглуздымі ініцыятывамі, а дакладна і ў тэрмін выконваюць распараджэньні Мікалая Іванавіча Дземянцея. Тыя, хто не пажадаў разьвітвацца з прафэсіяй, займаюцца любімай справай, але на больш высокім узроўні – на адказных пасадах у міністэрствах і ведамствах. Яны працуюць канструктыўна. Яны цалкам падтрымліваюць Праграму пераходу да рынкавай эканомікі, якую прапанаваў Старшыня Саўміну В.Ф.Кебіч. Яны аднадушна выказваюцца супраць такога буржуазнага рудыменту, як прыватная ўласнасьць на зямлю. Яны актыўна удзельнічаюць у ажыцьцяўленні «рынкавай рэформы» – ствараюць сумесныя прадпрыемствы, дапамагаюць выпісваць ліцэнзіі на вываз нафты і каляровага металу, асвойваюць пад катэджнае будаўніцтва закінутыя тэрыторыі пад Менскам.

7 лістапада 1990 года, пад час дэманстрацыі працоўных, дэпутат Пазьняк выступае з прамовай у абарону камуністычных ідэалаў і Леніна. Ён гаворыць, што мільёны ахвяраў – на сумленьні не камуністычнай партыі, а нейкіх іншапланецянаў. Наогул, чым раней мы забудземся пра гэтыя ахвяры – тым лепей для здаровага сна простых савецкіх людзей. Пазьняк даводзіць, што нават калі Леніным і былі аддадзеныя загады расстраляць сотні і тысячы людзей, то ён не вінаваты. Бо кіраўнік банды не павінен несьці адказнасьці за дзеяньні баевікоў, што выконваюць ягоны загад.

Калі ў жніўні 1991 года ў Маскве правальваецца путч, у рэспубліках абвяшчаецца незалежнасьць і спыняецца дзейнасьць філіяў

КПСС – гэтыя дэпутаты зьвяртаюцца да народа і заклікаюць не склікаць нечарговую сэсію. Дэпутат Пазьняк прапануе не пароць гарачкі, а яшчэ шчыльней аб'яднацца вакол бюро ЦК КПБ начале з таварышам Малафеевым. Што да так званага суверэнітэту, гаворыць Пазьняк, то ён ніколі ня быў патрэбны простаму люду Беларусі. Натуральна, большасьць дэпутатаў – „плоць ад плоці" народа – падзяляюць гэтую думку. Беларусія застаецца аўтаномнай рэспублікай у складзе Расейскай Фэдэрацыі.

Але Пазьняк аб'яднаў дэмакратычных дэпутатаў, стварыў Апазыцыю. Чатыры гады Апазыцыя вылучала ідэі, якія першапачаткова адвяргаліся парляманцкай большасьцю і, не будзем хаваць, не адразу ўспрымаліся грамадзтвам. Потым і грамадзтва, і дэпутаты прыходзілі да ўсьведамленьня гістарычнай, палітычнай і эканамічнай неабходнасьці гэтых ідэяў.

Мне цяжка назваць прапановы Пазьняка, якія б не аспрэчваліся як занадта радыкальныя. Але мэтазгоднасьць кожнай даволі хутка падцьвярджалася жыцьцём. Дэпартызацыя прадпрыемстваў, дзяржаўная незалежнасьць, нацыянальныя сымвалы, прыватная ўласнасьць на сродкі вытворчасьці, на зямлю, стварэньне беларускага войска, уласная грашовая сістэма, датэрміновыя выбары – вось толькі некаторыя ідэі, вылучаныя Пазьняком. І кожная зь іх успрымалася ў штыкі, кожная ў афіцыйнай прэсе, у лепшым выпадку – асмейвалася, але звычайна падавалася як праява экстрэмізму. У сьвядомасьць „простага" грамадзяніна закладваўся стэрэатып: Пазьняк – экстрэміст. Гэта было выгадна камуністам, ураду Кебіча.

Магчыма – буду казаць адкрытым тэкстам – гэта было на руку каму-некаму і з дэмакратаў. Я ўжо ня памятаю, калі апошні раз Пазьняк казаў пра праблему беларускай мовы – ягоныя выступленьні прысьвечаныя, пераважна, эканамічным ды палітычным пытаньням. Але той-сёй з лідараў на сваіх сустрэчах не замінае падкрэсьліць, што глыбока паважае Пазьняка і БНФ – за ўздым праблемы нацыянальнага адраджэньня. І толькі. Падтэкст зразумелы: ні на што іншае яны ня здатныя. Не узгадваецца эканамічная канцэпцыя Апазыцыі, шматлікія заканадаўчыя прапановы дэпутатаў Заблоцкага, Беленькага, Алампіева...

Цяпер, калі пачынаеш аналізаваць падзеі нядаўняга часу, разумееш: лінія паводзінаў, абраная Пазьняком, была адзіна правільнай у сітуацыі татальнай манаполіі камуністаў на ўладу і непрыняцця ідэй дзяржаўнай незалежнасьці. Усялякія іншыя, „мяккія" паводзіны, хутка прывялі б да калябарацыянізму і дыскрэдытацыі дэмакратычнага руху.

Таму мне дзіўна чуць ад некаторых дэмакратычных паплечнікаў заявы наконт таго, што менавіта БНФ і Пазьняк развалілі дэмакратычны рух. Пяць гадоў таму гэты рух быў утвораны як Беларускі Народны Фронт; у парляманцкіх варунках ён ўвасобіўся ў выглядзе Апазыцыі БНФ. Цяпер відавочна, што Апазыцыя БНФ – адзінае дэпутацкае палітычнае фармаваньне, якое ня проста захавалася, але і пасьлядоўна адстойвала свае прынцыпы. Быў, праўда, і гэтак званы Дэмакратычны клюб (першапачаткова – „Дэмакратычная плынь"). У яго склад (калі меркаваць па сьпісе) у свой час нават Мечыслаў Іванавіч Грыб уваходзіў. Адным з кардынатараў „Дэмакратычнай плыні" быў і С. С. Шушкевіч („Энцыклапэдыя гісторыі Беларусі", стар.441). Праўда, я ня памятаю, каб пасьля абраньня Першым намесьнікам Старшыні Вярхоўнага Савета ці, пазней, Старшынёй ВС, Станіслаў Станіслававіч наведаўся на пасяджэньне Дэмклюба.

Зусім не хачу крыўдзіць Станіслава Станіслававіча, але з усялякага вопыту мы павінны рабіць высновы. Станіслаў Станіслававіч заўсёды сцьвярджаў, што ў Старшыні ВС не хапае канстытуцыйных паўнамоцтваў, каб ажыцьцявіць дэмакратычныя пераўтварэньні ў краіне. Магчыма. Але найвышэйшая дзяржаўная пасада – гэтага дастаткова, каб кансалідаваць дэмакратычны рух, надаць аўтарытэт гэтаму руху ў грамадзтве. Ды Станіслаў Станіслававіч хацеў быць лагодным для ўсіх. Па-чалавечы – абсалютна зразумелае жаданьне. Магчыма, на бытавым узроўні, на ўзроўні ўзаемаадносінаў паміж жыхарамі лесьвічнай пляцоўкі гэта – найбольш аптымальны варыянт паводзінаў. Ды толькі Станіслаў Станіслававіч хацеў быць для ўсіх прыемным там, дзе заўсёды жорстка паўстае праблема выбару – у палітыцы. І для ініцыятараў рэфэрэндума – і для яго праціўнікаў. У выніку сыграў на карысьць праціўнікаў. І для дэмакратаў – і для камуністаў. А паспрыяў адраджэньню партыі камуністаў. І для прыхільнікаў нэўтралітэту – і для прыхільнікаў Дамовы аб калектыўнай бясьпецы з Расеяй. Урэшце рэшт, падпісаў гэтую Дамову.

Такая „лагоднасьць" не ішла на карысьць ні дзяржаве, ні дэмакратычнаму руху. Але Шушкевіч – добры. Ён лагодны. А Пазьняк дрэнны. Бо ён – прынцыповы і пасьлядоўны. На дзіва алягічнае ўспрыманьне паводзінаў.

Прычым паказальна, што такая своеасаблівая рэакцыя на прапановы пра ўласную валюту, максімальную незалежнасьць ад суседзяў і г.д. была б немагчымай дзе-небудзь у Чэхіі альбо Вэнгрыі. У здаровым грамадзтве ўсё гэта ўспрымаецца абсалютна спакойна.

Чую зьедлівае пытаньне „Дык вам што – зноў з народам не пашанцавала?" Не пашанцавала – народу. Не пашанцавала ўсім нам. Хвароба была настолькі глыбокай, што вынікі яшчэ доўга будуць нагадваць пра сябе. Але кожны ведае, што лячэньне будзе марным ці нават шкодным пры памылковым дыягназе. Вядома і тое, што найбольш шанцаў на добры вынік тады, калі той, хто ставіў дыягназ, мае магчымасьць выбраць спосаб і сродак лячэньня.

Ня кожнаму прыемна выслухоўваць дыягназ – але ці варта дакараць за яго лекара?

***Сяргей НАВУМЧЫК***

*Надрукавана: „Звязда", – 1994, 12 красавіка*

# ЭКАНАМІЧНАЯ ПРАГРАМА КАНДЫДАТА Ў ПРЭЗЫДЭНТЫ ЗЯНОНА ПАЗЬНЯКА (1994 Г.)

**I. Якую „спадчыну" атрымае З. Пазьняк ад ураду В. Кебіча?**
**II. Прычыны крызісу эканомікі**
**III. Чаму Беларусі патрэбен рынак?**
**IV. Галоўныя прынцыпы рэформы**
**V. Унутраная эканамічная палітыка**
**VI. Зямельная рэформа**
**VII. Аграрная палітыка**
**VIII. Зьнешнеэканамічная палітыка**

## I. ЯКУЮ „СПАДЧЫНУ" АТРЫМАЕ З. ПАЗЬНЯК АД УРАДУ В. КЕБІЧА?

Урад Кебіча атрымаў ад Вярхоўнага Савета ўсе неабходныя паўнамоцтвы для ажыцьцяўленьня рыначных рэформаў, стабілізацыі і росту эканомікі краіны. Прайшло чатыры гады.

За гэты час:

- вытворчасьць зьнізілася больш чым на 50%;
- інфляцыя перавысіла 50% у месяц;

- знешняя запазычанасьць вырасла да паўтара мільярда даляраў і штогод павялічваецца яшчэ на мільярд;
- цэны на асноўныя спажывецкія тавары вырасьлі ў 3000 разоў;
- за мяжой жабрацтва апынуліся 7 з 10 жыхароў Беларусі.

Згублена самае каштоўнае – час. 1991-1992 гады былі найбольш спрыяльнымі для рэфармаваньня нацыянальнай эканомікі. Тады было магчыма правесьці глыбокую структурную перабудову эканомікі нашай краіны са значна меншымі стратамі, стварыць новыя працоўныя месцы, вырабляць канкурэнтаздольную прадукцыю і забясьпечыць высокі дабрабыт насельніцтва Беларусі.

Урад ня толькі не пачаў рэфармаваньня эканомікі ў гэтым кірунку, але ён нават ня мае дакладнага ўяўленьня, як гэта рабіць.

## II. ПРЫЧЫНЫ КРЫЗІСУ ЭКАНОМІКІ

**1.** Сьвядомае нежаданьне Ўрада праводзіць незалежную эканамічную палітыку, адсутнасьць у большасьці Вярхоўнага Савета палітычнай волі, каб вызначыць кірунак развіцьця краіны.
**2.** Парушэнне базавых эканамічных дачыненьняў уласнасьці. Эканоміка заставалася нярынкавай, а ў яе спрабавалі ўвесьці рынкавыя мэханізмы і паказчыкі. Гэта прывяло да страты кіравальнасьці і анархіі ў вытворчасьці, да парушэння адносінаў меры працы і спажываньня, вынікам чаго сталі спэкуляцыя, спад вытворчасьці, інфляцыя.
**3.** Пасьлядоўнае разбурэньне грашовай і крэдытна-фінансавай сістэмы.
**4.** Зьнешнеэканамічная палітыка, накіраваная супраць уласнага (унутранага) вытворцы, асабліва супраць нашых сялян.
**5.** Захаваньне татальнай дзяржаўнай уласнасьці як у прамысловасьці, так і, фактычна, у сельскай гаспадарцы.
**6.** Адсутнасьць мэтаў і праграмы пераводу народнай гаспадаркі на іншыя прынцыпы, на іншы спосаб вытворчасьці, заснаваны на свабоднай рынкавай эканоміцы.

## III. ЧАМУ БЕЛАРУСІ ПАТРЭБЕН РЫНАК?

Як сьведчыць вопыт разьвіцьця ўсіх перадавых краінаў сьвету, няма іншых тэхналёгіяў у эканоміцы, іншых механізмаў, акрамя рынку, каб дакладна інфармаваць, ці патрэбна камусьці выробленая прадукцыя, і аб'ектыўна інфармаваць пра эфэктыўнасьць працы прадпрыемстваў.

## IV. ГАЛОЎНЫЯ ПРЫНЦЫПЫ РЭФОРМЫ

– Канстытуцыйнасьць. У адпаведнасьці з артыкулам 1 Канстытуцыі ''… Рэспубліка Беларусь валодае вяршэнствам і паўнатой улады на сваёй тэрыторыі, самастойна ажыцьцяўляе ўнутраную і зьнешнюю палітыку.

Рэспубліка Беларусь абараняе сваю незалежнасьць і тэрытарыяльную цэласнасьць, канстытуцыйны лад, забясьпечвае законнасьць і правапарадак".

Рэфармаваньне беларускай эканомікі будзе адпавядаць патрабаваньням Канстытуцыі і жыцьцёвым інтарэсам нашага народа.

– Для гэтага неабходна прысутнасьць усіх чыньнікаў, што вызначаюць дзяржаўнасьць Рэспублікі Беларусь: мяжы, мытні, сваёй валюты і банкаўскай сістэмы з цэнтральным эмісійным банкам, магчымасьці абараняць дзяржаўны суверэнітэт (нацыянальнага войска).
– Непарушнасьць прынцыпаў недатыкальнасьці ўласнасьці і захаваньня права ўласнасьці. Кожны павінен быць упэўнены, што сумленна набытае ніхто і ніколі ў яго не адбярэ.
– Раздзяленьне для дзяржаўнага сэктара функцыяў улады і ўласнасьці (уладныя функцыі перадаюцца акцыянерным холдынгавым кампаніям і канцэрнам, а маёмасныя – Міністэрству па кіраваньню дзяржаўнай маёмасьцю; уласнасьць на зямлю вызначаецца ў адпаведнасьці з законам аб зямлі).
– Заканадаўчае фармаваньне рыначных дачыненьняў пры роўнасьці ўсіх формаў уласнасьці, якімі забясьпечваюцца:
  а) свабода эканамічнай і гаспадарчай дзейнасьці фізічным і гаспадарчым асобам;
  б) свабода спажываньня суб'ектам на рынку;
  в) стварэньне ўмоваў для забесьпячэньня канкурэнцыі.
– Стварэньне прыватнага (недзяржаўнага) сэктара эканомікі Беларусі шляхам правядзеньня раздзяржаўленьня і прыватызацыі, дзяржаўная палітыка падтрымкі прадпрымальніцкай дзейнасьці.
– Прыняцьце ўзроўню ваенных расходаў ня больш чым за 6 працэнтаў валавога ўнутранага прадукту.
– Дзяржаўная палітыка рэструктурызацыі эканомікі краіны і выбарачнай падтрымкі асобных прадпрыемстваў і галінаў вытворчасьці, якія маюць рэальныя шанцы выхаду на сусьветны рынак з канкурэнтназдольнай прадукцыяй.
– Правядзенне валютнай рэформы і заканадаўчае замацаваньне грашовай адзінкі Рэспублікі Беларусь у якасьці адзінага плацёжнага сродку.
– Фармаваньне падатковай сістэмы, накіраванай на падтрымку вытворчасьці, правядзеньне актыўнай інвестыцыйнай палітыкі і павелічэньне амартызацыйных адлічэньняў.
– Актыўная і адрасная сацыяльная палітыка, накіраваная на падтрымку неабароненых пластоў насельніцтва за кошт сродкаў дзяржаўнага і мясцовых бюджэтаў.
– Гарантаванае пагашэньне запазычанасьці дзяржавы перад грамадзянамі за кошт сродкаў ад прыватызацыі дзяржаўнай уласнасьці, а таксама за кошт нерухомасьці.
– Ажыцьцяўленьне новай бюджэтнай палітыкі, у аснове якой:
  а) фармаваньне бюджэту зьнізу, з узроўню мясцовага самакіраваньня;
  б) атрыманьне даходаў ад дзяржаўнай уласнасьці;
  в) адмова ад датацыяў вытворцам пры адначасовай падтрымцы малазабясьпечаных грамадзянаў;
  г) скарачэньне выдаткаў на ўтрыманьне дзяржаўнага апарату;
  д) выдзяленьне дастатковых сродкаў для забесьпячэньня правапарадку, абароны жыцьця і здароўя грамадзянаў, гарантыі права ўласнасьці і абароны самой уласнасьці фізічных і юрыдычных асобаў;
  ж) фінансаваньне адраджэньня культуры, разьвіцьця навукі, адукацыі, аховы здароўя,
  з) фінансаваньне праграмаў ліквідацыі наступстваў Чарнобыльскай катастрофы і стварэньня сістэмы экалягічнай бясьпекі.

## V. УНУТРАНАЯ ЭКАНАМІЧНАЯ ПАЛІТЫКА

Унутраная эканамічная палітыка будзе ствараць умовы для стабілізацыі эканомікі і дасягненьня дабрабыту грамадства. Сродак дасягненьня гэтых мэтаў – пераход эканомікі Беларусі да рыначных дачыненьняў. Асаблівая ўвага будзе накіравана на развіцьцё недзяржаўнага сэктара эканомікі, на падтрымку малога і сярэдняга бізнэсу.

Адбудзецца хуткі пераход на свабодную куплю і продаж усіх тавараў і рэсурсаў. Гэта – ключавая ўмова правядзеньня рэформаў, якая забясьпечвае эканамічны парадак і дае вытворцам сапраўдныя

веды аб патрэбах грамадзтва ў канкрэтных таварах, рэсурсах і працоўнай сіле. Без пераходу да поўнай самастойнасьці прадпрыемстваў у гаспадарчай дзейнасьці на аснове атрыманьня максімальнай выгады ўсе астатнія пытаньні – сацыяльная абарона, прыватызацыя, харчовыя пытаньні, канвэрсія і інш. – ня могуць быць вырашаныя.

Свабодны гандаль будуецца на гандлёвых зьдзелках, і інструмэнтам яго абслугоўваньня зьяўляюцца грошы. Таму будзе прынята грашова-крэдытная палітыка, якая разам зь і іншымі мерамі панізіць узровень інфляцыі да 2-3 працэнтаў у месяц. Дзеля гэтага будзе праведзена грашовая рэформа, якая ўключае стварэньне мытнай тэрыторыі, набыцьцё валютных рэзэрваў, падрыхтоўку адпаведнай фінансавай інфраструктуры, вырашэньне тэхнічных пытанняў эмісіі наяўных грошай, падрыхтоўку нарматыўнай базы. На першым этапе статус нацыянальнай валюты будзе нададзены разьліковым білетам Нацыянальнага банка.

Галоўным сродкам забесьпячэньня „здаровых" грошай будзе перавод усіх прадпрыемстваў, незалежна ад формаў уласнасьці, на камэрцыйныя прынцыпы дзейнасьці. Таксама ўводзіцца ў дзеяньне закон аб банкрутстве з усімі патрэбнымі механізмамі яго рэалізацыі. Іншыя неабходныя захады:

– Заканадаўчае афармленьне дзяржаўнага доўгу, працэдураў яго фармаваньня і крыніц пагашэньня. Рэалізацыя механізмаў эмісіі і размяшчэньня дзяржаўных і муніцыпальных каштоўных папераў, у тым ліку і кароткатэрміновых.
– Аднясеньне на дзяржаўны доўг кампэнсацый укладаў насельніцтва, жыльлёва-будаўнічых каапэратываў, часткова пэнсійнага фонду.
– Ажыцьцяўленьне новай палітыкі заработнай платы і даходаў для работнікаў дзяржаўнага сэктара эканомікі і бюджэтных установаў, у аснове якой – прынцып роўнай аплаты працы пры аднолькавай кваліфікацыі, якасьці і інтэнсіўнасьці.
– Антыманапольная палітыка і кантроль дзяржавы за ўмовамі, якія забясьпечваюць канкурэнцыю вытворцаў.
– Жыльлёвая палітыка, арыентаваная пераважна на будаўніцтва індывідуальных жылых дамоў з выкарыстаньнем дзяржаўных сродкаў дзеля стварэньня інжынернай інфраструктуры ў раёнах будаўніцтва і сродкаў грамадзян для будаўніцтва дамоў. Для забесьпячэньня фінансавых магчымасцяў такога будаўніцтва ўсім жадаючым ствараюцца іпатэчныя фінансавыя інстытуты.

Падрыхтоўка і ажыцьцяўленьне дзяржаўнай энэргетычнай праграмы, накіраванай на ўзнаўленьне і разьвіццё ўласных генэрыруючых магутнасьцяў. Прыняцьце тарыфнай палітыкі, якая будзе змушаць да энэргазьберажэньня, а таксама дзяржаўных стандартаў, якія вызначаюць абавязковыя ўмовы рэсурсазьберажэньня.

– Правядзеньне дзейснай дэмаграфічнай палітыкі, падтрымка жанчын, дзяцей, маладых сем'яў.
– Эфэктыўная міграцыйная палітыка ў інтарэсах нашай дзяржавы.

Беларусь мае сур'ёзныя сыравінныя рэсурсы і карысныя выкапні. Таму будзе падрыхтавана дзяржаўная праграма разьвіцьця чорнай, каляровай і рэдказямельнай металургіі, дадатковага разьведваньня тэрыторыі Беларусі на энэрганосьбіты. Да прапанаваных тэхналёгіяў павінны прад'яўляцца жорсткія экалягічныя патрабаваньні. Будзе заключаны шэраг дагавораў аб канцэсіях здабычы сыравіны і энэрганосьбітаў на тэрыторыі іншых дзяржаваў.

## VI. ЗЯМЕЛЬНАЯ РЭФОРМА

Зямля – галоўны, стратэгічны рэсурс любой дзяржавы. Зямля – прастора стваральнай дзейнасьці чалавека, асяроддзе, у якім ён жыве, сродак вытворчасьці ў сельскагаспадарчай дзейнасьці.

Рэспубліка Беларусь – буйная дзяржава ў цэнтры Эўропы з умераным клімата – валодае вялікім патэнцыялам гэтага рэсурсу.

Стаўленьне да зямлі, распараджэньне зямлёй павінна быць ашчаднае, навукова абгрунтаванае, эканамічна эфэктыўнае.

Асаблівы сэнс набывае зямельная палітыка цяпер, калі наша грамадзтва павінна перайсьці ў новую якасьць – грамадзтва рыначнай эканомікі, калі рэзка зьніжаецца роля дзяржавы, калі некампетэнтнымі палітыкамі можа быць справакаваны абвальны, навукова і метадычна не падрыхтаваны працэс прыватызацыі зямлі. (Дарэчы, менавіта такую прыватызацыю пад прыкрыцьцём тэрміна „калектыўная ўласнасьць" Апазыцыі БНФ у Вярхоўным Савеце ўдалося прадухіліць у 1992 г.). Неабходна разумная, навукова абгрунтаваная, жорсткая дзяржаўная палітыка. У структуры Ўрада павінен быць камітэт, а на пэрыяд рэформаў – міністэрства па зямельных рэсурсах.

Мы за прыватную ўласнасьць на зямлю, за роўныя правы ўсіх грамадзянаў на прыватызацыю зямлі, але ж мы супраць таго, каб зямля зрабілася аб'ектам спэкуляцыі ці апірышчам манапольнай карумпаванай улады намэнклятуры (чыноўнікаў).

Неабходна новае зямельнае заканадаўства. Зямля павінна стаць таварам, але таварам своеасаблівым.

Галоўнай умовай для эканамічна эфэктыўнага землекарыстаньня і сацыяльна справядлівай прыватызацыі зямлі зьяўляецца наяўнасьць дакладнага дзяржаўнага зямельнага кадастру, інакш адбудзецца не прыватызацыя, а прыхватызацыя. Для вядзеньня дзяржаўнага зямельнага кадастру неабходна стварыць дзяржаўную службу, якая, не ўціскаючы правы мясцовай улады, забясьпечыць агульнадзяржаўныя інтарэсы.

Мясцовая ўлада павінна мець уласныя фінансавыя магчымасьці на здзяйсьненьне сацыяльных праграмаў.

Гэтыя сродкі дасьць падатак на зямлю – галоўная крыніца фармаваньня бюджэту на сяле. Калгасы, саўгасы і іншыя землекарыстальнікі павінны не падмяняць мясцовую ўладу, а займацца гаспадарчай дзейнасьцю, плацячы пры гэтым, як усе землекарыстальнікі, эканамічна абгрунтаваны, роўны для ўсіх падатак на зямлю.

Катэгарычна недапушчальная практыка набыцьця права ўласнасьці на зямлю праз аб'екты нерухомасьці. Сёньня, прыватызуючы трухлявы дом, можна аўтаматычна прыватызаваць участак зямлі нават у межах горада. Гэтая практыка будзе спынена.

Прапануючы аб'яднаньне грашовых сістэмаў з Расеяй, некаторыя палітыкі не ўсьведамляюць наступствы такога кроку. Аб'яднаньне грошай з дзяржавай, дзе ўжо створаны рыначныя структуры, іпатэчныя банкі, дзе ёсць вопыт прыватазацыі, у тым ліку зямлі, вядзе да сітуацыі, калі беларускі селянін альбо прадпрымальнік (якім нашы заканадаўцы не дазволілі стаць уласнікамі зямлі) можа застацца без зямлі на сваёй Бацькаўшчыне.

Прыватызацыя зямлі – не самамэта, а сродак павышэньня эфэктыўнасці гаспадараньня, гэта гарантыя стварэньня сеткі дробных прадпрыемстваў перапрацоўкі сельскагаспадарчай прадукцыі, а значыць – яе захаваньня і падвышэньня экспартнага патэнцыялу дзяржавы, гэта галоуная гарантыя любых капіталаўкладаньняў (інвэстацыяў), а значыць – найпершая ўмова ажыўленьня інвестыцыйнай дзейнасьці і ўсёй эканомікі.

Рынак зямлі, які функцыянуе праз сістэму іпатэчных банкаў і права на заклад зямлі, безэмісійная крэдытная палітыка – рэальны шлях выхаду з крызісу, шлях, які прайшлі ўсе разьвітыя дзяржавы. Беларусь вельмі багатая на зямельныя рэсурсы. Трэба толькі мудра імі распарадзіцца.

## VII. АГРАРНАЯ ПАЛІТЫКА

Галоўная мэта аграрнай палітыкі – дабрабыт селяніна і эфектыўнасць ягонай працы.

Трэба вярнуць зямлю гаспадару, а грамадству – селяніна. У выніку вытворца атрымае свабоду прадпрымальніцкай дзейнасьці, свабоду выбару – што і дзе вырабляць – без усялякага ўмяшальніцтва з боку дзяржавы. Усе формы арганізацыі вытворчасьці – дзяржаўная, калектыўная і індывідуальная – будуць мець роўныя магчымасьці. Калгасы, дзяржгасы і фэрмеры атрымаюць права самы вызначаць цэны на ўласную прадукцыю. Іх будзе рэгуляваць толькі рынак.

Кожны вытворца зробіцца гаспадаром уласнай прадукцыі і зможа прадаваць яе без усялякіх абмежаваньняў з боку дзяржавы туды, дзе будзе найбольшая выгада. Будзе адменена заганная практыка прымусовага спагнаньня прадукцыі пад выглядам кантрактаў па нізкіх коштах.

Набыцьцё зямлі на льготных умовах у прыватную ўласнасьць з правам перадачы ў спадчыну і прадажу (акрамя як на мэты сельскагаспадарчай вытворчасьці) – эканамічны абсурд. Ільготы магчымыя толькі для выдзялення зямельных участкаў сацыяльна малазабяспечаным пластам насельніцтва ў часовае (бестэрміновае) карыстаньне ў акрэсленых законам межах. Што датычыць земляў сельскагаспадарчага прызначэньня, то мы – прыхільнікі бясплатнай прыватызацыі зямлі для тых грамадзянаў і іх аб'яднаньняў, якія жадаюць на зямлі працаваць, але толькі ў межах агульнарэспубліканскай нормы, пры ўмове, што бязвыплатна будзе прыватызавана не больш чым 30% усяго фонду земляў гэтай катэгорыі. Наступнае павелічэньне сельскагаспадарчых надзелаў – за кошт арэнды ў дзяржавы (з правам далейшага выкупу) на роўных умовах для усіх суб'ектаў гаспадараньня, незалежна ад формаў уласнасьці.

Наша краіна ўжо спазьняецца ў барацьбе за рынкі збыту сельскагаспадарчай прадукцыі. Калі ў бліжэйшыя гады мы ня створым эфэктыўную канкурэнтаздольную сельскагаспадарчую вытворчасьць, мы можам страціць нават свой унутраны рынак з-за высокага сабекошту прадукцыі нашых вытворцаў.

Цяперашнія гаспадаркі атрымаюць магчымасць трансфармавацца ў рыначныя структуры, добраахвотныя аб'яднаньні ўласьнікаў у формах таварystваў, акцыянерных таварыстваў, саюзаў, асацыяцыяў і інш. Атрымаюць роўныя ўмовы для разьвіцьця розныя формы арганізацыі вытворчасьці – як калектыўныя, так і індывідуальныя.

Будуць дзейнічаць дзяржаўныя праграмы фінансаваньня тэхналягічнай рэканструкцыі, раўнамернага разьвіцьця ўсіх сфэраў аграпрамысловай вытворчасьці. У найкарацейшыя тэрміны будзе арганізавана сетка сельскіх іпатэчных банкаў, якія будуць крэдытаваць сельскагаспадарчую вытворчасьць, будаўніцтва жыльля і аб'ектаў сацыяльнага прызначэньня пад заклад маёмасьці.

Асаблівая ўвага будзе нададзена перапрацоўцы сельскагаспадарчай прадукцыі. У першую чаргу, будуць прыватызаваныя і акцыянаваныя ўсе дзяржаўныя мясакамбінаты, малакоперапрацоўчыя, цукровыя заводы, садоваагароднінныя і падобныя прадпрыемствы. Сваю долю акцыяў у іх атрымаюць усе гаспадаркі. Будуць выдзеленыя льготныя крэдыты для набыцьця абсталяваньня і будаўніцтва невялікіх перапрацоўчых прадпрыемстваў.

У мэтах больш эфэктыўнага выкарыстаньня і надзейнага тэхнічнага забеспячэньня ўсіх вытворцаў будзе прыватызавана ўся сельскагаспадарчая тэхніка. На базе цяперашніх цэхаў механізацыі гаспадарак будуць створаны сэрвісныя арганізацыі (станцыі), якія за аплату будуць абслугоўваць дзяржаўныя, калектыўныя, фермерскія гаспадаркі і прысядзібныя ўчасткі.

## VIII. ЗЬНЕШНЕЭКАНАМІЧНАЯ ПАЛІТЫКА

Знешнеэканамічная палітыка накіроўваецца на стварэнне партнёрскіх дачыненняў перш-наперш з суседнімі краінамі. Беларусь імкнецца да заключэньня зь імі пагадненьняў аб свабодным гандлі, аб мытных і валютных саюзах, аб стварэньні ўмоў дзеля ўзаемнай свабоды эканамічнай дзейнасьці гаспадарчым суб'ектам, аб рэжыме найбольшага спрыяньня ў гандлі, аб забеспячэнні гарантый права ўласнасці і абароны ўласнасці грамадзян і суб'ектаў гаспадараньня на сваіх тэрыторыях, да стварэньня ў пэрспектыве агульнага рынку.

Ліквідуецца манапалізм у кірунках знешняга гандлю, пашыраецца кола пастаўшчыкоў і пакупнікоў, што асабліва датычыцца энэрганосьбітаў.

Прымаецца новая мытная палітыка, якая стымулюе экспарт тавараў, і новая ліцэнзійная палітыка, якая рэгламэнтуе імпарт.

Ствараецца адзіная свабодная эканамічная і афшорная зона на ўсёй тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, што зробіць яе прывабнай для эканамічнай дзейнасьці, павялічыць колькасьць рабочых месцаў і даходную частку дзяржаўнага бюджэту.

На ўсёй тэрыторыі Беларусі ствараецца свабодная банкаўская зона на аснове банкаўскага заканадаўства Швайцарскай канфэдэрацыі, што зробіць нашу краіну прывабнай для замежнных банкаў і інвестыцыйных кампаніяў.

Ствараецца сістэма міжнародных біржаў: фондавай, энэрганосьбітаў, металаў, збожжавай і інш.

***(Эканамічная Камісія Ценевага Ўраду БНФ)***

*Надрукавана: „ Народная Газэта", – 1994, 10 чэрвеня*

**Лепш Пазьняк, чым ніколі, або Чаму я буду галасаваць за лідара партыі БНФ.**

Дзякаваць Богу, на Беларусі ёсьць людзі, якія будуюць Храм. Вяртаньне сьвятыняў свайму народу, шлях Адраджэньня, выпростваньне пахіленай долу постаці беларуса, ачышчэньне духоўных каштоўнасьцяў, скінутых на памыйкі ды сьметнікі — тое ды шмат што яшчэ, на маё разуменьне, і ёсьць «будаваць Храм».

І заўсёды была і ёсьць плойма людзей, што на беларусах вазілі і хочуць вазіць камяні аж да сканчэньня Сьвету. І — будаваць ня Храмы, а крушні.

**Я буду галасаваць за кандыдатуру Пазьняка**, таму што ён — будаўнік Храма і разбуральнік крушняў. Ён будаваў Храм, калі пісаў пра свой родны Менск, калі адстойваў ягоную старажытную частку — Верхні горад, калі са сьлязьмі спавядаўся перад кінакамэрай, калі фатаграфаваў браслаўскіх рыбакоў і жанчын, калі раскопваў Курапаты, калі прамаўляў белымі вершамі...

**Я буду галасаваць за Пазьняка**, бо ён мне ня хлусіў. Я аддам свой грамадзянскі голас, бо гэты шанц мне далі ягоныя выбаршчыкі, якія чатыры гады таму выбралі Пазьняка, а не каго-небудзь іншага. І гэта не было іхнаю памылкаю.

Пазьняк — пасьлядоўны палітык, чыя пасьлядоўнасьць здольная цэмэнтаваць перакананасьць аслабленай нацыі ў сваёй сіле ды волі перад армадаю цяжкасьцяў, якімі нас палохалі і будуць палохаць зламысьнікі.

**Я буду галасаваць за Пазьняка-палітыка і за Зянона-паэта.**

Я адмятаю словы няўдзячнай глухаты суайчыньнікаў, хто кажа, што ён, маўляў, не кіраваў заводам Кірава і ня ведае эканомікі. Гэта альбо сьвядомасьць людзей-рэптыліяў, альбо дэмагогія прысьпешнікаў прэм'ера. Маючы глыбокі інтэлект (а гэта несумненная якасьць Пазьняка) і ўладу прэзыдэнта, абраньнік выканае сваю функцыю з бліскучым посьпехам. Інакш бы ён не будаваў Храм, калі наўкола «будаваліся» крушні.

Зянон Пазьняк жыве ў падсьвядомасьці кожнага беларуса. Нячыстая сіла адгарадзіла яго ад людзей вонкаваю абалонкаю, праз якую ягоная сутнасьць прабівалася і прабіваецца зь цяжкасьцю, пераадольваючы неймаверныя бар'еры жорсткай хлусьні, чалавечага страху, людзкіх сумненьняў, хіжай лухты і бязглуздзіцы зацятых няверцаў. Аднак я сустракаў шмат людзей — не на Пляцы Незалежнасьці ў Менску, а ў ціхіх куточках Беларусі, хто разгледзеў у Пазьняку Сумленьне і Праўду такога ж беларуса, як сам.

Мой зямляк, перадавы камбайнэр пяцігодак, пэнсіянэр Сяргей Платун аднойчы сказаў фразу, выключна годную адмысловага перадвыбарчага плякату. Ён сказаў: «Лепш Пазьняк, чым ніколі!». У гэтым — ягоны выбар і апошняя надзея. Значыць, народ ня ўмёр, ня страціў розум і досьціп. І ня страціў пачуцьця справядлівай удзячнасьці да выказьніка сваіх жа памкненьняў.

Я буду галасаваць за Зянона Пазьняка, бо ён гаворыць пра каштоўнасьці,



якія Кебічу і $К^о$ ня сьніліся ад нараджэньня. Прыкладам, Пазьняк сказаў (21 сакавіка ля помніка Янку Купалу, цытую па памяці): «Мы на сваёй зямлі, мы ейныя гаспадары, у нас вялікая гісторыя, мы — вольны народ!». Экспромт, якіх сотні. Казаў, як думаў. Кебіч альбо Грыб так ня скажуць. Яны скажуць, што беларускі народ ня можа праіснаваць безь вялікага ўсходняга суседа. Ёсьць розьніца?

**Я буду галасаваць за Пазьняка**, бо прагну іншае дзяржавы. Дзяржавы зь іншаю мэнтальнасьцяй, іншаю палітыкай, іншымі каштоўнасьцямі — разумнай, годнай, міратворнай. Адказнасьць за такую дзяржаву і такую палітыку ляжа на прэзыдэнта ў маім варыянце. Упэўнены, гэта надасьць яму не адно вагі, а найперш — той жа адказнасьці, якой ня зьведаў яшчэ шаноўны Зянон Станіслававіч. Дык дай жа Бог яму зьведаць яе і паслужыць дабром свайму народу.

Калі ж мой абраньнік ня спраўдзіць надзеяў, дзеля якіх я і шэрагі маіх аднадумцаў зробяць рашучы выбар, я бязь лішніх ваганьняў і з той жа рашучасьцю стану ў шэраг апазыцыі да яго як прэзыдэнта. Аднак я буду галасаваць за Пазьняка менавіта таму, што ў гэтыя «прагнозы» ня веру, а будучыню Беларусі зьвязваю зь ягоным імем.

Лепш Пазьняк, чым ніколі!

Валеры Дранчук,
„Свабода", №16, 26 красавіка–2 траўня 1994г.

*Д-31. („Свабода", – 1994, 26 красавіка).*

„Народная Газета", 1 ліпеня 1994 г.

# “Мужчына павінен змагацца за Бацькаўшчыну...”

Паважаныя ўдзельнікі другой сусветнай вайны, сардэчна віншую вас з 50-мі ўгодкамі заканчэння ваенных дзеянняў на тэрыторыі Беларусі! У гэтыя дні вітаю вас і віншую з найвялікшай узнагародай — Жыццём, якое дараваў вам Гасподзь, у той час як іншыя палеглі і нават непахаваныя.

З гэтымі памятнымі ўгодкамі супала маё пяцідзесяцігоддзе. Раздумленні над пражытым паўвекам вяртаюць мой позірк і ўяўленні ў тыя далёкія часы, што вызначылі наш народны і мой асабісты лёс. З 1939 па 1945 год чатыры чалавекі з маёй сям'і забрала вайна. У кастрычніку 1939 г. чырвоныя камунафашысты НКУС схапілі і забілі майго дзеда Яна Пазьняка толькі за тое, што ён любіў Беларусь і верыў у Бога. Маіх двух родных дзядзькоў і бацьку забілі ўжо гітлераўскія фашысты на франтах той страшнай вайны. Вечны спакой іх душам і душам усіх палеглых за мір, за вольную Бацькаўшчыну і свабодны народ.

Калі гітлераўскія фашысты і савецкія камуністы развязалі самую крывавую ў гісторыі чалавецтва вайну, беларускі народ, як і шмат іншых народаў, трапіў нібы паміж молатам і накавальняй — знішчэнне нявінных людзей ішло з абодвух бакоў. Наш беларускі ахвярны народ панёс мільённыя страты, гэтак жа, як сербы, яўрэі, палякі — найбольш ахвярныя народы другой сусветнай вайны. Гэтыя ахвяры прынесеныя недарэмна. Мы не можам пра іх забыць. Перамога ў вайне кавалася ўсімі краінамі антыгітлераўскай кааліцыі, усімі народамі, і ніхто, як гэта некалі спрабавалі рабіць савецкія камуністы, не мае права прывatызаваць усю перамогу, не можа прысвоіць чужую кроў, заглушыць пустазвоннымі крыкамі вечнае маўчанне тых, хто загінуў на фронце і ўжо не жыве. Палеглыя і забітыя — вышэй.

Мужчына павінен змагацца за Бацькаўшчыну, калі ёй пагражае небяспека. Інакш ён не чалавек. Тое, што Бацькаўшчына ў нас ёсць — гэта вынік змагання і вашага пакалення, тых беларусаў, што ваявалі пад Мінскам і Сталінградам, пад Варшавай і Монтэ-Касына, у беларускай партызанцы і польскай арміі Андэрса, у Чырвонай Арміі і ў англійскіх узброеных сілах.

Сёння Беларусь жыве і будзе жыць. Над намі зноў лунае наш святы свабодны бел-чырвона-белы сцяг, той самы, які немцы не любілі з часоў Грунвальда і які не дазвалялі гітлераўцы, які ненавідзелі бальшавікі з часоў акупацыі Беларускай Народнай Рэспублікі і які сімвалізуе нашу нацыю, дзяржаву, гісторыю і свабоду. За гэтыя вялікія каштоўнасці трэба было змагацца і можна было аддаць жыццё.

З пяцідзесяцігоддзем вызвалення нашай Беларусі ад дзеянняў вайны! Жыве Беларусь!

**Зянон ПАЗЬНЯК,**
**старшыня Беларускага народнага фронту, народны дэпутат Беларусі.**

*Д-32. („Народная Газэта", – 1994, 1 ліпеня).*

# Заява дэпутатаў апазіцыі БНФ у Вярхоўным Савеце

Мінула 110 дзён з дня заступлення А.Р.Лукашэнкі на пасаду Прэзідэнта Беларусі і чатыры месяцы пасля яго выбрання. Гэта дастатковы час, каб закласці асновы, падмурак рэформаў, прыпыніць разбуральныя працэсы ў эканоміцы і палітыцы і пачаць стваральную працу па будаўніцтву і ўмацаванні дзяржавы. Аднак гэтага не адбылося. Калі зараз задаць пытанне, што ж палепшылася ў нашым жыцці за чатыры месяцы, то відавочна, што не палепшылася нічога. Наадварот, пагоршылася.

Дзе барацьба з карупцыяй? Каго судзілі, пасадзілі, вывелі на чыстую ваду, пакаралі за карупцыю? Нікога. Засталося ўсё старое кіраўніцтва, тыя ж людзі ва ўрадзе і ва ўсіх структурах улады, а некаторыя, замешаныя раней у свойскіх дачыненнях з вайсковай дзяржаўнай маёмасцю, вернуты на пасаду.

Дзе абяцанае зніжэнне цэн?

Дзе абяцанае спыненне інфляцыі?

Дзе абяцаны запуск вытворчасці, заводаў, разгрузка затаваранных складоў прадпрыемстваў і г.д.?

Нічога гэтага няма і быць не магло, бо спадар А.Р.Лукашэнка і кан'юнктуршчыкі, якія яго падтрымліваюць, не ведаюць, як выканаць свае папулісцкія абяцанні, не разумеюць, як вывесці эканоміку з крызісу і не імкнуцца праводзіць дзяржаўную палітыку, заснаваную на нацыянальных інтарэсах. Дробная наменклатура, што ўсплыла пасля прэзідэнцкіх выбараў разам з А.Р.Лукашэнкам, аб'ядналася з буйной, і ўсё, як і раней, пакацілася ў яму. Вось і ўсе штукарствы, зробленае на сляпым даверы выбаршчыкаў, якія выступілі супраць мафіёзна-карумпіраванай палітыкі Саўміна і яго кіраўніка.

З 10 ліпеня 1994 года па канец верасня кошт мінімальнага харчовага кошыка жыхара Беларусі павялічыўся ў тры разы, мінімальная зарплата ў доларавым эквіваленце паменшылася больш чым удвая, хуткасць росту цэн на асноўныя спажывецкія тавары перагнала рост заработнай платы ў 14 разоў (такога яшчэ ніколі не было), інфляцыя перавышае ўжо 50 працэнтаў у месяц. Непрафесійныя аднабокія дзеянні па павышэнні цэн на гарэлку і асноўныя прадукты харчавання яшчэ больш раскруцілі інфляцыю. Паўярхоўны, няўважлівы падыход да дэнамінацыі разліковага рубля прывёў да рэальнага павышэння цэн на большасць тавараў і да зніжэння сумы грашовых укладаў насельніцтва ў ашчадных банках. Праграма першачарговых мер, прапанаваная Прэзідэнтам (якая, дарэчы, не мае нічога агульнага з перадвыбарнымі абяцаннямі А.Р.Лукашэнкі) і адобраная большасцю Вярхоўнага Савета два месяцы назад, не дзейнічае і не можа мець станоўчых вынікаў з прычыны сваёй супярэчлівасці і дрэннай распрацаванасці, разліку на бюракратычныя метады. Шматмільярдная крэдытная эмісія, прынятая нядаўна Вярхоўным Саветам, да канца 1994 года яшчэ больш павялічыць інфляцыю і рост цэн на асноўныя прадукты харчавання і паслугі (камунальныя, кватплата і г.д.).

У дзеяннях Прэзідэнта вызначыліся тэндэнцыі да аўтарытарызму. Людзі пазбаўлены магчымасці выбіраць кіраўнікоў выканаўчай улады, а ў вёсках — мець свае прадстаўнічыя органы. Імкненне стварыць адзіную неабмежаваную бюракратычную вертыкаль прэзідэнцкай улады прывядзе да яшчэ большага роскВіту карупцыі.

Сумбурныя дзеянні і выказванні, якія зыходзяць зараз ад кіраўніка краіны і яго адміністрацыі, вядуць у глухі тупік беларускую эканоміку і ўсё грамадства, штурхаюць людзей да жабрацтва, што стварае рэальную пагрозу існаванню нашай дзяржавы і нацыянальнай уласнасці. Бо відавочна, што, каб захаваць сваю часовую ўладу, Прэзідэнт і яго акружэнне паспрабуюць разлічыцца за даўгі агульнанацыянальнай маёмасцю (напрыклад, пад пагрозай Мазырскі і Наваполацкі нафтаперагонныя заводы, перапрацоўчыя прадпрыемствы, нафтаправоды, інфраструктура і г.д.).

Мы, дэпутаты Вярхоўнага Савета, што ўваходзяць у апазіцыю Беларускага народнага фронту, лічым сваім абавязкам папярэдзіць пра гэта наша

грамадства і заклікаем разам шукаць выхад з пагрозлівага становішча стварэннем і падтрымкай нацыянальнай дэмакратычнай альтэрнатывы разбуральнай папуліцкай палітыцы. Гэтая альтэрнатыва можа быць рэалізавана на выбарах у Вярхоўны, абласныя і раённыя Саветы Беларусі, да якіх, мы спадзяёмся, наша грамадства здолее аднесціся больш адказна і сур'ёзна, чым да выбараў Прэзідэнта краіны.

**Дэпутаты Вярхоўнага Савета:**
**З.Пазьняк, А.Трусаў, Л.Баршчэўскі, Г.Сямдзянава, С.Антончык, Л.Дзейка, В.Малашка, В.Голубеў, С.Навумчык, М.Крыжаноўскі, Л.Зданевіч, У.Заблоцкі, Г.Грушавы, П.Холад, А.Шут, І.Сямашка, А.Паруль, В.Какоўка, С.Папкоў, М.Аксаміт, І.Пырх, Л.Звераў, А.Барысенка, У.Хітрык, І.Герасюк, Б.Гюнтар, М.Маркевіч, В.Алампіеў, І.Гермянчук, Ю.Беленькі.**

*Д-33. („Народная Газэта", – 1994, 15 лістапада).*

# 1994 –
# ГОД ПРИНЯТИЯ КОНСТИТУЦИИ

## «Русские идут!»



Целый год не проходит резонанс после публикации в «Народной газете» статьи Зенона Пазьняка «О русском империализме и его опасности». Откликаются депутаты-ветераны, российские «Известия», Останкино. Ярлык «фашиствующего националиста», приклеенный официальной пропагандой, стал жупелом для обывателей и смертью публичного политика Зенона Пазьняка. Как нарочно, со статьей лидера БНФ совпал во времени визит в Минск, по приглашению местной профашистской тусовки, стареющего «подростка Савенко» (он же Эдичка Лимонов) и знаменитого в узких кругах идеолога «консервативной революции», геополитика Александра Дугина. Выступления московских «звезд» должно было состояться в ДК «Сукно», но по забавному стечению обстоятельств в этот же день проходил митинг БНФ, и его участники, совершив стремительный марш-бросок, ворвались в ДК и отметелили несколько десятков охранников-РНЕшников. Эдичке Лимонову и Дугину пришлось убегать через окно.

*Д-34. Паведамленьне рускай газэты пра разгон фронтаўцамі зьезду расейскіх фашыстаў у Менску (крыніца не занатаваная).*

# 1995

„Народная газета“ 12 студзеня 1995 г. № 8 (1025)

## Заява дэпутацкай апазіцыі Беларускага народнага фронту

Працягваецца мужная барацьба свабодалюбівага чэчэнскага народа з расійскім рэгулярным войскам, якое па загаду імперскіх палітыкаў Расіі ўварвалася ў Чэчэнскую Рэспубліку, сее смерць, разбурэнні, знішчае грамадзянскае насельніцтва. Расійскія імперскія палітыкі, што даўно адмовіліся ад дэмакратыі, распачалі брудную, жорсткую вайну супраць невялікай каўказскай краіны. Яны растапталі дэмакратычныя прынцыпы, законы, правы чалавека, мараль, права нацый на самавызначэнне, давер народаў. У інтарэсах новых расійскіх карпарацый, манаполій і капіталу вядзецца жорсткая бесчалавечная вайна з прымяненнем самай сучаснай зброі фактычна за вароты на Каўказ, за нафтавыя камунікацыі і нафту. Імперскія сілы, сілы вайны, якія кіруюць Расіяй, паказалі ўсяму свету сваё жудаснае аблічча, пацвердзілі, што яны гатовыя на ўсё і не спыняцца ні перад якой жорсткасцю, ні перад якой крывёй.

Але Чэчэнская Рэспубліка не ўдзельнічала ў галасаванні за расійскую Канстытуцыю. Чэчэнскі народ увесь час змагаўся за сваю свабоду і незалежнасць, быў уключаны ў расійскую імперыю сілай зброі. Вайсковая аперацыя супраць цэлага народа, які падвяргаўся ўжо расійскаму генацыду і дэпартацыі, недапушчальная, вайна супраць яго — ганебная для тых, хто яе распачаў. Гэта злачынства супраць народа і яго права на самавызначэнне. Ніякія інтарэсы палітыкаў не вартыя страты жыццяў людзей. Такія палітыкі павінны несці крымінальную адказнасць за злачынствы супраць чалавецтва, за смерць людзей, за забойствы па іхніх загадах.

Мы з трывогай назіраем, што сілы імперыялізму, агрэсіі і вайны, што ўзмацнелі ў Расіі, ствараюць пагрозу міру ў дачыненнях да народаў у самой Расіі і да суседніх краін і незалежных дзяржаў.

Мы патрабуем спыніць вайну ў Чэчні і неадкладна вывесці адтуль усе акупацыйныя войскі. Мы звяртаемся да міжнароднай супольнасці — узвысіць свой голас у абарону маленькай краіны і свабодалюбівага народа. Толькі народ праз сваю волю можа вызначыцца ў сваёй незалежнасці і ў сваім лёсе без чужых танкаў і войска, без крыві і зброі.

**Дэпутаты апазіцыі БНФ у Вярхоўным Савеце:**

**З.Пазьняк, В.Голубеў, Л.Баршчэўскі, І.Германчук, Л.Зданевіч, Ул. Заблоцкі, А.Трусаў, Г.Сямдзянава, І.Пырх, С.Антончык, С.Навумчык, М.Крыжаноўскі, Л.Дзейка, М.Маркевіч, В.Алампіеў, А.Шут, П.Холад, С.Папкоў, В.Малашка, В.Какоўка, Б.Гюнтар, Ю.Беленькі.**

*Д-35. („Народная Газэта”, – 1995, 12 студзеня).*

# Зянон ПАЗНЯК: «Пагадненні накіраваны на знішчэнне дзяржаўнасці нашай краіны»

**Аб гэтым лідэр Беларускага народнага фронту заявіў на ўчарашняй прэс-канферэнцыі апазіцыі, якая была прысвечана падпісаным 6 студзеня ў Мінску беларуска-расійскім пагадненням.**

Па словах З. Пазняка, дэпутатам спатрэбілася некалькі дзён, каб атрымаць гэтыя дакументы. Члены ценявога кабінета БНФ падрыхтавалі 6 заключэнняў па падпісаных пагадненнях. «Аналіз паказвае, — сказаў лідэр апазіцыі, — што гэтыя пагадненні накіраваны на захоп маёмасці Рэспублікі Беларусь, забеспячэнне бяспошліннага транзіту ўсіх расійскіх тавараў праз Беларусь і прысутнасць расійскіх ваенных баз з бясплатным утрыманнем на тэрыторыі нашай краіны... Гэтыя дакументы паказваюць, што ў Расіі склалася мафіёзна-бюракратычная краіна з антыдэмакратычным рэжымам, дзе парушаюцца правы чалавека і адсутнічае элементарнае разуменне аб нармальным рынку. Гэта мафіёзна-бюракратычны рынак. У выніку падпісання гэтых пагадненняў мы назіраем змову расійскіх бюракратычных імперскіх колаў і беларускай бюракратыі, якая супрацоўнічае з гэтымі расійскімі структурамі. З прававога пункту гледжання гэтыя дакументы, па-першае, не меў права падпісваць прэм'ер-міністр Чыгір, гэта не яго кампетэнцыя, гэта кампетэнцыя Прэзідэнта, але па сутнасці сваёй падпісанне гэтых дакументаў з'яўляецца парушэннем Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь. Мы расцэньваем падпісанне гэтых дакументаў як акт, які супярэчыць нацыянальным інтарэсам Беларусі... і ўтрымлівае ў сабе элеме..ты нацыянальнай здрады».

Па словах члена ценявога кабінета БНФ Анатоля Станкевіча, пагадненне аб асноўных прынцыпах стварэння фінансава-прамысловых груп (ФПГ) супярэчыць Закону аб прыватызацыі, які прадугледжвае бясплатную прыватызацыю грамадзянамі Беларусі 50 працэнтаў маёмасці рэспублікі. «Тыя прадпрыемствы, якія будуць інкарпараваны ў ФПГ, будуць выключаны з працэсу прыватызацыі», — сказаў сп. Станкевіч. Ён таксама звярнуў увагу на тое, што пагадненне аб ФПГ прадугледжвае інкарпарацыю беларускай прамысловасці ў расійскую эканоміку шляхам траставага кіравання. «ФПБ, як міждзяржаўная манаполія, будзе мець галаўное прадпрыемства на тэрыторыі Расіі, будзе працаваць па законах Расіі і плаціць падаткі ў расійскі бюджэт», — сказаў Анатоль Станкевіч.

Кіраўнік ценявога кабінета БНФ Уладзімір Заблоцкі назваў гэтыя пагадненні «дагаворам удава і труса». На яго думку, гэта нераўнапраўныя дагаворы, бо яны пазбаўляюць Беларусь яе асноўнага рэсурсу — выгаднага геаграфічнага становішча.

Па словах У. Заблоцкага, гэтыя пагадненні парушаюць Канстытуцыю. У прыватнасці, пагадненне аб мытным саюзе парушае палажэнне аб вяршэнстве беларускай улады на сваёй тэрыторыі. Парушаны таксама канстытуцыйны прынцып нейтралітэту.

Удзельнікі прэс-канферэнцыі паведамілі, што напярэдадні Прэзідыум Вярхоўнага Савета паставіў пытанне аб неабходнасці ратыфікацыі трох з падпісаных васьмі пагадненняў: аб мытным саюзе, аб ФПГ і міжбанкаўскага пагаднення. Нагадаем, што прэм'ер Чыгір заявіў раней, што ўсе гэтыя пагадненні не падлягаюць ратыфікацыі.

**Ігар СІНЯКЕВІЧ.**

„Звязда", №17, 27 студзеня 1995 г.

*Д-36. („Зьвязда", – 1995, 27 студзеня).*

ЕНИЯ

**Зенон ПОЗНЯК:**

# ТО, ЧТО МЫ СЕЙЧАС ИМЕЕМ, ЭТО ПАРАГВАЙ 50-60-х ГОДОВ

г. "Фемида", 17-23 апреля 1995 г.

Состоялось заседание Президиума Верховного Совета. Я выступал там и требовал внести в повестку дня вопрос о нарушении Конституции и криминальном преступлении, которое заключалось во вводе вооруженных формирований в парламент, унижении чести и достоинства, нарушении неприкосновенности депутатов.

Выступил на заседании Шолодонов и сказал, что была коллегия прокуратуры и она единогласно высказалась за возбуждение уголовного дела. Я требовал, чтобы дело это было возбуждено именно против Тесовца. Он непосредственно руководил этой операцией. Когда мы задали ему вопрос, чьи приказы он выполняет и где письменное подтверждение приказов, у него ничего не оказалось. Значит, он выполнял устный приказ и в этом случае руководствовался не законом, а словом того, кто этот приказ отдал. Он приходил с саперами и в разговоре с нашими депутатами признался, что приказы отдавал Лукашенко. Потом еще раз приходил и сказал: что бы вы не делали, вас отсюда любыми средствами выселят.



Что удивляет? Меня, например, удивило огромное количество вооруженных людей. Нас 19 человек, всем нам уже, кроме одного, за сорок лет, есть люди под 60. Естественно, мы люди гуманитарные. И когда депутат Голубев, страдавший бессонницей, выглянул в коридор, то увидел, что тот буквально весь забит воору-

женными людьми. Зачем столько понадобилось людей, мне непонятно. Думаю, тут сказалась некая своеобразная психология.

Хотели использовать газ — мы видели людей в респираторах. На площади было огромное количество машин.

Тут мои коллеги употребили такое слово, как “фашизм”. Думаю, что это не совсем точно. Здесь есть два момента, которые нам нужно уяснить. В странах, где не было демократии, но которые стремились перейти к ней и вводили президентскую систему, особенно американского образца, как правило, получалась диктатура. Пример — вся Латинская Америка. Другой пример — страны СНГ. Это азбука политологии, истории, и потому Народный фронт постоянно выступал против президентской системы в Беларуси, говорил, что будет диктатура. В периоды кризиса, инфляции, когда бедно живут люди, они выбирают такого, как сами: люмпенизированного и жесткого человека. И тут произошёл классический вариант. То, что мы сейчас имеем, это Парагвай, латиноамериканская страна 50-60-х годов.

*Д-37. („Фемида”, – 1995, 23 апреля).*

„Свабода”, 24 сакавіка 1995г. №12

# Зноў вінаватыя Пазьняк і прэса

**Прэзыдэнт Лукашэнка расцаніў спробу самаспаленьня на пляцы Незалежнасьці як правакацыю сродкаў масавай інфармацыі.**

Як вядома, 20 сакавіка на пляцы Незалежнасьці ў Менску грамадзянін Самусевіч са Слуцкага раёну спрабаваў зьдзейсьніць акт дэманстратыўнага самаспаленьня. Свой учынак сп.Самусевіч матываваў нежаданьнем зьмірыцца з самавольствам уладаў, якія адбралі ў яго карову і спалілі сена. Ажыцьцявіць свае пляны сп.Самусевічу не ўдалося дзякуючы дэпутату Вярхоўнага Савету Зянону Пазьняку (ён кіраваўся на сэсію і стаў відавочцам здарэньня). З.Пазьняк спрабаваў суняць чалавека. Цяпер сп.Самусевіч з апёкамі рук знаходзіцца ў шпіталі хуткай дапамогі г. Менска.

Камэнтуючы гэты факт у сваім выступе на сэсіі Вярхоўнага Савету, прэзыдэнт Лукашэнка адзначыў: “Гэта хворы чалавек, які двойчы лячыўся ў псыхіятрычнай бальніцы. Ён стаяў з плякатамі ў падтрымку прэзыдэнта, а пасьля вырашыў падпаліць сябе. Але ў гэты час чамусьці побач праходзіў Пазьняк. Як ён там апынуўся, невядома”. На думку А.Лукашэнкі, з гэтай спробы самаспаленьня “сродкі масавай інфармацыі зрабілі правакацыю, якая дэстабілізуе абстаноўку ў грамадстве”.

**СІМ**

*Д-38. („Свабода”, – 1995, – 24 сакавіка).*

Сяргей НАВУМЧЫК „Свабода", 21 красавіка 1995 г. №16

# Іхныя рукі ўжо ў крыві

**Прамова Лукашэнкі на сэсіі ВС 12 красавіка у ступені фальсіфікацыяў пераўзышла ўсе ягоныя ранейшыя выступы. Былы лектар таварыства "Веды" добра засвоіў мэтады гёбэльсаўскай прапаганды: хлусьня чым болей неверагодная, тым болей эфэктыўная. (Ніжэй цытаты прэзідэнта паводле стэнаграмы.)**

***"Я сразу подумал о провокации"***

Некаторыя журналісты ўсьлед за прэзідэнцкім адміністратарам Сініцыным ужо пасьпелі абвінаваціць у ананімным званку дэпутатаў Апазіцыі. У якасьці аргумантаў нават прыводзіўся той факт, што яшчэ а 17-й гадзіне 11 красавіка радыё "Свабода" абвесьціла пра магчымасьць прымяненьня сілавых акцыяў у дачыненьні да дэпутатаў. Маўляў, адкуль зьвесткі, з чаго раптам такая апэратыўнасьць?

Гэта праўда: апэратыўнасьць зусім ня тая, што на дзяржаўным беларускім радыё. Але, разам са "Свабодай", інфармацыю перадавалі і найбуйнейшыя сусьветныя агенцтвы. "Белінфарм", натуральна, у гэтую катэгорыю не трапляе. Праўда, зайздросную прадбачлівасьць праявіла і камэнтатарка беларускай тэлевізіі сп-ня Муха: у сваім вечаровым рэпартажы яна некалькі разоў закцэнтавала ўвагу на тое, што прэзідэнт усё рабіў, каб вырашыць канфлікт мірнымі сродкамі. Не інакш — Касандра.

Пра тое, што супраць 19-ці дэпутатаў, якія абвесьцілі галадоўку, можа быць прыменена сіла, мы даведаліся ўдзень 11 красавіка ад людзей, імёны якіх абнародаваць тут не абавязкова. Мы былі зацікаўленыя ў тым, каб пазьбегнуць насільля, і таму імкнуліся папярэдзіць пра такую верагоднасьць як мага болей журналістаў. Нам здавалася, што ў Лукашэнкі і ягонай кампаніі яшчэ існуюць нейкія маральныя бар'еры і яны пабаяцца грамадзкай увагі. А 16-й гадзіне мы перадалі адпаведную заяву і М.Грыбу (гл. яе копію).

***"Кто дал право сюда эту женщину затащить и спрятать под кресло Мечислава Ивановича Гриба и этими мешками прикрыть?"***

Пасьля 18 гадзінаў прэзідэнцкая ахова запатрабавала ад журналістаў пакінуць залу. Зразумела, што бальшыня з акрэдытаваных у ВС замежных карэспандэнтаў зрабілі гэта неахвотна: журналіст мае права і абавязаны бачыць падзеі, пра якія піша, на ўласныя вочы. Дарэчы, і мы таксама былі зацікаўленыя ў прысутнасьці прадстаўнікоў прэсы: нам здавалася, што пры іх прэзідэнцкія людзі будуць вымушаныя паводзіць сябе больш прыстойна. Але застацца ўдалося толькі карэспандэнтцы радыё "Свабода" Алене Радкевіч.

А 23-й гадзіне, калі ў залу ўвайшла прэзідэнцкая ахова, Радкевіч знаходзілася за сталом старшыні ВС (бо менавіта на ім была настольная лямпа) і працавала над рэпартажам. Рукі ёй не круцілі, але выцягнулі з дыктафона касэту. На нашыя патрабаваньні вярнуць журналістцы яе рабочы матар'ял, ахоўнік адказаў катэгарычным "не". Гэта — парушэньне правоў журналіста, зафіксаваных у шэрагу міжнародных дакумантаў. Праз некалькі хвілінаў А.Радкевіч вывелі з залы і затрымалі.

***"Я ни на каких "Мерседесах" сюда не ехал. Наумчик говорит, что там флажок был в чехле... Флажок мой, на моем автомобиле, снимается, не зачехляется. И как Наумчик, если он здесь сидел, он не мог в час ночи выйти... Они просто физически не могли куда-то пройти, выйти и так далее... Поэтому, это вранье, что они видели тут, как на "Мерседесе" приехал Лукашенко..."***

Каля паловы першай ночы мы атрымалі інфармацыю, што Алена Радкевіч не вярнулася дахаты: яе апытвалі ў памяшканьні аховы. Некалькі дэпутатаў сыйшлі на першы паверх. Зрабіць гэта было вельмі проста, бо ўсе дзьверы былі адчыненыя. Міліцыя нават прапанавала мне выйсьці на плошчу, праўда, без гарантыяў вяртаньня ў залу. За цэнтральнымі дзьвярыма стаяла група журналістаў — інтэрвію давялося даваць праз зачыненыя шкляныя дзьверы. Журналісты паведамілі, што ў двор Дома ўраду праехаў картэж і ў прэзідэнцкіх пакоях за-

палілася сьвятло. Вяртаючыся па левай лесьвіцы, я зазірнуў за фіранкі — на пляцоўцы перад прэзідэнцкім пад'ездам стаяў лукашэнкаў "Мэрсэдэс", побач — міліцэйскія машыны. Шпіль для сьцяжка быў пусты (ня ведаю, якім чынам Лукашэнка зрывае ненавісны яму сімболь). Між іншым, праз некалькі хвілінаў прэзідэнцкі лімузін бачыў і Алег Трусаў. Знаходжаньне Лукашэнкі ў Доме ўраду — яшчэ адно пацьверджаньне таго, што ні ў якую "бомбу" яны ня верылі. Натуральна ж, Вярхоўны галоўнакамандуючы ня мог сабе адмовіць у задавальненьні асабіста кіраваць апэрацыяй па ўзброенай дэпартацыі сваіх палітычных апанэнтаў. Зрэшты, магчыма, прэзідэнцкі лімузін браў Іван Ціцянкоў. Пакатацца.

Старшыні Вярхоўнага
Савета Рэспублікі
Беларусь
сп. М. І. Грыбу.
Дэпутаты Вярхоўнага Савета
З. Пазьняк, В. Голубеў, С. Антончык,
С. Навумчык, У. Церашчук, У. Заблоцкі, В. Малашка, Ю. Беленькі,
Б. Гюнтар, П. Садоўскі, А. Дзейка,
С. Папкоў, Л. Зданевіч, М. Крыжаноўскі, М. Маркевіч, А. Трусаў,
А. Шут, [illegible]

Інфармуем Вас, што ён нам стала вядома з боку супрацоўнікаў прэзідэнцкай адміністрацыі і сілавых утварэньняў ноччу магчымыя [illegible] дзеяньні, якія пярэчаць [illegible] праву на свабоднае волевыяўленьне і парушаюць дэпутацкую недатыкальнасць.

Просім забясьпечыць нашу ахову і выкананьне законаў і Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь.

11.04.1995. (16.00)

З. Пазьняк
І. [illegible]
А. Трусаў / А. Трусаў
Б. Гюнтар
С. Папкоў
Шут

Я якраз належу да тых нешматлікіх, каму дасталася менш. Бо сядзеў у цэнтры і калі зьлева пачалі круціць дэпутата Беленькага, спрабаваў нешта даказваць ім пра "дэпутацкі імунітэт". Аднак хутка апынуўся са скручанымі рукамі. Потым так і валаклі да самага "варанка".

Але пасьпеў убачыць, як білі дубінкаю па сьпіне Віталя Малашку, Мікалая Крыжаноўскага з крэсла выцягвалі за шыю. Перада мной валаклі Беленькага — адзін з "пятністых" спэцназаўцаў падскочыў і нагой ударыў яго ў жывот.

***"Их препроводили по три человека в машину... Я говорю: больше машин пригоните. "Уазик", легковые машины, отвезите домой..."***

Нас кідалі па чатыры-пяць чалавек у жоўтыя "варанкі", прычым кідалі, пераважна, галавою ўперад. Нумар майго "варанка" быў 09-03 МИМ. Высадзілі нас у цэнтры горада. Аляксандра Шута перад тым як выпусьціць, яшчэ раз жорстка зьбілі дубінкамі.

***"Поэтому мы покажем народу эту пленку..., которая приводится в соответствие с тем, что мы должны вам показать".***

Можна ўявіць, што майстры фальсіфікацыяў пастараюцца, каб прывесьці "в соответствие". Але мы зьвярнуліся да прэзідэнта з патрабаваньнем выканаць хоць бы адно са сваіх шматлікіх абяцаньняў: паказаць па нацыянальным тэлебачаньні поўны (без купюраў!) відэазапіс нашага захопу і дэпартацыі з залы (2.45—3.10).

Гэты запіс павінен быць прадяўлены і сьледчым пракуратуры. Зь некаторых "гарылаў" удалося сарваць маскі, і іх, відавочна, можна апазнаць. Як і таго бамбізу ў паўвайсковай форме, які камандаваў разам зь Цесаўцом і Каралёвым. Месца ўсіх гэтых людзей — на лаве падсудных.

***"Мне Тесовец со слезами на глазах позвонил около 12 часов ночи и сказал: "Александр Григорьевич, не получается по-хорошему, повынимали ножи, достали лезвия... Первое, говорят — вскрываем вены, отрезаем себе головы и вас повырезаем, кровью зальем здесь все."***

Цікавае відовішча атрымліваецца: апазіцыянэры без галоваў, але з кінжаламі носяцца за прэзідэнцкімі ахоўнікамі... Амаль як у рамане Майн Рыда "Вершнік без галавы". Ня трэба, Аляксандар Рыгоравіч, чытаць на ноч жахлівых кніжак.

Кожнае зьяўленьне Цесаўца суправаджалася запальваньнем сьвятла ва ўсёй залі і здымалася дзьвюма відэакамэрамі. Пакажыце кадры, дзе мы з нажамі і лёзамі.

***"Я просил: учтите, нас провоцируют. Ни в коем случае, даже не царапните этого человека, поскольку будет гвалту на весь мир."***

Пазьняк сядзеў перада мною, і я бачыў, што яго білі з асаблівай жорсткасьцю. Адзін "гарыла" ударыў яго нагой у грудзі, другі круціў галаву і ціснуў вочы. Потым, калі выводзілі, Пазьняка білі аб сьцяну. Судова-мэдычная экспэртыза зафіксавала ў яго пяць пашкоджаньняў рознай цяжкасьці.

***"Да никто никого не бил, никто никого не ломал".***

**№ 16 21 красавіка 1995**

*Д-39. („Свабода", – 1995, – 21 красавіка).*



Фота С. Грыша

*Д-40. Пачатак антыбеларускага рэжыму. Зьбіваюць дэманстранта (методыка, уведзеная Міністрам МУС Ю. Захаранкам).*

ИЗВЕСТИЯ • СОБЫТИЯ И КОММЕНТАРИИ

# Президент Белоруссии идет на крайние меры

1995г.

## Силовая акция против депутатов

Александр СТАРИКЕВИЧ, «Известия»

Мрачные прогнозы относительно установления в Белоруссии режима личной диктатуры Александра Лукашенко начинают сбываться. 12 апреля около трех часов ночи президентская служба охраны при поддержке других военизированных формирований предприняла штурм зала заседаний Верховного совета Белоруссии.

### Хроника событий

**10 апреля.** Белорусский парламент, рассматривая инициативу Александра Лукашенко о проведении референдума по четырем вопросам, принимает постановление, которым определяет дату плебисцита — 14 мая, одновременно с первым туром парламентских выборов. Какие из предложенных президентом вопросов будут вынесены на всенародное обсуждение, должно решиться на следующий день.

**11 апреля.** На утреннем заседании Верховного совета президент продолжает настаивать на проведении референдума. Оппозиция объявляет голодовку: около 15 человек выходят к парламентской трибуне и рассаживаются у президиума сессии. Верховный совет отклоняет три из четырех вопросов референдума, предложенных президентом, из-за законодательных несоответствий. Александр Лукашенко заявляет: «Вы из этого ничего не высосете, карпенки и позняки» (Геннадий Карпенко — председатель партии Народного согласия, Зенон Позняк — председатель белорусского Народного фронта). Он заявляет, что своими указами приостановит деятельность парламента и назначит референдум. «Разве вы Верховный совет?» — буквально кричит Лукашенко. Тем временем становится известно, что президенту передан список из 96 депутатов, которые заявляют о своей лояльности к нему и просят трудоустроить их в исполнительной вертикали власти. Если это произойдет, Верховный совет нынешнего созыва лишится кворума и не сможет продолжать работу.

Председатель Верховного совета Мечеслав Гриб предлагает прервать рассмотрение вопроса о референдуме до следующего утра, чтобы провести необходимые юридические консультации. Парламент соглашается.

**18.00** Очередной день работы сессии парламента завершен. Оппозиция продолжает голодовку и не покидает зал заседаний. Коллеги приносят протестующим минеральную воду и матрасы.

**20.11.** Перешедший на службу к президенту депутат Верховного совета Михаил Тесовец сообщает голодающим, что поступило сообщение о бомбе, якобы заложенной в Доме правительства. Депутатам предложено покинуть помещение. Они отказываются.

**22.05.** Белорусское телевидение начинает репортаж о ходе сессии парламента. Тенденциозность телекомпании, подчиненной непосредственно президенту, очевидна. Обращает внимание, что комментатор неоднократно подчеркивает: президент стремился разрешить ситуацию мирными способами, но исчерпал имеющиеся возможности.

**23.00.** Начальник управления государственной охраны Михаил Тесовец возвращается с начальником президентской охраны Вячеславом Королевым. Они заявляют, что разговаривали по телефону с Мечеславом Грибом, и тот дал указание освободить помещение. Однако, связавшись со спикером, оппозиционеры узнают, что такого разговора не было. Тогда Тесовец и Королев говорят, что на этот счет распорядился сам президент, не желающий, чтобы кто-то из депутатов пострадал. Начальник президентской охраны ведет себя вызывающе. «Мы с вами разберемся после 15 мая»,— заявляет он депутатам. Тесовца и Королева сопровождают около 60 человек. Примерно десять — сотрудники охраны президента. Остальные — милиционеры и саперы. Предпринимается первая, пока еще несмелая попытка применить силу к депутатам, завершившаяся небольшой потасовкой.

**12 апреля, 0.41.** Саперы завершают осмотр и уходят, подписав протокол, что взрывное устройство не найдено. Депутаты обнаруживают, что других сотрудников Дома правительства никто даже не пытался эвакуировать. Более того, у подъезда стоит «Мерседес» Александра Лукашенко, что указывает на нахождение в здании его хозяина.

**2.50.** Депутат Валентин Голубев, услышав за дверями зала заседаний передвижение людей и бряцание оружием, выглядывает в коридор. Там все заполнено военными, вооруженными автоматами и пулеметами. Голубев поднимает тревогу. Спустя несколько минут одновременно открываются все двери и в зал врываются вооруженные люди в количестве около 200 человек (депутатов в тот момент было 19): одни — в черной форме и масках, другие — в камуфляже и с автоматами. Они начинают избивать депутатов и вытаскивать их из зала. Один из нападающих в прыжке бьет ногами Зенона Позняка. Достается и остальным: одну из захлопнувшихся дверей открывают головой координатора парламентской оппозиции Сергея Наумчика. Спустя десять минут операция завершена. Парламентариев развозят в разные районы Минска.

(Окончание на 2-й стр.)

на белой плащанице. Думаю, что все верующие люди должны подумать об этом.

**– Возможно потому, что заповеди Иисуса Христа для Лукашенко не аргумент, он и выступает от имени народа?**

– Референдум референдуму рознь. Лукашенко, как и Гитлер, проводит свой плебисцит, полностью монополизировав все средства массовой информации, и закрыв к ним доступ не только Оппозиции, но и Верховному Совету.

**– Вот вы все критикуете Лукашенко – это может делать каждый. Хотелось бы услышать от вас, известного экономиста, не абстрактные рассуждения, а конкретный и серьезный анализ.**

– Пожалуйста. Год назад Лукашенко говорил, что таможенный союз с Россией позволит нам запустить заводы, даст военные заказы. Но наши экономисты уже тогда подсчитали, что потери Беларуси от этого союза составят не менее 2,7 миллиарда долларов в год. Совсем недавно Лукашенко признался в том, что эти потери уже сегодня составляют не менее 4 миллиардов долларов.

**– Вы как финансист привыкли оперировать большими цифрами, а для многих сумма в 4 миллиарда долларов ни о чем не говорит...**

– По нашим расчетам только за 2,7 миллиарда долларов можно было бы: построить 40 тысяч квартир по 50 кв.м каждая; на 50% увеличить пенсии пенсионерам; в 1,6 раза увеличить зарплату работникам народного образования и здравоохранения; в 3 раза увеличить стипендии студентам; инвестировать в промышленность и сельское хозяйство не менее 300 миллионов долларов на создание новых рабочих мест; до 30% снизить совокупный налог со всех субъектов хозяйствования.

А теперь посчитайте, сколько можно было бы сделать на 4 миллиарда долларов!

**– Но почему Лукашенко пошел на это? Он что, не ведал, что творит?**

– Не думаю. Все это делалось сознательно. Расчеты, подобные нашим, мог бы сделать любой мало-мальски грамотный экономист. Но Лукашенко вновь пошел на популизм. Его расчет был прост – с одной стороны, ему нужно было объявить БНФ противником союза с Россией, с другой, услужить силам, которые его возвеличили.

**– Но он вновь сделал лишь то, чего ждал простой народ, который его и выбрал...**

– Это только на первый взгляд. Я уже говорил о том, что Лукашенко привели к власти вполне конкретные и непосредственно заинтересованные в этом силы: экономические мафиозные структуры внутри Беларуси, вне ее и российский капитал. И цель их была проста – получение сверхприбыли незаконным путем. Всем известны «проколы» с «Торгэкспо» и фондом чеченца Махмуда Эсамбаева, только через эти структуры белорусы были ограблены на сотни миллионов долларов. А ведь Лукашенко сам признался, что подобных указов о льготном налогообложении он подписал более 200.

А возьмите хотя бы широко разрекламированный «нулевой вариант», который тоже оказался блефом. Никто из российских должников по нему не рассчитался.

**– А как с поставкой нам энергоносителей?**

– Из подписанных с Россией договоров по энергоносителям успешно реализовывается только один: наши котельные вместо мазута переходят на работу с газом, а это на 30% дороже, что автоматически обернулось ростом наших потребительских цен.

**– Но все же тепло нам нужно, а денег на расчеты с Россией нет. Что делать?**

– Было бы время, по этой проблеме я высказался бы более подробно. Скажу только, что рассчитываться Лукашенко будет нашими самыми перспективными предприятиями, которые создавались не одним поколением. А у нас и так за время его правления валовой национальный продукт на душу населения уменьшился в 1,5 раза. Постоянно растет задолженность предприятий. За два последних года она увеличилась в 6 раз, количество убыточных предприятий – на одну треть.

**– И все же пойдут ли к нам инвестиции?**

– Попробую ответить так, чтобы было понятно каждому. Инвестиции – это деньги конкретных людей или фирм, которые они хотят вложить в дело. Например, построить или реконструировать предприятие, для того чтобы производить конкурентоспособную продукцию. Но экономическая среда, которую создал Лукашенко в Республике, не дает никакой возможности получить даже самую малую прибыль. Прибавьте сюда произвол, творимый его вертикалью. Ведь в любой момент к любому собственнику может прийти представитель администрации президента и поставить перед фактом, что «именем революции» и очередным указом ваши предприятия или здания переходят в их собственность. Вот вы лично вложили бы при таких условиях свои деньги куда-нибудь?

**– Никогда. Но вы опять продолжаете ругать нашего президента. Предложите что-нибудь конкретное для выхода из кризиса.**

– Правительству, которое придет на смену режиму Лукашенко, не позавидуешь. Ему придется проводить целый ряд сложнейших мероприятий для оздоровления экономики. Назову лишь некоторые: необходимо доказать всему миру, что в Беларуси главенствует закон, а не чья-либо воля; необходимо ускорить приватизацию, объявить свободу предпринимательства и инвестиций, создать для этого необходимые законодательные и экономические условия, срочно произвести изменения в денежно-кредитной и финансовой сферах; снизить налоговое бремя; принять новое таможенное законодательство.

О необходимости всего этого БНФ говорит уже несколько лет, но, к сожалению, все эти предложения не востребованы до сих пор. Могу сказать только то, что их прекрасно использовали эстонцы, чего они, кстати, и не скрывают. Они очень многое позаимствовали из разработанной БНФ концепции выхода из кризиса и становления экономики. А теперь сравните их уровень жизни с нашим. Они ушли на порядок вперед.

– Ну что ж, спасибо вам за интервью. И будем надеяться, что и в нашем Отечестве когда-нибудь услышат разумных людей.

*P.S. После того, как было взято это интервью, с заявлением к народу Беларуси о создаваемом Лукашенко фашистском режиме обратился председатель Верховного Совета С.Шарецкий.*

***(Беседовал Валерий СЕДОВ.)***

*Надрукавана: («Сенсация», – 1996, октябрь (№ 8(18)*

# УСПАМІНЫ ДЭПУТАТАЎ НАРОДНАГА ФРОНТА

***(7 сьнежня 2003 г.)***

***(Урывак)***

***... Зянон Пазьняк:*** – Давайце цяпер пагаворым пра прыняцьце Дэкларацыі аб суверэнітэце.

***Юры Беленькі:*** – Па Дэкларацыі я магу сказаць, што была прынята праграма Фронту, якая вызначала накірунак працы, каб да-

магчыся незалежнасьці для Беларусі. І вакол Беларусі разьвіваліся такія ж падзеі. Ўсе рэспублікі Савецкага саюза імкнуліся да незалежнасьці. Зразумела было, што ідзе працэс разбурэньня Савецкага Саюзу. Тады мы паставілі пытаньне ў Вярхоўным Савеце аб прыняцьці Дэкларацыі аб незалежнасьці. (Памятаю, як Зянон Пазьняк на сэсіі Вярхоўнага Савета зачытваў гэтую фронтаўскую дэкларацыю аб незалежнасьці, а намэнклятура сядзела і лыпала вачыма. Гэта было ў самым пачатку дзейнасьці парляманту). Магу адзначыць, што калі мы прышлі ў Вярхоўны Савет, у нас ужо быў шэраг напрацаваных праектаў, якія скіраваныя былі на тое, каб дамагчыся незалежнасьці і суверэннага статусу Рэспублікі Беларусь. У прыватнасьці, законапраект Аб грамадзянстве і шэраг іншых.

Па Дэкларацыі падзеі разьвіваліся наступным чынам. Намэнклятура ў абсалютнай сваёй большасьці была супраць нават уключэньня гэтага пытаньня ў парадак дня. Ня памятаю, колькі дакладна чалавек галасавала за тое, каб уключыць пытаньне аб прыняцьці Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларусі ў парадак дня сэсіі, але гэта, здаецца, было ня больш ста чалавек.

***Зянон Пазьняк:*** – Гэта была першая наша спроба паставіць у Вярхоўным Савеце пытаньне пра незалежнасьць. Трэба было прымусіць іхныя намэнклятурныя галовы працаваць у зададзеным накірунку. Некаторыя ўпершыню пачулі слова „суверэнітэт”.

***Юры Беленькі:*** – Так. Тады намэнклятура ўсё адкінула. І раптам, праз месяц-два, у адзін цудоўны дзень (летам) мы даведваемся, што Гарбачоў спускае зьверху ўказаньне прыняць Дэкларацыю аб суверэнітэце і ўтакім варыянце, які б прадугледжваў бы ліквідацыю нашага суверэнітэту і ператварэньне Беларусі ў чарговую правінцыю „абноўленага саюзу” (ідэйка Гарбачова) ці абноўленай імпэрыі.

***Зянон Пазьняк:*** – Камуністы, дарэчы, адмахваліся ад гэтай дырэктывы Гарбачова і нічога не хацелі рабіць. Пры слове „суверэнітэт” у іх, як ад дзікіх яблыкаў, пашчэмкі зводзіла. Было відавочна, што іх задаволіць фармальная „фількіна грамата”. Ніхто ні хацеў працаваць у камісіі над праектам дэклярацыі. Памятаю, падходзіць да мяне разгублены Л. Козік, тады старшыня (ці сакратар, не памятаю) Камісіі па дзяржаўным будаўніцтве, і кажа, што ўсе разьбягаюцца, „дапамажыце хоць вы”, маўляў, вы ж зацікаўленыя. „Добра,– кажу, – дапаможам.” Мы прышлі працаваць ў камісію ледзь не палова Апазыцыі (такі быў дзіўны той савецкі „парлямант” у той пераломны час). Неўзабаве праект быў гатовы на 90 адсоткаў такі, які нам патрэбны. У дадатак Козік (па дамоўленасьці) прапанаваў на сэсіі, каб побач з Камісіяй праект ад Апазыцыі БНФ прадстаўляў я. Ўсё пайшло так, як мы хацелі. Прымаўся артыкул за артыкулам (дыскусія, якой мне ўдалося тады часткова дырыгаваць, быў наш канёк і наша зброя, камуністы ніколі не выгрывалі ў нас дыскусіяў). Памятаю „здравомыслящчый” твар дэпутата-камуніста Селівончыка (намесьнік дырэктара Аўтазавода). „Да что жэ эта дзелается? – махаў ён рукамі, – да куда ані смотрат? Пазьняк павёл за сабой Верховный Савет!”

***Юры Беленькі:*** – Камуністы хацелі б такую Дэклярацыю, каб там не было ніякага рэальнага суверэнітэта. Памятаю, што я (як эканаміст) рабіў свае прапановы па Дэкларацыі, якія тычыліся, у першую чаргу, пэўных эканамічных момантаў (па стварэньні сваёй банкаўскай сістэмы і г.д.). Тут як бы камуністы ішлі на пэўныя кампрамісы, яны пагаджаліся. Але абсалютна ўпёрліся ў той артыкул, які тычыўся стварэньня новага Саюзу. Яны настойвалі, каб гэтая норма прысутнічала.

Тут варта адзначыць яшчэ адзін момант, што гэта як бы была тая частка камуністаў, якіх нельга назваць абсалютна артадаксальнымі, якія не паддаюцца ніякай рэфармацыі. Але была частка абсалютна артадаксальных камуністаў, якія проста на дух не пераносілі самога факта прыняцьця Дэклярацыі аб незалежнасьці Беларусі. І гэтая частка была дастаткова вялікая. Калі б яны прынялі рашэньне не галасаваць, то зрывалі б галасаваньне. Аналіз падзеяў паказваў, што так магло стацца, што галасоў гэтых „мяккіх” камуністаў разам з намі ня хопіць, каб прыняць Дэклярацыю. Галасы артадаксальных камуністаў усё часьцей гучалі, каб увогуле не прымаць Дэклярацыю аб дзяржаўным суверэнітэце. Яны убачылі, што прайгралі нам амаль што па ўсіх пунктах, і пачалі злавацца.

Узьнікла дастаткова сур’ёзная небясьпека. Асабліва гэта стала выразна адчувацца на другі дзень абмеркаваньня, калі яны ўперліся ў перадапошні пункт аб заключэньні новага саюзу. Было відавочна, што Дэклярацыю могуць заваліць. Тады па прапанове Зянона Станіслававіча Пазьняка быў прыняты такі плян (прыняты ён быў канфідэнцыйна) – стварыць такую сітуацыю, каб артадоксы галасавалі супраць нас (бо яны заўсёды галасавалі насуперак нашым прапановам), каб гэты эфэкт быў выкарыстаны пры галасаваньні за Дэклярацыю. Гэта была дастаткова рызыкоўная рэч, і дзякаваць Богу, што ўсё ж удалося гэта зрабіць. Мы сталі дружна і ў лоб (без дыпляматыі) выступаць супраць артыкула пра стварэньне „новага саюзу” і прыгразілі, што калі камуністы будуць настойваць на тым, каб уключыць гэты пункт, то мы ня будзем прымаць удзел у галасаваньні. Магу сказаць: адразу стала назірацца нейкае такое ўзбуджэньне ў стане артадаксальных камуністаў (гэта у асноўным так званыя „ветэраны”). Яны, на псіхалягічным непрыняцьці таго, што прапануе Апазыцыя БНФ, сталі абурацца (маўлаў абыдземся без вас). Яшчэ трохі раззлаваўшы гэтае асінае гняздо, мы па знаку Пазьняка пакінулі залю.

***Зянон Пазьняк:*** – Я перад выйсьцем, здаецца, сказаў яшчэ аблічальную прамову для пераканаўчасьці. Відаць не пашкодзіла, бо калі выходзілі, з боку артадоксаў чуліся абураныя выкрыкі і рычэньне.

***Юры Беленькі:*** – І калі мы вышлі з залі – выступаў тых дэпутатаў, што засталіся, было няшмат, але само абмеркаваньне пайшло ў патрэбным для нас рэчышчы.

***Зянон Пазьняк:*** – Тут нагадаю, што выйшлі мы ня ўсе, некалькі дэпутатаў спэцыяльна пакінулі ў залі, каб назіралі і, як выказваліся артадоксы – „подбрасывалі”. (Калі камуністы чаго не разумелі, то ўставаў які-небудзь завадзіла і папярэджваў: „товарішчі, нам подбрасывают”.)

***Юры Беленькі:*** – Я памятаю, што калі мы вышлі, яны ўз’ерапеніліся на нас.

***Зянон Пазьняк:*** – Калі мы выходзілі, адзін ветэран партыі крычаў: „Вот оно істінное ліцо БНФ!” Камэдыя. Але нашы хваляваліся. Памятаю ў файе падыходзіць да мяне Аляксандар Сасноў ўсхваляваны і прыгнечаны, і ціха так кажа: „Заваляць, сволачы, заваляць! Ня трэба было выходзіць.” „Цяпер ўжо не заваляць,--кажу,--мы добра вышлі. Калі б засталіся, то прайгралі б, іх жа бальшыня”. Так яно і атрымалася, артадоксы павялі сябе па прынцыпу „супраць БНФ” і прынялі дэклярацыю, з артыкулам пра будучы „саюз”, вядома (за него то оні і сражаліс). Але ва ўмовах, калі СССР ўжо развальваўся, гэты артыкул нічога ня значыў. (Гарбачоў вунь нават рэфэрэндум змайстраваў пра захаваньне СССР і што з таго? Наіўныя людзі). Мы ўсё разумелі і скарысталі нашае непрыняцьце гэтага палажэньня ў Дэкларацыі як тактычную зброю супраць артадоксаў. І выйгралі. Бо ў выніку прынялі добрую Дэклярацыю, якая дапамагла нам праз год рэальна аднавіць незалежнасьць.

***Юры Беленькі:*** – Калі ў залі прагаласавалі за дэклярацыю, гэта выклікала ў нас уздых аблягчэньня. Я памятаю, йшчэ яны пагадзіліся (па прапанове Анатоля Вярцінскага) 27 ліпеня зрабіць дзяржаўным сьвятам. І толькі, напэўна, калі мы вярнуліся ў залю, для іх відавочна была наша рэакцыя, што мы задаволеныя вынікам

таго, што адбылося, тут іхны псіхалягічны настрой стаў мяняцца. Мы і не хавалі, што задаволеныя тым, што парлямант беларускі прыняў гэты этапны дакумант (які мы падрыхтавалі, прадыскутавалі і іхнымі галасамі правялі). Тады (я памятаю) пачаліся рэплікі, захады з боку артадаксальных камуністаў, пытаньні „ў паветра": што, маўляў, трэба зрабіць, каб адмяніць гэтае галасаваньне. Трэба сказаць, што Дэклярацыя прымалася канстытуцыйнай большасьцю (двумя трацінамі), і тут атрымлівалася такая сітуацыя, што каб пераагаласаваць, ім таксама трэба было набраць дзьве траціны. А тут, разам з Дэмклюбам, мы б блякавалі такое галасаваньне. Значыць, калі мы галасавалі „супраць", то яны нічога не маглі зрабіць. Гэта стала зразумела, і ім нічога не заставалася, як кідаць толькі злосныя рэплікі.

***Сяргей Папкоў:*** – У мяне ніякіх сумненьняў тады ў тым, што так трэба рабіць (імітаваць абурэньне і выходзіць з залі), не было. Я тады жорстка падначальваўся дысцыпліне, якая тады была ў нас у фракцыі БНФ. Сказана было выходзіць з залі (а для мяне было зразумела, чаму гэта трэба рабіць) – і я выконваў. Дэталь такая: калі мы ўсе выйшлі ў файе за прэзыдыюмам, там жа тэлевізар паставілі. Мы глядзелі ўсе тэлевізар, як яны з намі „змагаюцца".

***Юры Беленькі:*** – І эмацыйна гэта абмяркоўвалі.

***Сяргей Папкоў:*** – І калі яны прагаласавалі, то ў нас было бурнае задавальненьне, там, у файе.

***Юры Беленькі:*** – Так, мы проста там скакалі.

***Сяргей Папкоў:*** – Некаторыя пацікавіліся: што ж там такое ў файе?

***Юры Беленькі:*** – Бо шум падняўся.

***Сяргей Папкоў:*** – Так, шум быў. І яны ўбачылі, што мы задаволеныя, што мы глядзім тэлевізар.

***Зянон Пазьняк:*** – Яны былі ашарашаныя.

***Юры Беленькі:*** – Эмацыйныя нашы калегі, якія не змаглі стрымаць эмоцыі, голасна радаваліся.

***Зянон Пазьняк:*** – Ну так, бо і напружаньне з душы звалілася. Некаторыя, што трывожыліся, адчувалі, відаць сябе, як на краі бездані, і раптам – у-ух! Пранесла! Чаму ж не паскакаць.

***Сяргей Папкоў:*** – Зараз некаторыя гавораць, што вось, маўляў, яны не спэцыяльна гэта рабілі, што ў нас не было такога пляну (Шушкевіч гэта зараз гаворыць).

***Зянон Пазьняк:*** – Шмат ёсьць такіх, што ня ведаюць за якое месца ўкусіць Народны Фронт. Але Незалежнасьць ёсьць! Дзьвесьце гадоў змагаліся! Беларуская Дзяржава ёсьць. Жыве Беларусь і будзе жыць.

***Запісала і да друку падрыхтавала***
***Галіна Пазьняк***

*(Запіс 7 сьнежня 2003 г.)*

*Надрукавана: (Галіна Пазьняк. Беларусь у сэрцы. – „Беларускія Ведамасьці", Варшава, 2007, стар. 138-141)*

**Народная Воля** 5 САКАВІКА 1999 г. №40(622)

**Дыскусія**

# Той артыкул З.Пазьняка сёння актуальны, як ніколі

Пасля публікацыі ў "Народнай волі" ліста М.Чаргінца "Не теряйте память, Зенон Станиславович!" стрэў у маскоўскіх "Известиях" выказванне дырэктара Федэральнай памежнай службы Расіі К.Тоцкага: "Из всех наших соседей каких-либо территориальных претензий — официальных или неофициальных — не предъявляет, кажется, только Белоруссия". На гэтым фоне абвінавачванні аўтара ліста ў адрас З.Пазьняка здаюцца мне зусім недарэчнымі. Тым больш, што беларускі генерал, у адрозненне ад расійскага, аперыруе дзеясловамі мінулага часу, бо з-за адсутнасці свежых фактаў вымушаны згадваць выключна даўнія. Але з іх дапамогай аўтар не пераконвае чытачоў.

У лісце М.Чаргінца цытуецца "крымінальны" абзац з артыкула лідэра БНФ "О русском империализме и его опасности", у якім даводзіцца тое, аб чым сёй-той з нашых гісторыкаў адкрыта пісаў яшчэ раней (напрыклад, Л.Казлова і А.Цітоў у кніжцы "Беларусь на сямі рубяжах", Мн., "Беларусь", 1993). Але ніякіях патрабаванняў, напрыклад, вярнуць сёння землі, адабраныя ад БССР Масквой у 1919 годзе або іншыя тэрыторыі, страчаныя Беларуссю, у артыкуле няма. Гэта ўскосна прызнае і сам аўтар ліста. Ёсць там, аднак, тое, пра што М.Чаргінец палічыў за лепшае змоўчыць. "Вопрос о возвращении восточнобелорусских земель, — піша З.Пазьняк, — будет снова поставлен (об этом шла речь в 20-х и 30-х годах). Так же, как и вопрос о компенсации за чернобыльскую катастрофу, о золотом запасе СССР, об имуществе за рубежом и др.". Гэта будзе зроблена, як бачна з таго ж артыкула, калі будзе сфарміраваны дэмакратычны ўрад. І, зразумела, ніякіх гвалтоўных дзеянняў не прадугледжваецца: паводле праграмы Народнага фронту, вырашэнне спрэчных пытанняў, уключаючы тэрытарыяльныя, ляжаць "на шляху двухбаковых пагадненняў... з нашымі суседзямі".

Канешне, М.Чаргінец (ён, нагадаю, кіруе парламенцкай камісіяй па міжнародных справах), як і ўвогуле цяперашні рэжым, не можа дапусціць і думкі аб магчымым прыходзе да ўлады "кучки отщепенцев и экстремистов". Да таго ж усім добра вядома і без вышэйпамянёнага К.Тоцкага, што Беларусь не толькі не выстаўляе якіх-небудзь тэрытарыяльных прэтэнзій да Расіі або да іншых краін, а, наадварот, сама гатова, як сцвярджае афіцыйная прапаганда, далучыцца да вялікага суседа. І ўсё роўна — паважанай міжнароднай арганізацыі накіроўваецца нешта накшталт ці то скаргі, ці то паклёпніцкага даносу на "захопніка" чужых зямель, які вымушаны быў пакінуць сваю Радзіму.

Дужа, відаць, хочацца беларускім уладам прынізіць аўтарытэт З.Пазьняка на Захадзе і адбіць ахвоту ў тамтэйшых палітыкаў прыслухоўвацца да яго довадаў.

Што тычыцца Вільні, дык словы, вынесеныя ў загаловак ліста ў "Народнай волі" і прызначаныя Зянону Станіслававічу, з поўным правам можна адрасаваць самому М.Чаргінцу. Бо менавіта ў яго выпала з памяці такая неардынарная для нашай краіны падзея, як заява Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР ад 29 сакавіка 1990 года аб вяртанні Беларусі паўночна-заходніх беларускіх тэрыторый былой Віленскай вобласці і горада Вільні (Вільнюса). Адразу ж пасля гэтага кіраўніцтва БНФ на чале з З.Пазьняком зрабіла сваю заяву, у якой расцаніла тэрытарыяльныя патрабаванні да Літвы як форму палітычнага шантажу з мэтай перашкодзіць ажыццяўленню яе дзяржаўнай незалежнасці. Як і ў праграмных дакументах, у той заяве зазначалася, што Народны фронт прытрымліваецца прынцыпу Хельсінкскіх пагадненняў аб непарушнасці межаў, якія могуць быць зменены толькі пры ўзаемнай згодзе зацікаўленых бакоў.

Інтэрв'ю З.Пазьняка латвійскай газеце, на якое спасылаецца М.Чаргінец, з'явілася ў друку амаль праз чатыры месяцы пасля афіцыйнай заявы памянёнага органа дзяржаўнай улады БССР. Так, ён мовіў там аб настальгіі па Вільні, і гэта зразумела кожнаму, хто ведае, што гэты горад ад часоў Вялікага княства Літоўскага быў палітычным і культурным цэнтрам не толькі літоўскага, але і нашага народу, з'яўляўся калыскай беларускага Адраджэння, неафіцыйнай сталіцай Заходняй Беларусі. І не трэба, сп.Чаргінец, дамысліваць за З.Пазьняка, што ён меў на ўвазе, калі казаў аб сваіх стасунках да гэтага пытання, а потым яшчэ сарамаціць яго за нібы вымаўленыя ім словы, а ў сапраўднасці прыдуманыя апанентам.

Сорамна павінна быць не за праяўленне клопатаў аб нацыянальных інтарэсах і незалежнасці роднай Беларусі, а за імкненне аддаць яе другой краіне. Асабліва гэта тычыцца дзяржаўных мужоў, якія маюць непасрэднае дачыненне да ганебнай прарасійска-імперскай палітыкі. І хоць М.Чаргінец іранізіруе наконт фундаментальнасці колішняга артыкула З.Пазьняка "О русском империализме и его опасности" і здзекліва называе яго "одиозным опусом", сёння той артыкул актуальны, як ніколі; прынамсі, у сто крат больш надзённы, чым ліст з глыбокадумнымі разважаннямі аб "территориальных претензиях" старшыні БНФ. Пра дакладнасць ацэнак і прагнозаў апошняга сведчыць, напрыклад, такая цытата з артыкула З.Пазьняка: "Еще усилие, и, когда наша страна будет окончательно экономически разрушена, останется только "добровольно" загнать ее снова в российскую империю".

Гэта Зянон Станіслававіч напісаў, калі А.Лукашэнка быў яшчэ дырэктарам саўгаса...

**Генадзь ЛАГУНОВІЧ.**

Мінск.

*Д-54. („Народная Воля", – 1999, 5 сакавіка).*

**ПОГЛЯД**

„Народная Воля", 28 жніўня 2002 г. №171 (1477)

# Пазьняк... вуснамі Лукашэнкі

***Гляозіш у апошнія дні тэлепраграму "Панарама", слухаеш радыё, чытаеш дзяржаўныя газеты і складваецца такое ўражанне, нібы ідэалагічны штаб краіны ўзначаліў... Зянон Пазьняк. Так-так, той самы Пазьняк — лідэр БНФ і былой апазіцыі ў Вярхоўным Савеце, які вымушаны быў эмігрыраваць за мяжу з-за таго, што ўпарта адстойваў незалежнасць Беларусі і крытыкаваў "расійскі імперыялізм", які, па яго меркаванні, імкнуўся праглынуць нашу краіну. Зараз гэтую "крамолу" з ранку да вечара тыражуюць вядучыя ды выступоўцы асноўнай тэлепраграмы.***

*Д-55. („Народная Воля", – 2002, 28 жніўня).*

„Народная Воля", 3 верасня 2002 г. № 176 (1482)

# Зянон — сапраўдны правідца

Усё тое, што адбываецца зараз паміж нашай краінай і Расіяй, наспявала даўно. толькі сляпы крот мог таўчыся ў цёмнай сваёй нары і не разумець, да чаго ўсё ідзе ў падпісанні так званага "саюзнага дагавора". Расійскі шавінізм, даўно вядомы свету і які нават у свой час абуральна выкрываў Ленін, выпаўз наверх ва ўсёй "красе", адкрыта заявіў, чаго ад нас дабіваецца Масква. Але няма чаго адмаўляць: "за что боролись, на то и напоролись".

Як жа ляснуліся нашы кіраўнікі з іх ідэйнымі падпявамі, што дзень і ноч дурылі нам галовы пра "непарушнае братэрства", пра "мы же — один народ", "навеки вместе" і г.д. Мала сказаць, што самі трапілі ў тупік, дык і дзяржаву, яе будучыню туды зацягнулі.

Многа год таму прадбачыў апетыт Масквы і пастаянна папярэджваў нас аб гэтым Зянон Пазьняк. Які вэрхал узняўся пасля яго, дагэтуль памятнага артыкула аб рускім імперыялізме і яго небяспецы для незалежнасці беларускага і іншых народаў былога СССР. Ачумелыя нядобразычлівцы з яго кпілі, афіцыйныя палітыкі крычалі замбіраванай публіцы: "Зянон Пазьняк — вораг беларускага народа!"

Час паказаў: вялікі мысліцель і стратэг Зянон Пазьняк меў рацыю на ўсе сто працэнтаў. Ён аказаўся правідцам. І зараз паўтарае ўсім адно: "Беларусы, будзьце пільнымі! Беражыце Бацькаўшчыну ад згубы!"

Такім прадбачлівым палітыкам можа ганарыцца любы народ. Мы маем кемлівага стратэга, якога чарнілі, ды не купілі. Сёння Зянон Пазьняк, лічу, мае права сабраць свае артыкулы і публікацыі, выступленні на навуковых семінарах і канферэнцыях па пытаннях, што датычаць адносін Расіі і Беларусі, даслаць гэтыя матэрыялы ў камісію на прысваенне звання доктара паліталогіі. Ён ім і ёсць на самай справе. Усё спраўдзілася і спраўджваецца, што ён прадбачыў. Дык ці не варта (а на маю думку, абавязкова варта) уважліва прыслухоўвацца да таго, як ацэньвае ён сітуацыю зараз, у чым бачыць шляхі да выратавання нашай Бацькаўшчыны.

**Пятро СМАЛЯНКА.**

*Д-56. („Народная Воля", – 2002, 3 верасьня).*

„Ніва", тыднёвік беларусаў у Польшчы. Беласток, 8 сьнежня 2002 г. № 49

# Апазіцыя на прыцэле

Тадэвуш Гавін.

**Апошнім часам у польскім грамадстве, сярод польскіх палітыкаў і на старонках прэсы, у тым ліку і „Рэчы Паспалітай", ствараецца вобраз беларускай дэмакратычнай апазіцыі, які, на мой погляд, не адпавядае рэчаіснасці. Гэта праўда, што сёння з вядомых прычын яна аслабела. Але ў той жа час апазіцыя аб'ядналася вакол агульных стратэгічных мэт, галоўная з якіх — адхіліць дыктатара ад улады канстытуцыйным шляхам. Гэта асабліва адчуваецца ў рэгіёнах. Беларускай апазіцыі ўласціва разважлівасць: пастаўленая ва ўмовы, калі супрацьстаяць рэжыму адкрыта і легальна стала немагчыма, яна не ўжывае сілу, хаця часта да гэтага правакуюць.**

Можна толькі здагадвацца, паводле якой палітычнай замовы некаторыя дзеячы польскага руху з Беларусі распаўсюджваюць у Польшчы ілжывыя звесткі пра беларускую апазіцыю, называючы яе нацыяналістычнай і антыпольскай.

Дзеянні апазіцыянераў не могуць быць эфектыўнымі ва ўмовах, калі беларускае заканадаўства адмыслова перарабілі такім чынам, каб літарай закона знішчаць тых, хто не ўхваляе афіцыйную палітыку, а іх прыхільнікаў называць ворагамі беларускага народа, як гэта зрабілі з дэпутатамі Расійскай Думы Ірынай Хакамадай і Барысам Нямцовым. Ім не дазволілі сустрэцца з папапарламенцкай апазіцыяй, і, прызнаўшы іх прысутнасць непажаданай, наступным рэйсам дэпартавалі ў Расію. Прычына — крытычныя выказванні Хакамады і Нямцова наконт дзеянняў Лукашэнкі ў расійскіх СМІ.

Сёння апазіцыя вельмі аслаблена з той прычыны, што апошнім часам яна аказалася моцна „zdziesiątkowana".

### Першы ў спісе

Асабліва перашкаджаў рэжыму харызматычны дзеяч Зянон Пазьняк, лідэр Беларускага народнага фронту. На акцыі, арганізаваныя БНФ, кожны раз прыходзіла некалькі дзесяткаў тысяч людзей, незадаволеных палітыкай афіцыйных уладаў. Пасля распаду СССР парламенцкая фракцыя БНФ на чале з Пазьняком прымусіла камуністычную большасць прыняць Дэкларацыю аб суверэнітэце і незалежнасці Беларусі. Лідэр БНФ выказваўся супраць увядзення ў Беларусі пасады прэзідэнта, бо лічыў, што краіна павінна была стаць парламенцкай рэспублікай.

У 1996 годзе Пазьняк быў вымушаны эміграваць з Беларусі і папрасіць палітычнага прытулку ў ЗША. Як у Беларусі, гэтак і ў Польшчы час ад часу выказваюцца меркаванні, што, нягледзячы на абставіны, ён павінен быў застацца, каб дзеля ідэі трапіць за краты. Ведаючы Зянона Пазьняка і сітуацыю ў дзяржаве, дзе мы жывем, я лічу, што гэткі ўчынак быў бы занадта вялікай ахвярай для Беларусі, тым больш што менавіта на гэта разлічваў яго асноўны палітычны апанент. Гістарычныя падзеі, якія пасля адбыліся ў Беларусі, паказалі, што гэты ад'езд меў сэнс.

Ці выказваўся ён супраць палякаў? — Не. Ці будзе? — Залежыць выключна ад саміх палякаў. Той, хто лічыць, што цяпер Пазьняка-палітыка ўжо не існуе, памыляецца. Некаторыя заходзяць яшчэ далей, называючы яго палітычным трупам. Я ўпэўнены — свайго апошняга слова ў палітыцы ён яшчэ не сказаў.

Калі б на пачатку 90-х гадоў Саюз палякаў Беларусі, які я тады ўзначальваў, не здолеў знайсці агульную мову з Фронтам на чале з Пазьняком, сёння ў Беларусі не было б польскіх школ. Улады вырашылі задушыць польскае адраджэнне рукамі Фронту, але Пазьняк з гэтым не пагадзіўся.

*Д-57. („Ніва", – 2002, 8 сьнежня).*

### *З. Пазьняк:*

# „НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ МОЖНА ДАМАГЧЫСЯ МАЛЫМІ СІЛАМІ, АЛЕ ЎТРЫМАЦЬ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦЬ МАЛЫМІ СІЛАМІ ЦЯЖКА”

***Сяргей Навумчык, Прага***

**25 жніўня 1991 году, пад ціскам дэпутацкай Апазыцыі БНФ у Авальнай залі Дому ўраду і некалькіх тысячаў грамадзянаў перад будынкам парлямэнту, Вярхоўны Савет 12 скліканьня надаў Дэклярацыі аб дзяржаўным сувэрэнітэце статус канстытуцыйнай сілы. Дэ-юрэ Незалежнасьць Беларусі была адноўленая. Госьць радыё „Свабода” – па тэлефоне зь Нью-Ёрку старшыня парляманцкай Апазыцыі БНФ Зянон Пазьняк.**

**С. Навумчык: –** Хацеў бы пачаць з цытаты з кнігі Васіля Быкава „Доўгая дарога дадому” пра падзеі жніўня 1991 году. Быкаў апісвае ўласную трывогу пад час маскоўскага путчу: „Зянон пры чарговай сустрэчы сказаў пра апошнія падзеі трохі інакш, чым мне адчувалася. Ён сказаў, што гэта – добра. Гэта толькі паскорыць іхнюю агонію. Сьмерць прыйдзе знутры. Трэба толькі не чакаць, выхапіць з полымя тое, што нам належыць – нашу свабоду. Бо іхняй свабоды ўжо не ўратаваць нікому. Тое былі разумныя словы, толькі як дамагчыся іхняга спраўджаньня?”

Аказалася, што, сапраўды, Вы мелі рацыю, путч паскорыў агонію камунізму і савецкай імпэрыі. А далей было патрабаваньне аб скліканьні нечарговай сэсіі. Наколькі, на Вашу думку, важна ў палітыцы „выхапіць з полымя”, як працытаваў Вас Быкаў, скарыстаць час?

**З. Пазьняк: –** Для мяне гэта ёсьць найважнейшае пытаньне палітычнай тактыкі. Гэта значыць – зрабіць патрэбнае дзеяньне ў адпаведны час і ў адпаведны момант. Каб вызначыць гэты час і момант, трэба вельмі хутка аналізаваць наперад. Часам трэба проста адчуць імгненьне, і не спазьніцца. Бо бывае, што вырашаюць сэкунды. Я, шчыра кажучы, люблю ўдзельнічаць у такіх сытуацыях, бо гэта і ёсьць творчы момант у палітыцы. Тыя 1990-ыя гады даюць шмат прыкладаў выкарыстаньня намі добрай тактыкі і выкарыстаньня моманту. Калі б у 1991 годзе нам не ўдалося сабраць сэсію Вярхоўнага Савету 24 жніўня, і яна адбылася б на дзень-два пазьней – то сытуацыя магла б разьвівацца інакш, асабліва праблематычнай зрабілася б забарона дзейнасьці КПСС.

Ці, напрыклад, галасаваньне за Незалежнасьць 25 жніўня, гэта значыць, наданьне Дэклярацыі аб сувэрэнітэце статусу канстытуцыйнай сілы. На другі дзень сэсіі намэнклятура ўжо аджыла ад страху, і я адчуваў, што мы можам не набраць дзьве трацїны галасоў. Шушкевіч ужо сабраўся ставіць на галасаваньне. І ў апошнюю сэкунду я папрасіў слова і ўдарыў па Ельцыну, які ў тыя дні лічыўся нібыта „сьвятой каровай”, быў „сьцягам расейскай дэмакратыі” і выклікаў жах у камуністычнае намэнклятуры. Я сказаў, што расейскі ельцынізм будзе пагражаць усім, усёй Беларусі, таму трэба ўсім нам цяпер аб’яднацца вакол ідэі Незалежнасьці. І тут жа ўстаў напалоханы Ельцыным камуніст дэпутат Мачуленка, і прапанаваў „товарищам коммунистам прислушаться к словам Зенона Станиславовича”.

У выніку, за Незалежнасьць прагаласаваў тады, практычна, ўвесь Вярхоўны Савет. А тое, што потым дэмакраты дзьмуліся на мяне, што я нібыта пакрыўдзіў Ельцына, ня мела аніякага значэньня, тым больш, што я сказаў праўду, і далейшыя падзеі гэта пацьвердзілі.

Інтэлектуальна і палітычна мы разьбівалі камуністычную бальшыню ў пух і прах у Вярхоўным Савеце 12-га скліканьня. Будучы бясьсільнымі змагацца з намі на інтэлектуальна-палітычным узроўні, яны стараліся душыць нас кнопкамі для галасаваньня і зыходзілі з простага правіла: галасаваць супраць усяго таго, за што БНФ. На гэтым прымітыўным іхным падыходзе, на палітычнай іхнай бязглуздасьці мы, ужываючы дасьціпную і нечаканую тактыку, ня раз перамагалі камуністычную бальшыню іхнымі ж рукамі.

Найбольш бліскуча гэтая тактыка апраўдала сябе ў 1990 годзе, калі прымалі Дэклярацыю аб суверэнітэце, якую мы ў цэлым і напісалі (у афіцыйнай камісіі). Памятаеце наш каронны выхад з залі на другі дзень на 11-м (перадапошнім) артыкуле (пасьля чаго яны прагаласавалі агулам за ўсё ў піку нам, зацыкліўшыся на гэтым артыкуле і думаючы нам насаліць)? Гэты мамэнт быў найбольш псіхалагічна дасканалай нашай палітычнай перамогай. Успамінаю, як лямантавалі тады крыху разумнейшыя дэпутаты-камуністы, якія зразумелі падвох (напрыклад, дэп. Сілівончык), але іх ўжо ніхто ня слухаў. „Галасуем!” – раўла заля. І гэты роў быў, як музыка. Калі нельга пераканаць дурняў, тады трэба скарыстацца іхняй дурнотай.

Аналягічным мэтадам (іхнымі ж галасамі) мы правалілі, напрыклад, іхны антыдэмакратычны законапраект пра водзыў дэпутатаў. Адразу пасьля галасаваньня палова камуністаў зразумелі, што іх абулі ў лапці. І, што цікава, некаторыя (не былі б то беларусы) рагаталі, аж сьцены дрыжэлі (з гумарам былі, значыцца).

**С. Навумчык: –** Цяпер некаторыя аналітыкі гавораць, што нават калі Апазыцы БНФ не дамаглася б (ці не дамагалася б) скліканьня сэсіі, дык усё роўна Беларусь здабыла б незалежнасьць, бо і „без таго” падзеі ў Маскве – супрацьстаяньне Ельцына ды Гарбачова – да гэтага вялі. Ці Вы пагаджаецеся з такім меркаваньнем?

**З. Пазьняк: –** Цікава, хто б гэта зрабіў? Гэтае меркаваньне ёсьць меркаваньне недасьведчаных людзей, якія далёкія ад веданьня, што і як тады адбывалася. Альбо гэта меркаваньні людзей, якія кажуць гэтак сьведама, каб прынізіць нашу беларускую перамогу і Беларускі Народны Фронт. Беларускаму Народнаму Фронту слава – ён вярнуў Незалежнасьць, і слава за тое, што своечасова правільна скарыстаў момант і сьмела ім распарадзіўся.

Мы маем іншыя прыклады. 1996 год. Вярхоўны Савет 13-ага скліканьня. Што натварыла там прамаскоўская апазыцыя АГП? Памятаеце? Яны нават не змагаліся. Усё правалілі. Нават вынікі незаконнага рэфэрэндуму 1995 года – зацьвердзілі. Нават *„Пагоню”* і *Бел-Чырвона-Белы сьцяг* здалі! Была і такая апазыцыя. І ўявіце, каб гэтакая публіка была б у 1991-м. Мы ўжо б і дзяржавы ня мелі б. Гэтыя дзеячы стаялі тады на баку намэнклятуры. А цяпер яны запісаліся ў апазыцыю, і ляпаюць на нашае змаганьне і на нашу гісторыю.

**С. Навумчык: –** І зноў жа, спашлюся на меркаваньні некаторых камэнтатараў. БНФ і Вас асабіста часта папракалі і папракаюць у радыкалізме, а вось некаторыя лічаць, што ў жніўні 1991-ага, пасьля правалу путчу, дэпутаты Апазыцыі БНФ і пэрсанальна Пазьняк выявілі занадта вялікую мяккасьць, не дамагліся канчатковага зьнішчэньня намэрклятурнай сістэмы. Кажуць нават, што варта было ісьці на штурм КГБ, які пасьля путчу вельмі хутка вярнуўся да сваёй звычайнай дзейнасьці...

**З. Пазьняк: –** Ну так, для некаторых важна было б „пашумець”. Гэта ёсьць спажывецкія меркаваньні камэнтатараў „ад тэлевізара”. Такім „аналітыкам” хочацца, каб нехта ім нешта зрабіў.

Але каб мы маглі дзейнічаць радыкальна, трэба было ім усім 24 жніўня 1991 года адарвацца ад экранаў і ад канапы, і прыйсьці на

плошчу Незалежнасьці да Вярхоўнага Савета. Каб там сабралася не 20-30 тысячаў, як было, а 100, 200, 300 тысяч, пад *Бел-Чырвона-Белым сьцягам*. Трэба было гэтым аналітыкам прыйсьці, каб пад сьценамі камуністычнага парляманту адчуваўся рокат народнай сілы.

Нас жа было ў Вярхоўным Савеце толькі 8 адсоткаў. І тым ня менш, мы выйгралі палітычнае змаганьне – вярнулі Незалежнасьць. Мы не маглі рызыкаваць гэтай заваёвай, маючы спачувальнікаў ля тэлевізараў, а не змагароў пад сьценамі парлямэнту, калі вырашаўся лёс беларускай нацыі. І таму мы зрабілі правільна, што не паддаліся на авантуру, да якой, дарэчы, нас пiхалi.

**С. Навумчык: –** Спадар Зянон, я працягну выступаць у ролі „адваката д'ябла", задаючы Вам непрыемныя пытаньні з пазыцыі Вашых крытыкаў. У жнівеньскія дні 1991 году ў газэце „Знамя юности" зьявіўся артыкул, дзе БНФ абвінавацілі з кампрамісе з камуністамі і, канкрэтна, з Кебічам, што БНФ нібыта не будзе патрабаваць адстаўкі Кебіча, а за гэта камуністы і Кебіч падтрымаюць незалежнасьць...

**З. Пазьняк: –** Гэтыя нагаворы не адпавядаюць падзеям. У дні путчу камуністы радаваліся і казалі, што нам – канец. Што яны нас усіх задушаць і расстраляюць, і гэта праўда – так бы і было, яны падрыхтавалі ўжо нават вагоны, у якіх павезьлі б беларусаў у Сібір.

Таму калі путч праваліўся, і мы ўсе прыйшлі на сэсію, жах іхны быў неапісальны, ён межаваў з шокам. Многія літаральна дрыжэлі ад страху. Таму нам ня трэба было ні аб чым зь імі дамаўляцца, а толькі дыктаваць свае ўмовы, якія яны, дарэчы, выконвалі, як агалмошаныя.

Шок, аднак, ня мог працягвацца вечна, і мы гэта ведалі, асабліва калі камуністы ў кучы. Максімум – дзень-два. Ад сілы – тры. Вось мы і ўкладаліся ў гэтыя дні, каб здабыць асноўнае – Незалежнасьць, і зьліквідаваць уладу КПСС. Мы адразу 25 жніўня паставілі пытаньне аб новых выбарах у парлямэнт, а гэта азначала б зьмену ўлады і зьмену ўраду. І тут намэнклятура лягла, як камень. Каб спляжыць гэты камень, і разьнесьці яго ў шчэпкі, нам не хапіла, як мінімум, рашучага народу пад сьценамі парляманту. Рэвалюцыя вымагае, як вядома, ня толькі рэвалюцыянераў.

Пасьля жніўня мы пайшлі шляхам нарошчваньня сілы. Падрыхтавалі Закон аб выбарах і Закон аб рэфэрэндуме. І падрыхтавалі рэфэрэндум аб новых выбарах у парлямэнт. Сабралі паўмільёна подпісаў.

**С. Навумчык: –** Часам пішуць, што Кебіч прапаноўваў Пазьняку і БНФ месцы ва ўрадзе. Дык – прапаноўваў?

**З. Пазьняк: –** Кебіч не прапаноўваў ніякіх пасадаў. Ён толькі гаварыў пра гэта. Ён быў не такім дурным чалавекам, каб падобнае рабіць, таму што ня можа бальшыня ў парлямэнце прапаноўваць пасады апазыцыі. Гэта нонсэнс у палітыцы, яго б маглі папросту абсьмяяць. Але ў прапагандысцкіх мэтах ён пра гэта казаў.

**С. Навумчык: –** Адразу пасьля наданьня Дэклярацыі аб сувэрэнітэце статусу канстытуцыйнай сілы Вы зьвярнуліся да нацыі, і падкрэсьлена – да камуністаў – з заклікам аб'ядноўвацца вакол ідэі аднаўленьня Незалежнасьці. Чаму гэты заклік ня быў пачуты, чаму, наадварот, заяўляюць, што Вы нібыта зьбіраліся „вешаць камуністаў"?

**З. Пазьняк: –** Вашае пытаньне, між іншым, добра ілюструе, як у агентуры не сыходзяцца канцы з канцамі. У „Знамени юности" яны казалі, што, маўляў, кампраміс, а ў іншым месцы, тут жа, – ужо адваротнае, маўляў, будзе вешаць. Дзе ж лёгіка? Ім ня важна, што казаць, абы ляпаць на Пазьняка.

***Для абароны Незалежнасьці павінна быць адзінства нацыі. Адзінства нацыі ў прынцыпе свабоды. Таму мае звароты былі да ўсіх людзей.*** Хоць я ведаў, што камуністы на Беларусі былі створаныя Масквой, як антыбеларуская арганізацыя. Яны і цяпер прамаскоўскія і выступаюць супраць беларускай мовы. Але зьвяртацца трэба было і да іх, бо іхняя антынацыянальная пазыцыя – ненармальная. ***Ніводная дзяржава ня будзе цярпець антынацыянальнай партыі. Таму ў будучай вольнай Беларусі, калі камуністы застануцца на антыбеларускіх пазыцыях, гэтая партыя будзе забаронена.*** Цікава, што тады, у 1991 годзе, афіцыйныя газэты Беларусі – „Советская Белоруссия" і іншыя – не надрукавалі маіх зваротаў.

**С. Навумчык: –** Такім чынам, у жніўні 1991 году Незалежнасьць дэ-юрэ была адноўленая, Беларусь атрымала шанец самастойна ствараць сваю будучыню. На якім этапе найноўшай гісторыі гэты шанец апынуўся пад пагрозай ці, калі хочаце, быў згублены?

**З. Пазьняк: –** Я б назваў тры падзеі, расьцягнутыя ў часе, якія зрабіліся фатальнымі для нашай нацыі і засьведчылі вайну супраць Незалежнасьці Беларусі.

*Першая* і паваротная адбылася ў 1992 годзе, калі быў незаконна забаронены рэфэрэндум аб новых выбарах. І, дарэчы, растаптаная воля паўмільёна беларусаў. Калі б рэфэрэндум адбыўся і прайшлі б выбары ў новы парлямант, дык мы б даўно ўжо жылі ў іншай, лепшай Беларусі. З гэтага часу пачалася рэстаўрацыя намэнклятурнай сілы і нарошчваньне палітыкі маскоўскага КГБ у Беларусі.

*Другая* падзея адбылася ў 1994 годзе – прыход да ўлады Лукашэнкі, а за яго плячыма маскоўскага КГБ і „маладых ваўкоў", як тады называлі групу, у якую ўваходзілі Сініцын, Ганчар, Лябедзька, Булахаў, Шэйман і іншыя. Яны падтрымалі Лукашэнку, ведаючы, што ён супраць Незалежнасьці Беларусі.

*Трэцяя* антынацыянальная падзея была ў лістападзе 1996 года, гэта здрада імпічманту. Незаконная замена Канстытуцыі праз незаконны рэфэрэндум. Фактычна, тут адбыўся гэбоўскі пераварот і ўсталяваньне таталітарнай улады.

Але страта пазыцыяў пачалася менавіта з 1992 года, калі быў зглумлены выдатны шанец добрай нацыянальнай будучыні. Рашэньне аб рэфэрэндуме – гэта значыць, заключэньне ЦВК – было прынятае ў канцы красавіка 1992 года. Якраз ішла сэсія Вярхоўнага Савета, заставалася толькі прызначыць дату рэфэрэндуму, і лёс Беларусі пакрочыў бы іншым шляхам. Замест гэтага, пад націскам намэнклятуры, Шушкевіч распускае сэсію, і паўгода Вярхоўны Савет не зьбіраецца. За паўгода намэнклятура і КГБ, які за гэты час увайшоў у новыя структуры ўраду, падрыхтавалі расправу з законнасьцю. Рэфэрэндум забаранілі, і савецкая намэнклятура ўмацавала сваю ўладу ў Беларусі. З гэтага часу пачалася новая каляніяльная прамаскоўская палітыка, якая працягваецца Лукашэнкам і зараз.

**С. Навумчык: –** Ваша ацэнка падзеяў жніўня 1991 года і якія лекцыі і высновы, на Ваш погляд, можа зрабіць зь іх асэнсаваньня беларускае грамадзтва?

**З. Пазьняк: –** Скажу так: 25 жніўня 1991 года, гэтак жа як і 25 сакавіка 1918 года – гэта ёсьць найвялікшая дата ў гісторыі Беларусі ХХ-га стагодзьдзя. У гэты дзень была вернутая Незалежнасьць.

Што вынікае для нас з гэтых падзеяў? Добра было б, каб беларусы зрабілі выснову для сябе вельмі важную. Што ***ўсяго можна дамагчыся, і ўсё можна перамагчы, калі хацець і калі змагацца***. Другая выснова, якая відавочная – што ***нават Незалежнасьці можна дамагчыся малымі сіламі***. ***Але ўтрымаць Незалежнасьць малымі сіламі цяжка***. ***Мусіць быць воля і рашучасьць усёй нацыі.***

*25 жніўня 2005 г.*

*Зянон Пазьняк:*

# „ФРОНТ ВЫКАНАЎ І АЖЫЦЬЦЯВІЎ ВЯЛІКУЮ МІСІЮ НАЦЫІ Ў 20-ЫМ СТАГОДДЗІ – ВЯРНУЎ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦЬ БЕЛАРУСІ.”

***Сяргей Навумчык, Прага. Сёньня – гадавіна ўтварэньня Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне”.***

**Зянон Пазьняк** (па тэлефоне з Нью-Ёрку): – „19 кастрычніка 1988 года ў Чырвоным касьцёле ў Менску пад гром авацыяў і воклічаў захапленьня быў створаны ***Аргкамітэт Беларускага Народнага Фронту***. Гэта была магутная і вызначальная падзея.

***Фронт выканаў і ажыцьцявіў вялікую місію нацыі ў 20-ым стагодзьдзі – вярнуў Незалежнасьць Беларусі, беларускі Бел-Чыровона-Белы сьцяг, гэрб „Пагоня”, дзяржаўнасьць мовы, беларускую школу, магчымасьць вольнага разьвіцьця і адраджэньня, самапавагу да самых сябе.***

Што ўспамінаецца з тае пары ў пачуцьцях? Гэта, найперш, грамадзкі ўздым і бясстрашнасьць народнага авангарду. І перакананасьць, упэўненасьць у перамозе. Рамантычны дух змаганьня, здавалася, вісеў у паветры. Было пачуцьцё духа салідарнасьці – з Балтыяй, з Украінай, з Каўказам, бо ўжо дрыжэў камунізм, трышчэла крывавая імпэрыя, і чуйныя – чулі, а відушчыя – бачылі яе немінучы крах.

Гэта былі вельмі моцныя перажываньні, і за плячыма было адчуваньне крыльляў. Ня толькі я – шмат хто з маіх сяброў і змагароў за Беларусь – кажуць пра той час, як пра самыя шчасьлівыя дні ў жыцьці, якія ніколі нельга забыць, якія сталі часткаю нашых душаў.

Калі я ўспамінаю той час, то адчуваю амаль фізічна, што вернецца наша воля і наша радасьць. Мы вернем і павагу, і свабоду, і сьцяг, і гэрб, і мову, і слаўнае наша імя, і нашу веліч. Вернем! Бо – можам вярнуць. Гэтак жа, як вярнулі раней гонар і Незалежнасьць Беларусі.

Яшчэ вернецца Народны Фронт. Гэтыя людзі ўжо йдуць. І слухайце ўважліва, як упэўнена і цьвёрда чуецца іхны крок”.

***(Радыё Свабода, 19 кастрычніка 2005 г.)***

# ІДЭЯ ФРОНТУ ВІСЕЛА Ў ПАВЕТРЫ

***(Напісана па просьбе Сяргея Навумчыка для ягонай кнігі, прысьвечанай падзеям 1988-1995 гг.)***

Пасьля адкрыцьця Курапатаў вясной 1988 г. былі зробленыя мной першыя археалагічныя раскопкі пахаваньняў. Потым, у пачатку чэрвеня, быў надрукаваны артыкул ***„Курапаты – дарога сьмерці”***. Затым, у ліпені, адбыліся больш шырокія археалагічныя дасьледваньні, якія я праводзіў з групай археолагаў ужо ў кантэксьце ўзбуджанай крымінальнай справы па факту пахаваньняў. Пасьля гэтага ў жніўні пачынаецца праца над стварэньнем мэмарыяльнай арганізацыі ***„Камітэт – 58”***. Разам са мной працавала група асобаў. Гэта найперш ***Міхась Дубянецкі***, ***Мікола Купава***, ***Алесь Лукашук***, ***Алег Белавусаў*** і інш.

У час працы над стварэньнем *„Камітэту – 58”* нарадзілася ідэя ўтварыць Беларускі Народны Фронт па прыкладу прыбалтыйскіх, якія акурат у гэты час там былі створаныя. Ідэя была сьцісла дыскрэтнай (камуністычны рэжым на Беларусі трываў татальны і антыбеларускі). Размова вялася мной толькі зь Міхасём Дубянецкім. Мы не ўяўлялі яшчэ, як у той спэцыфічнай, да дна рэакцыйнай і антынацыянальнай сітуацыі, якая існавала на Беларусі, можна было прыступіць да справы, калі КГБ і парткамы кантралявалі кожны ўздых, а ўзровень грамадзтва быў цалкам дэнацыяналізаваны.

Мы меркавалі, што каб даць штуршок – аб’явіць пра Фронт і пачаць рэалізоўваць ідэю стварэньня. Павінна была зьявіцца нейкая аўтарытэтная асоба, якая хоць бы фармальна прылучылася да гэтай справы. Патрэбна было „імя”, настойваў Міхась Дубянецкі. Натуральна, што мы адразу зышліся на асобе ***Васіля Уладзімеравіча Быкава***.

Размова з Быкавым адбылася неўзабаве ў верасьні. Мы спаткаліся непадалёк ад Дому літаратара ля мураванай брамы-уваходу ў Дзіцячы парк (тады парк імя Горкага, хаця пры чым тут Горкі?) і хадзілі па скверыку ля пустых лавачак, размаўляючы. Быкаў вельмі прыхільна паставіўся да нашай ідэі, але лагодна адмаўляўся ад адказнай ролі, спасылаючыся на здароўе, свой характар, узрост, казаў што ён ня ўпэўнены, што зможа тут нешта зрабіць. Мы казалі, што рабіць будуць іншыя (мы, найперш), але, каб зьвярнуць увагу на справу, павінен быць на чале яе вядомы чалавек. Дубянецкі быў перакананы ў гэтым, і я зь ім пагаджаўся, хоць і адчуваў, што зь „вядомымі” ў Беларусі нічога не атрымаецца. Лепш бы зь „невядомымі” ды энэргічнымі і безаглядным. Цікава, што Быкаў нібы падтрымаў мае думкі. Ён сказаў, што лепш бы маладзейшых, ды актыўных, навошта тая вядомасьць – справа ж новая. Словам, Быкаў адмовіўся, і мы з Дубянецкім, седзячы на лавачцы, перабіралі па пальцах магчымыя кандыдатуры. І аказалася, што справа дрэнь: вядомых шмат, ды ўсе „савецкія”.

– А што, калі Гілевіча? – кажу я,– патрыёт, за мову змагаецца. Дубянецкі замаўчаў і стаў разглядаць кусты кізільніка, якім тады былі засаджаныя ўсе скверыкі Беларусі. Нарэшце пайшлі да Гілевіча.

– Гіблая справа, – кажа Дубянецкі.

– Калі ня згодзіцца? – пытаю.

– Калі згодзіцца,– адказвае Міхась Хведаравіч.

– Галоўнае пачаць, – кажу я, – а там пойдзем шырокім фронтам

Гэтак размаўляючы, зайшлі ў кабінэт да Ніла Гілевіча. Ніл Сымонавіч зацікавіўся і крыху ўсхваляваўся. Пачаў задаваць пытаньні. А як, а што, а ці ведае ЦК (Ух!), а можа трэба пагаварыць з Краўчанкам  (сакратар Менскага Гаркама КПБ па ідэалёгіі), бо справа добрая і г.д. Цікавая была размова – мізансцэна. Нарэшце Ніл Сымонавіч цьвёрда адмовіўся, і мы пайшлі.

Да самага 19 кастрычніка ніякай гаворкі пра кіраўніка больш не было. Аднак ідэя вісела ў паветры, і да мяне прыходзілі шмат хто (і незнаёмыя), асабліва перад устаноўчым сходам „Камітэту – 58”, і прапаноўвалі аб’явіць пра стварэньне Фронту. Я зразумеў, што КГБ цікавіцца намерамі, і на ўсе прапановы адказваў адмоўна, прыкідваўся зацыкленым на „камітэце”. У дзень сходу (19 кастрычніка 1988 г.) я склаў сьпіс будучага аргкамітэту Фронту з 23 асобаў і перад самым сходам паведаміў Быкаву і Дубянецкаму, што пры зручным моманце аб’явім пра Аргкамітэт БНФ і паставім на галасаваньне. Сітуацыя правамоцная, дэлегаты з усёй Беларусі, аб’явім, выберам, створым, прагаласуем, а там справа пойдзе – на руках панясем. Весьці сход павінен быў Міхась Дубянецкі.

Пасьля стварэньня „Камітэту – 58”, які па маёй прапанове назвалі „Мартыралог Беларусі” (праўда, з цяжкасьцю, бо шмат хто не разумеў сэнсу слова „мартыралог”), я прапанаваў утварыць Аргкамітэт БНФ „Адраджэньне” і зачытаў сьпіс асобаў, які тут жа на Сходзе дапаўненьнямі зь месцаў павялічылі да 35 чалавек і прагаласавалі за яго.

Так быў створаны Аргкамітэт Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне”. Больш падрабязна пра Устаноўчы Сход Мартыралёгу і пра гэтую падзею я пісаў у артыкуле *„Курапаты. 10 гадоў пасьля”*. Надрукаваны ў *„Беларускіх Ведамасьцях”* (скарочаны варыянт у *„Нашай Ніве”*) за 1998 г.

Потым аказалася, што як я ні стараўся адразу надзейна вызначыць склад Аргкамітэту (прапановы зь месца на Сходзе таксама былі ўзгодненыя), агентура ўсяроўна пралезла і адразу пачала круціцца каля Быкава. Былі моманты, што ўсё вісела на валаску, і Аргкамітэт проста трэсла. Цяпер з гумарам для сябе адзначаю, што нас ратавала тады толькі іхняя дурнота. (Подлыя справы, як правіла, робяць дурныя людзі.) Перад Устаноўчым Зьездам БНФ нам (адраджэнцам) удалося некаторых такіх „перабудоўшчыкаў” вытурыць, некаторых заблякаваць, і праца пайшла хуткімі тэмпамі (пад гістэрычны лямант камуністаў). Але наш цягнік ужо набіраў ходу і сьмела імчаў наперад да волі і незалежнасьці Беларусі.

***Зянон ПАЗЬНЯК***

*29 траўня 2006 г.*

**P.S.** Адносна таго, што В. Быкаў напісаў ва ўспамінах, што ня ведаў пра стварэньне БНФ. Быкаву і Дубянецкаму я сказаў пра свой намер абʼявіць аб стварэньні Аргкамітэту БНФ непасрэдна перад пачаткам *Устаноўчага Сходу Мартыралогу*. Маючы гэта на ўвазе, я пісаў пазьней, што пра ўтварэньне Фронту ведалі дзьве асобы (Быкаў і Дубянецкі). Плянаў маіх яны сапраўды ня ведалі. Я іх паставіў як бы перад фактам, у падтрымцы якога зь іхняга боку я не сумняваўся, бо ведаў пазыцыю абодвух. У дадзеным выпадку сцьвярджэньні „ведаў” – „ня ведаў” ёсьць розначытаньнем.

## *Зянон Пазьняк:*

## „МЫ ПАВІННЫ ГЭТЫ СЬЦЯГ І ГЭРБ БЕРАГЧЫ, ЯК СЬВЯТОЕ”

15 гадоў таму *(19-га верасьня 1991г.) Бел-Чырвона-Белы Сьцяг* і *„Пагоня”* сталі дзяржаўнымі сымбалямі. У верасьні 1991 году, праз некалькі дзён пасьля правалу маскоўскага путчу і наданьня на пазачарговай сэсіі Вярхоўнага Савету „Дэклярацыі аб сувэрэнітэце” статусу канстытуцыйнага закону, на патрабаваньне дэпутатаў Апазыцыі БНФ была скліканая яшчэ адна сэсія. У парадак дня было ўключана і пытаньне аб назове краіны і дзяржаўных сымвалах.

Аднак настроі большасьці дэпутатаў у сярэдзіне верасьня істотна розьніліся ад жнівеньскіх, „пасьляпутчаўскіх”. Дзейнасьць КПБ-КПСС была прыпыненая, але ва ўрадавых кабінэтах заставаліся тыя ж самыя чыноўнікі, якія былі прызначаныя партыяй. Вячаслаў Кебіч, які ў грамадзкай сьвядомасьці ўвасабляў намэнклятуру, заявіў пра намер заняць пасаду старшыні Вярхоўнага Савету (у верасьні 1991-га ён саступіць толькі некалькі галасоў Станіславу Шушкевічу).

Калі 25 жніўня 1991 г. канстытуцыйнасьць „Дэклярацыі аб сувэрэнітэце” набрала дзьве трацiны галасоў, дык праз тры тыдні атрымаць галасы дзьвюх трацінаў дэпутатаў, неабходных для прыняцьця дзяржаўнай сымволікі, выглядала праблематычна.

Акрамя таго, трэба было тэрмінова зрабіць эталон дзяржаўных сьцяга і гэрбу (як вядома, у розных крыніцах існавалі розныя (у дэталях) выявы „Пагоні”). На просьбу Зянона Пазьняка, групу мастакоў узначаліў ***Яўген Кулік***, яму дапамагалі ***Уладзімер Крукоўскі***, ***Мікола Купава*** і іншыя мастакі. Эталон гэрбу і сьцягу імі быў створаны.

У Доме Ўраду, у фае перад Авальнай заляй была зроблена выстава, прысьвечаная гісторыі *Бел-Чырвона-Белага Сьцягу* і *„Пагоні”*. Дэпутаты Апазыцыі БНФ у прыватных гутарках тлумачылі калегам па парляманце эпізоды беларускай гісторыі; некаторыя дэпутаты-ветэраны толькі ў тыя дні ўпершыню пачулі пра Грунвальд.

19 верасьня, калі падышоў час абмеркаваньня і галасаваньня, па настроях значнай часткі дэпутатаў зрабілася відавочна, што рашэньне можа і не прайсьці. Тады Зянон Пазьняк патэлефанаваў акадэміку-матэматыку ***Уладзімеру Платонаву***, папрасіў яго тэрмінова прыехаць і зачытаць афіцыйнае заключэньне навукоўцаў-гісторыкаў. Для „намэнклятурных” дэпутатаў пасада Платонава – прэзыдэнт Акадэміі Навук – мела аўтарытэт. Яшчэ большы аўтарытэт у намэнклятуры меў ***Георгій Таразевіч*** – былы Старшыня Прэзыдыюму ВС БССР, а ў той момант – старшыня камісіі і член Прэзыдыюму ВС СССР, якога таксама папрасілі выступіць у падтрымку нацыянальных сымбаляў.

Прыгадвае Старшыня Апазыцыі БНФ у ВС 12-га скліканьня ***Зянон Пазьняк:***

„Ужо апошняе галасаваньне, і зноў не набярэм адзін-два галасы. І гэта ўжо будзе канец. І тады я падышоў да аднаго намэнклятурнага камуніста, нашага ворага, я бачыў, што ён галасаваў „супраць”. Узяў яго за руку і, гледзячы ў вочы, сказаў: „Я Вас вельмі прашу, прагаласуйце за Сьцяг, дзеля нашай будучыні. Мы ж – беларусы!”. Ён быў ашаломлены. Але гэта быў прыстойны чалавек, і ён сказаў: „Добра. Я прагаласую”. І прагаласаваў. Трэба было набраць 231 голас. І калі на табло зьявілася лічба 231, я страціў прытомнасьць. Я проста ўпаў на стол галавой...

Павінен сказаць, што за ўсё жыцьцё, у цяжкіх фізычных і маральных абставінах, я ніколі не губляў прытомнасьці, ніколі не „адключаўся”. Прыняцьце Сьцягу нагэтулькі было цяжкім, нагэтулькі вымучыла усіх нас, „франтаўцаў”, у Вярхоўным Савеце, і нагэтулькі вісела на валаску, што калі Сьцяг быў прыняты, я адключыўся на нейкі час.

Прыйшоў у сябе хутка, сэрца было ў вельмі дрэнным стане, трэба было адпачыць трохі, але мяне пацягнулі на плошчу. Там стаяла тысячы дзьве людзей, можа, тысяча, трэба было выступаць. І калі я прыйшоў на плошчу, я яшчэ не адышоў ад вобмараку, і ня мог выступаць. Я пачаў нешта лепятаць, і ў мяне пацяклі сьлёзы. Цякуць сьлёзы перад усімі, я думаю: „Ну ўсё, канец палітыку Пазьняку. Плача, як баба. Усё”. І як ні дзіўна, гэтага ніхто не заўважыў. Проста ўсе жылі гэтай падзеяй. Плакалі многія, гэта здавалася натуральным, і многія проста не заўважылі майго стану. Вось як запомнілася мне псіхалагічна гэта ўсё”.

У той жа дзень, ***19 верасьня 1991 г., быў зьменены назоў краіны – замест Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі яна стала называцца Рэспубліка Беларусь.***

Вясной 1995 года прэзыдэнт Аляксандар Лукашэнка выступіў зь ініцыятывай правядзеньня рэфэрэндуму, які пра-

дугледжваў, сярод іншага, скасаваньне *Бел-Чырвона-Белага сьцягу* і *„Пагоні"* як дзяржаўных сымбаляў і наданьне расейскай мове роўнага статусу зь беларускай. Праект „новай" сымболікі распрацоўваў кіраўнік прэзыдэнцкай адміністрацыі Леанід Сініцын. Дэпутаты Апазыцыі БНФ заявілі пра неканстытуцыйнасьць рэфэрэндуму і на знак пратэсту абвясьцілі галадоўку, але былі зьбітыя ў залі парлямэнту спэцпадразьдзяленьнем КДБ „Альфа".

Адразу пасьля рэфэрэндуму (травень 1995 г.) кіраўнік справаў адміністрацыі прэзыдэнта Іван Ціцянкоў узьняўся на дах адміністрацыі і перад відэакамэрай разадраў Бел-Чырвона-Белае палатно на кавалкі, паставіўшы на іх свае аўтографы. Аднак прыкметна, што Вярхоўны Савет 12-га скліканьня так і не зацьвердзіў вынікі рэфэрэндуму – гэта зрабіў толькі Вярхоўны Савет 13-га скліканьня ў 1996 годзе.

Нагадаем, што падчас рэфэрэндуму назіральнікі зафіксавалі парушэньні „Закону аб народным галасаваньні (рэфэрэндуме)" – апанэнты ўлады не маглі данесьці альтэрнатыўную пазыцыю праз СМІ, на шмат якіх ўчастках зарэгістравалі фальсыфікацыі. На думку былога члена Канстытуцыйнага Суду, доктара юрыдычных навук, прафэсара ***Міхаіла Пастухова***, „калі прызнаць, што пытаньні аб мове і замене сымволікі не маглі, паводле дзейнага заканадаўства, выносіцца на галасаваньне, тады *„пераможныя"* вынікі страчваюць сваю прававую сілу і ня цягнуць за сабою ніякіх прававых наступстваў. Іх папросту належыць забыць і аднавіць ранейшае становішча".

***З. Пазьняк:*** – „Нацыянальны дзяржаўны Сьцяг і Гэрб – гэта сымвалы дзяржавы і нацыі. Але ня толькі сымвалы. Сьцяг і Гэрб ёсьць эквівалентам дзяржавы і эквівалентам нацыі. Прытым рэальным эквівалентам, так як, скажам, грошы ёсьць эквівалент пэўнай затрачанай працы. Калі ёсьць дзяржава, дык ёсьць і сьцяг. А калі няма сьцяга – дык нават карабля на моры ня будзеш мецЬ, прыйдзецца хадзіць пад чужым сьцягам. Таму сьцяг – гэта найважнейшая каштоўнасьць, якая сьцьвярджаецца ў першую чаргу. Як толькі сьцьвярджаецца нацыянальная дзяржава, тут жа прымаецца нацыянальны сьцяг. Гэта – мэта ўсёй нацыі. Які сьцяг – такая і дзяржава.

Мы маем цяпер фальшывы сьцяг, мы маем цяпер фальшывы рэжым. Гэта карэлюецца, і гэта зьвязана. Таму ***барацьба за сьцяг – гэта ёсьць барацьба за свабоду, за нацыю, за будучыню.*** Гэта ёсьць, паўтараю, найважнейшая каштоўнасьць у дзяржаўным будаўніцтве. Ёсьць тры важныя для нас каштоўнасьці – для ўсіх нас, аб'ектыўна, незалежна ад палітычных разыходжаньняў. Гэта наша дзяржава незалежная, гэта наша мова беларуская, і гэта наш *Бел-Чырвона-Белы сьцяг* і наш *гэрб „Пагоня"*.

Вось гэтыя сымвалы для нас ёсьць найважнейшыя. Яны прарастаюць з глыбіні, з глыбіні нашага Вялікага Княства, іх ніхто не прыдумаў, ніякі дыктатар. Іх прыдумаў наш народ, наша культура, на іх кроў нашых продкаў. І таму мы павінны гэты Сьцяг берагчы як сьвятое. Ён дапаможа нам вярнуцца да нашай велічы, да нашай вольнай вялікай дзяржавы".

***(Гутарку вёў Сяргей Навумчык (Радыё Свабода)***

*18 верасьня 2006*

# АДКАЗНАСЬЦЬ І САЛІДАРНАСЬЦЬ

Нядаўна ў адной з дыскусіяў у Інтэрнэце Сяргей Навумчык выказаў такія меркаваньні:

„З самага пачатку мяне насьцярожыла просьба даць ацэнкі калегам па парлямэнцкай Апазыцыі. Асабістыя ацэнкі Пазьняку, Голубеву, Баршчэўскаму, Садоўскаму, Беленькаму, Папкову, Трусаву і іншым калегам па Апазыцыі БНФ лічу магчымым даваць толькі пасьля таго, як у грамадзкай сьвядомасьці гэтыя асобы зоймуць месца, належнае палітыкам, якія аднавілі Незалежнасьць дзяржавы, і якое падобныя пэрсоны звычайна займаюць у іншых краінах. Вось калі гэтыя асобы будуць палітычна кананізаваныя, калі зьявяцца на паштовых марках ці грашовых купюрах – тады можна будзе напісаць, хто мог занадта імпульсіўна паспрачацца, хто быў занадта патрабавальны, хто менш, хто мог выпіць лішнія сто грамаў і г.д. Ва ўсялякім разе, пакуль гэтыя людзі абліваюцца брудам і ў афіцыйным друку і ў неафіцыйным – ніхто не пачуе ад мяне ні слова адносна іх асабістых якасьцяў."

Думкі, якія сфармуляваў Сяргей Навумчык – гэта вельмі правільная і разумная пазыцыя ў існуючых абставінах. Мы, дэпутаты Апазыцыі БНФ у Вярхоўным Савеце XII скліканьня, мусім памятаць пра сваю адказнасьць перад гісторыяй, адзін перад адным і перад справай, якая воляю лёсу стала галоўнай ў нашым жыцьці. Мы павінны разумець, што абплёўваньне, паніжэньне і затоптваньне нашай дзейнасьці ёсьць адна з прыярытэтных задачаў антыбеларускага рэжыму, якая робіцца (і будзе рабіцца) рознымі мэтадамі і рознымі людзьмі.

Ніхто лепш за нас ня ведае Лукашэнку і усю гэтую публіку з нашага Вярхоўнага Савета, якая служыць цяпер рэжыму ды прыкідваецца „дэмакратамі". Ня будзем губляцца перад ціскам, словаблудзтвам, паніжэньнем і хлусьнёй. Нашая салідарнасьць, пачуцьцё абавязку і ўсьведамленьне сваёй ролі павінна быць вышэй. Кожны рэжым мае свой канец. Скончыцца русіфікацыя і цемрашальства, вернецца павага і справядлівасьць. І нішто добрае, сьветлае, справядлівае не загіне.

***Зянон Пазьняк***

*30 верасьня 2006 г.*
*(Зьмешчана ў Сеціве)*

НАР. ВОЛЯ, – 2004, 15 красавіка.

# Зорка Прарока

Паважаная "Народная воля"!

Як вядома, 24 красавіка 2004 года спаўняецца 60 гадоў з дня нараджэння выдатнага сына беларускага народа, грамадскага і палітычнага дзеяча нашай краіны, старшыні Кансерватыўна-Хрысціянскай партыі — БНФ Зянона Станіслававіча Пазьняка.

Бадай, немагчыма пералічыць усё тое станоўчае, навукова абгрунтаванае і жыццёва важнае, што зрабіў для Беларусі гэты выдатны наш сучаснік. Зрабіў чалавек, якога цярпець не маглі афіцыйныя ўлады. Але велізарная працаздольнасць, фенаменальны розум, магутная сіла волі, а галоўнае, невымерная сыноўская любоў да маці-Радзімы далі свой плён. У многім менавіта дзякуючы гэтым якасцям З.Пазьняка быў закладзены падмурак для пабудовы незалежнасці нашай краіны. Тое, што было зроблена шараговым дэпутатам Вярхоўнага Савета 12-га склікання і яго паплечнікамі ва ўмовах варожага асяродку, — гэта сапраўдны цуд, сапраўдны подзвіг. Гісторыя яшчэ скажа аб гэтым. Але і мы, сучаснікі, павінны справядліва ацаніць маштаб і значнасць дзейнасці гэтай асобы.

Магутны дзяржаўны Малох вось ужо на працягу 10 гадоў не здольны размалоць тыя парасткі свабоды і незалежнасці, што пасеяны чалавекам ад Бога. Таму многія і многія грамадзяне нашай краіны з нагоды юбілейнай даты Зянона Станіслававіча шчыра віншуюць славутага сына Бацькаўшчыны.



Мы молімся і просім Бога, каб Усявышні дараваў нашаму беларускаму Прароку моцнае здароўе, даўгалецце і хутчэйшае вяртанне на Радзіму, дзе яго ў слязах чакае матуля і народ Беларусі. Няхай ніколі не згасне яго зорка!

**Па даручэнні шэрагу грамадзян Пружаншчыны, каму не абыякавы лёс Бацькаўшчыны,—**

**Мікола КАПАХОВІЧ,**
**афіцэр у адстаўцы.**

*г.Пружаны.*

*Д-58. („Народная Воля", – 2004, 15 красавіка). Прыклад аднаго з хвалебных лістоў.*

# ЧЕЛОВЕК ЭПОХИ ВОЗРОЖДЕНИЯ

## Зенон Пазьняк - титан и энциклопедист

**Некоторые отечественные культурологи относят период 1989-94гг. к третьей волне национального Возрождения. А потому видного деятеля дореферендумной Беларуси Зенона Пазьняка, эмигрировавшего в 1996г., можно смело назвать человеком эпохи Возрождения. Некоторым нашим современникам этого показалось мало. 21 апреля соратники Зенона Пазьняка вознесли его в разряд *«пророков»*, сравнили с Христом и поставили в один ряд с *«титанами»* уже не белорусского, а итальянского Возрождения.**

Родион РАСКОЛЬНИКОВ

Сейчас такое время, что все наши политики пишут книги. Наверное, оттого, что больше в Беларуси политику делать особо нечего. Лидер консервативно-христианской партии БНФ **Зенон Пазьняк** выделился и на этом фоне. Публике недавно были представлены сразу две его книги. Презентация, как передает БелаПАН, состоялась 21 апреля в Доме культуры ОАО «Сукно». Одна книга называется «Новае стагоддзе», вторая - «Гутаркі з Антонам Шукелойцам». Обе изданы «Беларускімі ведамасьцямі» (Варшава) совместно с «Таварыствам беларускай культуры ў Летуве» (Вильнюс).




Зенон Пазьняк - политик-пророк, вознёсшийся к космическим вершинам

Если верить информации агентства, презентация получилась эпохальная, сопоставимая со всебелорусскими собраниями и съездом Советов. Так, открывая вечер, исполняющий обязанности председателя КХП-БНФ **Юрий Беленький** сказал следующую непростую фразу: *«Содержание книг и образ автора нерасторжимы»*. Далее выступил секретарь управы КХП-БНФ **Валерий Буйвол**, который, по данным БелаПАН, *«сравнил личность Пазьняка с титанами эпохи Возрождения и энциклопедистами 18-го века»*. Этого Валерию Буйволу показалось мало и он добавил: *«Посредством своих оригинальных идей он может вознестись к космическим вершинам и сохранить при этом органическую связь с жизнью реального человека»*.

По мнению Буйвола, произведениям Пазьняка свойственны универсализм мысли, образность, безжалостный юмор, неповторимость стиля и взглядов. *«Однако главная ценность для него - талант и интеллект белорусской нации»*, - заметил соратник Зенона Станиславовича.

Еще дальше пошел член КХП-БНФ **Николай Крыжановский**, который *«напомнил слова из Библии о том, что нет пророка в своем Отечестве»*. Вот как это глобальное наблюдение было интерполировано на Беларусь: *«Об этом свидетельствуют история Иисуса Христа, судьбы Янки Купалы, Василя Быкова и Зенона Пазьняка, который стал политиком-пророком, изгнанным со своей Родины»*.

В принципе на этом можно было бы остановиться: образ происходящих в умах членов партии процессов вырисовывается достаточно выпукло. Но никак нельзя обойти сказанное на презентации заместителем председателя КХП-БНФ **Сергеем Попковым**, заявившим, что *«величие мысли»* (!) Пазьняка проявилось в самом построении книги «Новае стагоддзе». *«Последовательность изложения - человек, белорусский язык, белорусский народ, территория и природа страны, культура, история и собственность белорусов - ориентируют людей на то, каким быть белорусу и как ему действовать»*, - сказал политик.

Можно лишь порадоваться тому, что теперь у нас у всех появился четкий ориентир. Осталось найти книгу Зенона Станиславовича, открыть и - в добрый путь!

***Д-59. („Белорусская Газета", – 2004, 26 апреля). Прыклад зьдзеклівага артыкула ў рускім друку як рэакцыі на нястрыманую пахвальбу.***

## *Зянон Пазьняк:*
# „У ТУЮ НОЧ КІРАВАЎ „АПЭРАЦЫЯЙ” ЛУКАШЭНКА”

**11 красавіка 1995 году дзевятнаццаць дэпутатаў Апазыцыі БНФ у Вярхоўным Савеце 12 скліканьня абвясьцілі галадоўку, пратэстуючы супраць прапанаванага прэзыдэнтам Аляксандрам Лукашэнкам рэфэрэндуму аб скасаваньні Бел-Чырвона-Белага Сьцягу і Гэрбу „Пагоня” як дзяржаўных сымбаляў, скасаваньні статусу беларускай мовы як адзінай дзяржаўнай мовы, эканамічнай інтэграцыі з Расеяй і праве прэзыдэнта распускаць парлямэнт. Пасьля абвяшчэньня галадоўкі, калі дэпутаты БНФ селі каля трыбуны, большасьць дэпутатаў ВС не прагаласавалі за прапановы Лукашэнкі. Аднак ўначы 12 красавіка ў Авальную залю былі ўведзеныя войскі; людзі ў чорных масках (падразьдзяленьне КДБ „Альфа” ) зьбілі дэпутатаў і выцягнулі іх з будынку. На сувязі з Нью-Ёрку – старшыня Апазыцыі БНФ у ВС 12 скліканьня Зянон Пазьняк.**

**С. Навумчык: --** Спадар Зянон, у нашай гутарцы я хацеў бы адысьці ад храналёгіі, бо пра падзеі ў ноч з 11 на 12 красавіка шмат напісана і, напэўна, будзе напісана яшчэ болей. І ўсё ж, перш чым перайсьці да аналізу, хацеў бы запытацца вось пра што. 18 ліпеня 1995 года ў Кіеве, пад час пахаваньня Патрыярха Уладзімера, спэцназ жорстка зьбіў удзельнікаў жалобнага шэсьця. Але труну ўдалося апусьціць у зямлю, бо вакол стаялі дэпутаты Вярхоўнай Рады, і ніводзін з міліцыянтаў, спэцназаўцаў не пасьмеў ударыць лідэра апазыцыі Вячаслава Чарнавіла. У красавіцкую ноч у Авальнай залі Вам дасталася больш за астатніх. Кажу гэта як сьведка, бо Вы сядзелі перада мной і я, перш чым мяне выцягнулі, пасьпеў пабачыць, як адзін ў чорнай масцы з разьбегу стукнуў Вас нагой у грудзі, а другі пачаў выціскаць вочы. Вы маглі ўявіць, што супраць Вас, супраць дэпутатаў будзе прымененая грубая фізічная сіла.

**З. Пазьняк: –** Я ўявіць такое ня мог. Але гэта навяло мяне на думку, што істоты ў масках былі чужыя ў Беларусі людзі. Цяпер, праўда, афіцыйна, з выступу генэрала КДБ Кеза ў Вярхоўным Савеце вядома, што ў тую ноч на нас напалі батальён спэцназу ў 600 чалавек, і група КДБ «Альфа». Але я і цяпер не выключаю. што там маглі быць спэцыяльныя людзі з Масквы. Другая думка, якая прыходзіць – што магла быць спэцыяльная рэкамэндацыя Лукашэнкі – «Даць і не цырымоніцца!», Наколькі я ведаю ягоную адвечна пакрыўджаную душу, сузіраньне на маніторы сцэны, як нас бьюць і зьневажаюць, было для яго незабыўнай асалодай і хвілінай шчасьця. У гэты момант ён мог, напэўна, адчуць сябе «вялікім». І трэці фактар. Была глыбокая ноч, у зачыненым памяшканьні. Нападнікі былі бяз сьведак і з гарантаванай індульгенцыяй. Гэта паспрыяла праяўленьню цёмных інстынктаў. А з падзеямі ў Кіеве тут – няма параўнаньня.

**С. Навумчык: --** Канешне, можна ўявіць, што гэтыя трэніраваныя шэсьцьсот чалавек маглі зрабіць з дзевятнаццацьцю дэпутатамі. З другога боку – чыста тэхнічна, пры жаданьні яны маглі і не зьбіваць, а проста вынесьці дэпутатаў з Авальнай залі. Але зьбівалі ў залі, зьбівалі, калі цягнулі па фае і па лесьвіцы, і ў „варанкі” закідвалі галавой наперад. Усё гэта зафіксавана судмедэкспэртызай і сьледзтвам. Зразумела, што дзейнічалі ў дакладнай адпаведнасьці з загадам. Якая была мэта такіх дзеяньняў (не забіць, але моцна зьбіць)?

**З. Пазьняк: –** Не сумняваюся, што тут было асабістае ўказаньне Лукашэнкі, які прысутнічаў у тую ноч ў Доме ўраду і кіраваў „апэрацыяй”. Тут ён увесь, як у люстэрку. Мы яго добра ведаем яшчэ па футбольных трэніроўках, калі ён ашалела ганяўся па полі за Юры Беленькім. Для людзей такога тыпу псыхікі важна было засьведчыць, што ён нас не паважае і ў грош ня цэніць. Гэтым ён пасылаў нам сваё паведамленьне, маўляў, вы – ніхто і нішто. І гэта ўзьвялічвала яго ва ўласных вачох. Адным словам, звычайная банальшчына велізарнай улады і маленькага чалавека.

## „ГРАМАДЗТВА НЕ БЫЛО НАЦЫЯНАЛЬНЫМ”

**С. Навумчык: --** Адразу пасьля гвалтоўнага спыненьня галадоўкі Васіль Быкаў заявіў па Свабодзе, што з гэтага моманту ў „краіне закіруе прэзыдэнцкая хунта”. Але факт застаецца фактам: грамадзтва – ва ўсялякім разе, большая яго частка, – абыякава паставілася да гэтай падзеі.

**З. Пазьняк: –** Таму што беларускае грамадзтва на той час (і тым больш – цяпер), у большасьці сваёй, не было яшчэ нацыянальным грамадзтвам. Гэта было тыповае савецкае грамадзтва, якое рэагавала на ўсё адпаведным савецкім чынам. Калісьці студэнтам я жыў на кватэры ў аднаго добрага чалавека, вайсковага старшыны. Ён выхоўваў свайго малалетняга сына дзягай і адной фразай: „Нікуда не лезь і нічаво ня дзелай”. Вось вам квінтэсэнцыя савецкіх грамадзкіх паводзінаў – галаву ў пясок, і мяне не датычыць. Што да некаторых псэўдаапазыцыйных дзеячоў, дык яны альбо тады былі ў хунце, падтрымлівалі Лукашэнку ў гэтай гнюснай справе, альбо, ў лепшым выпадку, маўчалі. Гэта прэм’ер Чыгір, Ганчар, Булахаў, Лябедзька, міністры Лявонаў і Марыніч, Фядута і іншыя. Усе яны ціха маўчалі і ціха радваліся. Хаця, павінен сказаць, тады іхняя роля была больш прыстойная, чым цяпер.

**С. Навумчык: --** Некаторыя заходнія газэты на наступны дзень выйшлі з рэпартажамі на першых палосах. Выказаў пратэст Дзярждэпартамэнт ЗША. Група літоўскіх дэпутатаў выказала пратэст. Але – толькі група, не парлямэнт. І давайце прызнаем, што міжнароднай рэакцыі – той, на якую магла разьлічваць апазыцыя – не было. Чаму, як Вы мяркуеце?

**З. Пазьняк: –** На той час Захад не лічыў Лукашэнку дыктатарам і думаў, што ў Беларусі ёсьць нейкая квазідэмакратыя. Падзеі ў Беларусі ў ноч на 12 красавіка ня ўкладваліся ў іхнія заходнія мазгі. Яны ня ведалі, як сябе паводзіць. Ведаеце, гэта як сабака, якому на сьлед махоркі насыпалі – ён і разгубіўся. Што датычыць Летувы, дык тут усё звычайна. Калі мы, беларускія дэпутаты, па просьбе Ландзбергіса сядзелі ў ягоным кабінэце ў Вільні ў Вярхоўным Савеце і чакалі савецкіх танкаў, каб быць сьведкамі магчымых падзеяў, – гэта для іх было адно. А калі войскі ўварваліся ў Вярхоўны Савет у Менску і зьбілі нас, беларускіх дэпутатаў – гэта ж ужо другое. Чаго ж тут зьдзіўляцца? Я ўжо не кажу ўвогуле пра нашую падтрымку тады іхняй незалежнасьці. Цяпер яны мяне ўжо не пазнаюць. Але ўсё гэта, як кажуць, старое, як сьвет”.

## „ВЯЛІКАЕ ТРЫМАЕЦЦА НА ВЯЛІКІМ”

**С. Навумчык: --** Дзевятнаццаць дэпутатаў Апазыцыі БНФ спрабавалі супрацьстаяць рэфэрэндуму, які потым шмат кім быў ацэнены як „нацыянальная ганьба”, пасьля якога этап нацыянальнага Адраджэньня быў спынены. Аднак нядаўна ў „Нашай Ніве” была выказана думка, што ня ўсё так трагічна, што „працэс разьвіцьця культуры і мовы набыў натуральны характар” (гэта значыць, разьвіваецца і без дзяржаўнага спрыяньня), а „сёньняшняя беларуская культура – гэта сучасная дынамічная культура, збудаваная, напрыклад, на такіх кітах, як «ARCHE», Глёбус і Інтэрнэт”. Вы згодны з такімі аптымістычнымі ацэнкамі?

**З. Пазьняк:** – Усё гэта можна ўспрыняць толькі як жарт, асабліва пра «кітоў». Калі плююць у твар – ня трэба прыкідвацца, што дождж ідзе. Гэта нейкі мазахізм, збочанасьць у мазгах. Дарэчы, беларуская культура трымаецца на Купалу, на Коласе, на Быкаве, на Багдановічы, на Барадуліне, Разанаве, Бураўкіну, Някляеве… Словам, вялікае трымаецца на вялікім, трывалае – на трывалым, нацыянальнае – на нацыянальным. Шчыра кажучы, мяне часам палохае гэтая багемнасьць, гэтая другаснасьць думаньня сярод чумы. У такіх выпадках часам да болю ў душы адчуваю, што не хапае Быкава.

**„Выпраўленьне дэфармацыі трактуюць як радыкалізм”**

**С. Навумчык: --** Сярод пытаньняў, вынесеных Лукашэнкам на рэфэрэндум 1995 году, галоўнымі ўяўляліся статус беларускай мовы як адзінай дзяржаўнай і эканамічная інтэграцыя з Расеяй. Шэраг сёньняшніх апазыцыйных палітыкаў закідаюць пэрсанальна Вам папрок, што ў пачатку 90-ых была зробленая галоўная памылка – а менавіта, што гаварылася пра неабходнасьць беларусізацыі. І што ня варта было казаць ні пра мову, ні пра ўзаемаадносіны за Расеяй…

**З. Пазьняк:** – Цяперашнія так званыя апазыцыйныя палітыкі ў той час – у 90-ых гадах – былі альбо ў стане намэнклятуры і выступалі супраць Беларускага Народнага Фронту, альбо сядзелі на кухні і «ні ў што ня ўмешваліся». Мне шкода часу камэнтаваць іхныя кухонныя разважаньні. Гэта вечны маргінэз. І вечнае аматарства, нават калі ім займаецца агентура.

Палітычная барацьба заснаваная на жорсткіх правілах – дэкляруецца ідэя і мэтады яе ажыцьцяўленьня. Толькі гэтыя дзеяньні зьбіраюць прыхільнікаў і арганізуюць сілу. Сілай можна перамагчы. Альбо – саступіць іншай сіле. І вось тады на сцэне зьяўляюцца мудрацы – аматары, кухонныя палітыкі, якія кажуць, што сьвечку трэба ставіць пад стол, што трэба «прыкінуцца шлангам» і павесьці за сабой народ. А потым, прывёўшы, сказаць: «Стой, кругом! Крокам руш!».Такое вось паняцьце. Глупствы такога кшталту гучаць увесь час. Яны несьмяротныя, як несьмяротныя дурні.

Нядаўна ў Менску два арыгіналы кухоннай думкі на поўным сур’ёзе прыкінуліся сьвяцейшымі за Лукашэнку (ўсё згодна з «тэорыяй шлангу») і абвясьцілі мітынг «единения» з Расеяй, пад Бел-Чырвона-Белым Сьцягам і расейскім трыкалёрам. На мітынг прыйшло тры з паловай чалавекі. Але ніякіх высноваў са сваіх дзіцячых разважаньняў гэтая публіка, натуральна, ня робіць. Яны спэцыялізуюцца па тэме : даваць парады «мінуламу» Пазьняку і шукаць памылкі.

Дарэчы, пра «памылкі». ***І праўда пра Чарнобыль, і праўда пра Курапаты, і галоўнае – Незалежнасьць Беларусі сталі магчымымі толькі таму, што БНФ, найперш – дэпутацкая Апазыцыя БНФ у Вярхоўным Савеце – не нарабілі памылак.*** На вайне бывалі перамогі авангарду на полі бою. Але не было яшчэ такога выпадку, каб палітычны, грамадзкі авангард і 8 адсоткаў дэпутатаў у парлямэнце легальнымі, палітычнымі, парлямэнцкімі сродкамі выйгралі бітву за Незалежнасьць. Выйгралі таму, што дзейнічалі разумна, дакладна, сьмела і рашуча. І галоўнае – не зрабілі ніводнай памылкі! Любая памылка ў той сытуацыі магла б абярнуцца паразай. Масква гэта разумее. Таму скрыгоча зубамі пра „памылкі” бясконца. Ня ведаюць, за якое месца нас укусіць.

**С. Навумчык: --** Але трэба прызнаць, што цяпер ўсё часьцей пра нацыянальную ідэю гавораць нават тыя, хто раней яе ігнараваў. Праўда, часта – без акцэнтаваньня на праблемах беларускай мовы і нацыянальнай культуры…

**З. Пазьняк:** – Нацыянальная ідэя мае два галоўныя грамадзкія складнікі. Першы і першасны складнік – ***нацыянальная мова***. Другі – ***нацыянальная незалежнасьць дзяржавы***. Адмаўленьне ад галоўных складнікаў нацыянальнай ідэі могуць патрабаваць альбо круглыя дурні, альбо ворагі. Кухонная «тэорыя шлангаў» сюды не падыходзіць. ***Першасным мэтадам ажыцьцяўленьня нацыянальнай ідэі ёсьць унівэрсальная ідэалёгія нацыянальнага адраджэньня, якая палягае ў неабходнасьці адраджэньня ўсяго таго, што было разбурана акупантамі і дэфармавана імпэрцамі.*** Без адраджэньня разбуранага, без паправы дэфармаванага – нацыянальная ідэя ня будзе мець ні грамадзкай, ні электаральнай базы.

Чужая ***імпэрская прапаганда супрацьпастаўляе Адраджэньню пазыцыю «статус кво», якая накіраваная на замацаваньне вынікаў акупацыйнай палітыкі ў якасьці сацыяльнай нормы,*** на якую мусіць абапірацца ўсялякае праўнае і грамадзкае дзеяньне. Зьмяненьне дэмаграфічнай сытуацыі ў выніку генацыду, зьнішчэньне беларускай школы, забарона беларускай мовы, русыфікацыя, – усё гэта прадстаўлялася рускімі камуністамі і імпэрцамі усіх масьцяў як існуючая норма грамадзтва. Як існуючае дэ-факто. А яно так і было.

Грамадзкая дэфармацыя – вынік антыбеларускай палітыкі – прадстаўлялася як «статус кво», на падставе якога мусіў бы і далей існаваць народ. Усялякая спроба выпраўленьня дэфармацыі трактавалася імпэрцамі як радыкалізм, экстрэмізм, парушэньне парадку, гвалт над грамадзтвам, фашызм, «антирусские настроения» і гэтак далей.

Агрэсіўнасьць пазыцыі „статус кво” вынікае зь яе імпэрскай антыбеларускай сутнасьці. Усе антынацыянальныя, так званыя «агульнадэмакратычныя» і прамаскоўскія групы стаялі і стаяць на пазыцыі „статус кво”. З гэтай жа пазыцыі вынікае і кухонная філязофія «прыкідваньня», патрабаваньне „не выпячвацца з нацыянальнай ідэяй, зь беларускай мовай” і гэтак далей. Усё гэта гучыць часам камічна, але ня выглядае, аднак, такім ужо і сьмешным, бо адлюстроўвае выразную антыбеларускую пазыцыю, выяўленую ў дэмагагічнай і бесталковай форме.

***Сяргей Навумчык (радыё Свабода)***

*11 красавіка 2007*
*Надрукавана:*
*http://www.svaboda.org/images/photo/haladouka_deputatau_big.jpg*

## *Зянон Пазьняк:*
## „ПРЭЗЫДЫЮМ ВЯРХОЎНАГА САВЕТУ ВЫРАШЫЎ ПАЧАЦЬ СУПРАЦЬ ЛУКАШЭНКІ КРЫМІНАЛЬНУЮ СПРАВУ”

**Ул. інф.** *Аб падзеях, што адбыліся ў ноч з 11 на 12 красавіка 1995 году, згадвае старшыня партыі КХП-БНФ, а тады – кіраўнік фракцыі Апазыцыі БНФ у Вярхоўным савеце 12-га скліканьня Зянон Пазьняк.*

**З. Пазьняк:** – Гаворачы пра ўвод войскаў у Парлямант, які адбыўся ў ночы з 11 на 12 красавіка 1995 года, трэба адзначыць, што ў палітычных зьявах існуюць вызначальныя дачыненьні, па якіх можна меркаваць аб характары будучых падзеяў. Напрыклад, публічнае парваньне і зьневажэньне перад усёй нацыяй *Бел-Чырвона-Белага сьцяга* Ціцянковым. Гэты чалавек аніяк ня быў пакараны. Выснова адназначная: грамадзтва няздольнае да барацьбы за інтарэсы сваёй нацыі. Гэта клясычны тэст, пацьверджаны практыкай.

Тое ж самае адносіцца і да зьбіцьця дэпутатаў у парляманце батальёнам спэцназу. У той жа дзень многія дэпутаты ад намэнклятуры радаваліся: Лябедзька, Ганчар. Яны думалі, што гэта перамога іхнай крэатуры, іхнага прэзыдэнта, бо Лябедзька тады быў прадстаўніком прэзыдэнта ў парляманце. Некаторыя былыя камуністы радаваліся мне ў твар, а потым, праз год, казалі: „Зянон Станіслававіч, дуракі мы, дуракі, чаму мы вас не паслухаліся?"

Груба была парушаная Канстытуцыя, права, былі ўведзеныя войскі ў парлямант і зьбітыя дэпутаты, і калі было прынята незаконнае рашэньне аб рэфэрэндуме – бо ў часе нашай галадоўкі парлямант, пад уплывам гэтай галадоўкі, адкінуў усе пытаньні, акрамя эканамічных, усе пытаньні рэфэрэндуму, якія выставіў Лукашэнка, і Лукашэнка ў гістэрыцы выскачыў з парляманту. Гэта было рашэньне закону. Увядзеньнем войска ўсё было паламана, і быў зроблены гвалт над грамадзтвам, над парлямантам, над Канстытуцыяй.

**Вольга Караткевіч: –** Спадар Зянон, Вам было страшна ў той момант?

**З. Пазьняк: –** Мне страшна не было. Я тут не хвалюся, мне абсалютна не было страшна, я нават ня мог дапусьціць, што да мяне нехта даткнецца – у мяне ніколі такога не было, я ніколі ня меў ніякай аховы, я езьдзіў ноччу тралейбусам, калі мяне пазнаваў хто-небудзь уначы – нават п'яныя, ніколі не было канфліктаў – адна дабразычлівасьць. Я спатыкаўся ў такіх абставінах з рознымі людзьмі, яны адразу хацелі са мной пагаварыць, але ніхто не выяўляў агрэсіі. А тут гэтыя на мяне накінуліся – я зь іх пазрываў маскі, гэта людзі былі неславянскай зьнешнасьці. Яны хапалі мяне, білі, душылі, хацелі выціснуць вочы, я зразумеў – яны ў першы раз мяне бачаць. Яны ўвогуле ня ведалі, хто я такі, яны выконвалі ўказаньне. Гэта інтуітыўна дало мне падставы думаць, што там былі задзейнічаны сілы з Масквы.

**В. Караткевіч: –** Зянон Станіслававіч, пасьля гэтых падзеяў адбылося шмат падзеяў у Беларусі, на якія міжнародная супольнасьць вельмі актыўна рэагавала – рэфэрэндум 1995, 1996 году, зьніклыя ў Беларусі. Чаму тады, на Вашу думку, сьвет праглынуў інфармацыю аб зьбіцьці дэпутатаў? Гэта была адсутнасьць інфармацыі ці недаацэнка таго, што адбывалася ў Беларусі?

**З. Пазьняк: –** Спадзяваньні на іншых, на Захад, на міжнародную супольнасьць – гэта спадзяваньні інфантыльнай палітычнай сьведамасьці. Галоўнае спадзяваньне павінна быць на самых сябе. Ніякі Захад, ніякая міжнародная супольнасьць нічога ня будзе рабіць для некага, калі той сам нічога ня робіць. І вось пасьля гэтага зьбіцьця ўсе нашыя дэпутаты казалі аб тым, што сёньня патапталі нас, патапталі парлямант – заўтра будуць таптаць народ, усё грамадзтва, будуць біць і пляваць у твар, таму што вы не абаранілі нас. Гэта гаварылася, гэта нават запісана. Тое самае з рэфэрэндумам: грамадзтва не рэагавала. Прыязджалі і польскія дэпутаты, і што яны ўбачылі? Грамадзтва пра гэта ня ведае, яму гэта не абходзіць, у іх „боршч варыцца".

І вось гэтая падзея была тэставая падзея, вызначальная, як і парваньне сьцяга, падзея трагічная, таму што мы, вельмі малой колькасьцю, вельмі нечаканымі і правільнымі дзеяньнямі выйгралі ў гэтага рэжыму, мы перакулілі гэтую афёру з рэфэрэндумам, і Лукашэнка вісеў ужо на валаску, ужо было рашэньне прэзыдыюма Вярхоўнага савета, на якім мы прысутнічалі і на якім было пастаноўлена пачаць супраць Лукашэнкі крымінальную справу. Ён павінен быў бы быць адхілены ад дзейнасьці, застаючыся прэзыдэнтам – тым больш, што пракурор Шаладонаў гэтую справу пачаў па факту зьбіцьця. І тады, калі падышлі да парляманта і ўбачылі, што ён абкружаны войскам, і нават М. Грыба, старшыню ВС, не прапускаюць, то мы прайшлі, але ўжо было позна.

Грыб прайшоў – і вось на ім, як тагачасным старшыні ВС, ляжыць вялікая маральная адказнасьць за тое, што не былі пакараныя спраўцы дзяржаўнага злачынства. Другая адказнасьць ляжыць на людзях, якія прадстаўлялі прэзыдэнта. Гэта, я ўжо казаў, прадстаўнік прэзыдэнта ў парляманце Лябедзька, яго асяродзьдзе – Булахаў, Ганчар – гэтыя людзі, юрысты, маўкліва пагадзіліся са страшным ламаньнем права. Гэта ў палітыцы не забываецца і не даруецца. Калі на гэты раз наша грамадзтва даруе такое, яно прадоўжыць сваё існаваньне ў гэтым рэжыме.

**В.Караткевіч: –** Зянон Станіслававіч, калі ўявім, што былі б магчымыя адкрытыя тэледэбаты з Лукашэнкам – з чаго б Вы іх пачалі?

**З. Пазьняк: –** У мяне ня можа быць ніякіх тэледэбатаў з Лукашэнкам. Гэта ня тая асоба, зь якой можна аб нечым дэбатаваць – гэта асоба, якая зьняважыла народ, нацыю, патаптала нашую гісторыю, нашую культуру – гэта ня тая сістэма ўзаемадачыненьняў. Гэта чалавек, які павінен панесьці адказнасьць па шэрагу пэўных артыкулаў Крымінальнага кодэксу. Вось і ўсё, якія могуць быць дэбаты? Калі людзі парвалі Сьцяг, зьняважылі нацыю, сказалі „сувэрэнітэт – гэта нішто", калі ўкінулі ў такое балота цэлы народ на 10 гадоў – і што, гэта дыскусійнае пытаньне? Не дыскутуецца пытаньне, жыць альбо ня жыць."

***(Радыё Свабода, 12 красавіка 2005 г.)***

# ПАСЬЛЯСЛОЎЕ

Перагарнуўшы апошнюю старонку, я павінен растлумачыць чытачу прынцып працы над гэтай кнігай. Стваралася яна адначасна зь бягучымі справамі і ў рэчышчы палітычных клопатаў, якім ня бачна канца. Але галоўнае ня ў гэтым.

У мяне няма рэальнага доступу да энцыкляпэдыяў, слоўнікаў, выдадзеных у Беларусі, і іншай даведачнай літаратуры (Беларускі Інтэрнэт вельмі бедны), тым больш, няма доступу да архіўных падшывак газэтаў пэрыяду СССР, стэнаграмаў і г. д.

Дзеля ўдакладненьня нават даты выданьня якога-небудзь тэксту ў пэрыядычным друку я вымушаны быў траціць шмат часу, лістоў, перамоваў і г. д.

Выданьне кнігі на бездакорным навуковым узроўні дасьледчыцкага апарату зацягнулася б на доўгія гады і ў дадзеным выпадку было б бяссэнсавым з пункту гледжаньня тых задачаў, якія стаяць цяпер перад нашым нацыянальна-культурным асьветніцтвам. Таму шэраг матэрыялаў агульнага і дапаможнага кшталту проста сканаваныя і перазьнятыя з тых копіяў, якія цягам доўгіх гадоў удалося здабыць. У некалькіх тэкстах адсутнічае дакладная дата (дзень) выданьня, і я сьвядома вымушаны быў адмовіцца ад мытарных пошукаў з-за мяжы па беларускіх бібліятэках і архівах дробязнай (з пункту гледжаньня зьместу) і даступнай у Беларусі інфармацыі.

Удалося, аднак, тут зьмясьціць асноўныя канцэптуальныя працы і тэксты інфармацыйнага кшталту, якія адбіваюць той час, атмасфэру змаганьня і дачыненьняў.

Храналягічныя рамкі кнігі абмежаваныя, практычна, пэрыядам існаваньня Вярхоўнага Савета 12-га скліканьня і дзейнасьцю дэпутацкай Апазыцыі БНФ. Але фармальны пункт адліку – да эміграцыі.

Наступны пэрыяд – пэрыяд імпэрыялістычнай рэакцыі і прамаскоўскага рэжыму (які мы перажываем па сёньняшні дзень) – паставіў перад Беларускім Адраджэньнем складаныя задачы – задачы абароны, змаганьня і наступу ў новых умовах унутранай акупацыі і шырокіх паўнамоцтваў рэпрэсіўных органаў рэжымнай улады (КГБ). Нацыянальна-дэмакратычныя сілы Беларусі (перш за ўсё БНФ) панесьлі вялікія страты, але, дзякуючы якраз дакладнай канцэптуальнай арыентацыі ў складаных умовах нішчэньня ўсяго беларускага, захавалі сваю ідэёвую базу, структуры, прыхільнікаў і пэрспэктыву.

Другая кніга пра канцэпцыю беларускай барацьбы, дзеля захаваньня нацыі, незалежнасьці і дзяржавы і дзеля перамогі над імпэрскай палітыкай расейскага рэжыму і над дыктатурай у Беларусі будзе пасьвечана рэшце 90-х гадоў і пачатку XXI стагоддзя.

***Зянон ПАЗЬНЯК***

*5 ліпеня 2007 г.*
*Нью-Ёрк*

# ПАКАЗЬНІК АСОБАЎ


Адамовіч Алесь – 39, 202
Авербух – 137
Агінскі – 180
Аграноўская Эла – 211
Адамашын А. – 172
Ажэшка Э. – 211
Айзенштат Галіна – 83, 106
Акаеў – 74
Аксак Валянціна – 94
Аксаміт М. – 220, 221, 226, 238, 264
Аляміеў Віктар – 51, 221, 226, 238, 242, 250, 252, 264
Аляксей Міхайлавіч (цар) – 70, 210
Аляксейчык – 191
Аляхновіч Францішак – 36
Аляшкевіч Іван Міхайлавіч – 51
Антановіч – 6
Антончык Сяргей – 220, 221, 226, 238, 242, 250, 264
Андранік (епіскап) – 138
Апрышка Алесь – 251
Арлоў Уладзя – 94, 99, 216
Арманд Інэса – 124
Арцыменя Д. – 155
Астрожскі Канстанцін – 70, 114
Аўсяньнікаў Г. – 211
Бабачонак С. – 221, 238
Багаўцоў Э. – 255
Багданаў Віктар – 96
Багданкевіч С. – 23
Багдановіч Вячаслаў – 14
Багдановіч Максім – 94
Барадулін Рыгор – 36, 55
Баразна Лявон – 87
Бараноўскі Іван – 71
Бараціні Ціт Лівій – 6
Бартлаў Леанід – 23
Баршчэўскі Лявон – 118, 220, 221, 226, 238, 252, 264, 265, 282, 298
Барысенка А. – 255, 264
Батыстыні М. – 211
Бачароў Е. – 80
Беленькі Юры – 143, 161, 221, 226, 238, 250, 252, 264, 265, 286, 288, 289, 290

Бразаўскас – 174
Брыль Янка – 46
Брэйгель Пітэр – 123
Брэжнеў Л. І. – 134
Будзінас Яўген – 214
Булахаў Дзімітры – 93, 287
Булацкі – 191
Бураўкін Г. – 169
Бутэвіч – 191
Бухарын – 22, 137, 139
Быкаў Васіль – 5, 36, 55, 106, 113, 191, 240, 295
Быкаў Генадзь – 251
Бычкоўскі А. – 12
Бэздэль Я. – 49
Бэндэра С. – 168
Бэрыя Л. – 139
Бядулін Я. – 255
Бялевіч Сьвятлана – 198
Вайтовіч Мікалай – 276
Валэнса Лех – 160, 249
Варонка – 51, 52
Васілеўскі П. – 173
Васільева В. – 181
Васільеў-Сьвятошанка М. – 211
Ваўжэцкі Тамаш – 180
Вашчанка Галіна – 277
Верас Зоська (Войцік) – 15
Войніч Ян – 251
Волкаў А. – 255
Вольскі Артур – 36, 113, 191
Вярцінскі Анатоль – 289
Вячорка В. – 217
Вячэрскі Р. – 255
Гавін Тадэвуш – 251, 292
Гайдамака Д. – 211
Гайдар – 154, 160, 171, 173, 185, 188
Галіна В. – 211
Галубовіч Вольга – 113, 221, 226
Ганчар В. – 287
Ганчарык У. – 80
Гарбачоў М. – 74, 82, 101, 102, 174, 289
Гарэцкі Максім40
Геніюш Ларыса – 180
Герасюк І. – 245
Герашчанка – 71
Гермянчук І. – 220, 221, 226, 242, 264, 282
Гітлер Адольф – 159, 172, 181, 200
Глебаў Г. – 211
Глоба – 80
Глушкевіч Я. – 221, 226, 238
Голубеў В. – 201, 117, 220, 226, 238, 242
Горкі Максім – 140
Грузьдзіловіч Алег – 72
Грушавы Г. – 221
Грыб Мечыслаў – 80, 257, 302
Грыгоніс Г. – 211
Грыцкевіч Анатоль – 39, 113
Гурыновіч Ірына Міхайлаўна – 171
Гусак Станіслаў – 118
Гёбельс Ёзаф – 148
Гюнтар Б. – 155, 181
Дан Ф. – 247
Данілаў Г. – 155, 181
Дарагуж Уладзімер – 50, 51
Даўгалёў В. – 255
Даўлюд А. – 255
Дашук В. – 59
Джамбул – 138
Дзейка Л. – 221, 238, 264, 265
Дзядуль Я. – 49
Дзядзюшка У. – 211
Дзяржынскі – 22, 137
Дзярновіч Алег – 23
Драгавец – 191
Драган П. – 255
Драздовіч Язэп – 87
Дракахруст Юры – 216
Дранчук Валеры – 261
Дубянецкі Міхась Хведаравіч – 295
Дунін-Марцінкевіч Вінцэнт – 164, 211
Духан А. – 210
Дземянцей М. – І.53, 56
Дзянікін А. – 137, 138
Дзяркач Г – 211
Ельцын Б. – 6, 23, 41, 42, 46, 47, 59, 62, 64, 68, 77, 79, 80, 83, 93, 104, 108, 112, 127, 128, 132, 134, 135, 143, 145, 151, 154, 160, 188, 190, 228, 256, 257, 287
Жакоўскі Рамуальд – 211
Ждановіч А. – 211
Ждановіч Фларыян – 211
Жылка Ўладзімер – 211
Жылуновіч – 16
Жырыноўскі – 145
Заблоцкі Ул. – 220, 221, 226, 264
Загорскі Ян – 279
Зазека Ганна Адамаўна – 51
Замяталін – 6, 191
Захаранка Юры – 201
Захарэвіч М. – 211
Захарэвіч Сьвятлана – 191
Зданевіч Л. – 143, 220, 221, 226
Зіноўеў – 22, 137, 139
Зьвераў Л. – 226, 255
Ілгунас Г. – 217
Ільін – 256
Кавалёнак У. – 109, 110
Каганец Карусь – 36
Кагановіч – 137
Казлоўскі П. – 101
Какоўка В. – 238, 255
Калбаска М. – 255
Калінін – 18, 22

Каліноўскі Кастусь – 180
Каляда Анатоль – 150
Камай – 256
Канапля – 256
Канцэвіч А. – 226
Капаховіч Мікола – 298
Каплан Фаня – 124
Карагін – 79
Караткевіч Уладзімер – 164
Караткевіч Вольга – 302
Кармілкін Уладзімер – 5, 167, 186, 249
Карпюк Аляксей – 164
Кастэляна Ф. – 211
Касьцюшка Андрэй Тадэвуш – 180
Кебіч В. – 6, 23, 41, 42, 46, 47, 59, 62, 64, 68, 77, 79, 80, 83, 93, 104, 108, 112, 127, 128, 132, 134, 135, 143, 145, 151, 154, 160, 188, 190, 228, 256, 257, 287
Кіпель Вітаўт – 179
Кіраў – 137
Кічкайла А. – 255
Клімовіч Адольф – 14
Клінтан Біл – 177-179
Клінтан Хілары – 179
Клыкоўская Ціна – 167
Кляман Івона – 47
Кляпацкі Б. – 13
Козыраў Андрэй – 171-173, 181
Колас А. – 49
Колас Якуб – 40, 164
Коль Гельмут – 120
Корф Станіслава – 120
Крапіўніцкі М. – 17
Краўчук Леанід – 23, 69, 72
Крукоўскі Ўладзімер – 296
Крупская Н. – 124
Крыжаноўскі Мікалай – 143, 221, 226, 238, 264
Крыловіч У. – 211
Кузьма А. – 255
Кузьняцоў А. – 49
Кулага М. – 179
Кулік Яўген – 296
Купава Мікола – 195, 296
Купала Янка – 40, 146, 153, 158, 164, 172, 210, 211
Купрын А. І. – 247
Кучма Л. – 151
Лагуновіч Генадзь – 291
Лазарэвіч У. – 255
Лазоўская Ірына – 50
Ласковіч Крысьціна – 49
Лацыс – 137, 139
Левін Леанід – 251
Ленін У. І. – 18, 22, 31, 38, 124-126, 136-138, 140, 201, 247, 248
Ліпай Алесь – 239
Лісічкін – 46
Літвінаў Л. – 211
Лобаў – 173
Лукашук А. – 30
Лукашэнка А. – 6, 55, 190, 199-202, 205, 207, 286-288, 300
Луцкевічы (браты) – 17, 36
Лучанок Ігар – 182
Лучына Янка – 211
Лукша У. – 49
Лятко А. – 255
Маісееў Г. – 221
Майснэр Аляксандар – 251
Макаловіч Іван – 102
Макарава Г. – 211
Малафееў  – 257
Малашка Віталь – 221, 264
Малецкі Язэп – 13
Малчанаў П. – 211
Мамчыц Вольга – 167
Мапасан – 136
Марачкін А. А – 38, 195, 217, 218, 229.
Маркевіч М. – 221, 238
Маркс К. – 21, 106
Мацюшонак М. – 226
Мачуленка – 55
Машэраў П. – 87
Маякоўскі У. – 12, 140
Мельгуноў С. – 137, 138
Мельнікаў – 191
Менжынскі – 137
Мергуліес – 137
Мікалайчанка Алесь – 167, 236
Міровіч Еўсьцігней – 211
Міронава К. – 211
Мітэран – 120
Міхаевіч М. – 49
Міхайлюк Багдан – 251
Міхалюк Янка – 194
Мор Томас – 21
Мурог Сяргей – 60
Мэтэрлінк Морыс – 211
Навадворская Валерыя – 181
Наваковіч Леў Пятровіч – 136, 248
Навумчык Галіна – 277
Навумчык Сяргей – 6, 53, 143, 148, 155, 191, 221, 242, 257, 264, 265, 269, 282, 293, 295
Надсан Аляксандар – 194
Найдзюк Язэп – 13, 14
Несьцер В. – 286
Нікітчанка Іван – 251
Ніластонскі Ніл – 137
Ніцшэ – 124,130
Новік Ул. – 220
Новікаў Я. – 221
Осіпаў В. – 124, 136, 247
Паваляеў – 191
Павілёніс В. – 217
Пазьняк Ян – 12-14
Пазьняк Віка – 13

Пазьняк Галіна – 14
Пазьняк Марыя – 13
Палагеча П. – 255
Палтаранін М. – 181
Панкратовіч Пятро – 194
Папкоў Сяргей – 60, 220, 221, 264, 282, 290
Паруль А. – 221, 238, 255
Пархімовіч Янка – 51
Пастухоў М. – 297
Паўлюкоўскі Ўладзіслаў – 14
Пачопка Б. – 12
Петэрс – 139
Пеціна Л. – 251
Пілсудзкі  – 12
Пілярскі Ф. – 49
Платонаў Б. – 211
Платонаў К. – 155
Платонаў Уладзімер – 296
Плоцкі Р. – 255
Пола В. – 211
Прыгара Г. – 57, 199
Пырх І.  – 221
Пярун Р. – 49
Пятровіч Рыгор Мікалаевіч – 51
Пятроўскі Б. – 136, 248
Пяцюкевіч Мар’ян – 13
Пячэньнікаў В. – 256
Рабцэвіч В. – 26
Радамысьльскі В. – 6, 255
Родзевіч Леапольд – 36
Радзівон (архіепіскап) – 138
Радэк – 137
Раскольнікаў Радзівон – 299
Рассэл Бэртран – 247
Рунцо Н. М. – 51
Руцкой – 162
Рэмарк Э. М. – 164
Сабчак – 173
Савіцкі Барыс – 255
Садоўскі П. – 220
Сакалоў Яфрэм – 239, 256
Салдатава Н. – 255
Салжаніцын А. – 28-30
Сангайла Г. – 211
Саньнікаў К. – 211
Сапронаў У. – 255
Сасноў Аляксандар – 221, 255
Селівончык – 289
Серафімовіч Валянціна – 199
Сергіевіч – 16
Сечка Л. – 255
Сінякевіч Ігар – 266
Сіўчык Вячаслаў – 36
Сіцько З. – 183
Склянскі – 137
Слабчанка С. – 23, 226
Сьлямнёў М. – 255
Смалянка Пятро – 292
Смулэк Альжбэта – 161
Сьпіглазаў А. – 221, 255
Сталін (Коба) – 21, 22, 124, 136, 137, 201, 212
Сталяроў А. – 59, 191
Станкевіч Адам – 12, 14, 17
Станкевіч У. – 221
Станюта С. – 211
Старавойтава Галіна – 205
Старыкевіч Аляксандар – 272, 274
Старыцкі М. – 211
Стасава А. – 136
Статкевіч М. – 6, 81
Стома З. – 211
Сукач М. – 255
Сурмач Ганна – 251
Суслаў О. – 211
Сыракомля – 17
Сьвістуновіч Сымон – 256
Сьвярдлоў – 22. 137
Сядоў Валеры – 288
Сямашка І. – 255
Сямашка Н. – 249
Сямдзянава Г. – 220, 221, 239, 264, 265
Сярдзюк В. – 226, 255
Сярэдзіч І. – 181
Тамашэвіч Іван Адамавіч – 51
Таразевіч Георгій – 296
Тарасевіч Уладзіслаў – 13
Тарасенка Л. – 226, 255
Тарнаўскі Г. – 59
Твэн Марк – 166
Троцкі Леў – 22, 137
Трусаў Алег – 217, 220, 221, 251, 282
Трыгубовіч Валянціна – 143
Тумас Ёзас – 50
Уладамірскі У. – 211
Уласенка В. – 255
Уншліхт – 22
Уэлс Г. – 247
Філарэт (Мітрапаліт) – 80, 122
Фядута  – 287
Хадыка Ю. В. – 60, 143, 217, 218
Хазбулатаў Р. – 151, 160, 162, 172
Халасьцянаў К. – 49
Хэмінгуэй – 78
Хітрык У. – 264
Хмара Ф. – 211
Хог Дуглас – 192
Холад П. – 221, 250
Хонэкер Эрых – 134
Хрушчоў М.  – 36
Ціцянкоў Іван – 198
Цумараў Я. – 198
Цыганкоў Віталь – 159, 232

Цынкер Маркус – 200
Чапайціс В. – 15, 129, 217
Чарнамырдзін В. – 151, 162, 171, 173, 188
Чэчка А. – 40
Шабановіч Барыс – 251
Шаладонаў Васіль – 302
Шаўнін А. – 255
Шаўцоў У. – 255
Шахрай С. – 181
Шмялёў М. – 46
Шнаркевіч Язэп – 14
Шохін А. – 134
Шульгін В. – 347
Шумейка Ул. – 173, 181
Шут Алесь – 21, 226, 250, 264, 265, 282
Шутаў Алесь – 233
Шутовіч Альфонс – 14
Шутовіч Ян – 14, 15
Шушкевіч С.– 6, 23, 53, 62, 65, 67-72, 77, 79, 80-83, 93, 102, 104, 127, 129, 132, 143, 151, 177, 181, 190, 256, 257
Шыменас А. – 217
Шыркоўскі Э. – 145
Эйдук – 140
Эрхард Людвіг – 286
Юдзеніч – 137
Ягораў Уладзімер – 101, 155
Ядзьвігін Ш (Антон Лявіцкі) – 12
Якавіцкі Алег – 194
Ялбжыкоўскі Р. – 12
Янец А. – 255
Янцэвіч Б. – 49
Ярашэвіч В. – 49
Ясінскі Якуб – 180
Яўлінскі – 173
Ягода Г. Г. – 140
Яжоў – 138

# ЗЬМЕСТ

**Прадмова** . . . . . 5

**Уводзіны ў тэму** . . . . . 7

Аб якой перабудове размова? . . . . . 7

**1990** . . . . . 9

Насуперак руху – „Вандэя” . . . . . 9

Ян Пазьняк (1897—1939) і Беларуская Хрысьціянская Дэмакратыя . . . . . 12

Глёрыя Патрыя . . . . . 15

Шлях да свабоды . . . . . 18

Новыя беларускія грошы . . . . . 23

„Альтернатива всегда существует” . . . . . 27

Пра У. І. Леніна і камуністаў . . . . . 31

**1991** . . . . . 33

Пра імпэрыю і ўласнасьць альбо ўлада бюракратыі . . . . . 33

На принципах демократии . . . . . 35

Чаму намэнклятура за прэзыдэнта . . . . . 41

Вершы . . . . . 43

Падымаецца Беларусь . . . . . 44

Толькі новыя выбары могуць паправіць становішча . . . . . 47

Вада зьмяшалася з крывёй . . . . . 49

Вершы-2 . . . . . 52

Сэсія незалежнасьці (*Сяргей Навумчык*) . . . . . 53

Зброя. (*ч.3 з цыклу „Вялікае Княства”*) . . . . . 55

„Народ павінен быць свабодным” . . . . . 56

„Беларусь – незалежная некамуністычная краіна” . . . . . 58

Ствараючы – перамагаем . . . . . 60

Зварот Сойму БНФ да народу Беларусі . . . . . 64

„І дам я ім самае горшае на сьвеце начальства...” (Бог) . . . . . 65

Сьнежань. Палітычнае становішча на Беларусі . . . . . 68

„Соглашение должно работать на суверенитет государств, а не на будущую империю” . . . . . 72

Вяртаньне з аўганскай вайны (з цыклу „Чужая вайна”) . . . . . 73

**1992** . . . . . 74

„Мы павінны кіравацца ў Эўропу” . . . . . 74

Аб становішчы на Беларусі . . . . . 76

„А вось і птушачкі...” . . . . . 77

„Защитить народ, не имея власти народа, -- невозможно” . . . . . 79

Вершы-3 . . . . . 83

„Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь ня здольны стварыць канцэпцыю разьвіцьця Беларусі” . . . . . 84

Вершы-4 . . . . . 85

Хто баіцца падпісаць „сьмяротны прыгавор”? . . . . . 86

Толькі ў сэрцы трывожным пачую... . . . . . 87

Палітыка намэнклятуры. Палітычная сітуацыя на Беларусі і пэрспэктывы яе разьвіцьця . . . . . 88

Сьветлы, дарагі Максім... . . . . . 94

Лёс дэмакратыі вырашаецца на Беларусі . . . . . 101

„Без нацыянальнай сьвядомасьці немагчыма пабудаваць дзяржаву” . . . . . 104

Беларусь у дарозе . . . . . 107

Стварэньне нацыянальнага войска і дзяржаўная незалежнасьць . . . . . 111

Пра незаконную забарону рэфэрэндуму на Беларусі і аб новых выбарах . . . . . 115

**1993** . . . . . 117

„Мы выйдзем шчыльнымі радамі” . . . . . 117

Беларусь, Расея, СНД . . . . . 118

